# Уладзімір Дубоўка

## Ён і пра яго



Мінск
«Лімарыус»
2017

УДК 94(476)(093)
ББК 63.3(4Беи)
У47

Серыя заснавана ў 2011 годзе

Укладанне, прадмова, каментары
*Ганна Севярынец*



Фота на вокладке
з асабістага архіва Т. Пшырковай

Фундатар выдання –
пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2015)
*Святлана Аляксандраўна Алексіевіч*

ISBN 978-985-6968-61-0

# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА: ЧАЛАВЕК, ПРАСТОРА, ЧАС
## (ад укладальніка)

«Ты — Пушкін, я перад табой толькі Дзяржавін» — так сказаў маладому Уладзіміру Дубоўку Янка Купала. Таленавіты, надзвычай адукаваны, імклівы ў сваім несупынным творчым развіцці, неабсяжны ў планах і задумах Дубоўка сапраўды абяцаў быць нашым Пушкіным, творцам, які ў межах нацыянальнай культуры абагульніць і завершыць адзін этап яе развіцця — і распачне новы.

Літаратурны працэс дваццатых немагчыма ўявіць без Уладзіміра Дубоўкі. Пры ягоным непасрэдным удзеле сталелі легендарныя аб'яднанні «Маладняк» і «Узвышша», у жорсткай палеміцы з ягонымі поглядамі на літаратуру выпрацоўвалася платформа «Полымя», ён быў першым рэдактарам першага беларускага часопіса для дзяцей, аўтарам лібрэта першай нацыянальнай оперы, рухавіком літаратурнага працэсу ў Мінску і арганізатарам жыцця беларускай дыяспары ў Маскве. Магутная творчая энергія Уладзіміра Дубоўкі дазваляла яму не толькі лідарстваваць у літаратурнай паўсядзённасці — ягоны ўплыў мяняў рэчы фундаментальныя, і мяняў на стагоддзі наперад: і да сёння ў нашым ужытку, як сведчаць мовазнаўцы, знаходзяцца не менш як два дзясяткі слоў, якія ён увёў у мову і навечна занатаваў у ёй: «агораць», «апантаны», «ашчаперыць», «адлюстраваць», «водар», «дойлід», «збочыць», «знічка», «імклівасць», «кругабег», «наканаваны», «непрыдатны», «талака» — гэтымі словамі наша мова абавязана Дубоўку. Праз яго, любімага вучня Валера Брусава, актыўнага ўдзельніка літаратурнага жыцця Масквы, у беларускую літаратуру прыходзілі паэтычныя пошукі і эксперыменты літаратурнай сучаснасці — як дзесяццю гадамі раней праз лірыку Максіма Багдановіча прыйшла еўрапейская літаратурная класіка. Дарэчы, менавіта

Дубоўка пад кіраўніцтвам Івана Замоціна першым расчытваў архіў свайго геніяльнага папярэдніка, і менавіта Дубоўка адшукаў і вярнуў з небыцця ледзь не страчаную магілу Максіма Багдановіча ў Ялце.

Але не толькі бязмежная творчая энергія і смеласць, распаволенасць паэтычнай думкі, моц таленту і глыбіня пошукаў аб'ядноўвае гэтыя дзве постаці, Пушкіна і Дубоўкі. Абодва яны сталіся выбітнымі жыццятворцамі, людзьмі, цікавымі для наступных пакаленняў не толькі ў напісаным, але і ў перажытым.

«Пра Пушкіна цікава ўсё», — пісалі Д. Урноў і У. Сайтанаў у прадмове да чарговага выдання «сістэматычнага зводу сапраўдных сведчанняў сучаснікаў», легендарнай кнігі Вікенція Верасаева «Пушкін у жыцці». Феномен пушкінскай біяграфіі, якую і да сёння з першароднай цікавасцю вывучаюць ледзь не пахвілінна тысячы пушкіністаў ва ўсім свеце, абумоўлены ўсё той жа творчай смеласцю, з якой Пушкін пісаў — і жыў, будуючы свой асабісты шлях згодна з уласнымі мастацкімі прынцыпамі. Гэткая ж незвычайная якасць уласціва і біяграфіі Уладзіміра Дубоўкі: ягонае жыццё сапраўды цікавае кожнай сваёй падрабязнасцю.

Калі ў сакавіку 1976 года ў Маскве ціха і нешматлюдна развітваліся з Уладзімірам Дубоўкам, прысутныя шкадавалі ўголас: нябожчык не паспеў напісаць сваю галоўную кнігу — кнігу пра сябе. Народжаны разам з векам, Уладзімір Дубоўка вынес на сваіх плячах увесь ягоны цяжар: і знішчальную рамантыку рэвалюцыі, і велічную ліхаманку пабудовы нацыянальнай культуры, і крывавае кола рэпрэсій, і цяжкі час кампрамісаў і прыстасаванняў. Тры чвэрці стагоддзя, самага цяжкога з усіх пражытых чалавецтвам стагоддзяў, Уладзімір Дубоўка прайшоў хвіліна ў хвіліну з гісторыяй. Лідар літаратурнага працэсу дваццатых, нястомны працаўнік юнага «Маладняка», заснавальнік легендарнага «Узвышша», першы сярод роўных, ён ад самага пачатку будаваў жыццё вакол сябе па ўласных законах, уцягваючы ў вір сваёй неверагоднай харызмы і віравачнай жыццёвай і паэтычнай моцы ўсіх, каму выпадала аказацца ў той жа час

і ў тым жа месцы. Ягоная творчая энергія распаўсюджвалася не толькі на ўласна паэтычны малюнак свету, але ж і наогул на навакольны сусвет. Звычайны хлопец з беларускай вёскі Манькавічы зусім невыпадкова аказаўся ў самым цэнтры планетарных пераменаў; маштаб ягонай асобы цалкам адпавядаў маштабу гістарычных падзей.

Здаецца, Дубоўка заўсёды ведаў, што не проста «жыве жыццё». Першым з беларусаў ён зрабіў самога сябе дзейным героем уласных вершаваных твораў, першым паклаў уласныя паэтычныя прынцыпы ў падмурак літаратурнай суполкі, адным з першых пачаў міфалагізаваць уласную біяграфію, складаючы і распаўсюджваючы байкі пра свае выпрабаванні. Шмат хто шкадаваў і пры жыцці Дубоўкі, што ён не піша ўспамінаў ці падрабязнай аўтабіяграфіі. Дубоўка толькі хітра пасміхаўся. Увесь гэты час ён пісаў сваю галоўную кнігу — сваю ўласную біяграфію.

Менавіта таму падаецца вельмі важным аднавіць гэтую кнігу, пакласці яе на мову літар і сказаў, пабачыць яе такой, якой яе складаў Дубоўка ў дадзеных яму лёсам прасторы і часе, у вачах і душах іншых людзей, сучаснікаў, суразмоўцаў, спадарожнікаў — аднавіць у той традыцыі, якую распачаў Вікенці Верасаеў сваёй кнігай пра Пушкіна.

Гэта не першая спроба напісаць у тым ці іншым выглядзе біяграфію Уладзіміра Дубоўкі. Першым, хто агучыў такую ідэю, быў знакаміты беларускі даследчык літаратуры Юльян Пшыркоў, намаганнямі якога імя рэпрэсаванага паэта было ўключанае ў беларускае літаратуразнаўства: яшчэ пры жыцці паэта ён распачаў шырокамаштабны збор матэрыялаў для будучай кнігі (сабраныя ім сведчанні, якія захоўваюцца ў прыватным архіве ягонай дачкі Т. Пшырковай, увайшлі ў гэтую кнігу). Задумамі напісаць біяграфічнае даследаванне, прысвечанае Дубоўку, дзяліўся з сябрамі і калегамі Янка Саламевіч. У дзевяностыя, скарыстаўшыся магчымасцю працаваць у часова даступных архівах КДБ, сапраўдныя адкрыцці зрабілі Уладзімір Міхнюк і Мікалай Ількевіч. Працуючы ў архівах, адшуквалі і публікавалі дакументы, датычныя жыцця і творчасці паэта, Віктар Жыбуль, Сяргей Шапран, Таццяна Кекелева. Вялікую працу ў маскоўскіх дзяржаўных

і прыватных архівах праводзілі аўтары альманаха «Скарыніч» пад кіраўніцтвам А. Каўкі. Цікавыя біяграфічныя звесткі, атрыманыя ў выніку скрупулёзных росшукаў, апублікавала Ірына Багдановіч у навуковых артыкулах і манаграфіі «Авангард і традыцыя». У 2005 годзе было перавыдадзенае са зменамі і дадаткамі грунтоўнае даследаванне жыццёвага і творчага шляху Уладзіміра Дубоўкі, якое ажыццявіў Дзмітры Бугаёў. У 2007 годзе ўбачыла свет цікавае краязнаўчае даследаванне Ігара Пракаповіча «На радзіме Уладзіміра Дубоўкі». У 2011 годзе ў часопісе «Дзяслоў», а потым і асобным выданнем выйшла мастацкая біяграфія Дубоўкі — раман Алеся Пашкевіча «Круг».

І ўсё ж гэта — далёка не ўвесь Дубоўка. Спецыфіка ўспамінаў, якія клаліся ў падмурак названых даследаванняў, спецыфіка часу, у які яны ствараліся, абмежаванасць доступу да архіўных матэрыялаў, раскіданых па ўсёй прасторы былой імперыі, суб'ектыўнасць погляду, непазбежная ў аўтарскіх, няхай сабе і навуковых, даследаваннях, давалі не адлюстраванне, а мастацкае ўвасабленне постаці паэта. Дзеля большай аб'ектыўнасці і шматграннасці, панарамнасці і выніковай шчырасці, якую дае менавіта верасаеўскі падыход, падаецца важным скласці біяграфію паэта праз сінхранізаваныя сведчанні сучаснікаў.

Тэксты, якія складаюць гэтую кнігу, падзяляюцца на тры групы паводле паходжання. Першая — ужо друкаваныя і яшчэ нідзе не друкаваныя ўспаміны тых, хто асабіста ведаў Уладзіміра Дубоўку. Другая — тэксты самога Уладзіміра Дубоўкі: аўтабіяграфічныя творы, ягоныя ўспаміны пра сучаснікаў, лісты, у якіх утрымліваюцца звесткі біяграфічнага характару. Трэцяя — архіўныя дакументы, якія так ці інакш адлюстроўваюць падзеі жыццяпісу паэта, незалежна ад таго, ці з'яўляюцца гэтыя падзеі фактамі гісторыі беларускай літаратуры. У першую чаргу нас цікавіў «Уладзімір Дубоўка ў жыцці» ў тым сэнсе, які ўкладаў у гэтае словазлучэнне Вікенці Верасаеў: не толькі і не столькі пісьменнік, публіцыст, мовазнаўца, колькі жывы, разнастайны, супярэчлівы чалавек, сын свайго часу.

Пачаткам кнігі стала верасаеўская задума — даць біяграфію слыннага творцы вачыма мемуарыстаў-сучаснікаў, размерка-

ваўшы ўрыўкі з рознага кшталту тэкстаў у храналагічным парадку. Але ж маштаб асобы Уладзіміра Дубоўкі, ягоная выключная суаднесенасць з духам і сутнасцю гістарычных працэсаў, якія віравалі на прасторах яго жыцця, ягонае імкненне (амаль заўсёды паспяховае) быць гаспадаром свайго ўласнага сусвету, які часам пашыраўся да межаў горада і краіны, пачалі патрабаваць крыху іншага падыходу: жыццё, пражытае па законах паэтычнай творчасці, вымагае адлюстравання ягонага хранатопу.

Кожны раздзел кнігі абмяжоўваецца біяграфічным перыядам, які мае выразныя часавыя і прасторавыя характарыстыкі. Распачынае раздзел невялічкі нарыс, у якім даецца прасторавая характарыстыка падзей, матэрыялам для якога паслужылі таксама мемуары, успаміны відавочцаў і ўдзельнікаў падзей, хоць у гэтых мемуарах і не заўсёды фігуруе сам Уладзімір Дубоўка. Складаней — з адлюстраваннем часу. Кожны з перыядаў — і перадваенная ціша, і Першая сусветная, і дваццатыя, і трыццатыя, і гэтак далей па крутых прыступках дваццатага стагоддзя — вымагае нават не асобнага даследавання, а асобных даследаванняў верасаеўскага, адамовічаўскага, алексіевічаўскага тыпу, адлюстраваных праз галасы эпохі. Гэтае выданне ў пэўнай ступені дае магчымасць зазірнуць у час праз каментары, дзе пашыраюцца і паглыбляюцца ўспаміны нешматслоўных сучаснікаў. У канцы кнігі змешчаны ілюстрацыйны матэрыял, які пашырае ўяўленні пра месца і час дзеяння.

Падчас збору матэрыялаў і іх кампаноўкі перад укладальнікам стаялі некалькі пытанняў.

Першае з іх — пытанне мовы. Крыніцы, якімі давялося карыстацца, складзены і па-руску, і па-беларуску, а часам і паўкраінску, бо Уладзімір Дубоўка большую частку свайго жыцця пражыў за межамі Беларусі і ў выключна рускамоўным асяродку. Таму натуральна, што значная частка ўспамінаў створана па-руску. Пасля пэўных ваганняў было вырашана тэксты не перакладаць і даваць іх на той мове, на якой яны былі створаныя, — так, кніга Дубоўкавага жыцця будзе напісаная на той мове, на якой яна стваралася. Зроблена толькі адно выключэнне: раней друкаваныя мемуары Марыі Пятроўны Дубоўкі прыводзяцца

ў кнізе так, як яны выйшлі ў часопісе «Маладосць», у перакладзе Яніны Кісялёвай. Урыўкі ўспамінаў Марыі Пятроўны, якія з розных прычын не ўвайшлі ў публікацыю «Маладосці» і аднаўляліся па архіўных матэрыялах, захоўваюць мову арыгінала, то бок рускую. Такім чынам, у чытача, акрамя пашырэння фактаграфіі, будзе магчымасць параўнаць арыгінальны тэкст успамінаў (рускамоўны) з друкаваным (беларускім) і зрабіць пэўныя высновы наконт таго, што і як датычна біяграфіі Дубоўкі друкавалася, а што пакідалася за кадрам.

Другое пытанне — адбор фактаў. Шмат якія дакументы друкуюцца ў гэтым выданні ўпершыню, і была спакуса даваць іх цалкам, так, як яны існуюць. Але ў такім выпадку біяграфічная лінія страціла б сваю выразнасць і дынаміку, і трэба было б даваць панараму прасторы і часу, забыўшыся на чалавека, да таго ж, як ні крыўдна, і выдавецкія магчымасці — не бязмежныя. Менавіта таму не ўдалося не толькі працытаваць поўнасцю не друкаваны яшчэ эпісталярый Дубоўкі, але ж і прывесці цалкам ужо друкаваныя лісты. На жаль, тут даюцца толькі вытрымкі з багатага ліставання Уладзіміра Дубоўкі з Адамам Бабарэкам: лісты паэта да сябра расчытаў і надрукаваў у часопісе «Arche» (2009, № 11–12) Віктар Жыбуль, і без іх немагчыма ўявіць узвышаўскі перыяд у фактычных дэталях і эмацыянальных адценнях. З гэтай жа прычыны — імкненне да максімальнай дынамічнасці расповеду — апускаліся акалічнасці, якія тычацца крытычных водгукаў на творчасць Уладзіміра Дубоўкі і разбораў ягоных вершаў: па-першае, амаль усе яны носяць суб'ектыўны характар, па-другое, адлюстроўваюць не столькі творчасць Уладзіміра Дубоўкі, колькі асобы ягоных крытыкаў, крытычныя каноны і ідэалагічныя патрабаванні часу, і таму не маюць асаблівай каштоўнасці для біёграфа. Там, дзе творчыя пытанні самым непасрэдным чынам пераплеценыя з біяграфіяй, яны адлюстраваны гранічна поўна. Некаторыя цытаты з літаратурнай палемікі дваццатых прыведзены ў каментарах.

Трэцяе — пытанне аўтабіяграфічных крыніц. Шмат якія тэксты, што складаюць кнігу, існуюць у дзвюх, а часам і трох

іпастасях: як чарнавік, як аўтарызаваны машынапіс і як друкаваны тэкст. Часам адрозненні паміж імі вельмі вялікія: нейкія факты не прапускала аўтарская самацэнзура, нейкія потым рэзаліся цэнзурай друку. Пры гэтым з тэкстаў знікалі вельмі красамоўныя дэталі: прыкладам, немагчыма зразумець, чаму яскравы аповед пра наведванне маладымі Дубоўкам і Чорным маскоўскага Тэатра сатыры застаўся толькі ў чарнавіку, а з чыставіка быў выкраслены самім аўтарам — мажліва, таму што ў чарнавым накідзе ён дазволіў сабе кпіны з тэксту «пралетарскага» спектакля. У такіх выпадках выкарыстоўваўся агульны прынцып: біяграфічныя звесткі браліся з усіх трох крыніц, пры супадзенні фактаў першасным лічыўся машынапіс, другасным — чарнавік, крыніцай трэцяй чаргі — друкаваны варыянт. Пры наяўнасці відавочных фактычных несупадзенняў паміж крыніцамі (прыкладам, гісторыя знаёмства з Цішкам Гартным, ці байка пра бараду, ці аповед пра арышт у Наразені) прыводзяцца ўсе варыянты. Аргументам на карысць падобнага ранжыравання крыніц стала тое, што сам Дубоўка захоўваў у архіве абодва варыянты тэксту — і чарнавы, і чыставы — не жадаючы, хутчэй за ўсё, страціць тыя падрабязнасці, якія не праходзілі ў чыставыя варыянты.

По магчымасці захоўваецца правапіс і сінтаксіс аўтараў успамінаў, выпраўляюцца толькі відавочныя арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі рукапісаў. Тыя выпадкі, дзе перадаць спецыфічны правапіс немагчыма (найперш — у ліставанні У. Дубоўкі і А. Бабарэкі, якое вялося з выкарыстаннем створаных Дубоўкам адмысловых літар), агаворваюцца ў каментарах.

Каментары нельга лічыць акадэмічнымі, бо ў іх, акрамя фактычнай інфармацыі, утрымліваюцца здагадкі і меркаванні, думкі і дапушчэнні, і таму некаторыя з іх ёсць хутчэй запрашэннем для сумесных пошукаў і адкрыццяў, чым энцыклапедычнай даведкай.

Нельга сказаць, што ў кнігу ўвайшлі ўсе магчымыя матэрыялы. Пры яе падрыхтоўцы выкарыстаны дакументы, якія захоўваюцца ў фондах БДАМЛМ, ЦНБ НАН Беларусі, Нацыянальнага архіва Беларусі (Мінск), РДАЛМ (РГАЛИ; Масква), Архіва

МУС Грузіі (Тбілісі), Чэбаксарскага гістарычнага архіва (Чувашыя), прыватных архівах Т. Ю. Пшырковай і Р. Г. Гарэцкага, матэрыялы, якія знаходзяцца ў Музеі народнай славы ў Мядзелі. Таксама наладжана перапіска і праведзены пошук дакументаў у гістарычных архівах Масквы, Яранска, Бірабіджана, Вільнюса. Але, няма сумневаў, гэта далёка не ўсе архівы, дзе можна знайсці дакументальныя сведчанні жыцця Уладзіміра Дубоўкі. Пакуль не знойдзена ўліковая картка вязня Дубоўкі ў архівах Федэральнай службы выканання пакаранняў Расіі, да сёння ідзе актыўная, але пакуль безвыніковая перапіска з Чэбаксарскім гістарычным архівам, дзе павінны захоўвацца рукапісы Уладзіміра Дубоўкі (другая частка паэмы «І пурпуровых ветразяў узвівы» і пераклад Байранава «Чайльд-Гарольда»), пакуль невядомы лёс рукапісаў паэта, якія былі адабраны ў яго пры арышце ў Наразені, у абмежаваным доступе знаходзіцца архіўны фонд Дубоўкі, які перахоўваецца ў ЦБ НАН Беларусі. Таксама не ўсе, хто добра ведаў паэта асабіста, пагадзіліся на тое, каб іх успаміны былі зафіксаваныя і надрукаваныя.

Такім чынам, кніга жыцця выбітнага беларуса Уладзіміра Дубоўкі ўсё яшчэ пішацца — і мабыць, на нашае агульнае шчасце, ніколі не будзе дапісаная да канца.

*Укладальнік выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў працы над кнігай Юрыю, Яўгеніі, Любові і Ілью Субатам, Таццяне і Кастусю Севярынцам, Юліі Чарняўскай, Таццяне Пшырковай, Радзіму Гарэцкаму, Аляксандру Фядуту, Ганне Запартыцы, Віктару Жыбулю, Мікалаю Ількевічу, Наталлі Гардзіенцы, Лявону Юрэвічу, Анатолю Івашчанку, Ігару Пракаповічу, Ірыне Багдановіч, Таццяне Кекелевай, Таццяне Навасельскай, Уладзіміру Ляхоўскаму, Святлане Кухце, Кастусю Шыталю, Ліляне Благоевай, Кацярыне Кругавец, Аліне Арловай.*

# АГАРОДНІКІ, МАНЬКАВІЧЫ, МЯДЗЕЛ, НОВАЯ ВІЛЬНЯ. 1900–1918

*Летуценны вандроўнік, які вырашыць сёння наведаць Манькавічы, нібыта трапіць у іншы свет. Па-першае, паспрабуй яшчэ дабрацца да іх па серпанціне гравіек праз густыя нарачанскія лясы. Па-другое, нават калі нарэшце з-за таўшчэзнага клёна выскачыць указальнік населенага пункта, не кожны зразумее, дзе ён, той пункт: ціш і маўклівасць кляновых зараснікаў, прахалода пустыннага двара старой царквы, шолах высачэзнай травы на цэнтральнай плошчы ля невялічкага помнічка загінулым партызанам — і тры сцежкі, якія разыходзяцца ў розныя бакі. Кожная — шчыльна абсажаная векавымі клёнамі. Кожная — пустынная. Кожная — вядзе невядома куды і знікае ў хмызах. Людзей не бачна. Дамоў не густа. Але вёска, тым не менш, адчувальна струменіць жыццём: пульсуе пясок сцежкі, дыхае нагрэтая сонцам трава, шапаціць ніцая лаза ля става, над ім, нібы з балеі, уздымаецца лёгкі дым, і пальцы кляновых лістоў, растапырыўшыся ў зялёную далонь, ствараюць вакол стомленага вандроўніка лёгкі, працяты сонечнымі промнямі цень.*

*Паблукаўшы па Манькавічах, якія стаяць сярод лесу прывідам колішняга жыцця, вандроўнік выберэцца нарэшце на трасу — калі справа, то на пастаўскую, калі злева — на полацкую. На якую б дарогу ён ні паставіў свае колы, праз дзесяць хвілін ён убачыць Агароднікі: невялікая вёсачка перакладзінкай літары Д працягнулася паміж дзвюма трасамі. Са два дзясяткі дамоў, выцягнутых у лінейку па гравійнай дарозе.*

*На месцы, на якім стаяла хата, дзе 15 ліпеня 1900 года нарадзіўся Уладзімір Дубоўка, сёння расце трава. Абапал невялікай лужайкі — невысокі хмызняк, там, дзе некалі былі веснічкі, — бярозы.*

*Сённяшні ўладар зямлі, унучаты пляменнік паэта, з'ехаў жыць у Паставы, а зруб старой хаты прадаў. Але і тая старая хата, на якой калісь у дзевяностыя намаганнямі купкі энтузіястаў з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар Уладзіміра Дубоўкі, была «не тая»: яе адбудавалі ўжо пасля вайны, бо ў 1942 годзе Агароднікі былі спаленыя дашчэнту. Адбудаваўшыся, вёска жыве і сёння, у асноўным — за кошт дачнікаў. Кожны з іх на запыт заезджых турыстаў адразу пакажа месца, дзе стаяла хата Дубовак, і праўдзе да суседзяў, мясцовых жыхароў, якія яшчэ памятаюць, як у шасцідзясятыя ў Манькавіцкую школу прыязджаў сам паэт.*

*Дарэчы, у архіўных дакументах няма еднасці наконт месца нараджэння Уладзіміра Дубоўкі: сам ён у анкетах і ўспамінах часцей за ўсё называў менавіта Агароднікі, аднак, прыкладам, у ордары на арышт, пратаколах і даведках, якія захоўваюцца ў архіве МУС Грузіі, месцам нараджэння названыя Манькавічы, вёска ля Агароднікаў. Пастаўскі краязнавец, настаўнік і паэт Ігар Пракаповіч тлумачыць гэтую прастораваю дваістасць наступным чынам: «Уладзімір Дубоўка нарадзіўся 2 (15) ліпеня 1900 г. у вёсцы Агароднікі. Пра гэта ён пісаў у сваіх успамінах, такія ж звесткі падаюцца ва ўсіх даведніках і энцыклапедыях. Аднак некаторыя мясцовыя жыхары ўпэўнена сцвярджаюць, што паэт нарадзіўся ў Манькавічах, у хаце, што стаяла амаль у цэнтры вёскі. Хто ж мае рацыю, і чаму розняцца сведчанні? Відаць, справа ў тым, што сям'я Дубоўкаў у той час сапраўды жыла ў Манькавічах, дзе бацька паэта, Мікалай, працаваў на бровары ў князя Друцкага-Любецкага[1], і пачатак свайго жыцця Уладзімір Дубоўка правёў у гэтым мястэчку. А вось нарадзіўся ён на свет у Агародніках, дзе на той час жылі ягоныя дзядуля і бабуля па бацькавай лініі» [64, с. 5].*

*Вёсак з назваю Агароднікі на Беларусі шмат: дзевяць на Берасцейшчыне, дзве на Віцебшчыне, адна на Гомельшчыне, сем — на Міншчыне і больш за два дзясяткі — у Гарадзенскай вобласці. «Агароднікамі» называлі ў Вялікім Княстве Літоўскім тых сялян, якія згодна з «Уставай на валокі»[2] 1557 года атрымлівалі пэўную колькасць зямлі і абавязак яе апрацоўваць. Агароднікаў рассялялі невялікімі вёскамі ля буйных фальваркаў, Дубоўкавы Агароднікі*

*тычыліся Манькавіч, вялікага на той час паселішча, якое належала знакамітаму роду Друцкіх-Любецкіх.*

*Піша Ігар Пракаповіч: «Агароднікі — вёсачка невялікая. Яе хаты выцягнуліся двума радамі абапал вуліцы па пагорку непадалёку ад нешырокай рачулкі Аржоўкі, якая, упадаючы ў раку Мядзелка, утварае Сутокі. Паўднёвы край вёскі ўпіраецца ў міжнародную шашу Вільня — Полацк, паўночны — выходзіць на дарогу Паставы — Калееўцы. Гэтыя транспартныя шляхі пабудаваны адносна нядаўна, у 70-я гг. XX стагоддзя; у яго ж пачатку праз Агароднікі праходзіў бойкі гасцінец, які злучаў Паставы і Манькавічы з Груздавам і Мядзелам. <...> У 1905 г. Агароднікі былі даволі вялікім сельскім населеным пунктам: у вёсцы пражываў 271 жыхар (131 мужчына і 140 жанчын), мелася 288 дзес. зямлі. Аднак нейкую самастойную ролю ў мясцовым жыцці адыгрываць паселішчу было цяжка, бо зусім побач, за 2,5 км на паўночны захад, знаходзіўся маёнтак князя Друцкага-Любецкага Манькавічы з царквой, млынам, валасным праўленнем. У вясковa-мястэчковым архіпелазе поўдня Пастаўшчыны Манькавічы займалі адметнае месца: яны адыгрывалі ролю мясцовага вузельчыка, у які завязваліся шматлікія і разнастайныя тутэйшыя духоўныя і жыццёвыя шляхі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі тут ладзіліся кірмашы, меўся вялікі сядзібны дом, працавалі млын і бровар, дзейнічала некалькі цэркваў. Таму і сыходзілася ля мястэчка шэсць дарог: тры з левага берага ракі Мядзелка — з Сарочына — Мядзела, Дзеравянак — Спораў, Кашыцаў — Паставаў, і тры з правага — з Калееўцаў — Агароднікаў, Мястэчка — Савічаў, Ліпнікаў — Паставаў. <...> У другой палове XIX ст. Манькавічы перайшлі ва ўласнасць знакамітага роду Друцкіх-Любецкіх, радавод якіх бярэ пачатак ад Барыса, сына Усяслава Чарадзея. Уладальнікам мястэчка быў Уладзімір Друцкі-Любецкі, ганаровы апякун, шталмайстар двара яго вялікасці, міністр унутраных спраў, князь герба “Друцк”. Ён вядомы як вельмі адукаваны чалавек, які цікавіўся даўнінай, вёў уласныя пошукі. Увесь радавод князя знаходзіўся ў цесных сувязях з царскім дваром. Жылі князь з княгіняй у Пецярбурзе і толькі на некалькі месяцаў прыязджалі ў Манькавічы. <...> Паводле І. Гашкевіча, у 1905 годзе Манькавічы*

*складаліся з трох частак: маёнтка князя Друцкага-Любецкага, у якім налічвалася 136 жыхароў (77 мужчын і 59 жанчын, 2799 дзесяцін зямлі); сяла князя Друцкага-Любецкага — 27 жыхароў (15 мужчын і 12 жанчын, 6 дзес. зямлі) і старожкі — 3 жыхары (2 мужчыны і 1 жанчына, 60 дзесяцін зямлі). Тут меліся: крама, судова-следчы ўчастак, урачэбны ўчастак, царква, народнае вучылішча, бровар, млын, вадасховішча, адбываліся кірмашы» [64, с. 6–12].*

*Жыхары Манькавіч і Агароднікаў, як гэта вынікае з мясцовых паданняў і архіўных дакументаў, былі людзьмі смелымі і ў правах сваіх — цвёрдымі, а калі спатрэбіцца — дык і адчайнымі. Князю Друцкаму-Любецкаму жылося з імі неспакойна. Да сёння адзін з неабсяжных лугоў паміж вёскамі носіць назву Янкавага лугу — у памяць пра селяніна з Агароднікаў, Янку Родзевіча, які калісьці быў абраны аднавяскоўцамі для хадайніцтва супроць князя перад высокім судом у Вільні: рака Аржоўка праклала сабе новае рэчышча, адхапіўшы кавалак сялянскага лугу, і князь палічыў адрэзаную зямлю сваёй. Сяляне падалі ў суд і выправілі найлепшага бараніць інтарэсы вёскі. Аднак акруговы суд заняў бок князя. Не сцярпеўшы крыўды, Янка кінуўся з Зялёнага моста ў Вілію. Падняўся шум, захваляваліся суседнія вёскі, паляцелі скаргі ва ўсе канцы краю, і ўлады вырашылі вярнуць луг сялянам.*

*А часам на справядлівы суд нават не спадзяваліся, але і крыўду без адказу не пакідалі. «Летам 1905 года з-за сенакосу на паплавах узнік канфлікт паміж сялянамі і панскім адміністратарам: сялянам забаранілі касіць на пойме ракі, дзе яны гэтым займаліся спрадвеку. А паколькі сяляне не падпарадкаваліся і скасілі паплавы, то ў маёнтак былі выкліканы вайскоўцы. Пасля таго як бунтаўшчыкоў уціхамірылі, для карнікаў у маёнтку наладзілі гульбу-папойку. Падчас гэтага балявання здарыўся пажар, у полымі якога згарэлі амаль усе гаспадарчыя пабудовы. Уцалеў толькі палац і некалькі камяніц» [64, с. 14].*

*Менавіта тут, у гэтым крывіцкім космасе, разам з цяжкім і шматпакутным дваццатым стагоддзем нарадзіўся Уладзімір Дубоўка.*

* * *

Мае продкі. Майго прадзеда (па бацькавай лініі) звалі Якубам. Жыў ён 103 гады. Прадзед не быў прыгонным, але не быў і шляхціцам. Калі быў перадзел зямлі ў 1863 г.[3] (у Расіі адпаведна — у 1861 г.) — прадзедаву сям'ю сагналі з ягонае ўласнае — недзе каля Шчокатава[4] ў той жа воласці — і нарэзалі замест гэнае адну валоку зямлі ў вёсцы Агародніках.

Прадзед, паводле расказаў родных і суседзяў, быў асілак і ў той жа час чалавек вельмі рахманы. Ніколі нікога не пакрыўдзіў, карыстаючыся сваёй фізічнай сілай. Пра яго сілу хадзілі бадай што легенды. Расказваюць, што аднойчы з суседзямі ён ехаў з кірмашу з Мядзеля. На паўдарозе была карчма. Зайшлі пагрэцца. Прадзед як сеў за стол, адваліўся плячыма да сцяны, дык прысценак валіўся зусім на панадворак. Карчмар узняў хай і запатрабаваў сплаціць выдаткі на рамонт. Прадзед катэгарычна адмовіўся ад гэтага: «У цябе тут уся карчма валіцца, а я буду плаціць? Трэба лепш будаваць! А калі хочаш — прыедзь да мяне ў хату і паспрабуй таксама сваімі плячыма ў маёй хаце прысценак выбіць, тады і квіты будзем»...

Аднойчы на балоце загразла ягоная кабыла. Людзі, якія былі блізка, нацягалі жэрдак і хворасту. Тым часам прыбег прадзед, якому паведамілі пра гэтае здарэнне. Ён толькі сказаў: «Чакайце, чакайце, дзеткі!» Падлез пад перад, узяў пярэднія ногі сабе на плечы і вывалак кабылу з гразі на сухадолле.

Ведаў назвы ўсіх зёлак і зорак па-беларуску. Як пачне, бывала, называць іх (зоркі) «Коўш, Сітцо, Алень» ... Дык аж дзіву даешся. Шкода, што тады розуму не хапіла запісаць усё гэта... Назіранні за з'явамі прыроды дапамагалі яму арыентавацца ва ўсіх сваіх справах: вызначэнне часу, вызначэнне тэрміну сельскагаспадарчых работ. Вось, напрыклад, адна заўвага: «Трэба сеяць (вось тое і тое), бо на дубе ліст стаў як заечае вуха»...

Сваю сядзібу ён спланаваў так, што дом ды і ўсе надворныя будынкі былі аддзелены ад вуліцы садам, за домам быў таксама сад. Свіран быў трыма сценамі ў садзе. Наша вёска тройчы гарэла. Ва ўсіх будынкі згарэлі, а прадзедавы засталіся цэлымі.

Калі пажар здарыўся ў трэці раз, да яго прыбеглі суседзі: «У цябе цудадзейны абраз, таму цябе не карае пажар!»

Ён ім пачаў тлумачыць, што гэта не абраз, а дрэвы ратуюць ад агню, але ў такія жудасныя моманты словы дапамагаюць мала. Суседзі сілаю забралі абраз, панеслі яго навокал вёскі, але гэта нічога не дапамагло і ўся вёска згарэла. Нават некаторыя дрэвы ў прадзедавай сядзібе абгарэлі, і пасля прыйшлося перасаджваць іх.

Пасля гэтага пажару, паслухаўшы прадзедавых тлумачэнняў, наша вёска пабудавалася больш разумна, каля кожнага дому насадзілі сады. Толькі каля двух не было садоў (з агульнага ліку сорак). На маёй памяці — пажараў у нашай вёсцы не было, калі не лічыць паасобных будынкаў у 1915 г., спаленых пры артылерыйскіх абстрэлах.

Памёр мой прадзед пры даволі цяжкіх акалічнасцях на 103-м годзе свайго жыцця. У гэтым годзе ён аслеп. Гэта так уразіла яго, што ён пачаў скардзіцца: «Я марна хлеб ем, я не працую, я не магу нічым дапамагчы сям'і».

Дзед мой Хведар угаворваў яго:

— Татачка, родны! Пра што ты гаворыш? Я ў цябе адзін, жывём у дастатку. Чаго ж табе не хапае? Мала ты напрацаваўся за свае жыццё?! Адпачывай! Калі хочаш — выйдзі калі з хаты, кіем па плоце пастукай, каб куры з гароду паўцякалі. Хопіць з цябе той работы!

Але прадзед ніяк не мог згадзіцца з такой нядоляй. Ён лег на ложак, не стаў ні есці, ні піць і праз трое сутак памёр. Хоць цяжка згадваць пра гэта, але трэба сказаць, што памёр ён фактычна не сваёй смерцю...

Дзед Хведар памёр на 64-м годзе. Справа ў тым, што яму аднойчы кабыла азадкам дала пад самае сэрца. Пасля таго ён жыў чатыры гады, але з кожным годам слабеў.

Між іншым, дзед, будучы ўвогуле малапісьменным, ведаў дасканальна... латынскую мову, чытаў у арыгінале Авідзія, Гарацыя. «Як так?» — запытаецеся вы.

А вось як. Быў адзін памешчык, вялікі пан. Ён прайграў у карты і прапіў палову сваёй маёмасці. Згодна жончынай

просьбы, была склікана апякунская рада, якая рассудзіла так: «Адну палову, сваю — ты прапіў і прагуляў, а другая належыць жонцы і дзецям». Карацей кажучы, яго пазбавілі права прапіць другую палову. Вось ён і пайшоў, — не зразумееш кім: жабрак не жабрак... Ягоныя сабутыльнікі, якія ў ягоным палацы балявалі і дні, і ночы нават на ганак яго не пушчалі...

Аднойчы, перад нядзеляй, чакаючы лазні, прадзед сядзеў перад домам на лаўцы, а гэты былы багач ішоў праз нашу вёску. Пабачыўшы яго, пазнаўшы, прадзед запрасіў яго адпачыць. Той сеў. Пагаманілі. Прадзед запрасіў пахаджаніна памыцца ў лазні. Памыліся. Далі яму чыстую бялізну. Запрасілі да стала. Павячэралі.

Калі госць стаў збірацца ў дарогу, яму запрапанавалі: — Куды ты на нач гледзячы? Начуй! Пераначавалі. А тут — нядзеля. Бліны. Святочны настрой. У панядзелак ізноў: « Куды ты пойдзеш? Хіба табе не абрыдла па свеце цягацца?!» Жыве дзень, тыдзень, два тыдні...

Вось аднойчы гэты былы пан узяў ды і заплакаў:

– Мае сябры — паны, якія ля мяне жывіліся немаведама як, усе павыракаліся мяне, нават сабак на мяне цкавалі некаторыя, калі я да іх тыркнуўся... А ты, мужык, якога я ў ліку іншых за людзей не лічыў калісьці, аказваешся сапраўдным чалавекам. Я раскідваў золата прыгаршнямі направа і налева на ўсю тую зграю... А цяпер мяне слезы душаць, калі падумаю, што я менавіта ў цябе ем запрацаваны табою хлеб... Тым больш, што я нічога не ўмею рабіць у вашай рабоце, каб аддзякаваць сваёй працай за вашу ласку...

– Эх, — кажа яму ў адказ прадзед, — пра што ты гаворыш! Ты бачыш нашу сям'ю — я, жонка і сын. Усяго ў нас хапае. А ці многа чалавеку трэба? Трэба, каб была на душы лагода. Жыві! Ніхто з цябе не вымагае ніякае работы. Паглядзіш хаты, вароты адчыніш — вось і ўсё...

У дужках зазначу, што сам прадзед, калі аслеп, не захацеў жыць без работы, не захацеў есці самім сабою запрацаваны хлеб... Мабыць, таму што тая слепата пазбавіла яго, адабрала ад яго душэўную лагоду, пра якую я згадваў вышэй...

Госць прадзедаў адказаў так:

– Не! Я не магу! Я павінен нечым аддзякаваць цябе! Ведаю я добра латынскую мову. Давай навучу твайго сына Хведара латыні...

Вось так мой дзед і стаў латыністам!

Паколькі ў тым часе латынь страціла сваё ранейшае значэнне (а на беларускай тэрыторыі яна мела надзвычайна вялікае значэнне, бо вельмі багата дакументаў напісана на гэтай мове), ён карыстаўся сваім багаццем толькі ў адным накірунку: у вольны ад работ час чытаў сваім суседзям і тлумачыў на беларускай мове ўрыўкі з Авідзія, Гарацыя і другіх класікаў антычных...

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова[5] ад 11/03-1963 // Крыніца. 1997. № 8. С. 19–20.*

* * *

Происхожу из крестьян Виленской губернии, Вилейского уезда, Маньковичской волости, деревни Огородники, где родился и проживал до империалистической войны. У отца было шесть и три четверти десятин земли и соответствующие постройки. В молодости отцу оторвало (на заводе князя Друцкого-Любецкого) машиной кисть правой руки, но пенсии никакой он не получал, а работал. С 1916 г. вся наша семья вынуждена была покинуть деревню, так как возле нашей деревни установилась была линия русско-немецкого фронта, которая простояла до конца войны.

*З паказанняў У. Дубоўкі па справе СВБ[6] ад 3/11-1931. Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 243.*

* * *

На гэтай зямлі пачыналі жыццё нашы бацькі — браты Дубоўкі — Мікалай[7], Іван і Фёдар. Атрымалі ў спадчыну ад нашага дзядулі па кавалку зямлі, працавалі на ёй, аддаючы ўсе сілы. Але небагаты плён працы не радаваў. Таму пайшоў Іван «у людзі». Розум, кемлівасць дазволілі яму атрымаць нейкую

адукацыю. Аднак далей дробнага акцызнага чыноўніка выхадцу з сялянскай сям'і пасады не было. Наш бацька, Фёдар, усё жыццё працаваў на зямлі. А Мікалай пайшоў працаваць на Манькавіцкі вінакурны завод. Там і спаткала яго бяда — страціў у аварыі руку. У сям'і Мікалая Фёдаравіча і нарадзіўся будучы паэт. Па ўзросту ён — трэці. А ўсяго ў сям'і было шасцёра дзяцей[8]. Разам бегалі мы басанож па вясковай вуліцы, чым маглі стараліся дапамагчы сваім бацькам. А потым пайшлі вучыцца ў Манькавіцкае народнае двухкласнае вучылішча. Ужо тады Уладзімір вызначыўся між намі сваімі здольнасцямі. Гэта бачылі настаўнікі. Яны ўсяляк заахвочвалі яго да вучобы.

*Канстанцін Дубоўка. Запісаў Алесь Касцень //*
*А. Касцень. Радзіма паэта.*
*Цыт. паводле: «О Беларусь, мая шыпшына.*
*На радзіме Уладзіміра Дубоўкі». С. 89.*

* * *

У прапрадзеда и прадзеда па бацькавай лініі былі малыя сем'і (па аднаму сыну). З гэтае прычыны яны жылі матэрыяльна някепска, бо не трэба было драбіць сваю валоку зямлі. А дзед меў трох сыноў (ад першай жонкі — мой бацька, ад другой — яшчэ два сыны, мае дзядзькі). У перспектыве — на кожнага брата траціна зямлі (6 дзесяцін) у вёсцы Агароднікі Манькаўскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні.

Ад не вельмі салодкага жыцця пры мачысе мой бацька падаўся ў рабочыя — на бравары. Перад гэтым ён нядрэнна аўладаў сталярным рамяством. Працаваў ён рабочым гадоў адзінаццаць, не забываючыся і на вёску, на сельскую гаспадарку. <...> Бацька быў ажаніўся, меў трох сыноў (усяго было шэсць сыноў і дачка). І тут здарылася няшчасце: у часе працы на Манькаўскім бровары князя Друцкага-Любецкага яму адарвала машынай усе пальцы на правай руцэ.

Зрабілі ў Вільне аперацыю. Стаў бацька калекам у маладыя гады. Некаторыя суседзі казалі: «Ну, цяпер жабраваць пойдзеш». Нялёгкае пачалося жыццё. Але, зацiснуўшы сваё гора,

як кажуць, «сцяўшы зубы», бацька пераключыўся ва ўсіх работах (і ў пісанні) на левую руку.

Хоць князь не даў ніякай дапамогі на калецтва («Судзіся са мной!» — сказаў яго сіяцельства ў адказ на бацькаву просьбу), але ў далейшым памог атрымаць пасаду прадаўца ў скарбовай віннай краме.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс*[9].
*БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 3, 4.*

* * *

Першая школа — у Манькавічах, руская (бо тады беларускія былі забаронены[10]), цалкам грунтавалася на пабоях. Наш настаўнік, Канстанцін Іванавіч Пашкевіч, чалавек увогуле зусім неблагі, іншага метаду не ведаў, як дубовая лінейка і «кут». У яго была сотня вучняў, чатыры класы (групы). Сядзеў ён на высокай кафедры, як на капітанскім мосціку, і сачыў за парадкам. Толькі і чулася: «Міхнядовіч (або Дубоўка, або Стома і г. д) — ідзі сюды!»

Падыходзіш. Перад ім ляжыць штук пяць-шэсць новых дубовых лінеек, прыблізна па паўсантыметра таўшчынёй (новых, бо часта ламаліся). Норма была ад 4 да 10–12 «лап». Камандуе: «Левую! Правую!» Біў за малейшыя праступкі, з-за пляча — за гутарку з суседам на ўроках, за плямку ў сшытку. Апрача таго, пакідаў пасля ўрокаў у класе і абавязваў перапісаць усё з запэцканага сшытка ў новы. Бывала так, што 10 лісткоў (20 старонак) у сшытку запоўнены. Вось і сядзіш паўдня, пакуль усяго не перапішаш у новы сшытак. <...>

Між іншым, мяне паслалі ў школу тады, калі мне было няпоўных шэсць год («Каб дома не дурэў!»). Я ужо добра чытаў. З гэтае прычыны настаўнік пасадзіў мяне не ў першы клас, дзе вучыліся дзеці 8–9 год, а ў так званы падрыхтоўчы. У гэтым класе былі выключна дзецюкі-навабранцы і дзяўчаты-нявесты, якім трэба было навучыцца распісвацца ды ліст які невялічкі напісаць. <...>

У гэтай школе я вучыўся пяць год (год у падрыхтоўчым, тры — у нармальным, і яшчэ адзін год — у чацвёртым, новаадкрытым). Што я атрымаў там? Нядрэнную пачатковую адука-

цыю. Але, апрача падручнікаў (буквара, кніг для школьнага чытання), нічога не чытаў. Не было ніякай бібліятэкі для вучняў, калі не лічыць дзясятка розных брашурак «богаспасательнага» зместу. Мабыць, не было яе і ў самога настаўніка.

Адзінай бібліятэкай былі мне бацькавы кнігі: камплект часопіса «Огонёк» за 1903 год[11], камплект часопіса «Самообразование», з дадакам дванаццаці кніг розных аўтараў, вельмі добрых з навуковага боку (заалогія, астраномія, геаграфія, батаніка і г. д.). Аўтарам астраноміі, напрыклад, быў К. Фламарыён. У той час я асвоіў толькі малюнкі і невялічкія апавяданні з гэтых часопісаў. Праз некалькі год прачытаў і навукова-папулярную літаратуру.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс. БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 6.*

* * *

З тых далёкіх дзіцячых часоў мне асабліва запомніліся гады Першай сусветнай вайны. Лінія фронту праходзіла ў трох кіламетрах ад Агароднікаў[12]. Зразумела, што ад вёскі неўзабаве не засталося ніводнага цэлага будынка. Тысячы бежанцаў ішлі па дарогах Беларусі на Усход. Падаўся далей ад фронту і брат майго бацькі, Мікалай Фёдаравіч, са сваёй сям'ёй. Тады і развіталіся мы з Уладзімірам не назаўсёды, але надоўга. Толькі ў 1919 прыязджаў ён у родную вёску. Сям'я дзядзькі Мікалая вызначалася выключнай працаздольнасцю. А любоў да працы, сялянская кемлівасць многіх вывела на шырокі жыццёвы шлях.

*Уладзімір Фёдаравіч Дубоўка. Запісаў Алесь Касцень // А. Касцень. Радзіма паэта. Цыт. паводле: «О Беларусь, мая шыпшына. На радзіме Уладзіміра Дубоўкі». С. 90.*

* * *

Нягледзячы на тое, што бацька вучыўся ўсяго тры зімы ў пачатковай школе, ён займаўся самаадукацыяй, нямала чытаў,

ведаў даволі прыстойна польскую, яўрэйскую і нямецкую мовы. Апошнія дзве вывучыў, працуючы на броварах, бо вінніцкі былі або яўрэі, або немцы, а літаратура па гэтай справе была выключна на нямецкай мове.

Успамінаючы бацьку ў сваім жыцці ў малыя гады, павінен сказаць, што бацька меў характар лагодны, добры, не піў гарэлкі (калі не лічыць «чаркі» ў вялікае свята), не курыў, не быў сквапны на грошы (не збіраў іх у запас), а імкнуўся да таго, каб усе дзеці былі сытыя, адзетыя, каб мелі магчымасць вучыцца. Праўда, дурэць і сядзець склаўшы рукі не дазваляў: работа была для ўсіх, пасільная.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс. БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 2.*

* * *

Хочацца некалькі слоў сказаць пра маці Уладзіміра Мікалаевіча, Настассю Іванаўну[13]. Мне здаецца, што ад яе ён унаследаваў дабрыню, душэўнасць, эмацыянальнасць, багатае ўяўленне, вобразнае мышленне, цудоўную памяць і талент апавядальніка. І вялікую працавітасць акрамя таго, ці пагэтаму ён заўсёды павінен быў аб некім клапаціцца. У маладыя гады гэта былі бацькі і малодшыя браты і сёстры, потым свая сям'я — жонка, сын. Ён вельмі клапаціўся пра іншых, а сам за сабой не глядзеў зусім. За ўсіх людзей у яго балела душа. Ён не мог абыякава адносіцца да гора, бяды, няшчасця навакольных, ды і не толькі навакольных, але і далёкіх. За ўсіх у яго балела сэрца. Гэткай жа была і яго маці.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты*[14]*. С. 231.*

* * *

Матчына лінія — не лягчэйшая. Маці — Анастасія — з Язоў (каля вёскі Шабаны, на беразе возера Доўжа). У яе бацькі, Янкі Гайдуковіча, было пяць дзесяцін зямлі, сад, пчолы, а сям'і — шэсць дачок. Між іншым, дзед быў ажаніўся яшчэ за паншчы-

най, быў добры пчаляр, сталяр, пражыў 117 год і загінуў у часе польскага панавання. Усе матчыны сёстры, мае цёткі, былі вельмі працавітыя, здольныя да ўсіх вясковых работ, добрыя ткаллі, спявачкі, ды і прыгожыя ўсе былі. Таму, хоць не мелі вялікага багацця, усе хутка павыходзілі замуж.

Маці мая была непісьменная, але мела ясны прыродны розум, вельмі добра ведала беларускую мову і, паўжыцця пражыўшы ў Маскве, гаварыла толькі па-беларуску.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс.*
*БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 2.*

* * *

Аглядаючыся назад, разважаючы пра сваё, часам не вельмі лёгкае, жыццё, думаю, што вытрываць яго, застацца працаздольным да сённяшняга дня мне дапамагло працоўнае выхаванне, гартоўка, якую я атрымаў у сваёй сям'і ў малыя гады.

Я, напрыклад, пачаў рэгулярна працаваць з шасці гадоў (улетку). Першая мая работа — пасвіць гусі. Пасвіў усё лета, аж да восені. Ад сонца да сонца. Мой «дэбют» адзначаны быў сумна: мяне на горкі яблык збіла суседка за тое, што ўпусціў гусі ў яе ярыну. Калі ўвечары я паскардзіўся бацьку, ён адказаў: «Нічога не зробіш, сынку! Я ж табе казаў, каб ты ў ярыну гусі не пушчаў»...

Пазней у мяне з'явіліся сябры і сяброўкі такога ж узросту, як і я сам. Пасвіў з адной дзяўчынкай (Надзяй Баўтруковай) гусі ля ракі, на «Стажках». Заўважылі мы, што ў рацэ рыбы шмат. І вось надумаліся: узялі мае штонікі, завязалі калошы і налавілі з паўвядра аўсюку. Нашы бацькі толькі пасмяяліся з такой «здабычы» і скармілі яе парасятам.

У далейшыя гады пайшлі іншыя работы, а ў адрыўках часу — грыбы, ягады, арэхі, ды не абы-як: да трох пудоў насушвалі мы адных баравікоў у грыбныя гады. А салілі штогодна бочкі са дзве рыжыкаў, мачонак...

Такія работы, як насіць снапы, зграбаць сена, нажаць каровам і прынесці дадому травы,— даставаліся на долю нам, а збольшага цалкам мне. А там, увосень, назбіраць на ўсю зіму

кляновага лісту «пад хлеб», награбці як мага больш рознага лісту наогул, для падсцілкі скаціне, бо салома ішла на сечку... Адным словам, пагуляць, пабегаць даводзілася ўжо на захадзе сонца, калі ў аселіцы каціўся туман і турчалі «турчакі».

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс.*
*БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 3, 4.*

* * *

Між іншым, да 14 год я не бачыў чыгункі, затое першы матацыкл пабачыў яшчэ ў Манькавічах у 1910 годзе, а ў 1911 годзе пабачыў першы аўтамабіль.

Першы паветраны шар бачыў тады, калі мне было гадоў 5–6, прычым гэта падзея звязана з «канцом свету». Было яно так. У тым часе розныя вандроўныя людзі, якія ішлі праз нашу вёску, казалі ў адзін голас пра тое, што будзе «канец свету», што па небе «будзе лётаць ангел боскі, трубіць у трубу і склікаць на страшны суд жывых і нябожчыкаў».

Народ занепакоіўся. А з Ковенскай крэпасці пусцілі тады паветраны шар, пад якім быў падвешаны кош з трыма чалавекамі. Гэты шар паветранымі плынямі прынесла аж да нас. Лётаючы над нашай вёскай, ён пачаў зніжацца. Лётнікі выкінулі з коша канец каната і пачалі трубіць у трубу, каб звярнуць увагу людзей і каб яны цягнулі за канат.

Тады менавіта і пачаўся «канец свету». Людзі павыносілі абразы з хат, пасталі на калені. Укленчыўшы, некаторыя маліліся, некаторыя галасілі. Каровы раўлі. Сабакі нейкім дзікім ладам гаўкалі. Сапраўды, жах быў вялікі. А тым часам шар аднесла на наша Гарэлае балота, канат абкруціўся каля дрэва, шар прыназеміўся. Лётнікі са сваей трубой прыйшлі ў вёску і пачалі лаяцца: «Чаму вы за канат не цягнулі?» Тады толькі нашы людзі ўцямілі, што гэтыя «архангелы» мабыць не ад бога, калі так добра могуць лаяцца...

Што ж рабіць? Пазаносілі абразы ў хаты, і на гэтым скончыўся «канец свету». У кожным разе, падзея гэта пакінула вельмі моцнае ўражанне.

Каб скончыць з манькаўскім перыядам, мушу адзначыць, што там я пабачыў найцікавейшыя расліны свету (у аранжарэях княгіні Друцкай-Любецкай) і там прысутнічаў першы раз у жыцці на тэатральнай пастаноўцы і на канцэрце (усё — на польскай мове), якія былі пастаўлены сіламі княгініных службоўцаў у старым бровары, прыстасаваным для тэатра. Павінен сказаць, што ўражанне на мяне (ды і на ўсіх прысутных) усё гэта зрабіла надзвычайна вялікае. Больш пастановак не было. Мабыць, таму, што не давалі дазволу.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 9. Л. 7, 8.*

* * *

У 1912–1914 гадах я вучыўся ў Мядзельскім двухкласным вучылішчы (школа тыпу сямігодкі, з меншай праграмай). Пры школе былі вельмі добра абсталяваныя дзве майстэрні: кузня і сталярная. Нягледзячы на тое, што я ўжо ў Манькавічах вучыўся ў 4-й групе, я сеў у 4 групу і ў Мядзелі. Тлумачылася гэта тым, што мне было «мала гадоў».

Настаўнікам у 4 і 5 групах (ён жа і загадчык школы) быў Іван Васільевіч Лукашэвіч, які разніўся ад Пашкевіча так, як неба ад зямлі, у літаральным сэнсе слова. Я вучыўся ў яго два гады, і за гэтыя два гады не чуў ад яго ніколі дрэннага слова. Не было ніякіх пабояў. Быў толькі выключны выпадак, пры якім ён даў поўху аднаму вучню[15]. Справа адбылася так. Пасля перамены — званок. Усе селі на месца. Аднаго вучня не было. Другі падскочыў і падпёр плячом дзверы. Калі з калідора сталі націскаць, хлопец дзверы пусціў. Яны расчыніліся, і на падлогу заваліўся не вучань, а сам настаўнік, прычым парассыпаліся на ўсе бакі і кнігі, і сшыткі, якія ён нёс у клас. Мы ўсе замёрлі. Настаўнік устаў, сабраў іх, пасля падышоў да вінаватага і даў яму поўху. Паўтараю, за два гады навучання ў Мядзеле — гэта быў адзіны выпадак, тады калі ў Манькавічах было не менш дзясятка выпадкаў кожны дзень. І. В. Лукашэвіч быў выключна выдатным педагогам. Праз гады я асабліва магу ацаніць

ягоны талент, калі і сам атрымаў педагагічную адукацыю, і настаўнікам пабыў, і нямала настаўнікаў бачыў.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс.*
*БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 7.*

* * *

Калі я, напрыклад, будучы вучнем Мядзельскай школы, падпісаўся на яе (газету «Наша Ніва». — *Г. С.*) і пачаў атрымліваць з пошты, майго бацьку выклікаў да сябе ўраднік і зрабіў яму заўвагу: «На вашу фамілію прыходзіць крамольная газета». «Якая?» — здзівіўся бацька. «А вось гэта... "Наша Ніва". — «Дык яна ж дазволеная!» — кажа бацька. «Яна то дазволеная, але лепш будзе, калі ты далей на яе падпісвацца не будзеш». Бацька прыйшоў дадому і расказаў мне пра гутарку зураднікам. Я засмуціўся. Але бацька адразу ж знайшоў і выхад: «Не гаруй! — Бэрка (наш сусед, вясковы камерсант) ездзіць у Вільню па тавары. Мы яго папросім, ён і будзе прывозіць нам адразу ўсе чарговыя нумары». Так мы і зрабілі. Газету мы атрымлівалі паміма пошты вельмі рэгулярна і без гутарак з паліцыяй. Чыталі мы яе ўсёй сям'ёй, насіў я і таварышам у школу.

*У. Дубоўка. Бачу, як красуе наша Айчына*
*(з успамінаў пра Янку Купалу).*
*БДАМЛМ. Ф. 12. Воп. 1. Спр. 413.*

* * *

У кастрычніку я паступіў у новаадкрытую Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю[16]. Падабраўся ў ёй выключны педагагічны калектыў. Усе да аднаго выкладчыкі — з вышэйшай адукацыяй. Некалькі — у тым ліку Іван Іванавіч Рэйнскі — з Маладзечанскай семінарыі, якую скончыў не адзін наш настаўнік (зразумела, старэйшага пакалення). Іван Іванавіч выкладаў мову і літаратуру, адначасова быў нашым нашым класным кіраўніком. Літаратуру ён добра ведаў, любіў і умеў

выкладаць як мае быць. Між іншым, у мядзельскай школе я вылучаўся па матэматыцы. А ў настаўніцкай семінарыі яна адышла на другі план: я стаў вылучацца па літаратуры. Іван Іванавіч мне не аднойчы радзіў: «Як скончыце настаўніцкую семінарыю, абавязкова прабівайцеся на гісторыка-філалагічны факультэт».

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Аўтарызаваны машынапіс. БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 10.*

* * *

Між іншым цікавая драбнічка: Сяргей Дзмітравіч Вігілеў, які падпісаўся на маім сціплым атэстаце, — выкладчык геаграфіі і гісторыі. Ён вучыў Якуба Коласа ў Нясвіжскай семінарыі, вучыў Міхася Чарота ў Маладзечанскай семінарыі і, як бачыце, вучыў мяне ў Нова-Вілейскай.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча*[17] *ад 29/07-1973 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 219.*

* * *

У 1914 годзе Дубоўка паступіў у Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю. Выкладчыкам літаратуры там быў добры педагог Іван Іванавіч Рэнскі[18], які старанна імкнуўся не толькі прышчапіць вучням любасць да мастацкага слова, але і даць ім глыбокае разуменне яго. Дарэчы, раней, яшчэ ў Маладзечанскай семінарыі, у таго ж настаўніка вучыўся і Міхась Чарот.

*П. Глебка. Дубоўка // Глебка П. Збор твораў: у 4 т. Т. 4. С. 190.*

* * *

Для Дубоўкі «Матчын дар»[19] быў, паводле ягонага сьведчаньня, наогул першаю беларускаю кніжкаю, пазнанаю ім, ды адным з штуршкоў на шлях беларускага паэты.

*А. Адамовіч. Алесь Гарун. Жыццё й творы. С. 1088.*

* * *

Во время учебы, на летних каникулах, работал в качестве ремонтного рабочего на железной дороге, так как у отца была большая семья и материальной поддержки я не получал.

*З паказанняў У. Дубоўкі па справе СВБ ад 03/11-1931.*

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 243.*

* * *

Падышла вайна 1914 года. Эвакуацыя. Я, ужо вучань настаўніцкай семінарыі, апынуўся ў горадзе Невелі[20] (у той час — павятовы горад на Віцебшчыне). Адзін з таварышаў (Андрэй Д-ч) прывёз з Пецярбурга, дзе гасцяваў у сваёй радні, томік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця»[21]. Гэты томік па чарзе пабываў у гасцях ва ўсіх нашых вучняў. Чытаў яго з вялікім хваляваннем і я.

Аднойчы нехта з таварышаў прынёс яго ў семінарыю і ў яго выпадкова заўважыў гэты томік адзін з настаўнікаў. Мы страшэнна занепакоіліся, бо падумалі, што яго канфіскуюць (быў 1916 год)[22].

*У. Дубоўка. Бачу, як красуе наша Айчына*
*(з успамінаў пра Янку Купалу).*
*БДАМЛМ. Ф. 12. Воп. 1. Спр. 413.*

* * *

Віленскій учебный округъ
директора
Ново-Вилейской
учительской семинарии
января 22 дня 1916 года
№ 33
Г. Невель Витебской губернии

УДОСТОВЕРЕНІЕ

Дано сіе удостовереніе ученику II класса Ново-Вилейской учительской семинаріи Владимиру Дубовко въ томъ, что он

* * *

Выдавецкія магчымасці ў мае маладыя гады былі не дужа багатыя. Газеты і часопісы — у абмежаваным ліку. Дзеля гэтага я проста не маю чаго адказаць Вам на Вашае запытанне. Апрача вядомых Вам выданняў, друкаваў некаторыя рэчы (пераклады, арыгінальныя вершы) у двух маскоўскіх студэнцкіх альманахах: «Маладая Беларусь» і «Змаганне». Вы іх, пэўна, зусім не бачылі, бо першы («Мал. Бел.») быў прызнаны не зусім пажаданым і напэўна быў знішчаны.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 05/01-1975 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 233.*

* * *

Менавіта ў снежні 1922 года, калі я працаваў у НКА РСФСР, да мяне з'явіўся прадстаўнік ВЦИК (Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы камітэт) па прозвішчу Кузьменка і запрасіў мяне на пасаду рэдактара Весніка ЦВК, СНК і СПА. З гэтага часу я пачаў атрымліваць і адпаведную зарплату[82]. Што я рабіў пачынаючы ад снежня? Я арганізоўваў для Крамля беларускую друкарскую справу пры 20-й друкарні «Красный пролетарий» (Москва, Пименовская, д. 1/16). Больш дакладна і канкрэтна кажучы — падрыхтоўку шрыфтоў і наборшчыкаў, друкароў. А беларускіх шрыфтоў тады не было бадай і ў самім Мінску, там нярэдка надстаўлялі над «у» розныя загагуліны, накшталт скобак, кавычак і да т. п. Дарэчы, у гэтай самай друкарні праз некалькі год была надрукавана першая кніга пра Я. Коласа[83], падрыхтаваная мною, з маім артыкулам таксама.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 30/06-1971 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 208.*

* * *

Ніколі не забуду сустрэчу з Уладзімірам у верасні 1922 года у Беларускім прадстаўніцтве па Малой Мікіцкай, 18. У тыя часіны, калі трагічна загінула[84], трапіўшы пад трамвай, адзіная

ў нашай сям'і сястрычка Ганначка, студэнтка, Дубоўка суцяшаў мяне, як брат. У хуткім часе Уладзімір Дубоўка склаў першую кнігу вершаў «Строма»[85], як вяночак на магілу Ганнулькі. «Строма» паказала, які здольны лірычны паэт з'явіўся на Беларусі, як блізка стаіць ён каля творчай постаці Максіма Багдановіча.

*Г. Гарэцкі. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкай // ЛіМ. 1997. 11 крас. С. 13.*

* * *

У дваццаць другім годзе загінула сястра Максіма і Гаўрылы, Ганначка. Загінула як: раптоўна арыштавалі Гаўрылу, а яна бегла, несла яму перадачу. У роспачы, у слязах... І папала пад трамвай. Яе памяці Дубоўка прысвяціў першы свой зборнік.

*Р. Гарэцкі. У прыватнай гутарцы.*

* * *

Ведаючы, што пішу вершы і вучуся ў літаратурным інстытуце (Брусаўскім), ён [Цішка Гартны] запрасіў мяне аднойчы (у другой палове 1922 года. — *Г. С.*) на сваё літаратурнае выступленне ў Маскве, ва Усерасійскім саюзе паэтаў. А трэба вам сказаць, што ў той час пра Беларусь наогул нават добра адукаваныя людзі альбо зусім нічога не ведалі, альбо ведалі вельмі мала. Нават — дадам я — нават пісьменнікі. Для вашага пакалення цяпер такія словы гучаць проста дзіўна, але ж гэта факт. Тады не было радыў, тэлебачання, не было такіх масавых паездак людзей з адной часткі краіны ў другую, як цяпер. Успомніце, што нават сусветна вядомы вучоны Элізе Рэклю[86] пісаў у сваёй навуковай працы пра беларусаў: «Яны жывуць і на зямлі, і на вадзе», значыцца, гэта нібыта нейкія «земнаводныя». Прыблізна такія звесткі пра беларусаў былі і ў рускай інтэлігенцыі таго часу. Дадаткова яшчэ ведалі, што ў беларусаў ёсць «каўтун», што яны «нізкарослыя і худыя». Дык вось Вы крыху можаце ўявіць сабе, якой сэнсацыяй для прысутных на

сходзе паэтаў і пісьменнікаў быў даклад вашага таты, у якім ён сказаў, што на Беларусі кнігадрук пачаўся на паўсотні год раней, чым у другіх славянскіх народаў, што Беларусь мела цэлую плеяду выдатных філосафаў, пісьменнікаў, вучоных у розных галінах ведаў. Сказаў ён і пра тагачасных пісьменнікаў, сваіх сучаснікаў і паплечнікаў — М. Багдановіча, Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю. Назваў ён і маладзейшых тады паэтаў, як Гурло[87], Чарот. Пасля гэтага даклада ён сам прачытаў шмат вершаў сваіх уласных і названых ім паэтаў. Затым, зусім нечакана для мяне, абвясціў: «А цяпер вам прачытае свае творы прысутны тут малады паэт Уладзімер Дубоўка!»

Каб перад гэтым сходам ён хоць адно слова сказаў, што мне трэба будзе чытаць свае творы, дык я ўзяў бы якія-небудзь рукапісы. Я проста разгубіўся, але выйшаў да падвышэння, на якім сядзеў прэзідыум, і з памяці прачытаў адзін з першых сваіх вершаў («Імжа, і склізота, і прыкрая золь»). Аўдыторыя сустрэла маё чытанне дужа прыхільна і запатрабавала, каб я чытаў яшчэ. Я прачытаў яшчэ адзін верш («Прыпыніла свой голас жалейка»), але чытаць больш не стаў і сказаў так: «Я жыву і вучуся ў Маскве ж. Калі вам будзе цікава, я змагу прыйсці да вас у любы час». <...>

Пачынаючы ад 1926 году, калі арганізавалася літаратурнае згуртаванне «Узвышша», ваш тата павёў супроць гэтага згуртавання і нашага часопіса барацьбу, у якой часам пераходзіў мяжу прыстойнасці[88].

*У. Дубоўка. Успамін пра Цішку Гартнага.*
*Ліст да Г. Жылуновіч ад 06/01-1976.*
*БДАМЛМ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 91.*

* * *

З Ц. Гартным, з М. Чаротам і з Я. Купалай я пазнаёміўся яшчэ ў Маскве[89]. Сажу шчыра, што Ц. Гартны зрабіў на мяне вельмі дрэннае ўражанне. Ён мне выдаўся чалавекам грубым, малакультурным (хоць і хадзіў у манішках і гальштуках), вельмі ганарлівым і вельмі сябелюбівым. Ён заўсёды імкнуўся выставіць сябе на першае месца як найвыдатнейшага беларускага

паэта, хоць для гэтага не меў ніякіх падстаў. Для ілюстрацыі падам такі невялікі факт.

Рускія паэты запраслі беларусаў выступіць у іхным клубе, фактычна — першы раз за ўвесь час. Здавалася б, што самым разумным было б арганізаваць прыезд у Маскву Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота і няхай сабе Ц. Гартнага. Прыехаў жа адзін Ц. Гартны. А трэба адзначыць, што чытаў ён вершы страшэнна нудна і няўмела. Вось у Доме пісьменнікаў сабраліся рускія літаратары. Прышло некалькі беларусаў (нарком асветы А. В. Баліцкі[90], пастпрэд БССР А. І. Хацкевіч[91], упаўнаважаны НКАсветы БССР у Маскве М. Ф. Лойка[92], сакратар пастпрэдства, радцы). Быў і я. Ніякай гутаркі пра тое, каб я прыняў якінебудзь удзел у выступленні не было, пра гэта Ц. Гартны не сказаў ніводнага слова. Вось і вечар. Прэзыдыум. У прэзыдыуме Ц. Гартны. Даюць яму слова. Нейкім гнусавым, замагільным голасам ён робіць «даклад» аб беларускай літаратуры. Вялікае месца вылучае сабе. Толькі тады, калі ён успамінае імёны Я. Купалы і М. Багдановіча, слухачы апладзіруюць. Пасля гэтай інфармацыі Ц. Гартны абвяшчае: — Цяпер я пачытаю вам свае творы. ..

Цяжка ўявіць сабе, што гэта было за чытанне. Па-першае — няўдалы падбор вершаў: прымітыўныя, шурпатыя. Па-другое — сама тэхніка чытання... Калі ён скончыў чытаць (а чытаў ён іх нямала), пачуўся адзін вельмі гучны апладысмент. Многія прысутныя сталі шукаць вачыма таго, хто апладзіраваў...

Тут жа Ц. Гартны абвясціў: «Зараз я пачытаю вам творы Я. Купалы». Аўдыторыя дружна заапладзіравала. Але ізноў, калі ён пачаў чытаць, павыбіраўшы якраз не лепшыя творы Я. Купалы, прысутныя здзіўлена паціскалі плячыма... Ах, як сумна было сядзець на гэтым «вечары»... Калі ён скончыў чытаць, апладзіравалі крыху больш, чым яму самому...

І тут раптам, абсалютна нечакана для мяне, Ц. Гартны абвяшчае: «Зараз пачытае свае вершы пачынаючы паэта Уладзімер Дубоўка»...

Паўтараю: хоць бы адно слова было мне сказана папярэдне, хоць бы намёк які быў дадзены мне — я ўзяў бы ці зборнік, ці

рукапіс. У мяне не было з сабой нічога. Добра, што я ведаў нямала сваіх твораў на памяць. Я падняўся з публікі і, не выходзячы на сцэну, з месца, прачытаў верш «Імжа, і склізота, і прыкрая золь»... Прачытаў гучна, выразна, так, як было прынята ў той час у Маскве. Мабыць, сапраўды як рэакцыя на няўдалае Цішкава чытанне ўзнялася цэлая хваля воплескаў. Я сеў. Мяне папрасілі чытаць яшчэ. Я прачытаў другі верш: «Журавінамі плача восень, апавіўся тугою абшар. Я не ведаю, можа здалося, але вельмі баліць душа»... Аўдыторыя заапладзіравала яшчэ гучней. Пачуліся галасы «Дубоўка! Давай яшчэ!»

У гэту хвіліну я зірнуў на Ц. Гартнага і нават спалохаўся. Ён з такой нянавісцю глядзеў на мяне са сцэны, што я падняўся і сказаў слухачам так: «Дорогие товарищи! Я очень благодарен вам за внимание, которым вы нашли возможным отметить мои скромные стихи. Но дело в том, что я живу в Москве, учусь здесь. Если вам будет угодно, я смогу выступить потом. А сейчас мне, как, надеюсь, и всем вам, очень интересно послушать стихи нашего дорогого гостя»... Але больш ніхто не пажадаў слухаць «дарагога госця» і на гэтым вечар закрыўся.

Пасля вечара ўсе беларусы зайшліся ў сталовую на Цвярскім бульвары павячэраць. Селі за стол. Вось А. В. Баліцкі і кажа: «Цішка! Як цікава! Пачынаючаму паэту, якога, бадай, ніхто не ведае, апладзіруюць, а табе, вядомаму, не!»

Гэта як раз'юшанаму быку паказалі чырвоную хустку. Ц. Гартны з вялікаю злосцю сказаў: «Г...о! Абракадабра нейкая! Яны, дурні, нічога не зразумелі, вось і апладзіруюць!»

Усе засмяяліся. Баліцкі ізноў кажа: «Цішка! Нешта не так! Гэта ж не малапісьменныя слухачы, а высокакваліфікаваныя пісьменнікі! Мабыць, што яны разумеюць, што такое добрыя і што такое дрэнныя творы!» Ц. Гартны ізноў паўтарыў сваю грубую лаянку... Так адбылося знаёмства малавядомага беларускага паэта з імянітым беларускім паэтам... Пра яго ніяк нельга было сказаць, як сказаў Пушкін пра сваіх папярэднікаў «И в гроб сходя меня благословил»...

Я сумысля спыніўся на гэтым, бо гэтае спатканне дало свае вынікі ў далейшым. З. Жылуновіч — як афіцыяльная асоба

(член урада, дырэктар дзярж. выдавецтва) + Цішка Гартны (як паэт) + Сымон Друк («крытык», аўтар не адной разноснай паскуднай нататкі-артыкула) у шчыльным сяброўстве з Бэндамі[93]-Дзімоўскімі-Глыбоцкімі[94] і іншай пошкуддзю (тут яны былі да здзіўлення адзінадушнымі і адзінадумнымі) — вельмі многа зрабіў для таго, каб загнаць мяне далей ад Беларусі, адарваць ад работы на літаратурнай «ніве»[95]...

Я магу сказаць толькі адно: калі мне ў вельмі цяжкіх умовах майго жыцця прапаноўвалі даць аб'ектыўна-адмоўную характарыстыку на гэтага чалавека[96], я не зрабіў гэтага.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Машынапіс 1963 года.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 11. Л. 4–16.*

* * *

Пасля, праз доўгі час, мне давялося пачуць беларускія народныя песні ў Маскве, у выкананні беларускіх студэнцкіх хораў. У 1923 годзе ў часе першай сельскагаспадарчай выстаўкі[97] ў Маскву прыязджаў Дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам Уладзіміра Тэраўскага[98]. Выступаў ён у клубе Трохгорнай мануфактуры і зрабіў вельмі моцнае ўражанне на ўсіх прысутных.

*У. Дубоўка. Сярод людзей добрых //*
*Полымя. 1963. № 1. С. 109.*

* * *

Паўнамоцнае прадстаўніцтва
Беларускае Сацыялістычнае
Савецкае Рэспублікі ў РСФСР
1 августа 1923 г.
№ 1122

Удостоверение

После откомандирования из Красной Армии (16 августа 1921 г.) — в распоряжение Наркомпроса Белорусской ССР — Владимир Николаевич Дубовко занимал должности:

а) по 10 сентября 1921 г. в распоряжении Наркомпроса БССР;

б) с 10 сентября 1921 г. по 1 января 1922 г. центральный школьный инструктор Главсоцвоса[99] Наркомпроса РСФСР.

в) с 1 июля 1922 г. по 1 декабря 1922 г. секретарь Белорусского Центрального Бюро по Просвещению при Совнацмене[100] Наркомпроса РСФСР;

г) с 1 декабря 1922 г. до настоящего времени методист того же белорусского Центрального Бюро;

д) с 1 января до настоящего времени — секретарь и заместитель Уполномоченного Наркомпроса БССР в РСФСР с полным исполнением обязанностей Уполномоченного во время длительных командровок последнего (в 1922 г. два месяца, в 1923 г. три месяца);

е) с 1 мая 1923 г. до настоящего времени — ученый секретарь и редактор текстов при Белорусской песенной Комиссии ГІМНа (должность не оплачивается).

Полномочное Представительство БССР в РСФСР рекомендует тов. Дубовко как с партийной, так и с советской стороны на должность ответственного редактора изданий ЦИК СССР на белорусском языке как лично известного Полномочному Представительству и, что видно из приведенной в начале этого справке о стаже за последний период, — обладающего достаточным опытом, знаниями, работоспособностью и организаторскими способностями для этого.

Полномочное Представительство оставляет за собою право отозвания тов. Дубовко для другой ответственной работы, с заменой соответствующим кандидатом.

Полномочный представтель БССР в РСФСР М. И. Мороз

Секретарь М. Юшкевич

*НАРБ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 10. Л. 541.*

* * *

Минск ЦИК Червякову согласно заявления Юшкевич[101] 15 сентября оставляет пост секретаря зпт его место 1 сентября занял Дубовко тчк Мороз

*Тэлеграма Паўпрэда БССР пры ўрадзе РСФСР М. Мароза. НАРБ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 10. Л. 865.*

* * *

Фактычна я працаваў у Крамлі ад снежня 1922 г., але тады быў не Збор законаў, а «Веснік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР». У часе майго ад'езду ў Мінск быў перапынак невялікі. Вярнуўся, я ізноў у 1926 і стаў рэдактарам Збору законаў, які выдаваўся на беларускай мове.

Далучаю для Вашага асабістага ведама копію ліста Гарбунова[102] ў адрас Акадэміі Навук СССР. Для дакладнасці (гэта ж энцыклапедыя!) варта сфармуляваць гэты радок так: «рэдактар бел. тэксту Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР са снежня 1922 г. да 1925 г., а з 1926 да 1930 — рэдактар бел. тэксту Збору зак. Саюзу ССР». А зрэшты — як Вам падабаецца.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 16/11-1970 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 204.*

* * *

Ты ўзбудзіў маё сэрца, псясьняр малады,
Дзіўнай песьняй аб шчасьці, аб волі,
Разагнаў мае думкі жальбы і нуды,
Мае стогны аб горкай нядолі.
Ты душу ўскалыхнуў мне, музыка-дудар,
Ты паклікаў мяне да змаганьня,
Ажывіў у грудзёх маладых маіх жар,
Запаліў ў маім сэрцы каханьне.
Ты вярнуў мне вясновыя мары мае,
Сваёй дзіўнаю, шчаснаю песьняй, —

І душа за табою аб шчасьці пяе,
Нібы птушка ў палёх напрадвесьні.
Разьвярнуў прада мной ты бязьмежны абшар,
Асьвяціў мае сумныя вочы,
Разагнаў чараду гэтых жудасных хмар,
Што заслалі мне сонца, бы ўночы.
Ты жалезныя краты турмы паламаў,
Растапіў крыгу лёду цяжкую,
Сваёй песьняй душу мне да дна ўсхваляваў,
І забыцца яе не магу я.
Гэту песьню я чую на яве, у сьне,
І на сэрцы так лёгка, прыемна!
Я складаю ў душы гімн каханьню, вясьне,
Да цябе лячу думкай таемнай.
Так сьпявай жа, сьпявай, мой пясьняр-чарадзей,
Хай забуду на долю цяжкую.
Кліч да шчасьця мяне, кліч да жыцьця грамчэй —
І з табою паўсюды пайду я.

*Хмарка (Наталля Панамарова[103]). Верш, прысвечаны Уладзіміру Дубоўку // Полымя. 1923. № 2. С. 59.*

* * *

2/8-1923
№ 1151

Удостоверение

Дано студенту Высшего Литературно-Художественного Института Владимиру Николаевичу Дубовке в том, что он действительно состоит государственным стипендиатом, получив в июле месяце 1923 г. стипендию в размере четыреста рублей за т. г.

Дано для предоставления в домком по месту жительства.

Замдиректора

Управделами

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз з. 792. Л. 27.*

* * *

Прадстаўніку Народнага
Камісарыяту Асветы
Беларускае ССР у РСФСР
М. Лойцы

Студэнта Вышэйшага
Літаратурна-Мастацкага Інстытуту
Уладзімера Дубоўкі

Заява

Дадаючы пры гэтым анкету, прашу Вас, паважаны таварыш, аб залічэнні мяне на стыпендыю НКА БССР з 1-га жніўня 1923 г.

Дзеля таго, што праца мая ў культурна-асветных установах адбірае шмат часу, пры максімальнай нагрузцы па Інстытуту, на апошні курс якога я пераходжу ў гэты час, — неабходна патрабуецца, каб я часова — хоць на адзін год пакінуў агульную працу, цалкам аддаўшы сябе навуковай.

Мінімум, які я прашу, выяўляецца у 50 руб. зол.[104] на месяц, якія дапамогуць мне браць прыватныя лекцыі па замежных мовах і задаволяць жыццёвыя патрабаванні.

25 чэрвеня 1923 г.

У. Дубоўка

Рэзалюцыя на заяве:

СНК БССР

Препятствий к освобождению т. Дубовко с моей стороны не встречается, но необходимо дать ему персональную стипендию, причем просимую им сумму можно уменьшить на 20%.

Представитель НКП БССР

Подпись.

*НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 534. Л. 75//*
*Скарыніч. Вып. 7. С. 139.*

* * *

АНКЕТА
Для залічэньня на стыпеньдзію
Народнага Камісарыяту Асьветы
Беларускае Социялістычнае Савецкае Рэспублікі

| № | Запытаньні | Адказы |
|---|---|---|
| 1 | Прозьвішча і імя | Дубоўка Уладзімер Мікалаяў |
| 2 | Калі нарадзіўся | 2-га ліпеня 1900 г. |
| 3 | Адкуль паходзіць | Віленшчына, Вялейскі пав., Манькаўская вол., вёска Агароднікі |
| 4 | Якога пахаджэньня | Сын селяніна, які ўладаў 6¾ дз. зямлі |
| 5 | Якую атрымаў адукацыю | Скончыў у 1918 годзе Нова-Вялейскую настаўніцкую семінарыю, у гор. Нэўлі на Вітабшчыне |
| 6 | Дзе вучыцца ў гэты час | У Вышэйшым Літаратурна-Мастацкім Інстытуту, на мастацкім аддзяленьні |
| 7 | Кім камандыраваны | Паўнамоцным Прадстаўніцтвам БССР у РСФСР, ад імя НКА БССР у 1921 г. |
| 8 | Да якой сьпецыяльнасьці рыхтуецца | Мастак беларускага слова (художник белорусского слова) і гісторыя прыгожага пісьменства разам з тэорыяй вершалёгіі |
| 9 | Якой мяйсцовай мовай Беларусі ўладае | Усебакова ўладаю беларускай мовай |

| | | |
|---|---|---|
| 10 | Якія навуковыя і інш. творы мае | Зборнік вершаў «Строма» — 1923 г. Рыхтую да друку другі зборнік. Артыкул — «Мова у зьвязку з разьвіцьцём прыгожага пісьменства» — (чытаў у беларускай Асоцыяцыі А. С.-Г. А. і ў Беларускім клюбе ў Маскве) |
| 11 | Які ўдзел браў у беларускім друку | Прыгожае пісьменства — Савецкая Беларусь — 1921 і 1923 гг., замежныя выданьні — Маладое жыцьцё, Наша жыцьцё, запрошаны да супрацоўніцтва ў Менскай часопісі моладзі «Маладняк» — у 1923 г. |
| 12 | Які ўдзел браў у беларускай культурнай працы | Зь жніўня да верасьню 1921 г. пад загадам НКА БССР. Зь верасьню 1921 да студзеня 1922 г. — пантровы школьны інструктар НКА РСФСР па Беларускаму Бюро — (пры Галоўсацвыху), зь лютага да ліпеня 1922 г. сэкратар Прадстаўніцтва НКА БССР ў РСФСР, зь ліпеня да сьнежня 1922 г. сэкратар Беларускага Цэнтровага бюро НКА РСФСР, зь сьнежню 1922 г. да бягучага часу — (чэрвень 1923) — мэтодысты таго самага Бюро. Адначасова — сябра Кіраўніцтва Беларускага Клюбу ў Маскве і Адпаведны рэдактар беларускіх перакладаў пры ЦВК СССР — (зь лютага 1923 да гэтага часу). У 1922 — сябра рэдакцыйнай калегіі беларускай часопісі «Маладая Беларусь» |

| | | |
|---|---|---|
| 13 | Удзел у агульна-савецкай працы | Зь лютага да лістападу 1918 г. — рабочы Сл. Шляху Аляксандраўскай чыгункі (1 участак, 1-й околодок, арцель Савко), зь лістападу 18 да ліпеня 1920 працаўнік асьветы Навасільскага павету на Тульшчыне |
| 14 | Удзел у Чырвонай Арміі | Зь ліпеня 20 г. да жніўня 21 г. — у частках зьвязку Чырв. Арміі займаў паступова пасады — тэлеграфнага рабочага, перапісчыка, старэйшага перапісчыка й дзелавода |
| 15 | Адносіны да прафсаюзу | Сябра саюзу працаўнікоў Асьветы з 1918 г. |
| 16 | Партыйнасьць | У сакавіку 1922 г. увайшоў у К. С. М. (ячэйка В. Л.-М. Інстытуту) |
| 17 | Якую дапамогу просіць | Грашовую, на адзін год — (пераходжу у гэтым годзе на апошні курс). Як пражытковы мінімум — 50 руб. зол. на месяц па курсу |
| 18 | Якія пасьведчаньні і паперы пры гэтым дадаюцца | |
| 19 | Хто заручаецца | |
| 20 | Увагі | |

Аселасьць — Москва, Малая Грузинская, д. 34, кв. 13

Подпіс

*НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 534. Л. 76 – 76 адв // Скарыніч. Вып. 7. С. 139.*

* * *

В полномочное представительство
Белорусской ССР в Москве
декабря 13-23
№ 1518

Правление Высшего Литературно-художественного Института сообщает, что тов. Дубовка В. Н. состоит ассистентом проф. Григорьева М. С. по кафедре психологии языка и творчества.

Зам. ректора Григорьев
Управделами Синцов

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 24.*

* * *

РСФСР
НКП (Главпрофобр)
Высший Литературно-художественный
Институт им. Брюсова

Декабря 18 дня 1924
№ 1260
Ул. Воровского, 52
Тел. 1-87-06

Удостоверение

Правление Высшего Литературно-Художественного института им. Брюсова удостоверяет, что тов. Дубовка Владимир Николаевич был в продолжение одного года ученым секретарем кабинета поэтики при Институте, Председателем которого состоял В. Я. Брюсов.

Замректора
Управделами

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 35.*

* * *

У газеце «Известия» ў свой час была надрукавана нататка пра тое, што пры Літ. Маст. Ін-це імя В. Брусава арганізаваны кабінет паэтыкі. Старшынёй кабінета — В. Я. Брусаў, навуковым сакратаром — я. Гэта нататка была перадрукавана ў культурнай хронікі часопіса «Полымя», мабыць, за 1923 год. Што сказаць пра яго, пра той кабінет? У сваёй ідэі кабінет павінен быў стаць асяродкам навукова-даследчае думкі. Студэнты зачытвалі свае даклады па пытаннях паэтыкі. Пасля адбываліся «спрэчкі», было абмеркаванне. Валеры Якаўлевіч даваў свае заключэнні. Але ўсё гэта было даўно, асабліва цікавых і актуальных праблем вырашыць або грунтоўна высветліць мы не паспелі. Ізноў паўтараю, к і пра баявыя паходы, напісаць цяпер можна было б шмат. Прыклады сучасных мемуарыстаў перад вачыма... Але я абмяжуюся толькі адным. Калі цікавая гутарка нават з выпадковым чалавекам дзе-небудзь у дарозе, каля ракі, або ў аўтобусе прыносіць нам вялікую карысць, дык зусім зразумела, не малая карысць і для мяне і для маіх таварышаў была ад тых нарад, спрэчак, спатканняў. А ў чым і як канкрэтна ўсё гэта адлюстравалася ў маім арганізме або творчасці — я дакладна сказаць не магу.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 11/03-1963 // Крыніца. 1997. № 8. С. 26.*

* * *

Помню ўрачысты вечар у Маскве, у Вялікім тэатры. Адзначалі юбілей Брусава[105]. Пасля бліскучага даклада Луначарскага з'явіліся дэлегацыі. Прыйшла і армянская дэлегацыя ўшанаваць юбіляра. Валерыю Якаўлевічу было прысвоена званне наоднага паэта Арменіі. Праспяваўшы паэту славу, армянскі ашуг паклаў да яго ног свой музычны інструмент — саз. Такая народная традыцыя ў паэтычных спаборніцтвах. Брусаў быў збянтэжаны, засаромеўся, схапіў інструмент і замітусіўся, не ведаючы, каму яго перадаць. Адбылася прыкрая паўза. У сваім

чорным сурдуце, тым самым, што на партрэце Урубеля, у святле электрычных агнёў ён здаваўся нейкім вельмі самотным. Брусаў не любіў пышнасці, параднасці і, наколькі я помню, заўсёды трымаў сабе скромна. Віншавалі яго і беларусы — выступаў Уладзімір Дубоўка.

*Ю. Гаўрук. Энергія і культура. С. 18.*

* * *

23 сакавіка на агульным сходзе студэнтаў-беларусаў г. Масквы была заслухана інфармацыя т. Мароза і Дубоўкі аб Надзвычайным з'ездзе. <...> Потым была зачытана рэзалюцыя: «Шчыра вітаем пастанову радавай улады аб аб'яднанні тэрыторыі Беларусі[106] ў яе этнаграфічных і эканамічных межах».

*Савецкая Беларусь. 1924. 1 крас. С. 4.*

* * *

Дакладная запіска
аб працы беларускага сектара КУНМЗ[107]
У ЦБ КП(б)Б, у ЦВК БССР, НКА БССР

Праца на сектары пачалася з 5 кастрычніку і вядзецца ў клясах днём а 13 гадзін 40 хвілін і канчаецца а 18 гадзіне, згодна прыложанага размеркаваньня <...> Частка ведаў выкладаецца па-беларуску, другая па-расейску, але з бязспрэчнай умоваю з 1 студзеня перайсьці на беларускую. Па-беларуску выкладаюць вось якія настаўнікі:

Дубоўка — беларускую мову і літаратуру
Парэчын[108] — савецкае будаўніцтва
Лойка — матэматыка
Пінчук — прырода
Ляжневіч — працуе ў драмгуртку
Равенскі — спевы
Турук — гісторыя культуры.

*НАРБ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 54. Л. 9.*

* * *

Добра азнаёміўся я тады з творчасцю выдатнейшых украінскіх паэтаў: П. Тычына[109], М. Рыльскі[110], Ул. Сасюра[111], М. Йогансен[112]. Многія творы ведаў на памяць. Яны зрабілі на мяне вельмі, вельмі моцнае ўражанне. Асабіста пазнаёміўся я з імі ў сакавіку месяцы 1924 г. у Харкаве, куды ездзіў на Шаўчэнкаўскае свята.

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс. Машынапіс 1963 года.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 9. Л. 13.*

* * *

У 1924–1925[113] гг. Уладзімір Дубоўка выкладаў у Маскве, у Камуністычным універсітэце народаў Захаду, на Беларускім сектары, беларускую літаратуру, а я выкладаў там жа эканамічную геаграфію. Аднойчы трапіў я на лекцыю Дубоўкі пра Максіма Багдановіча. Гэта была лекцыя-імправізацыя. Уладзімір гаварыў без усякіх папер, без усякіх дапаможнікаў і падручнікаў. Урыўкі з твораў Багдановіча дэкламаваў па памяці.

Гэта лекцыя нагадвала прамову Дубоўкі на ліхаборскай маёўцы ў 1921 годзе. Але больш увагі ў ёй надавалася аналізу мастацкай вартасці твораў Багдановіча, іх вытокаў, параўнанням, арыгінальнасці, сацыяльнай накіраванасці, ідэёвасці, новым шляхам, новым формам, філасофскаму асэнсаванню, неўміручасці беларускага слова.

Дубоўка гаварыў з выключнай перакананасцю, захапленнем, замілаваннем да Максіма Багдановіча, глыбокай павагай да надзвычайнай мужнасці паэта, да яго адданасці беларускаму працоўнаму народу і Беларусі. Студэнты слухалі Уладзіміра Дубоўку з найвялікшай увагай.

Творы Дубоўкі дваццатых гадоў рабілі моцны ўплыў на тагачасную моладзь і на мяне дзвюма асаблівасцямі: палымяным патрыятызмам, савецкім і беларускім гневам і абурэннем за здзек над Заходняй Беларуссю з боку польскай буржуазна-шавіністычнай улады.

*Г. Гарэцкі. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкай //*
*ЛіМ. 1997. 11 крас. С. 13.*

* * *

Самай бальшой беларускай адзінкай у Маскве, палітычна і нацыянальна больш падрыхтаванай, з'яўляецца беларускі сектар пры Камуністычным універсітэце народаў Захаду. Як летась, так і сёлета сектар сваімі студэнтамі абслугоўваў амаль не ўсе беларускія гурткі. Кіраўнікі гурткоў з'явіліся фактычна не толькі кіраўнікамі па мове і беларусазнаўству, але і ідэйнымі кіраўнікамі культурна-нацыянальнай працы, праводзячы правідловую нацыянальную палітыку сярод студэнцтва.

*Я. Чарніцкі*[114]*. Культурна-нацыянальная праца беларускага студэнцтва ў Маскве // Савецкая Беларусь. 1926. № 119. 28 мая. С. 4.*

* * *

Были у нас в студии[115] дисциплины, нужные нам как воздух, и вели их знатоки своего дела. Белорусский язык преподавал наш талантливый поэт, широко образованный человек Владимир Дубовка.

*С. Станюта.*

*Цыт. паводле: Станюта А. Стэфания. С. 36.*

* * *

Я ўпяршыню сустрэўся з Дубоўкам у Наркамасьветы РСФСР, дзе ён у той час працаваў. Пасьля дзесяцімінутнай размовы я ўжо назаўсёды запамятаваў капу русых валасоў, мяккую, некую асабліва пераконлівую мову, хітрую, страшэнна хітросную, усьмешку і блакітныя вочы.

Побач заядла трашчалі «ундэрвуды». У накураным, лілёвым, што нагадвала копіравальную паперу, паветры снавалі маўклівыя людзі. Іх жакеткі і талстоўкі разьвяваліся, як плашчы. Пер'я рваліся з рук, як рапіры. То была звыклая фантасмагорыя канцэлярыі, таямнічай краіны чарніла і «цыркулярных прадпісаньняў».

Дубоўка адчуваў сябе вельмі добра і тут. Ен размаўляў са мною, курыў, даваў нейкую доведку, нешта запісваў і хітра ўсьміхаўся.

Гэсты былі ў яго лёгкія, дакладныя і мэтазгодныя. Сядзеў ён на крэсьле незвычайна моцна. Попел з папяросы скідаў аднэю кароткаю катэгарычнаю пстрычкаю вялікага пальца. І за ўсім гэтым угадвалася настойлівасьць, упартасьць і гібкая сіла. <...>Тагды-ж у канцэлярыі я заўважыў, што Дубоўку любяць рэчы. Аловак укладваўся ў яго пальцах выгодна і моцна. Тэлефонная трубка прырастала да яго далоні. Прэс-папе не замінала класьці локці, і распалагацца на стале....

Трашчалі «ундэрвуды». Шалясьцела папера.

Дубоўка цьвёрда сядзеў, многа ўсьміхаўся і смачна курыў.

Руку Дубоўка паціскае моцна і доўга. <...>

Дубоўка разумее жыцьцё, як змаганьне. І ён умее змагацца. Часамі, збоку, ён можа паказацца чуць-чуць забіякам, задзіраю. Часамі ён проста дурэе. Але гэта «хвароба, якая скора праходзіць».

*Ю. Бярозка. Дубоўка. Літаратурны партрэт // Узвышша. 1928. № 2. С. 129.*

* * *

Я не спадзяваўся, што Вас цікавіць маё кароткае паведамленне пра кругабег дваццатых-трыццатых гадоў. Самае галоўнае ў ім тое, што тады былі зусім іншыя літаратурныя «куміры», нічога агульнага няма з тымі, якіх цяпер Вам рэкамендуюць як «мэтраў» таго часу. Гэтыя «мэтры» хадзілі ў дужа сціплых вучнях. Іхнія прыхільнікі сённяшнія заднім чыслом надаюць ім «аўтарытэт» і нават (якое нахабства!) ставяць у «настаўнікі» тым літаратарам, якія і прозвішчаў іхніх не ведалі.

Зусім іншая рэч — Мікола Ціханаў. Яго вывучалі, яго дэкламавалі, у яго вучыліся (наследавалі яму). Я сам з тых гадоў на памяць ведаю ягоныя многія творы (напр. — «Балладу о синем пакете»). А ці чулі Вы пра такую паэтэсу, як Ада Владимирова[116]? Яна жывая покуль што, але, мабыць, дужа старая. Калі будзеце

мецъ часу, вазьміце ў Лен. бібл-цы які яе зборнік, напр. «Кувшин синевы». Якія там былі цікавыя вершы, як яны падабаліся моладзі. А яна ж саратніца М. Цвятаевай, А. Ахматавай. Я чытаў яе вершы ў 1922 годзе, а дасюль памятаю многія з іх:

*Озеро, и звезды, и запах дорог*
*в гудках поездов уходящих.*
*В безлюдии ночи лишь месяц да бог,*
*беседуя, бродят по чащам.*
*А вёрсты бегут, набегают, стучат,*
*Рассыпанный катится ветер...*

А вазьміце Васілія Александровского[117]. Гэта быў, мабыць, смаленскі беларус, пісаў па-руску. У далейшым (яшчэ ў 1958–1960 гг.) на стар.«Лит. газеты» пісалі, што ў яго вучыўся і дзешто пазычыў М. Светлов. Дык, даруйце, за якім хрэнам хтонебудзь з маладнякоўцаў стаў бы вучыцца ў М. С-ва, калі ён сам тады меў настаўнікаў? Ці не выгадней і латвей было б вучыцца ў першых крыніцаў??

А «геніяльны» Маякоўскі? Наш студэнт (таго часу) Ізраілевіч[118] хадзіў следам за Маякоўскім па Маскве (маю на ўвазе літар. вечары) і выступаў заўсёды пасля М-га з такімі заявамі.

– ...Перад вамі толькі што выступіў (імя рэч) з чытаннем «сваіх» твораў. Дазвольце заявіць, што прачытаныя ім вершы (называе іх) спісаны з рукапісных вершаў Веліміра Хлебнікава, якія пасля смерці апошняга забраў для «падрыхтоўкі да друку» Ул. М. Але ён не ведаў, што ў сям'і засталіся яшчэ копіі твораў. Вось я іх Вам і зачытаю...

Аднаго разу Ул. М. схапіў стул і кінуўся на сцэне біць Ізраілевіча. З аўдыторыі выскачылі абаронцы і таго і другога. Пачалася такая свалка, што прышлося паклікаць з вуліцы міліцыянера. А міліцыянер, малады хлопец, стаяў на сцэне і толькі рукі ўгору ўздымаў...

...Товарищи писатели! Вы, можно сказать, учителя жизни... А как Вы себя ведете? И что же мне с Вами делать? Отвести Вас в каталажку, посадить вместе с ворами, карманниками и т. д. и т. д.

Вы зразумейце, што гэта я пішу абсалютна для Вашага ведама. А цяпер уявіце, што пра ўсё гэта беларускія пісьменнікі ведалі. То ці не цікавей ім было пачытаць творы Вел. Хлебнікава?!

А яшчэ ж былі — Клюеў[119], П. Арэшын[120], М. Асееў. Ды мілы божа! Колькі было самых разнастайных цікавых, глыбокіх, змястоўных паэтаў, паэтэс, празаікаў — сапраўдных і выдатных майстроў мастацкага Слова.

Супроць іх названыя Вашым аўтарам былі як бурбалкі на шпаркай плыні, бурбалкі, якія так жа хутка знікаюць, як і з'яўляюцца... І такія бурбалкі цяпер абвяшчаюць нашымі... «настаўнікамі»... Але даволі! Я сапраўды ўзяўся за пяро, каб дапоўніць Вам крыху самую карціну, а не для таго, каб палемізаваць з Вашымі аўтарытэтнымі аўтарамі.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 18/03-1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 229–230.*

* * *

В учебную часть ВЛХИ им. В. Я. Брюсова
Студента III курса В. Н. Дубовки

Заявление

Прошу допустить меня к государственным экзаменам. Мною сданы следующие зачеты:

1. Исторический материализм — удовлетворительно.
2. История античной литературы — весьма удовлетворительно.
3. Введение в историю русской литературы — весьма удовлетворительно.
4. Русский язык в связи с наукой о языке — удовлетворительно.
5. История поэтики — удовлетворительно.
6. Основы стиховедения — удовлетворительно.

7. Логика и методология — удовлетворительно.

8. Немецкая литература — весьма удовлетворительно.

9. Французская литература — весьма удовлетворительно.

10. Психология — зачет.

11. Латинский (язык) — удовлетворительно. Английская литература — удовлетворительно (за все курсы).

13. Капитализм и пролетарская революция — зачет.

14. Физика — зачет.

15. Химия — зачет.

16. Биология — зачет.

17. История античной литературы — весьма удовлетворительно.

18. История немецкой литературы (II курс) — зачет.

19. История французской литературы — зачет.

20. Психология языка и творчества — зачет.

21. Поэтический синтаксис — зачет.

22. Семинар по Достоевскому — зачет.

23. Стихология — весьма удовлетворительно.

24. Классический стих — весьма удовлетворительно (А. Ефрон[121]).

25. Классика — зачет.

26. Семинар по Лермонтову — зачет.

27. Драматургия — зачет.

28. Семинар по французской литературе — зачет.

29. Класс клубной работы — зачет.

30. Семинар по немецкой литературе — подготовлен доклад.

5/7-24 г.

Допустить. 9/7-1924.

*РДАЛМ. Ф. 596. Воп. 1. Спр. 314. Л. 12.*

* * *

14/9-1924 года

Глубокоуважаемый Ефимий Фёдорович[122]!

Помня наши старые добрые отношения, обращаюсь к Вам с большой просьбой, которая заключается в следующем:

Среди белорусской учащейся молодежи в Москве имеется студент Литературно-Художественного института Владимир Дубовко, о котором Вы по вполне понятным причинам не упоминаете в вашем капитальном труде «Белоруссы» т. 3 в. 3, но который заслуживает быть помеченным в Ваших «материалах для словаря белорусских писателей последнего времени». Во время пребывания в Институте Дубовко проявил себя весьма способным и плодовитым, подающим большие надежды молодым белорусским поэтом.

Его любовь к языку и литературе вообще, в частности к изучению стихосложения, обратила внимание руководителей-профессоров и его уже признали ученым секретарем Кабинета поэтики Института. В настоящее время Дубовко работает в области теории словесности, но его тянет больше всего к изучению белорусского языка и литературы. Несомненно, ему нужна хорошая научная школа, и он, преклоняясь перед вашим громадным научным авторитетом, стремится поработать под Вашим опытным и весьма ценным руководством. Зная хорошо прекрасные качества души Дубовко, я не могу не просить Вас оказать всё возможное Ваше внимание и содействие его работе по углублению и совершенствованию знаний и методов в области родной Вам научной дисциплины. Я уверен, что Дубовко будет достойным учеником своего достойного учителя и принесет своими приобретенными знаниями большую пользу как самой науке, так и нашему многострадальному родному белорусскому народу. Еще раз прошу не отказать Дубовко в Вашем научном руководстве.

Искренне уважающий Вас Ф. Турук[123].

*Архіў АН СССР. Ф. 292. Воп. 2. Спр. 143. Л. 2 — 3 адв.*
*Копія: ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 815.*

* * *

Порядок
торжественного заседания[124]
Учебного совета ВЛХИ

29 марта 1925

На эстраде располагаются члены Правления (Полонский, Коган, Луначарский, Жебрун, Григорьев), Пиксанов, Сидоров, Гроссман, Переверзев, Сакулин, Рачинский, Шенгели, Локс, Айхенгольц, бюро ячеек РКП (б) и РЛКСМ и председатель исполбюро профсекций. Остальные — в первом ряду.

Приветствия.

Луначарский

Партийные организации — Отдел печати, ПК ячейки и Исполбюро ВЛХИ

Российская академия художественных наук

ГУС (научно-художественная секция)

Главпрофобр (методическая комиссия по художественному образованию)

Общество любителей российской словесности

МГУ и ОЛЯ

Белорусское представительство, Белорусский сектор Комм. У-та нац. мен. Запада

Всероссийский Союз писателей

Всероссийский Союз поэтов

МАПП

Перевал

Союз крестьянских писателей

Консерватория

ВХУТЕМАС

Единый государственный рабфак

Московская ассоциация драматургов

Ассоциация революционной кинематографии.

Личные приветствия писателей, письменные приветствия.

Ответное слово оканчивающих. Интернационал.

(На полях сверху приписка: «Ввиду ограниченности мест на эстраде может быть Вы составите другой список?».)

*РДАЛМ. Ф. 1328. Воп. 3. Спр. 241. Л. 25.*

* * *

Доверенность

Удостоверение (диплом) об окончании Высшего Литературно-Художественного Института доверяю получить Х. Я. Калиновскому[125].

28 июля 1925 г.

Минск У. Дубоўка

На обороте рукой Калиновского: «Свидетельство об окончании и зачетную книжку № 6 получил. По доверенности тов. Дубовки получил. 3/8-1925 г.».

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 37.*

# МАСКВА — МЕНСК.
## 1924–1930

*Амаль усе маскоўскія Дубоўкавы адрасы дваццатых існуюць і сёння. Прынамсі, любы беларус, які прыедзе ў Маскву, можа прайсці тымі ж вуліцамі, пераадолець тыя ж прыступкі, адчыніць тыя ж дзверы і паглядзець у тыя ж вокны, якія яшчэ памятаюць Уладзіміра Дубоўку.*

*Летуценны вандроўнік, які выйшаў раніцой з цягніка на Беларускім вакзале, без клопату і за лічаныя гадзіны здолее агледзець гістарычны цэнтр Масквы, не карыстаючыся грамадскім транспартам, калі пойдзе прывычным шляхам Уладзіміра Дубоўкі.*

*Ад Цвярской плошчы, на якую і выходзіць Беларускі вакзал, да Малой Грузінскай, 34, дзе атрымала кватэру сям'я беларускага бежанца, працаўніка Маскоўскай чыгункі Мікалая Дубоўкі — пятнаццаць хвілін пехатою. Малады і шпаркі Уладзік Дубоўка, вядома, дабягаў яшчэ хутчэй. Тут, на Малой Грузінскай, 34, у яго бывалі Кузьма Чорны, Юрка Гаўрук, Фелікс Купцэвіч, Нічыпар Чарнушэвіч, гэты адрас указаны ва ўсіх дакументах «Маладняка» і «Узвышша», сюды ў 1927 годзе паэт прывёў маладую жонку Марылю.*

*Дом стаіць і сёння: пристойны пяціпавярховік 1907 года нараджэння. Першы пад'езд, каменная лесвіца, стогадовая кафля на пляцоўках, чыгунныя сходні. Чацвёрты паверх, дзверы налева, вокны — на двор. Кватэра нумар 13.*

*Насупраць дома — чырвоная будыніна са стромкімі вежамі і карункавымі вокнамі: найвялікшы ў Расіі каталіцкі касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, неаготыка пачатку мінулага стагоддзя, равеснік дома, пабудаваны ў 1911-м. Абрысы касцёльных вежаў відаць здалёк, ажно з Грузінскага Вала і Чырвонай Прэсні, а значыцца, вандроўніку лёгка адшукаць і Дубоўкаў дом. Зусім побач з домам, сцяна да сцяны (як казаў Пушкін, «бывают*

*странные сближенья») — дом па Малай Грузінскай, 28, дзе жыў праз паўстагоддзя пасля Дубоўкі Уладзімір Высоцкі.*

*Па Малой Грузінскай, пакідаючы за спінай Грузінскі вал і Беларускі вакзал, прастуем пехатой да Чырвонай Прэсні — дзесяць хвілін па ціхай вуліцы. Там — налева і ўверх: мінаем будынкі станцый метрапалітэна «Чырванапрэсненская» і «Барыкадная», падымаемся да Старасканюшаннай і ля чырвонага «доміка-скарбонкі», дзе доўгі час жыў і працаваў Чэхаў, паварочваем на Малую Нікіцкую. У Дубоўкі гэты шлях займаў у самым горшым выпадку 20 хвілін.*

*Да Крамля, дзе Дубоўка працаваў да самага арышту ў 1930-м, адсюль — з паўгадзіны шпаркім крокам. На гэтай восі — Нікіцкая — Крэмль — закручана было ўсё ягонае маладое жыццё: Прадстаўніцтва, Наркамасветы, інстытут Брусава, Універсітэт народаў Захаду. Нарэшце — Крэмль, будынак Савецкага ўрада.*

*З 1924 года ў гэтае маскоўскае кола — Грузіны, Нікіцкая, Крэмль, Грузіны — уключаецца Менск.*

*Да 1926-га — пры першай магчымасці ці па выкліку, а з 1926-га — ледзь не кожны чацвер (бо нарадзілася «Узвышша» і ездзіць спачатку хацелася часта) Дубоўка кіруе з Малой Грузінскай на Беларускі вакзал і садзіцца на менскі цягнік. Вязьма, Смаленск, Смалявічы, Калодзішчы, Менск.*

*Інбелкульт, «Маладняк» — гэта Рэвалюцыйная, сёння — пятнаццаты дом, сэрца маладой беларускай культуры. Вуліца Савецкая: рэдакцыя «Беларускага піянера», ЦК, КіМ, клуб імя Карла Маркса, у якім ладзяцца паэтычныя вечарыны. Гасцініца «Бельгія», якая прымае з'езд «Маладняка», — ды якая там гасцініца, двухпавярховы драўляны катушок, а на вуліцы свіран і склеп, а за імі прыбіральня. Крамкі «Мяса» і «Булкі» ў падсляпаватых падвальных акенцах. Свіслач, на якой бабы па-вясковаму паласкаюць бялізну. А вось і легендарная Гарбарная, 18, якая даўно сышла з менскай мапы і засталася толькі ў гісторыі беларускай літаратуры. Тут жыў з сям'ёй Адам Бабарэка, крытык, пісьменнік, выкладчык БДУ, найлепшы сябра. У 1926 годзе амаль кожную пятніцу на Гарбарнай, 18 засцілалі белым абрусам круглы стол і налівалі гарбату (і, думаецца, не толькі) дарагім гасцям —*

*узвышаўскай рэдакцыі. Бабарэка, Дубоўка, Чорны, Крапіва, Лужанін, Глебка, Шашалевіч — гэты дом варты быў стаціца музеем, але стаў міфам. Захаваўся толькі знакаміты белы абрус — і падшыўкі «Узвышша».*

*«Менск! Станеш і ты сапраўдным горадам!» — пасля Масквы Менск здаваўся маленькім і нейкім нават дзіцячым. Ягоныя прасторы высачэзны, моцны, шпаркі Дубоўка абыходзіў упэўненым крокам за лічаныя гадзіны. І зноў — цягнік, Калодзішчы, Смалявічы, Смаленск, Вязьма, Масква, Беларускі вакзал, Малая Грузінская, Крэмль. Шчаслівы кругабег усёмагутнай маладосці.*

* * *

Уладзімір Дубоўка запрасіў мяне да сваіх бацькоў на Малую Грузінскую, 34. Уладзімір быў вельмі падобны да сваіх бацькоў, асабліва да маці — і выглядам, і голасам, і моваю, і добразычлівасцю, спагадай. Адчувалася роднасць Уладзіміра і да бацькі — рахманасцю, разважлівасцю, рухамі, сціпласцю, пранікнёным поглядам вачэй, удумлівасцю. Ад бацькі перадалася Уладзіміру схільнасць да лінгвістыкі. Калі маці Дубоўкі нават у Маскве гаварыла толькі па-беларуску і была непісьменнай, дык бацька Уладзіміра валодаў рускай, польскай, літоўскай, яўрэйскай і нямецкай мовамі.

Маці Дубоўкі перадала яму не толькі лексіку беларускай мовы, але і яе мілагучнасць, усе тонкасці вымаўлення, музычнасці, вобразнасці, фальклорнага багацця.

У сям'і Дубоўкаў панавала жывая, чыстая беларуская мова, у атмасферы якой арганічна ўзрастаў талент Уладзіміра як нацыянальнага паэта.

*Г. Гарэцкі. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкай // ЛіМ. 1997. 11 крас. С. 13.*

* * *

Пасля заканчэння Брусаўскага ін-ту я паехаў у Ленінград і дамовіўся там з акадэмікам Карскім і прафесарам

Жырмунскім[126], што буду працаваць у іх, рыхтавацца да навуковай дзейнасці — у першага па беларускай філалогіі, у другога — па паэтыцы. Беларускі урад дэкляраваў мне стыпендыю. Калі я вярнуўся ў Маскву, каб забраць рэчы і ехаць у Ленінград — знайшоў дома позву з [*нрзб*] ЦК ВКП(б), якой мяне выклікаў да сябе Яўгенаў[127], наш загадчык (як камсамольца і скончыўшага ВНУ).

У ЦК мне сказалі, што я павінен ехаць у Мінск і арганізаваць там выданне піянерскай часопісі. Калі я адказаў, што у Ленінградзе дамовіўся наконт навуковай працы, Яўгенаў растлумачыў мне: «Ты малады. Паспееш. Едзь у Мінск, арганізуй часопіс, падрыхтуй сабе замену і можаш ехаць у Ленінград».

У Мінску мяне адразу нагрузілі: 1) назначылі рэдактарам часопіса НКА «Асвета»[128], 2) рэдактарам часопісу «Маладняк» і 3) рэдактарам новага часопісу «Бел. піянер»[129].

Між іншым — вы пішаце пра газету «Піянер». Ніякай піянерскай газеты не было. Яна з’явілася пазней. А ад таго часопісу, які заснаваў я, утварылася пазней сучасная «Бярозка» і яна лік сваіх гадоў (у «Бярозцы») вядзе менавіта ад «Бел. піянера».

У Мінску па часопісу «Асвета» мне дапамагаў Некрашэвіч[130] (забыўся імя — ці не Мікола), які пасля і застаўся рэдактарам, па «Маладняку» мне дапамагаў Язэп Пушча, а па Бел. піянеру — я запрасіў студэнта Белпедтэхнікума А. Якімовіча[131], якога і падрыхтаваў на рэдактара (за маім подпісам выйшлі два — а можа і тры — нумары).

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 14/04-1970.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

У 1923 годзе нейкі Беларусаў[132], які хварэў на пісьменьніка, рабіў спробы стварыць пісьменьніцкую арганізацыю. З гэтых спроб нічога не выходзіла, бо ў яго не было пэўнага крытэрыя ў падборы сяброў і пасьля аднаго з такіх сходаў мы з Александровічам парашылі плюнуць на іх і ўзяцца за заснаваньне

арганізацыі маладых пісьменьнікаў, якія к таму часу больш саветызаваліся. Мы пагаварылі аб гэтым з Вольным і вынікам гэтага зьявілася заснаваньне групы, а пасля — і аб'яднаньня «Маладняк»[133]. <...> «Маладняк» заснаваўся спачатку ў такім складзе: Чарот, Бядуля[134], Вольны, Александровіч, Пушча, Бабарэка[135] і я. Блізкі ўдзел трымаў таксама і Маразоўскі[136]. Асноўным прынцыпам арганізацыі было аб'яднаньне літаратурнай моладзі і вострая апазыцыя да ўсіх старых пісьменьнікаў, якіх мы лічылі чужымі для партыі і ўлады ў той час, як сябе разглядалі як авангард новай пралетарскай літаратуры. У гэтых адносінах у нас лічыліся найбольш «правымі» Пушча і Бабарэка. І сапраўды, ў гэты час «Маладняк» яшчэ цалкам быў свабодны ад нацыяналістычных настрояў і ў творчасьці маладнякоўцаў і іх настроях нацыяналістычная ідэалёгія ніяк не праяўлялася. Ды і самая арганізацыя на ладан дыхала. Бядулю мы выключылі ў выніку некай асабістай сваркі[137], Чарот выехаў[138], Маразоўскі яшчэ раней. Заснавалася, праўда, маскоўская філія на чале з Дубоўкам, але і яна не праяўляла ніякіх адзнак жыцьця.

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 43.*

* * *

Ні я, ні К. Крапіва не былі арганізатарамі «Маладняка». Абодвух нас і ў Мінску ў той час не было, калі ён арганізоўваўся. У першым я афіцыйна прыехаў у Мінск у 1924 годзе. У далейшым — я быў членам «Маладняка», членам Цэнтральнага бюро і нават (не памятаю дакладна) ці не з паўгода адказным сакратаром часопіса «Маладняк». У кожным разе, пад маёй рэдакцыяй выйшла 2 ці тры нумары. У той жа час я быў адказным сакратаром ЦБ «Маладняка», а Язэп Пушча быў пры мне літсакратаром.

*У. Дубоўка. З ліста да У. Конана[139] ад 07/11-1964 //*
*Полымя. 2014. № 10. С. 168.*

* * *

У часе станаўлення беларускай савецкай літаратуры быў падзел на старэйшых паводле ўзросту і малодшых пісьменнікаў. Старэйшымі, напрыклад, былі Ц. Гартны, М. Грамыка[140], Нёманскі[141] і г. д., а малодшымі былі К. Крапіва[142], К. Чорны, Я. Пушча і г. д. Адмаўленне мастацкасці codeершаваных твораў Ц. Гартнага, да прыкладу, якое рабілася малодшымі пісьменнікамі таго часу, далёка не тойсамае з адмаўленнем старой спадчыны наогул, бо тыя «старэйшыя» былі самі ўсяго гадоў на пяць-дзесяць старэйшыя за «маладзейшых».

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 16/03-1968 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 196.*

* * *

У 1924 годзе я ўпершыню прыехаў у Мінск і пазнаёміўся асабіста з большасцю беларускіх пісьменнікаў таго часу.

*У. Дубоўка. Сярод людзей добрых // Полымя. 1963. № 1. С. 120.*

* * *

У сакавіку (березні) месяцы 1924 году я ўпершыню прыехаў у Харкаў (на Шаўчэнкаўскае свята), дзе асабіста пазнаёміўся бадай з усімі ўкраінскімі пісьменнікамі і паэтамі.

*У. Дубоўка. Успаміны пра Уладзіміра Сасюру. ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 337.*

* * *

Двадцатые годы. Переполненный студенческий клуб в Минске. Дубовка читает поэму «Студент». Видим и слышим его впервые. Поэт живет и работает в Москве. Слушатели заворожены. Подкупает какая-то особая задушевность в интонации,

легкое грассирование[143] весьма «идет» ко всему его облику — молодой, красивый, улыбчивый.

*М. Лужанин. Поздравляем юбиляра // Литературная Россия. 4/7-1975.*

* * *

Філія, а таксама і мясцовыя беларусы з нецярплівасцю чакаюць прыезду Дубоўкі і Вольнага. Добра было б, каб паведамілі аб дні прыезду.

*М. Аляхновіч. Ліст у ЦБ «Маладняка». Цыт. паводле: Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. С. 4.*

* * *

Свой зборнік «Трэскі на хвалях» ён [Цішка Гартны] падарыў мне з такім надпісам: «Уладзіку Дубоўку — маладому песняру — здольнаму і шчыраму беларусу-таварышу ад Ц. Г. Менск, 13/X-1924».

*У. Дубоўка. Успамін пра Цішку Гартнага. З ліста да Г. Жылуновіч ад 06/01-1976. БДАМЛМ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 91.*

* * *

Язэп Дыла[144], цяпер нябожчык, ведаючы, што я еду з некаторымі маладзейшымі ў Крым, даручыў мне адшукаць магілку М. Багдановіча[145], што я і зрабіў. Трэба адзначыць, што каб я (або хто іншы) спазніўся на дзень-два, то гэту магілку знайсці было б немагчыма: хлапчукі паламалі крыж, а на таблічцы коўзаліся са скалы. Я тады ўзяў фатографа, склаў нанова крыж, сфатаграфаваў і дадаткова, сустрэўшыся з вашым татам, звазіў яго на магілкі, паказаў месца.

*У. Дубоўка. Успамін пра Цішку Гартнага. З ліста да Г. Жылуновіч ад 06/01-1976. БДАМЛМ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 91.*

* * *

У 1924 годзе, праз колькі часу па сьмерці, адшукалі Багдановічаву магілку. Утраіх (Дубоўка, Александровіч, Ажгірэй. — *Прым. рэд. Узвышша*) шукалі бадай трыднёўку. Я. Л. Дыла, перад нашым ад'ездам у Ялту, даў нам некаторыя зьвесткі, запісаныя ім ад Багдановічавага бацькі[146]. А галоўнае, што ля М. Багдановіча пахаваны нейкі «Карлсон».

Агледзелі двое могільнікаў у межах Ялты. Заходзілі ў цэрквы, каб адшукаць запісы ў царкоўных кнігах — няма. Урэшце, у аўторак, 18 жніўня, надумаліся пайсьці на «новы» могільнік, што за горадам.

Дзівосны, чароўны краявід... Верхавіны гор схаваны, завэлюмаваны хмарамі... Кіпарысы, вінаграднікі, ручайкі з гор... Гэта ў бок могільніку.

Палка бурнае мора, ветразі чаўноў, дымкі параходаў, віддалі неабдымныя, неахватныя, неасяжныя — па другі бок, у бок Ялты, з яе мінарэтамі, як кіпарысы, і кіпарысамі, як мінарэты...

Прыходзім на могілкі. Маладзенькія кіпарысы, яблыні, крымская рабіна і — каменьне, каменьне... Такое сырадзёнае, такое хіжае... Ах, якое-ж яно хіжае, якое-ж яно цяжкое...

Шукаем магілку. Абыходзім, падзяліўшыся, кожны камень, кожны крыж — няма гэтай жалобнай таблічкі... Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканьню.

Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынесьлі нам таблічку з жалобным напісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары па адхону... Ці варта вінаваціць іх? — Гэта было адзінай забавай ім. Не пакрыўдзіўся-б на іх і нябожчык, які меў такое вялікае замілаваньне да маладога жыцьця...

Знаходзім магілку, пра якую казаў Я. Л. Дыла. Але навокал яе — таксама магілкі з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага.

У правільнасьці не магло быць ніякага сумніву...

У тым-жа часе далі тэлеграму ў Менск, каб прыслалі адтуль грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка

Гартны паводле свайго праекту, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілку, каб пасьля не прыйшлося шукаць нанова.

Таблічка ад магілкі з жалобным напісам і нэгатывы фатаграфій перададзены намі Інстытуту Беларускай Культуры[147] пасьля прыезду. А яшчэ перад ад'ездам адбылося вось што. Прыехаў са сваёй жонкаю ў Ялту народны паэта наш Янка Купала. Зажадаў, каб мы правялі яго да Багдановічавай магілкі. Пайшлі пехатой. І вось на дарозе захапіла нас навальніца і залева. Чытачу, ты не ўяўляеш сабе, што гэта за навальніца! Праз поўгадзіны часу ўся даліна пераўтварылася ў раку, па якой з грукатам і енкам кацілася вялікае каменьне, у бруднай пене праносіліся кусты і паленьне — няма ведама што... Хацелі дзе перачакаць — няма дзе, у чыстым полі. Вырашылі — рушыць наперад. Урэшце, усё прайшло, па вохкай, акрынічанай крымскай залевай траве, падышлі мы да магілкі...

Сумуе сёньня Беларусь, памінаючы лепшага сына свайго. Сумавалі тады мы ўсе, маўкліва пілі чару вялікага смутку... Янка Купала не сказаў нічога тады. Мо' ён скажа, наш вялікі паэта, калі-небудзь пра гэныя думкі, якія зьявіліся ў яго ў той час?

*У. Дубоўка. На Багдановічавай магіле // Узвышша. 1927. № 2.*

* * *

Аднойчы ляжалі мы з Іванам Дамінікавічам на беразе мора (1924 год). Ён памаўчаў, як звычайна. Пасля кажа: «Вось, браце, хвалі на моры. Няма ім ліку, няма ім спакою. Так і наша думка. Загадаеш сам сабе: ні аб чым не думаць, хоць колькі хвілінак. Не!»

*У. Дубоўка. Бачу, як красуе наша Айчына (з успамінаў пра Янку Купалу). БДАМЛМ. Ф. 12. Воп. 1. Спр. 413.*

* * *

У Мінску ў дваццатыя-трыццатыя гады былі ў пісьменнікаў тры малодшыя браты (калі не лічыць братоў Шашалевічаў[148] — Васіля і Андрэя (А. Мрыя). — Гэта — мой брат малодшы Язэп Дубоўка, пісаўся «Язэп Вазёрны». Яго выцягнулі з Горак, дзе ён вучыўся ў С.-Г. Акад., і меліся замяніць ім мяне. Твораў ягоных я не чытаў. Чуў толькі, што адзін верш яго пачынаўся «Я не пішу дэпешы без адрасу» — гэта ў процівагу маёй неапублікаванай кнізе[149] такой жа назвы. У 1971 годзе яго пасмертна рэабілітавалі, рэабілітацыю прыслалі маёй сястры. Але я нічога не ведаю пра яго.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 14/05-1972 //*
*Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 212, 213.*

* * *

Аб Рэдакцыйнай калегіі часопісі «Маладняк». Прымаючы пад увагу тое, што часопісь павінна абслугоўваць у політ. выхаваўчых адносінах камсамол Беларусі і сяброў «Маладняка» ў творча-мастацкіх, лічыць пажаданым утварэнне рэдакцыйнай калегіі ў наступным складзе:

Дубоўка
Бабарэка (Маладняк)
Гаруновіч (ЦК ЛКСМБ)
Цэйтлін (Політасветы)
Валынскі (ЦККПБ)

*З пратакола № 3 ЦБ «Маладняка» ад 27/04-1925.*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 3. Л. 5.*

* * *

Возьмем яшчэ адзін «перл» В. Бечыка[150]. «Уплывала на “маладнякоўцаў” творчасць рускіх паэтаў А. Жарава[151], І. Уткіна[152], Э. Багрыцкага[153], М. Святлова»... Дарагі Іван Уладзіміравіч! Вазьміце звычайную храналогію: маладнякоўцы павыдавалі

былі па адной, некаторыя па дзве кніжкі вершаў, калі пералічаныя В. Бечыкам «настаўнікі» толькі браліся за пяро.

1) І. Уткін выдаў «Рыжага Мотэлэ» ў 1925 г.; 2) Багрыцкі толькі ў 1925 г. прыехаў з Адэсы ў Маскву і толькі ў 1926 г. даў «Думу пра Апанаса»; 3) Святлоў у 1923 г. выдаў свой першы зборнік «Рельсы»... Як жа маглі вучыцца ў гэтых паэтаў беларускія маладыя паэты яшчэ... у 1921, 22 ці нават і 1925 г.?

Я, напрыклад, у іх ніколі не вучыўся, бо меў у Брусаўскім інстытуце больш аўтарытэтных настаўнікаў. Глебка Вам сказаў, у каго ён вучыўся. Я магу дадаць: усе маладнякоўцы вучыліся ў рускіх паэтаў, але іншых: у В. Брусава, С. Ясеніна, Міколы Ціханава[154], Міколы Асеева, В. Каменскага. Апрача таго, вучыліся яны (і наследавалі некаторыя) у Паўла Тычыны, Ул. Сасюры, М. Рыльскага...

Добра знаёмы яны былі і з заходняй класікай...

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 24/02-1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 224.*

* * *

Як і паведамілі тэлеграмай, сёння, 11 красавіка, адбыўся арганізацыйны сход філіі «Маладняка». Павестка да гэтага далучаецца.

Па § другому адбылося папярэдняе зацверджанне сяброў (анкеты вышлем дадаткова).

У сябры[155]:
М. Брыт
Дубоўка Ўл.
Каповіч М.
Кахановіч Ар.
Міцкевіч Мікола
Паўлоўскі Янка
Найорка Алесь
Ляжневіч А.
Лыскавец-Чарнецкі Янка
Радзевіч Леопольд

У кандыдаты — тав. Дуброўскі (матывы мова)

У часовае кіраўніцтва выбраны тры таварышы Дубоўка, Родзевіч, Ляжневіч.

*Пратакол паседжання Маскоўскай філіі «Маладняка».*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 1. Л. 12.*

* * *

Я ведаю добра толькі адно, што сапраўды некаторыя рэцэнзіі там (у «Маладняку». — *Г. С.*) пісалі калектыўна[156]. Як? Бралі нечыю аснову, а пасля і пачыналі ляпіць па слову-два — і К. Чорны, і К. Крапіва, і Бабарэка, і маладзейшыя.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 02/02-1975 //*
*Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 235.*

* * *

На паседжаннях «Маладняка» часцей за ўсё выступалі такія «генералы» таго часу, як Андрэй Александровіч, Анатоль Ажгірэй (Вольны), Іларыён Барашка. Уся гэта моладзь была кепска падрыхтавана да абавязкаў літаратурных крытыкаў, да таго ж станоўчыя ці адмоўныя ацэнкі часам даваліся ў залежнасці ад асабістых адносін. Значна больш цікава праходзілі паседжанні, у якіх удзельнічаў Дубоўка, які на той час жыў у Маскве.

*М. Улашчык. Даць народу гісторыю. С. 283.*

* * *

Я памятаю яго вершы і імя з далёкага маленства, калі яшчэ не ведаў ні Маякоўскага, ні Ясеніна. У 1924 годзе выйшаў першы нумар часопіса «Беларускі піянер». Яго рэдактарам быў Уладзімір Дубоўка. Адразу запомніўся ягоны верш «Бліскавіцы над лясамі», які на некаторы час стаў піянерскай песняй.

На вокладцы першага дзіцячага часопіса была намалявана карта нашай рэспублікі, перакрэсленая пакручастай мяжою. За ёю апынуліся Маладзечна, Гродна, Брэст, Вілейка, Навагрудак

і Слонім. На фоне карты піянер аддаваў салют. Рука хлопчыка паднялася якраз над «заходнімі» гарадамі.

Праз многа гадоў я нагадаў Уладзіміру Мікалаевічу пра першы нумар «Беларускага піянера». Ён усміхнуўся і сказаў:

— А ведаеце, той малюнак на вокладцы ледзь не выклікаў дыпламатычную ноту ўрада былой панскай Польшчы. І ўсё ж пан консул звярнуўся з афіцыйным пратэстам да старшыні ЦВК А. Г. Чарвякова, абвінаваціўшы хлапчука на вокладцы часопіса ў агрэсіўных намерах. Выклікалі і мяне, але ўдалося ўсё звесці на жарт. Хоць малюнак быў і прымітыўны, але ў некаторай ступені прарочы.

*С. Грахоўскі. Паэт — заўсёды паэт. С. 100.*

* * *

Дарэчы, адбылося «міжнароднае» непаразуменне з першым нумарам гэтага часопіса. На вокладцы быў дадзены хлопчык-піянер, на фоне беларускай этнаграфічнай карты, падвернены тварам на захад, з рукой, паднятай для салюту. Трэба адзначыць, што з мастацкага пункту погляду аформлена яна была кепска (мастак Гуткоўскі[157]).

Спаткаўшыся са мною на Ленінскай вуліцы, тагачасны старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта беларусі А. Г. Чарвякоў павітаўся са мной і кажа: «Зайдзі да мяне, Уладзік». Я пайшоў разам з ім. Прыйшлі ў ЦВК, пасля ў кабінет.

Вось ён і пачаў гутарку наконт часопіса.

— А добры часопіс выйшаў, — сказаў ён, узяўшы са стала гэты першы нумар.

Мне, зразумела, прыемна было пачуць гэта. Але, па праўдзе, я усё ж добра ведаў пра ўсе слабыя мясціны ў ім, таму і дадаў асцярожна:

— Да добрага трэба яшчэ папрацаваць багата.

— Не, — кажа А. Г. Чарвякоў, — выдадзены ён даволі добра. Толькі трэба вокладку даць новую.

— Чаму? — пытаюся я.

— Справа ў тым, што польскі ўрад апратэставаў гэту вокладку ў НКЗСпраў, таварышу Літвінаву[158]...

— ??!

Заўважыўшы вялікае здзіўленне на маім абліччы, т. А. Г. Чарвякоў весела засмяяўся, а пасля растлумачыў мне:

— Куды павярнуўся на вокладцы піянер? На Захад! А што там далей на вокладцы намалявана? Тэрыторыя Заходняй Беларусі. А дзе яна? У складзе панскай Польшчы.

— Ну дык што?

— А тое, што ў парушэнне Рыжскага мірнага дагавору[159] з імі «Беларускі піянер» хоча адарваць ад Польшчы Заходнюю Беларусь... Зразумеў? Давай цяпер новы малюнак, толькі без агрэсіўных намераў[160].

*У. Дубоўка. З успамінаў пра сустрэчу*
*з А. Г. Чарвяковым у Маскве і пра выданне першага нумара*
*часопіса «Беларускі піянер». Чарнавік рукапісу.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 348.*

* * *

Усіх іх я вельмі люблю і цаню, і калі ёсць у каго з іх пэўныя недахопы ў сэнсе даравання, апраўдваецца гэта іх маладосцю. Рэзка вылучаюцца з гэтай плеяды маладых у станоўчы бок М. Чарот і У. Дубоўка.

*Я. Купала. Збор твораў: у 6 т. Т. 6. 1963. С. 457.*

* * *

Вялікую ўвагу зварочваў Янка Купала на літаратурнае ўзгадаванне моладзі. Многа перабывала ў яго маладых паэтаў, ён іх прымаў і даваў парады. Асабліва быў ён высокае думкі аб маладым паэту Дубоўку. Ён часта казаў: «Я толькі Дзяржавін, а наш Пушкін — гэта Дубоўка». Аднойчы Дубоўка напісаў вялікую паэму пра выдатнага музыканта з ягонаю скрыпкаю[161]. Чорт пачуў прыгожую музыку і даў музыканту шмат грошай, каб ён іграў яму, чорту. Ігра для чорта нешта не ўдавалася, тады чорт пачаў тузацца з музыкантам і адбіраць скрыпку, у гэты час са скрыпкі вывалілася душа, а без душы скрыпка ўжо не стала

грацъ. За гэтую паэму Дубоўку добра ўляцела ад уладаў. У гэтай жа паэме быў такі выраз: «а глухі лічыць даляры». Пад глухім разумеўся вучоны-лінгвіст Мікола Байкоў[162]. Яго вельмі травілі за тое, што ён выказаўся супроць Маркса.

Калі Янка Купала прачытаў, што і Дубоўка, які быў заўсёды карэктны, нападае на Байкова, дык увесь дзень бегаў па будынку Акадэміі і гаварыў у адрас Дубоўкі: «Да чаго дайшло! І гэты малакасос супроць Міколы! Ё за што? За гэтую кудлатую бараду!»

*Я. Кіпель. Эпізоды. С. 87.*

* * *

Калі мне даводзілася бываць у Мінску, Іван Дамінікавіч і яго жонка Уладзіслава Францаўна[163] нярэдка запрашалі мяне да сябе. Даўшы кароткія, як звычайна, і трапныя заўвагі на мае новыя друкаваныя творы, Іван Дамінікавіч заўсёды даручаў мне пачытаць уголас яго новыя ненадрукаваныя творы. У часе гэтага чытання ён рабіў нататкі на паперы. «Гэта — казаў ён — я правяраю, бо сам сабой часам прапусціш якую «нязграбніцу».

Уладзіслава Францаўна жартавала пры гэтым: «Слухайце, Уладзік, чаму вы яго не пакрытыкуеце, каб яму пасля не спалося ноч усю?»

*У. Дубоўка. Бачу, як красуе наша Айчына (з успамінаў пра Янку Купалу).*
*БДАМЛМ. Ф. 12. Воп. 1. Спр. 413.*

* * *

Минск Молодеченская 18 Александровичу
Минск Москвы 69–1038 7/3 20:33
Харьков выезжаю случае печатания рассказа выбросьте упоминание глазах примут личный счет привет молодняковцам Владик

*Тэлеграма У. Дубоўкі ў ЦБ «Маладняка» ад 07/3-1925.*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 1. Л. 9.*

* * *

Старшыні Савету Народных камісараў БССР
Тав. Адамовічу[164]
Мастацкай сэкцыі «Маладняка» у Маскве

Дакладная запіска

Яшчэ два гады таму назад група студэнтаў беларусаў, якія вучацца ў мастацкіх вышэйшых школах, зьвярталася праз Паўнамоцнае прадстаўніцтва да Ураду Беларусі с просьбай аб вылучэньні сродкаў на арганізацыю мастацкай экспедыцыі. Цяжкае становішча нашай рэспублікі ў той час не дазволіла ажыцьцявіць гэту думку.

З'організоваўшыся цяпер у мастацкую сэкцыю Маладняка, які ставіць перад сабой задачаю выяўленьне беларускага стылю ў паэзіі і мастацтве наогул — як бытавы адбітак — мы ізноў узьнімаем гэту думку, якую падтрымлівае ЦБ Студэнцкіх беларускіх зямляцтваў у Маскве.

Праца, якую мы павінны правесці, месьціцца ў наступным:

Зрабіць зарысоўкі беларускага орнаменту, тканін, кэрамічных вырабаў і разьбы на дрэве;

Зрабіць зарысоўкі беларускіх тыпоў, ляндшафтоў у фарбах і вуглём;

Фатаграфаваньне тыповых будоў, тыпаў, груп, саматужнапрамысловых вырабаў гэтак далей.

Адначасна праца па запісваньню выдатнейшых народных мэлёдый і інш.

Праца экспедыцыі будзе рэалізована увосень наступным чынам:

Удзел у агульна-беларускай выстаўцы.

Арганізацыя адмысловай выстаўкі,

Скарыстаньне матар'ялаў шляхам выданьня навуковай працы, якая падвядзе гістарычны фундамент па развіцьці беларускага мастацтва і дасць шмат для практычнае працы мастацкай секцыі Маладняка ў далейшым.

Прымаючы на увагу, што ў экспедыцыі будзе прымаць удзел 7 асоб на працягу 2-х месяцаў, а таксама неабходнасьць

закупкі дапаможных матар'ялаў (тканіны, фарбы, папера, фотаграфічныя прылады і г. д.) мы просім вылучыць нам 2120 рублей на аванс пад справаздачу.

Кіраўнік Мастацкай сэкцыі Маладняка — Ферапонтаў[165].

Цэнтральнае Бюро Усебеларускага Аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў Маладняк са свайго блоку падтрымоўвае просьбу мастацкай сэкцыі Маладняка, лічучы пытаньне своечасным і тэрміновым. Задачы, якія ставіць сэкцыя, зьвязаны з практычным напрамкам працы Маладняка, чаму і не зьвяртаецца ў Інбелкульт, які вядзе акадэмічна-даследчую працу.

Адпаведны сакратар ЦБ Маладняка — Дубоўка.

*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 1. Л. 4.*

* * *

На агульных курсах выкладаў мову і беларускую літаратуру Язэп Плашчынскі — тады ўжо вядомы паэт Язэп Пушча. Аднойчы, перамогшы сваю сарамлівасць, даў я яму два сшыткі са сваімі вершамі. Гэты ўсмешлівы, добразычлівы, з пявучаю гаворкаю малады настаўнік па-сяброўску пагаварыў са мною і загадаў прыйсці ў памяшканне Інбелкульта на былой Койданаўскай вуліцы, дзе быў тады і штаб «Маладняка». <...>

Сустрэў я там высокага, зграбнага, з праніклівым позіркам разумных вачэй Уладзіміра Дубоўку.

*А. Звонак. Аўтабіяграфічныя нататкі //*
*Пяцьдзесят чатыры дарогі.*

* * *

У красавіку назначыць 3 выезды на месцы: 1) у Віцебск — У. Дубоўка, 2) Клімавічы — А. Бабарэка, і 3) Барысаў — перадаць Менскай філіі.

*З пратакола № 1 паседжання сакратарыата ЦБ «Маладняка»*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 1.*

* * *

Нацыянал-камуністычны крытык Алесь Сянькевіч[166] зрабіў трапнае назіраньне, што першай аб'явай «дыфэрэнцыяцыі» ў шарагох «Маладняка» было з'яўленьне зборніка вершаў Дубоўкі «Трысьцё»[167], які выйшаў з друку ўлетку 1925 года ў Менску.

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 680.*

* * *

Менск, Рэвалюцыйная, 21
Тэл. 7-71
22 чэрвеня 1925 г.
№ 1148

Пасьведчаньне

Цэнтральнае бюро Усебеларускага аб'яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў «Маладняк» камандыруе Адпаведнага Сакратара ЦБ тав. Дубоўку Уладзімера на Украіну, для наладжаньня сувязі з аб'яднаньнем пролетарскіх пісьменьнікаў Украіны «Гарт»[168]. Мае моц на два тыдні.

За Адпаведнага Сакратара ЦБ Маладняка — М. Зарэцкі[169]
Літсакратар Пушча

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 36.*

* * *

У 1925 годзе, калі ўрачыста адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы, «Маладняк» паднёс юбіляру адрас, дзе, зразумела, былі выказаныя самыя цёплыя словы. Але ў адрасе быў выпад супраць Коласа[170]. Юбіляр прыняў віншаванне. Бацька пакрыўдзіўся. Каму-небудзь, быць можа, і не скардзіўся, а мне колькі разоў казаў, што ён, Колас, не прыняў бы такога адраса, калі б у ім зняважылі Купалу.

Пазней адзін з аўтараў таго віншавання Уладзімір Дубоўка ў пісьме да бацькі вельмі раскайваўся і прасіў прабачэння.

*Успаміны Д. Міцкевіча.*
*Цыт. паводле: Корань В. Якуб Колас і Уладзімір Дубоўка: з гісторыі перапіскі // Каласавіны, 2006. С. 94–95.*

* * *

Былі спробы прыцягнуць да новага згуртавання Янку Купалу, паколькі ў значнай ступені цэлая плынь эвалюцыянавала з ягонай творчасці. Купала быў вельмі высокай думкі пра Дубоўку. Ён нават сказаў маладому паэту пры першым спатканні: «Я толькі Дзяржавін; ты — Пушкін», маючы на ўвазе, што ён бачыць сябе папярэднікам Дубоўкі, якому наканавана стаць класікам беларускае літаратуры. Такая высокая ацэнка выклікала тады зайздрасць у іншых маладых паэтаў, і яны ўсяляк стараліся настроіць Купалу супраць Дубоўкі. Гэта не выйшла, але ўсё-такі ўдалося наставіць супраць Дубоўкі Купалаву жонку. Яе ўплыў на мужа ў справах практычнае палітыкі быў вызначальны, яна і перашкодзіла Купалу далучыцца да новага згуртавання.

*А. Адамовіч. Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917–1957). С. 874.*

* * *

Між іншым, Купала ставіў яго вышэй за сябе («Я Дзяржавін, а ты Пушкін»). Так казаў мне чалавек, які меў блізкае дачыненне да абодвух.

*М. Улашчык. З пісьма Н. Гілевічу ад 17/04-1976 // Даць народу гісторыю. С. 415.*

* * *

Усім філіям

Таварышы!

Пасылаецца вам апошні пратакол нарады Сакратарыяту з адным напамінаньнем — інфармуйце, таварышы, аб працы і дзейнасьці філіі, а асабліва паведамляйце, як пасоўваецца справа з матар'ялам для хрыстаматыі, — гэта наша ўдарнае заданьне, у гэтым кожная філія павінна выявіць сваю творчасьць.

Таварышы. ЦБ зрабіла дагавор з Дзяржаўным выдаведствам на выданьне Маладняцкай бібліотэкі, у склад якое ўвойдзе ў першую чаргу 20 кніжачак па 1–1/2 арк(ушы) кож(ная). Лік гэтых кніжачак выйдзе ў тры тэрміны: першых 7 у маі (ужо здадзены), другіх 7 — у чэрвені і апошніх 6 — у ліпені.

Кніжачкі будуць вершаў, апавяданьняў, частушак, сатыры і г. д. Дык просьба, таварышы, што мае філія з творчасьці, хай падрыхтуе і перашле ў ЦБ, дзе будзе зроблена канчатковая рэдакцыя і перададзена ў друк.

Набліжаецца час зьезду, пажадана, каб кожная філія паведаміла, якія пытаньні яна-б хацела паставіць на зьезьдзе.

На днях прысылаем сяброўскія білеты з адпаведна інфармацыяй, каму і як іх выдаваць. Паведамляйце аб працы.

Адпаведны сакратар ЦБ Дубоўка
Літсакратар Пушча

*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 2. Л. 033.*

* * *

Хто-небудзь з сябраў ЦБ на днях у Полацк таксама прыехаць не можа, бо Дубоўка і Крапіва толькі што выехалі на якога паўмесяца ў Калінінскую, Магілёўскую і Аршанскую акругі, а хто й застаўся ў Менску, дык па вушы закапаны бягучай працай аб'яднання.

Пушча.

*Ліст ЦБ «Маладняка» А. Дудару ў Полацк.*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 1.*

* * *

## ХРОНІКА

Гэтымі днямі ў Воршы былі адпаведны сакратар ЦБ Маладняка У. Дубоўка і сябра Маладняка, поэт-сатырык Крапіва, якія залажылі аршанскую філію Маладняка.

*Аршанскі Маладняк. 1925. № 1.*

* * *

Не памятаю дакладна, але здаецца, у сакавіку 1924[171] г. да мяне прыехалі Кандрат Крапіва і Уладзімір Дубоўка. З імі я ўжо быў знаёмы па паездках у Мінск і па наведанні рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», дзе я сустракаўся са сваімі знаёмымі па 1918–1920 гг. З. Жылуновічам, М. Чаротам, З. Бядулем і іншымі.

Крапіва і Дубоўка звярнуліся да мяне з прапановай — арганізаваць філію «Маладняка». Такія філіі ўжо былі ў некаторых акругах, і ім было даручана арганізаваць такую ж у Оршы. У гэты час у Оршы працаваў рабфак, якім кіраваў Акулік[172], загадчыкам вучэбнай часткі быў Сташэўскі[173]. Я звязаўся з імі. Мы пагутарылі са студэнтамі, сярод якіх быў «знойдзены» Тодар Кляшторны[174] і два-тры хлопцы, якія пажадалі ўдзельнічаць у будучым «Маладняку».

Кіраўніцтва было сфарміравана ў складзе членаў праўлення Сташэўскага і Кляшторнага. Мяне прызначылі старшынёй філіі. Было вырашана выдаць і першы нумар часопіса «Аршанскі маладняк».

Праз тры месяцы літаратурныя матэрыялы для першага нумара былі выдадзеныя за кошт сродкаў аддзела народнай адукацыі. Мной у гэтым нумары былі напісаны нарыс «Аб творчасці М. Багдановіча» і верш «Усміхаючыся сонцу ў вочы» пад псеўданімам Я. Савец. Амаль усё астатняе было напісана Дубоўкам[175], акрамя байкі «Не будзе горшай» Крапівы...»

*Міхась Ганчарык. Ліст да У. Ліўшыца.*

*Цыт. паводле: Ліўшыц У. З гісторыі горацкай студыі аршанскага «Маладняка».*

***

Пачнем з псеўданімаў. Пра псеўданімы мае. Тымі псеўданімамі, якія Вы згадваеце, я карыстаўся двойчы ў жыцці: «павадыр Уладзік» — у часопісе «Беларускі піянер», а «Ганна Аршыца» — у першым нумары часопісу «Аршанскі Маладняк». Калі мы (я, Кандрат Крапіва і Міхась Ганчарык) рэдагавалі ў Воршы гэты апошні часопіс, дык заўважылі, што ўсе аўтары хлопцы, няма ніводнай жанчыны. Я тады закрэсліў адразу сваё прозвішча пад нейкай нататкай і паставіў «Ганна Аршыца»... А вось маленькія апавяданні мае, змешчаныя ў гэтым жа нумары («Верацёны»), засталіся непадпісанымі ніяк праз нейкі тэхнічны недагляд.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 16/03-1968 //*
*Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 192.*

***

Пасля абеду мы пайшлі да самага блізкага Язэпавага сябра Адама Бабарэкі. Гэта была цудоўная сям'я. Бабарэка выкладаў у камвузе і пісаў крытычныя артыкулы, апавяданні. Аня, Адамава жонка, яшчэ вучылася ва ўніверсітэце. Мелі ўжо маленькую дачушку Лору.

У іх заўсёды збіраліся Кузьма, Пушча і Дубоўка, калі прыязджаў з Масквы. Чыталі свае новыя вершы. Спрачаліся, раіліся, штосьці адзін аднаму даказвалі. Бабарэка як крытык таксама выказваў свае думкі, меркаванні. Кузьма не маўчаў. А пасля ішлі ўсе ў рэстаран, вячэралі і слухалі музыку.

Калі прыязджаў Дубоўка, было гэтулькі шуму, нейкі струмень свежага паветра ўрываўся ў наша жыццё. Ён заўсёды спяваў: «Лорды, мілорды, брытыя морды». І яму ўсюды здаваліся сачкі[176]. У той час ён ужо закончыў Інстытут імя Брусава. І працаваў адказным сакратаром пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР. Гэта быў вельмі вясёлы, разумны, адукаваны чалавек. Ён увесь час чытаў верш «О, Беларусь, мая шыпшына».

*С. Плашчынская. З дзён далёкіх і блізкіх //*
*Пушча Я. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. С. 386.*

* * *

Загаварылі мы з Максімам Лужаніным пра яго літаратурную маладосць, пра абставіны ўтварэння і лёс творчых аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша»[177], пра іх стваральнікаў і, у прыватнасці, пра Уладзіміра Дубоўку (Аляксандр Амвросьевіч не раз, я чуў, яго цёпла ўзгадваў).

— Уладзік — так называлі яго ўсе, акрамя маці (яна звала Валодзем) — вылучаўся і рабіў уражанне шмат чым — і сваёй яўна паэтычнай знешнасцю (яснавокі, статны, натуральны ў абыходжанні), і незвычайная дасціпнасцю, і манерай чытаць вершы і пераконваць у спрэчцы. І яшчэ, мабыць, тым, што на маладнякоўскіх сходах, на першым пленуме[178] і з'ездзе[179] «Маладняка» ён з'яўляўся не адзін.

— Не адзін? З сябрамі?

— З сяброўкай, з Наляй[180].

— З Наляй? Чакайце, дык так жа называецца адзін з ягоных зборнікаў!

— Таму так і называецца, што была Наля...

І тут дзядзька Максім пачынае чытаць добра захаваны ў нетрах памяці верш:

*Я шкадую ўсё ж ткі сябе,*
*І мне сорамна сэрца ганіць,*
*Але ж праўду кажу цяпер:*
*Я не веры, што ёсць каханне.*
*Чуў заўсёды, што гэта жарт,*
*Што і ў попеле золата значна.*
*А калі запылае ў душы пажар,*
*Трэба песняй лячыць, не йначай.*
*І пяяў, калі песні былі,*
*Як на дзікім каменні навальніца,*
*Узрастаў, бы чабор на раллі...*

— Гэта Дубоўка прысвячаў Налі? — нецярпліва пытаюся я.

— Так. Калі не падводзіць памяць. Помняцца і такія, з іншага верша, радкі:

*Ты руку сваю забінтавала,*
*Чым я раны сэрца забінтую?*
*Яно рвецца, рвецца на кавалкі,*
*За сябе, цябе і за другую...*

Наколькі я ведаю, гэта ўжо была спроба развітацца з Наляй, забыць яе. Чаму і як разышліся, не магу сказаць. Ведаю толькі, што асабістае жыццё яны ўладкоўвалі паасобку, яна ў сваім Магілёве, ён у Маскве.

— А ці помніце, якая яна была? Прыгожая?

— Не сказаць, каб прыгожая, але мілавідная, светлая, з выразнымі вельмі вачыма. Насіла, як і ўсе тагачасныя студэнткі, кажушок, квяцістую з чырвоным хусціну, якая называлася чамусьці «тараноўкай»... Дарэчы, вы можаце прачытаць пра яе ў Мальдзісавым бібліяграфічным слоўніку. Том чацвёрты, Маркава Наля.

— Маркава? Такое яе было прозвішча?

— Так, дзявочае яе прозвішча. Ім яна падпісвала свае вершы.

*А. Вярцінскі. Я пытаюся ў Налі... // Крыніца. 1997. № 8. С. 43, 44.*

* * *

АНКЕТА

Дэлегата 1-га Ўсебеларускага з'езду поэтаў і пісьменнікаў «МАЛАДНЯК»

| | |
|---|---|
| 1. Прозвішча, імя | Дубоўка Ўладзімір |
| 2. Калі нарадзіўся | 2 ліпеня 1900 года |
| 3. З якой мясцовасьці | Віленшчына |
| 4. Партыйнасьць | ЛКСМБ |
| 5. Социяльнае паладжэньне | з сялян |
| 6. Ці быў у Чырвонай Арміі і колькі часу | 2 гады |
| 7. Нацыянальнасьць | Беларус |
| 8. Ад якой філіі (арганізацыі) | Аршанскай[181] |

| | | |
|---|---|---|
| 9. | Адукацыя | Вышэйшая |
| 10. | Дзе працуеце (установа) | Доцэнт Бел. Акад. Сельск. Гасп.[182] |
| 11. | Якія маеце друкаваныя зборнікі | 1. Строма. 2. Там дзе кіпарысы. 3. Трысцё. 4. Credo |
| 12. | З якога часу пішэце | 1921 |
| 13. | Да якога літкірунку сябе залічаеце | Самаст.[183] |
| 14. | № мандату і права голасу | № 7, з рашучым |
| 15. | Адрас | |
| 16. | Подпіс | Дубоўка |

24 лістапада 1925 года

*Анкета ўдзельніка з'езда «Маладняка».*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 6. Л. 043.*

* * *

АНКЕТА
Дэлегата 1-га Ўсебеларускага з'езду поэтаў і пісьменнікаў
«МАЛАДНЯК»

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Прозвішча, імя | Маркава Наста Паўлава |
| 2. | Калі нарадзіўся | 25 сьнежня 1906 году |
| 3. | З якой мясцовасьці | Лесавая-Буда, Баброўшчына, Гарадзецкі раён |
| 4. | Партыйнасьць | сябр ЛКСМБ |
| 5. | Соцыяльнае паладжэньне | Сялянка |
| 6. | Ці быў у Чырвонай Арміі і колькі часу | ------- |
| 7. | Нацыянальнасьць | Беларуска |

| | |
|---|---|
| 8. Ад якой філіі (арганізацыі) | Магілёўскай |
| 9. Адукацыя | Трэці курс педтэхнікума |
| 10. Дзе працуеце (установа) | |
| 11. Якія маеце друкаваныя зборнікі | |
| 12. З якога часу пішэце | з 1924 |
| 13. Да якога літкірунку сябе залічаеце | да «Маладняку» |
| 14. № мандату і права голасу | № 9, з рашучым |
| 15. Адрас | Магілёў, Быхаўская, 18, педтэхнікум |
| 16. Подпіс | Маркава |

24 лістапада 1925 года

*Анкета ўдзельніка з'езда «Маладняка».*
*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 6. Л. 045.*

* * *

Пасля мы ездзілі ў Менск на першы з'езд «Маладняка». З гэтае нагоды я напісаў быў апавяданне «Гасцініца "Бельгія"»[184], але яно прапала. На з'ездзе я ўпершыню ўбачыў Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Андрэя Александровіча, Кандрата Крапіву, Міхася Лынькова[185], Уладзіміра Дубоўку і вельмі маладых і прыгожых Зіну Бандарыну[186], Яўгенію Пфляўмбаўм[187], Наталлю Вішнеўскую[188].

*Я. Скрыган. Некалькі хвілін чужога жыцця. С. 30.*

* * *

Любий, світлий страднику!

Хіба забути:
«О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет...»
І ту ніч, коли я ночував у тебе, і ми один одному одкрили свої серця, повні любові: твоє — до Білорусі, моє — до України.

Як ми один одному читали про це вірші, повни гніву і любові. Ні! Це назавжди лишилося в моєму серці. Та місячна ніч і ти, коло мене — босій на снігу. Це між іншим смішна деталь, якої я те ж не забув...

*У. Сасюра. З ліста да У. Дубоўкі ад 5/10-1959.*
*ЦНБ АН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 693. Л. 1.*

* * *

У канцы 1925 года ў Мінску быў з'езд маладых беларускіх пісьменнікаў («маладнякоўскі з'езд»). У складзе ўкраінскай дэлегацыі прыязджаў на гэны з'езд і Уладзімір Сасюра. <...> Я спыняўся на прыватнай кватэры. Адну ноч у мяне начаваў Уладзімір Мікалаевіч (Сасюра, як і Дубоўка, — Уладзімір Мікалаевіч. — *Г. С.*), бо мы загаварыліся і не было сэнсу ісці ў гасцініцу. Пра тую ноч згадаў нябожчык у лісце да мяне.

Кладучыся спаць, мы надумалі выйсці глянуць на месяц і ясныя зоры. Уладзімір Сасюра накінуў на сябе кажух, а я выйшаў босы. Так мы доўга і пастаялі, пакуль па вершу не прачыталі ў гонар яснага месяца. Калі Ул. Сасюра заўважыў, што я стаю босы, дык ён аж зжахнуўся. Але я супакоіў яго, што малым яшчэ я па кіламетры прабягаў па снягу, што ў мяне загартоўка такая...

Сапраўды, мы многа аб чым тады гаварылі, многа вершаў прачыталі, і не толькі сваіх уласных, але і М. Рыльскага, якога я многа вершаў ведаў на памяць, і П. Г. Тычыны ды і нашага Янкі Купалы. Гэта фактычна і было нашае самае грунтоўнае знаёмства адно з адным, пачатак нашага пабрацімства.

*У. Дубоўка. Успамны пра Уладзіміра Сасюру.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 337. Л. 3.*

* * *

«Генералітэт» шумеў, скрозь паказваўся, але з самага пачатку ў арганізацыі сапраўдныя пісьменнікі, якія не надта лезлі ў вочы, не надта шумелі, складалі сапраўдную літаратуру

сучаснасці. Сярод іх бясспрэчна на першым месцы быў Уладзімір Дубоўка, які жыў у Маскве, але часта наязджаў у Менск. <...> Роля Дубоўкі стала надта выразнай на з'ездзе «Маладняка», калі ён выказаў сябе, па сутнасці, як адзіны, што мог выразна сказаць — што такое «Маладняк» і азначыць перспектывы яго дзейнасці. Вострыя сутычкі ў яго адбыліся з сакратаром РАПП Валайцісам[189].

Казалі, што па ініцыятыве Дубоўкі пачалі выдаваць серыю твораў маладнякоўцаў, ён жа параіў вокладку для серыі — узор са слуцкага пояса. Калі «Маладняк» падрыхтаваў невялічкі зборнік «Маладняк Янку Купале», то, па сутнасці, зборнічак гэты напісаў Дубоўка.

*М. Улашчык. Выбранае. С. 374–375.*

* * *

Выпадкам прачытаў, што на з'ездзе «Маладняка» кіраваў справамі Чарот. Я праседзеў, здаецца, на ўсіх паседжаннях з'езда і нібыта памятаю, як там што рабілася. Фактычна рэй вёў Дубоўка, у Чарота на гэта не ставала ні культуры, ні (пэўна) літаратурнага таленту. Вострыя спрэчкі сталіся паміж Валайцісам (РАПП), Дубоўкам і Піліпенкам[190] (Харкаў, «Плуг»). Да гэтага часу памятаю: «Вы, Валяйтыс, дурака не валяйтэ» (Піліпенка).

*М. Улашчык. З ліста Н. Гілевічу ад 17/04-1976 // Даць народу гісторыю. С. 415.*

* * *

Сама думка выдання кніжніцы (бібліятэчкі) «Маладняка» была пададзена мною, прычым выключна для папулярызавання творчасці так званых маладзейшых пісьменнікаў. На чале дзяржаўнага выдавецтва тады стаяў чалавек, пр якога наш сатырык пісаў, што ў яго «капялюш берлінскі, а характар свінскі», Праўда гэта ці не, але, у кожным разе, той чалавек мог размаўляць толькі з аўтарам, які прыносіў яму том аркушоў

друкаваных на дваццаць. А куды ж было падацца тым, чые «томы» не перавышалі аднаго, а то і паловы друкаванага аркуша? Як бачыце, пытанне было паднята самім жыццём, а таму яно і было жыццёвае.

Тагачасныя кіраўнікі культурнага жыцця Беларусі (А. Г. Чарвякоў, Ус. М. Ігнатоўскі, Язэп Ал. Адамовіч і А. В. Баліцкі) сардэчна прывіталі і падтрымалі гэную думку. Яны паставілі толькі адну ўмову: «Давайце мастацкія, цікавыя для чытача, прасякнутыя рэалюцыйным пафасам творы. Не клапаціцеся аб фінансавай старане, бо яна — пры выкананні вышэйзгаданай умовы, будзе забяспечана поўнасцю».

Вам вядома, якія кніжкі былі надрукаваны. З сучаснага пункту погляду, не ўсе яны, магчыма, каштоўныя. Але ў той час яны былі патрэбныя, сустракаліся прыхільна чытачамі і не ляжалі доўга на паліцах у кнігарнях.

Не адна з тых кніжак рэдагавалася пры маім непасрэдным удзеле. Тады ніякага «аппарату» не было, нас было двое: адказны сакратар ЦБ «Маладняка» — я і літсакратар Я. Пушча. Рэдагаванне адбывалася ў пакойчыку пры Інстытуце Беларускай Культуры (тады — Рэвалюцыйная, 21[191]) пры ўдзеле саміх аўтараў, а часта-густа пры ўдзеле другіх пісьменнікаў, якія наведваліся ў той пакойчык. «Глянь, паслухай! Гэты радок гучыць кепска, туманна або непрыгожа. Вось трэба сказаць як!» Аўтар згаджаецца або не. У кожным разе з такімі заўвагамі, «пры адчыненых дзвярах» справа падходзіць да канца. Пасля гэтага — друкарня. Не буду хлусіць — ці праходзіў такую аперацыю Хадыка. Думаю, што праходзіў, бо ў яго вершах сустракаюцца многія словы, якія тады ўводзіў з народнае мовы я. У кожным разе, калі вас глыбока цікавіць тэхніка рэдагавання таго часу, запытайцеся яшчэ ў каго, напрыклад — у Жэні Лужанінай. Я добра памятую, што я асабіста рэдагаваў іхнюю калектыўную кніжку (Я. Пфляўмбаўм, Вішнеўская, Бандарына)[192].

*У. Дубоўка. З ліста да С. Шушкевіча*[193] *ад 16/9-1964.*

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 502. Л. 1, 2.*

* * *

У тагачасным «Маладняку» дужа слаба адчуваўся ўплыў партыі. Даволі ўспомніць такі факт, калі на пасяджэньні фракцыі пленуму ЦБ у сакавіку 1925 году па пытаньню аб узаемаадносінах з Інбелкультам выступіў сакратар ЦК КП(б)Б Крыніцкі[194], паставіў пэўныя прапазыцыі, і прапазыцыі гэтыя былі адхілены аднагалосна супраць Зарэцкага, які, наколькі помню, галасаваў за гэтыя прапазыцыі. Гэта ў цэнтры. А ў філіях, дзе былі больш шырокія магчымасьці, у гэтым кірунку справа стаяла бадай што яшчэ горш, бо маладнякоўскімі філіямі амаль што ніхто не цікавіўся. Старшыні ЦБ Чарота не было ў той час у Менску, і ўсёй арганізацыей кіраваў Дубоўка, які тады зблізіўся з прадстаўнікамі старой інтэлігенцыі і адпаведна гэтаму значна пасунуўся наперад у развіцьці нацыянал-дэмакратычных настрояў. Гэтаму немала спрыяла і яго зблíжэньне з А. Адамовічам[195], які наогул тады рабіў вялікі ўплыў і на Дубоўку, і на Вольнага, і на другіх. (Я зь ім тады яшчэ ня быў знаёмы і толькі чуў пра яго.) Пад канец 1925 году, калі Адамовіч быў адклíканы з Калінішчыны, Дубоўка зрабіў спробу «кананізацыі» Адамовіча, як нейкага свайго асаблівага нацыянал-дэмакратычнага «ўгодніка»[196].

*А. Дудар. З паказанняў НКУС 1930 года.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштавацъ у высылцы. С. 45.*

* * *

У адзін з такіх прыездаў прыйшлі разам (былі ў рэдакцыі) Пушча, Бабарэка і Дубоўка. Усхваляваныя. Дубоўка кажа: «Стася, вось грошы, аднясі Ідзе[197]. І скажы ёй, што Кузьма болей у гэты пакой не прыйдзе».

Мы з ёю амаль не бачыліся. Цяпер Іду было не пазнаць. Кузьма купіў ёй усё, што трэба было для зімы: добрае паліто, капялюш, чаравікі, сукенкі. Пад канец рабочага дня Іда брала рамізніка і ехала да Кузьмы на працу, яны ішлі абедаць у рэстаран. Іда стала сябе дрэнна паводзіць. Завяла непрыгожыя знаёмствы. Кузьма пра гэта даведаўся і хацеў павесіцца, яго ледзьве ўратавалі[198].

*С. Плашчынская. З дзён далёкіх і блізкіх //*
*Пушча Я. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. С. 386.*

* * *

Найбольшы ўплыў на мяне ў гэты час меў Дубоўка — старэйшы за мяне па ўзросту, мацнейшы па адукацыі і наогул больш спрактыкаваны ва ўсіх адносінах, чымся я. У пачатку 1926 году я з ім пасварыўся і разышоўся.

Пад канец 1925 году ЦБ «Маладняка» назначыла мяне кіраўніком Менскай філіі «Маладняка» на месца Нічыпара Чарнушэвіча. Першым актам маёй дзейнасьці тут была ліквідацыя расейскай сэкцыі, якая тады існавала пры Менскай філіі. Ужо раней паасобныя сябры ЦБ, у тым ліку Дубоўка, Вольны і другіе, выказвалі сваё незадавальненьне. І вось на адным з паседжаньняў ЦБ па прапазыцыі Дубоўкі трое з расейскай сэкцыі (Гольдбэрг[199], Дукор[200] і яшчэ нехта) былі выключаны з «Маладняка», для чаго быў скарыстаны нейкі выпадковы повад. Я правёў гэту пастанову праз Бюро Менскай філіі. Тады расейская сэкцыя запрасіла мяне і Чарнушэвіча на сваё пасяджэньне і пасля бурнага сходу рэшта сяброў аддалі мне свае білеты. Справа гэта дайшла да ведама ЦК ЛКСМБ, нас (фракцыю ЦБ) выклікалі туды, разгледзелі ўсю справу і наказалі нам аднавіць выключаных. Выконваючы гэту дырэктыву, на чарговым сходзе філіі адзін з нас унёс прапазыцыю аднавіць выключаных Дукора, Гольдбэрга і трэцяга. Пры гэтым Дубоўка і Вольны пачалі пушчаць настолькі вострыя рэплікі (Дубоўка, здаецца, нават выступіў тады з цэлаю прамоваю), што Зарэцкі тут жа патрабаваў спыніць сход і склікаў фракцыю філіі. На пасяджэньні фракцыі, дзе Зарэцкі быў старшынёю, а я — сакратаром, Дубоўка і Вольны зрабілі заявы аб сваім выхадзе з «Маладняка», іранічна матывуючы гэта тым, што яны кідаюць пісаць. Рабілася гэта ў знак пратэсту супраць аднаўленьня выключаных сяброў расейскай сэкцыі, і дзеля гэтага аналёгічную заяву зрабіў і я. Фракцыя прапанавала нам устрымацца ад усякіх далейшых крокаў да пасяджэньня фракцыі ЦБ, якая мела быць склікана на другі ці на трэці дзень пасьля гэтага. Праз дзень у газэце зьявіўся вядомы верш Дубоўкі «Апошняя песьня»[201] і верш Вольнага, падобны да Дубоўкавага.

*А. Дудар. Паказанні НКУС па справе СВБ.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 49.*

* * *

Увосень 1925 года давялося ўбачыць яго (Дубоўку) у рэдакцыі «Савецкай Беларусі».

Я ўжо быў к таму часу студэнтам першага курса рабфака і, прыехаўшы з вескі, прынёс допіс у газету. Пакой быў вялікі; у ім стаяла пяць сталоў. За трыма, з раскладзенымі на іх паперамі, нікога не было, а за двумя — сядзелі: у кутку — сакратар рэдакцыі Пашковіч[202], а трохі воддаль — загадчык літаратурна-мастацкага аддзела Алесь Дудар. Пашковіч сказаў мне трошкі пачакаць, пакуль вернецца патрэбны чалавек. Я прысеў каля трэцяга стала. Неўзабаве зайшоў высокі мужчына з яснымі вачыма, адкрытым паглядам, у добрым чыстым гарнітуры і размашыстымі крокамі накіраваўся да сакратара рэдакцыі). Прывітаўся з ім. Затым падаў руку Дудару. Зірнуўшы на мяне, спытаў у Дудара:

— Хто гэта?

Той па звычцы памаргаў вачыма і адказаў:

— Гэта ў карэспандэнцкі аддзел.

— Значыць наш брат, пішучы... — падаў мне руку і, выразна сказаўшы: — Дубоўка, — тут жа звярнуўся да Пашковіча і Дудара:

— Прынёс вам новы верш. Учора напісаў, — і падаў лісток Дудару.

Я здзіўлена паглядзеў на гэтага элегантнага чалавека і падумаў: «Дык вось той чараўнік слова, якога я так люблю па творчасці!»

Дудар прачытаў верш і, перадаючы Пашковічу, выказаў сваю думку:

— Мне падабаецца.

Дубоўка злёгку ўсміхнуўся, ад чаго твар яго яшчэ больш прасвятлеў. Хто ведае, можа, гэта быў першы чытач. А кожнаму творцу важна пачуць пахвалу, хоць невялікую.

Пашковіч прачытаў і таксама даў добры водгук.

— Але надрукаваць не можам.

— Чаму? — здзівіўся аўтар і крышку пачырванеў у твары.

— Вы называеце верш «Апошняя песня». А я не хачу, каб гэта была апошняя. Я жадаю, каб вы яшчэ шмат напісалі такіх

цудоўных вершаў для сваіх удзячных чытачоў, да ліку якіх належу і я.

Гаварыў Пашковіч сур'ёзна, і цяжка было разабраць: жартуе ён ці сапраўды не збіраецца друкаваць.

— Што вы! — назваў Дубоўка па імю і бацьку сакратара рэдакцыі. — Я і напішу яшчэ, і прынясу іх вам.

— А як жа вы тады апраўдаецеся перад чытачом? — усміхнуўся той. — У якім становішчы будзе рэдакцыя? Як мы выкруцімся?

— Выкруцімся. Усё будзе добра: і аўтару, і рэдакцыі. Мы назавём яго разам з вамі «Новая песня», а ў дужках паяснім — пасля апошняй.

— Тады прыйдзецца, мусіць, надрукаваць. Як думаеш, Алесь? — звярнуўся Пашковіч да Дудара. — Возьмем пад увагу абяцанне аўтара?

І неўзабаве верш быў надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь», наколькі мне памятаецца, пад назвай «Апошняя песня». У далейшых выданнях ён змяшчаўся пад названнем першага радка «І было ўвосень...». Я тут жа яго вывучыў: пранёс у сваёй памяці праз гады, чым пазней здзівіў аўтара.

*А. Пальчэўскі. Пра Дубоўку //*
*ЛіМ. 21 студз. 1994.*

* * *

Дубоўка. Здольны паэта. Усім вядома, што многія дзяўчаты журыліся над сумам яго «Апошняй песні» і над сумам тых вершаў, якія вышлі пасля яго «апошняй песні». Але я новае хачу сказаць ім. На Украіне яго называюць «найкрашчы бузоцёр».

Дубоўка цяпер у Маскве на правах «приват-доцэнта, пополняющего свои знания».

Наогул, яго маёмасць дае яму самыя шырокія магчымасці перасоўвацца з горада ў горад без насільшчыкаў, чым ён сумленна і карыстаецца не менш чым раз у месяц.

*Алёша[203]. Сілуэты маладнякоўцаў (таварысцкія шаржы) //*
*Савецкая Беларусь. 1926. № 14.20 мая.*

* * *

У снежні месяцы 1925 года Кузьма Чорны прыехаў да мяне ў госці ў Маскву. Жыў я тады разам са сваімі бацькамі на Малой Грузінскай вуліцы. Займалі мы скромную кватэру, але месца хапала для ўсіх. <...> Пабывалі мы з ім у Траццякоўскай галерэі, у музеі прыгожых мастацтваў, у музеі заходнееўрапейскага жывапісу (які знаходзіўся тады ў Стара-Канюшанным завулку). Паглядзелі самыя лепшыя пастаноўкі ў Мастацкім, малым і Вялікім тэатрах, у тэатры Сатыры. Былі на канцэртах у Кансерваторыі. <...>

*У. Дубоўка. Першы прыезд Кузьмы Чорнага ў Маскву. Машынапіс.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 336. Л. 4.*

* * *

Нямалае ўражанне зрабіў на яго тэатр Сатыры, у якім мы былі напярэдадні новага, 1926 года. Тут ён так смяяўся, што на нас пачалі шышкаць суседзі. А павесяліла яго пастаноўка не сваім зместам, а сваім афармленнем. Змест «п'есы», калі так можна сказаць, быў наступным:

Нейкі віршаплёт напісаў твор:
Я иду по большой дороге,
А навстречу везут навоз.
Хорошо, когда эти дроги
Нам заменит электровоз[204].

Як быццам, нічога смешнага няма, бо справа крута паварочвала да механізацыі сельскай гаспадаркі. Увесь цымус быў у далейшым.

Гэты твор адразу паклалі на музыку, і спявачка, у брыльянтах і сабалях, спявала яго на камерным канцэрце: з яго зрабілі драматычны твор, кінакарціну, оперу і г. д. і г. д.

Прыйшоўшы дадому, мы селі сустракаць новы, 1926 год, і Кузьма Чорны насмяшыў усю нашу сям'ю, калі паследаваў той спявачцы.

*У. Дубоўка. Першы прыезд Кузьмы Чорнага ў Маскву.*
*Чарнавік да артыкула. Рукапіс.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 336. Л. 6.*

* * *

Братка, з самага цямна пішу, утаміўся і не канчаю, усяго не сказаўшы: хутка ўбачымся, а то яшчэ напішу. Твой Кузьма.

Другая гадзіна, а Уладзік спіць — цэлую ноч пісаў ён вершы. К.

*К. Чорны. З ліста да А. Бабарэкі ад 21/1-1926 // Скарыніч. Вып. 4.*

* * *

Напісаў я, каб ты ведаў, адно апавяданне, дзе ёсць такая сцэна: у піўной фельетаніст чытае свае вершы, а рэпарцёры, маладыя пісьменнікі, а найбольш журналістыя, ацэньваюць іх. Дык дзе мне было ўзяць для фельетаніста вершаў? Я, што робячы, узяў ды сам сачыніў. Пасля ў другім месцы таксама трэба было, дык тут ужо памог Уладзя.

*К. Чорны. З ліста да А. Бабарэкі ад 2/01-1926.*
*Цыт. паводле: ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 336. Л. 2.*

* * *

Дарэчы, выраз «даць нырца» быў вельмі папулярны ў супрацоўнікаў рэдакцыі «Беларускае газэты», а быў ён пушчаны і да Арсенневай[205] дайшоў ад аднаго зь іх, як і яшчэ адно улюбёнае імі слоўка «лабуда», пушчанае йшчэ Уладзімірам Дубоўкам.

*А. Адамовіч. Так пяяў Салавей. С. 1233.*

* * *

Узрос уплыў «маладнякоўцаў» у «Савецкай Беларусі». Рэдактар Шыпіла[206] рэдакцыю трымаў у руках слаба, сакратарстваваў той жа Янка Пашковіч, такі важны аддзел, як аддзел замежнай прэсы, вёў той жа Каравайчык, і ранейшую ідылію парушаў толькі той факт, што на рэдактарскім крэсьле сядзеў Шыпіла, які механічна выконваў дырэктывы аддзелу друку, а ў жыцьцё рэдакцыі ня ўмешваўся, чаго не было пры Маразоўскім. Вага ж «маладнякоўцаў» у рэдакцыі даходзіла да таго, што неяк раз мне

даводзілася трымаць удзел у гутарцы Дубоўкі (тады камсамольца), Вольнага (тады кандыдат партыі), Бабарэкі, Чарнушэвіча, і, здаецца, Пушчы (усе трое беспартыйныя), у якой абгаворвалася пытаньне ні больш ні менш як аб рэарганізацыі апарату газэты. Меркавалася фактычным (ці нават адказным) рэдактарам зрабіць Дубоўку, сакратаром — Бабарэку і г. д.

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ.*

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 42.*

* * *

Аднойчы Чарот, Пушча і Дубоўка, якія прыехаў з Масквы, ішлі з рэдакцыі «Маладняка» і спатыкаюць Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, старшыню ЦВК БССР. Ён хадзіў амаль заўсёды пешкі з вялікім партфелем і кіем. Чарвякоў часта запрашаў паэтаў і пісьменнікаў у Саўнарком, цікавіўся, што іх, маладых, турбуе, мо якія пытанні ёсць, што трэба вырашыць. Якія навіны? Вось Міхась Чарот і кажа: «У нас Пушча ажаніўся, а бацькі яшчэ жонкі не бачылі». Дык Чарвякоў і кажа: «Чаго ж вы маўчалі, я дам машыну і паедзеце». Накупілі розных смачных рэчаў, віна. Быў нэп, усё было, і сёмга, і ікра. Дубоўка, Чарот, Анатоль Вольны назаўтра пад'язджаюць да нашага дома на машыне. Хутка ўсё пагрузілі і паехалі.

*С. Плашчынская. З дзён блізкіх і далёкіх. С. 388.*

* * *

Адбылася ведамая ў Менску Акадэмічная канферэнцыя[207] 14–21 лістапада 1926 года. <...> Праграма прафесара Замоціна[208] й легла ў аснову рэзалюцыі, прынятай канферэнцыяй, а апрацаванай абранай на ёй адмысловай камісіяй пад старшынством таго ж прафесара Замоціна, а ў складзе праф. Пятуховіча[209], З. Жалуновіча, Ул. Чаржынскага[210] (Дзяржынскага) ды А. Бабарэкі (апошні, аднак, не мог узяць удзел у працы камісіі й быў заступлены ў ёй У. Дубоўкай).

*А. Адамовіч. Да пабудовы навуковае гісторыі беларускай літаратуры. С. 1131*

* * *

Я быў членам-супрацоўнікам Інстытуту Беларускае Культуры, а ён — эмбрыён Акадэміі Навук. Такім чынам, я мог быць не ў адной камісіі. У Камісію І. І. Замоціна па падрыхтоўцы да друку збору твораў М. Багдановіча я ўвайшоў разам з другім паэтам — Язэпам Пушчам[211]. Што мы рабілі? Усёй справай кіраваў І. І. Замоцін, чалавек вельмі высокай культуры, шырокіх поглядаў, надзвычайна спагадлівы да беларускае культуры і вельмі вялікі знаўца сваёй справы. Мы — толькі дапамагалі. Нічога свайго мы не ўносілі. Адзінае што было — гэта замілаванне да памяці М. А. Багдановіча, з якім замілаваннем мы расшыфроўвалі кожны радочак ягоных, напісаных бісерным почыркам, рукапісаў. Пры гэтым прыходзілася не выпускаць з рук павелічальнага шкла.

Іван Іванавіч з захапленнем спаткаў кожны расшыфраваны намі радок. Памятаю, я, усе мы былі рады расшыфраванаму катрэну (даю па памяці):

Ты яшчэ засвеціш, ясная заранaчка,
Ты яшчэ асвеціш родны край!
Беларусь моя, краіна-браначка,
Прабудзіся, ўстань, шляхі шукай![212].

Калі я ўдзельнічаў у гэтай працы, жывучы ў Маскве? А тады, калі прыязджаў для выдання «Беларускага піянера», жыў тады на Нова-Серпухоўскай вуліцы, якое цяпер няма на свеце.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 11/03-1963 //*
*Крыніца. 1997. № 8. С. 27.*

* * *

На новым этапе, калі — нарэшце! — адкрыліся спагадныя ўмовы для бурнага развіцця роднай культуры, словы Багдановіча ўспрымаліся як праграма практычнага дзеяння. Уладзімір Дубоўка разам з прафесарам Іванам Замоціным з энтузіязмам сапраўдных падзвіжнікаў па крупінцы збіралі і вывучалі творчую спадчыну Багдановіча, закладвалі, па сутнасці,

першыя падваліны для багдановічазнаўства. Дубоўка літаральна вывучаў («слібізаваў»!) расшуканыя старонкі Багдановічавых вершаў, па літарцы вычытваў радкі, звяраў варыянты, адшукваў у пажоўклых газетах публікацыі артыкулаў — у тым ліку і «Забыты шлях», які не быў забыты сярод розных выданняў, аднадзёнак вогненнага 1918 года.

*М. Арочка. Чарадзей з блакітнымі вачыма // Полымя. 1979. № 1. С. 220.*

* * *

Рукапісы М. Багдановіча пабылі ў Яраслаўскім пажары, калі там было белагвардзейскае паўстанне, а таксама і ў вадзе, калі гэты пажар залівалі. Рукапісы былі пратлеўшыя (?), падмочаныя і высушаныя, папера крышылася. А да таго ж яшчэ і сапраўды дробны почырк нябожчыка. Некаторыя кавалачкі літаральна рассыпаліся пасля прачытання, некаторыя немагчыма было ніяк прачытаць, ніхто іх не мог прачытаць. Гэта — «Ты не згаснеш, ясная заранічка» і далейшыя.

Гэтыя і некаторыя яшчэ падобныя ім урыўкі расшыфраваў я. Але ўсё ж, для аднаўлення ісціны, павінен адзначыць, што ўсю асноўную працу па двухтомніку правёў І. І. Замоцін.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 14/04-1970. Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Праз нейкі час пасьля гэтага адбыўся інцыдэнт з выключэньнем Нічыпара Чарнушэвіча[213]. Пра гэты выпадак я ужо гаварыў у ранейшых сваіх паказаньнях, але зараз лічу патрэбным спыніцца на ім яшчэ раз. Чарнушэвіч быў тады сябром ЦБ «Маладняка». Я чуў, што задоўга перад гэтым ён падаваў заяву аб прыняцьці яго ў сябры партыі, быў прыняты ячэйкай, але не зацьверджаны райкомам. У храналёгічнай паступовасьці справа з выключэньнем Чарнушэвіча малюецца так. На кватэры ў Дубоўкі была склікана нарада камуністаў і камсамольцаў,

сяброў ЦБ. Прыйшлі толькі Зарэцкі і я, больш нікога не дачакаліся. Тады Дубоўка, узяўшы з нас слова да поўнай праверкі не разглашаць таго, што ён нам скажа, расказаў, што быццам бы Чарнушэвіч пасьля нейкай выпіўкі начаў гаварыць, што ён незадаволен палітыкай Кампартыі, што час ужо засноўваць новую партыю і што, нават, і людзі, падыходзячыя да гэтага, ёсьць, і пры гэтым спаслаўся на супрацоўніка рэдакцыі «Савецкай Беларусі» Лявона Савёнка[214]. Ён, Дубоўка, пры гэтым быў быццам бы зусім п'яны, але як пачуў гэткую прапазыцыю, дык з яго ўвесь хмель зышоў. Дубоўка расказаў пры гэтым, што яму вядома, што аналёгічныя прапазыцыі былі зроблены Чарнушэвічам яшчэ Бабарэку, Крапіве і, здаецца, Кузьме Чорнаму. Выслухаўшы Дубоўкава апавяданьне, мы з Зарэцкім рашылі праверыць, ці сапраўды ёсьць такія настроі ў Чарнушэвіча. Праз некалькі дзён Чарнушэвіч завёў і са мною гутарку адносна таго, што ЛКСМБ — гэта арганізацыя, у якой зусім адсутнічае нацыянальны дух і што я павінен працаваць у камсамоле так, каб ён ператварыўся з ЛКСМБ у БЛКСМ. <...> Я паведаміў пра гэта Дубоўку і Зарэцкага. Мы склікалі актыў ЦБ і выклікалі Чарнушэвіча. Ён не зьявіўся. Распыталіся тых, на каго спасылаўся Дубоўка. Выявілася, што калі ня зусім ў такой форме, як перадаваў Дубоўка, дык прыблізна такога характару гутаркі Чарнушэвіч з ім заводзіў. Тады мы Чарнушэвіча з «Маладняка» выключылі, а пра ўсё гэта паведамілі загадчыка АПА Гэсена[215]. Пазьней у нас у многіх зьявілася думка, што ўся гэта гісторыя была толькі выдумана Дубоўкам, які ня дужа сымпатызаваў Чарнушэвічу. Але сказаць напэўна, ці было гэта і калі было, то ці ў такой форме, як казаў Дубоўка — да гэтуль не магу.

У хуткім часе пасьля гэтага вярнуўся Чарот, узяўся больш моцна за кіраўніцтва арганізацыі, Дубоўка выехаў у Горкі, пачынаў насьпяваць адкол «Узвышша», і я часова зноў адышоў ад нацыяналістычных настрояў.

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. «Арыштаваць у высылцы». С. 50.*

* * *

У ЦБ Усебеларускага аб'яднання поэтаў і пісьменнікаў «Маладняк»

1. У газэце «Савецкая Беларусь» за 6 студзеня 1926 г. № 4 (1599) была зьмешчана хранікёрская заметка «У «Маладняку». Разгляд зборніку Ул. Дубоўкі «Крэдо». Як агульна вядома, заметка гэта перадавала зьмест выступленьняў вядомых «крытыкаў-марксістых» Л. Каплана, А. Александровіча, Барашкі, Дудара, старанна апусьціўшы погляды другой часткі выступаўшых на разборы зборніку і асноўных дакладчыкаў. Дзеля таго, што ў ёй знаходзіліся нематывіраванныя закіды і абвінавачваньні мяне і майго зборніку бадай ня ў кантррэвалюцыйнасці, я зьвярнуўся быў да рэдакцыі «Савецкай Беларусі» з короткім лістом, у якім прасіў выступаўшых з гэтакімі абвінавачваннямі сказаць на старонках той-жа газеты, у чым выражаецца мая «ідэолёгічная хваравітасьць» і г. д.

Паважаны рэдактар «Савецкай Беларусі» М. Чарот-Кудзелька гэтага майго ліста не зьмясціў, дзеля яму аднаму ведамай прычыны. Адначасна нічым не рэагавала на гэны хронікёрскі цемрашал і Цэнтральнае Бюро.

Гэтым самым памянёныя грамадзяне фактычна і зусім сьвядома зачынілі мне доступ у друк.

2. У № 11 часопісі ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ, якая, як адзначана на тытульнай староцы, выходзіць пад рэдакцыяй Александровіча, Адзінца і Гесэна, зьмешчана заметка нейкага Я. Ч. (на стар. 170–173) пад назвай «Форма і ідэолёгія. Уладзімір Дубоўка. "Крэдо". Вершы». Аўтар гэтай заметкі, якому сорамна нават самога сябе, схаваўся за дзьве літары і... за абвешчаных на тытульнай староцы рэдактараў. Паколькі пад заметкай няма заўвагі ад рэдакцыі,прыходзіцца разглядаць яе, як выражэньне поглядаў названых рэдактараў таксама, двое з якіх зьяўляюцца членамі Цэнтральнага Бюро «Маладняка». <...>

Зразумела, што гэткія літаратурныя бандыты не саромяцца сказаць, што Дубоўка чуць не кулацкі поэт і г. д. Я не думаю

разводзіць дыскусію з безадказнымі асобамі, якія саромяцца выступіць у друку пад сваім іменем, а проста зьвяртаюся да Цэнтральнага Бюро «Маладняка» з наступным запытаньнем:

Навошта гэта сістэматычна праводзіцца цкаваньне мяне і маёй творчасьці, чым гэта выклікаецца?

І ці зьбіраецца Цэнтральнае Бюро неадкладна даць у друку належнае апраўярджэньне гэтай злоснай клеветы і даносу, якія ўзведзены на мяне?

Калі Цэнтральнае Бюро таксама салідарызуецца з памянёнымі поглядамі памянёных членаў Цэнтральнага Бюро, прашу тады быць паступовымі да канца і прыняць пад увагу маю просьбу аб выхадзе са складу і арганізацыі і з ліку супрацоўнікаў часопісі.

Спадзяюся атрымаць адказ на працягу дзесяцёх дзён.

26 красавіка 1926 г. Уладзімір Дубоўка

*НАРБ. Ф. 4. Воп. 16. Спр. 58. Л. 1, 2.*

*Друкуецца паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 11–13.*

* * *

Вскоре техникум[216] стал одним из центров зародившегося молодежного белорусского литературного движения, проводимого организовавшейся в то время литературной организацией «Маладняк». Однако большевики быстро обратили внимание на новое движение, имевшее вначале ярко-выраженный национально-белорусский характер и широко разросшееся (до 500 действительных членов, завербованных в разных местах Белоруссии, около которых группировалась масса молодежи — для литературной только организации и для небольшой в большевистских границах Белоруссии цифра весьма значительная!). На первых же порах организация была отдана под строгую опеку комсомолу, стремившемуся сразу же использовать ее для своих целей и обратить в свою резервную культурно-пропагандистскую большевистскую организацию. По мере успехов комсомола в этом деле национально

настроенная молодежь теряла симпатии к «Маладняку», да и внутри самого «Маладняка» пошло брожение. Результатом последнего был выход в 1926 году из «Маладняка» ряда самых талантливых молодых писателей-беспартийных во главе с быстро развившимся в большой талант, наложивший отпечаток не только на молодых, но и на старых писателей, даже народных поэтов Купалу и Коласа, — поэтом Уладзімерам Дубоўкам. Вышедшая группа вскоре основала свою литературную организацию «Узвышша», поставившую своей целью работу над возвышением белорусской литературы до европейской, не снижаясь до «производства» нужных большевикам агитационно-злободневных литературных произведений. Такая цель не могла не импонировать каждому национально настроенному белорусу, желавшему служить своей родине в почти единственно дозволенной большевиками для работы области — области литературы. Она сразу же и привлекла меня к новой организации, и я под влиянием как всей близкой мне позиции организации, так и под большим личным влиянием и самого Дубоўкі[217] и особенно критика Адама Бабарэкі (моего близкого соседа по квартире к тому же) начинаю работать в области литературной критики, выступая вначале устно в защиту новой организации, а вскоре и печатаясь, сначала в выходившем под влиянием «Узвышша» литературном приложении «Чырвоны Сейбіт»[218] к самой распространенной в то время в Белоруссии газете «Беларуская Веска», а впоследствии — с 1927 года — и в собственном журнале организации под тем же названием «Узвышша»[219]. Вместе с этим я сразу же вступаю и в члены самой организации.

*А. Адамовіч. Мой счет им. Автобиография 1941 года. С. 720–725.*

* * *

На Беларусі была адна літаратурная арганізацыя — «Маладняк». Уваходзіў туды і я. Удзельнічаў у часопісе, быў некаторы час (прыблізна два нумары) рэдактарам гэтага часопіса, калі

прыязджаў у Мінск арганізоўваць выданне часопіса «Беларускі піянер». Тады ж быў адказным сакратаром ЦБ «Маладняка». Гэта арганізацыя прымала ў свой склад усіх, хто сяк-так мог рыфмаваць вершы, хоць бы гэтыя вершы былі далёкімі ад мастацтва. Па характару сваёй дзейнасці «Маладняк»ператварыўся ў культурна-асветніцкую арганізацыю. А хлопцы падраслі. Задумаліся некаторыя аб тым, каб даць у літаратуры што-небудзь вартае нацыі і эпохі. Пасля папярэдніх гутарак і абмеркаванняў надумаліся стварыць адмысловае літаратурна-мастацкае згуртаванне, якому далі назву «Узвышша». У ініцыятыўную групу ўвайшлі Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля, Язэп Пушча і я. Быў напісаны статут, дэкларацыя. Пададзены адпаведныя заявы ў ЦК КП(б)Б, у Наркамасветы. 26 мая 1926 года адбылася нарада, у якой прымалі ўдзел ад ЦК — М. Галадзед[220], ад СНК — Я. Адамовіч, ад Наркамасветы — А. Баліцкі, прадстаўнік ад ЦК ЛКСМБ, уся наша група і ад «Маладняка» — М. Чарот. Апошні спрабаваў даводзіць, быццам новая група ствараецца выключна таму, што «Дубоўка захацеў атрымаць партфель», гэта значыцца, стаць кіраўніком. Але здарылася так, што кіраўніком «Узвышша» стаў К. Чорны, намеснікам — К. Крапіва, сакратаром — А. Бабарэка, а я ўвайшоў толькі ў склад рэдкалегіі. Ды і то, жывучы ў Маскве, фактычна ўдзелу ў ёй не прымаў, хоць ніколі не адмаўляўся ад адказнасці ні за ўсё дрэннае, ні, зразумела, за ўсё добрае, што было зроблена згуртаваннем ці часопісам. У кожным разе легенда аб «партфелях» развеялася вельмі хутка. Пасля, праз некаторы час, ва «Узвышша» былі прыняты П. Глебка, М. Лужанін, С. Дарожны[221] і г. д.

*У. Дубоўка. Сярод людзей добрых // Полымя. 1963. № 1. С. 124.*

* * *

Ад літаратурнай старонкі «Савецкай Беларусі» зусім адагнаны маладыя і выдатныя паэты, якія знаходзілі мейсца для сваіх твораў у ёй раней (Серада[222], Глебка, Лужанін і г. д.).

Паасобныя таварышы з кіраўнічай групы праводзяць форменнае цкаваньне тых выдатных маладых пісьменьнікаў, якія маюць «сьмеласьць» не згаджацца з іх поглядамі на мастацтва і г. д. Зарэцкі, напрыклад, на сходах і выступленьнях вінаваціць усіх нягодных з яго поглядамі ў ідэолёгічных вывіхах.

А. Александровіч ідзе яшчэ далей: нязгодных з яго поглядамі ён не толькі вінаваціць у контррэвалюцыі, але палохае фразамі: «Мы вас знішчым» (конкрэтна выпадак меў месца ў адносінах да Я. Пушчы на публічным сходзе).

А. Дудар сьпецыялізаваўся ў выступленьнях супроць т. Дубоўкі. Выконваючы дырэктыву сваіх «правадыроў» і сам разыгрываючы «правадыра», ён заняўся лячэньнем «ідэолёгічна хворых».

Як зусім нармальны і зразумелы вынік з усяго сконставанага, ніжэйпадпісаныя таварышы лічаць сваю далейшую працу ў складзе «Маладняка» не мэтазгоднай. Зьмена кіраўніцтва, на якую мы маглі б прэтэндаваць і якую маглі бы мотывіраваць, вялікага зьмякчэньня не прынясе. Будзе паўтарацца старая народная прыказка пра двух катоў, якіх пасадзілі ў адзін мяшок: наверсе то той, то другі...

Адзіны выхад са становішча мы бачым у стварэньні самастойнай літаратурна-мастацкай групы, у далейшым — літаратурнага накірунку. <...>

6. Выходзячы з паданага на вашу увагу, мы зьвяртаемся да Вас з просьбаю.

Дазволіць нам, ніжэйпадпісаным, утварэньне новай літаратурна-мастацкай групы.

Дазволіць нам выданьне 2-х месячнай ці 3-месячнай часопісі (тэорыя літаратуры і крытыкі).

Спадзяёмся, што папярэдняя наша праца зьяўляецца вытараючым залогам таго, што і далейшая праца будзе плённай і карыснай для мэты ўтварэньня сапраўднай беларускай пролетарскай літаратуры.

З таварыскім прывітаньнем да Вас

У. Дубоўка (падаў заяву аб выхадзе з «Маладняка» 26/4-26)
Я. Пушча (Плашчынскі)

К. Чорны (М. Раманоўскі)
А. Бабарэка
З. Бядуля (далучаюся да пункту 6)
Крапіва (Атраховіч)
26 траўня 1926
г. Менск

*Зварот групы паэтаў-маладнякоўцаў у ЦК КПБ(б).*
*НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 72. Л. 7–12.*
*Цыт. паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 17, 18.*

* * *

Выхад першай групы на чале з Дубоўкам з'явіўся для мяне фактам нечаканым, але зусім зразумелым. <...> Праўда, у іх лісце ёсць яшчэ аб асабістых спрэчках, аб цкаванні друг друга. Гэта асабістае, і трэба быць занадта эгаістам, занадта драбязным чалавекам, каб падмяніць агульны інтарэс на асабістыя дразгі. Я гэтага не магу падумаць аб таварышах, якія выйшлі з Маладняка першай групай, акрамя Дубоўкі. Да другіх я адношуся з вялікай пашанай.

*П. Галавач. Ліст да П. Труса.*
*Цыт. паводле: Трус П. Выбраныя творы. С. 244.*

* * *

Дарагі таварыш Крыніцкі!

Выбачайце, што так доўга не адказваў на Ваш ліст. Мне хацелася як сьлед выясьніць прычыну гэтак званага «адколу» групы таварышоў-маладнякоўцаў. На вялікі жаль, грунтоўнай прычыны гэтай «сэцэсіі» так і не знайшоў. Я Вам дасылаю іх ліст, пасланы ў ЦК, а таксама і адказны ліст ЦБ «Маладняка». Другіх прычын, акрамя тых, што ў лісьце, яны не выстаўляюць. На агульным паседжаньні (разам з падаўшымі таварышамі аб выхадзе) мы так ні да чаго і не дагаварыліся.

Па-мойму, прычына расколу — асабістыя крыўды некаторых таварышаў з выйшаўшых. Затым, як гэта зазначана ў іх лісьце,

таксама яны падкрэслівалі і на сходах, гэта — адмаўленьне ад масавай арганізацыі, супроць палітасветнай працы, супроць увязкі працы літаратурнай з працай грамадскай. Яны за арганізацыю 8–10 чалавек «талентавітых адзінак». Безумоўна, ЦБ «Маладняка» ў тым складзе, якое зараз маецца, ніколі на гэта не згодзіцца, мы аб гэтым гаварылі з тав. Галадзедам, Ігнатоўскім і іншымі нашымі партыйнымі таварышамі. Мы нічога не маем супроць іх выдзяленьня, але бяром моцна курс на тое, каб іх зноў вярнуць у «Маладняк», хоць бы частку выйшаўшых таварышоў, больш здаровую. <...>

Са шчырым таварыскім прывітаньнем М. Чарот

19.6.1926

*М. Чарот. З ліста да першага сакратара ЦК КПБ(б) А. Крыніцкага. НАРБ. В. 4. Воп. 21. Спр. 71. Л. 16 – 16 адв. Цыт. паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 19, 20.*

* * *

*Прыспусціліся ў даліну з узвышша*
*Каб узьняцца і зноў і — вышай*[223].

Адсюль слова «ўзвышша» й было ўзятае за назоў новага літаратурнага згуртаваньня і само «ажыўленства» неўзабаве прыняло назоў «узвышэнства».

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 680.*

* * *

Калі яшчэ ў «Маладняку» пачала вызначацца група паэтаў і пісьменьнікаў, якія палагалі ўсю сутнасьць літаратурнай працы на стварэньне высокамастацкіх твораў, сугучных сучаснасьці па зьместу і новых па форме, я стаў на старану гэтай групы, тым больш, што гэту групу складалі таварышы, з якімі я быў звязаны больш, чым з іншымі таварышамі, і асабістым калега-

ваньнем. Гэта былі У. Дубоўка, Яз. Пушча і К. Чорны. З малодшых таварышаў да іх прымыкалі П. Глебка, М. Лужанін, С. Дарожны. У далейшым да гэтай групы далучаўся Крапіва, які ў «Маладняку» займаў некалькі асобнае месца.

З гэтаю групаю і я выйшаў з «Маладняка» ў маі месяцы 1926 г. дзеля таго, каб практыкай працы літаратурна-мастацкага згуртаваньня «таленавітых адзінак» давесьці правільнасьць свайго разуменьня шляхоў утварэньня пралетарскай літаратуры. Іншыя мае погляды знайшлі сабе выражэньне тады ў складзеных мною «Тэзісах да ўтварэньня "Узвышша"» («Узвышша» № 1 за 1927 г). <...>

Перад тым, як вылажыць, якую навуку вынес я з гэтай другой ступені і з чым я увайшоў у рэканструкцыйны кругабег, я падам факты мае працы ва «Узвышшы».

Выхад з «Маладняка» адбываўся ў такім парадку: сьпярша выйшла група ў складзе пяцёх таварышаў (я, У. Дубоўка, Крапіва, Яз. Пушча, К. Чорны), падалі ў ЦК КП(б)Б адпаведную заяву з матывамі выхаду і просьбаю дазволу заснаваць новую арганізацыю. Праз некалькі дзён выйшла другая група (П. Глебка, С. Дарожны, М. Лужанін і П. Трус[224], які потым вярнуўся назад у «Маладняк»). Пры падачы дадатковай заявы ў ЦК гэта група падпісала яе разам (да гэтай заявы далучыўся З. Бядуля). Праз колькі дзён выйшаў з «Маладняка» В. Шашалевіч і прымкнуў да новае групы. Так з гэтых дзесяці асобаў утварылася згуртаваньне «Узвышша», згода на ўтварэньне якога ад ЦК была атрымана, здаецца, у чэрвені м[еся]цы 1926 г.

З гэтай даты пачыналася арганізацыйнае афармленьне новага аб'яднаньня і актыўная праца ў гэтай галіне выпала на маю долю. Заявы ў ЦК, тэзісы, узгадненьні з аддзелам друку (на чале якога тады быў Алесь Адамовіч), афармленьне статуту — уся гэта работа выконвалася, такім чынам, мною.

Пры канструяваньні органаў згуртваньня я быў выбран сакратаром Прэзідыуму (старшынёй быў абраны К. Чорны, намесьнікам Крапіва), членам рэдкалегіі часопісі «Узвышша»

(двумя другімі членамі рэдкалегіі былі абраны К. Чорны і У. Дубоўка). Прадстаўніком ад ЦК КП(б)Б у склад рэдкалегіі быў вылучан Шукевіч-Трацьцякоў[225] (рэдактар «Беларускай вёскі»).

Пасьля арганізацыйнага афармленьня згуртаваньня ўся асноўная праца была перанесена на выданьне часопісі «Узвышша». Асноўны цяжар рэдакцыйнай працы па часопісі выпаў на маю долю. Мая кватэра[226] за няйменьнем памяшканьня для рэдакцыі ператварылася фактычна ў рабочую рэдакцыю час[опісі] «Узвышша», будучы ёю аж да моманту арганізацыі Дому Пісьменьніка, куды перайшла і рэдакцыя «Узвышша». Да таго ж усе першыя тры гады ні рэдакцыя, ні згуртаваньне мела платнага работніка, а гэта таксама не магло не адымаць лішняе ўвагі што да працы ў рэдакцыі.

У «Беларускай вёсцы»-ж, дзе працаваў К. Чорны, у пакоі рэдактара Шукевіча-Трацьцякова адбываліся нарады рэдкалегіі, якія давалі кірунак часопісі і канчаткова рашалі выпуск таго ці іншага матар'ялу у часопісі. Тут-жа рабілася і экспэдыцыя часопісі. <...>

«Узвышша» ў сваім асноўным ядры (я мысьлю Ул. Дубоўку, Яз. Пушчу, Крапіву, К. Чорнага), выйшаўшы з «Маладняка», праціваставуляць мастацкасьць свае творчасьці, якая вызначалася адносна высокай якасьцю, адносна слабай мастацкай творчасьці «Маладняка», прынамсі, яго асобных прадстаўнікоў. «Узвышша» павяло спрэчку з гэтымі асобамі пра мастацкую якасьць пралетарскага твору. <...>

*А. Бабарэка. З паказанняў А. Бабарэкі па справе СВБ ад 23/8–1930.*
*Цыт. паводле: Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. С. 504.*

* * *

## СЬПІС
### сяброў прэзыдыуму згуртаваньня «Узвышша»

| № | Прозьвішча і імя | Грамадзкае і службовае становішча пачынаючы з 1914 году | Узрост | Партыйн. | Сацыяльнае і маёмасн. становішча | Судзімасьць | Зьвесткі пра выбарачае права | Адрас |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | КУЗЬМА ЧОРНЫ (Раманоўскі Мікола Карлавіч) — старшыня | З 1914–1920 вучыўся, з 20–1922 Чырв. Армія, з 1922–24 — студ. БДзУ, з 1925 і па гэты час працуе ў рэдакцыі «Бел. вёска» | 29 | Беспарт. | Літаратар (з сялян) маём. ня мае | Не судзіўся | Выбарчым правам карыстаецца | Вул. Чырвонага сьцягу, 6, кв., 1, Менск |
| 2 | АДАМ БАБАРЭКА — сакратар | З 1914–17 — вучыўся, з 17–22 — працаваў у тэхніч. майстэрн. земсаюзу, быў настаўнікам, партызанам, загадваў Нарасветай у воласьці, быў у Арміі (21 брыгада ВЧК), з 22–26 студэнт БДзУ, праца ў рэд. «Сав. Бел», Ком. Унів., літ. орг. | 29 | | | | | Гарбарная, 18, Менск |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | КРАПІВА (Атраховіч Кандрат) — намесьнік і скарбнік | 1914–15 — вясковы настаўнік, 1915–18 — армія, 18–20 вяск. настаўнік, 20–23 — Чырв. Армія, 23–24 — займаўся на с/гасп, з. 24–25 вяск. наст., з 25–27 Інбелкульт і студэнт БДзУ. Зараз таксама студэнт БДзУ | 33 | | | | | Стара-Загарадны завулак, № 3, кв. 2, Менск |

Старшыня згуртаваньня Чорны
Сэкратар Бабарэка

*Цыт. паводле: Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. С. 546–547.*

* * *

СЬПІС
сапраўдных сяброў Беларускага літ-мастацкага згуртаваньня «Узвышша»

| № | Псэўдонім і прозьвішча | Род творчасьці | Увага |
|---|---|---|---|
| 1 | Адамовіч Антон | Крытык | |
| 2 | Адам Бабарэка | | |
| 3 | Зьмітрок Бядуля (Плаўнік) | Паэт і празаік | |
| 4 | Пятро Глебка | Паэт | |
| 5 | Сяргей Дарожны (Серада) | Паэт | |
| 6 | Уладзімір Дубоўка | —//— | |
| 7 | Уладзімір Жылка | —//— | |
| 8 | Т. Кляшторны | —//— | |
| 9 | Лукаш Калюга (Вашына) | Празаік | |
| 10 | Крапіва (Кандрат Атраховіч) | Сатырык | |
| 11 | Фэлікс Купцэвіч | Крытык | |
| 12 | Максім Лужанін (Алесь Каратай) | Паэт і крытык | |
| 13 | А. Мрый (Андрэй Шашлевіч) | Празаік | |
| 14 | Язэп Пушча (Плашчынскі) | Паэт | |
| 15 | Кузьма Чорны (Раманоўскі) | Празаік | |
| 16 | Васіль Шашлевіч | Драматург | |

Старшыня згуртаваньня Чорны

Сакратар Бабарэка

*Цыт. паводле: Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. С. 546–547.*

* * *

Нязьменна застаючыся на платформе пралетарскай ідэалогіі, мы выйшлі з «Маладняка» 27 травеня г. г. не згаджаючыся з метадамі працы арганізацыі і яе характарыстыкай сучаснага становішча беларускай пралетарскай літаратуры.

*З ліста ўзвышаўцаў у «Савецкай Беларусі» ад 10/06-1926.*

* * *

Дакладная дата арганізацыі «Узвышша» — 26 мая 1926 г. Мы гэты дзень адзначалі штогодна. Нават у беларускіх адрыўных календарах (былі такія!) гэта дата паказвалася як афіцыйная дата.

Тое, што ў «Сав. Бел.» за 10-07-26 сказана «27 травеня», нічога не мяняе. Проста паставіў нехта з памяці. З такім жа поспехам мог паставіць «25» альбо «28».

На пасяджэнні 26 мая я быў, было маё адказнае выступленне. Але — паколькі я выйшаў з «Маладняка» раней — у ліку падаўшых заяву перад тым сходам мяне, зразумела, няма.

Тыя, хто падаў заяву, не прасілі дазволу выйсці з «Маладняка». Яны заявілі аб выхадзе. А «Маладняк» ужо запісаў у сваю павестку, нібыта ён можа вырашыць гэтае пытанне станоўча ці адмоўна.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 17/12-1973 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 222.*

* * *

У 1926 годзе 26 мая Узвышша заснавалі: Бабарэка А., К. Чорны, Крапіва, Пушча, Бядуля і я. Больш нікога не было, а на нарадзе з прадстаўнікамі ЦК — не было і Бядулі.

Пералічаныя мною сябры распрацавалі ўсе тэзісы, падпісалі ўсе дакументы, пасля чаго я і паехаў у Маскву (фактычна — з той нарады на вакзал).

Ужо ў Маскве я даведаўся, што без мяне прынялі ва Узвышша Глебку і Лужаніна. Яшчэ потым — прынялі іншых сяброў.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 14/04-1970. Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Совершенно секретно[227]

<...> Социально классовый анализ литературной продукции как вышедших писателей, так и оставшихся в «Молодняке», а также заявления вышедших товарищей указывают на раз-

витие, правда, пока только слегка намечающихся в их творчестве двух тенденций: а) часть писателей при всей субъективной искренности заявлений работать над укреплением дела пролетарской диктатуры и работать под руководством коммунистической партии обнаруживает на деле вместо претворения субъективной революционности в сознательную пролетарскую идеологию удаление от линии рабочего класа в литературе. <...> Также нужно отметить в отношении содержания произведений этих товарищей наличие настроений упадочных; б) другая основная часть писателей «Молодняка» обнаруживает в своих произведениях постепенное приближение к усвоению классово-пролетарской идеологии.<...> Творчество этих писателей носит реалистический дух, близкий к пониманию масс. <...>

Характерно то, что все до одного вышедшие товарищи — не члены партии и не комсомольцы. <...>

Бюро ЦК КПБ не возражает против организации особой литературной групы вышедшими из «Молодняка» писателями, а также против издания этой группой своего литературного журнала и поручает отделу печати рассмотреть платформу этих товарищей.

*Рэзалюцыя Бюро ЦК КПБ ад ад 13/08-1926.*
*НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 18. Л. 133–136.*
*Цыт. паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 29–32.*

* * *

Слухалі: аб прадстаўніку ЦК у літаратурную групу «Узвышша».

Пастанавілі: зацьвердзіць прадстаўнікам ад ЦК у літгрупу «Узвышша» т. Шукевіча-Траццякова.

*З пратакола паседжання бюро ЦК КП(б)Б ад 6/09-1926.*
*НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 15. Л. 152.*
*Цыт. паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 35.*

* * *

Мяне, відаць, не памылюся, калі скажу — і маіх сяброў, прыцягвалі да выйшаўшых раней таварышаў іх літаратурныя

магчымасці. Невычэрпнасць, з якою разготваў новыя рэчы, поўныя трапяткога чалавечага пачуцця, Кузьма Чорны. Нязвыклыя, але самі прыпадаўшыя да памяці радкі Уладзіміра Дубоўкі... Непасрэдныя і частыя сустрэчы з Чорным, Дубоўкам, Крапівою кожны раз давалі штуршок наперад, магчымасць зазірнуць у творчую лабараторыю іх абавязвала старацца, а практычныя парады, заўвагі па творах змушалі дбаць аб неабходнай патрабавальнасці.

*М. Лужанін. Гэтак яно рабілася. С. 148.*

* * *

Высьцярагаючыся масавасьці, якая, як паказала практыка «Маладняка», дае лёгкія магчымасьці да апанаваньня казённым, урадава-партыйным кіраўніцтвам, «Узвышша» паставіла каля сабе якраз літаратурны бар'ер, зрабіўшы ўмовамі ўваходу ў арганізацыю наяўнасьць у сябра выяўленых ужо літаратурна-творчых здольнасьцяў. <...> Што асабліва юшыла пры гэтым прадстаўнікоў афіцыйнае грамадскасьці, дык гэта тое, што такі арганізацыйны прынцып не даваў магчымасці мець ва «Узвышшы» сваіх людзей для «нагляду» й «кіраўніцтва». У «Узвышшы» ня было ніводнага камуністага партыйца і паслаць яго туды было нельга: «арыстакратычны» прынцып здольнасьці не дапушчаў у арганізацыю бяздарнасьцяў, а нічога іншага ў камуністых, нажаль, ня было пад рукамі.

Але апрача гэтага «арыстакратычнага» прынцыпу здольнасьці дужа непрыемным для «кіраўнікоў» зьявіўся і прынцып згуртаванасьці, які «Узвышша» сведама выставіла як новы арганізацыйны прынцып, назваўшы гэту арганізацыю згуртаваньнем. Праўда, самы стрыжань гэтага прынцыпу — прынцып аўтарытарнага правадырства — ня мог быць легальна сфармуляваны й выяўлены, але фактычна й людзі, далёкія ад «Узвышша», і ворагі нават добра ведалі, што «Узвышша» створана, кіруецца й, безумоўна ды згуртавана падпарадкуецца волі аднаго чалавека[228], паэтычная творчасьць якога — найвыдатнейшая зьява ў беларускай літаратуры таго

часу — усьпесьціла самую ідэю узвышэньня, хоць афіцыйна гэты чалавек і ня быў за старшыню згуртаваньня, і ня меў у ім ніводнае афіцыйнае пасады, якіх, праўда, у «Узвышшы» было наогул вельмі мала.

Так арыстакратычны прынцып здольнасьці, згуртаваньня, эліты пад адным правадырствам стварыў з «Узвышша» зусім новую й арыгінальную зьяву на беларускім грунце, у ідэялёгічным абгрунтаваньні зусім блізкую да нацыянальных ідэялёгіяў новага часу. «

*А. Адамовіч. Узвышэнства як беларуская нацыянальная ідэалёгія. С. 294.*

* * *

Пасьля адыходу «Узвышша» «Савецкая Беларусь» засталася нашым «аплотам», і «ўзвышаўцы», такім чынам, былі зусім выціснуты з усякага перыядычнага друку.

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ. Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 59.*

* * *

Як вядома, у 26 годзе больш сталыя паэты і пісьменнікі выйшлі з «Маладняка» і ўтварылі новае аб'яднанне «Узвышша». І сталі выдаваць свой часопіс пад такой назвай. Рэдагавалі яны яго без зарплаты пасля асноўнай работы. Калі выходзіў нумар, дзяжурылі ў друкарні па пару чалавек па чарзе, нават начамі. Як матка любіць і песціць сваё дзіця, гэтак яны любілі сваё «Узвышша».

Колькі было радасці, калі выйшаў першы нумар часопіса! Усе пайшлі ў рэстаран, пілі шампанскае. А колькі гаворкі было! Светла-шэрага колеру, у цвёрдай вокладцы, — яны гладзілі яго, перагортвалі.

*С. Плашчынская. З дзён далёкіх і блізкіх. С. 392.*

* * *

Пратакол № 16
паседжаньня пленуму ЦБ Маладняка ад 06.10.26 г.

Присутныя: Чарот, Дудар, Зарэцкі, Александровіч, Аляхновіч, Касьпяровіч, Галавач. <...>

Слухалі:

4) Адносіны да «Узвышша»

Пастанавілі:

Забараніць маладнякоўцам супрацоўніцтва ў часопісу «Узвышша», пакуль не выявіцца твар часопісу.

*БДАМЛМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 3. Л. 034.*

* * *

Беларускія савецкія літаратурныя часопісы «Маладняк» і «Полымя»[229], а таксама газэты адразу байкатавалі пісьменьнікаў «Узвышша». Выняткам быў адзін «Чырвоны сейбіт» — літаратурны дадатак да сялянскае газэты «Беларуская вёска», аднак тут ня было шмат поля для разьвіцьця з прычыны абмежаванага да вёскі кола чытачоў, а таксама з прычыны малога памеру й рэдкага выхаду дададку.

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 685.*

* * *

Узвышэнцы, безумоўна, маюць вострыя ўхілы ўбок ад грамадскіх сучасных матываў, Я. Пушча і У. Дубоўка не ў меру шчыра трымаюцца пустое й хілкае плыні, якая точыць маладую расійскую літаратуру, плыні фармалізму. Захапленьне сухою вобразнасьцю немінуча прыводзіць да выветрываньня ня толькі рэвалюцыйнай ідэалёгіі, а і ўсякага зместу.

*З. Жылуновіч. Літаратурныя падзеі ў 1926 годзе // Полымя. 1927. № 1.*

* * *

Некаторыя творы Уладзіміра Жылкі[230] я чытаў яшчэ ў 1924–1926 гадах, але асабіста пазнаёміўся з ім у 1927 годзе і сустракаўся час ад часу да 1930 году. Кажу «час ад часу», бо я жыў у Маскве, а ён, пасля заканчэння Пражскага ўніверсітэта, прыехаў у Савецкую Беларусь і жыў да 1930-га года ў Мінску. Адно лета (1928 год) я жыў з ім у вёсцы Забылінне[231] (каля Каралішчавіч), у якой летавалі таксама Адам Бабарэка і Кандрат Крапіва.

*У. Дубоўка. Кароткі ўспамін (пра Уладзіміра Жылку). БДАМЛМ. Ф. 12. Воп. 18. Спр. 1062.*

* * *

Паводле ўзвышэнскай традыцыі, кажны новапрыйманы сябра мусіў мець сабе «хроснага бацьку» з узвышэнцаў, абавязанага рэкамендаваць яго гадавому сходу ў вадмысловым дакладзе; гэткім «хросным бацькам» Калюгі[232] выпала быць ягонаму аднагодку, тады яшчэ маладому ўзвышэнскаму крытыку Антону Адамовічу (Ул. Жылку «хрысціў» У. Дубоўка, А. Мрыя — К. Крапіва, Ф. Купцэвіча[233] — А. Бабарэка).

*А. Адамовіч. Лукаш Калюга. Нядоля Заблоцкіх. С. 490.*

* * *

Выпадкова я даведаўся, што ў рэдакцыі газет «Савецкая Беларусь» і «Звязда» паступіў ліст вышаўшых з «Маладняка» таварышоў, пад якім стаіць маё прозьвішча. Лічу патрэбным заявіць, што ліста гэтага я ня бачыў, не падпісваў і выходзіў я з «Маладняка» зусім не па тых прычынах, якія ўказаны ў лісьце. Пасьля некаторых разважаньняў я лічу свой выхад памылкаю і дзеля гэтага зноў уступаю ў шэрагі аб'яднаньня «Маладняк».[234]

*Паўлюк П. Трус. Ліст у рэдакцыю «Савецкай Беларусі». 10/10-1926.*

* * *

*Сябру Дубоўку*

Атрутны сьмех,
Як нож балючы.
Як лісьце восені ў крыві.
Сягоньня ты
Вянком калючым
Мае усьмешкі апавіў.
Дакорам генія і славы
Ты кінуў з гордасьцю у твар.
Я чуў твой голас «велічавы»:
«Ў жыцьці нічога ён... ня варт».
Ну што ж? Няхай...
Знаёма й гэта...
Я шчыра дзякую табе,
Што над нікчэмнасьцю поэты
Ты заспакоіў хоць сябе.
Няхай і так...
Хоць, можа, й рана
Лаўровы ўеш сабе вянок?..
Але ты сэрца
Мне параніў,
Калі на словы прывітаньня
Дакорам кінуў за вакно.
Ну што ж? Няхай...
Хоць мне й балюча:
Душа сьмяецца
І ў крыві...
Бо на шыпшыньніку калючым
Я сэрца ў радасьці спавіў.

*Паўлюк Трус. 15/10-1926.*

*Цыт. паводле: Запартыка Г.*
*Два вершы са спадчыны П. Труса //*
*Скарыніч. Вып. 4.*

* * *

Дарагі братка Пятрусь!

Прывітаньне табе з Масквы ад мяне і Уладзіка. Ён дужа не задаволены, што ты ня прыехаў і раіць цябе, калі маеш толькі магчымасьць даехаць да Масквы (грошы на білет) паправіць гэта. Тут нядаўна быў Кузьма, гасьцяваў блізка тыдзень.

*А. Адамовіч. З ліста да П. Глебкі ад 30/1–1927 //*
*Скарыніч. Вып. 4. С. 103.*

* * *

Праз увесь 1927 год «Маладняк» вёў барацьбу з «Узвышшам» як носьбітам дробнабуржуазнай і нацыяналістычный ідэалёгіі ў літаратуры, а ў самым «Маладняку» сгушчалася нацыяналістычная атмасфера. Асабліва вакол кіраўнічай групы. К гэтаму часу на грунце супольнай барацьбы з «Узвышшам» мы больш зблізіліся з Жылуновічам і з часопісьсю «Полымя».

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 53.*

* * *

Ты сам добра ведаеш, што я стаю зусім не на платформе «Маладняка». Але мяне прымусілі тады вярнуцца ў «Маладняк». Цяпер я ня ведаю, што мне рабіць. Што я выйду з «Маладняка» — гэта факт. Але ня ведаю аднаго, ці прымуць мяне цяпер у «Узвышша» пасьля таго, як я вярнуўся тады ў «Маладняк». Ты пагавары там з Бабарэкам аб гэтым... І безумоўна, калі я цяпер выйду з «Маладняка», то больш туды я ніколі не вярнуся. Гэтая думка была ў мяне і тады, калі мы разам з табою выходзілі. Але мяне прымусілі гэта зрабіць...

*Ліст П. Труса да П. Глебкі ад 27/11-1927 //*
*Трус П. Выбраныя творы. С. 244.*

* * *

Усё ж, калі выясьнілася справа, якім чынам ты быў адарваны ад «Узвышша», погляд трохі зьмяніўся. Думаю, што за выключэньнем Дубоўкі, мала хто будзе пярэчыць твайму паступленьню. А Дубоўка будзе пярэчыць таму, што ён страшэнна паважае «Узвышша», баіцца ўсякіх унутраных раздораў, аслабленьня спайкі, а па-другое, ён хлопец горды і часамі з «мухамі ў носе». Я пагавару ў самым скорым часе і напішу табе аб выніках.

*Ліст П. Глебкі да П. Труса ад 22/11-1927.*
*Цыт. паводле: Трус П. Выбраныя творы. С. 288.*

* * *

Цяпер аб уступленьні ва «Узвышша». Яшчэ раз прашу цябе пагаварыць з хлопцамі і скора дай мне адказ. З тым, што ты мяне вінаваціш у маёй слабасьці і хістаньні, я поўнасьцю згодзен з табою. Але павер мне ад шчырага сэрца, што іначай я зрабіць ня мог. Я табе не гаварыў яшчэ аб той траўлі, якая была накіравана супраць мяне. Мая віна, праўда, віна суб'ектыўнага характару, што ў той час я не знайшоў падтрыманьня з боку сваіх таварышоў, як Бабарэка, Дубоўка і інш. Гэтага падтрыманьня я і ня мог шукаць, бо справа была камсамольская...

*Ліст П. Труса да П. Глебкі.*
*Цыт. паводле: Трус П. Выбраныя творы. С. 197.*

* * *

*Уладзіміру Дубоўку*

Задрыжала зара,
і пачуўся дзесь крык,
а пасьля — зноў маўкліва наўкола.
Вочы ярка гараць,
рукі сьцяты накрыж –
сэрца штосьці трывожыць і коле.
Ты далёка цяпер,
і адзін я стаю,

думкі мкнуцца і падаюць градам.
Я вітаю цябе
за імклівасьць тваю
і у песьнях вялікую радасьць.
Не бядуй, мусіць, лёс,
мусіць, доля, такі,
што адным нам палаць у імкненьнях.
Зашумела гальлё,
і хмурнее блакіт
і хмурнеюць мае летуценьні.
Ну і што ж – дагарым,
толькі сонца няхай
не заходзіць на захадзе болей, –
лепш няхай на гары,
дзе паўстане наш край,
рассыпае іскрынкі на поле!

*Паўлюк Трус. 26/03-1927.*
*Цыт. паводле: Запартыка Г.*
*Два вершы са спадчыны П. Труса //*
*Скарыніч. Вып. 4.*

* * *

З Уладзімірам Мікалаевічам мы пазнаёміліся ў Беларускім клубе[235], куды нас, настаўнікаў-беларусаў, запрасілі займацца беларускай мовай. Кіраваў гэтымі заняткамі Уладзімір Мікалаевіч. Пасля заняткаў мы з ім падоўгу блукалі па Маскве, дакладней, ён праводзіў мяне, а дарога ад Арбата да Старой Сіманаўкі[236] далёкая. Хадзілі мы па тэатрах, канцэртах... і пачаўся новы перыяд майго жыцця, нераздзельны ад яго лёсу.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 207.*

* * *

Пры Цэнтральным Беларускім Клюбе ў Маскве організавалася асоцыяцыя па вывучэньні беларускае мастацкае літаратуры.

Ініцыятарамі-заснавальнікамі зьяўляюцца т. т. Марыя Багдановіч, Юры Бярозка, Уладзімер Дубоўка, М. Дуброўскі, М. Калевіч, А. Труновіч, П. Шастакоў, К. Якаўчык і інш. Адбыліся арганізацыйныя сходы, на якіх разгледжаны і зацьверджаны плян бліжэйшае працы, а таксама выбраны адказны сэкратар асоцыяцыі (Юры Бярозка).

*Узвышша. 1928. № 1. Хроніка.*

* * *

Я была супраць рэгістрацыі нашага шлюбу з Уладзімірам Мікалаевічам, казала: «Гэта не зменіць нашых адносін». Але ён настойваў[237]. У далейшым яму гэта спатрэбілася: пры перадачах у турму, пры дазволах на спатканне і г. д.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 203.*

* * *

Напрыканцы 1927 года ягоны фактычны лідар, Уладзімір Дубоўка, заявіў, што «Узвышша» будзе прызнаваць кіраўніцтва Камуністычнае партыі толькі «ў магчымым для сябе кірунку й формах».

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 697.*

* * *

З грамадскай працай «Узвышша» і не думала парываць, спадзяючыся праводзіць яе і надалей пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, у магчымых для сябе кірунку і формах — у галіне літаратуры, у формах літаратурна-мастацкіх згуртаваньняў.

*У. Дубоўка. «Узвышша».*
*Артыкул для двухтыднёвай старонкі «Гудка» «На Беларусі».*
*«Гудок». 1927. № 814/2099/7. 22 мая.*

* * *

30

Потым я паехаў да Цеснавока[238]. Напіўся ў іх гарбаты.

Жонка яго не маладзенькая, але даволі сімпатычная, росту высокага, чарнявая. Відаць, разумная. Гаварыла троху пабалотнаму, але больш па-панску. У справах балотных, здаецца, добра арыентуецца. Яна настаўніца, родам з-пад Целяпеніч на Галыншчыне. Была ў нетрах паўночных.

31

З Цеснавокам паехалі ў балотны пададдзел Мінімальнага Аддзелу да сябра Вялікадня.

Сядзелі там дужа доўга, а чалавек 10 інтарасантаў чакалі за дзвярмі, аб чым я даведаўся лішне позна, калі ўжо выходзіў.

А Вялікадзень жа ведаў, што яны там чакаюць, — і тым часам не спяшаўся кончыць гутарку з намі.

Але не столькі было гутаркі аб справе, сколькі спрэчак Цеснавока і Вялікадня аб «Купіне» і «Каганцы» і аб артыкуле Асінкі, якому заказаў яго сябар Вялікадня для балотнае бібулы, што тут мае выйсці, але цнуць адмовіўся, бо артыкул прыхільны да «Купіны».

І шмат рознага глупства было гаворана.

Справа: пюпітр у Мяцісах гэтымі днямі разглядае «Найвышэйшае начальства», калі зацвердзіць, тады ўсё будзе.

У Далёкай Краіне ёсць 12 балотных школ, мяркуюць, што ўвосень будзе 31. У Аляксандра-Неўшчыне адчыняецца балотны тэхнікум выхавацеляў.

Вялікадзень дэкляраваў гэтымі днямі выслаці ў Пячуркі белабэсціянскія лемантары.

Магазін з літаратураю мінімалаў быў зачынены. У вітрыне ёсць і балотныя кніжкі, і слоўнік Скнарага і Цемналесца.

32

Адтуль пайшлі па вуліцы і спыніліся каля кнігарні, дзе танныя кніжкі. Зайшлі.

Доўга капаліся там, але я купіў сабе толькі дзве кніжачкі, чытаць у дарозе: «Жыццё ў кветках» А. Франса і «Вучань» П. Буржэ.

33

Потым паабедалі ў прыватнай, нажаль, страўні. <...>

34

Потым мы з Цеснавокам галіліся і фатаграфаваліся. Ён зацягнуў мяне па дарозе, хацеў выбраць негатыў, што снімаўся з жонкаю, а потым мы фатаграфаваліся. <...>

52

Дабраўся да Цеснавока, аж ён якраз сабраўся выхадзіць, ішоў у Балотную кантору гаварыць з Пераскокам, бо дачуўся, што яго, без яго, хочуць перавесці на працы ў Камунацэнтр, шукаюць яму там пасаду.

Дарогаю ён казаў, што на яго пасаду (перакладчыка) хочуць, здаецца, пасадзіць Буркайлу ці Шаўцовіча, і што гэта будзе вельмі дрэнна, бо, па-першае, праца сур'ёзная, а па-другое — трэба ўсё ж быць паважным прадстаўнікам балотных працаўнікоў.

53

Далей, пакуль ішлі да траму, я хваліў яго, што ён адружыўся, і што дружына яго можа быць добрым яму таварышам у жыцці, і што добра, што ён кінуў піць і нават курыць.

Ён сказаў, што да такой жонкі якраз і прыглядаўся.

<...>

65

Там быў Былка. У баллітаратурных справах разбіраецца зусім добра. Высока ставіць Цеснавока, затым — Босага.

*М. Гарэцкі. Кіпарысы. С. 427–437.*

* * *

Дый мы ‘шчэ самі не дайшлі
Да нейкай высшае культуры...
Пакінем вёску, паглядзім
На сёньняшнюю літэратуру.
Прыложым долу галаву, —
Мы гутарку сялян пачуем:
«Чытаем толькі Крапіву,
Купалу, Коласа, Бядулю».
А рэшта дзе?! Яшчэ адказ:
(Адказ, бадай зусім да толку)
«Культурны сёньняшні парнас
Чытае аднаго Дубоўку».

*Т. Кляшторны. Калі асядае муць // Узвышша. 1928. № 2.*

* * *

Бацькі нашы заўсёды асуджалі практыцызм. Калі бацька казаў: «Ну, гэта практычны чалавек» або «Гэта практычныя людзі», значыць, з яго пункту погляду, гэта адмоўныя тыпы. Лічылася, што дзеля таго, каб дзеці не выраслі практычнымі, ім нельга даваць грошай, але трэба забяспечваць усім неабходным. Ну што ж — гэта ім удалося. Ва ўсякім разе, свякруха мая здзіўлялася маёй непрактычнасці ў пачатку майго замужжа...

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 203.*

* * *

Между «Узвышша» и частью писателей очень плохие отношения на почве лит. работы. Эта история тянется еще с того времени, когда я работал в «Молодняке». С некоторыми «узвышевцами», как Дубовка, К. Чорны, я даже не здороваюсь. Зарецкий также не здоровается с Дубовкой. Этого же придерживается и Александрович. Часть бел. писателей считает

организацию Узвышша зараженной кулацкими настроениями и имеющей много непролетарских элементов.

*А. Дудар. Паказанні 1929 года.*

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 40.*

* * *

У кніжніцы «Узвышша» выдаецца другім выданьнем кніжка поэзіі Ўладзімера Дубоўкі «Наля»[239]. Першае выданьне «Центриздата народов СССР» (у Маскве за 1927 г.) разышлося.

*Узвышша. 1927. № 4. Хроніка.*

* * *

Цяпер Дубоўка жыве ў Маскве.

Над яго сталом вісіць у тоненькай дзеравянай асадцы невялікая малёваная алеем карцінка. Мастак невядомы. Урэшце гэта апошняе ня мае значэньня.

На малюнку некалькі бярозак, восень і шэрае неба. Толькі што прайшоў дождж, і бярозкі празрыстыя, як вэлюм.

З малюнкам Дубоўка не разлучаецца. Возіць яго з сабою пры «пераездах» з Масквы і шануе.

За вокнамі Дубоўкавай кватэры разьмясьціліся Грузіны. Грузіны — гэта вуліца. Зімовымі вечарамі Грузіны спакойныя і павольныя, як эпос. Пахаджане тут пападаюцца куды радзей, як ліхтары, а ліхтары — радзей, як патрэба ў іх.

І ўсё-такі Грузіны не провінцыяльныя. Мусіць таму, што паўнеба над імі ахоплена электрычным водбліскам. Ён узьнікае разам са змрокам. Магутны і нярухомы, ён стаіць над дахамі, як вялізарны ветразь.

Аднак ён зусім як сапраўдны, і да яго прывыклі тут, як да спэцыфічнай каробкі.

А ў пакоі на чацьвёртым паверсе дымяцца бярозкі...

І пішуцца вершы. <...>

Калі-б Дубоўка ня быў поэтам, ён быў бы мэліоратарам, аграномам, інжэнэрам.

Ён натхнёна пракладваў бы чыгуначнае палатно ў непралазнай блытаніне ствалоў[240], карэньня, гальля. Ён рабіў бы гэта ня горш, як цяпер робіць вершы.

Разбураючы адвечнае, мёртвае харавство палескага балота, ён з зьвярынай энэргіяй пракопваў бы адводныя канавы. На адваёванай, асушанай зямлі ён залюбаваўся-б выразнай і напорнай работаю трактара.

*Ю. Бярозка. Дубоўка. Літаратурны партрэт // Узвышша. 1928. № 2. С. 123.*

* * *

Прапрацаваўшы два гады ў Сібіры, я зноў вярнулася ў Маскву і працавала настаўніцай спачатку ў школе ў Сіманаўскай слабадзе, а пазней, калі выйшла замуж і стала жыць на Малой Грузінскай, перайшла ў школу на Смаленскай плошчы, бліжэй да дому. У Маскве, у школе, дзе я працавала, асаблівая ўвага надавалася вывучэнню дзіцяці: спадчыннасць, фізічнае развіццё, здароўе, умовы жыцця, разумовае развіццё. Школа была вялізная, паралельна класаў 12, і вучні размяркоўваліся паводле разумовага развіцця[241]. Гэта была вельмі цікавая, эксперыментальная праца.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 207.*

* * *

Пазней я не прамінаў нічога, напісанага Уладзімірам Дубоўкам. Сама сабою запомнілася паэма «Там, дзе кіпарысы»[242] (1925). Усё ў ёй было незвычайнае: экзотыка ніколі не бачанага Чорнага мора, Ай-Петры, хлапчук, што «кусаў на сонцы памідор»[243]. Геаграфія нашай паэзіі, абмежаванай рамкамі роднай вёскі, адразу пашырылася. Зачараваў натуральны, ёмісты і дакладны верш, шырокае дыханне рытму, жывая і вобразная лексіка. Гэта я так разумею цяпер, а тады дванаццацігадовы вясковы хлапчук быў проста зачараваны музыкай верша, свежасцю слова, навізною малюнкаў сонечнага краю нашай

зямлі. Пасля Дубоўкавай паэмы амаль у кожнага маладога паэта пачалі з'яўляцца нізкі крымскіх вершаў. У Дубоўкі пераймалі рытм, асанансныя рыфмы, крышку незвычайную лексіку — неалагізмы і слоўцы з яго нарачанскага маленства. Яму прысвячалі вершы, многія лічылі сваім настаўнікам. Я дагэтуль помню тоненькія маладнякоўскія кніжачкі з дубовым арнаментам на вокладцы і партрэтам аўтара. Воблік Дубоўкі здаваўся загадкава-рамантычным — толькі палова асветленага прыгожага твару з прыпухлымі вуснамі, звіслай на высокі лоб чупрынай, крышку прыжмураным вокам. Такім ён і ўяўляўся мне праз гады.

*С. Грахоўскі. Паэт — заўсёды паэт. С. 101.*

* * *

Многія пісьменнікі рабілі і робяць вялікую практычную работу. Работа гэтая накіроўвалася па некалькіх лініях. Адны, як М. Зарэцкі, Ц. Гартны, накіравалі сваю ўвагу на выкарыстаньне дыялектаў, на асіміляцыю ў літаратурнай мове паветалізмаў найбольш удалых і характарных. Другіе, як Дубоўка, пайшлі па найменей удзячнай лініі словатворчасьці і выкарыстаньня старых слоў, не спыняючы працы па выкарыстаньні дыялектаў. <...> Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, у беларускіх мастацкіх творах (асабліва ў маладзейшых паэтаў і пісьменьнікаў) назіраецца страшэнная беднасьць мовы. Гэта тлумачыцца перш усяго адсутнасьцю жаданьня працаваць над сваёю мовою. Навошта думаць над гэткаю дробязьзю. Можна запазычыць слова ў таго ж Дубоўкі... ён іх шмат стварыў і выкапаў.

*Т. Глыбоцкі (А. Дудар). Пра літаратурную мову // Пра нашы літаратурныя справы. С. 52.*

* * *

Гэты аўтар ці зусім наіўны ці... бог яго ведае які! Але ён піша пра «вучобу» ў Маякоўскага, у яшчэ іншых... Ён зусім не ўяўляе тагачасных абставін. Па-першае, не было тэлебачання, толькі

ў зародку было радыё, было мала часопісаў. Кнігі (паэт. зборн.) друкаваліся дужа ў абмежаваных памерах (500–600 экз.). Беларускія пісьменнікі не ездзілі кожны дзень з Мінска ў Маскву. І самае галоўнае, быў тады НЭП, «вольная таргоўля». Не было такога падзелу, як цяпер, і пісьменнікаў. Была сотня розных груповак у Маскве (ад «ничевоков» да пралетарскіх). Маякоўскі не меў такога аўтарытэту, як пасля самагубства. Ён быў зусім «загнан в угол» рознымі Авербахамі, Лялевічамі, Радавымі[244]. Тое, што як гістарычную падзею адзначае ў сваім опусе Ваш гісторык «У Мінск прыязджалі Маякоўскі...» — рабіла ўражанне не толькі на Яўхіма Садоўскага[245], які ўжо паўсотні гадоў піша ўсё ўспаміны пра гэта. Былі запісы іншага кірунку, аб'ектыўныя. Іх можна знайсці ў «Сав. Беларусі», бо яны дужа цікавыя. У Маскве ж былі кнігі і Анны Ахматавай, і М. Цвятаевай і многіх многіх іншых цікавых паэтаў. Беларусам было з чаго выбіраць. Што датычыць нават Блока, на якога таксама налягае Бечык, дык апрача ягоных «Двенадцати» мала хто чытаў яго іншыя вершы. Я, працуючы тады ў Крамлі, жывучы ў Маскве стала, з вялікай цяжкасцю дастаў-купіў Збор твораў А. Блока ў сямі томіках. А ў Мінску іх, я ведаю добра, ніхто тады не меў. Міхась Чарот у нейкім часопісе прачытаў і завучыў на памяць верш А. Блока

*За городом вырос пустынный квартал*
*На почве унылой и зыбкой.*
*Там жили поэты, и каждый встречал*
*Другого с надменной улыбкой...*

Гэты верш ён заўсёды дэкламаваў, падвыпіўшы. Больш ад яго ніякіх вершаў Блока я ніколі не чуў... Як гэта так здарылася, што Ваш аўтар ніводным словам не згадвае М. Багдановіча? Я разумею, што пра яго гутарка магла ісці ў нейкім іншым раздзеле. Але ж згадвае ён Багрыцкага, Святлова, Жарава, Уткіна. Дык чаму ж не згадаць карыфея беларускай паэзіі?! Між іншым: у А. Дудара нейкая паэма[246] («Шанхайскі шоўк»?!) напісана выключна, ад пачатку да канца, пад уплывам паэмы Міколы Ціханава. Гэта дакументальна. А пра вучобу ў Ціханава аўтар ні слова...

А пра Маякоўскага... І гадайце, чаму ён сам жыццё сваё скончыў. Запытайцеся ў аўтара, якімі ордэнамі ўзнагароджаны Маякоўскі пры сваім жыцці. Ніводным! Калі ён уласнымі рукамі прыбіваў плакаты, рыхтуючы сваю выстаўку «20 год работы»[247], тады група жанчын, прыхільніц ягонай паэзіі, падавалі хадатайства аб ордэне. У тым ліку жонка нашага колішняга старшыні СНК Язэпа Адамовіча — Зося Шамардзіна[248], але іх хад-ва не задаволілі...

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 25/02-1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 227.*

* * *

У часе НЭПу падобныя плыні паўставалі па ўсім Савецкім Саюзе і ў расейскай, і ў не-расейскіх літаратурах. Мы прыгадвалі ўжо рух ВАПЛІТЭ[249] на Украіне, у расейскай літаратуры было блізкае да «Узвышша» паводле сваіх мэтаў і духу згуртаваньне «Перевал»[250]. Адмысловая дэкларацыя «Перевалу», апублікаваная ў 1927 годзе, фармулявала тую самую ідэю «ўзвышэньня», або прагрэсу і сьцьвярджала той самы супраціў стандартызацыі й прымітывізму афіцыйнае «масавае» літаратуры, але дэкларацыя «Перевалу» не магла ўплыць на «Тэзісы» «Узвышша», бо яна з'явілася пазьней; абодвы дакумэнты выражаюць толькі падобную рэакцыю супраць афіцыйнага становішча ў дачыненьні да літаратуры — рэакцыю, выкліканую падобнымі абставінамі. Аб блізіні двух літаратурных згуртаваньняў сьветчыць і той факт, што пасьля адзін з паэтаў «Перевалу», Эдвард Багрыцкі, перакладаў вершы ўзвышэнцаў Дубоўкі й Пушчы.

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 684.*

* * *

Ул. Дубоўка працуе над перакладамі пэрсідзкае і грузінскае поэзіі, узоры якіх будуць выдрукававы ў чарговых нумарах нашае часопісі.

*Узвышша. 1927. № 2. Хроніка.*

* * *

Ніжэй падаем верш[251] невядомага паэта[252], прысланы нам з Менску, верш надзвычайнае дынамікі. У Менску ён ня мог быць надрукаваны[253], бо востра выступаець процiў бальшавікоў, крытыкуючы іх акупантскую палітыку. Не прыдворная, казённая савецкая паэзія, — а гэты верш адбіваець праўдзівыя настроі і думкі беларускага народу, у нетрах якога накіпаець пратэст процiў камісарскіх гвалтаў. Грамадзкае значэнне верша сягоння трудна яшчэ ацаніць: так далёка ў будучыню сягаець думка і імкненньне паэта. Рэдакцыя.

*За ўсе краі, за ўсе народы сьвету,*
*І што былі, і прыйдуць што пасьля:*
*Аздобленае горкім цьмяным цьветам*
*Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.*

*Скараліся і моўчкі ўсё прымалі:*
*Самохаць можа прыйдзе лепшы час.*
*Як лісьцінку на поплаве качалі*
*І зьняважалі чужаніцы нас.*

*Калонія праз некалькі сталецьцяў,*
*Наедак ненажорным груганом...*
*Я прысягаю — праклянуць нас дзеці...*
*За апяшаласьць нашу нам праклён.*

*На плечы ганьбы мы прынялі многа:*
*Нявольніцтва, жабрацтва навакол.*
*Слязьмі сясцёр чужынцам мыем ногі,*
*Заместа песень стогны бедакоў.*

*Прыціх наш край: ад гутарак аскома...*
*Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць.*
*Свабодай карыстаюцца сачкомы,*
*Каб тых, хто мысьліць, у астрог саджаць.*

*Дакуль чакаць і варажыць павінны?*
*Пакуль раса не выесьць вочы нам...*
*З усіх бакоў над нашаю краінай*
*Сплялася несусветная мана.*

*На нашым карку торг спраўляе смела*
*Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,*
*І наша змучанае катам цела*
*Штогодна новай кроіцца мяжой.*

*Масква сусьвету вушы прашумела*
*Пра самавызначэньне аж да зор.*
*Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?*
*Стварыла гомельскі ганебны калідор.*

...................................................
...................................................
...................................................
...................................................[254]

*Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,*
*Пасьмешышчам для сьвету усяго,*
*Як быццам мала ў нашай волі сталі,*
*Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.*

*Браты мае! Даволі ашуканства!*
*Гасьцей да хаты выправіць пара.*
*З лазы заплаканай спляцём ім кайстры*
*Для нарабаванага у нас дабра.*

*Сьляды іх гідкія пяском пасыпем,*
*Пясочкам сьветленькім пасыпем іх,*
*Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў*
*Апошні водгук прагучэў і сьціх.*

*А не, дык надармо усё, жыцьцё надарма,*
*Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, —*
*Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць,*
*Не разьвітаешся з жабрацкай калітой.*

29 верасня 1926 г.
г. Менск

*Янка Крывічанін //*
*Віленскі беларускамоўны часопіс. № 1, ліпень 1927.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення //*
*Полымя. 1996. № 2. С. 219.*

* * *

Аб вершы, прысвечаным падзелу беларускай зямлі, які друкаваўся ў нейкай замежнай часопісе, я чуў, але вельмі павярхоўна і чуў паасобныя радкі з гэтага верша, але ўсяго верша ніколі не бачыў. Гутаркі аб гэтым вершы былі і ў іх выказвалася думка, што верш, калі судзіць па стылю, належыць Дубоўку, які знаходзіцца ў Маскве. У час партнарады пры ЦК была кінута рэпліка, што ўзвышаўцы пасылаюць антысавецкія вершы за мяжу, але прадстаўнікі «Узвышша» заявілі, што пра гэта нічога не ведаюць...

*А. Дудар. Паказанні 1929 года.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 216.*

* * *

Да 1927 году адносіцца зьяўленне нелегальных рукапісных вершаў, якія былі мне вядомы. Першы — той самы, які быў пасьля надрукаваны ў віленскай часопісе — у мае рукі ён не трапіў, і я толькі чуў пра тое, што такі верш быў разасланы і чуў аднадушнае меркаваньне, што аўтарам яго зьяўляецца Дубоўка, і што верш надрукаваны на машынцы Прадстаўніцтва БССР у Маскве, дзе была надломана адна літара, здаецца, «р».

*А. Дудар. Паказанні па справе СВБ.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 55.*

* * *

Незадолго до кончины Владмира Дубовки Марыля Петровна, жена поэта, повела наедине со мной доверительный разговор. «Алеся, я хочу, чтобы ты знала и помнила, за что преследовались мой муж и твой отец. Володя здесь, в Москве, написал стихотворение в защиту Белоруссии, а твой отец в Минске распространял его». Когда я попросила процитировать хоть одну строчку из этого стихотворения, Марыля Петровна сказала о его смысле общей фразой: «бей белорусов, спасая Россию». Я тогда подумала, что есть такая фраза в стихотворении.

Обратилась к Владимиру Николаевичу Дубовке с вопросом о стихотворении с такой строкой, он в ответ только смеялся и отшучивался. Задала тот же вопрос маме, она сделала вид, что не слышит меня. Это ее молчание было для меня красноречивее всяких слов: мама моя органически не могла сказать мне неправду, что этого не было, а для правды, считала, очевидно, время еще не настало, и знать мне ее небезопасно.

*Алеся Бабарека. Об одном стихотворении Владимира Дубовки, авторство которого оспаривается в пользу Я. Купалы. БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 318. Л. 11–13.*

* * *

Я ня раз думаў, ня раз хацеў паслаць Бабарэку другі ліст, бо на першы ён чамусьці мне не адказаў, аб маім паступлeньні ва «Узвышша». Я лічу больш мэтазгодным (і, па-мойму, гэта будзе зусім правільна), калі я падам заяву ўвосень. Чаму гэта я так думаю? А вось чаму. Справа ў тым, што, прыехаўшы ў Менск, я думаю як-небудзь з восені залічыцца ва ўнiверсітэт. Дык вось, каб не было ніякае затрымкі з боку «Маладняка» аб маім залічэньні ва ўнiверсітэт, я і лічу, што будзе куды мэтазгодным, калі я падам заяву пасьля таго, як мяне залічаць у ўнiверсітэт. Гэта адно. А другое вось што, калі я толькі цяпер выйду з «Маладняка», то апошні цераз сваіх лідэраў можа павесьці такую палітыку, што не дадуць мне дапрацаваць у рэдакцыі да восені.

*Ліст П. Труса да П. Глебкі ад 12/05-1928 // Трус П. Выбраныя творы. С. 243.*

* * *

З т. С[янкевічам] трымай сувязь. Калі я з ім ехаў у цягніку, ён скардзіўся, што нашы хлопцы да яго варожа адносяцца. Я казаў, што гэта яму здалося, бо, наколькі я ведаю, да яго адносяцца добра... Тым больш, што ён нешта пачынае ляяцца з «дрэкаўцамі»[255]. Гэтымі днямі буду ў Маскве гаманіць з т. Галадзедам і Кнорыным, калі апошні прыедзе сюды. Гэта

запрапанаваў мне тав. Язэп Салодкі[256]. Думаю, што нешта высветліцца з нашаю агульнаю справаю.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 29/03-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 346.*

* * *

Адаська!

Нічога ты ня пішаш, ня ведаю, мо' ня варта пасылаць і матар'ялы ў Менск. У кожным разе — шлю вось пра Кнута Гамсуна[257]. Калі крыху прыглянецца — друкуй. Калі хочаш — скарачай, бо гэта — фактычна пашыраная рэцэнзія. Не скарачай толькі 2 і 3 старонкі. Мне здаецца, што гэты артыкул патрэбен і сваячасны (пабач, тут гутарка ня толькі пра Гамсуна). Каб не займала мейсца, давай на петыт[258].

Пачакаўшы, калі будзе ўсё добра, прышлю яшчэ з пару. У кожным разе — пішы. Рэшта артыкулаў будзе на беларускія тэмы (адзін пра *дз* і *дж*, другі, магчыма, наконт правапісу зборных іменьнікаў).

Чаму ня пішаш, куды на лета?

Чакаю. Вітаю. Цалую цябе. Уладзік.

Паеду прыблізна 8–9 ліпеня на Калініншчыну да цясьця. Добра было б, каб ты завітаў туды. Мы б здолелі правесьці там колькі часу, а пасьля паехалі б па Сожу да Дняпра, а там па Прыпяці — параходам. Наогул пішы. Сядзіба цясьця ў сяле Сьцюдзянец[259] каля Касьцюковіч.

Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 30/6-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12.*

* * *

У мяне было некалькі артыкулаў пра алфавіт[260]. Апрача згаданых вышэй, быў яшчэ пра падоўжаныя зычныя (ньн, льл, сьс, зьз і гэтак далей), для якіх прапанаваў у сваім праекце знак падоўжанасці (як у іспанскім). Паводле маіх праектаў былі

адліты ў Маскве літары: «дз», «дж», н, л, с, ц, з, дздз (усе напісаны з цітлам наверсе. — *Г. С.*), і з гэтымі літарамі мы пачалі друкаваць спачатку частку Узвышша, а потым і ўвесь часопіс[261]. У адзін «прекрасный момент» Галоўліт[262] забараніў нам карыстацца гэтымі літарамі. Я запытаўся ў «барона»: «У чым справа?! Ты ж усё ведаеш, дык пэўна ведаеш і пра гэта?» — Ён мне адказаў: «Справа ў тым, што твой праект вельмі ўдалы. Многім ён падабаецца. Так і глядзі, запатрабуеце, каб увялі ў рэспубліканскі маштаб. Дык лепш забараніць, не чакаючы гэтага». Ці так ці не — але забаранілі. Між іншым — грошы на адліўку новых літар даваў старшыня СНК т. М. М. Галадзед.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 14/04-1970.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Браце Адам і Кандрат!

З вялікай радасцю прачытаў Адамаў ліст, што Вы адпачываеце добра і г. д. Справа з рэцэнзіямі — глупства[263]. Я дык чарнавікоў, здаецца, не пакінуў. Можа, яны ў каго з іншых хлопцаў засталіся? Наогул — пра гэтыя справы пагаворым у Вас, бо я думаю заскочыць туды на некалькі дзён. Магчыма, нават, што выеду адгэтуль числа 25–26.

Прызнацца, адпачываю я дрэнна — нэрваваўся многа. З Масквы ўзяў я сюды канчаць артыкул пра літары для дз і дж. Адначасна, заказаў быў графіку зрабіць малюнкі. Дк ён пратрымаў іх у бауле тыдні тры (вось лайдак!). А я кожны дзень чакаў — ведаеш сам, калі што на карку вісне. Артыкул даслаў у суботу на імя Кузьмова. Хаця б ён не пагубляў там малюнкаў, бо дзе я іх буду браць? А вельмі хацелася б, каб гэты артыкул быў выдрукаваны ў № 4. Гэта будзе падарунак на адчыненне літаратурнага сезону. Прывязу Вам чарнавікі, абмяркуем там разам. Вось, здаецца, і ўсё. Яшчэ раз — выеду да Вас напэўна, бо трэба дзе пра што парадзіцца. Вітаю ўсіх вашых, вітае жонка мая.

Цалую Вас. Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 22/7-1928 //*
*ARCHE. 2009. № 11–12. С. 358, 359.*

* * *

Напярэдадні рэвалюцыі ў нас ад панскага жыцця застаўся толькі дом, мэбля, сад, а гаспадарка была звычайная сялянская: адна карова, свіння, куры. Частку дома часамі займаў то сельсавет, то школа. Уладзімір Мікалаевіч настаяў, каб мы туды з'ездзілі. Здаецца, у 1928 годзе мы там былі. Уладзімір Мікалаевіч з кампазітарам Равенскім хадзілі па вёсках, запісвалі песні[264]. Прабылі мы там нядоўга, паехалі, здаецца, у Дараганава[265], дзе бавілі лета Бабарэка і Крапіва з сем'ямі.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 201.*

* * *

Нядаўна мы з Кузьмом езьдзілі да хлопцаў у Дараганава, дзе цяпер і Уладзік з жонкаю (ціхая, але «з аганьком», прыгажосьці сярэдняй ці нават...).

*М. Лужанін. З ліста да П. Глебкі ад 1928 //*
*Скарыніч. Вып. 4. С. 103.*

* * *

Аднойчы ўвечары ў Менску Уладзімер Дубоўка і Мікола Равенскі, выдатныя паэта і кампазытар, вырашылі па аднэй пільнай справе наведаць Якуба Коласа. Дайшоўшы да ягонае хаты, яны пабачылі, што дзьверы на вуліцу адчыненыя. Яны ўвайшлі ў першы пакой, потым у другі, нікога не сустракаючы, і нарэшце пачулі скрыпку і сьпяваньне. У паўзмрочным пакоі стаяў сьпіной да тых, што ўвайшлі, Якуб Колас і пад скрыпку ўголас пяяў:

Колесницегонителя фараона погрузи
Чудотворяй иногда моисейский жезл...

Заўважыўшы Дубоўку і Равенскага, Якуб Колас спалохаўся і сказаў: «Як вы няўпрыцям увайшлі. Вы нічога ня бачылі і ня чулі. Добра?»

*Ю. Віцьбіч. З ліста да М. Міцкевіча ад 01/11-1954.*
*Цыт. паводле: Міцкевіч М. З лістоў да Юркі Віцбіча //*
*Запісы БІНІМ. № 33. С. 244.*

* * *

Адаме!

Занепакоіўся я, што ты хварэеш. Мабыць да гэтага прычынна купаньне і усё такое. Аджа адпачынак быў добры наогул. Глядзі ж, браток, не хварэй, а дужай. Здароўе патрэбна, асабліва нам.

Па Менск, пра мой пераезд туды толькі гутаркі. Нічога канкрэтнага ў сэнсе пасады ніхто нічога не гаворыць. Без ясных перспектыў пераяжджаць ня буду. Магчыма, што давядзецца гаварыць з т. Кнорыным на гэту тэму.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 24/8-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 367.*

* * *

Адносна Язэпа[266]. Як толькі выявіцца самая малая магчымасць, дайце яго зборнік у друк у першую чаргу. Гонорар выплаціце да 40 коп. мінімум. У тым разе, калі што здарыцца са стыпендыяй для яго, трэба даць яму скончыць універсітэт. Гэтага можна дасягнуць такім чынам. Мы заключылі хаўрус ня толькі літаратурны, але і наогул. З кожным з нас можа здарыцца няшчасьце. З-за якой выпадковасьці кідаць навуку ня варта. Я прапаную тады злажыцца, зрабіць складчыну. Калі буду працаваць у Маскве, як і працую зараз — унашу 25 руб. кожны месяц. Пагавары з хлопцамі такжа. Язэпу скажы, няхай абавязкова вучыцца, няхай ня кідае навукі. Гэта прывучыць нас больш шчыльна трымацца ў згуртаваньні.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 26/8-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 368.*

* * *

Браток Адам!

Атрымаў твой ліст праз пятыя рукі. Спадзяюся, што зьнята ня менш чым пяць копій[267]. Вельмі рады, бо беспрацоўе крыху паменшылася! Машыністкі мелі заработак — зьнімаючы гэтыя копіі.

Да ўсіх новых праектаў далучайся. Нават калі мы пацерпім фіяско — трасца іх матыры! Размах харошы!

<...> Адносна майго перапуду. — тады, калі я ехаў з тав. Ігнатоўскім, выявілася, што ён будзе шукаць для мяне працу, трэба, каб я падаў заяву. Я адказаў, што 1) я вельмі шкадую яго час і не магу нагружаць яго шуканьнем працы для мяне, тым больш, што 2) працу я якраз маю. Такім чынам, палучаецца паводле пагаворкі «і хочацца, і колецца, і мама не воліць». Калі захочуць прымусіць мяне — зволяць якім-небудзь парадкам з тэй пасады, на якой працую, — з Масквы не паеду, працу, на хлеб грошы — знайду тут. Ад маіх друзей ніхто мяне не адарве.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 21/9-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 375.*

* * *

Адаме!

Калі ласка, пашлі зараз жа ў Ленінград на імя акадэміка Н. Я. Марра[268] такія кнігі: 1. — беларуска-рускі слоўнік Байкова-Некрашэвіча[269]. 2. Узвышша № 4, далучы да яго зьмест усіх № (калі надрукавалі). <...> Я з ім гаварыў, ён напіша можа з пару артыкулаў для нашай часопісі і гэтак нешта на мой праект.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 02/10-1928 // Скарыніч. Вып. 4. С. 70.*

* * *

Братка Адам!

Дай загад, каб у Ленінград на імя Марозава[270] паслалі № 4 часопісі. Ён учора быў у мяне дома, пагаманілі з ім гадзіну. Вельмі сімпатычны чалавек... Абяцаў, што цераз месяц паўтары напіша для часопісі артыкул, у якім дасць квітэсэнцыю сваёй тэорыі і сваіх усіх.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 03/10-1928 // Скарыніч. Вып. 4. С. 71.*

* * *

Мая Марылька яшчэ 24 (днём, 1.45) нарадзіла сына. Зараз ляжыць у радзільным доме. Гэтыя дні яе ня бачыў, бо туды не пушчаюць. Піша, што сын вялікі (53 см), але малой вагі (бяз нечага 8 хунтаў). Мабыць, будзе нішто. Вочы, кажа, блакітныя. Зараз падшукваю адпаведную назву. Па-грузінску «налі» значыць падкова. А што значыць Наль? Гэта ж у індыйскай паэзіі «Наль і Дамаяньці»[271]. Можа, ты назву добрую маеш у запасе — пішы.

<...> Канверты рвуць, пэўна, п'яныя цэнзары. Ці не Алёшы ўзяліся за гэтую справу? Калі парвуць і гэты канверт — схадзі да т. Сянкевіча ў ЦК і падай скаргу. Мы змагаемся за рацыяналізацыю апарату, а тут такая расхлябанасьць. За што такіх дурняў хлебам кормяць? Да гэтага часу гладка распорвалі, і раптам на табе. Дрэнь справа! Трэба, каб для іх адчынілі курсы па перападрыхтоўцы і ўзвышэньні кваліфікацыі.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 25/10-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 399.*

* * *

Як бачыш, я не марную часу. Адносна ж вершаў — пакуль што ўстрымаюся. Магчыма, што ў навагодні нумар і прышлю што-небудзь. А Максім[272] яхідны чалавек — мала чаго ён пытаецца, а сам разам няма ведама з кім кансультацыі пачынае літаратурныя...

Дзякуем за прывітанні і пажаданні сыну. Назвалі яго Альгердам. Прызнацца, жонка зажадала. Кажа, што Альгерд быў першым беларусізатарам свайго часу. А мне спадабалася яшчэ другое (пачытай б. 115–116 гісторыі беларускай кнігі[273]). Той жа даваў спаць дзе-каму, а мой сын не дае спаць сваім бацькам. Вось і аналёгія, без жаданай падкладкі, зразумела. Сын усё хмурыць бровы над сінімі вачыма...

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 17/11-1928 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 401.*

* * *

Браце Адам!

Паслаў вось табе вершы нейкія, а зараз і шкадую: не трэба было пасылаць. Добра, што папрасіў быў цябе не чытаць нікому — бо дрэнна з мастацкага боку. Зараз прагледзіў іх яшчэ і прашу цябе не друкаваць іх зусім. Чаму? — Магчыма, што і ты прыйшоў да такога ж заключэньня, але усё ж скажу. — Напісаны яны, выключаючы двух, даўно і аб'яданы выпадкова жа назвай «Пярэсты букет»[274]. Ці з'яўляюцца яны ўзорнымі для мяне? — Не. Ці дадуць яны што-небудзь нашым таварышам па згуртаванню? — Не. Адно — толькі могуць быць скарыстаныя супроць нас: «вось як пішуць! Кусі яго!» Дзеля гэтага, лепш не друкуй. Тым лепш, што я ў шосты № прышлю добры артыкул «Лацінка ці кірыліца». Бадай на друкаваны аркуш. Такім парадкам, будзе нешта зроблена на пачатку году (калі будзе выходзіць з друку наша часопісь) дамматар'хял пра Галляша Капіевіча[275] (аўтара «гражданкі», якую ў Расіі доўга звалі «беларускай азбукай»).

Наогул адносна вершаў — справа дрэнь. Не таму, што «выпісаўся» я — гэта глупства, бо якраз наадварот — пішу і чытаю шмат. Але нешта іншае, больш глыбокае. Бардак, у які пачынаюць ператвараць справу беларускія культуры розныя Дрэкі, Байковы and Ко. Немагчымасьць змаганьня з гэтымі шкоднікамі на культурным фронце, вялікія перашкоды, якія стаяць увесь час перад намі — робяць сваю справу. Я пачынаю глядзець на ўсё гэта, як на нейкае паганае балота, ад якога хочацца быць далей. Мэліяраваць можна і варта толькі такія плошчы, якія знаходзяцца вышэй узроўню вады ў акіяне, а згаданая мною плошча значна ніжэй гэтага ўзроўню. Такім чынам, праца наша прападзе марна: няма як мэліяраваць, вада будзе цячы назад, а больш пэўна — нікуды і не пойдзе. Вось такія думкі пакуль што адбіваюць ахвоту ад вершаў. Сапраўды, што пісаць і як пісаць? — Лірыку «голую», каб нехта ў тваё інтымнае пляваў і смаркаўся? Грамадскія матывы? А зто яго зараз ведае, я цяпер ні з кім не гавару нават, не тое што пісаць пра

грамадскія матывы: члены ЦК аказваюцца вінаватымі ў розных ухілах, што ж казаць пра нас грэшных? Пра што ж пісаць? Браць тэмы далёкія? Вось як капанешся ў далёкія тэмы, дык там і нацыяналізм, і містыка. Такім парадкам я зусім лёгічна прыйшоў да выбаду: вершы зараз нікому не патрэбны, бо, тым больш, яны на Беларусі наогул скампраметаваны. Напішу ў бліжэйшы час некалькі артыкулаў, а там будзе відаць, як яно далей будзе.

<...> Пішы, што добрага наогул. Як гадуецца Аня з дзеткамі, як Кандрат з Ленай? Марылька кажа, ці не пакрыўдзілася на мяне Лена, калі мы ў гарадкі гулялі, ды я ўсё вышчараўся там нечага. Калі пакрыўдзілася — дык ты перапрасі яе ад мяне.

Вазьмі ты якую гранку, выбяры які верш чый-небудзь дзе ёсць некалькі дж і дз, дай набраць з новымі літарамі корпуса і петытам (або ўрывак з Кузьмовага артыкулу), цісні на добрай паперы і дашлі які адзін-два асобнікі мне. Усё ж цікава бачыць, як яно палучаецца. Пішы. Цалую. Вітаю.

Уладзік.

P. S. Наколькі цікава для Беларусі можа быць такая канцэпцыя: 1. Эвалюцыя беларускага альфабэту прывяла да акруглення літар. 2. Беларускі Капіевіч канчаткова аформіў яе ў гражданку, узятую за Пятром Вялікім. 3. Рускія доўгі час звалі гэты шрыфт то «амстэрдамскімі» літарамі, то «беларускай азбукай». Пра ўсё пра гэта ёсць даволі матар'ялу. Як ты ўважаеш усё гэта? Ці мо сапраўды таўчэнне вады ў ступе? Пішы наогул. Уладзік.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 26/11-1928 // Скарыніч. Вып. 4. С. 72.*

* * *

Адным з найбольш няўтомных і бясстрашных званароўпаэтаў гэтых трывожных часоў стаўся ўзвышэнец Уладзімір Дубоўка. 1929 год, якому наканавана было стацца апошнім годам ягонага друкаванага творства, выпаў і найпрадукцыйнейшым годам гэтага паэты. Тутака адзін па адным пачалі зьяўляцца ягоныя найбольшыя, найдасканальнейшыя і най-

вайстрэйшыя творы і блізу кажны зь іх бальшавіцкая крытыка й г. зв. грамадскасьць адразу ж пераймала ў штыхі. У № 1 часопісу «Узвышша» за 1929 год зьявілася вялікая Дубоўкава нізка вершаў «Пярэсты букет»[276], у № 2 — паэма (паводле крыху пазьнейшае паэтавай тэрміналёгіі — «камбайн») «І пурпуровых ветразяў узьвівы»[277], у № 4 — паэма «Браніслава»[278]. Найбольшы бой разгараўся каля «Узьвіваў».

*А. Адамовіч. Зь яснай явы — у ночнае царства. С. 460.*

* * *

У 1929 г. у ліпені, будучы ў Маскве, Галадзед зрабіў прапанову Ўладзімеру Дубоўку напісаць такое лібрэта, каб опэра была арыгінальным беларускім творам, а мне — стварыць адпаведную да гэтага музыку. Прапанова гэтая была вельмі ахвотна намі прынятая, і мы паабяцалі Галадзеду неадкладна ўзяцца за працу. Сродкі на гэта былі адпушчаныя, хоць і не ў вялікай суме, але на першы пачатак былі яны зусім дастатковыя.

Першым нашым заданьнем было адшукаць адпаведны зьмест лібрэта. Пасьля доўгіх пошукаў і абмеркаваньняў сюжэту будучага лібрэта мы ўрэшце спыніліся на Дубоўкавай паэме «Браніслава». На аснове гэтае паэмы мы дэтальна распрацавалі плян опэры, якая мелася складацца з трох актаў, устанавілі пэрсанажы ды заплянавалі дэкарацыю да кожнага акту. Разыходжаньні між паэмай і лібрэта выйшлі даволі вялікія ў ходзе разьвіцьця пэрсанажа опэры, а галоўнае ў завайстрэньні драматызму й трагізму.

Ня маючы пад рукамі адпаведных народных матываў, мы пастанавілі паехаць на месяц у Магілёўшчыну для запісу патрэбнага народна-песеннага матар'ялу. Між іншага, у часе гэтае паездкі Дубоўка напісаў словы «Ліпнёвага гімну», а я музычна яго аформіў. Гэты гімн быў выдрукаваны, распаўсюджаны й выкананы ў свой час хорам у Менску, але ў хуткім часе ён быў забаронены й сканфіксаваны.

Вярнуўшыся з Магілёўшчыны ў Маскву, Дубоўка ўзяўся за працу над лібрэта. Асаблівая роля прызначалася лерніку:

гэта быў самастойны нумар і служыў уступам да опэры. Сьпеў лерніка пры закрытай заслоне мусіў сканцэнтраваць слухача да ўспрыняцьця опэры. (Сьпеў лерніка пачынаўся словамі «Многа Бог пракрокаў меў, пасылаў па сьвеце іх...».)

Па некаторым часе Дубоўка прыносіць поўны тэкст для лерніка, які складаўся з 8–10 зваротак і вызначаўся сваім іншасказальным характарам, але быў цесна зьвязаны са зьместам опэры, у якой Браніслава ўцелаўляла Беларусь, а пан (імя ягонага не памятаю) — Расею.

*М. Равенскі. Аб працы над опэрай «Браніслава» //*
*Беларус. № 332. 1986. С. 4.*
*Цыт. паводле: Гардзіенка Н. Равенскі і Дубоўка*
*ва ўзаемных згадках-успамінах.*

* * *

Збіраючы на Магілёўшчыне песенны матэрыял для оперы «Браніслава», мы шмат часу правялі разам. Ён браў мяне пад руку, і мы, дыскутуючы, паволі ішлі ад вёскі да вёскі. Сяляне ўжо ведалі нас і, пэўна, смяяліся з нашае пары: ён высокі і плячысты, а я малы і худы.

*З успамінаў М. Равенскага.*
*Цыт. паводле: Чаркасава Д. Альфа і амега яго жыцця //*
*Царкоўнае слова. 2011. № 48.*

* * *

«І пурпуровых ветразяў узьвівы» Дубоўкі выклікалі буру ў крытыцы. Бой супроць яго павяла галоўна БелАПП — беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменьнікаў, створаная на базе «Маладняка», — што было першым «баёвым хростам» гэтае бальшавіцкае літаратурнае агентуры. Першы выступіў Бэндэ — даўжэзны й пяруновы артыкул якога зьявіўся ў афіцыйнай урадавай газэце «Савецкая Беларусь» пад псеўданімам Нэдбэ, створаным анаграмай ягонага прозьвішча. Гэта быў першы ягоны выступ у друку і ад таго мамэнту ён увачавідкі стаўся

найбольш ваяўнічым і агрэсіўным крытыкам у Беларусі. За гэтым артыкулам пайшлі іншыя з-пад пяра белаапаўскіх крытыкаў Гародні, Барашкі, Мурашкі, М. Аляхновіча; урэшце зьявіўся й адмысловы рэдакцыйны артыкул у афіцыйным органе ЦК КП(б)Б «Звязда» пад загалоўкам «Супраць буржуазнай ідэалёгіі у "Узвышшы"». <...>

Дубоўка спрабаваў супакоіць гэтую буру адмысловым лістом, у якім ён выясьняў, што ягоны твор быў проста няправільна вытлумачаны варожымі крытыкамі, але дзеля таго, што ён ня «прызнаў сваіх памылак», ягоны ліст выклікаў толькі яшчэ большае ўзбурэньне. У Беларускім Дзяржаўным Тэатры ў Менску была наладжаная адмысловая дыскусія над тэмай; зацікаўленасьць была такая вялікая, што тэатр быў перапоўнены і частка людзей не зьмясьцілася, аднак гэты мітынг быў зарганізаваны толькі з мэтай асуду; ні Дубоўку, ні ягоным сябрам не дазволілі выступіць, не зважаючы на пратэсты публікі. Гэта яшчэ больш спрычынілася да пашырэньня славы твору — навет за межы Беларусі.

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 704.*

* * *

Но кампанией в печати дело не ограничивается. Начинает вестись кампания и внутри организации с тем, чтобы разложить ее изнутри. Некоторых из молодых наших членов начинают фаворизировать, приглашать в ЦК партии, «отечески» беседовать, настраивать всячески против нас и даже подпаивать (особенно склонного к алкоголю молодого поэта Кляшторнага). Поведение некоторых из них (того же Кляшторнага и проявляющего сильные карьеристские тенденции Лужаніна) заставляет нас подозревать, что они даже завербованы ГПУ в качестве агентов-осведомителей[279]. И вот требования «признания ошибок» начинают настойчиво звучать уже изнутри организации. Сагитированные «отеческими беседами» в ЦК (и, вероятно, даже в ГПУ) постепенно перетягивают на свою

сторону большинство и уже подготавливают проект «признания». Мы, оставшись в меньшинстве (я, Дубоўка, Пушча, Бабарэка, Купцэвіч, при сочувствии больного в то время поэта Уладзімера Жылкі), разрабатываем свой контрпроект, в котором пытаемся свести всё «признание» и все «ошибки» к явному абсурду. Но большинство, всё время консультирующееся с «отцами» из ЦК, отвергает наш проект. Нас пытаются заставить подписать проект большинства, содержащий фактически отречение от всей прежней независимой национальной линии организации и, плюс к тому, — полное самооплевание и самобичевание. В противном случае нам грозит исключение из организации.

А к этому времени уже некоторые из белорусских деятелей начинают таинственно исчезать в недрах ГПУ[280]. И нам наши пошедшие на услуги органам товарищи, явно по наставлению «отцов», недвусмысленно намекают, что «исключение» скорее всего, перейдет в «заключение»... После бессонной ночи совещания решаем подписать «признание» и фактически отойти от всякой литературной деятельности, наивно думая, что этим сможем избавить себя от весьма нежелательного знакомства с ГПУ, от этого «заключения».

Действительно, на некоторое время нас оставляют в покое, не беспокоим и мы никого. Аресты как будто бы утихают — ГПУ сильно занято начавшейся в деревне коллективизацией, ему не до нас. В печати национал-демократизм «кроют» попрежнему, но уже в свете недавнего лозунга «великого учителя» Сталина о том, что «главной опасностью в национальном вопросе на данном этапе является великодержавный российский шовинизм»[281]. Мы успокаиваемся окончательно и даже кое у кого из нас начинают руки чесаться, чтобы опять взяться за перо и, может быть, даже кое-кому «дать сдачи»...

*А. Адамовіч. Мой счет им. Автобиография 1941 года. С. 720–725.*

* * *

Мяне і маю жонку вельмі ўзрушыў і да слёз расчуліў такі факт. Калі на мяне асабіста сталі нападаць вульгарызатары трыццатых гадоў і з'явіліся даволі-такі паганенькія артыкулы ў тагачасным маскоўскім часопісе «На литературном посту» — у абарону мяне выступіў з невялічкім артыкулам у часопісе «Печать и революция» П. М. Keржанцаў. Тут жа, праз некалькі дзён, мяне ў маскоўскай кватэры наведаў слаўны ўкраінскі пісьменнік Юры Яноўскі[282]. Хто яго бачыў, той ніколі не забудзецца на яго. А мне ў цяжкія хвіліны асабліва ўрэзаліся ў памяць рысы яго прыгожага, адухоўленага, высакароднага аблічча. У маім уяўленні да гэтага часу ён устае як мастак вялікай сілы і адначасна як сардэчны і сціплы чалавек.

Ён пачаў са мной гутарку пра творчасць, запытаўся, што я пішу новага. Я не мог хлусіць і адказаў: «Нічога!»

Вось тады ён і пачаў мяне супакойваць, бадзёрыць: «Будзьце мужны! Усё будзе добра! Вы павінны багата даць для літаратуры, бо маеце вялікі доўг перад сваім народам. А дзеля гэтага — розныя недарэчнасці сучаснасці разглядайце як часовую перашкоду, не больш таго»...

*У. Дубоўка. Сярод людзей добрых // Полымя. 1963. № 1. С. 119, 120.*

* * *

Адаме!

Не адмоўся з майго ганарару паслаць у Горкі (Горы-Горкі, Базарная пл., д. 1, Миндлина) майму брату Язэпу 30 руб. Сёньня ён выяжджае ў Горкі, а я грошы яму бадай што і ня даў. Не адмоўся зрабіць гэта. Таксама вышлі на яго імя проспэкты ранейшыя на падпіску і квітанцыйную кніжку. Павінен будзе сабраць там падпіскі[283] на паасобнікаў 50 ня менш. Вось і ўся просьба.

Вітаю. Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 02/02-1929 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 438.*

* * *

Браток Адам!

Учора атрымаў твой ліст, пісаны табой 3 сакавіка, з якога заўважыў, што ты пакрыўдзіўся на мяне[284]. — Вельмі прашу прабачыць мяне. Я сам адчуваю, што апошнія гады ўвесь цяжар па часопісі (а гэта самае галоўнае ў нас) прыйшлося пранесьці на сваіх плячох менавіта табе. А да гэтага яшчэ далучаюцца розныя інтрыгі розных хітраванцаў, якія імкнуцца як мага каб пазлаваць нас, каб увесьці злосьць якую адзін на аднаго. <...> У агуле ж я даўно адчуваю сябе моцна вінаватым перад вамі ўсімі за тое, што цяжар арганізацыйны пераносіце адны вы. Вось чаму і ў гэтым сваім лісьце я пісаў табе наконт свайго пераезду ў Менск. Цяпер гэта ўсё аформілася канчаткова: я падаў ужо заяву пра гэта. Магчыма, што ў пачатку красавіка з'яўлюся да Вас, а гадавіну сваю будзем праводзіць разам, як жыхары аднаго гораду. Адно толькі мяне непакоіць: ці здолеем доўга выдаваць сваю часопісь.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 08/03-1929 //*
*ARCHE. 2009. № 11–12. С. 453.*

* * *

Братка Адаме! Нядаўна ўзяўся чытаць менскія газеты за тыдні два. Аказваецца, ў вас усялякія навіны[285]. Прызнацца, я толькі чуў усялякія гутаркі пра ўсё гэта. З аднаго боку, як быццам яно і добра, што пачысьцілі апарат. Але, на мой погляд, пры гэтым загнулі значна далей і пачалі лупіць беларусаў наогул.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі, 17/09-1929 //*
*ARCHE. 2009. № 11–12. С. 487, 488.*

* * *

Между тем в большевистской печати понемногу начинает разворачиваться антибелорусская кампания. Правда, большевики никогда не называют вещи своими именами, и сейчас

внешне дело идет не о борьбе против всего белорусского, а о преследовании «кулацкой идеологии» и «национал-демократизма» (термин, изобретенный в это время и, кажется, в Белоруссии[286], хотя впоследствии перекочевавший и в другие «национальные республики» и скрывавший под собою, собственно, все национальное). В этой кампании «Узвышшу» отводится видное место, наших поэтов — упоминавшегося уже Дубоўку, а также стоявшего рядом с ним весьма талантливого крестьянского поэта Язэпа Пушчу — «определяют» в «кулацкие идеологи» и постепенно обо всей организации начинают говорить как о «правой» и «национал-демократической».

*А. Адамович. Мой счет им. Автобиография 1941 года. С. 720–725.*

* * *

Браце Адам!

Пачаў быў пісаць даўгі ліст. Пасьля ўспомніў, што хутка сам прыеду на пару дзён, тады і пагаворым. Зьбіраюся да вас зусім. <...>

Вельмі прашу цябе вось пра што. Апошнім часам мой меншы брат ізноў пачаў цягаць грошы. Пасьля даўгоў нарабіў. Гэта прымусіла мяне і жонку ўзьнепакоіцца: ці не пацягнуў ён грошы ў цябе ці ў Кандрата, калі вы былі тут. Вельмі просім удвох, каб ты напісаў пра гэта, запытайся і ў Кандрата. Калі што — дык я выплачу. А то прамалчаўшы — і табе страта, і хлопцу распуста. Вельмі прашу, каб ты напісаў пра гэта. Маці нічога не кажы. Калі ён з-пад замка ўхітрыўся ў мяне даставаць па 5 руб., а то і больш, дык тым больш ён мог зрабіць гэта, калі вы кідалі чамаданы незамкнёныя. Буду вельмі ўдзячны, калі напішаш. А то для нас пакута проста, калі ўздумаеш, што прыяжджалі ў госьці і вас тут «пашчупалі». Будзь другам, напішы.

Больш не пішу, бо прыеду сам.

Цалую. Вітаю. Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 16/3–1929 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 456.*

* * *

Чуў я, што ў «Ч. С.» быў артыкул, дзе паміналі нашага Лужаніна. Неяк нядобра, што тыя т. т., якія збіраліся выходзіць ад нас ды яшчэ кампраметуюць нас. Варта вам пацікавіцца гэтым пытаннем больш глыбока.

Паколькі ніхто не забараняў літар падоўжаных — пускай іх у часопіс, у № 7.

Там кажуць гэты Кучар[287], які замешаны ў выпіўцы[288], напісаў артыкул супроць Язэпа пад назваю «Язэп Пушча — не наш». Язэп можа напісаць ліст, у якім адзначыць, што з такімі фурманамі, як Кучар, рэвалюцыйная калясніца далёка не даедзе.

Безумоўна, што Я. П. — не Кучаравай кампаніі.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 06/10-1929.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Читаем его поэму «І пурпуровых ветразяў узвівы», 1929. Лирик-народ говорит математику-власти:

*Ты ўважаеш, што культура ходзіць*
*У портках ката слаўнае Камуны*
*Парысскае, у портках Галіфэ?*
*Або ў марынарцы ходзіць Фрэнча,*
*Другога ката, ката нашых дзён?*
*Не веру я ў гэткія акрасы,*
*Я ненавіджу іх, змагацца буду!»*

Знакомый образ ката? «Это о Сталине?» — спросила я Дубовку. «Так», — ответил он.

*Алеся Бабарека. Об одном стихотворении Владимира Дубовки,*
*авторство которого оспаривается в пользу Я. Купалы.*
*БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 318. Л. 11–13.*

* * *

Браток Адам!

Вось толькі што паставіў апошнюю кропку ў маім камбайне[289], каб заўтра накіраваць яго да цябе. Прызнацца, аж неяк крыху зімна на сэрцы стала: як ні як, усё ж аглядаў яго, папраўляў, пісаў. Як ні як, але гэта ж частка, няхай і малая, мяне самога. І вось — гэтую частку я пасылаю некуды за 700 з гакам кіламетраў, пасылаю на суд друзей, чытальнікаў, а, у далейшым, рознай шпаны, розных вяровачных дзел майстроў. Згадзіся, што крыху суму і ёсць. Але ёсць і радасць: ці добра ці дрэнна, але я закончыў другі этап свайго творчага шляху. Цяпер я, калі не памыляюся, мо ў далёкім часе павінен буду даць шэраг лірычных вершаў. Магчыма, што да гэтых лірычных вершаў. Магчыма, да гэтых лірычных вершаў перакладу на беларускую мову Чайльд Гарольда, пра што табе пісаў. Але з другім кругабегам пакончыў. Гэта — факт! Цябе прашу вось пра што: калі ты прачытаеш гэты мой твор, адразу занатуй на паперу свае ўражанні. Няхай яно будзе невыгоднае для мяне ці што — нічога. У ліку іншага адзнач, ці робіць ён, гэты камбайн, цэльнае ўражанне, ці застаецца разрозненаю істотаю. Буду чакаць ад цябе гэтага ўражання як мага хутчэй, бо для мяне гэта важна. <...>

Наконт твору. Добра было б, каб ты адразу аддаў яго ў Галоўліт, не чытаючы хлопцам. А то возьмуць свайго чаго дададуць, пусцяць па гораду чуткі розныя, анекдоты, а тады дзівяцца, чаго Галоўліт чэпіцца.

Для мяне было б страшэннаю крыўдаю, каб якія ультра-ляпы звягалі на яго, на камбайн могуць звягаць толькі «зацішкаўцы»[290]. Няхай толькі ведаюць, што і ў сваім «грехопадении» музыка вышэй іх. А многія гіцлі могуць падумаць пра словы «Заблытаны вы ў памежжы, да меж вашы душы прыкуты» і г. д.

Няхай! Будзе толькі шкода, калі ізноў твор, накіраваны на карысць справе рэвалюцыі, павернуць у другі бок. Але — як хочуць. Мая справа, мая місія — скончана.

Вітай усіх нашых. Цалую цябе. Уладзік.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 12/11-1929.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Наконт майго брата. Я вельмі прашу цябе, каб ты калі раніцой зьезьдзіў да яго, паглядзеў як што і пагаварыў з ім. Няхай ён ня звоніць на мяне нічога, бо я не магу дапамагаць яму да ста гадоў. Я жонцы чаравікі ня купіў сваёй, а яму хутру паслаў, напрыклад. Чаго яму, прахвосту, яшчэ не хапае? Няхай дзе пачне зарабляць. Можна ж зарабіць рубель які! Дык ён хоча, каб Шастакоў паставіў яго сваім намеснікам?! Грошы ты яму больш без маіх лістоў не давай. А калі будзеш даваць — рублі 3–5, ня больш. А то ён звыкне, што гэта так і належыць. Яшчэ каб якая надзея была на зборнік — а то, відаць, справа гіблая[291]. Ты гэта яму ўсё, браток, утлумач. Вершы парадзьце кінуць, калі нічога ня варты. Ён мне іх ніколі не паказваў. Вітаю усіх. Цалую цябе. Уладзік.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 16/11-1929 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 503.*

* * *

Браце Адам!

Атрымаў сёння твой ліст ад 6–12. Бачыш — яшчэ летам я папераджаў, што ў Менск не прыеду бадай да вясны, калі не далей[292]. Наказваў, каб хто з вас сюды прыехаў пагаварыць. Многае можна было б прадбачыць, шмат чаго можна было б унікнуць. Але з вас ніхто не адважыўся на такое падарожжа. А я — абсалютна не магу. Ніякае гутаркі пра гэта нават быць не можа. Затым і тэлеграмы вашы, а пасля і мае, на марна ішлі. Перш наперш, згадзіся сам, ничога з іх я ўцяміць не мог: «Прыяжджай, пытанне тваёй творчасці». Ды чорт з ёй! Я менш за ўсё пра яе думаў: не мы, дык другія. Гэтым менш за ўсё мяне можна зацікавіць. Сёння атрымоўваю твой ліст, у якім дзе-якія гарызонты, далягляды праяснелі. Бачыш, браце, не крыўдзіся толькі на мяне, але так справа не робіцца. Вось цяпер і тэлеграмма: паэму, камбайн забаранілі ці што? Няхай забараняюць! Я пісаў яе на карысць пралетарыяту, я ўпэўнены, што ён толькі

карысць прынясе. Больш таго, для мяне бясспрэчна, што такая ўпэўненасць ёсць і ў тых, хто яго забараняе. Чаму ж забараняе? — А таму ж чаму літары забаранілі, таму ж, чаму не даюць працаваць: невялічкая група прахадзімцаў, рознай пошкудзі ачмурае ўсю партыю, ачмурае кіраўнікоў не менскага маштабу, каб адпомсціцца за сваю нікчэмнасць, за сваю вузкалобасць. Гэта з'явішча натуральнае ў жыццёвым працэсе, натуральнае яно і ў нашым жыцці. Толькі адно: змагацца з гэтым мы не здолеем. Ну куды ты пойдзеш казаць, што ішак — гэта ішак, што гэта аўто госпада Ісуса? Праз год, два, а мо і хутчэй гэта будуць ведаць самі. Тады будуць паціскаць плячыма, а цяпер — «і я яго лягну, пускай мої осліные копыта знает». І «лягаюць», і наскакваюць. Калісьці, у тыя гады, на Беларусі былі светлыя галовы (Кнорын[293], Гамарнік), з якімі можна было параіцца, пагаварыць. З кім жа цяпер будзеце гаварыць? АПАД[294] кіруе не Сянкевіч, гэта фікцыя, а кіруе Функ-Гародня[295]. Дык да Функа пойдзеце на паклон? Пойдзеце з ім радзіцца? Усюды, для мяне бясспрэчна, праводзіцца лінія аднолькавая, якая надзвычайна разыходзіцца з рэзалюцыямі партыі па ўсіх пытаннях. Пра гэта я не буду зусім гаварыць, бо гэта не мэтазгодна зусім.

Што ж далей? — Бясспрэчна, што большасць нашага згуртавання варта таго, каб увайсці ў партыю, як я пра гэта гаварыў і з тав. Кнорыным. Але... Але пры чым тут партыя, калі пытанне гэта будзе вырашаць Алесь Функавіч Сянкевіч?

Я не буду наогул пашырацца на гэтыя тэмы. Я скажу карацей. — Шкада, што ніхто з вас не выкраіў з свайго бюджэту пару дзён на прыезд Маскву. Сказаў бы больш падрабязна. Цяпер жа такая парада. Папрасеце прыёму ў новага народнага камісара землетрасення (т. Піляр[296]). Вазьміце наш статут. Ідзеце да яго з гэтым статутам. І пагаварэце: варта працягваць працу далей, ці не варта. Тады няхай не трацяць сродкі на падрыхтоўку разгрома Узвышша, пра што хваліўся Сянкевіч у Маскве («Мы разработали подробный план разгрома Узвышша и начнем его громить окончательно»). Гэтыя сродкі, якія збіраюцца даць на разгром, няхай дадуць нам лепш на ліквідацыю. Мы ліквідуемся, падпішам дэкларацыю, якую нам запрапануюць і няхай на

гэтым будзе кропка. Паміраць у акружэнні Функаў павольнай смерцю — не варта, не мэтазгодна. Наадварот — трэба канчаць адразу. Магчыма, што вы атрымаеце іншую параду. Няхай будзе так. Тады можна будзе паставіць усе іншыя пытанні. Не раджу вам ні з кім больш гаварыць, нічога больш рабіць да гэтай гутаркі. Абмяркуйце, адначасна, склад ліквідацыйнай камісіі (апрача двух-трох нашых павінны быць прадстаўнікі ад НКУС і НКА) персанальны і — у час добры. Нічога больш не хачу ні гаварыць, ні пісаць пра гэтыя пытанні. У мяне і так ужо галава пасівела. Даволі нам трапаць свае нэрвы. За тую працу, якую мы вядзём, можна было б пачуць што-небудзь лепшае за лаянак розных валасных пісараў і трыперных фельчароў[297]. Лепшага мы нічога не чулі. Мы паказалі, што можам працаваць, нам няма крайняга мінімума спрыяючых умоў. У чым справа? Мы не набіваемся — не патрэбны, далоў. Я, асабіста, магу даць падпіску, што наогул пісаць не буду. Між іншым, я раней пісаў, калі ты памятаеш, у гэта ўпіраецца ўсё іншае, у тым ліку і зборнікі згубленыя, і заявы згубленыя, і ўсё.

Калі ж вы палічыце патрэбным далей «влачить жалкое существование», я змушаны буду напісаць табе яшчэ адзін ліст па гэтым пытанні.

Калі камбайн забаранілі — таксама скажыце разам. Але камбайн — гэта дробязь. Стаўце ўсе пытанні. Калі вы добра ўявіце сабе, што гэтыя ўсе дробныя пытанні прыводзяць да аднаго, вы станеце на правільны шлях. «Промедление смерти подобно». Не чакайце больш, не слухайце сабачы брэх. Хоць мы і не львы, але сэрцы нашы могуць скрышыцца ад гэтага брэху.

Яшчэ раз паўтараю: выбачай на мяне, але ні прыехаць, ні напісаць інакш я не мог.

Бывай. Цалую цябе, вітаю усіх нашых друзей.

Уладзік.

На вялікі жаль, вельмі мала бачу Фэльку, ён жыве на край Масквы недзе. Думаю пабыць у яго гэтымі днямі і папрашу, калі здолее, каб прыехаў да вас. Атрымаў ад яго ўчора ліст, у якім ён гаворыць пра Лапаў[298]. Апрача таго, што я сказаў вам у тэлеграме, ён прапануе запытацца, хто, дзе і калі даў Белапу

права рэпрэзентаваць партыю і савецкую грамадскасць, але ўсё гэта пытанні другарадныя. Між іншым, паводле майго моцнага пераканання, новага г. с.[299] не вызначаюць на Беларусь затым, каб даць магчымасць «расчысціць» усё беларускімі рукамі.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 11/12-1929.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Адылі, новаму Дубоўкаваму «камбайну» — «Штурмуйце будучыні аванпосты» — адразу нат неспадзявана было пашчасьціла ў гэтае суворае цэнзуры: яна была прапусьціла яго ды навет зусім беззасьцярожна й цалкам. Але, калі твор ужо быў набраны да друку ў «Узвышшы» й прайшоў усе карэкты, улучаючы й аўтарскую, цэнзары адумаліся й адклікалі дазвол, катэгарычна забараніўшы друкаваць гэтую запраўды «бомбу». Папярэдзіўшы гэтым большую для сябе й гаспадароў сваіх шкоду, не маглі яны, аднак, усьцерагчыся ад учыненьня шкоды меншае, выклікаўшы адразу сваёй забаронай сэнсацыйную цікавасьць да рэчы. І вось карэктурныя адбіткі зараз жа пайшлі з рук у рукі, зь іх здымаліся рукапісныя копіі, што сваім парадкам пайшлі множыцца далей тым жа шляхам і ў выніку камбайн пашырыўся гэтак, як ніводзін, бадай, твор нашай літаратуры тых год, што дазнаў падобную долю цэнзурнае забароны й нелегальнага рукапіснага пашырэньня. Шмат якія мясьціны твору, удзячныя да запамінаньня, адразу ж асядалі ў памяці й ці ў аднаго дажылі й жывуць яшчэ дагэтуль.

*А. Адамовіч. Зь яснай явы — у ночнае царства. С. 462.*

* * *

Браток Адам![300]

Напісаў табе запісачку, якая прыйдзе з Фэлькавым лістом. Пішу яшчэ ліст. Справа не ў прызнанні неіснуючых у нас памылак па агульнай лініі. У тым уся і бяда наша, што мы вялі вытрыманую, чоткую пралетарскую лінію ў літаратуры,

а прадстаўнікі... (розныя паповічы Канакоціны[301] да інш.) балталіся як барановы муды між ног нацыянал-дэмакратаў (Цішкі etc). У тым уся і бяда наша: «трэба было ўмазацца», як казаў пісарчук валасны. А мы не захацелі мазацца, а мы змагаліся супроць markdown рознай антыпартыйнай, антыпралетарскай пошкудзі, якая цалкам збанкрутавала. Больш: няёмка нас зачыніць за ўсё гэтаю. Дык вось нам прапануюць: прызнайце, што ваша лінія памылковая. Як толькі мы прызнаем гэта, нам адразу, нечакаючы ні хвіліны, які Функ перадавіцу напіша: «даўно трэба было зачыніць гэту публіку, але да гэтага часу не вызнавала свае памылкі. Цяпер і зачыняем іх». Выключна для гэтага патрабуюць ад нас «прызнання» «памылак», бо ўсе ведаюць, што ніякіх такіх асаблівых памылак не было. А чаго ж апалчыліся на Фэльку? Гэта ж проста жах нейкі, дайсці да такой подласці, як дайшлі Цішкі ды Алесі Ад-чы[302] з «лістамі». І Бядулю паківалі, каб далучыўся да іх. Што ж, няхай далучаецца. Вам не трэба ламаць сабе галаву. Самым афіцыйным парадкам пашліце ў ЦК тую рэзалюцыю, а копію дайце ў Галоўліт, каб дазволіў надрукаваць у часопісі. Не папушчайцеся ні на ёту, бо заўтра будзе рэд. Узв. які-небудзь Функ ці Скандарчук які. Няхай лепш зачыняюць. Памятай, што лепш зачыніць, чым глядзець, як орган пралетарскай думкі будуць перарабляць у нацыянал-дэмакратычны орган. Больш цяжка будзе глядзець. Алі гэта ўсё не задаволіць, тады напішыце другую рэзалюцыю, у якой пастаўце вось што:

ПАСТАНОВА:

Узвышша арганізавалася тады і тады, для такой вось мэты (з нашай дэкляраціі і статуту). Але, на вялікі жаль, дзякуючы аб'ектыўным прычынам і ўмовам мы дапусцілі шэраг вялікіх і дробных памылак у наступных вершах, паэмах, аповесцях, апавяданнях і артыкулах. –
(даць поўны спіс усіх рэчаў, якія друкаваліся ў часопісі па аўтарах, напр. Дубоўкавы вершы ...... (№ 7) ........, паэмах (№ 1927), артыкулы ..... і г. п.

У гэты спіс уключыць усе рэчы, друкаваныя ў нашай часопісі.

Далей скажаце так. —

Гэтыя вялікія і дробныя памылкі выявіліся ў звязку з нашым сялянскім паходжаннем і ўплывамі нацыянал-дэмакратычных тэндэнцый, асуджаных партыяй і савецкай грамадскасцю.

Дзеля ўсяго гэтага, мы ўважаем больш мэтазгодным спыніць выданне часопісі, перадаць частку сяброў нашага згуртавання ў рэкамендаваныя аб'яднанні (Мал. і Полымя), а рэштцы ўключыць у няўхільны абавязак звязацца з саўхозамі, калхозамі і фабрыкамі, праверыць і выправіць сваю лінію і г. п.[303].

Бачыш, б'юць стаўку на раскол (Бядуля-Кляшторны-Лужанін, яшчэ хто). Няхай яны ўтвараюць новую арганізацыю. Нашто нам блытацца з усім гэтым.

Вы мяне апошнім часам пытаецеся пра справы, але не вельмі слухаеце мае парады. Будзеце шкадаваць пасля, калі не зробіце гэтага. Лепш няхай б'юць па мінулым, чым будуць кожны дзень здзекавацца над намі, за нашу адданую і сумленную працу, накіраваную цалкам на карысць пралетарыяту.

У крайнім выпадку, няхай хто з хлопцаў пад'едзе сюды дні на два. Толькі май на ўвазе, заяві ад майго імені, — я пад заявай аб прызнанні памылак агульнай лініі не падпісваюся. Можа хто з вас будзе разважаць і так: выключым Дубоўку, яшчэ каго, а згуртаванне захаваем = глупства. Як кацят перадушаць вас нацыянал-дэмакраты. Яны ўзялі рэванш поўны, а мы церпім поўнае паражэнне. Але дарма! Будзем спадзявацца, што пралетарская літаратура не загіне, мяшчанчукі, якія ўзяліся цяпер за яе, будуць выкрыты.

З зруйнаваннем «Узвышша» — не зруйнуецца пралетарская літаратура. Мы адкрылі і запоўнілі самыя прыгожыя балоны гэтай літаратуры. Што-ж —

*Прыпусціся ў даліны з Узвышша,*
*Каб узняцца ізноў, і вышай.*
*Гэта лёс на спатканне выйшаў*
*І пярэстую сцежку нам вышыў.*

Вітаю цябе. Цалую. Будзь мужным. Дай гэтай мужнасці сябрам.

Уладзік.

Я зусім не разумею, у чым справа: што вы на кірмаш ходзіце з гэтай рэзалюцыяй? — Аддайце па адрасах і ўсё. Няма чаго лішнія гутаркі весці. Тое, што на Фэльку ўзяліся пасля «ПіР»[304] — паказальна надзвычайна. Няўжо для вас яшчэ няясна.

*У. Дубоўка. Ліст да А. Бабарэкі ад 29/12-1929.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Гэтыя «ўпаўнаважаныя» адразу склікалі агульны сход сяброў «Узвышша». Іхныя даўгія й нудныя казанні арганізацыі, што «ўхілілася» ад лініі, вызначанай самой партыяй, занялі цэлае першае паседжаньне. Аднак ужо на гэтым паседжаньні выявілася таксама, што ўпершыню ў «Узвышшы» заіснаваў падзел. Дубоўка, Пушча, Бабарэка й колькі малодшых сяброў стаялі за бескампрамісную апазыцыю. Тыя ж сябры, якіх раней выклікала ГПУ (Крапіва, Лужанін, Бядуля й Кляшторны), падтрымвалі дамаганьні «ўпаўнаважаных» і пераканалі бальшыню малодшых сяброў «Узвышша», што трэба «пакаяцца», пакуль ня позна. Першая група мусіла паддацца, каб не дапусьціць да развалу арганізацыі, але пастанавіла цягнуць справу як мага даўжэй ды выкарыстаць усё магчымае, каб засьветчыць грамадству й гісторыі тэрарыстычны характар акцыі. <...> Дубоўка, які найболып пастараўся, каб дамагчыся гэткага ялавага сфармуляваньня, гіранічна каментаваў: «Ну вось ня выпукляй мамэнтаў, ня цытуй лістоў нябожчыкаў, не абражай пасрэднасьці — гэта палітычна шкодна!» <...> Тады надышлі калядныя канікулы, і Дубоўка, Пушча й Бабарэка паехалі ў Маскву. Упаўнаважаныя адразу выкарысталі гэта і склікалі надзвычайны сход, на якім неўспадзеўкі запрапанавалі выключыць з арганізацыі крытыка Фелікса Купцэвіча, толькі нядаўна (увесну 1929 году) прынятага. <...> На памогу ўпаўнаважаным у складаньні поўнага тэксту «прызнаньня» быў узяты Крапіва. Гэта яны зрабілі рэкордна шпарка, і тэкст быў раздадзены ўсім сябром, а тром у Маскве высланы сьпешным лістом. Так жа шпарка Дубоўка, Пушча й Бабарэка склалі іншы тэкст «прызнаньня памы-

лак», што розніўся ад афіцыйнага тым, што пералічаў памылкі і ўлучаў прызнаньне кажнага сябры, а не адно колькіх, абраных за галоўных казлоў адпушчэння (Дубоўка, Пушча й Ант. Адамовіч). Мэтай гэтага ходу было задэманстраваць адзінства арганізацыі дый паказаць, што ейную сьведамую апазыцыйную лінію падзялялі ўсе сябры. Контрпрапанова (пасланая ў Менск сьпешным лістом) адразу была адкінутая ўпаўнаважанымі, якія запатрабавалі, каб іхны праект падпісалі ўсе, а тыя, хто падтрымаў «маскоўскі» праект, быў выключаны з арганізацыі. Гэтыя патрабаваньні мелі за мэту выклікаць развал, ці, паводле бальшавіцкае тэрміналёгіі, «дыферэнцыяцыю» ўнутры «Узвышша»

*А. Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». С. 708.*

* * *

Рысы бацькавага характару вельмі добра бачныя ў лістах да сям'і. Мяркую, калі б захаваліся бацькавыя лісты да сяброў, гэта было б найлепшым летапісам ягонага менскага творчага жыцьця. Але, на жаль, ня ўсё захавалася. Існуе перапіска ягоная зь Язэпам Пушчам, у архіву Плашчынскіх і ў мяне. А вось найцікавейшая перапіска з Дубоўкам, дзе ярка высьветленая ўся дзейнасьць пэрыяду «Узвышша», захавалася толькі з аднаго боку — лісты Дубоўкі да бацькі. Лёс Бабарэкавых лістоў невядомы: у свой час, думаючы, што так лісты лепей захаваюцца, Марыля Дубоўка перадала іх маці Антося Адамовіча на вёску. Дзе іх шукаць, невядома. Мабыць і зьнішчаныя.

*Алеся Бабарэка. Успаміны пра бацьку // Скарыніч. Вып. 4. С. 176.*

* * *

Белорусскому литературно-художественному объединению стало известно, что из «Литературной энциклопедии» снята фактическая справка о творчестве Вл. Дубовки, написанная т. Бабарэка и заменена заметкой, принадлежащей гражданину Л. Бэнду. Рассмотревши копию этой заметки, объединение

не может не выразить своего глубокого возмущения по поводу явной клеветы, какую представляет собою она, и вынуждено со всей категоричностью протестовать против ее помещения в «Лит[ературной] Энц[иклопедии]». Гр. Бэнда, человек совершенно случайный в белорусской литературной жизни, человек, не знающий белорусского языка, из личных счетов Дубовке, адному из наилучших в современной белорусской поэзии, пишет о пролетарском поэте так, как не писали в «М[алой] Л[итературной] Э[нциклопедии]» даже о таких эмигрантах, как Бальмонт, Бунин. О том, что заметка гр. Бэнды является клеветой на поэта, свидетельствуют такие факты. В ней говорится о произведении «Штурмуйце будучыны аванпосты», которое еще не издана, а только в 20 числах декабря направлена в типографию. Она еще только печатается в журнале «Узвышша», № 9–10, который до сих пор не вышел в свет. И вот на основании этой, не читанной Бэндам, поэмы в его заметке возводятся на поэта обвинения как на выразителя кулацкой реакции, в то время как Дубовка в этом произведении выступает как защитник и пропагандист идей коллективизации. Тоже и относительно поэмы «І пурпуровых ветразей узьвівы», в которой ставится вопрос о критическом принятии культурного наследства, а не пародируется компартия, как этого хочет гр. Бэнда. Далее, оценка языка Дубовки, данная в заметке, совершенно не соответствует действительности, ибо Дубовка, как известно, один из наилучших стилистов и форматоров современного литературного языка. Многие введенные им новые слова получили широкое признание и распространение (напр. адлюстраваньне — отражение, імклівы — стремительный) не только в литературном, но и в живом разговорном языке. Наконец, показателен тот факт, что Бэнда совершенно замалчивает такие крупные пролетарские по своей идеологической устремленности произведения, как «Студент», «Плач навальніцы», как поэма «Бронислава» и целый ряд других.

Ставя ред[акцию] «Лит[ературной] Энц[иклопедии]» обо всем этом в известность, белорусское лит[ературно]-худ[ожественное] объединение еще раз категорически протестует против

помещения этой клеветы на Вл. Дубовку в «Лит[ературной] Энц[иклопедии]» (и просит редакцию заменить заметку гр. Бэнды объективной справкой о творчестве пролетарского поэта Владимира Николавича Дубовки)[305].

Председатель

Секретарь.

5/1 1930

*Чарнавік звароту згуртавання «Узвышша» ў рэдакцыю «Літаратурнай энцыклапеды».*
*Цыт. паводле: Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. С. 551.*

* * *

Апошні раз у жыцці бачыўся з Ул. Маякоўскім літаральна напярэдадні ягонае смерці ў П. М. Кержанцава[306], у якога мы, зусім выпадкова, былі на прыёме ў адзін і той жа дзень[307]. Выйшаўшы з кабінета П. М. Кержанцава, Ул. Маякоўскі моўчкі пацiснуў мне руку... У мяне не было нават думкі пра тое, што гэта апошняе развітанне. Нават тое, што ён быў вельмі сумны, не давала падставы для падобнага меркавання. Справа ў тым, што я бачыў яго неаднойчы ў вельмі складаных і напружаных абставінах, і ён заўсёды выходзіў пераможцам. На другі дзень яго не стала на свеце...

*У. Дубоўка. Мой жыццяпіс.*
*БДАМЛМ. Ф. 14. Воп. 3. Спр. 9. Л. 12.*

* * *

Мы, лишенные возможности выступать публично, пытаемся все же бороться. Хочу привести здесь только один весьма характерный факт из этой борьбы. Уладзімер Дубоўка, проживающий в Москве, добивается аудиенции у крупного в то время партийного работника, заведующего отделом печати ЦК ВКП(б) Керженцева. Керженцев согласен с Дубоўкам, что в тех его произведениях, за которые его сейчас «кроют» (модный

большевистский термин) в белорусской коммунистической печати, нельзя усмотреть ничего контрреволюционного, что они совершенно нейтральны, а к тому же — весьма талантливы. Но Керженцев в заключение ставит, несколько запинаясь, вопрос: «А не могли бы вы писать по-русски, а не по-белорусски? Тогда бы мы, безусловно, стали на вашу защиту». Дубоўка отвечает отрицательно, и на этом всё кончается...

Этот факт окончательно открывает нам глаза на то, что наша «контрреволюционность» заключается, главным образом, в том, что мы, белорусы, развиваем свою белорусскую культуру, не хотим принадлежать и работать для государственной «передовой» русской нации...

*А. Адамович. Мой счет им. Автобиография 1941 года. С. 720–725.*

* * *

Для нармальнага чалавечага ўспрыняцця не інакш як трагедыяй выглядае таксама, што супраць Уладзіміра Мікалаевіча публічна выступаў яго брат Язэп. Ён друкаваўся пад псеўданімам Язэп Вазёрны, пісаў вершы, вытрыманыя ў строгай адпаведнасці з «сацыяльным заказам» (іх У. Дубоўка назваў «дырэктыўнымі»), але ўрэшце быў закатаваны[308] тымі, хто нацкоўваў яго на роднага брата.

А здрада некаторых сяброў, якія, самі ратуючыся ад пагрозы зняволення, у час разгрому «Узвышша» кацілі на Дубоўку ўсе бочкі, прыпісваючы яму такія грахі, да якіх наўрад ці маглі дадумацца самыя вынаходлівыя следчыя?! Той жа П. Глебка, які раней спяваў Дубоўку дыфірамбы і быў залежны ад яго як паэт, надрукаваў велізарны артыкул «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай», дзе заявіў, што ў творчасці паэта «можна знайсці (мусіць, вельмі ўжо захацеўшы!) схованага Кайзера, Пілсудскага, Балаховіча і інш.»[309]. Жахлівае па тых часах палітычнае абвінавачанне. І гэта пісалася і друкавалася тады, калі Дубоўка за кратамі мінскай турмы чакаў афіцыйнага прысуду!

А К. Крапіва не толькі вінаваціў Дубоўку, хоць і не так рэзка, як Глебка, за ідэалагічныя пралікі (артыкул «“Узвышша” на новым шляху», апублікаваны ў аднайменным часопісе, 1931, № 1), але і ў карыкатурным выглядзе падаваў яго (разам з іншымі ўжо арыштаванымі ўзвышаўцамі) у сваёй паэме «Хвядос — Чырвоны нос» [310]), якая першапачаткова задумвалася як сатыра на ворагаў «Узвышша».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 261.*

* * *

Наогул трэба адзначыць, што за апошні год хваля кулацкіх «откровений» хлынула струменем праз «Узвышша» ў нашу літаратуру.

Вазьмеце вы Дубоўку, аўтара надзвычайна каштоўных рэчаў, як «Плач навальніцы», «Студэнт», і вы ўбачыце, што і ў яго апошніх творах адчуваюцца актыўныя наскокі ваяўнічага рыцара пад маскаю, за якою хаваецца яго сапраўдны варожы твар на нашу сучаснасьць.

Разгарнеце той-жа № 1 «Узвышша» за 1929 год, прачытайце яго «Пярэсты букет».

Не было не будзе ніколі
Ад паэзі трактарам нафты —

саркастычна заяўляе ён па адрасе тых, хто сваёй паэзіяй служыць пралетарыяту і яго справе, аддзяляючы гэтым самым клясавую сутнасьць літаратуры, расцэньваючы яе толькі як сродак задавальненьня мяшчанскіх густаў. Зусім невыпадкова і гэты паэта ўцякае ад сучаснасьці і кпліва кажа:

*Так настрашылі мяне за ўхілы*
*Пахаджэннем дробнабуржуазным,*
*Што, бадай, зусім не маю сілы*
*У радкі паставіць дзень сучасны.*

Чаму? А на гэта паэта адказвае так:

*Бацькаўшчыну я шукаў другую (!),*
*А застаўся тым-жа сынам вёскі.*

Тут мы бачым якраз тое-ж самае, што бачылі пры разглядзе некаторых твораў Пушчы. Той-жа самай дарогай ідзе і Дубоўка. Ён прызнаецца:

Перайначыць я сабе імкнуўся,
Займаўся перавыхаваньнем,
Але моцна зацянуўся вузел,
Што завязаны ў часіны раньня.

Аб'ектыўна гэта азначае тое-ж самае непрыняцьце рэвалюцыі, аб якім мы гаварылі пры разглядзе двух папярэдніх пісьменьнікаў[311]. Лёгічным вынікам гэтага непрыняцьця зьяўляецца тое-ж самае супроцьпастаўленьне сучаснасьці. У тым-жа самым «Пярэстым букеце» Дубоўка піша:

Жыву, як бы сказаць вам, пакрысе,
Сплю, ем, пасьля хаджу на службу,
Здаецца, так цяпер жывем усе,
Шануючы кампартыю і дружбу.
...Чытаю кожны дзень газэты для навін,
Сачу за ворагам знадворным і нутраным,
...Такая ціш, такая благадаць,
І араматны, і цудоўны клімат...

Гэта бунт ашалелага дробнага буржуа, бунт супроць сучаснасьці, супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць яго кіраўніка — Камуністычнай партыі. Гэты бунт спачатку выяўляецца ў саркастычнай форме. Калі Лужанін высьмейвае лёзунг самакрытыкі, дык Дубоўка займаецца высьмейваньнем «ухілаў».

Іду дарогаю каля слупоў,
Каб не ўхіліць хаця ўлева...

У другім-жа месцы Дубоўка нават складае замову ад вывіхаў і ўхілаў. Або ў тым жа «Пярэстым букеце» ён кажа:

Крок — вывіх ідэолёгічны,
Крок — крытык аж са скуры лезе,

Далей:

Ці хаваць пад маскаю аблічча,
Ц ў тузе завыць, як воўк у лесе?

Відаць, маска неабходная прыналежнасьць пісьменьнікаў такога гатунку. Прыгадайце цытаваныя раней вершы Пушчы. Як бачыце, і адзін, і другі носяць маску і выюць па-воўчу (а часам па-сабачу[312]). Калі адзін збіраецца «расстаўляць нанаў кропкі», дык другі ніяк не жадае адстаць:

Перайначыць, спыніць, можа, сілы няма,
А плысьці супроць плыні магчыма.

Ён ня можа спыніць сталёвага поступу нашай эпохі, але, надзеўшы маску, зьбіраецца «плыць супроць плыні». Аб гэтым сведчыць «І пурпуровых ветразяў узьвівы», «Кругі», апошнія вершы ў № 7 «Узвышша», дзе гэты паэт даходзіць да адкрыта варожага выступленьня супроць грамадскасьці, супроць нашае партыі, супроць сацыялістычнага будаўніцтва.

*А. Звонак, П. Галавач. Пра ваяўнічае мяшчанства ў літаратуры, пра рыцараў пад маскамі, пра адну сямейку антысавецкія выступленьні некаторых яе сынкоў, а таксама пра раз'юшаны нацыянал-дэмакратызм» // Звязда. 1929. 29 снеж.*

* * *

Адаме!

Пэўна, у вас хатнія непаразуменьні[313], бо ў апошніх гнусных артыкулах[314] былі намёкі на нейкае адменнае ядро ў нашым згуртаваньні. Пакуль што бачыў і т. Будзінскага[315], усё гаворыць за тое, што я правільна ацаніў адразу становішча. Вельмі дрэнна будзе, калі вы правалыніліі. Казаў мне т. Будзінскі, што яны будуць біцца за захаваньне «Узвышша». Ах, які клопат! У кожным разе, факты цкаваньня — на яве. Нататку ў Літаратурную Энцыклапедыю яшчэ пагоршылі. Хоць бы вы крыху ўзяліся па юрыдычнай прычыне: гавораць пра ненадрукаваныя творы[316]. Але, урэшце, няважна: расьпісаньне зроблена даўно. Памятаеш, калі яшчэ Функ казаў: «“Узвышша” не будзем чапаць да зімы».

Во і зіма прыйшла. Чаго ты хочаш?! Вельмі памыляцца хлопцы, калі будуць спадзявацца на палепшаньне. Будзе яшчэ горш. Устаноўка такая: дабіць групу «Полымя» і наколькі магчыма знясіліць нашу групу. Бадай што і дасяглі. Лепей, каб вы ліквідавалі часопіс. Можна будзе якія альманахі выдаваць пасьля. Загінем усе.

*У. Дубоўка. З ліста да А. Бабарэкі ад 3/1-1930 // ARCHE. 2009. № 11–12. С. 521.*

* * *

Дубовка. Ярко выраженный нац. демократ, представитель контрреволюционного буржуазного течения в белорусской поэзии. В поэме «І пурпуровых ветразей узвівы» (Узвышша. 1929. № 2) Дубовка открыто высмеивает в лице «математика» коммунистическую партию, ее политику в области культурного строительства. Этой политике Дубовка противопоставляет нац. демократическую идеологию, национальный «самобытный» стиль, «философию упадничества» и т. д.

Другие его произведения «Крыху восені і жменька кляновых лістоў» (Узвышша. 1929. № 7), «Пярэсты букет» (Узвышша. 1929. № 1), «Кругі» (1927. № 5, 6) полны злобных выпадов против революционной действительности.

Несколько иллюстраций: Дубовка так, например, оценивает пролетарскую критику. Обращаясь к пролетарскому критику, он говорит: «Павесься лепш на той вяроўцы сам, што мне віеш, вяровачных дзел майстар, свой твор на бесстаронні суд аддам, на суд будаўнікоў, энтузіястых» (Узвышша. 1929. № 7)

На современность Дубовка смотрит глазами мещанина-обывателя:

*Такая маўклівасьць: ні песень, ні слоў,*
*Задумнасьць пагрозная, смутак...*
*Чаканьне зьнікла, ці, можа, прыйшло*
*У барвовых вянкох перламутных?*
*Жыву, як бы вам сказаць, па крысе:*
*І сплю, і ем, пасьля хаджу на службу.*

*Здаецца, так жывем цяпер усе.*
*Шануючы Кампартыю і дружбу,*
*Чытаю кожны дзень газэты для навін,*
*Сачу за ворагам знадворным і нутраным,*
*Вітаю ў мастацтве фронт адзін,*
*І плян вытворчы друкаваны.*
*Іду дарогаю каля слупоў,*
*Каб не ўхіліцца улева ці ўправа*
*І так ішоў, і так сюды дайшоў*
*Вось асабістая мая ўся справа.*

*(Узвышша. 1929. № 1. С. 50–51)*

В этих и подобных им других стихах Дубовки чувствуется злостное хихиканье классового врага, который высмеивает и советскую печать, и культурное строительство, и борьбу с уклонами и т. д.

*З паказанняў М. Піятуховіча па справе СВБ ад 12.12.1930.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення //*
*Полымя. 1996. № 2. С. 242.*

* * *

Раней у нас была адна маладая арганізацыя, так званы «Маладняк», якая раскалолася і з якой вылучылася «Узвышша». Узвышаўцы з'яўляюцца досыць добрымі мастакамі, але яны да гэтага часу ў пераважнай сваёй большасці адлюстроўвалі настроі, спявалі песні дробнай буржуазіі, хоць і сярод узвышэнцаў ёсць паасобныя паэты і пісьменнікі, якія розняцца паміж сабою і сваёю творчасцю. Так, нельга раўняць, напрыклад, такіх пісьменнікаў, як Змітрок Бядуля і Глебка з Пушчам і Дубоўкам. Але, на вялікі жаль, узвышаўская арганізацыя да гэтага часу, нягледзячы на цэлы шэраг палітычна шкодных твораў паасобных узвышэнцаў, як Язэп Пушча і іншыя, не рэагавала на гэтыя палітычна шкодныя творы.

*А. Платун. Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР //*
*Узвышша. 1930. № 2.*

* * *

Неяк, калі не было такой пільнай работы, Язэп кажа мне, што яны дамовіліся з Адамам і Дубоўкам паехаць на тыдні тры на Каўказ, Крым, паглядзець мора, горы, падзівіцца на красу гэтага краю.

Бабарэка і Пушча паехалі да Дубоўкі ў Маскву. Збіраліся прабыць тыдні тры. Раптам праз восем дзён прыязджае Язэп і прывозіць цэлы чамадан падарункаў. Пытаю: чаму так хутка? Мы нікуды не ездзілі. Што робіцца ў Маскве — жах. Ідуць павальныя арышты. Мы ўсе ўтроз вырашылі нікуды не ездзіць. Калі што здарыцца, то хай здарыцца дома, каб ведалі, дзе шукаць.

*С. Плашчынская. З дзён далёкіх і блізкіх. С. 398.*

* * *

Союз Советских
Социалистических Республик
Управление делами
Совета Народных Комиссаров
и
Совета Труда и Обороны
18 июня 1930 г.
За № 248
Москва, Кремль

В Президиум Академии Наук Союза ССР

Тов. Вл. Н. Дубовка работает в СНК Союза ССР редактором белорусского текста Собрания Законов Союза ССР с 1 апреля 1926 года. До 1926 года т. Дубовка редактировал «Вестник ЦИК, СНК и СТО Союза ССР» и о его работе был получен следующий отзыв Правительства Белорусской ССР:

«При отсутствии научно разработанной юридической терминологии, т. Дубовка безукоризненно справлялся с поручен-

ным ему делом и безукоризненно же вел белорусскую часть Отдела Опубликования Законов Правительства Союза ССР. Часть введенных им за этот период терминов вошла впоследствии в юридическую терминологию, разработанную Институтом Белорусской Культуры».

Большое количество материала (до сотни печатных листов ежегодно) и сложность вопросов, а также недостаточная разработанность научной терминологии, — требовали от редактора научно-исследовательской кропотливой работы по совершенствованию белорусского текста Собрания Законов. С этой работой т. Дубовка прекрасно справляется.

Так, с 1926 года был получен ряд отзывов от Правительства Белорусской ССР и от Белорусской Академии Наук, свидетельствующих не только об идентичности белорусского текста с русским, но и о дальнейшем улучшении его качества. «В сравнении с текстом предыдущих лет текст 1929 значительно улучшился во всех отошениях» (из отзыва Белорусской Академии Наук за 1929 год).

За все время своей многолетней работы в СНК Союза ССР т. Дубовка проявил большие способности и глубокий интерес к порученному делу, а также вопросам лингвистики вообще.

Учитывая изложенное, Управление делами СНК Союза ССР и СТО поддерживает ходатайство т. Дубовки о зачислении его аспирантом по лингвистике.

Управделами Совета
Народных комиссаров Союза ССР
и Совета Труда и обороны Н. Горбунов

Руководитель группы
опубликования Законов Д. Рубинштейн

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 93.*

* * *

ПОСТАНОВЛЕНИЕ
1930 года июля 18 дня в гор. Минске.

Я, ст. уполномочен. 2 отд. СООГПУ БВО и ГПУБ Сикорский, рассмотрев имеющийся материал на гр. ДУБОВКО Владимира Николаевича и принимая во внимание, что указанным материалом он в достаточной степени изобличается в а/с деятельности, а посему на основании изложенного и рук. ст. ст. 100 п. 1 и 175 УПК

ПОСТАНОВИЛ

Гр-на Дубовко Владимира Николаевича прож. в г. Москве по М. Грузинской 34, кв. 13 немедленно арестовать, предварительно произвев у него на квартире тщательный обыск.

Копию постановления направить для сведения пом. прокурора НКЮ по наблюдению за органами ГПУ Бел.

Ст. уполн. 2 отд. СО [подпіс] Сикорский

«Согласен» нач. СО [подпіс] Аргов[317]

«Утверждаю» ПП ОГПУ БВО [подпісу няма] Раппопорт

Объединенное Государственное Политическое Управление СССР

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 237.*

* * *

Ордер № 4910
Июля 19 дня 1930 г.

Выдан сотруднику Оперативного отдела ОГПУ Соловьеву на производство ареста и обыска

ДУБОВКО Владимира Николаевича по адресу Мал. Грузинская ул., д. 34, кв. 13.

Примечание. Все должностные лица и граждане обязаны оказывать лицу, на имя которого выписан ордер, полное содействие для успешного выполнения.

Зам. Председателя ОГПУ [подпіс Г. Ягоды]

Начальник оперативного отдела [подпіс неразборлівы]

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 238.*

* * *

ПОСТАНОВЛЕНИЕ
(о заключении под стражу обвиняемого)
1930 г. августа 2 в г. Минске

ПП ОГПУ по БВО и ГПУ БССР допросив сего числа гр-на ДУБОВКО Владимира Николаевича обвиняемого по ст. 76 УК и, принимая во внимание то, что он вполне изобличается в предписываемом ему преступлении, что наказание угрожающее ему сопряжено с лишением свободы, что имеются основания на возможность уклонения его от следствия и суда, в виду тяжести угрожающего ему наказания и, что находясь на свободе, он может препятствовать раскрытию истины вследствие необходимости допроса целого ряда свидетелей, с которыми он может сговориться, а поэтому руководствуясь ст. ст. 144, 146, 147 и 158 УПК ПОСТАНОВИЛ: мерою пресечения обвиняемому ДУБОВКО В. Н. избрать содержание под стражей при Комендатуре ПП и ГПУ Бел. по I категории, о чем объявить обвиняемому и копию сего постановления послать Прокурору, наблюдающему за делом.

Уполномоченный [подпіс Сікорскага]

Согласен: нач. отд. [подпіс Аргава]

Утверждаю: зам. ПП ОГПУ БВО и

зам. пред. ГПУ Бел. [подпісу няма]

Настоящее постановление мне объявлено: В расписке о предъявлении постановления отказался [апошняе дапісана следчым].

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 238.*

* * *

СПРАВКА

ДУБОВКО В. Н. препровожден в ПП ОГПУ по БВО из ОГПУ при отношении 181305 от 29.УГГ.30 г.

Отношение находится в проц. материалах Красковского И. И.

Пом. уполн. СО ПП ОГПУ БВО КОРОТКЕВИЧ

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 239.*

* * *

Патрабуем жорсткай кары агентам міжнароднай буржуазіі ў Савецкай Беларусі — беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратам!

<...> Беларускаму нацыянал-дэмакратызму ўдалося пранікнуць у шмат якія галіны гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, дзе ён разгортваў сваю дзейнасць (НКА, НКЗ, БАН, БДзВ і інш). Ён пранік і ў беларускае згуртаванне «Узвышша». У асобе яго былых лідараў — Бабарэкі, Пушчы і Дубоўкі — ды іх малодшых пабрацімаў ён стараўся пашырыць свой уплыў на ўсё згуртаванне і наклаў пэўны адбітак на працу згуртавання ў цэлым. <...>

Подпісы: Лужанін, Кляшторны, Дарожны, Чорны, Крапіва, Мрый, Бядуля, Глебка, Калюга.

*Рэзалюцыя «Узвышша» ад 30.11.1930.*

* * *

Ліст у рэдакцыю

Паважаны таварыш рэдактар! Прашу на старонках вашай газеты змясціць наступнае.

За апошні час (2—3 гады) у часопісу «Узвышша» былі змешчаны творы Ул. Дубоўкі, якія з боку пролетарскае грамадскасці і крытыкі атрымалі ацэнку як палітычна шкодныя, накіраваныя

супроць нашага паспяховага будаўніцтва, супроць ленінскай партыі («І пурпуровых ветразяў узвівы», «Крыху восені і жменька кляновых лістоў», «Пярэсты букет», «Кругі» і інш). Творы з яскрава акрэсленай правабуржуазнай, кулацкай ідэалогіяй.

Знаходзячыся з Дубоўкам у радстве (брат), я хачу заявіць наступнае: я выхаваўся і выхоўваюся ў шэрагах Ленінскага камсамолу і ніколі думак брата на нашу сучаснасць, на разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва не падзяляў і не падзяляю.

Лічу сваёй буйнай палітычнай памылкай тое, што да гэтага часу не ўсвядоміў усяе шкоднасці яго пазіцыі ў літаратуры, не заявіў аб гэтым ні ў камсамольскай арганізацыі, ні ў друку.

За апошні час сваім маўчаннем ў адносінах да нац. дэмакратызму я даў повад сваім таварышам абвінаваціць мяне ў аб'ектыўнай салідарнасці з нацдэмакратамі, адзначаю, то нацдэмакраты былі, ёсць і будуць маімі ворагамі, аб гэтым я пісаў яшчэ ў 1929 годзе 18/11 на старонках «Звязда» ў творы «У абдымках ворага».

Адзначаю ганьбаю пазіцыі Ул. Дубоўкі і кажу, што я ўсе свае сілы і здольнасці аддаваў і аддаю краіне Саветаў. Ад думак Ул. Дубоўкі адмяжоўваюся, як і ад выступленняў нац. дэмакратаў, аб чым і даводжу да ведама пралетарскай грамадскасці.

З комс. прывітаннем Язэп Дубоўка (Вазёрны)

*Ліст Я. Дубоўкі ў рэдакцыю // Чырвоная змена. 1930. № 292. 19 снеж. С. 4.*

* * *

Беларускія нацыяналісты, ідэолагі кантррэвалюцыйнай буржуазіі, заўсёды былі заклятымі ворагамі народа. На ўсіх этапах барацьбы беларускіх працоўных мас за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне яны нязменна выступалі як подлыя здраднікі радзімы, як прадажныя найміты міжнароднага імперыялізму. <...>

Купала, Колас і Бядуля не зразумелі значэння Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не зразумелі яны і таго, што толькі

пралетарская рэвалюцыя прынесла беларускаму народу сапраўдную свабоду, бо толькі яна ўпершыню за ўвесь час яго гістарычнага існавання, пасля многіх стагоддзяў прыгнечання і гвалту, дала гэтаму народу дзяржаўнасць.

У 1922 годзе ўпершыню пачынае друкавацца малады сатырык Кандрат Крапіва. У 1923 годзе выступае са сваімі вершамі паэт Паўлюк Трус. У 1924 годзе пачынае сваю творчую дзейнасць Кузьма Чорны. У 1926 годзе ўпершыню з'яўляюцца ў друку творы празаіка М. Лынькова і П. Глебкі. Крыху пазней з'яўляецца ў літаратуры паэт П. Броўка, празаік Р. Мурашка і шмат іншых.

Маладыя кадры беларускай савецкай літаратуры растуць ва ўмовах напружанай барацьбы з падрыўной, шкодніцкай дзейнасцю нацыяналістаў. У мэтах большай канспірацыі і маскіроўкі нацыяналістычныя дыверсанты ў літаратуры стварылі знешнюю бачнасць «прынцыповых» творчых рознагалоссяў у сваім асяроддзі. Яны стварылі некалькі асобных літаратурных арганізацый, праводзячы ў іх аднолькава падрыўную контррэвалюцыйную работу. Гэта была тактычная расстаноўка сіл, размеркаванне роляў, якое давала магчымасць нацыяналістычным шкоднікам ахопліваць сваім разлагаючым уплывам розныя групы літаратараў.

Па ініцыятыве аднаго з галоўных ідэолагаў беларускага нацыянал-фашызму, шпіёна Ігнатоўскага, было створана ў 1923 годзе літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», у мэтах папярэдняй контррэвалюцыйнай апрацоўкі літаратурнай моладзі. На чале гэтай арганізацыі быў пастаўлены былы супрацоўнік контррэвалюцыйнага «Звона», польскі шпіён, які прабраўся ў Камуністычную партыю і замаскіраваўся, па ўказанню і пры дапамозе свайго кіраўніка Ігнатоўскага, «надпралетарскага паэта».

Узначальваючы «Маладняк», ён сістэматычна праводзіў пры дапамозе Дудара, Зарэцкага, Дубоўкі і іншых выхаванцаў Ігнатоўскага нацыяналістычную апрацоўку маладых літаратараў, вярбуючы сярод іх новыя кадры для рэвалюцыйнай работы.

У мэтах далейшага пашырэння сферы сваёй дзейнасці ў літаратуры нацыяналісты ствараюць у 1927 годзе паводле ўказанняў таго ж Ігнатоўскага новую літаратурную арганізацыю — «Узвышша». Ва «Узвышшы» была вылучана група пісьменнікаў, якія прайшлі першапачатковую шавіністычную апрацоўку ў «Маладняку». У процілегласць «Маладняку», які праводзіў нацыяналістычную лінію больш ці менш замаскавана, прыкрываючыся камсамольскай шыльдай, «Узвышша» ў сваіх дэкларацыях адкрыта заяўляла, што яно будзе праводзіць сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам нацыянал-фашысцкай агентуры, якая прабралася ў рады Кампартыі. На старонках часопіса «Узвышша» друкаваліся адкрыта контррэвалюцыйныя творы. Сваімі хлуслівымі лозунгамі барацьбы за «сапраўднае мастацтва» за «мастацтва, якое пабачаць вякі і народы», контррэвалюцыйныя кіраўнікі «Узвышша» Дубоўка і інш., непасрэдна звязаныя з падпольнай нацыяналістычнай арганізацыяй, ашуканым шляхам прыцягвалі ў свае рады асобных здольных, але палітычна недастаткова ўстойлівых, падвержаных нацыяналістычным хістанням пісьменнікаў. Так, апрача З. Бядулі, ім удалося ўцягнуць у сваё аб'яднанне К. Крапіву, К. Чорнага, П. Глебку.

*А. Кучар, В. Вольскі. Беларуская савецкая літаратура за XX гады // ЛіМ. 1937. 31 кастр. С. 3.*

# БУТЫРСКАЯ ТУРМА, МЕНСКАЯ ТУРМА. АРЫШТ, СЛЕДСТВА, ЭТАП. 1930–1931

*Дзіўнае адчуванне: вось яны, муры «амерыканкі», за якімі адбываецца самая чорная і самая цяжкая трагедыя бязвіннага чалавека — зняволенне. А вось — гарадскі праспект, чысты і сонечны, па якім спяшаецца ў школу дзяўчо з белым бантам і заплечнікам. Да школы яшчэ з паўгадзіны, і яна заскоквае ў краму, бо там якраз зараз прывезлі найсмачнейшыя юмбрыкі. Цукровая пудра сыплецца ёй на сукенку, пальцы становяцца салодкімі і смачнымі, сонца прыгравае макаўку, а ўсяго толькі ў метры ад яе, за цяглянай сцяной, пафарбаванай у бяскрыўдны жоўты колер, следчы грукае кулаком па стале і крычыць на знясіленага чалавека. Калі б знесці сцяну — проста сцяну, якая лёгка кладзецца ў пыл пры пэўнай нагодзе, — да таго вохкага кута, у якім сядзіць, вар'яцеючы, нейкі чалавек, усяго некалькі крокаў, і цукровая пудра з яе каўнерыка не паспее ссыпацца на зямлю, нават калі яна будзе шпарка-шпарка бегчы да яго, раскінуўшы рукі дзеля абдымкаў. Калі накупіць гэтых юмбрыкаў і пакласці яму ў перадачу — да яго яны дойдуць разам з сонечным пылам гэтай вольнай вуліцы.*

*А вось Бутырка, яна стаіць пасярод звычайнага жылога квартала, і з некаторых вокнаў добра бачны ці то мур, ці то дах, ці то частка двара, і калі б іншы час, дык на яе месцы раслі б дрэвы і стаялі рыпучыя арэлі. Той, хто знаходзіцца ўнутры, ужо нават не верыць, што вось за тым акном, якое бачна, калі стаць у левы кут і крыху прыўзняцца, хлопчык робіць выгляд, што робіць урокі, а сам цішком выкалупвае грыфель з каляровых алоўкаў.*

*Ад волі да няволі заўсёды — толькі адзін крок.*

*Асабліва дзіўнае адчуванне, калі цябе вязуць з турмы на вакзал, каб этапаваць з Масквы ў Менск, вязуць пад канвоем у звычайным трамваі, і тут ужо мяжа паміж воляй і няволяй наогул нібыта сціраецца, але бездань паміж табой і маладой дзяўчынай, якая побач углядаецца ў акно, — неймаверная.*

*І цягнік, які вязе цябе, прабягае праз станцыі і паўстанкі, і дзеці машуць яму рукамі, і каровы ў задуменні глядзяць на ягоныя закратаныя вокны, і ўся гэтая бязмежная прастора аддзелена ад цябе не тоненькай сценкай таварнага вагона, а нейкай непазнавальнай і чамусьці непераадольнай мяжой.*

*У які момант і чаму чалавек раптам страчвае волю? Чаму тысячы і сотні тысяч раптам апынуліся за гэтай мяжой і не здолелі яе перасекчы? Чаму воля аднаго чалавека, які вядзе за краты, раптам становіцца мацнейшай за волю таго, каго вядуць?*

*Прастора арышту, следства і этапу — гэта прастора кабінетаў і камер, турэмных калідораў і сталыпінскіх вагонаў, заўсёды — цесная, смуродная і цёмная. Нібыта іншай у цябе больш няма.*

*Антон Адамовіч, узвышаўскі крытык, таксама арыштаваны па справе СВБ, у аўтабіяграфіі «Мой счет им» даволі красамоўна ахарактарызаваў дэталі і адчуванні гэтай прасторы: «“Встаньте. Оденьтесь. Мы должны произвести у вас обыск”. Но ордер, который дают прочесть, выписан не только на обыск, но и на арест... Значит, все... И начинается длящийся всю ночь обыск, при котором переворачивается все вверх дном, тщательно прощупываются, а иногда и вспарываются подушки и матрацы, простукиваются стенки, а в иных местах обрываются со стен обои. Забирается каждый исписанный клочок бумаги, а иногда почему-то и совершенно чистая бумага. Каждая книжечка встряхивается, а если есть в ней пометки, — безоговорочно забирается. Забирается и книжка, почему-либо подозрительная по автору, названию, году или месту издания и особенно — по языку: забираются все книги, написанные на неизвестном работникам ГПУ языке (а из известных — да и то в сомнительном объеме — можно назвать один лишь “язык Великой Октябрьской революции” — русский язык). Бедные работники!*

*Они явно недовольны тем, что у этого человека так много книг: каждую ведь надо посмотреть, перетряхнуть, перелистать... "Зачем столько книг", — вырывается у них досадный и уже подозрительно-испытующий вопрос».*

*Яшчэ адзін тагачасны вязень, выкладчык Менскага педтэхнікума Яўхім Кіпель успамінае: «Нас кармілі так, каб мы не памерлі з голаду, есці хацелася заўсёды. Нам не дазвалялі праходак, не вадзілі ў лазню, не змянялі бялізны, не стрыглі, не дазвалялі атрымваць перадачы і не давалі газетаў. У нас паадрасталі бароды, а на галовах — доўгія валасы. Некаторыя з нас прыраклі насіць бароды ўвесь час, каб прыпамінаць, праз што нам давялося прайсці. Бялізна зусім парвалася, і шмат хто пачаў хадзіць голым. З-за адсутнасці ў харчох гародніны цынга пачала раз'ядаць дзясны, яны крывавілі» [42, с. 134].*

*Следства па справе СВБ вёў следчы Аргаў. «Всё дело СВБ в качестве главного следователя вел специально присланный из Москвы Борис Карлович Аргов (и имя, и отчество, и фамилия, как у большинства гепеушников, конечно, выдуманные). Этот тип вел себя довольно развязно, любил пофилософствовать и пооткровенничать. Мне лично, правда, как "мелкой сошке" в деле, не приходилось с ним встречаться, но от более крупных фигур нашего "дела" приходилось слышать (в их передаче) некоторые его философемы. Вот как, например, Аргов объяснял суть всего дела: "Белоруссия — страна отсталая, так мы утверждаем. Отсталая страна даже в отдельных своих единицах не должна возвышаться над передовой. Всякие единицы, перерастающие рамки этой отсталости, должны быть изолированы. Так мудрый садовник подрезает ветви дерева, которые слишком разрастаются" (надо отметить, что "мудрым садовником" большевистская пропаганда всегда называла Сталина). Излюбленным тезисом Аргова было: "Среди арестованных ГПУ не может быть невиноватых". При возражениях он развивал этот тезис: "Пусть вы не виноваты, не враг сегодня, но завтра вы можете стать им. А при возможном нашем падении и смене власти на противоположную по направлению вы, даже будучи совершенно нейтральными и невраждебными нам, станете опорой для новой власти*

*и даже необходимыми ей кадрами. Вот почему вас всех сейчас же нужно изолировать, изъять из Белоруссии, пусть вы сами по себе и ни в чем не виноваты". Одному из подследственных Аргов развил такую аналогию: "Когда рыбак ловит сетью, вместе с рыбой попадают лягушки и вообще всякая дрянь. Но рыба-то обязательно попадет. Мы ловим сетью, и пусть в ней много лягушек, но рыба обязательно есть. Меньшая ошибка поймать лягушку вместо рыбы, чем пропустить самую рыбу"».*

*Пра следчых успамінае Я. Кіпель: «Праз тыдзень мяне выклікаў на допыт следчы Сікорскі. Ён адразу прапанаваў стаць на працэс, я катэгарычна адмовіўся. Выглядала, што мой адказ не зрабіў на яго ніякага ўражання. Пахадзіўшы, ён адчыніў дзверы ў другі пакой і прапанаваў зайсці туды на пару хвілін. Я зайшоў, дзверы адразу ж замкнуліся, і я застаўся адзін. Гэта аказаўся не пакой, а балкон, з бакоў абцягнуты драцяною сеткаю, а зверху пакрыты жалезнымі кратамі — вылезці з балкона было немагчыма. Я сядзеў там гадзіны тры, вельмі замёрз. Я і крычаў, і стукаў — нішто не памагала. Нарэшце дзверы адчыніліся, перада мною стаяў начальнік сакрэтнага аддзела Аргаў, і, як бы нічога не бывала, ён працягнуў: — А, гэта вы! Ну, садзецеся і peraлічайце свае памылкі» [42, с. 135].*

*Антон Адамовіч: «Под весну 1931 года (не помню хорошо, в феврале или в марте) мы через нашу "почту" с воли получили сообщение о том, что застрелился Ігнатоўскі, которого уже подготавливали к посадке в подвал на роль "главы организации". Вскоре после этого получили и другое известие — о попытке покончить жизнь самоубийством посредством "харакири" со стороны народного поэта Янкі Купалы, очевидно, подготавливавшегося на место Ігнатоўскага. После всех этих событий наших однодельцев больше не вызывали на допросы, разрешили всем нам передачи, перевели из подвала в тюрьму, где были большие светлые камеры, начали понемногу вызывать для подписания протокола об окончании следствия, стали давать свидания.*

*Несколько дней в знаменитой Лубянке с заполнением длиннейшей и подробнейшей анкеты и самым унизительным и тщательным из всех, нередких и прежде и потом, обысков, с осмотром не*

*только рта и горла, но также и заднего прохода. Месяц в пересыльной тюрьме, не менее знаменитых Бутырках, — совсем уже "весело": сто человек в камере, где при Николае "Кровавом" было место лишь для десяти, — в тесноте, но не в обиде — масса интеллигенции, особенно инженеров из так называемого знаменитого "рамзинского дела" (тоже, оказывается, созданного ГПУ), каждый вечер доклады, лекции и даже концерты своими силами. Хорошая товарищеская самопомощь. А теснота не так уж страшна — всего лишь ночью нельзя лечь на спину или повернуться, надо "ворочаться организованно" (единственное, кажется, место, где столь излюбленная большевиками "организованность" была целесообразной)».*

*Яўхім Кіпель пра Бутырку: «У камеры, куды мяне ўпіхнулі, у той час сядзела 93 чалавекі, а пры царох яна была разлічаная на 12 чалавек. У камеры ўздоўж сцен з абодвух бакоў — трох'ярусныя нары. Як на нарах, так і пад нарамі арыштаваныя сядзелі шчыльна ў рад. Праз гадзіну мяняліся месцамі: тыя, што сядзелі, ішлі стаяць, а тыя, хто стаяў, — сядзець. З шасцёх гадзін раніцы пачыналі пускаць на праходку. Кожная камера гуляла паўгадзіны. Двор кожнага корпуса быў падзелены на сектары, і таму на праходку маглі ісці адначасова некалькі камераў; праходкі трывалі да 8 гадзін вечара» [42, с. 141].*

*Пасля дзевяці месяцаў следства выракі арыштаваным і ўжо асуджаным аб'яўлялі як прыйдзецца: «Здесь же, в Бутырках, каждый из нас получает под расписку объявление о постановлении Коллегии ОГПУ через обыкновенного тюремного надзирателя», — фіналіць турэмныя ўспаміны Адамовіч. «Аднойчы мяне выклікалі з камеры на калідор з рэчамі. Тут, у калідоры, наглядчык абвясціў мне, што я асуджаны на пяць гадоў ссылкі ў горад Налінск, аднак прачытаць пастанову "тройкі" ў рукі мне не даў», — сведчыць Я. Кіпель [42, с. 144].*

* * *

20 ліпеня 1930 года Уладзімір Мікалаевіч быў арыштаваны першы раз. Мы жылі на дачы ў Пярлоўцы[318], сыну Альгерду — Аліку было паўтара года, ён (Уладзімір Мікалаевіч) ездзіў на працу ў другой палове дня. І вось 20 ліпеня прыязджае на дачу маці Уладзіміра Мікалаевіча Настасся Іванаўна і кажа, што Валодзю, відаць, арыштавалі, таму што на маскоўскую кватэру прыязджалі супрацоўнікі НКУС, даведаліся, што ён жыве на дачы, відаць, дачу не знайшлі[319] і сядзелі ў кватэры да часу, калі ён прыходзіў на працу. Яго арыштавалі на працы ў Крамлі ў Саўнаркоме. Дзень быў гарачы, на працу ён паехаў у белым касцюме і сандалях. Так яго і забралі.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 207.*

* * *

Слушали: Дело № 102129 по обв. гр. Красковского Ивана Игнатьевича[320], Тремповича Павла Викторовича[321], Мядзелко Паулины Викентьевны[322], Дубовко Владимира Николаевича и Лёсика Иосифа Юрьевича[323] по 58/11 ст. УК.

Постановили: Дело вместе с личностью обвиняемых направить в ПП ОГПУ по БВО.

Арестованы, содержатся первые двое во внутренней тюрьме и последние трое в Бутырской тюрьме.

Пом. секретаря коллегии ОГПУ [подпіс неразборлівы].

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2. С. 220.*

* * *

Обычно мы с Аликом ходили к поезду встречать В. Н., и Алик каждый день в обычное время тянул меня или бабушку за руку и твердил «папу». Приходилось ходить с ним на станцию, и он печально возвращался домой, не встретив папу.

Друзья и товарищи не показывались. Советоваться было не с кем. Один Купцевич вел себя благородно и, я бы сказала,

мужественно, часто приезжал узнать, нет ли чего нового и, когда мне нужно было идти куда-то поделам В. Н. и некуда было девать Алика, он ходил с ним на это время гулять на сквер. Кажется, он посоветовал мне обратиться к Адамовичу, который тогда работал в Москве, в Сахарном тресте. Адамович сказал: попробуйте поискать его в Минске. Один из друзей В. Н., Станкевич Константин[324], только что вернулся из Минска, и я пошла к ним в надежде получить хоть какие-нибудь сведения. Он спал или притворился, что спит в другой комнате. Или я, не дождавшись, открыла туда дверь, или жена, чувствуя неловкость за него, и я видела его лежащим на кровати лицом к стене. На мой вопрос, не знает ли он чего-нибудь о Володе, он, даже не повернувшись, пробормотал что-то нечленораздельное. Я встала и пошла к выходу.

*М. Дубоўка. Успаміны. Рукапіс.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 838. Л. 10, адв. 11.*

* * *

1930 года августа 2 дня. Я, уполномоченный ПП ОГПУ БВО и ГПУ Бел., рассмотрев дело № 13221 и принимая во внимание что данными, имеющимися в деле, гр-н Дубовко Владимир Николаевич в достаточной степени изобличается в том, что принадлежал к нелегальной а/с организации и, что обвинение это находит себе подтверждение в материалах имеющихся в деле, а потому, руководствуясь 128 и 129 ст. ст. УПК, постановляю:

Дубовко В. Н.

допросить в качестве обвиняемого по сему делу, предъявив обвинение в принадлежности к нелегальной организации, т. е. в преступлении предусмотренном 76 ст. УК, о чем объявить под расписку сем же и послать копию сего постановления для сведения прокурору.

Ст. уполномоченный [подпіс Сікорскага]

Согласен: нач. отдела [подпіс Аргава]

Утверждаю: ПП ОГПУ и ГПУ Бел. [подпісу няма]

Постановление мне объявлено (упісана следчым.— *У. М.*): в расписке о предъявлении постановления отказался.

*Выпіска з пратакола пасяджэння калегіі АДПУ*
*(з'явілася праз дзесяць дзён пасля арышту)*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення //*
*Полымя. 1996. № 2. С. 220.*

* * *

Я пачала шукаць яго па турмах. Усюды мне казалі, што яго няма. Адзін знаёмы спрактыкаваны стары рэвалюцыянер параіў мне: «Вы не пытайцеся, тут ён або не, а нясіце перадачу і тады даведаецеся, ці ёсць ён там». Я так і зрабіла. У Бутырках мне сказалі: ёсць такі, але перадачы яму забаронены. Калі праз некалькі дзён я зноў прыйшла туды ж з перадачай, мне адказалі: «Такога ў нас няма і ніколі не было». У мяне падкасіліся ногі, і я апусцілася каля акенца. Што можна было падумаць? Усё, што хочаце, аж да самага страшнага. У гэты час у Маскве жыў і працаваў Адамовіч, былы старшыня Саўнаркома Беларусі. Я пайшла да яго, расказала аб сваіх паходах і папрасіла парады. Ён сказаў: «Паспрабуйце пашукаць яго ў Мінску». Я паехала ў Мінск. Узяла адзенне, прадукты, кнігу Байрана. У ЧК або ў НКУС мне сказалі: «Так, ён тут, але перадачы яму не прымаем». Тады я звярнулася ў ЦК партыі да сакратара ЦК Васілевіча[325]. Паміж намі адбылася такая размова:

— Ці тут Дубоўка?

— Так, тут.

— Я словам не веру, таму што па вопыце ведаю, што сёння могуць сказаць «тут», а іншым разам, што яго тут ніколі не было.

— Што ж вы хочаце?

— Хачу бачыць хоць адзін радок, напісаны яго рукой. Дарэчы, мне трэба атрымаць ад яго даверанасці на грошы, вось гэтыя даверанасці і будуць доказам таго, што ён сапраўды тут. Акрамя таго, трэба перадаць яму рэчы, вопратку, паколькі яго ўзялі ў летнім касцюме і сандалях.

Ён кажа: «Ці бачыце, бываюць жа меры не толькі фізічнага ўздзеяння». У адказ на гэта я сказала: «Ах, вось як. Значыць, гэта мера ўздзеяння — ведай, што твая сям'я жыве ў бядзе, пакуль ты не прызнаешся ў тым, чаго не рабіў». Тады ён бярэ тэлефонную трубку і звоніць начальніку Рапапорту: «Тут прыехала жонка Дубоўкі, трэба прыняць ад яе перадачу і выдаць ей даверанасці». Пасля гэтага ў МДБ, у ЧК або НКУС у мяне прынялі адзенне, кнігу са збору твораў Байрана. Я не ведала, ці патрэбна гэтая кніга Уладзіміру Мікалаевічу, ці будзе ён яе чытаць, ці будзе нешта перакладаць. У юнацтве я шмат чытала пра рэвалюцыянераў царскіх часоў і ведала, што шмат якія з іх у турме займаліся замежнымі мовамі.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 208.*

* * *

Уважаемый тов. Голодед!

Обращаюсь к Вам по нижеследующему вопросу:

Мой брат Владимир Николаевич ДУБОВКО числа 20-го июля 1930 г. был арестован ОГПУ и препровожен в г. Минск, где находится до настоящего времени, около трех месяцев.

Не зная причин ареста брата, не зная сущности обвинения предъявленного ему, но хорошо зная, что наши органы ОГПУ содержат под арестом лиц замешанных в контрреволюционной деятельности, я не обращаюсь к Вам с ходатайством за брата.

Мое к Вам обращение вызвано следующими соображениями:

1. До сего времени брат содержится на особо строгом положении, первое время запрещали передачи, а последнее время хотя и разрешили таковые, но ни описи передаваемых вещей не принимают, ни расписок в получении им передач не передают.

2. Запрещают передачи и, по-видимому, снабжение письменными принадлежностями и, предполагаю, не дают литературы для чтения. Следовательно это дает мне возможность сделать такой вывод, что он на особо строгом положении, а следовательно, в чем-то очень тяжелом обвиняется.

Я, находясь в рядах РККА, по роду своей деятельости связь с семьей поддерживал редкими приездами Москву, или проезжая Москву, на несколько часов заходил к отцу, где встречал и брата.

В 1928-м году в связи с поступлением моим в Военную Академию РККА им. Фрунзе, я приехал в Москву и имел возможность в течении этого времени несколько раз довольно подробно беседовать с братом.

Во время этих бесед он мне высказывал свои переживания и жаловался, что на него в белорусской печати пишут много «ругательного», что обвиняют в мелко-буржуазной идеологии, якобы протаскиваемой им в своих стихах и поэмах и т. п. Жаловался на тормоза и задержку в напечатании некоторых из стихов и поэм, приводя ряд доводов в свою очередь, что в основном это не совсем верно, что его просто не понимают и т. д.

На это я ему посоветовал обратиться с заявлением в ЦК или ЦКК с просьбой назначить вполне авторитетную комиссию или незаинтересованного и компетентного члена ЦКК, с задачей — изучив все произведения или только основные, сделать вполне авторитетное заключение.

Брат обращался к члену ЦКК тов. Керженцеву, но результаты переговоров я, к сожалению, не помню, но смысл слов Керженцева — «Продолжайте Вашу работу и поддерживайте связь со мной».

Очень хорошо помню и искренне возмущался, когда брат мой, характеризуя отношение к себе некоторых белорусских деятелей, привел такой факт: — Некто Жилунович — зав. Госиздатом, заявил: «Пока я зав. Госиздатом, ни одного стиха Дубовко напечатано не будет».

Когда вопрос встал о снятии с редакторской работы в Совнаркоме СССР и он рассказал мне о методах этого снятия, я ему посоветовал обратиться к секретарю своей парторганизации и изложить ему суть дела.

Всех фактов, приведенных им в беседах я не помню, но должен сказать, что подобного рода отношение меня возмущало и вызывало всегда недоуменный вопрос — «Неужели

возможны и допустимы такие факты», вместо поддержки, помощи, направления в правильное русло с пользой для нашего дела, творческой мысли талантливого человека, абсолютно не чуждого нашей стране, нашей советской общественности — голая травля и преследование вплоть до снятия с чисто технической работы, довольно плодотворной по отзывам учреждения.

Между прочим должен оговориться, что хотя и являюсь белорусом по происхождению, я языка белорусского не знаю, так как вся моя самостоятельная жизнь и работа с 15-тилетнего возраста протекала на территории РСФСР,— поэтому я сам лично ознакомиться с творчеством брата не мог, да, кроме того, стихов (по своей натуре) не люблю, поэтому каких-либо выводов делать или что-либо доказывать не собираюсь.

Допуская, что в своих стихах, поэмах брат сделал ту или иную ошибку, никогда не могу согласиться с тем, чтобы он проповедовал что-либо контрреволюционное, направленное против мероприятий нашей партии и соввласти.

Это мое глубокое внутреннее убеждение, потому что в беседах я уловил бы предубежденность, неприязнь его к соввласти и политике партии.

Кроме того, брат происходит из действительно трудовой семьи, рос, учился на «медные гроши», так что «базы», которая необходима для развития из него чуждого нам человека, — не было.

Кроме того, было бы странным даже такого рода положение, когда бы он один очутился «по ту сторону баррикад», против всей нашей семьи.

Я член партии большевиков, к которой пришел еще будучи юношей, но с сложившейся идеологией в 1918 году, младшие два брата комсомольцы.

Так что один против трех нас плюс старик отец, который кое-что нам помог бы.

Все это дает мне основание высказать предположение, что брат не контрреволюционер.

Считая его вполне преданным соввласти и нашей партии, думаю, что никогда на путь организационной борьбы против

партии, против соввласти, против диктатуры пролетариата он не становился и не встанет.

Вся кампания, поднятая в белорусской печати против брата, его жалобы на это и на отношение к себе некоторых работников, заставляет меня высказать опасение, что как бы не случилось тут какой-либо ошибки.

Поэтому я и обращаюсь к Вам с этим письмом, прошу Вас, если это не затруднит, поставить меня в известность — в чем обвиняется мой брат.

Если эти обвинения обоснованы, этим самым вполне определяется мое отношение ко всему этому делу.

Я член партии большевиков и враги партии и Советской власти, диктатуры пролетариата — мои враги.

Никаким родственным чувствам и связям места нет и быть не может.

С комприветом [подпіс Вячаслава Дубоўкі]

Письмо послано: 1. 1-му секретарю ЦК КП(б)Б тов. Гею

Предсовнаркома БССР тов. Голодеду

Нач. ГПУ Белоруссии т. Раппопорту

Отв. секретарю ЦБ ячеек Военной Академии РККА

Адрес: Москва 34, Курсовой пер., д. № 1, кв. 5. Общежитие Военной Академии.

Рэзалюцыя алоўкам: «Т. Раппопорту, препровождаю письмо Вячеслава Дубовко по поводу ареста его брата. Как с ним обстоит дело?» [подпіс Галадзеда] 17.X.1930 г.

*Пісьмо В. М. Дубоўкі да М. М. Галадзеда.*
*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2.*

* * *

У 1931 годзе, праз некалькі месяцаў пасля арышту Уладзіміра Мікалаевіча, ужо зімой, прыходжу я са школы, і маці Уладзіміра Мікалаевіча кажа мне, што прыходзіў швейцар Беларускага паўпрэдства і сказаў, што зараз у паўпрэдстве тав. Галадзед, што, можа, з ім трэба пагаварыць. Я пайшла вечарам, у Паўпрэдстве

ўжо нікога са службоўцаў, не было. Мы з Галадзедам сядзелі ў нейкім пустым кабінеце. Ён сказаў, што нічога не ведае, таму што быў на поўдні, у адпачынку, што калі я хачу нешта даведацца, каб прыязджала ў Мінск, калі ён будзе там і сам даведаецца аб усім. Праз нейкі час я паехала ў Мінск, ён мяне прыняў. Я ўжо не памятаю, пра што ішла гаворка, здаецца, аб дазволе на перадачы, памятаю толькі, што на развітанне ён мне сказаў: «Я ўпэўнены, што ў хуткім часе нашы хлопцы будуць на свабодзе».

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 208.*

* * *

У час, калі бацьку, Уладзіміра Дубоўку ды іншых зьняволеных хлопцаў па чарзе вазілі на допыты з маскоўскае Бутыркі ў менскую «амерыканку» і наадварот, мама й Марыля Дубоўка паведамлялі адна адну, што каму трэба перадаць, перасылалі адна адной патрэбныя дзеля гэтага рэчы, грошы. Аб гэтым сьведчаць Марылініыя паштоўкі маёй маме ад 20.04.1931 г. і 1.05.1931 г. У апошняй Марыля паведамляе маму аб днях перадачаў у месяцы траўні для бацькі, Адамовіча й Пушчы. Паведамляе, што ёй удалося перадаць для Адамовіча 25 руб. грошай, а астатнім хлопцам грошаў не прынялі, мабыць, таму, што яны яшчэ ня ўнесеныя ў сьпісы. Вельмі ў гэты пэрыяд дапамагаў нашым сем'ям Фэлікс Купцэвіч.

*Алеся Бабарэка. Успаміны пра бацьку // Пра час «Узвышша». С. 21.*

* * *

У 1931-м па камерах менскай турмы хадзіў Дубоўкаў верш:

*Шумеце, шумеце, высокія сосны,*
*Пілуйце вы дошкі адна ў адну, —*
*Збянтэжаны вораг шукае ратунку,*
*Сябе ўжо самому гатовіць труну.*

Усіх прыблізна пяць такіх раздзелаў, але большасць забылася.

*М. Улашчык. З пачутага і запісанага // Даць народу гісторыю. С. 335.*

***

II

В печати мои произведения начали появляться начиная с 1922 г., писал на белорусском языке. В этом же году мной был подготовлен первый сборник моих стихов, под названием «Строма» (что значит — «поток»). Этот сборник я переслал по почте революционному журналу (вернее еженедельной газете) «Наша Будучына»[326], впоследствии закрытому польскими властями.

Сборник был отпечатан и затем поступил в продажу и на территории БССР.

Последовательно после этого мною были изданы следующие небольшие сборники:

а) «Там, дзе кіпарысы» — поэма, в 1925 г., в издании «Молодняка»; б) «Трысьце» — в 1925 г., в издании Белгиза; в) «Кредо» — в 1926 г., в издании «Молодняка» и г) «Наля» — в издании Центроиздата в 1927 г.

В журнале «Узвышша» были опубликованы поэмы «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Урачыстая дата» (к Х-ти летию существования БССР) и др. мелкие стихи. В издании «Звезды» в 1929 г. опубликован гимн к 9-й годовщине освобождения БССР от белопольской оккупации. В журнале «Молодняк» за 1925 г. начало, а в журнале «Узвышша» целиком — поэма «Браніслава».

В 1929 г. мною подготовлен к печати и отдан Белгизу сборник «Дэпешы без адрасу», куда вошли просмотренные мною произведения из прежних сборников, а также неопубликованные еще в сборниках, но печатавшиеся в журнале

В 1929 г., осенью, я сдал редакции журнала «Узвышша» новую поэму «Штурмуйце будучыні аванпосты», а весной 1930 года —

вторую часть поэмы «I пурпуровых ветразей узвівы». Все эти три последние работы — не опубликованы.

Кроме стихов мною опубликовано несколько статей, главным образом по вопросам белорусского литературного языка и реформы белорусского алфавита.

III

Не связанный в прошлом с белорусским революционно-культурным движением (ни в нашенивском движении[327], ни в последующих я никакого участия не принимал, так как жил все время на территории РСФСР и никого из белорусских деятелей не знал), я шел в литературе своеобразным путем, что нашло отражение в моих произведениях. Самую Беларусь я воспринимал не как самоцель, а как путь к интернациональному. Эта мысль, вернее положение, была зафиксирована в одном из моих самых ранних произведений в таком виде. Я воспринимаю тебя, Белоруссия, потому, что:

...Тваім шляхам прыду у шырокі сьвет,  
Паміж людзей, народаў разьліюся  
Як ветраў сьлед у збожжавай красе...

В дальнейшем это положение я стремился проводить и проводил во всех своих произведениях и работах. К числу таких произведений можно причислить большинство моих ранее опубликованных работ (например, «Студент», «Лісты кляновыя», «Грахі чубатыя» из сборника «Трысьце», отдельные стихотворения из других сборников).

В дальнейшем, в 1925 г., это положение откликнулось в другом моем лирическом стихотворении, которое звучит следующим образом:

*О, Беларусь, мая шыпшына,*  
*зялёны ліст, чырвоны цьвет!*  
*У ветры дзікім не загінеш,*  
*Чарнобылем не зарасьцеш.*  
*Пялёсткамі тваімі стану,*  
*на дзіды сэрца накалю.*

*Тваіх вачэй, пад колер сталі,*
*праменьне яснае люблю.*
*Ніколі пройме з дзікім ветрам*
*не разьвіваць дзявочых кос.*
*Імкнешся да Камуны Сьвету*
*каб радасьць красавала скрозь.*
*Варожасьць шляху не зачыніць:*
*у перашкодах дух расьце.*
*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цьвет!*

Я не говорю уже о таких произведениях, где самой темой служила наша борьба за социализм, за лучшую жизнь трудящихся. Образцом может служить хотя бы сихотворение из сборника «Наля»:

*Мы ўсе ў большасьці ранэты,*
*Песьняй шлях надоўга хіба вытчаш?*
*Закрасуе ў Камуне Сьвету*
*Песьня хэміі каталітычнай.*

Или же стихотворение «Лятуценьнем прахаджу над краем». Да и другие в том же сборнике.

Эта тема привлекла мое внимание еще не раз вплоть до 1927 года. В конце 1925 г. она наиболее полно выявилась в моем цикле стихов «Наля». Там был поставлен вопрос и о батьковщине, и о шовинизме и пр., например:

*Скажы ты, Наля, беларусам там,*
*Што я бяз бацькаўшчыны гадаваўся.*
*Сусьвет гатоў пацалаваць, абняць,*
*Каб не рабіў ён катавасій.*
*Над працай каб прымусу ня было,*
*Каб жыў працоўны там, дзе вокам кіне.*
*На ўзбрэжжа акіяна ад балот*
*Ішоў з краіны ў краіну.*

Или же заключительное 9-е стихотворение, где полностью развернута моя установка.

*Яно надыходзіць —*
*Прадвесьня відаць*
*Камуны*
*Народаў*
*Сусьвету.*
*Жыцьцё за яго я гатоў усё аддаць,*
*Як дам у гэты час за Саветы.*
*Каб толькі хутчэй зруйнаваць той падзел:*
*Дзяржаўны і не дзяржаўны.*
*Тады шавіністаў ня будзе нідзе*
*І крыўды загояцца раны.*

К этому надо добавить, что я во всей своей деятельности, а позже в литературном объединении «Узвышша» стремился к пропагандированию идеи сближения трудящихся СССР и практически работал в этом направлении.

Примером может служить практика журнала «Узвышша», который начал с первого же номера давать переводы произведений братских по Союзу ССР культур, давать статьи об этих культурах. В частности, по вопросу т. н. ориентации на запад у меня было всегда отрицательное мнение, что выразилось как в поэме «Кругі» («Шмат гадоў паветра п'ю маскоўскае, маладосьць кунешана Масквой»), в статье «Лацінка ці кірыліца» и др. Наиболее яркое отображение нашло это в моем проекте букв «дз» и «дж», разработанном мною в противовес академическим сербским «крыжыкам», принятым на Академической конференции. Как известно, букву для «дз» я разработал на основе армянской и грузинской «дз», букву «дж» — тоже, но положил в основу рисунка серп и молот.

## IV

Вполне естественно, что за восемь лет своей литературной деятельности я допускал в отдельных произведениях те или иные ошибки идеологического порядка, не нарушавшие, правда, моей основной пролетарской линии, но могущие послужить для кривотолков разных брюхопоклонников, врагов пролетарской культуры. Подобные ошибки злая воля всегда видит в преувеличенном

виде, из-за всяких низменных побуждений раздувает их. Я старался исправлять такие ошибки писанием новых произведений, где более четко ставил затронутые вопросы. Так, когда и отдельные критики (типа Байкова — Жилуновича-Глыбоцкого) начали в 1926–1928 гг. перевирать мое отношение к БССР, я дал в 1928 г. цикл стихов «Урачыстая дата», в котором с предельной ясностью поставил вопрос и дал на него ответ. Так, по вопросу создания БССР, в противовес нацдемовским теориям, я дал такие строки:

*Нарада думных камунараў*
*Сказала: «Хай апошні бой*
*Праз беларускія абшары*
*Вызвольчай коціцца ракой.*
*Паўстань з абразы і пакуты*
*Абрабаваная зямля.*
*Разбураць кайданы і путы*
*Сыны Чырвонага Крамля.*
*Табе мы шчыра дапаможам,*
*Ты будзеш вольная, як мы.*
*Краіна выйдзе пераможна*
*З абоймаў лютае зімы.*
*І вось рэспублікі Саветаў*
*Так нараджэньне адбыло.*
*І так на мапу ўсяго сьвету*
*Змаганьне край наш узьвяло.*
*За руйнаваньнем красаваньне*
*Найпрыгажэйшае ідзе.*
*«Настала ўнукаў панаваньне*
*Там, дзе учора плакаў дзед».*

Вообще весь этот цикл стихотворений является самым ярким документом, характеризующим мое отношение к нацдемам — отношение вполне отрицательное.

Примером ошибок моих может служить стихотворение «К 9-ти летию освобождения БССР от белополяков», о котором я уже упоминал и которое было издано «Звездой» (с нотами). Стихотворение, вернее самый гимн, заканчивается словами:

ніхто ніколі цябе не знойдзе, табе дапамогуць, я ведаю людзей. Але Дубоўка падышоў да вартаўнікоў, узяў іх пад пахі, а іх стрэльбы павесіў на плячо і павёў іх туды, дзе яго даўно чакалі кампетэнтныя органы. Некалькі кіламетраў ён цягнуў свой п'яны канвой. Пра што ён думаў? Чаго чакаў? Яму далі 25 год. Тбіліская турма, а затым Краснаярскі край. І вось сухарукі, рабы людажэр, так непадобны да тых людзей, якіх Дубоўка сустрэў у Грузіі, здох. Рэабілітацыя — 57 год.

І няхай так мы ўбачым заключную частку фільма. Залітыя сонцам вузенькія вулачкі — Розачка, Грушаўка. А на іх дамы з вялізнымі яблынямі. У адным з іх вялікі стол (ён і цяпер стаіць на нашым лецішчы), а за ім сядзіць высокі, не зламаны амаль трыццаццю гадамі арыштаў, прыгожы чалавек з блакітнымі вачамі і глядзіць на дачку свайго сябра, у якой, па маіх прыкідках, не болей за метра паўтара. Яны размаўляюць, яны смяюцца.

*С. Карпаў. Сюжэт //*
*Наша ніва. 2015. № 15. 15 крас.*

* * *

Да мяне былі чулыя адносіны. Памятаю, шафёр-грузін пры сустрэчы казаў: «Уладзімір — гэта такі чалавек, такі чалавек. Што табе трэба, ты толькі скажы, усё табе будзе». Калі я ездзіла ў Тбілісі, мне выпісвалі са склада дэфіцытныя тады прадукты. У час паездак я непазбежна прапускала заняткі ў школе, і ўсе нібы не заўважалі гэтага, не бачылі. Дырэктар школы, дзе я працавала, грузін, неяк пытаецца: «Ты калі паедзеш?» Я кажу: «Як жа ехаць, вось-вось экзамены». Ён з абурэннем: «Што такое, тут — экзамены, там — чалавек. Трэба ехаць». Я, вядома ж, паехала і да экзаменаў паспела вярнуцца. Жонка дырэктара саўгаса маёй суседцы па кватэры казала: «Ты даведайся, што ёй трэба, усё ёй будзе».

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 219.*

* * *

Дубовко Владимиру Николаевичу
От жены из Зугдиди
1. Сахарный песок 4 кг.
2. Сало 500 г.
3. Масло 250 гр.
4. Батоны 4 шт.
5. Яблоки 1.5 кг.
6. Лук 1 кг.
7. Папиросы 3 кор.
М. Дубовка

На обороте:

Все присланное получил полностью, больше ничего не надо, я купил вчера в ларьке. Денег не надо, есть рублей 600. Сердечное спасибо, беспокоюсь за твою жизнь и здоровье. Целую. Володя.

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 407. Л. 58.*

* * *

У Сібіры, у Почаце, мне прыходзілася сустракацца з грузінамі, якія сядзелі ў Тбілісі ў адной камеры з Уладзімірам Мікалаевічам. Яны вельмі хораша аб ім адзываліся, казалі, што гэта вельмі высакародны чалавек, што ў тых умовах людзі, што называецца, выварочваюцца цалкам, паказваюць сваё нутро. Уладзімір Мікалаевіч распавядаў мне, што часамі ў камеры ўзнікалі спрэчкі з-за дзяжурства. Уладзімір Мікалаевіч слухае, слухае, потым сам бярэцца за прыбіранне. Яму кажуць: «Ты што, Дубоўка, гэта не твая чарга». Ён адказвае: «Мне лягчэй прыбраць, чым слухаць гэту лаянку».

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 219.*

# ПОЧАТ.
# 1949–1958

*Калі сучаснаму вандроўніку спатрэбіцца, па цяперашняй завядзёнцы, перш чым збірацца ў дарогу, адшукаць у Сеціве якія падрабязнасці пра сібірскі пасёлак Почат, яго чакае расчараванне. Ніякіх асаблівых падрабязнасцяў пра Почат у Сеціве няма. Да найбліжэйшага населенага пункта, у якім ёсць хоць бы рэдакцыя газеты, — сотні кіламетраў. Нават групоўкі ў сацыяльных сетках, у якіх настальгічна ўспамінаюць Почат, складаюцца з тых, хто даўно той Почат кінуў і жыве, прыкладам, у Краснаярску. Як дабрацца да Почата ўвесну ці па восені, калі дарог амаль няма, — незразумела, як ехаць да яго ўлетку ці суворай зімой, калі навокал на сотні і сотні кіламетраў цягнецца тайга, — таксама загадка. Таму цікаўны турыст павінен адкласці на няпэўны час мары наведаць загадкавы Почат — і задаволіцца фотаздымкамі початаўскіх ваколіц, якіх у Сеціве таксама няшмат, але ўсё ж адшукаць можна.*

*Найперш — тайга, якую і да сёння не знішчыла бязлітасная лесанарыхтоўка.*

*Па-другое — Біруса, халодная і прыгожая таежная рака.*

*Па-трэцяе, нарэшце, — сам пасёлак, невялікі і небагаты, падобны на тысячы гэткіх жа пасёлкаў бязмежнай Сібіры: размоклыя вуліцы, шэрыя дамкі, тэлеграфныя слупы.*

*Калі сюды прыехалі Уладзімір і Марыля Дубоўкі, асуджаныя на выгнанне, адзін — чарговым, чацвёртым выракам, другая — горкім лёсам, Почату споўнілася ўсяго толькі дваццаць гадоў: працоўны пасёлак быў заснаваны ў 1929 годзе дзеля патрэб лесанарыхтоўкі. Тут быў лесапункт, школа і некалькі вуліц. Да Абана, найбліжэйшага горада, які можна лічыць вялікім, — 75 кіламетраў цераз тайгу. Сам Абан звязаны з Вялікай зямлёю, дзе ёсць чыгунка, аўтадарогай Абан — Канск.*

*Почат больш-менш утульна прымасціўся на левым беразе Бірусы — вялікай шматводнай ракі, прытока Ангары. Найбольшая глыбіня Бірусы — ажно 4,5 метра, хуткасць плыні — 1,5 м/с. У лістападзе Біруса замярзае і пачынае ўзламваць крыгі толькі ў канцы красавіка. Менавіта ў Почаце з 1937 года працуе пункт назірання за Бірусой, таму амаль усе лічбавыя дадзеныя пра раку паступаюць у навуку «па початаўскім часе».*

*Сёння ў Почаце жыве крыху болей за тысячу чалавек, вялікая колькасць з іх — нашчадкі высланых. Былыя початаўцы ахвотна адгукаюцца на пытанні ў сацыяльных сетках — і ўсе як адзін ведаюць беларускага паэта Уладзіміра Дубоўку. Нехта яшчэ памятае тутэйшага цесляра, шмат хто спіць, есць і п'е на старой, але яшчэ моцнай мэблі, зробленай ягонымі рукамі, той-сёй — вучыўся нямецкай у яго прыгожай і строгай жонкі, маладзейшыя — чулі расповеды пра знакамітага початаўца з вуснаў школьных настаўнікаў, а хто — кожны дзень ідзе вуліцай міма белага дамка з старым яблыневым садам. Цяпер тут жыве школьная бібліятэкарка, а ў сярэдзіне XX стагоддзя будаваў гэты дом і садзіў гэтыя яблынькі наш паэт.*

* * *

Как-то на одной из лагерных пересылок Дубовка встретился с великой переводчицей Татьяной Гнедич[369]. Вместе, радостно дополняя друг друга, они вспоминали оригиналы байроновских поэм. Еще находясь в заключении, оба сделали свои — тоже ставшие потом классикой — переводы из Байрона: она — на русский, он — на белорусский...

*Е. Цэйтлін. Жизнь под песню ветра // Семь искусств. 2011. № 4.*

* * *

Калі эшалон з грузінамі, у якім быў і Уладзімір Мікалаевіч, летам 1949 года прыбыў на ст. Канск, усіх іх вывелі з вагонаў і часова, да рассартавання па раёнах, размясцілі на вакзальным

панадворку за нізкай загарадкай з штыкетніка, канваіры сачылі за тым, каб ніхто не адлучаўся. Было вельмі горача, хацелася піць, прахожыя ніяк не рэагавалі на іх просьбы, праходзілі міма. Уладзімір Мікалаевіч тут кажа: «Вось зараз я ўбачу беларуску, і яна нас выручыць» (ён ведаў, што ў Сібіры шмат беларусаў). Грузіны ў яго пытаюцца: «А як ты пазнаеш беларуску?» «Пазнаю»,— кажа. І калі ўбачыў белакурую дзяўчынку з авальным тварыкам, звярнуўся да яе:

— Дзяўчынка, як цябе завуць?

— Зіна.

— Дзе ты жывеш?

— Вось у гэтым доме,— паказвае на блізкі чыгуначны дом.

— Зіначка, прынясі нам вадзіцы, толькі поўнае вядро не нясі, каб не было цяжка.

І Зіначка некалькі разоў прыносіла ваду, пакуль усе не спатолілі смагу. А калі ўсе напіліся і пачалі абмывацца, Уладзімір Мікалаевіч сказаў: «Хопіць, ты і так стамілася, напаіла, і дзякуй»,— і пачаў пытацца ў яе пра бацькоў. Яна адказвае: «Мама казала, што яна з нейкай Оршы». Уладзімір Мікалаевіч папрасіў паклікаць маму. Мама прыйшла, пытаецца: «Дзе тут мой зямляк?» Уладзімір Мікалаевіч расказаў, што ў хуткім часе павінна ехаць яго жонка, і папрасіў дазволу напісаць жонцы іхні адрас, каб жонка (гэта значыць я) магла ў іх спыніцца. Яна ахвотна згадзілася. А Зіначцы Уладзімір Мікалаевіч напісаў невялічкі верш у яе школьны сшытак, тут жа, за агароджай.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 220.*

* * *

Калі ў МДБ у Абане паўстала пытанне, у якое сяло яго накіраваць, ён папрасіў дазволу схадзіць у РАНА і даведацца, дзе будзе і ці ўвогуле будзе для мяне праца. У РАНА яму сказалі, што выкладчык нямецкай мовы патрэбны ў школе ў сяле Усцьянск. Гэта км за 18 не даязджаючы Абана, калі ехаць ад Канска. Таму ён папрасіў прызначыць яму месцапражыванне ў сяле Усцьянск. Там пасяліўся ў аднаго калгасніка, а працаваць

уладкаваўся на нарыхтоўку дроў у лесе для дзіцячага дома. Там працавалі старэйшыя дзетдомаўскія хлопчыкі, і ён, як рабочы, выконваў цяжкую работу (калоў дровы), якая была не над сілу дзецям. Там яны і жылі ў лесе, за 12 км ад Усцьянска і дзіцячага дома.

Ва Усцьянск я яму пераводзіла грошы, пасылала пісьмы, тэлеграмы, таму на Усцьянскай пошце яго павінны былі ведаць, і я пазваніла з Канска ва Усцьянск на пошту і запыталася ў паштовых работнікаў, а дакладней, у тэлефаністак, ці ёсць ва Усцьянску ссыльны Дубоўка. Мне сказалі, што так, ёсць такі, і я пачала збірацца ў дарогу. Рэчаў — абралася на 10 месцаў. Усё прыходзілася везці: і каструлі, і газніцу, і прас, і іншае барахло. Час быў пасляваенны, і я па вопыце ведала, што на месцы гэта ўсё цяжка здабыць. І яшчэ, Уладзімір Мікалаевіч пайшоў без нічога, усё яго адзенне везла я. Загрузілася я на трохтонку ці пяцітонку папутную, пустую, і паехала да Усцьянска. Па дарозе звярталі на сябе ўвагу чорная зямля і суслікі. Такой зямлі ні ў Падмаскоўі, ні ў Беларусі няма, а суслікаў я ўвогуле бачыла ўпершыню. Ва Усцьянску — чайная. Каля яе заўсёды спыняліся ўсе машыны, шафёры адпачывалі і перакусвалі. Мой вадзіцель пайшоў у чайную, я сяджу ў кузаве машыны са сваімі рэчамі, і тут мяне Уладзімір Мікалаевіч не сустракае (я ж не ведала, што ён працуе ў лесе за 12 км). Бачу на прызбе сядзяць людзі. Я пытаюся, ці не ведаюць яны Дубоўку Уладзіміра Мікалаевіча, тады яны падняліся, падышлі да мяне і ўсё растлумачылі. Гэта былі грузіны, што прыбылі сюды разам з Уладзімірам Мікалаевічам. Яны былі на пошце, калі я звоніла з Канска і пыталася пра Уладзіміра Мікалаевіча, і, ведаючы, што яго тут няма, вырашылі чакаць майго прыезду. Вось і сядзелі на прызбе каля чайнай, дзе спыняюцца (гэта яны ведалі) усе машыны. Дасталі ручную цялежку, дапамаглі адвезці рэчы на кватэру Уладзіміра Мікалаевіча. Я пайшла ў дзіцячы дом, пагутарыла з дырэктарам, ён паслаў у лес па Уладзіміра Мікалаевіча. Ва Усцьянску мы не засталіся. Пражылі там з месяц. За гэты час Уладзіміра Мікалаевіча выклікалі яго шэфы, нечым ён там ім не дагадзіў, і тады мне ва Усцьянску не знайшлося месца, і прапанавалі

Почат. Гэта на 100 км паўночней, у тайзе. Лічылася самым благім месцам у Абанскім раёне: лесанарыхтоўчы пункт, праца толькі ў лесе, ну і вядома, гнюс: мошка, камар, макрэц і іншае. Для мяне ў школе — таксама выкладанне нямецкай мовы. Нам нават спадабалася гэта прапанова. Лес мы любім, да стэпаў не прызвычаіліся, а цяжкасцей яшчэ не ўяўлялі. Пасля жнівеньскай настаўніцкай канферэнцыі мы і адправіліся туды. Да Байкана сяк-так дабраліся на грузавой машыне з рызыкай кожную хвіліну вылецець з машыны або зваліцца разам з ёй у глыбокія калдобіны, а ад Байкана (гэта прыблізна палова дарогі) машына ўжо зусім не магла ісці. Туды з Почата прыехалі за аўсом падводы, аўса не аказалася, і нам дазволілі на гэтых конях дабірацца далей. Адну падводу ўзялі настаўніцы, у якіх не было рэчаў, другую далі ў наша распараджэнне. Возчык аказаўся вельмі прыемным чалавекам. На калёсы мы пагрузілі рэчы, а самі пайшлі пехатою — 35 км тайгой. Гэта яшчэ б нічога, але спыніцца ні на мінуту нельга: мошка не дае ні стаяць, ні сядзець, можна толькі ісці і ўвесь час абмахвацца галінкамі. У адным месцы воз перавярнуўся. Што рабіць? Усё здымаць, а потым зноў укладваць? Тады Уладзімір Мікалаевіч падлез пад калёсы і спінай падняў воз, толькі крэкнуў. Як ён сам не зламаўся? Усё ж ён быў вельмі моцны. Мы ўжо выбіліся з сіл, асабліва я. Возчык аддаў мне сваю сетку, бачачы, як я мучаюся ад гнюсу, але я не прывыкла да сеткі, яна мне мяшала дыхаць, было душна. Урэшце тайга расступілася, і перад намі адкрыўся цудоўны від: рэчка Біруса, на другім беразе высокі ўцёс. Такая велічная карціна, такі прастор. Лягчэй стала дыхаць, паправіўся настрой і нібы дадалося сіл. Дарога павярнула пад прамым вуглом і пайшла ўздоўж рэчкі. Сустрэлі нас маладыя настаўніцы, якія прыехалі раней за нас. Мяне начаваць узяла да сябе завуч школы, а Уладзімір Мікалаевіч начаваў на рэчах, якія звалілі ў адведзены нам пакой. З кватэрамі там увогуле было дрэнна. Народу прыбавілася, а жылля яшчэ не набудавалі. Так што, пакуль мы не пабудавалі сваю хатку, намучыліся парадкам.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 224.*

* * *

СССР
Минлеспром
Она-Чунский леспромхоз
Почетский лесопункт

13 февраля 1958 года
№ 76

Справка

Дана Дубовко Вл. Н. в том, что он действительно работал в Почетском МЛЗП Она-Чунского ЛПХ с 3 июля 1949 года по 1 января 1957 года. С 1 января 1957 года он перешел на пенсию по инвалидности 2 группы.

Начальник МЛЗП Никандров

Секретарь Живаева

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 161.*

* * *

В каком году они приехали к нам в Почет, я даже не помню, наверное, в 50, точно не знаю. Мария Петровна была очень дружна с учителями, и ее все очень уважали, весь коллектив, Владимир Николаевич был очень хорошим тружеником, работал он столяром, и многим он помогал, как сейчас у нас есть тоже пенсионер Мельников Степан Прохорович, он, говорит, меня научил рамы делать, дверцы да и многим он помог, а как могут говорить о таких людях плохо. Нет, ничем плохим их не вспоминают.

*М. Сцяпанава. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Гісторыя яго слаўнай, самай прыгожай у нас барады, расказаная самім паэтам, такая.

Калі жылі яны ў глухім сібірскім паселішчы, мясцовыя бабы не давалі праходу яго жонцы:

— Чай, муж-то у тебя совсем молодой. Смотри, озорной какой да весёлый, глаза горят.

Бабам у іх аднастайным жыцці хацелася хоць бы якіх прыгод, і гэтая іх наіўная хітрасць так надакучыла Марылі Пятроўне, што яна не ўцярпела і расказала мужу, як яе набухторваюць на рэўнасць.

Ён задумаўся, доўга маўчаў, а потым таямніча сказаў:

— Добра, хутка яны прыкусяць языкі.

Доўга не паказваўся ён на людзі, займаючыся ў майстэрні бандарствам і сталяркаю. А калі аднаго дня выйшаў на вуліцу, ніхто не пазнаў яго: доўгая, густая, але ўжо з прыкметнай сівізной барада зрабіла яго сапраўдным дзедам.

Аднак пасялковыя бабы не адступіліся. Яны толькі перамянілі тактыку:

— Мария Петровна, вы такая молодая, а муж-то у вас, чай, совсем старик!

Вось і дагадзі бабам. Але ён быў цвёрды ў сваім рашэнні. З таго часу і застаўся з барадой, якая для многіх з нас зрабілася яго вясёлым псеўданімам. Калі сябры паміж сабой гаварылі «Барада сказаў», «Барада прыслаў пісьмо», «Барада напісаў новую казку», кожны ведаў — гаворка ішла пра нашага цудоўнага друга Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўку.

*В. Вітка. Кароткая гісторыя доўгай барады.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 29.*

* * *

Будаваць свой домік трэба было па шэрагу прычын. Тую маленькую кватэрку, дзе мы жылі дасюль, Уладзімір Мікалаевіч добраўпарадкаваў, зрабіў падвойныя рамы, навесіў другія, добрыя дзверы, прасек акно, якое асвятляла пліту, зрабіў кладоўку, устроіў падполле, прыстроіў ганак і лавачкі. Так што жыллё набыло выгляд і выгоды, у тых мясцінах не частыя. На яго паглядвала ўжо начальства. Акрамя таго, у 1952 годзе мяне

РАНА праз дырэктара школы папярэдзіла, што з новага навучальнага года я не буду працаваць у школе (як і ўсе жонкі ссыльных), таму нас лёгка маглі выселіць з гэтай кватэры, якая прызначалася настаўнікам. І яшчэ была прычына — зямельны ўчастак. Трэба, каб ён быў каля дома, а то прыходзілася садзіць бульбу за рэчкай. Гэта вельмі складана, рэчка капрызная. Я памятаю выпадак, калі адзін чалавек вымушаны быў увесь ураджай (некалькі мяшкоў бульбы) выкінуць з лодкі ў раку, таму што на сярэдзіне рэчкі падняўся вецер, пачало заліваць лодку і дзеля ўратавання свайго жыцця гаспадар страціў увесь ураджай, а яшчэ і мяшкі былі пазычаны ў суседзяў, прыйшлося яму за іх расплачвацца. Вось усё гэта і паслужыла прычынай таго, чаму мы пачалі будавацца. Дасталося Уладзіміру Мікалаевічу вельмі цяжка. Будаваў у часы да працы ў сталярнай майстэрні і пасля працы, гэта значыць увесь светлы час сутак. А будавалі мы за ручаём, так што на кані пад'ехаць было нельга, пад'езду не было. Да гэтага часу памятаю крывавыя рубцы на яго плячах ад пераноскі па кладцы праз ручай цэглы на рускую печку, падтопак і пліту. Бывала, прыходжу дамоў са школы і бачу па ўсім, што абедаць ён не прыходзіў. Я збіраю сёе-тое, нясу на будоўлю, а ён толькі бурчыць: «Калі мне абедаць? Працаваць трэба, ты толькі час у мяне адымаеш, адцягваеш увагу». Я ўжо маўчу.

Дарэчы, у той год, ды і ў наступныя, я так і засталася працаваць у школе, ці то таму, што не хапала настаўнікаў, а то казалі, што мясцовая партячэйка за мяне хадатайнічала. Не ведаю. Толькі ўвосень мне сказалі, каб я прыязджала на канферэнцыю, што буду працаваць.

Увесь час Уладзіміра Мікалаевіча праходзіў за цяжкай працай, акрамя майстэрні. То трэба было тынкаваць, а гэта значыць — накапаць гліны, прынесці з коннага двара (прыкладна за кіламетр) гною, усё гэта размяшаць, а потым наляпаць на сцены і ўсярэдзіне, і звонку нашай хацінкі. Пасля трэба ж было падымаць цаліну пад агарод, ды яшчэ і выкарчоўваць пні на 25 сотках, адведзеных мне як настаўніцы. Іншым давалі 15 сотак. Была і іншая праца, нібы і лягчэйшая, але якая патрабавала

цярплівасці, упартасці і настойлівасці. Яму хацелася, каб домік наш выглядаў прыгожа, таму налічнікі аздабляў выпіленымі з фанеры і размаляванымі ўзорамі. Выпільванне патрабуе вялікай цярплівасці, і яе ў яго хапала. Нават ваконца на гарышчы ён упрыгожыў. А ямы, што ўтварыліся, калі ён капаў гліну, Уладзімір Мікалаевіч выкарыстаў пазней для будовы зямлянкі і склепа. На агародзе былі два парнікі. Для іх трэба было выкапаць ямы, апусціць зруб, нанасіць гною, зрабіць і зашкліць рамы. Так што Уладзімір Мікалаевіч ні хвілінкі не сядзеў без справы, а справы ўсе былі спешныя, неадкладныя. Зямлянка была светлая, з вялікім акном на поўдзень. У ей была печка з плітой, стаяў варштат, на якім Уладзімір Мікалаевіч працаваў дома па вечарах, у выхадныя дні. Столь была нізкая, а ўсё ж такі вышэй за рост Уладзіміра Мікалаевіча, награвалася яна хутка, і мы ў ёй мыліся, у агульную лазню не хадзілі. Усё гэта ён рабіў сам. Ён любіў казаць: «Мы будавалі» або «Мы капалі»,— ну гэта так, ад дабрыні душэўнай. Я амаль не дапамагала яму. Была занятая школай. Усё ж я скончыла Іняз у 1937 годзе, а выкладаць нямецкую мову пачала толькі ў Сібіры ў 1949 годзе. Мне прыходзілася шмат займацца, каб не ўдарыць у гразь тварам: вытрымаць марку добрай настаўніцы. Ды і ўсё школьнае жыццё адбірала шмат часу: палітзаняткі, пасяджэнні, нарады і г. д. Ледзь паспявала гатаваць няхітрую ежу і прыбіраць у доме. На агародзе працавала і я.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 225–226.*

* * *

Владимир Николаевич построил себе домик своими руками, пиломатериал он на себе таскал через речку, только по двум бревнам ходил, огород весь загородил, тоже из ельника носил на себе жерди, в огороде столько было пней толстых без ошибки — тридцать, да и больше, все своими руками выкорчевывал. Землю всю раскопал на огороде лопатой, ее делал сам, ночами не спал, и выходных не знал, и на работу никогда не опаздывал. А всегда был первым, некоторые и завидовали, как быстро

построился, конечно. Деньги. Нет, не деньги, у него руки и старание. Сам оштукатурил, сено косил. Козочек Мария Петровна купила, привела их пешком больше ста километров, а теперь у нас говорят, что никогда нельзя было подумать о них, что они такие. Думали, просто хлеборобы, то есть работяги, они были очень гостеприимные и вежливые, никогда не старались обидеть человека, пока жили.

*М. Сцяпанава. З ліста да Ю. Пшыркова. Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

А какой у них был садик! Часть культуры с европейской части России к нам завезли именно ссыльные, здесь только благодаря им была посеяна культура. Наши школьники писали работы о многих людях, живших в ссылке в Почете и оставивших свой след в памяти и истории поселка и района.

*С. В. Кухта. З прыватнай перапіскі.*

* * *

И теперь я уже посмотрела каждый уголок удивительного жительства. Около дома рос большой сад: яблони, крыжовник, смородина, какие-то удивительные растения. После первого класса я под окном посадила черемуху в свой рост, и росла эта черемуха лет сорок, хотя в этом доме мы прожили одиннадцать лет. Дом этот был небольшой, с русской печью. Из коридора шла лесенка вниз в кухню, которая на 70 % находилась в земле — окно лежало на земле. Она была теплой и уютной.

Дверь из кухни вела в «курятник», а из «курятника», где жили 20 кур, дверь вела в «козлятник», — там жила коза, а потом еще две двери, и выходили все по ступенькам на улицу. Было очень интересно. Мы с братом там играли в прятки, ухаживали за курицами. Дубовка Владимир Николаевич оставил много книг о садоводстве, об огородничестве, остались вещи, сделанные его руками: шифоньер, сундук, столы, стулья,

железная кровать. В кухне были сделаны встроенные в земле ниши и полки, где он хранил краски, лаки, кисточки и другие плотницкие, столярные инструменты. Каждое лето сад цвел, было много ранеток. Соседние мальчишки делали набеги, но оставшегося всем хватало. Мама варила варенье из ранеток — ведро, ставила его в подполье. А мы с братом Юрой наперебой лазили за картошкой. И тут же ели это варенье, вместо конфет. Когда мама хваталась, то в ведре оставалось половина варенья. Потом семья увеличилась, детей стало трое, и мы купили дом просторнее, а этот продали. Но уже тогда со слов родителей я знала, что в доме по улице Заречной жил великий поэт белорусский Владимир Николаевич Дубовка.

Уже когда я училась в педучилище г. Канска, я интересовалась его творчеством. А потом в книжном магазине на площади Коростелева я случайно купила сборник его стихов. Впервые я читала стихи о Почете, о ручье, о саде, о Сибири, о Полесье, о Белоруссии. Стихи были добрые, светлые, несмотря на то что он был в Сибири тридцать лет, десять лет был в Почете. Стихи ему запретили писать все тридцать лет. А сам он был высокий, красивый, талантливый сын белорусского народа! Таким он останется и в моей памяти.

*А. Папалава. Успаміны пра У. Дубоўку. Рукапіс.*

* * *

Неяк атрымалася, што Уладзімір Мікалаевіч глядзеў за бульбай, а за ўсёй астатняй агароднінай глядзела я. Але ваду для паліўкі насіў ён адзін. І ўвогуле цяжкую працу Уладзімір Мікалаевіч заўсёды браў на сябе. І яе поўнасцю хапала, нават з лішнім. Толькі апошнія два гады жыцця ў Сібіры ён мог дазволіць сабе пасядзець у садзіку на мэблі, зробленай з бярозавых неабшкураных галін, за круглым прымітыўным столікам і любавацца нядаўна прывезенымі і пасаджанымі яблынямі, кустамі агрэсту, парэчак, кветкамі і іншым. Вельмі не хацелася яму ўсё гэта пакідаць, а калі справа дайшла да сталярных інструментаў, ён катэгарычна заявіў: «Я не магу іх пакінуць».

І мы іх везлі — цэлую скрыню рубанкаў, фуганкаў і іншага, і ўсё гэта зараз стаіць на балконе ў куфры яго работы, усё змазанае, вычышчанае, гатовае да работы.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 227.*

* * *

С Владимиром Николаевичем Дубовкой я познакомилась в 1955 году, когда приехала на работу в Почетскую среднюю школу. Его жена Мария Петровна Дубовка преподавала в школе немецкий язык, и Владимир Николаевич приходил в школу встречать свою жену. Занятия были в две смены, и ей домой приходилось, иногда, возвращаться поздно, особенно, когда после уроков бывали педсоветы, совещания. А также я жила с Дубовкой Владимиром Николаевичем на одной улице, наши дома были напротив друг друга, и мы часто встречались, разговаривали. Он был очень интеллигентный человек. При встрече, приветливо улыбаясь, здоровался, наклонив голову, молча не проходил, находил повод о чем-либо поговорить, зная, что я коллега его жены.

Его интеллигентность выражалась в манере разговора, во внешности. Был всегда подтянут, опрятен, хотя и работал столяром. С работы возвращался со столярным ящичком, где лежали всякие инструменты. Дома он много делал красивых вещей из дерева: шкатулки, шкафчики, этажерки, сундучки и другие вещи.

Он был и очень гостеприимным человеком, садил за стол, угощая чаем с конфетами. Не часто, но приходилось мне бывать у них в доме. Обстановка была проста, но в квартире уютно. Бросались в глаза книги, которых было достаточно много, журналы, периодическая печать.

По воскресеньям он любил с женой бывать на природе, гулять по лесу, особенно осенью. Вероятно, здесь рождались строки его поэзии. В то время мы мало знали о нем как о поэте. Знали, что этот человек сослан нашей властью. А за что? За какую провинность? По правилам этикета не спрашивали, а он,

вероятно, и сам не знал. Таких людей в Почете было много, и они внесли свою лепту в культурную жизнь поселка, в развитие Она-Чунского ЛПХ.

*Т. Дабрыніна. Успаміны, сабраныя А. Папалавай*[370].
*Рукапіс.*

* * *

Для Уладзіміра Мікалаевіча — работа толькі на нарыхтоўцы лесу. Была і кантора, там таксама працавалі ссыльныя, але не ўсе, а некаторыя. Уладзіміру Мікалаевічу туды ходу не было. З яго разбітай нагой (у лагеры) і аслабленым слыхам работа на лесапавале была небяспечнай, і я настойліва раіла яму вучыцца сталярнай справе. Будаўніцтва там было, значыць, патрэбны былі і сталярныя вырабы. Купілі мы сталярны інструмент у старой удавы сталяра. Пайшоў ён, уладкаваўся ў сталярку, але паколькі гатовыя вырабы ён поўнасцю рабіць не ўмеў, яму іншыя сталяры даручалі рыхтаваць матэрыял, г. зн. самую цяжкую, працаёмкую работу, а налічвалі яму за яе колькі ім захочацца. Калі ён хацеў паглядзець, як яны размячаюць матэрыял і рыхтуюць вырабы, яны спецыяльна закрывалі спінай ад яго сваю работу, каб ён не мог назіраць за ёй. Усе гэтыя людзі былі з закваскаю прыватнікаў, і толькі калі прыехаў з Урала кваліфікаваны сталяр, які раней працаваў брыгадзірам-сталяром на прадпрыемстве, ён пацікавіўся: «Уладзімір Мікалаевіч, чаму ты не працуеш самастойна?» І калі Уладзімір Мікалаевіч растлумачыў яму, што не ўмее, ён яму сказаў: «Вось што, вучыць цябе я не магу, таму што мне трэба шмат зарабляць. У мяне дачка вучыцца ў інстытуце, і я павінен ёй штомесяц высылаць пэўную суму, але ты сам прыглядайся, калі я нешта раблю, пытайся, ты чалавек граматны, хутка усё засвоіш». З таго часу Уладзімір Мікалаевіч стаў працаваць самастойна і хутка апярэдзіў тых, для каго раней рыхтаваў матэрыял. У асноўным рабілі рамы і дзверы — розныя рамы і розныя дзверы, пазней стаў рабіць і мэблю, а калі збудаваў сваю хатку, усю мэблю зрабіў сам: два ложкі, дзве

шафы, пісьмовы стол, кухонны стол, два розныя па фасону шэзлонгі, буфет, крэслы, табурэткі, а да таго часу, дзе б мы ні жылі, мэбляю нам служылі фанерныя скрыні і тапчаны.

Вясной усіх рабочых адпраўлялі на скатку лесу, гэта значыць, штабелі лесу скочвалі ў Бірусу. Тады гэта рабілася ўручную, і для Уладзіміра Мікалаевіча, з яго зламанай нагою, гэтая праца была асабліва небяспечная. Я сказала начальству, што па тэхніцы бяспекі гэта работа для Уладзіміра Мікалаевіча супрацьпаказана і што, калі з ім нешта здарыцца, я гэта так не пакіну, буду скардзіцца на іх аж да міністэрства. Яго пакінулі ў спакої.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 227.*

* * *

Гр. Дубовка
Владимиру Николаевичу
Пос. Почет
Абанского района
Красноярского края

По Вашему заявлению депутат Верховных Советов СССР и УССР тов. Тычина П. Г. написал Генеральному Прокурору Союза ССР действительному Государственному Советнику юстиции письмо, в котором просил об ускорении рассмотрения Вашего заявления и о пересмотре Вашего дела.

По поручению [подпись]

10/3-1955 года

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 151.*

* * *

У тайгу ён хадзіў толькі па справе, проста прагульвацца ён не мог. Здаралася, мне ў якое-небудзь свята, калі працаваць было проста непрыстойна, удавалася выцягнуць яго на прагулку ў тайгу (зімой або ранняй вясной, калі няма мошкі), ён па дарозе

ўвесь час стогне: «Ну, можа, павернем ужо назад, можа, ужо хопіць гуляць». І мы паварочвалі дамоў. Адна я любіла гуляць і атрымлівала нейкае нервова-псіхічнае заспакаенне, якое дазваляла мне роўна весці ўрокі. Уладзімір жа хадзіў у тайгу, калі яму трэба было там нешта ўзяць, якую-небудзь палку з асаблівым выгінам або формай. Тады гэта магло быць да вечара і прымушала мяне непакоіцца: тайга, ноч настае, куды ісці шукаць. Але ўсё абыходзілася добра. А вось аднаго разу ён вельмі напалохаў мяне, і гэта звязана не з тайгой, а з рэчкаю. На супрацьлеглым беразе Бірусы Уладзімір Мікалаевіч аблюбаваў сухую лістоўніцу. Хоць дровы ў нас былі, але ж нельга, каб такое дабро прападала, і ён на лодцы адправіўся за гэтым ствалом, а ствол вельмі вялікі, не ведаю, колькі метраў, велізарны. Прывязаў ён яго да лодкі і думаў, што лістоўніца пацягнецца за лодкай, а атрымалася не так. Лістоўніца аказалася мацней за лодку. Яна пайшла наперад па цячэнні і пацягнула за сабой лодку. Цячэнне моцнае, і лістоўніца моцная, і пацягнула яна лодку міма дома, за пасёлак. Я выйшла на бераг — ні душы. Нікога і нічога на рацэ не відаць — ні лодкі, ні чалавека. Бегаю ўздоўж ракі, крычу: «Валодзя, Валодзя», — падняла на ногі ўсіх яго таварышаў па майстэрні, а што яны могуць зрабіць. І працягвалася гэта доўга. Адным вокам я ўсё ж паглядаю на свой домік (стала ўжо цёмна) і раптам бачу: запалілася святло ў вокнах. Я бягом дадому. Уладзімір Мікалаевіч толькі што ўвайшоў. Аказваецца, гэтая лістоўніца цягнула яго да крутога павароту (пад прамым вуглом) ракі. Тады яна ўперлася ў бераг, і Уладзімір Мікалаевіч шчасліва выбраўся на сушу і пехатой ужо прыйшоў дамоў, а на ранку ўсё ж адправіўся за ёю і супраць цячэння прывалок дамоў.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 227.*

* * *

Як усе жыхары тайгі, і мы вельмі мучыліся ад мошкі. Уладзімір Мікалаевіч дрэнна пераносіў сетку, хадзіў з адкрытым тварам і прыходзіў акрываўлены, распухлы ад укусаў. Балюча было глядзець на дзетак, ім таксама адзявалі на твары сеткі,

пабегаць распранутымі ім было нельга. Мучылася і скаціна. Цікава, што ў нашым садзіку мошкі не было. Мы ніяк не маглі вытлумачыць — чаму? На агародзе дапякае мошка, а тут жа побач можна спакойна сядзець без сеткі. Можа, гэта кветкі сваім пахам адганялі іх. Адэкалон жа таксама адпужваў мошку, праўда, ненадоўга, пакуль не выветрыцца. Можа быць. Іншага тлумачэння мы не маглі знайсці.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 227.*

* * *

Почат 1949 года і Почат 1958 года — гэта зусім розныя рэчы. За гэты перыяд — з 1949 да 1958 года — ён вельмі змяніўся. Пабудавалі электрастанцыю, з'явілася электрычнасць, загаварыла радыё, пабудавалі клуб, кінатэатр. Лесапункт стаў механізаваным, з вялікімі рамонтнымі майстэрнямі. Там не было моладзі, якая б сноўдалася без справы. Хто не хацеў вучыцца, ішоў працаваць. Бывала і так: кіне школу, папрацуе ў майстэрні, потым зноў вяртаецца ў школу. Пастаянна ішла будоўля. Увесь час адчувалася атмасфера росту, а не ўпадку, і гэта аблягчала там жыццё. Пры клубе была вялікая бібліятэка. Калі выпісвалі часопісы, настаўнікі і знаёмыя дамаўляліся, хто выпіша які часопіс — кожны выпісваў нешта адно, а чыталі і тое, што выпісвалі таварышы.

Прыпамінаецца такая сцэнка. Пайшла я ў школу пад парасонам, быў дождж, падыходжу да школы, на ганку пад навесам стаяць дзеці, перамена. І тут чуюцца воклічы: «Ой, а што гэта такое?» Гэта наконт парасона. Я спачатку думала, што дзеці жартуюць, прыкідваюцца, а потым пераканалася, што яны сапраўды не бачылі парасона і не ведаюць, што гэта такое. Яны папрасілі мяне паказаць, некалькі разоў раскрыць яго і закрыць, самі паспрабавалі гэта зрабіць, а адзін хлопчык папрасіў: «Дайце, я пахаджу пад ім» — і пайшоў пад дажджом з парасонам пагуляць на двары. Яму вельмі спадабалася, што дождж на яго не трапляе.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 228.*

* * *

Мария Петровна и Владимир Николаевич были людьми городскими. Мария Петровна работала в Почете учительницей немецкого языка. Была требовательная, строгая. Поэтому Лариса Васильевна любила этот предмет.

По воспоминаниям Ларисы Васильевны у Марии Петровны были пенсне и очки. Еще ни у кого в Почете не было, а у нее был зонтик. И после школы Мария Петровна собирала детей под зонтиком, и они провожали ее до дома. Лариса Васильевна приходила к ним в гости. Дом был небольшой, и, что удивительно, ни у кого в Почете не было, а у них был звонок электрический на воротах. Мебель Владимир Николаевич соорудил сам. Из комнаты был спуск, лесенка вниз и в кухню.

Много Мария Петровна отдала книжек и журналов по немецкому языку Ларисе Васильевне. Владимир Николаевич и Мария Петровна были довольны, что Лариса Васильевна поступила на факультет иностранных языков. Потом семья Дубовки Владимир Николаевич и Мария Петровна уехали в Минск, а затем в Москву. Лариса Васильевна вела с ними переписку. Они ей прислали большие словари немецкий, французско-русский и книгу стихов Владимира Николаевича Дубовки.

*Пераказ успамінаў Л. Мутовінай, зроблены вучнямі Почацкай школы Таццянай Скапцовай, Анастасіяй Воласавай пад кіраўніцтвам А. Папалавай. Рукапіс.*

* * *

Мы жили с Дубовками в рабочем поселке Почет на одной улице через один дом, я строил дом после Владимира Николаевича, и он во многом помогал мне советами и учил меня штукатурить, так как я не обладал таким искусством. Меня очень удивляла осведомленность и умение Владимира Николаевича: он был столяр, плотник, штукатур, печник, и все это он делал с каким-то вдохновением, с душой, как говорится. Свою маленькую квартирку раскрасил масляной краской,

лопатой вскопал приусадебный участок и вскоре этот пустырь превратился в чудесный огород, а через два года съездил в Красноярск и привез саженцы яблонь сибирской ранетки и крупноплодных яблонь, крыжовника, культурной смородины, из березовых палок с берестой соорудил дачные скамейки и усадебка четы Дубовок превратилась в чудесный уголочек.

С Марией Петровной мы работали в одной школе, я в начальных классах, а она в старших преподавала немецкий язык, пользовалась большим авторитетом в коллективе и любовью у учащихся. В хозяйстве у них были две козочки, и Мария Петровна во время летних каникул водила их на пастбище.

Владимир Николаевич очень любил природу, мы с ним ходили по грибы, и его всегда восхищала здешняя природа.

Я долгое время не знал, что Владимир Николаевич белорусский поэт, но как-то Мария Петровна сказала мне об этом, то он сказал, что писал немного, но специальность его — бухгалтер — и только после реабилитации однажды он позвал меня к себе и прочел дивную поэму о здешних местах, и тогда только я узнал, что за человек Владимир Николаевич.

*У. Зяленскі. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Владимир Николаевич и Мария Петровна — они могли со всякими трудностями бороться и они умели приспосабливаться к каждому человеку, и о них никто никогда плохо не вспоминал. Как Марию Петровну. И по сей час есть ее ученики, они работают, тоже учителя, и говорят, почему мы не умеем так заниматься, как, бывало, вела уроки Мария Петровна. Мы всегда ее с таким вниманием слушали, и она ни на кого не грубила. Они жили так скромненько и никогда своим знанием не гордились, а кто нуждался в помощи — они всегда охотно делились мнением и старались чем-то помочь человеку.

*М. Сцяпанава. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшыркова.*

* * *

Было так: мінула дваццаць чатыры гады і мы зноў сустрэліся, на гэты раз у незвычайных абставінах. Адобвум нам давялося пахадзіць гэтыя гады па сцежках, ходжаных і няходжаных, пазнаёміцца з многімі людзьмі — добрымі і благімі, і нарэшце дарогі нашы перакрыжаваліся ўвосень 1949 года. Я трапіў у так званыя паўторнікі, а ён у «трэцічнікі», калі ёсць такое слова. Многа тады з неабдымнага Савецкага Саюза звозілі нашага брата, «рабоў Берыя», як гаварылі самі канваіры пра нас у лагеры, у вялізную Сібір на дажыванне свайго веку.

Я прыехаў трохі раней у вялікае сібірскае сяло Абан Красноярскага краю і, можна сказаць, лічыў сябе ўжо тубыльцам, пазнаёміўся з некаторымі настаўнікамі, сам спадзяваўся ўладкавацца выкладчыкам мовы і літаратуры ў вячэрняй школе сельскай моладзі з першага лістапада.

І вось аднаго надвячорка настаўніца, што жыла па суседстве са мною, дзе я здымаў яшчэ з адным настаўнікам з-пад Куйбышава пакой у гаспадыні, кажа:

— Аляксандр Восіпавіч, у почацкім заезджым доме знаходзіцца ваш беларускі пісьменнік.

— Хто, Еўдакія Іванаўна? — спытаў я з нецярплівасцю.

— Не памятаю добра прозвішча. Ведаю толькі, што з гучным канчаткам на «ка».

Я прыгадаў ёй усіх пісьменнікаў з гучнымі канчаткамі ў прозвішчах... Усё было не тое. Хто ж такі?

— А імя як яго — не казаў?

— Уладзімір Мікалаевіч, ён таксама нейкі час настаўнічаў.

— Дубоўка! — усклікнуў я раптоўна, не верачы яшчэ сам сабе, што натрапіў на след.

— Але, — кіўнула настаўніца галавою. — Ён вечарам прыйдзе да нас піць малако зноў, і я пазнаёмлю вас, прыходзьце...

Я сказаў, што нас у дваццаць пятым годзе знаёмілі ўжо і няма патрэбы чакаць таго вечара. Заезджы дом леспрамгаса быў недалёка ад дома, у якім жыла настаўніца, і мы тут жа пайшлі туды. Гаспадыня несла ў дом з дрывотні дровы, і Еўдакія Іванаўна папрасіла паклікаць Уладзіміра Мікалаевіча.

Неўзабаве на ганак выйшаў трошкі памажнелы, але такі ж стройны, як я бачыў яго раней, больш за дваццаць гадоў назад, з пасівелай барадой і бакамі чалавек. З ледзь прыкметнай усмешкай ён акінуў нас яснымі добрымі вачыма і, прывітаўшыся, пачаў спускацца ўніз па прыступках.

Еўдакія Іванаўна падала яму руку і кіўнула на мяне:

— Той самы Аляксандр Восіпавіч, пра якога казала вам учора. Будзьце знаёмы, хоць ён казаў, што вас пазнаёмілі ўжо раней.

— Дзе? Калі? — падаў мне руку Уладзімір Мікалаевіч, пільна ўзіраючыся ў твар.

Я назваў свае прозвішча, напомніў пра жартаўлівую гаворку Пашковіча і напомніў два першыя радкі з верша:

— І было увосень, калі стрыглі поле,
Калі пасцілалі дываны з лістоў...

Уладзімір Мікалаевіч ажывіўся: відаць, успамін пра далёкае даўняе навеяў радаснае, і ён здзіўлена ўсклікнуў:

— Вы памятаеце нават пачатак таго верша?

— Я ведаю ўвесь яго на памяць.

— Аўтару прыемна гэта чуць... Цяпер прыгадваю, вы сядзелі каля другога стала, што быў побач са сталом, за якім сядзеў Дудар... Вы даўно з Мінска? Як ён там?

— Адбудоўваецца. Устае з руін... А вы хіба не былі ў ім пасля вайны?

— Не. Ад трыццатага года мая нага не ступала на яго брук.

Настаўніца, развітаўшыся, запрасіла Дубоўку прыходзіць піць малако і пайшла дахаты, а мы прыселі на прыступцы ганка і павялі размову пра Беларусь. Яго цікавіла ўсё: як выглядаў горад, хто жывы застаўся пасля такой мітрэнгі з пісьменнікаў, як жывуць нашы калгаснікі, як склаўся мой лёс.

Гаварылі мы паціху, аднак Уладзімір Мікалаевіч часта азіраўся на сенечныя дзверы і, ледзь хто скрыпне, ён адразу ж змаўкаў, даючы знак і мне рабіць тое ж. Потым ён падняўся з прыступкі і параіў:

— Давайце пройдземся трохі па вашай Берагавой, — і мы пайшлі вуліцай.

— Ад лішняга вока і вуха далей, — сказаў ён, калі мы выйшлі ў поле, хоць мне здавалася, што нічога благога мы не гаварылі. Напалоханы трохразовым наведваннем «казённага дома», у яго выпрацаваўся страх ад падазронасці, што нехта зможа пераакруціць пачутае, зразумець іначай падслуханае.

*А. Пальчэўскі. Пра Дубоўку // ЛіМ. 1994. 21 студз. С. 14.*

* * *

В 1950 году я приехала работать в Почетскую семилетнюю школу, в которой работала учителем немецкого языка Дубовка Мария Петровна.

Конец августа, мы едем на учительскую конференцию в Абан. Подъехал трактор с тележкой, мы стали усаживаться в тележку. В это время подошел мужчина высокого роста, с пышной седой бородой, голубыми, веселыми глазами. В руках он держал табуретку и мешок со стружками. Это был муж Марии Петровны, Владимир Николаевич Дубовка, белорусский поэт, сосланный после тюремного заключения в Почет. Он помог жене устроиться поудобнее на мешке со стружками в тележке. Это было мое первое знакомство с дружной, интеллигентной семьей Дубовки.

Жила семья Дубовки в маленьком домике за ручьем, построенным Владимиром Николаевичем. Он работал в ту пору столяром. Когда я выходила замуж, Владимир Николаевич подарил нам на свадьбу мебель, сделанную своими руками: сундук, круглый стол, четыре стула и этажерку.

Мария Петровна была старше всех нас, обращались мы к ней за советом по любому вопросу, уважали ее учителя и ученики, гордились ею, что она не испугалась трудностей, была слаба здоровьем, а приехала в Сибирь на ссылку к мужу. Очень не хватало всем нам семьи Дубовки, когда они уехали после реабилитации Владимира Николаевича в Москву.

*М. Бычкоўская. Успаміны, сабраныя А. Папалавай.*

* * *

У Почаце Дубоўка спачатку ўладкаваўся заўхозам у сярэднюю школу. Прыезджаў нешта разы два па кнігі і сшыткі а райана. Я працаваў дырэктарам вячэрняй школы сельскай моладзі, і кожны раз ён наведваў мяне. Затым праз гады два прыязджаў на медыцынскую камісію ў райздраў, каб не хадзіць на лесапавал (яму было ўжо 53 гады), як не дазволілі працаваць у школе заўхозам. Быў нягласны загад: усіх ссыльных выкарыстоўваць на фізічнай працы. Па гэтай прычыне не дазволілі і мне працаваць настаўнікам, пайшоў у брыгаду цесляроў, якая існавала пры райспажыўсаюзе. Будавалі магазіны, склады, сіласныя вежы, стайні.

А апошняя з сібірскіх сустрэч адбылася ў лістападзе 1954 г., калі Уладзімір Мікалаевіч прыязджаў атрымліваць пашпарт. Ён зайшоў да мяне зноў. К гэтаму часу я ўжо быў жанаты з былой заслужанай артысткай грузінскага тэатра імя Руставелі Тамарай Рыгораўнай Цулукідзэ[371], сасланай сюды, як і я, на вечнае пасяленне. Мы купілі за прысланыя ёй роднымі грошы старую хату, рубленую яшчэ за царом, адрамантавалі як маглі і жылі, радуючыся свайму кутку і на заспакаенне райаддзелу МДБ, што мы сталі тубыльцамі (ім давалася ўстаноўка — як толькі мага прымацоўваць да пэўнага месца).

Я пазнаёміў Уладзіміра Мікалевіча з жонкай. Яны хутка знайшлі агульную мову пра тэатр, пра літаратуру. Я ёй шмат разоў гаварыў пра мае знаёмства з Дубоўкам. Яна добра вывучыла на беларускай мове яго верш «О Беларусь, мая шыпшына» і прачытала нам. Гэта асабліва ўсхвалявала Уладзіміра Мікалаевіча. Ён падняўся з табурэткі, паціснуў руку, пацалаваў яе.

— Вы вывучылі па-беларуску. Гэта такая прыемнасць для мяне. Скажу сваёй Марыйцы, няхай са мною парадуецца. Грузінская артыстка чытала аўтару верш на яго мове. Ды дзе, у Сібіры.

Хутка была падрыхтавана вячэра. Я паставіў паўлітра.

— Што гэта? З якой прычыны? — пацiснуў плячыма.

Я кіўнуў жонцы, каб сказала яна.

— Вы трапілі, Уладзімір Мікалаевіч, на вялікую ўрачыстасць. Мы з Алесем едзем на гэтым тыдні ў Беларусь, па расказах

Алеся, у вашу цудоўную краіну. Сёння прадалі сваю хату і едзем шукаць новую з новым жыццём. Зараз прыйдзе новая гаспадыня, будзем піць барыш.

— Жадаю вам абаім шчасця на новым месцы. Вам спадабаецца Беларусь, Тамара Рыгораўна. Цудоўная краіна, цудоўныя людзі, па дабраце не ўступяць грузінам. Вам не расказваў Алесь Восіпавіч, як праводзілі мяне ў дарогу вашы саўгаснікі разам з дырэктарам? Толькі грузіны так могуць...

— Гаварыў...

— З такой прыветлівасцю і пачцівасцю сустрэнуць вас і нашыя беларусы, можаце быць упэўненыя...

Прыйшла новая гаспадыня, таксама прынесла барыш, паставіла на стол.

— Нашто вам было браць, цётка, хапіла б і нашага барыша?

— Чым я горшая? — толькі і змагла адказаць яна.

Мы пазнаёмілі яе з Дубоўкам і селі ўсе за стол.

Першы тост папрасілі сказаць нашага госця. Ён пажадаў новай гаспадыні здароўя, шчасця на новым месцы, мець заўсёды шчырых сяброў, як мелі ранейшыя гаспадары.

— Каб ніколі не пуставалі сцены гэтай хаты ад добрых людзей!

Новая гаспадыня падзякавала Уладзіміру Мікалаевічу і звярнулася да нас:

— А вам, дарагія, шчаслівай дарогі і людскай долі на новым месцы, дзе вы знойдзеце сабе прыпынак.

Я падняў чарку за дарагога госця і пажадаў хуткай сустрэчы ў Мінску.

Тамара мая не ўтрымалася, слёзы накруціліся на яе вачах.

— Што з табою? — занепакоіўся я. — Чула, што гаварыў Уладзімір Мікалаевіч? Нас душэўна сустрэнуць на маёй радзіме.

— Хаты свае шкода. Вытынкоўвала сваімі рукамі, прыбрала ўсе да ладу, як магла. А там што чакае нас?

Пад канец развітальнай вячэры мы пажадалі Уладзіміру Мікалаевічу хуткай сустрэчы ў Мінску.

— Хацелася б пабачыць яшчэ родны край... Але калі не рэабілітуюць, то я туды не яздок. А з рэабілітацыяй невядома, як павернецца справа. Маўчаць пакуль.

— Запазніліся трохі з падачай скаргі. Пакуль дойдзе чарга з разборам. Я трохі раней паслаў, і то праз пяць толькі адказалі.

— У вас іншая справа. Вы маеце толькі две судзімасці, а ў мяне іх тры...

Чым можна суцешыць чалавека? Я мог толькі параіць чакаць лепшага, верыць у справядлівасць...

Назаўтра мы развіталіся, пажадалі адзін аднаму ўсяго добрага і хуткай сустрэчы на радзіме. Праз тры дні я з Тамарай Рыгораўнай выехаў з Абана ў Магілёў да маёй сястры, куды ў снежні 1954 года прыйшла мая рэабілітацыя. Я тут жа напісаў пра сваю радасць Уладзіміру Мікалаевічу. Ён павіншаваў, а аб сабе ні слова. Мяне цікавіла, што чуваць з разглядам яго справы, а ён і не ўспомніў пра яе. «Значыць, нічога радаснага не атрымаў яшчэ», — падумаў я.

Праз некаторы час я паслаў з Мінска ўжо два пісьмы. Адказу не было. Трэцяе выслаў заказным — і зноў кароткі адказ з Почата: «Лісты Вашы атрымаў, дзякую. Не адказваў, бо не хачу рабіць Вам непрыемнасцей. З маёй рэабілітацыяй нічога не чуваць».

Усе тая ж боязь, напалоханасць не давалі яму ўпэўненасці, спакою. Баяўся нават нашкодзіць мне сваёю перапіскаю: рэабілітаваны трымае пісьмовую сувязь з нерэабілітаваным.

*А. Пальчэўскі. Пра Дубоўку // ЛіМ. 1994. 21 студз. С. 15.*

* * *

Нічога не пішу і цяпер, працую ў сталярнай майстэрні. Дажываем веку са сваёй жонкай у Сібіру (сын забіты з выбуху бомбы ў 1943 г.). Быў бы вельмі задаволены, каб давялося пабачыць Вас, але гэта — у выпадку рэабілітаваньня. <...> Вы пытаецеся — ці памятаю беларускую мову. Мая мова спынілася на ўзроўні 30 году як у слоўніку, так і правапісе.

*У. Дубоўка. Ліст да Я. Коласа ад 20/-1955.*
*Цыт. паводле: Корань В. Якуб Колас і Уладзімір Дубоўка: з гісторыі перапіскі. С. 96.*

* * *

РСФСР

Чувашская Автономная
Советская Социалистическая республика
Верховный Суд

Отдел. суд. кол.
2 августа 1956 года
№ 55-4-34
г. Чебоксары

СПРАВКА

Дана настоящая справка в том, что постановлением Президиума Верховного Суда Чувашской АССР от 23 мая 1956 года постановление Спецтройки при НКВД Чувашской АССР от 16.11.1937 в отношении гр. Дубовка Владимира Николаевича, рождения 1900 года, уроженца дер. Огородники, Вилейского района, ЛССР, отменено и производством прекращено з недоказанностью предъявленного обвинения.

Гр. Дубовка В. Н. до ареста работал секретарем ведомственной комиссии арбитража Чувашсоюза.

Справка выдана по просьбе гр. Дубовка В. Н.

И. о. председателя Верховного Суда В. Павлова
Секретарь А. Ефимова

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 152.*

* * *

В прокуратуру Союза ССР
Гр-на Дубовко Владимира Николаевича
(Красноярский край, Абаканский
район, раб. пос. Почет)

ЗАЯВЛЕНИЕ

В августе месяце сего года я получил прилагаемую в копии справку Верховного суда ЧАССР, из коей видно, что своим

постановлением от 25 мая 1956 года Верховный Суд ЧАССР отменил постановление спецтройки НКВД от 16 ноября 1937 года, по которому я был осужден к заключению в ИТлагерях сроком на 10 лет. По отбытии наказания я уехал в Грузию, где 16 февраля 1949 года был вновь арестован и постановлением особого Сов. МГБ СССР от апреля 1949 года выслан в Красноярский край по мотивам того, что я был ранее судим.

Поскольку отпало основание для такой ссылки, я вновь прошу Вас поставить вопрос об отмене решений Особых Совещаний при ОГПУ СССР (1931 г), при НКВД СССР (1935), и при МГБ СССР (1949), о чем подробно я просил в своем заявлении от 3.01.1955 г., бывшем на вашем рассмотрении 10 мая сего года (Ваш № 13/9–430991).

Убедительно прошу Вас дело рассмотрением не задерживать, так как эта неоконченность морально тяготит, тем более, что по состоянию здоровья я являюсь инвалидом.

Вл. Дубовка

*Цыт. паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2.*

* * *

Дарагі Уладзімір Мікалаевіч! Копію вашай заявы на адрас пракуратуры СССР я атрымаў. Разам з гэтым пісьмом да Вас я пасылаю ад сябе як ад дэпутата Вярхоўнага Савета СССР у пракуратуру просьбу, каб паскорылі разгляд вашай заявы. Як паставяцца там да маей просьбы, не ведаю. Толькі ведаю адно, што ўсе людзі, беспадстаўна рэпрэсіраваныя, вернуцца на свае сядзібы і аселішчы, і з іх будзе знята судзімасць, і яны будуць адноўлены ў сваіх правах. Усё пытанне зводзіцца к часу: засуджаных і высланых, як вам вядома, многа.

Забыліся вы ці памятаеце беларускую мову? Цешу сябе надзеяй пабачыць вас. Тады і пагутарым. 19/II рабілі мне аперацыю — выразалі апендыцыт. Яшчэ і да гэтага часу не магу цвёрда стаць на ногі. Усяго добрага. Якуб Колас. Март 1955.

*Я. Колас. З ліста да У. Дубоўкі //*
*Колас Я. Збор твораў: у 20 т. Т. 20. С. 54.*

* * *

1956-8-29

Восстанавливается производственный стаж за период с 28 июля 1937 года по 28 июля 1947 года.

*Запіс у працоўным спісе У. Дубоўкі.*

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 162.*

* * *

Прокуратура БССР
Г. Минск

27/11-1957
№ 4/115

Красноярский край,
Абанский район,
Рабочий поселок Почет
Гр. Дубовко В. Н.

Сообщаю, что определением Верховного Суда БССР от 15 ноября 1957 года дело, по которому вы были осуждены 10 апреля 1931 года и 14 июля 1935 года прекращено. Справку о прекращении указанного дела Вам надлежит получить из Верхового Суда БССР. О пересмотре дел, по которым вы были осуждены в 1937 и 1949 г. Вам надлежит обратиться в прокуратуру по месту Вашего ареста в 1937 году.

Зам. прокурора БССР

Государственный Советник юстиции 3 класса

А. Вербицкий

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 157.*

* * *

БССР
Вярхоўны Суд

2 декабря 1957 г.
№ 5-10

СПРАВКА

Дело по обвинению Дубовко Владимира Николаевича, 1900 года рождения, пересмотрено Верховным Судом БССР 15 ноября 1957 года. Постановление от 10 апреля 1931 года в отношении Дубовко Владимира Николаевича отменено и дело производством прекращено за недоказанностью обвинения.

Дубовко В. Н. до ареста работал редактором белорусского отдела Собрания Законов СНК СССР и членом литературного объединения «Узвышша».

Председатель ВС БССР С. Шардыко

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 158.*

* * *

БССР
Вярхоўны Суд

2 декабря 1957 г.
№ 6-10

СПРАВКА

Дело по обвинению Дубовко Владимира Николаевича, 1900 года рождения, пересмотрено Верховным Судом БССР 15 ноября 1957 года. Постановление Особого Совещания от 14/7-1935 года в отношении Дубовко Владимира Николаевича отменено и дело производством прекращено за недоказанностью обвинения.

Дубовко В. Н. до ареста работал редактором белорусского отдела Собрания Законов СНК СССР и членом литературного объединения «Узвышша».

Председатель ВС БССР С. Шардыко

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 159.*

* * *

Братка, Язэп, я быў у Мінску ў Вярхоўным Судзе, дзе атрымаў паперку аб рэабілітацыі. Я там бачыў і тваё прозвішча. Так што збірайся дахаты. Я прадаю ўсю маёмасць: хату і ўсю сваю гаспадарку і едзем у Маскву. Буду праязджаць праз Мурам, калі здолееш, то спаткай мяне і пагаворым хоць некалькі хвілін...

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Пушчы, 1956.*

* * *

Здаецца, у 1956 годзе яму было дазволена з'ездзіць у Краснаярск. Да Канска каля 150 км трэба было дабірацца сяк-так, а далей — цягніком. У Канску ён вырашыў адшукаць Зіначку і зрабіць ей нейкі падаруначак. На станцыі ён запытаўся ў аднаго чыгуначніка — тут, маўляў, працуе такі-та (называе прозвішча), у іх дачка Зіначка. Той паглядзеў на Уладзіміра Мікалаевіча ўважліва і пытае: «А вы што, радня ім?»

— Ды не, проста знаёмы.

Тады ён расказаў Уладзіміру Мікалаевічу, што Зіначка патанула, купаючыся ў рэчцы ў піянерскім лагеры. Уладзіміра Мікалаевіча гэта так уразіла, што ён доўгі час не мог узяць сябе ў рукі, але потым усё ж сабраўся з сіламі, пайшоў да маці, паплакалі яны разам, з'ездзілі на могілкі. Купіў Уладзімір Мікалаевіч вянок, зрабіў падарунак маці. Вось і ўсё. Гэтую дзяўчынку ён часта ўспамінаў, усё збіраўся напісаць, ды так і не сабраўся. А вершык той, які Уладзімір Мікалаевіч ёй напісаў, яна берагла і паказвала мне яго, калі я спынялася ў іх пасля прыезду ў Канск па дарозе да новага месцапражывання Уладзіміра Мікалаевіча.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 221, 222.*

* * *

Калі яго гналі чарговым этапам, недзе перад Волгай малая дзяўчынка вынесла засмяглым гаротнікам вядро свежае вады і напаіла яго і тых, каго паспела. І вось праз дзесяць гадоў,

калі яго выпусцілі, ён накупляў гасцінцаў і паехаў шукаць тую дзяўчынку.

І трэба ж было атрымаць яшчэ і такі ўдар лёсу: за нейкі тыдзень да яго прыезду дзяўчынка... патанула ў Волзе.

Як жа ён горка і шчыра плакаў праз дваццаць гадоў, седзячы за сваім гасцінным сталом побач з намі, ягонымі нечаканымі гасцямі з Менску, тагачаснымі аспірантамі Іванам Саламевічам, Вячаславам Рагойшам, Лёнем Акаловічам і мной, грэшным, якія ў сакавіку 1967 прыехалі ў Ленінскую бібліятэку ў Маскву.

*Г. Шупенька. Ён быў прыгожым чалавекам // Крыніца. 1997. № 8. С. 39–41.*

* * *

РСФСР

Верховный суд Чувашской АССР

3 февраля 1959 года

4-у-113

СПРАВКА

Постановление Особого Совещания при МГБ ССР от 06 апреля 1949 года в отношении Дубовко Владимира Николаевича, 1900 года рождения, уроженца села Маньковичи Вилейского района Молодечненской области Белорусской ССР, до ареста работавшего счетоводом Наразенского совхоза, постановлением Президиума Верховного суда Чувашской АССР от 13 сентября 1957 года отменено и дело производством прекращено за недоказанностью обвинения.

Председатель ВС ЧАССР П. Шестопалов

*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 189.*

* * *

Мои родители, Гертер Юлиус Иоаннович и Мария Яковлевна, имели двух детей, когда скопили две тысячи и купили

дом с мебелью у Дубовки Владимира Николаевича — за ручьем в п. Почет. Мама понесла деньги и взяла меня, семи лет, с собой. Увидела я хозяйку дома — красивую черноволосую женщину, которая напоила меня чаем с вареньем из крыжовника. В доме уже упаковывались, везде лежало много книг. Пахло чем-то особенным. Вскоре родители в 1959 году в августе перевезли свои нехитрые пожитки из барака в свой дом.

*А. Папалава. Успаміны пра У. Дубоўку. Рукапіс.*

* * *

Даражэнькі Язэп Паўлавіч!

Твой ліст першы я быў атрымаў і зусім нармальна ў сэнсе часу. Не адказаў я на яго паводле зусім зразумелых прычын — я быў чалавекам іншага гатунку. Прыблізна цераз паўгода я атрымаў быў першую рэабілітацыю, а ў пачатку снежня — і яшчэ дзве, бо за мае 27 год мне давалі не адзін пачастунак. У тым спіску меншым, дзе рэабілітаваны я, быў Адам і, здаецца, ты. З гэтае прычыны табе трэба напісаць у Сакратарыят Вярхоўнага Суда БССР заяву з просьбай выслаць табе дакументы на рэабілітацыю і даць свой адрас. Больш табе нічога пісаць ня трэба, гэта значыцца, ня трэба падаваць спецыяльны запыт на рэабілітацыю.

Мы надумалі з жонкай паехаць на жыццё ў Менск. Ліквідуем сваю гаспадарку, манаткі, запрадалі хату (узялі задарам), спадзяемся, у канцы лютага і не пазней пачатку сакавіка выедзем у Менск.

Кватэру будзем шукаць там на месцы, бо нас усяго двое.

У мяне твой адрас быў. Чаму я не заехаўшы да цябе? Вельмі проста. Я выязджаў з дому з такой мэтай: завітаць да свайго брата (старэйшага, у Ленінградзе), пабыць крыху ў Маскве (у сястры), адрамантаваць зубы — і дадому. А тут прыйшлося зусім нечакана ехаць з Масквы ў Менск па дакументы (аб сваёй справе я пытаўся па тэлефоне з Масквы ў Пракурора БССР). Гэта ўсё заняло некалькі дзён. 6-га сьнежня я абавязкова павінен быў быць у Сібіры ў сваім райцэнтры на медкамісіі (я другой год ужо — інвалід 2 групы). Вось зачым я пры поўным добрым

жаданні ні мог нідзе больш спыняцца. Але гэта ўсё — справа паправімая. Будзем жывы — пабачымся. Зусім магчыма, што калі будзем ехаць у Менск — можа, спынімся ў Маскве, тады і прыеду.

Я за свае 27 год вандровак нічога не пісаў. Яшчэ на Волзе ў мяне забралі «чытачы» большую палову вершаванага перакладу «Чайльд-Гарольда» і ніяк не аддадуць. Кажуць — няма. Тут у Сібіры я працаваў для кавалка хлеба, апошнія 8 год — сталяром, было не да вершаў.

Цяпер мне запрапанавалі даць пару вершаў у звязку з рэабілітацыяй. Напісаў на новы год невялічкую паэмку «Чакае ля берагу човен мяне» (прыблізна на ½ аркушы), паслаў, але не ведаю, як спаткаюць яе. Гэта — тайга-маці, і хараство і багацце, і гэтак далей.

Вось прыблізна і ўсё, што хацелася б сказаць пасля такога доўгага перапынку. Можаш даць веры, што я за апошнія гады звык больш да фуганкаў, да рубанкаў, затым і лісты пісаць для мяне нейкая нязвыклая справа. Шчыра дзякую за пажаданьне, за прывітаньне. У сваю чаргу прашу прыняць ад мяне і маёй жонкі самае сардэчнае прывітаньне і пажаданьне ўсяго найлепшага, асабліва добрага здароў'я. Наконт фотакартачкі — у мяне тут няма нічога. Калі я быў у Маскве — сфатаграфаваўся там і прасіў сястру паслаць у Менск пару, а рэшту — мне. Туды яна паслала — а мне [*нрзб*], я іх вазьму, як буду ехаць сам. Такім парадкам — калі цябе не пабачу пры пераездзе, вышлю табе з Масквы, а калі пабачу — навошта яна тады табе, можа дрэнна выйшла, толькі малых пужаць маёй сівой барадой. Вельмі дзіўлюся, што табе напісалі пра «юнацкія вочы». Гэта, мабыць, нехта для жарту.

Яшчэ раз — самага найлепшага. Жадаю творчых дасягненняў.

Уладзік.

У зьвязку з магчымым пераездам больш аднаго ліста ад цябе я тут не атрымаю, і то — у тым разе, калі ты надумаеш адказаць на гэты ліст без далёкага адкладу.

Уладзік.

*Ліст У. Дубоўкі да Я. Пушчы.*
*БДАМЛМ. Ф. 26. Воп. 1. Спр. 56.*

# МАСКВА — МІНСК.
# 1958–1976

*Дубоўкава Масква шасцідзясятых — гэта Новыя Черомушкі, вуліца наркама Цурупы, дом 20, першы корпус, кватэра 11 на чацвёртым паверсе. Гэтую кватэру Уладзімір Дубоўка атрымаў у 1963 годзе ад Саюза пісьменнікаў СССР. Да 1963 года паэт з жонкай жылі на кватэрах: спачатку — у вёсцы Лапіна на станцыі Перхушкова Беларускай чыгункі, потым — у пакоі ў доме 8 па Цвярскім-Ямскім завулку і, нарэшце, на вуліцы Цурупы. Дома гэтага сёння няма — увесь квартал тых першых хрушчовак быў знесены ў двухтысячныя.*

*Так, цяпер гэта быў ужо не той магутны і шпаркі ўладар маскоўскай прасторы, якога можна было сустрэць на Чырванапрэсненскай ці Нікіцкай трыццаць гадоў таму, — цяпер Дубоўкава маскоўская прастора вычэрпваецца Чаромушкамі: вандроўка па крамах і аптэках, на кірмаш, асабліва калі прывозяць штоніпто ахвочым да смачнага масквічам браткі-беларусы, часам — фотастудыя, бо здымацца Дубоўка любіў і добра зробленыя фотапартрэты з задавальненнем дарыў сябрам.*

*Яшчэ — бібліятэка, у якой немалады паэт на працягу дзесяці гадоў быў ледзь не самым актыўным чытачом.*

*Але найперш — кватэра, працоўны стол і кніжныя паліцы.*

*У спісе кніг, складзеных Алесяй і Элеанорай Бабарэкамі пасля смерці Дубоўкі, амаль тысяча назваў. Спіс падзелены на групы: «шафа ў пакоі» (166 кніг), «маленькая шафа ў спальні» (248), «шафа ў спальні» (214), «вялікая шафа» (443). Гэта выданні на беларускай, рускай, англійскай, немецкай, польскай мовах, у асноўным — паэтычныя зборнікі, навукова-папулярная літаратура, слоўнікі, зборнікі казак народаў свету і нават ноты — Шапэн, Дворжак, Манюшка. Зусім няшмат мастацкай прозы, а калі і ёсць — то гэта найперш жыццяпісы (таго ж Шапэна і Манюшкі).*

*Беларуская паэзія на гэтых паліцах прадстаўлена багата і разнастайна. Класікі: Багдановіч, Купала, Колас. Сябры літаратурнай маладосці: Крапіва, Гарэцкі, Чарот, Пушча. І ўвесь спектр паэзіі пасляваеннай: Куляшоў, Панчанка, Танк, Гілевіч, Броўка, Бураўкін, Барадулін, Разанаў, Вялюгін, Лось, Грахоўскі, Геніюш. Ёсць і празаікі, але — значна менш: Вітка, Цвірка, Алена Васілевіч, але болей за ўсё — выданняў Уладзіміра Караткевіча.*

*Шмат рускай паэзіі — Брусаў, Белы, Салагуб, Твардоўскі, Антакольскі, Ціханаў, Смелякоў, Друніна і іншыя. Ёсць Пастарнак («Выбранае» 1926 года і «Вершы і паэмы» 1961 года), Цвятаева, з сучаснікаў — Надзея Палякова (дарэчы, ці не самая «прадстаўнічая» паэтка на гэтых паліцах — ажно сем кніг, усе, якія яна выдала да 1976 года).*

*Пушкін тут таксама ёсць, хоць і ў нечаканым варыянце. Адно выданне — украінскія пераклады, Кіеў, 1927 год. Другое — выбраныя творы пад рэдакцыяй В. Брусава, Масква, 1920.*

*З украінцаў — Шаўчэнка, Тычына, Рыльскі, Сасюра, усё, зразумела, па-ўкраінску.*

*На нямецкай, якой валодалі і Уладзімір Мікалаевіч, і Марыля Пятроўна, — Лесінг, Шылер, Гейнэ, Генрых Ман, Брэхт, Бехер, Брэдэль і, нечакана, Восіп Мандэльштам у перакладзе на нямецкую.*

*Па-англійску: Шэкспір, Вера Рыч (з аўтографам), Роберт Бёрнс, Джон Кітс, Байран у дзевяці тамах, Эдгар По.*

*Па-польску: Адам Міцкевіч (асобнымі выданнямі — вершы, «Пан Тадэвуш», лісты), Сыракомля, Тувім, Паўлікоўска, Бранеўскі.*

*Нямала перакладной літаратуры: у беларускіх перакладах — Поль Верлен, Юльюш Славацкі, у рускіх — Эўрыпід, Верхарн, Бадлер, Табідзэ, Алішэр Наваі, Тагор, Пруст, Цвейг, Оскар Уайльд, Ібсэн. Шмат Усходу: Нізамі, Румі, Фізулі, Фірдоўсі, Цао Джы, Бо Дзюйлі, кітайская класічная паэзія эпохі Тан і іншае.*

*Літаратуразнаўства прадстаўлена класікамі: Буало, Крочэ, Бялінскі, Жырмунскі, Меляцінскі, Луначарскі. Тут жа згадаем «Даведнік аспіранта» 1927 года выдання — адна з нешматлікіх кніжак, якая перажыла чатыры пертрусы і захавалася з той бібліятэкі, якая збіралася ў маладосці.*

*Асабліва багатыя паліцы на казкі — тут сабраны фальклор пятнаццаці рэспублік, а таксама славянскі, еўрапейскі, усходні. Калі магчыма, гэта прафесійныя, акадэмічныя выданні, як, прыкладам, «Индийские сказки и легенды, собранные в Камаоне в 1875 году И. П. Минаевым» (М.: Наука, 1966). Калекцыя казак, сабраная Дубоўкам, зрабіла б гонар любой бібліятэцы: тут казкі лужыцкіх сербаў, ірландскія і карэльскія, мангольскія і італьянскія, казкі Чукоткі і народаў Банту, філіпінскія, турэцкія, скандынаўскія, малдаўскія, венгерскія, казкі бушменаў і народаў Лацінскай Амерыкі, і далей, і далей — некалькі паліц у шафе.*

*Ці не палова хатняй бібліятэкі — кнігі па сельскай гаспадарцы, генетыцы, батаніцы. Сустракаюцца і такія, напрыклад: «П. И. Недавний. Внутренние отделочные работы. Киев, 1956». А вось і такая, набытая ў 1970-м: «Гісторыя інквізіцыі (13–20 ст.)» І. Грыгулевіча.*

*Дзе-нідзе кнігі размеркаваныя па тэматыцы ці мове, але ўсё ж на паліцах — працоўная блытаніна. Вось, напрыклад, пачатак пятай паліцы шафы ў спальні: Ларыса Геніюш. «Невадам з Нёмана»; Henrich Heine. «Poesie und Proza»; Н. Г. Василенко. «Знаете ли вы эти овощи?»; «Персидские анекдоты»; М. Рильский. «Троянди и Виноград»; К. Прутков. Полное собрание сочинений.*

*Іншага багацця, акрамя кніг і самаробнай мэблі (канапа, крэсла, стол), у той прасторы не было. Алеся Бабарэка запісала, як выглядала спальня (яна ж – працоўны кабінет): «1) Кровать, застланная зеленым шелковым покрывалосм. На подушке — крепдешиновая накидка с розами. Над кроватью — картина: северный пейзаж, березы. 2) Стол письменный однотумбовый, тумба справа, с настольной лампой, две подставки для карандашей, отрывной календарь. Алоэ. Кресло. 3) Книжный шкаф. 4) Книжная полка. Картина (репродукция — тайга в желтых тонах) (БДАМЛМ. Ф. 27, воп. 3, спр. 32).*

*Гэтая прастора — месца нараджэння перакладаў Шэкспіра, «Жоўтай акацыі», «Ганны Алелькі», месца апошняга творчага плёну і невыноснай пакуты чалавека, у якога скралі талент і рыфмы, сёння ўжо не існуе.*

*Затое беларуская геаграфія апошніх шаснаццаці гадоў жыцця паэта — уся ў наяўнасці.*

*Па-першае — уся Беларусь. Пасля вяртання і пакуль дазваляла здароўе, паэт шмат вандраваў: Мядзельшчына і Пастаўшчына, Орша, Лепель, Віцебск, Кобрын, Берасцейскае і Гомельскае Палессе. Па-другое — вядома, Мінск, які пакрысе станавіўся «сапраўдным горадам».*

*Вуліца Карла Маркса, дзе стаіць знакаміты «дом пісьменнікаў», — тут жыў Дубоўкаў сардэчны сябар першых паслярэабілітацыйных гадоў Васіль Вітка, і Дубоўка сюды часцяком заходзіў, браў удзел ў сямейных святах, з задавальненнем сачыў за звычайным сямейным жыццём. Колькі крокаў далей — кватэра Петруся Броўкі, дзе таксама даводзілася бываць Дубоўку — Броўка ўсё ж дапамагаў «дзекабрыстам», якія вярталіся з далёкіх вандровак.*

*Да сёння прымае гасцей на вуліцы Светлай утульны дом Юльяна Сяргеевіча Пшыркова, дзе Дубоўка часта спыняўся, калі прыязджаў у Мінск: Юльян Сяргеевіч і Нона Іванаўна Пшырковы сталі для яго добрымі сябрамі, а дочкі Вольга і Таня — надзейнымі памочніцамі ў выдавецкіх справах, калі прыязджаць у Мінск Дубоўку стала цяжка.*

*І Дом літаратара на вуліцы Фрунзэ ўсё той жа, як тады, калі кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў зладзіла ўсё ж юбілейны вечар паэта (не ў ліпені — у снежні), і госці хуценька разбегліся, каб не стаяць небяспечным колам вакол толькі-толькі рэабілітаванага «нацдэма», — і Дубоўка, крыху разгублены, стаіць ля прыступак будынка ў гэтым усё ж чужым для яго горадзе.*

* * *

Я ўсёй істотай сваёй памкнуўся ў тую, ня так далёкую паласу нашай гісторыі, дзе было надта шмат і прывабна-загадкавага, і таямніча-страшнага, што ўжо даўно і з кожным днём усё мацней мяне хвалявала. Маю на ўвазе... лёс многіх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія былі, жылі, працавалі — і зьніклі, ды так, што ні знаку, ні сьледу, як камень у ваду. Іх імёны і лёсы інтрыгавалі мяне даўно, яшчэ зь першых маіх універсітэцкіх

гадоў — хоць тады яны прыадкрываліся мне галоўным чынам па чутках, па нібыта выпадковых упамінаньнях падчас размовы са старэйшымі. Памятаю, напрыклад, як мілая-мілая, заўсёды адухоўлена-ўзьнёслая паэтка Зінаіда Бандарына, на той час супрацоўніца ЛіМа, спытала: «А Дубоўкі што-небудзь чыталі?» І калі я пакруціў галавой «не» — ціха, але з пачуцьцём прадэкламавала: «О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет!» — і ўвесь верш да канца. Уражаньне зрабіла на мяне незвычайнае!

*Н. Гілевіч. Між роспачу і надзеяй // Збор твораў: у 23 т. Т. 23. Вільня: Наша будучыня, 2008.*

* * *

Восьмы і дзявяты радкі зверху, мне думаецца, сфармуляваны добра: «Працаваў на розных работах» і г. д. Пажаданне Вашага рэцэнзента даць расшыфроўку да гэтага пункта выканаць лёгка, але яна непатрэбная. Падумайце самі, я працаваў: а) сакратаром і прэтэнзіяністам райсаюза кааперацыі, б) кансультантам юрыдычнай часткі і ведамаснага арбітражу рэспубліканскага саюза кааперацыі ў ЧАССР, в) бетоншчыкам, г) тынкавальшчыкам, д) арматуршчыкам, е) мулярам, ж) маляром, з) цесляром і сталяром, і) слесарам-водаправодчыкам, у Бірабіджане, к) тэлеграфным рабочым на рацэ Бурэі, л) эканамістам, м) лесарубам, н) тралёўшчыкам, грузчыкам і г. д. у Ургальскім будаўніцтве, о) намеснікам галоўнага бухгальтара чайнага саўгасу ў Груз. ССР, п) лесарубам, р) сталяром у Ана-Чунскім леспрамгасе Краснаярскага краю... Кожную з вышэйпамянёных спецыяльнасцей я вывучыў дасканала, даваў прадукцыю, так сказаць, на пяць з плюсам. Пералічаць іх усе? У энцыклапед. артыкуле нявартa. Гэта справа поўнай біяграфіі. Даваць дзветры, а пасля ставіць: «і да т. п.» альбо «і інш.» я лічу несправядлівым у дачыненні да гэтых самых іншых спецыяльнасцей, якія, быць можа, былі якраз самымі маімі любімымі.

*Ліст У. Дубоўкі да Я. Саламевіча ад 16/11-1970 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 205.*

* * *

Ці картавіў ён? Ён не тое што картавіў, а такое было ў яго музычнае вымаўленне гука «р». Я нават ні з кім не магу параўнаць. Гэта не грасіроўка, а такое нешта музычнае. Такая нібыта фішка асабістая.

Я чула раз ці два, як ён чытаў свае вершы. Ён чытаў не так, як, прыкладам, Еўтушэнка ці Вазнясенскі, тэатральна. Ён быццам бы з вамі проста размаўляў, устаўляючы верш. Гэта было вельмі арганічна. Ён і ў лістах раз-пораз устаўляў вершы проста так, не спецыяльна, як працяг размовы. Вось ён так і чытаў. Я толькі памятаю, як ён аднойчы акцэнт такі зрабіў на 66-м санеце Шэкспіра, неяк асабліва яго прачытаў. Сказаў, што ён параўноўвае гэты санет са сваім жыццём, сваім адчуваннем жыцця, сваімі поглядамі на жыццё. Але ж і гэта ён сказаў у агульнай размове, якую працягнуў вершам.

Які быў голас... Я б не сказала, што гэта бас быў. Хутчэй, барытон. І такая мяккасць некаторых гукаў, таго ж «р». Голас ягоны перадаваў усю ягоную сутнасць, бо ён жа такі мяккі быў чалавек. Ніколі не чула ад яго рускую мову — толькі па-беларуску.

Апранаўся заўсёды прыгожа і з густам, але ж не так, як усе. Гальштукі ў яго заўсёды былі такія... як паясы беларускія, з арнаментам. У нашай «Паўлінцы», я думаю, набываў і прыстройваў як гальштукі, яшчэ прышпільваў такім спецыяльным умацаваннем для гальштукаў. Зімой прыязджаў у паліто з цыгейкавым каўнерам. Але заўсёды вельмі чыста і быццам бы толькі з-пад праса. Нават з цягніка выходзіў чысценькі-чысценькі.

Есці ён любіў проста. Бліны любіў такія тоўстыя, пухнявыя, са смятанай ці са шкваркай, соус з баравікоў любіў, працёртыя з цукрам суніцы — гэта быў такі асаблівы дэсерт.

*Т. Пшыркова. У прыватнай гутарцы.*

* * *

Шчыра кажучы, калі памёр Сталін, было трошкі трывожна. Мне асабіста, я сваім адчуваньнем магу падзяліцца. Не таму,

што... айяйяй, Сталін памёр! А таму, што я ж усё жыццё пражыла пры ім. Да таго часу. А тут... Як яно будзе? Нейкая рэзкая перамена... Ну, нічога. Было, стала лепш. Нейкія людзі сталі вяртацца. Дубоўка раптам... Дубоўка для мяне быў легендаю. Ну, бацька зь ім дружыў... Але я пачала ўсьведамляць, што вось ёсьць на сьвеце такі Дубоўка, ужо калі ён быў далёка. Гэта ў маім тым веку ўспрымаўся натуральна. Як навальніца, гром, маланка, паводка. Стыхія такая.

Я неяк у Музэі Купалы працавала. Сяджу на экспазыцыі. Прыходзіць чалавек, пытаецца пра цёцю Ўладзю. Я паказала, як да яе прайсьці. А потым прыбягае адтуль яшчэ адна дзяўчына. Кажа: «Ідзі туды, Дубоўка прыйшоў». Ах. Я туды. І мы як кінуліся адно да аднаго. Як родныя. Вось так...

*Р. Раманоўская.*
*С. Дубавец, З. Бартосік. Гутарка з Рагнедай Раманоўскай для Радыё «Свабода».*

* * *

Светлая полоса наступила с приездом в Минск и потом в Москву, когда он снова стал писать и печататься. Но что тогда можно сказать: сидел как прикованный к стулу и столу, не евши не пивши и не спавши, и только бормотал или громко читал то, что написал. Я только старалась не мешать. Боялась, что он и рухнет на пол.

*М. Дубоўка. З ліста да Е. Пфляўмбаўм.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 58. Л. 6, 7.*

* * *

Да сьледстваў, этапаў, лагераў, сталяроўваньня ў вечнай высылцы, дзе сваімі рукамі пабудаваў хаціну, нарабіў неверагоднай велічыні і моцы куфраў, што, пераехаўшы ў Менск, падпіралі высокую столь мае кватэры.

*М. Лужанін. Неспарадкаваная хата // Дзеяслоў. 2013. № 6.*

* * *

Што Вам сказаць пра Глебкавы артыкулы[372]? Тады, калі яны былі напісаны, я іх не чытаў па зразумелых для Вас прычынах. У 1958 г. я меў ягоныя артыкулы за 1931 г., нават «пятае праз дзясятае» «прабег вачыма», але фактычна не чытаў: мне было непрыемна трымаць іх у руках. Тым больш, што трэба было багата працаваць для кнігі «Выбраныя творы», а Вам павінна быць зразумела, што для працы ніякага натхнення ў тых артыкулах я не знайшоў бы. Такім чынам магу сказаць, што змест тых артыкулаў мне невядомы.

*Ліст У. Дубоўкі да Я. Саламевіча ад 24.02.1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11.*

* * *

Пасля рэабілітацыі колькі Уладзімір Мікалаевіч ні пісаў у Чэбаксары ў МДБ з просьбай прысланць яму яго работы, адказ быў адзін: «нічога няма». Або знішчылі, або паленаваліся шукаць. Пра лёс перакладаў «Чайльд Гарольда» Уладзімір Мікалаевіч шкадаваў да канца сваіх дзён.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 209.*

* * *

В феврале 1958 года мы ехали поездом от Канска в Москву. Настроение было тревожное. Что ждет нас. Куда едем — сами не знаем. Это очевидно отражалось на наших лицах и в нашем поведении. В соседнем купе ехали муж и жена, врачи из Тувы. Ехали на конференцию в Москву. В коридоре вагона у окна мы с ней разговорились. Тогда многие репрессированные возвращались, поэтому она и сама догадалась, кто мы такие. После разговора со мной она пришла к нам в купе и говорила в Владимиром Николаевичем, убеждала его, что все будет хорошо и прочее. Тогда там же в вагоне Владимир Николаевич

написал ей стихотворение на русском языке и преподнес ей. Потом он перевел его на белорусский.

*М. Дубоўка. Об истории написания стихотворения «У дарозе. М. З-ай». БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 57. Л. 48.*

* * *

Працуючы над кнігай пра паэта, я звярнуў увагу на тое, што ў розных друкаваных крыніцах ён называў неаднолькавую дату скасавання беспадстаўных прысудаў. У дасланым мне лісце ад 15 сакавіка 1964 года Дубоўка спецыяльна патлумачыў: «Справа, увесь сакрэт у тым, што ў мяне былі чатыры рэабілітацыі — па 1930 г., па 1935, 1937 і 1949 гг. Першыя дзве пастановы (па 1930 і 1935 гг.) я атрымаў сам у Мінску 1 ці 2 снежня 1957 г. Гэта — пастановы Вярхоўнага суда БССР. Трэцюю пастанову — па 1937 г.— пастанову Вярхоўнага суда Чувашскай АССР я атрымаў у пачатку 1958 г. А чацвёртую, па 1949 г., я павінен быў атрымаць ад Вярх[оўнага] суда Грузінскай ССР і пачаў ад іх чакаць. Але аказалася, што яны сваю справу пераслалі чувашам, а тыя пастанову напісалі, але мне не паслалі. Пакуль я да гэтага дакапаўся, прайшоў пэўны час. У кожным разе, гэтую апошнюю пастанову я атрымаў, ужо будучы ў Мінску, у 1958 г.».

З гэтага сведчання вынікае яшчэ адна цікавая акалічнасць, тое, што Дубоўка пасля вяртання з выгнання спачатку думаў асесці на сталае жыхарства ў беларускай сталіцы. І тут яго як быццам сустрэлі прыхільна, абяцалі даць кватэру. Але паэт урэшце спыніў свой выбар на Маскве, нямала здзівіўшы гэтым не толькі беларускіх, але і ўкраінскіх сяброў. Так, У. Сасюра у лісце ад 1 лістапада 1959 года пісаў: «Трохі мне не зразумела, чаму ты, беларускі паэт, жывеш у Маскве. Няхай, як кветка, з крывёй вырваная з роднага грунту, ты быў жорстка перасаджаны ў халодны і далёкі грунт і там пакутаваў багата гадоў як нявінная ахвяра маньякаў і ворагаў народа,— гэта мне

зразумела, але чаму ты добраахвотна жывеш [цяпер] хоць і не на чужым грунце, але не на сваёй радзіме? Вядома, Масква нам усім родная, але моўнае і нацыянальнае акружэнне там расійскае і для цябе як беларускага паэта не можа даць таго, што табе давала і дае твая Беларусь, якой ты аддаваў і аддаеш усё, чым жыве тваё сэрца. Я не ведаю прычын і таму не магу зрабіць выснову, хоць і думаю, што ў цябе багата агульнага з Міцкевічам». У апошняй згадцы — яўны намёк на тое, што другую палову свайго жыцця вялікі польскі паэт пражыў за межамі радзімы, у вымушанай эміграцыі. «Паясні мне, любы дружа, у чым справа? Чаму ты не пераязджаеш у Мінск? Думаю, што ёсць нейкая важная прычына»,— заканчвае свой сяброўскі ліст украінскі паэт.

Дубоўка адказаў: «Пасля таго як я вярнуўся са свайго падарожжа, я мог па меркаваннях юрыдычных атрымаць без жаднага клопату кватэру там, дзе я жыў раней. Так я і зрабіў, атрымаў яе ў Маскве. Думаў, што следам затым я абмяняюся на Мінск. Але цяпер, мабыць, гэтага рабіць не буду». Далей ідзе тлумачэнне: «Дзеля працы патрэбны спакой. Больш спакою там, дзе мяне ніхто не ведае, не знойдзе».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 256.*

* * *

Для маіх «Выбраных твораў» Ваш цяперашні шэф І. Д.[373] даў мне ў якасці рэдактара К-ра, а ў якасці аўтара прадмовы П. Глебку.

Мне давялося тады размаўляць з апошнім. Сам жа ён узняў пытанне і пра свае даўнейшыя артыкулы. Ён тлумачыў мне, «чаму і як» яму давялося выступаць з такой непрыгляднай пісанінай... А што я мог яму адказаць праз дваццаць восем гадоў вандравання?! Вось жа ён, для ачышчэння сумлення, і паставіў тады радкі: «З адлегласці часу відаць, што крытыкі, у тым ліку і я сам, у сваіх ацэнках паэзіі Ул. Дубоўкі часта перабольшвалі адмоўныя яе моманты»... і г. д. і г. д.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 24/02-1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 225, 226.*

* * *

Наогул трэба зняць вершы, на якіх адзнака модных тагачасных паэтычных плыней, якія так і не зліліся ў агульнае рэчышча савецкай паэзіі, а гэтае «таўро» яскрава бачыш у некаторых вершах з нізак «Наля» і «Пярэсты букет». <...> У некаторых вершах трэба зрабіць праўку. Напрыклад, у вершы «Вядзі мяне, як і вяло ты, сэрца» зусім непатрэбна такая фаталістычная роспач у канцы:

*А ты вядзі мяне, маё ты сэрца,*
*Вядзі мяне да суджанай мяжы.*
*Каб нават ведаў, дзе яна ляжыць,*
*Я не адважыўся б яе адсунуць, сцерці...*

Трэба падумаць наконт вядомага верша «Абяруч прыцісну ў скроні», асабліва наконт такой катэгарычнасці:

*Што было, што будзе — гэта*
*Кайданы жабрацкай долі.*
*Беларускага паэта*
*Толькі жвір і супакоіць.*

Трэба альбо выправіць, альбо цалкам апусціць верш.

Зняць вершы: «Можаце лаяцца», «Што складаць», «Пакуль», «Зашумела лебяда надрыўна», «Загадаю крозам, каб заціхлі», «Шуміць шыгаллём і лістамі», «Мой любы браце, блізкі і далёкі», «Машына напорна», «Непакоем я сёння ўскрыты».

Добра было б, каб аўтар, працуючы з рэдактарам выбраных твораў, перагледзеў, зрабіў больш выразнымі па думцы свае ранція вершы, выпалаўшы залішнюю квяцістасць, кучаравасць, выкрасліўшы радкі накшталт «пурпуровыя рогаты духу», «час брыльянцісты, залацісты». <...>

*А. Вялюгін. Унутраная рэцэнзія для выдавецтва «Беларусь» на кнігу У. Дубоўкі «Выбраныя вершы». Машынапіс, 1958. БДАМЛМ. Ф. 11. Воп. 1. Спр. 489.*

* * *

Мне ўспамінаецца адно маленькае кітайскае апавяданне[374] аб тым, як адзіны кітаец сказаў, што ён зробіць цуда і вось усё сваё жыццё ён працаваў над каменнем і зрабіў з яго цуда — маленькую абез'яну. Вось прыблізна такое цуда зрабіў за ўсё сваё жыццё Пастэрнак — выпусціў раман «Доктар Жывага», які з'яўляецца яго аўтапартрэтам. Мы павінны рашуча асудзіць дзеянні здрадніка. Я цалкам далучаюся да пастановы, якая вынесена ў Маскве, таму што ён толькі гэтага і варты.

*Выступ У. Дубоўкі на пашыраным паседжанні Прэзідыума праўлення СП БССР ад 29/10-1958 па асуджэнні Б. Пастарнака. Стэнаграма паседжання // Асоба і час. Вып. 1. С. 421 (Публікацыя С. Шапрана).*

* * *

Я ніколі не задумваўся над такім пытаннем: як, часам, выпадковая з'ява дае пачатак новаму твору, дапамагае яму з'явіцца на свет і як, часам, якая-небудзь нечаканасць знішчае ў тваёй памяці і тваім ўяўленні ўжо зусім гатовы, выспелены тваім сэрцам твор, калі заставалася толькі ўзяць у рукі пяро і запісаць яго на паперу.

Прыйшла гэтая нечаканасць, перабіла ўсе твае думкі, настроі, і як ты ні стараешся прыгадаць тое, што было ўжо сфармавана ў нейкую цэльнасць — няма яе і ніколі не будзе.

У звязку з рэдагаваннем, падрыхтоўкай да друку выбраных твораў, мне давялося пазнаёміцца з выдатнымі знаўцамі нашае кнігі і літаратуры: З. П. Матусавым[375], М. І. Татурам, І. Д. Казекам, А. Е. Кучарам.

У працэсе гэтай падрыхтоўкі і звязаных з ёй таварыскіх гутарак з гэтымі таварышамі, а таксама і з другімі, пра якіх я кажу, крыху пачакаўшы, з'явіўся ў мяне зусім новы твор.

Для мяне гісторыя напісання яго з'яўляецца настолькі нязвычнай у маёй творчай практыцы, што я надумаў запісаць пра гэта на паперу.

А пачалося так. Рукапіс маёй кнігі быў у тав. З. П. Матусава, як у самага адказнага за выданне ўсяго што б там ні было, у самым канцы 1958 года.

Як звычайна, у канцы года ўва ўсіх адказных і нават неадказных працаўнікоў — вельмі многа работы: заканчэнне аднаго і падрыхтоўка да другога года. Тут і каштарысы, тут і пляны, тут і справаздачы...

Пры выпадковым спатканні з З. П. Матусавым, каб прыспешыць рух рукапісу, што мяне цікавіла асабіста, як аўтара, я падаў думку даць мне гэты рукапіс на дадатковае маё рэдагаванне, паколькі да гэтага рукапісу былі зроблены ўжо заўвагі таварыскага парадку І. Д. Казекам.

З. П. Матусаў так і зрабіў. Узяўшы гэты рукапіс дадому, я звярнуў увагу на тое, што да верша «О Беларусь, мая шыпшына», напісанага мною ў 1925 годзе, зроблена зусім трапная заўвага наконт таго, што слова «пройма» з'яўляецца малапашыраным і што, для паляпшэння гучання ўсяго верша, варта было б падумаць наконт падшукання нейкага іншага слова замест гэтага.

Дарэчы, увесь твор гучыць так:

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
*Пялёсткамі тваімі стану,*
*На дзіды сэрца накалю,*
*Тваіх вачэй, пад колер сталі,*
*Праменне яснае люблю.*
*Ніколі пройме з дзікім ветрам*
*Не развіваць дзявочых кос.*
*Імкнешся да Камуны Свету,*
*Каб радасць красавала скрозь.*
*Варожасць шляху не зачыніць,*
*У перашкодах дух расце.*
*О Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*

Узяўшы слова «пройма» — я пачаў думаць, чым яго лепш замяніць. Якія словы мне не прыходзілі на памяць, яны пачалі цягнуць за сабой у радок новыя. А паколькі так, перабудоўвалася ўся страфа. А паколькі перабудоўвалася адна страфа, яна прымушала мяне пераглядаць і суседнія строфы, каб даць пэўную цэльнасць.

Адным словам, зусім натуральна паўстала пытанне наконт перагляду ўсяго твора. Мінула 33 гады, калі ён быў напісаны і надрукаваны. Мінула цэлая вялікая эпоха, Беларусь з лапатнай і сярмяжнай, якой яна была тады, вырасла ў індустрыяльную. На яе прасторах з'явіліся волаты-заводы: аўтазавод, трактарны завод і многа, многа іншых, не менш вялікіх і важных.

Мне і падумалася, што на фоне ўсяго сучаснага жыцця, на фоне гэтай панарамы і яшчэ больш чараўнічай перспектывы — мой гэты верш, няхай сабе і ў кнізе выбраных твораў, з'яўляўся б нечым падобным да той пастушковай дудкі-жалейкі, на якой і я граў у сваім малецтві.

Патрабуецца нешта іншае, нешта больш суцэльнае, што ў якой-небудзь меры было б ў гармоніі з Беларуссю сённяшняй.

Мяне ўсё ж вабіў яшчэ вобраз той Беларусі, якой яна ўяўлялася мне ў 1925 г., пасля разрухі і руін грамадзянскай вайны — вобраза прыгожай, цудоўнай кветкі нашых лясоў, шыпшыны.

Узяўшы ў рукі пяро, я запісаў на паперу новы адменнік, у якім слова «шыпшына» замяніў «лясной ружай». Новы адменнік гучаў так:

*О Беларусь, лясная ружа,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*Хадой упэўненай і дужай*
*Ідзеш ты у шырокі свет.*
*Над шляхам ясна свецяць зоры*
*З муроў прадвечнага Крамля.*
*Нягоды знішчаны і гора,*
*Красуе родная зямля.*
*Варожасць шляху не заслоніць,*
*Мацнее дух ад перашкод.*
*Тваё шчаслівае «сягоння»*

*Стварыў упарты наш народ.*
*Цябе вітаем шчырай песняй,*
*І сонцам ясным і зарой,*
*І кожнай лісцінкай у лесе,*
*І кожнай кветкай лугавой.*
*Пакуль на небе сонца свеціць,*
*Дакуль існуе светам свет —*
*Нас не развее дзікі вецер,*
*Не замяце твой ясны след.*
*Мы загартуем нашы душы,*
*А ў час, калі апошні бой —*
*Непераможнай хваляй рушым,*
*Цябе заслонім мы сабой.*
*Пялёсткамі тваімі станем,*
*Каб вечна красавала ты*
*І каб шумелі вечна з намі*
*Твае зялёныя лісты.*
*О, Беларусь, лясная ружа,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У грамадзе савецкай, дружнай*
*Ты і знайшла свой новы свет.*

Адразу ў мяне самога паўстала пытанне: а дзе ж гучанне нашае індустрыі? Зусім такое ж пытанне задаў мне і І. Д. Казека, калі я паказаў яму гэты новы адменнік.

Ізноў я бяру пяро ў рукі і дадаю замест чацвёртае страфы новую:

*Цябе вітаем працай плённай,*
*Няспынным рокатам машын,*
*Сям'ёй усёй шматміліённай*
*Цябе вітаем як адзін.*

Наш вельмі ўдумчывы паэт Васіль Вітка парадзіў памяняць у гэтай страфе радкі: першыя два на месца апошніх.

Максім Танк сказаў, што яму не падабаецца страфа «Пялёсткамі тваімі станем»... цалкам, бо яна выбіваецца з агульнага тону верша, што яму не падабаецца вобраз «лясная ружа»,

«ясна свецяць», «мацнее дух ад перашкод», прыблізна тое самае сказаў і Анатоль Вялюгін[376].

Узяўшы да сэрца і ўвагі ўсе гэтыя сяброўскія парады, я вярнуўся ізноў да свайго пяра і паперы, прадумаў увесь верш нанова і даў яго канчаткова ў такім выглядзе:

*О Беларусь, мая айчына,*
*Ідзеш ты праз шырокі свет.*
*Красуе сцяг твой, як шыпшына,*
*Зелёны ліст, чырвоны цвет.*
*Над шляхам не пагаснуць зоры,*
*З крамлёўскіх векавечных веж.*
*Нядолю знішчыўшы і гора,*
*Да камунізму нас вядзеш.*
*Варожасць шляху не заслоніць,*
*Не спыніць пераможны ход.*
*Твоё шчаслівае сягоння*
*Стварыў упарты наш народ.*
*Сям'ёй усёй шматміліённай*
*Цябе вітаем як адзін.*
*Цябе вітаем працай плённай,*
*Няспынным рокатам машын.*
*Дакуль на небе сонца свеціць,*
*Дакуль існуе светам свет, —*
*Нас не развее дзікі вецер,*
*Не замяце твой ясны след.*
*Мы загартуем нашы душы,*
*А ў час, калі апошні бой —*
*Непераможнай хваляй рушым,*
*Цябе заслонім мы сабой.*
*О Беларусь, мая айчына,*
*Ідзеш да найвялікшай з мэт,*
*Красуе сцяг твой, як шыпшына —*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет.*

Калі я паставіў апошнюю кропку каля гэтага апошняга адменніка, я і задумаўся.

Мне невядома, як спаткаюць гэты мой твор чытачы. Можа, яны яго зганяць...

Але — ці з'явіўся б ён на свет, каб З. П. Матусаў не даў мне мой рукапіс на дадатковы прагляд у той дзень, калі я пра гэта прасіў? Каб І. Д. Казека, В. Вітка, М. Танк і А. Вялюгін не выказалі сваіх сяброўскіх заўваг наконт яго зместу і афармлення? — Безумоўна, не. Вось чаму, паколькі гэта першы выпадак такога калектыўнага абмеркавання ў маёй практыцы — я і надумаў запісаць усё гэта сабе на памяць і дадаць пры гэтым: калі што добрае будзе сказана пра гэты мой твор, няхай яно, разам з маёй шчырай падзякай, і пойдзе да гэтых таварышаў, бо без іх, як ужо даведзена вышэй, яго і на свеце не было б.

26–27.12.1958
Мінск

У. Дубоўка

*У. Дубоўка. Пра з'яўленне аднаго верша. Машынапіс.*
*ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 322.*

* * *

Сустрэўся я з ім у цягніку Масква — Мінск у 1959 г., — выпадкова ехалі мы, Уладзімір Мікалаевіч, мая жонка[377] і я ў адным вагоне. Дубоўка быў з сівой барадою, як яго звычайна паказваюць на фотаздымках. Пазналі мы яго адразу, хаця мінула каля 30 год з часу развітання. Гаманілі да самага рання. Дубоўка — вялікі майстар апавядаць пра свае жыццёвыя прыгоды, і не губляць жартаўлівасці, добрага настрою. Ларыса Восіпаўна і я былі здзіўлены і захоплены мудрасцю Дубоўкі, яго жыццёвым імпэтам, энергіяй, разуменнем людзей, маладосцю духа.

Аднаго я не зразумеў. Як мог Дубоўка не пісаць па-беларуску столькі год, не ствараць вершаў, захаваўшы юнацкую прагнасць да жыцця, да людзей, да літаратуры?

Наблізіў крыху да разумення надпіс Дубоўкі на фотакартцы, зроблены 5 мая 1970 г. у Маскве, у адну з апошніх маіх сустрэч з Уладзімірам Мікалаевічам. Вось гэты надпіс:

«Ай, дзяды! Гляньце, колькі на іх сівізны!
А нядаўна ж былі маладымі яны:
Удваіх накруцілі сто сорак гадоў...
Застаецца капа да двух круглых вякоў.
Паднаціснем, браток, ды... у Зацішны куток...

Масква. Ул. Дубоўка.

*Г. Гарэцкі. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкай // ЛіМ. 1997. 11 крас. С. 13.*

* * *

Возвратившись в Москву, я даже навел справки: тот ли это Степан Злобин, которого я знал когда-то, или это кто-то иной. Оказалось, что именно он, мой старый знакомый. К моему огорчению оказалось также, что он лежит в постели, болеет. Но Виктория Васильевна[378], его верный друг и заботливый врачеватель, сказала, что Степан Петрович требует, чтобы я немедленно к нему явился.

После сибирской тайги попасть в поднебесное высотное здание на Котельнической набережной и ориентироваться в нем для меня было большим событием и, я бы сказал, делом далеко не легким. Все же, изучив на практике, где «восточный корпус», где «западный», я нашел квартиру своего старого друга. Отлеживался он в своем кабинете на диване и встретил меня строчками из моего юношеского белорусского стихотворения «Ноч наплакалі бярозы»:

*Ані слова, ані гуку*
*Не чутно ў адказ...*
*Шле зязюля — «ку-ку, ку-ку»*
*У засмучоны час...*[379].

На моем лице отразилось такое изумление, что и Виктория Васильевна, и Степан Павлович рассмеялись.

— Не удивляйся! Не хвастаюсь своей памятью, но помню пару твоих стихотворений того периода до сего дня...

В дальнейшем мы встречались со Степаном Павловичем довольно редко, по «важным» датам: мое новоселье, его день рождения... Дело в том, что мы оба усиленно работали. Я занят был наверстыванием своего вынужденного прогула в литературе, а он — подготовкой новых работ к печати...

*У. Дубоўка. Тридцать лет и три года*
*(успаміны пра С. П. Злобіна). Машынапіс.*
*РГАЛІ. Ф. 2175. Воп. 5. Адз. з. 101.*

* * *

П. БРОЎКА: Рэабілітаваны добры паэт Уладзімір Дубоўка, які пакутваў 27 год. Я павінен паведаміць, што ён захаваў сваю паэтычную сілу і чалавечую годнасць і мудрасць, быў нядрэнным паэтам. Але мы не можам парушаць правіл. Ён небыў членам Саюза. Мы запланавалі яго кнігу вершаў у 1959 годзе, унеслі ў план, але у Саюз мы яго можам прыняць толькі ў яго прысутнасці. Мы зусім згодны з тым, што яго трэба прыняць у члены Саюза, але трэба яго паслухаць, парушаць свайго статута мы не маем права.

А. ЗВОНАК: Трэба яго выклікаць сюды за кошт Саюза пісьменнікаў і тут прыняць яго ў члены Саюза.

П. БРОЎКА: Мы папросім М. Лужаніна, які вядзе перапіску з Дубоўкам, перадаць яму нашу думку, што мы згодны прыняць яго ў члены Саюза пісьменнікаў, але зможам гэта аформіць, калі ён прыедзе сюды. Калі ён прыедзе, мы зможам аказаць яму дапамогу, а завочна нічога не можам зрабіць.

*Стэнаграма паседжання Прэзідыума*
*Праўлення СП БССР ад 30/09-1958.*
*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 81. Л. 165, 166.*

* * *

Мы ўсе верылі, што ўсё зменіцца. Кпілі са старэйшых, якія ў сваіх вершах ды паэмах Сталіна замянялі на Леніна ці на

партыю. І ў гімне на словы Клімковіча замест «Сталін да шчасця вядзе нас ўпярод» (радок для лагапедаў) павяла партыя.

Трохтомнік Крапівы адкрываўся вершам, які спявалі штодня па радыё, «Мы роднаму Сталіну ў песні любоў і падзяку прынеслі...». А далей ішлі байкі «Сука ў збане», «Калі ў краме ёсць нястача...». Давялося выдзіраць старонку і перадрукоўваць гатовы ліст. Калі акадэміка (здаецца, званне далі за тлумачэнне сталінскіх «Вопросов языкознания...») папрасілі ў каментарыях зняць абразлівыя характарыстыкі Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы ды іншых «клятых нацдэмаў», бо яны рэабілітаваныя, цвёрда адрэзаў: «Гэта яшчэ паглядзім». Як і ў свой час, калі Панамарэнка, сабраўшы верных памагатых партыі, паведаміў, што ёсць магчымасць двух пісьменнікаў вярнуць з ссылкі (гэтакая разнарадка была), той жа Крапіва, успаміналі потым удзельнікі збору, заключыў: «Як сядзелі, хай так і сядзяць». Панамарэнка змоўк.

*Р. Барадулін. На таку майго веку. С. 407.*

* * *

Адразу ж пасьля вызваленьня ў 1958 годзе ён з жонкай, Марыляй Пятроўнай, прыехаў у Менск. Абяцаўшы неўзабаве даць кватэру, іх пасялілі ў пакойчыку гасьцініцы «3-яя Савецкая», што месьцілася ў чатырохпавярховым будынку насупраць паўночнага крыла цяперашняга гатэлю «Менск». А вакно гэтага пакойчыка выходзіла на двор Пішчалаўскага замку, славутай турмы на вуліцы Валадарскага, і глядзелася якраз на вокны той камеры, дзе тады, у 1930-м, Уладзімера Дубоўку трымалі і катавалі ледзь не штодзень, дамагаючыся прызнаньня ў антысавецкай дзейнасьці. Пасялілі яго там вядома чаму, каб не забываў... Дык вось, жыве ён з жонкай у гэтым пакойчыку месяц, другі, трэці, ніякай кватэры не даюць, Дубоўка ходзіць да начальства, да Броўкі і Глебкі, што кiравалі тады Саюзам пісьменьнікаў, але вынікаў няма. Каля дзевяці месяцаў пражылі яны з Марыляй Пятроўнай у гэтай гасьцініцы, потым сабраліся і паехалі ў Маскву.

Маскоўскае пісьменьніцкае кіраўніцтва зьлітасьцівілася — Дубоўку далі маленечкую кватэру ў малагабарытнай хрушчоўцы, так званую палутарку — аднапакаёвую з маленькай дадатковай нішай тры метры на два ў сьцяне каля акна. Прычым у самай далёкай па тым часе ўскраіне Масквы — у Новых Чаромушках. Потым я неаднаразова бываў там у вельмі ветлівых і гасьцінных гаспадароў, але дабірацца туды зь Беларускага вакзалу трэба было ледзь ня тры гадзіны...

*В. Нікіфаровіч. Пясняр волі й хараства // Дзеяслоў. 2010. № 47.*

* * *

Пасля рэабілітацыі У. Дубоўка не вярнуўся на радзіму ў Мінск, жыў у Маскве. Чаму?

Пра гэта аднойчы спытаў у Сяргея Міхальчука — рэдактара выдавецтва, які неаднойчы сустракаўся з У. Дубоўкам, працаваў над яго кніжкаю казак «Залатыя зярняты», што выйшла да 75-годдзя паэта і ў якую Уладзімір Мікалаевіч прасіў уключыць 7500 вершаваных радкоў — усяго па 100 радкоў на кожны пражыты год. І Міхальчук распавёў: «Чуў я, што Дубоўка гэты крок так растлумачыў: у Мінску шмат сяброў, яны будуць хадзіць да цябе ў госці, ты павінен будзеш хадзіць да іх... Ці ж да працы будзе? А задумана вельмі шмат. У Маскве ж цішэй, спакайней, ніхто не адрывае ад стала...».

*М. Чарняўскі. Шыпшына не адцвітае // ЛіМ. 2015. № 28. 17 ліп. С. 7.*

* * *

Уладзімір Мікалаевіч і Марыя Пятроўна жылі ў невялікай двухпакаёвай кватэры панельнага дома. Унутраны яго выгляд быў надзвычай просты і, сказаў бы я, бедны. Я ведаю кватэры рабочых, якія абстаўлены куды багацей, чым кватэра славутага паэта. Усё яго багацце — вялікая бібліятэка.

*І. Цыральсон. З ліста да Ю. Пшыркова. Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

У 1959 годзе Уладзімір Мікалаевіч з Віткам і са мною рабіў паездку па Беларусі. У Тураве пабывалі ў райкоме партыі, на Уладзіміра Мікалаевіча добрае ўражанне зрабіў сакратар райкома: сапраўдны гаспадар раёна, які жыве перспектывамі свайго раёна. Для паездкі ў глыбінку ён прадаставіў сваю райкомаўскую машыну. Паехалі яны (забыла назву вёскі) з разлікам правесці там некалькі дзён, пагутарыць з людзьмі, можа, запісаць што цікавае або з даўніны, або з часоў Айчыннай вайны (я вырашыла адпачыць у Тураве, з імі не паехала). З імі паехала інструктар райкома — жанчына. Нечакана вельмі хутка, у той жа ці ў наступны дзень, яны вярнуліся ў Тураў. На маё здзіўленае пытанне Уладзімір Мікалаевіч расказаў, што яго ўразіла, як іх «спадарожніца» вырашыла ім «дапамагчы». Прыйшла дый кажа: «Дык вось, я для вас ачысціла памяшканне Ваеннага стала. Туды будуць прыходзіць людзі, што вас цікавяць і з якімі вы будзеце гутарыць. І настаўніцу я папярэдзіла, каб яна да вас прыйшла». Уладзімір Мікалаевіч абурыўся. Як гэта выклікаць людзей, выклікаць настаўніцу. Яна ў адпачынку, можа, яна занятая гаспадаркай, хатнімі справамі. І ўвогуле, хто мы такія, каб да нас выклікаць людзей. Зараз жа пойдзем да настаўніцы, папросім прабачэння. І яны хадзілі і прасілі прабачэння, што так атрымалася, а ад гутарак з мясцовымі людзьмі па выкліку, у афіцыйнай абстаноўцы, ён адмовіўся. Уладзімір Мікалаевіч лічыў, што не так трэба знаёміцца з жыццём і побытам людзей, трэба выклікаць прыхільнасць людзей да сябе, каб ім захацелася расказаць пра тое, што яны ведаюць, памятаюць.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 231.*

* * *

У тураўскай гасцініцы Уладзімір Мікалаевіч доўга і з веданнем справы выпытваў у нашай дзяжурнай Галі, як яна вышывае, дзе бярэ ўзоры. Сарамяжная дзяўчына, сумеўшыся ад такой нечаканай цікаўнасці, адказвала не зусім ахвотна, відаць, палічыўшы незнаёмага дзеда за вясёлага жартаўніка.

Затое ў тым жа Тураве, разгаварыўшыся са сталярамі, што рабілі дзверы і аконныя шуфляды для новага дома, паэт знайшоў сабе субяседнікаў на цэлы вечар. Майстар гаварыў з майстрамі аб паэзіі і той працы, якая зразумелая і дарагая яму гэтак жа, як і паэзія слова.

І я, слухаючы гэтую гаворку, у глыбіні душы пазайздросціў шчодрасці таленту, якім валодае мой старэйшы друг. Такія людзі сапраўды бачаць радасць у кожнай рабоце, якую яны робяць.

*В. Вітка. Аблічча друга. Машынапіс.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 29. Л. 5.*

* * *

Мы жили тогда в 1959 году в гостинице на пристани в Мозыре. Я проснулась перед восходом солнца и сидела на пристани в ожидании восхода. Красота была такая, что я не удержалась и разбудила Владимира Николаевича и сказала: «Выйди посмотри». Он вышел, посмотрел одну минуту и ушел и лег опять спать. Я еще подумала: «Неужели на него это не произвело впечатления». Оказывается, не только произвело, но и врезалось в память, и в результате появилось стихотворение «Восход солнца на Припяти».

*М. Дубоўка. Успаміны.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 27. Л. 50.*

* * *

Прайшоў ХХ з'езд партыі. Сітуацыя змянілася. Бац — Залеская[380] пад саліднай маркай маскоўскага інстытута ў 1960 годзе паўтарае старыя песні. Пратэставаў афіцыйна хто з АН БССР у друку супроць такой пісаніны, супроць друкаваных паклёпаў? Не ведаю, але я такіх матар'ялаў не бачыў. Цяпер вы далі станоўчы водгук на гэты твор[381]. І глядзіце — з якой жвавасцю, з якой актыўнасцю ўзняліся супроць гэтага станоўчага водгуку тыя пісары.

*У. Дубоўка. З ліста да Д. Бугаёва ад 27/12-1963.*
*Цыт. паводле: Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. С. 281.*

* * *

І мне прыемна ўспомніць, што я застаў яшчэ майстра. У лютым 1960 года атрымаў я аўтограф на зборніку «Выбраныя творы», выдадзеным за год перад гэтым. Пачынаецца надпіс: «Нашай надзеі, зьмене...». Прыводжу не таму, што словы пахвалы навырост дадзены, а таму, што ў «зьмене» мяккі знак захаваны. Берагу я і фотаздымак, на якім напамін, як Уладзімір Дубоўка перадае мне свой том паэзіі.

*Р. Барадулін. Выбранае. С. 337.*

* * *

Даражэнькі Мікола Гаўрылавіч![382]

Я вельмі-вельмі ўдзячны Вам, прэзыдыуму Саюза Пісьменнікаў і наогул усім таварышам, якія ўзнялі пытанне адзначыць дзень майго 60-годдзя. Прызнаюся вам шчыра, гэта ўсё глыбока ўзрушыла і ўсхвалявала мяне.

Я чуў, што у некаторых часопісах нашых будуць змешчаны артыкулы пра маю творчасць.

Мне здаецца, гэтым варта і абмежавацца.

Справа вось у чым.

Пры маёй сівой барадзе і сапраўды салідным узросце — у мяне вельмі малы літаратурны стаж (я маю на ўвазе чыста творчы стаж).

Я проста непакоюся, што мне (і маім сябрам за мяне) прыдзецца, далікатна кажучы, чырванець. Вы падумайце самі: 60 год чалавеку, а ён дэманструе пару кніжак, большая частка якіх запоўнена творамі юнацкага часу.

Сапраўды, я ніяк не магу раўнавацца з тымі таварышамі, якія хоць на 10 год маладзейшыя за мяне, а творчы літаратурны стаж маюць утрая большы і, адпаведна з гэтым, літаратурную прадукцыю.

Ці не было б лепш адкласці ўрачысты сход да таго часу, калі я здолею даць нешта грунтоўнае і калі адпаведна павялічыцца мой творча-літаратурны стаж.

Я прашу вас, даражэнькі Мікола Гаўрылавіч, гэтыя мае меркаванні ўзяць на ўвагу. Я спадзяюся, калі Вы з таварышамі абмяркуеце іх, дык вы ўсе згодзіцеся з маёй прапановай.

Я яшчэ раз паўтараю, што мне было б проста цяжка стаяць перад аўтарытэтным сходам з маім вельмі скромным літаратурным «багажом».

Прашу вас яшчэ раз уважна паставіцца да маёй просьбы, а такжа прашу прыняць ад мяне самыя сардэчныя, самыя шчырыя пажаданні і прывітанне, перадаць іх таварышам па Саюзу.

З вялікай пашанай да вас Уладзімір Дубоўка.

P. S. Між іншым, я сябе вельмі кепска адчуваю, лячуся і праз пару тыдняў думаю паехаць у вёску на Беларусь.

Калі вам будзе што няясна, я прыеду ў Мінск дні за два да дэкады (чысла 1 верасня) і мы з вамі канчаткова высветлім тады гэта пытанне.

Бывайце здаровы, даражэнькі Мікола Гаўрылавіч.

У. Дубоўка.

*У. Дубоўка. Ліст да М. Ткачова.*
*БДАМЛМ. Ф. 281. Воп. 1. Спр. 147. Л. 1.*

* * *

Сваё шасцідзесяцігоддзе ён адзначаў у невялікай кампаніі родных і сяброў, куды меў прыемнасць быць запрошаным і я. Колькі мы там ні стараліся ўзняць тост за яго ці за мілую, інтэлігентную, таксама шматпакутную Марылю Пятроўну, юбіляр касаваў усе нашы намеры неабвержным: «Таварышы, за нашу родную партыю!» або «Таварышы, за наш родны ўрад!».

*Я. Брыль. Накіды трох партрэтаў //*
*ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз.*

* * *

Для мяне гэты час выдаўся крыху неспагадным — я хварэў, баліць сэрца. Так скруціла было мяне 23.08 — што я кінуў

раптоўна курыць на поўным «хаду». Цяпер нават самы пах табакі для мяне, як для сабакі кій.

*У. Дубоўка. З ліста да У. Шахаўца ад 19/09-1960.*
*БДАМЛМ. Ф. 11. Воп. 1. Спр. 481. Л. 2.*

* * *

ПРОТОКОЛ № 12
Заседания Президиума Правления СП БССР
От 7 декабря 1960 года

СЛУШАЛИ: о проведении творческого вечера поэта Владимира Дубовки в связи с 60-летием со дня его рождения.

ПОСТАНОВИЛИ: Провести 24 декабря 1960 года в клубе СП творческий вечер В. Дубовки. Докладчиком утвердить А. Велюгина.

*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 92. Спр. 242.*

* * *

Парадак вечара

Уступнае слова — Пятро Глебка
Даклад — Анатоль Вялюгін
Вітаюць:
Ад імя Праўлення СП БССР — Іван Шамякін[383]
Ад імя рэдакцыі часопіса «Маладосць» — Алесь Асіпенка[384]
Ад імя беларускага радыё — Ядвіга Беганская
Слова мае Янка Брыль
Слова мае Раман Сабаленка
Ад імя калектыву часопіса «Бярозка» — Р. Барадулін
Чытае тэлеграмы і прывітанні — Мікола Ткачоў
Вершы Уладзіміра Дубоўкі чытаюць артысты: Рыма Маленчанка[385], Галіна Арлова[386].
Слова Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі.
Пасля перапынку — канцэрт.

*Праграма юбілейнага вечара да 60-годдзя Дубоўкі,*
*складзеная і запісаная П. Глебкам.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 24. Воп. 1. Адз. з. 1211.*

* * *

Дубоўку я памятаю проста як члена сям'і. Вось тут стаяла канапка, на якой ён спаў, калі прыязджаў у Менск, гэты дом быў без усялякіх акалічнасцяў і ягоным домам. Пазнаёміліся яны з бацькам так. Саюз пісьменнікаў ладзіў вечарыну з нагоды 60-годдзя Дубоўкі — у памяшканні на Энгельса. І хоць Уладзімір Мікалаевіч быў на той час ужо рэабілітаваны, аднесліся да яго неяк насцярожана, не па-людску. Вось скончылася ўрачыстая частка — і ўсе разышліся, хто куды, ніхто з Дубоўкам не застаўся, нават гасцініцу яму не заказалі... А бацька мой затрымаўся ў зале — пакуль там усіх наперад прапусціў, пакуль паліто жанчынам падаў... Выходзіць — і бачыць: стаіць ля выхаду такі разгублены адзінокі Дубоўка на гэтым пляцы перад клубам Саюза пісьменнікаў. Ну, безумоўна, бацька кінуўся да яго, кажа: «Калі вы не пагрэбуеце простым домам на самай ускраіне — дык запрашаю»... Дубоўка ўсміхнуўся: «Якіх толькі дамоў я ў жыцці не бачыў!» І яны паехалі да нас. І так тут Дубоўку спадабалася, што ён прабыў у нас цэлы месяц. Хаця сястра мая, Вольга Юльянаўна[387], кажа, што толькі тыдзень. Але мне падаецца — доўга ён у нас тады жыў.

*Т. Пшыркова. Інтэрв'ю для VELVET.by.*

* * *

У канцы шасцідзясятага года ў Маскве праходзіла Дэкада ўкраінскай літаратуры і мастацтва. Ад беларускіх пісьменнікаў гасцявалі там Вітка, Макаёнак[388] і я. Як ні цікавыя былі ўкраінскія вечары, мы знайшлі-такі час наведаць Дубоўку дома. Ад тае харошай сямейнай ўтульнасці мне ярка, цёпла помніцца перш за ўсё сам гаспадар. За сталом, пасля памяркоўнага пачастунку, па-хатняму вольна і сціпла, у паэтычным настроі ён, румяны ды срэбрабароды прыгажун, чытаў нам свае пераклады з Байрана. І думалася, слухаючы, і гаварылі мы, госці, потым, якая сіла таленту, эрудыцыі, глыбіннай прастаты была ў гэтым нашым старэйшым таварышы, якое гэта злачынства было — у самым пачатку яго ўздыму затармазіць гэты ўздым, спыніць

бязглуздымі абвінавачваннямі ў тым, што неўласціва было яму, як і многім яго сябрам па страшным лёсе...

*Я. Брыль. Накіды трох партрэтаў // ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз.*

* * *

Толькі ў лютым месяцы 1961 года я меў шчасце сустрэцца ў Кіеве з Уладзімірам Мікалаевічам (Сасюрам. — *Г. С.*). Не бачыліся мы 35 гадоў! І ў мяне, і ў яго набеглі няпрошаныя слёзы.

— Валодзя! Як жа мы з табой пастарэлі! — звярнуўся ён да мяне.

*У. Дубоўка. Успаміны пра Уладзіміра Сасюру. ЦБ АН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 337. Л. 4.*

* * *

Я яго ўпершыню ўбачыў у лясным Доме творчасці пад Мінскам. На замеценай жаўталісцем сцежцы мне сустрэўся высокі шыракаплечы дзед з доўгаю сівою барадою, ружоватвары, з чыстымі юначымі вачыма. Яны іскрыліся глыбокім блакітным святлом, на сакавітых вуснах дрыжала ўсмешка. Ён моцна паціснуў руку і прадставіўся: «Дубоўка. Можа, калі і чулі». Калі ж я ў адказ пачаў чытаць па памяці яго вершы з «Трысця» і «Credo», ён расчуліўся да слёз. Уражаны яго чалавечай прыгажосцю, ласкавасцю, далікатнасцю і высокай культурай, я прыгледзеўся да рук паэта. Часта рукі гавораць пра чалавека больш за вочы, твар і словы. Шырокія дужыя далоні са слядамі даўніх парэзаў і глыбокіх шрамаў, здавалася, пахнуць жывіцаю і свежымі стружкамі. Гэта былі рукі рабочага чалавека, якія заўсёды шукаюць занятку і працы. Верылася, што яны шмат зробяць для нашай паэзіі, парадуюць чытачоў чыстымі і шчырымі радкамі. Уладзімір Мікалаевіч неяк прызнаўся:

— Прывёз цэлую скрыню сталярнага інструменту. Калі не ўдасца пісаніна, вазьмуся за свае фуганкі.

Ён, вядома, жартаваў, а можа, сапраўды думалася, што адстаў, страціў «сакрэты» рамяства. Але талент ніколі не заглухае, калі ён сапраўды талент, а душа і сэрца жывуць паэзіяй.

*С. Грахоўскі. Паэт — заўсёды паэт. С. 106.*

* * *

Что мне делать с его столярными инструментами. Ведь он так дорожил ими, так берег. До того как освоил столярное дело, он очень непрочно чувствовал себя, зависимым. Один раз завхоз — комендант лесопункта за какое-то маленькое неподчинение кричал на него: «Ты еще будешь в ногах у меня валяться, на коленях передо мной стоять!» Когда он учился столярному делу, то всё повторял: «Мне бы только научиться шипы зарезать». Научился он и шипы зарезать, и вообще освоил столярное дело, выписал книги по столярному делу с чертежами мебели и всяких столярных изделий и почувствовал себя прочно стоящим на земле. Когда нужно было расставаться с инструментом, у него как будто почва из-под ног ускользала, он терял устойчивость. Вот почему мы везли весь столярный инструмент из Сибири, вот почему он тщательно хранил и берег его. Ему спокойнее было жить, когда инструмент был с им.

*М. Дубоўка. Успаміны.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 57. Л. 46.*

* * *

Калі я, багата-багата гадоў не быўшы на сваёй непасрэднай бацькаўшчыне, прыехаў туды, пабыў на Пастаўшчыне, на Мядзельшчыне, я сустрэў там нашага слаўнага сябра, нашага вядомага пісьменніка Міхася Ціханавіча Лынькова. Уласна кажучы, сустрэў на беразе Нарачы, дзе ён тады летаваў, на беразе таго самага возера, у якім я калісьці, хлапчуком яшчэ, не аднойчы купаўся.

Міхась Ціханавіч запрасіў мяне ў свой маторны човен, і паехалі мы з ім разам на той бок Нарачы, да ракі Нарачанкі.

Там мы спыніліся, там я пабачыў дзіва, ад якога ў мяне валасы дыбарам сталі. А Міхась Ціханавіч узяў і сфатаграфаваў мяне ў такім выглядзе, нічога не кажучы. Гэты «дакументальны» здымак у мяне ёсць і цяпер.

Што ж мяне так уразіла? Мост! Стаіць мост, можна сказаць, зусім новы (на мосце я і сфатаграфаваны), на добрых палях. Адным словам, мост як мост.

Калі я падышоў у адзін канец — вада, ад берагу метраў паўсотні той вады. Калі накіраваўся ў другі — не менш чым паўсотня метраў вады таксама.

*У. Дубоўка. Успаміны пра М. Лынькова. Аўтограф.*
*БДАМЛМ. Ф. 191. Воп. 1. Спр. 633.*

* * *

В 1959 году мы с Владимиром Николаевичем были в Лепеле, сидели у озера под молоденькими ясенями. В 1961 году я очень тяжело болела (нарушение мозгового кровообращения) и не могла сопровождать его в поездке по Беларуси. Он был и в Лепеле и сидел на той же скамейке под ясенями, только ясени уже подросли, и одну веточку вместе с этим стихотворением он прислал мне в письме.

*М. Дубоўка. Об истории написания стихотворения*
*«Над Лепельскім возерам».*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 57. Л. 48.*

* * *

27-06-61

Дарагая Марылька!

Сёння аб 11 гадзіне раніцы прыехаў у Віцебск. Вельмі цікавая сама дарога, хоць, праўда, горшая, чым з Мінску да Лепеля (бо ехаў праз Лагойск). Спыніліся ў гасцініцы «Дзвіна» — над Дзвіной, маё акно выходзіць на вуліцу і на раку. Думаю затрымацца тут на некалькі дзён, каб можа як закончыць невялікі цыкл вершаў, які задумаў і пачаў у Лепелі.

Пасля — паеду на Полацак і Браслаўшчыну. За тваё здароўе выпіў сёння бутэльку віцебскага піва. Цікава, ці палепшала цябе пасля гэтага?! Ты не забудзься, напішы на гэтай адкрытачцы і калі прыеду, пакажаш мне. Буду пісаць табе яшчэ. Прывітанне. Цалую цябе.

Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да жонкі.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 407. Л. 49.*

* * *

29-06-61

Дарагая Марылька

Сёння а 3 гадзіне еду ў Полацак. Паглядзеў Віцебск, сёння ўзвечары быў у тэатры (мінскі, на гастролях, знаёмая табе «Лісіца і вінаград» — памятаеш — у Эзопа). Горад вельмі вялікі, вельмі прыгожы, па-мойму, куды бы прыгажэй, чым Мінск. Але толькі па назве — беларускі. У якім сібірскім Канску больш пачуеш — без жаднага перавелічэння! — беларусаў, чым тут. Мяне ўсё гэта пачынае зусім не кранаць, але ад факту нікуды не дзенешся. Шкода, нічога не маю ад цябе, але, спадзяюся, тваё здароўе не пагоршала. Пасылаю табе для цікавасці верш «Наш Лепель», які сёння паслаў у лепельскую газету. Цалую цябе. Вітаю сардэчна.

Уладзік.

*У. Дубоўка. Ліст да жонкі.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 407. Л. 50.*

* * *

Учора раніцай я выехал з Полацка на Браслаў. ...Сёння пайшоў у сасновы прылесак каля возера, лёг на чабор і праспаў пару гадзін. Аж неяк лягчэй стала.

*У. Дубоўка. З ліста да жонкі ад 21/07-1961.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 407. Л. 52.*

* * *

Старшыні Саюзу Пісьменнікаў Беларусі
тав. П. У. Броўку

Вельмі паважаны Пятро Усцінавіч!

Працуючы ў сілу мажлівага над стварэннем новых твораў, друкуючы іх апошнім часам, я ўсё ж хацеў бы пабачыць надрукаванымі свае творы папярэдняга перыяду (*тут і далей падкрэслена Дубоўкам*).

У зборніку 1959 году («Выбраныя творы») па прычынах, Вам вядомых і ад мяне незалежных, гэтых твораў папярэдняга перыяду ўключана мізерная колькасць.

Фактычна здарылася так, што большасць твораў маіх, напісаных у 1923–1930 гг., выкраслена з маёй творчасці, бо старых зборнікаў вершаў і часопісаў, у якіх яны друкаваліся тады, няма ў мяне самога, а дзе ж іх возьмуць чытачы?

Тым часам, мінула ўжо і маіх 60 год жыцця. Вам вядома, што ў такіх выпадках не толькі гаворацца кампліменты і зачытваюцца прывітальныя прамовы аўтару, але даецца поўная справаздача ад аўтара грамадскасці — у выглядзе збору твораў. Вось якраз маёй справаздачы грамадскасці і няма.

Затым я і звяртаюся да Вас з просьбаю паставіць у належным парадку пытанне аб выданні маіх твораў двухтомнікам (40–45 друкаваных аркушаў) паводле наступнага плану:

Першы раздзел

Вершы са зборнікаў «Строма», «Трысцё», «Там, дзе кіпарысы», «Крэда», «Наля», паэмы «Браніслава», «Кругі», «І пурпуровых ветразяў узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты», цыклы вершаў, змешчаныя ў часопісах і газетах таго часу, пасля надрукавання згаданых вышэй зборнікаў.

Другі раздзел

Творы, надрукаваныя ці напісаныя ў часе ад 1958 года да гэтых дзён.

Трэці раздзел

Навукова-даследчыя артыкулы (напрыклад — «Пра літаратурную мову», «Рыфма ў беларускай народнай творчасці»,

«Лацінка ці кірыліца», «Пра мілагучнасць беларускай мовы» і г. д., пра каштоўнасць якіх на сёнешні дзень неаднаразова адзначалася ў выданнях Акадэміі Навук БССР (у кнігах Перкіна, Пшыркова і інш.).

З надзеяй на добрае вырашэнне гэтага пытання, з пашанаю да Вас і з сардэчным прывітаннем —

Уладзімір Дубоўка

*У. Дубоўка. Заява у СП БССР ад 12/12-1961.*
*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 106. Л. 86.*

* * *

Добра ведаючы, што такое савецкая ўлада, Уладзімер Дубоўка быў ужо ў той час вельмі і вельмі асьцярожным, гады пакутаў многаму навучылі. Баяўся не за сябе, а за тых людзей, з кім ён сустракаецца, супрацоўнічае, каму нечым абавязаны, — каб не нашкодзіць ім, каб праз яго ў іх не было ніякіх непрыемнасьцяў. Таму ён так прыдзірліва, з перастрахоўкай адбіраў творы ў двухтомнік выбранага, асабліва ставячы пад сумненьне тыя вершы і паэмы, што выклікалі ў трыццатыя гады безпадстаўныя адмоўныя ацэнкі вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Але ж вырасьлі новыя пакаленьні чытачоў, якія павінны былі ведаць, хто ёсьць Дубоўка і якое яго месца ў беларускай літаратуры. Мне даводзілася перад здачай двухтомніка ў друк часам спрачацца з аўтарам, пераконваць яго, што тыя ранейшыя ацэнкі ўжо ніколі не паўторацца...

Аўтара ўдалося пераканаць, усе гэтыя творы ўвайшлі ў выдадзены тады двухтомнік, і чытачы, мяркую, змаглі скласьці неблагое ўяўленьне аб тым, хто такі Дубоўка і якая яго паэзія. Праўда, «Выбраныя творы» выдалі зноў невялікім тыражом — усяго 3000 адменьнікаў. Забягаючы наперад, скажу, што неўзабаве пасьля выхаду кніжак мяне аднойчы сустрэў адзін вельмі вядомы і яшчэ ўплывовы тады літаратурны крытык і сказаў: «Як вы маглі прапусьціць у друк гэтыя паэмы Дубоўкі? Яны ж накіраваны супраць нашага ладу!» У адказ я толькі ўсьміхнуўся і пацісnуў плячыма. Усё ж на двары стаяў 1965-ы, а не 1937 год...

Вельмі зьдзівіў і ўразіў мяне тады і яшчэ адзін эпізод. Да самай апошняй хвіліны Уладзімер Мікалаевіч ня верыў, што гэты двухтомнік выйдзе, што ўлады і цэнзура ўсё прапусьцяць. Пасьля таго, як мы ўзгаднілі разам усе тэксты і рукапісы абедзьвюх кніг пайшлі ў набор, Дубоўка паехаў дадому ў Маскву. Але перад ад'ездам папрасіў мяне: калі прыйдзе так званы сігнальны адменьнік двухтомніка (а гэта значыць, што тыраж надрукаваны і выданьне паступае ў продаж) абавязкова паслаць яму тэлеграму з паведамленьнем пра гэта. Бо тады на яго кватэры ў Новых Чаромушках нават тэлефону не было. У той жа дзень, калі выдавецтва атрымала сігнальныя адменьнікі двух томікаў, я адразу ж пайшоў на пошту і адаслаў Дубоўку тэлеграму: «Усё нармальна, віншую з выхадам вашых выбраных твораў».

Назаўтра вельмі рана, не было яшчэ і шасьці, я прачнуўся: разбудзіў зусім нечаканы настойлівы званок у дзьверы кватэры. Зусім не хацелася, але давялося ўзьняцца і пайсьці да дзьвярэй. Калі адчыніў, вачам сваім не паверыў: на парозе стаяў Уладзімер Мікалаевіч Дубоўка. «Вы жывыя? Вас не арыштавалі? З вамі нічога ня здарылася?» — пачуліся хуткія запытаньні. Я супакоіў раньняга госьця, сказаў, што ўсё ідзе нібыта нармальна. Толькі потым усьвядоміў, што неспакойны Уладзімер Мікалаевіч ня верыў да апошняй хвіліны, што двухтомнік будзе выдадзены. Атрымаўшы тэлеграму, ён адразу ж паехаў на Беларускі вакзал, яму пашэньціла купіць білет на нейкі зусім нязручны цягнік, што вельмі зарана прыбываў у Менск...

Гэтае чалавечае парываньне, гэтая шчырасьць і кранальнасьць пачуцьцяў з боку старэйшага за цябе чалавека не забудзецца ніколі. Мужны, высокаадукаваны, нязломны, неспакойны, з сапраўды вялікім інтэлектам, — ён быў гатовы пры любых абставінах памагаць людзям, клапаціцца аб іх.

*В. Нікіфаровіч. Пясняр волі й харaства // Дзеяслоў. 2010. № 47.*

* * *

16 февраля 1962 года

Дорогая Марылька!

Вчера звонил тебе, а после этого получил твое письмо. Сегодня получил второе. Относительно лекарств — ты не беспокойся. Я вчера купил две пачечки беллоида. Достану еще. К тому же обещала Зоя. А сколько его надо?! Ведь в каждой пачке почти на декаду. Сегодня еду в поликлинику. Надо обязательно закончить всё с зубами до отъезда на Валдай. Хотел в воскресенье приехать к тебе, но потом решил отложить: в воскресенье надо съездить в конце концов на дачу. Дальше тянуть нельзя. Всё же оставленное там чего-то стоит. Из Минска пока ничего нет. Вчера в «Литературной газете» опубликована довольно интересная статья Мазурова И. П (директора бел. гос. издата). Он (это очень любопытно!) ставит в ней мысль, которую мы с тобой поднимали в 1958 году. Дело вот в чем — утверждаются планы (*здесь и далее подчеркнуто В. Н.*) по авторам и произведениям, в 1962 уже на 63 и 64. Сегодня появляется очень хорошее произведение, гораздо лучше запланированных, но издательство не смеет выбросить худшее и издать лучшее, потому что... то запланировано, утверждено авторитетными учреждениями, а это — нет. В общем, он требует «свободы рук» для издательства, в чем, между прочим, также таится очень большая опасность, которую ты себе можешь представить очень легко.

За меня ты не беспокойся. Думай только о себе и о своем здоровье. Сегодня я проснулся очень рано, потом опять уснул. Мне снился сын, и я начал плакать во сне, так и проснулся.

В общем, если все будет благополучно и погода более подходяща, то я приеду к тебе в понедельник, либо во вторник. Либо уж если какие совершенно непоправимые обстоятельства, тогда я позвоню по телефону.

Будь бодра! Поправляйся!

Целую тебя. Твой Володя.

У меня никто не был.

*Ліст У. Дубоўкі да жонкі ад 16/02-1962.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 15.*



*Сядзіба Друцкіх-Любецкіх у Манькавічах. 1898. Фрагмент фотаздымка. Album rodziny Zahorskich. Лічбавая бібліятэка Polona. Друкуецца ўпершыню*



*Настасся Іванаўна Дубоўка, маці паэта. З асабістага архіва Т. Ю. Пшырковай*



*Мікалай Фёдаравіч Дубоўка, бацька паэта. З асабістага архіва Т. Ю. Пшырковай*



*Сям'я Дубовак ля дома ў Мядзелі. 1913. Уладзімір стаіць у цэнтры. Фрагмент фотаздымка. ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 800. Л. 001. Друкуецца ўпершыню*




*Уладзімір Дубоўка (у ніжнім шэрагу першы злева) сярод выпускнікоў Нова-Вілейскай семінарыі. 1918. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 29. Л. 001. Друкуецца ўпершыню*



*Чырвонаармеец Уладзімір Дубоўка. 1920. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 12. Л. 005*



*Уладзімір Дубоўка. 1925. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 21. Л. 001*



*Сярод байцоў тэлеграфна-будаўнічай роты. 1920. Уладзімір Дубоўка ў другім шэрагу стаіць каля дзвярэй. Фрагмент фотаздымка. ЦНБ НАН РБ. Ф 14. Воп. 1. Адз. з. 800. Л. 002. Друкуецца ўпершыню*



*На адвароце надпіс: «1 ліпеня 27 г. д. Алі-бел-Сойдзіева, ст. Пэрлоўская, у стане да [закрэслена] пасьля шашлыкоў. Гр. Каляда і Дубоўка».*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 804. Л. 001. Друкуецца ўпершыню*



*Марыля Дубоўка (у цэнтры) з сяброўкамі. Пачатак 1920-х.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 94. Л. 005. Друкуецца ўпершыню*



*Беларускія пісьменнікі ў Крыме. Ялта, 1924. Злева направа сядзяць: У. Луцэвіч, Ц. Гартны, А. Вольны, М. Мялешка, У. Дубоўка, Я. Купала. Стаіць А. Александровіч*



*У. Дубоўка, А. Вольны, А. Александровіч на магіле М. Багдановіча. Ялта, 1924*



*Наля Маркава. 1926 (?). З асабістага архіва І. Э. Багдановіч. Друкуецца ўпершыню*



*У. Дубоўка і У. Сасюра. Менск, лістапад 1925*



*У. Дубоўка і М. Бурштэйн, беларускі інжынер,*
*адзін са стваральнікаў плана электрыфікацыі Беларусі. 1926.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 43. Л. 001*



*«Узвышша». Сядзяць злева направа: першы шэраг — В. Шашалевіч, П. Глебка, У. Дубоўка, М. Лужанін, К. Чорны, К. Крапіва, другі шэраг — А. Адамовіч, У. Жылка, З. Бядуля, А. Бабарэка, Я. Пушча, С. Дарожны, Т. Кляшторны*



*Уладзімір Дубоўка з жонкай Марыляй Дубоўкай (Кляўс). 1927*



*У. Дубоўка ў групе літаратараў з А. Вольным, М. Чаротам, У. Тэраўскім. 27.06.1929. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 16. Л. 001*



*А. Дудар, У. Дубоўка, М. Чарот. 1926*



*Іларый Барашка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча разам з музыкамі Нічыпарам і Сымонам Жыхаўцамі. 1925. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 14. Л. 002*



*Язэп Дубоўка (Вазёрны). 1932.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3.*
*Спр. 47. Л. 001*



*Вячаслаў Дубоўка, 1940-я.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3.*
*Спр. 47. Л. 002*



*Марыля Дубоўка. 1943.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 91.*
*Л. 002. Друкуецца ўпершыню*



*Анастасія Мікалаеўна Дубоўка*
*(Тася) з сынам. 1940-я.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 48.*
*Арк. 003. Друкуецца ўпершыню*



*Уладзімір Дубоўка з маці і сынам. Яранск, 1932. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 28. Л. 001*



*Марыля Дубоўка з сынам Альгердам. Яранск, 1932. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 28. Л. 002*



*Альгерд Дубоўка. Яранск, 1934. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 28. Л. 004*



*Альгерд Дубоўка (першы злева ў другім шэрагу) у «Артэку». 1940.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 45. Л. 010. Друкуецца ўпершыню*



*Алік Дубоўка. 1940-я. БДАМЛМ.*
*Ф. 27. Воп. 3. Спр. 45. Л. 014.*
*Друкуецца ўпершыню*



*Уладзімір Дубоўка пасля лагера.*
*1947. Асабісты архіў Т. Пшырковай.*
*Друкуецца ўпершыню*



*Дом Дубовак у Почаце.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 28. Л. 002. Друкуецца ўпершыню*



*З калегамі ў почацкіх майстэрнях. 1950-я.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф14. Воп. 1. Спр. 800. Л. 005*



*На Нарачы. 1958. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 12. Л. 001*



*Уладзімір Дубоўка. Пачатак 1960-х. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 40. Л. 004*



*Уладзімір Дубоўка. 1965 (?). БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 40. Л. 002*



*На мінскім чыгуначным вакзале. 1960-я. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 40. Л. 007.*
*Друкуецца ўпершыню*



*Уладзімір Дубоўка і Васіль Вітка на IV з'ездзе пісьменнікаў.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 805. Л. 003.*
*Друкуецца ўпершыню*



*Невядомая дзяўчына слухае вершы ў выкананні У. Дубоўкі.*
*Асабісты архіў Т. Ю. Пшырковай. Друкуецца ўпершыню*



*Стрыечная сястра М. П. Дубоўкі, Г. І. Бабарэка, М. П. Дубоўка, У. М. Дубоўка і Алеся Бабарэка на дачы ў Жукаўцы. 1970-я. БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 280. Л. 001. Друкуецца ўпершыню*



*У. Дубоўка і С. Баруздзін у падмаскоўным Доме творчасці. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 43. Л. 006. Друкуецца ўпершыню*



*Пахаванне Уладзіміра Дубоўкі. 1976.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 44. Л. 009. Друкуецца ўпершыню*



*Пахаванне Уладзіміра Дубоўкі. 1976.*
*Асабісты архіў Т. Ю. Пшырковай. Друкуецца ўпершыню*

* * *

Мая радня толькі сапсавала мне вечар, бо яны якраз не прыехалі. Лепш было б, каб давялося схадзіць на які канцэрт, ці што. <...> 9 сакавіка павязу жонку ў дом адпачынку на Валдай (калі ёй за гэты час не будзе горш).

*У. Дубоўка. З ліста да Е. Лось*[389] *ад 22/02-1962.*
*БДАМЛМ. Ф. 141. Воп. 1. Спр. 166. Л. 3.*

* * *

ВЫПІСКА
З пратакола агульнага сходу секцыі паэтаў
ад 12 сакавіка 1962 года

Слухалі: Аб вылучэнні твораў на атрыманне рэспубліканскай прэміі імя Янкі Купалы (інфармаваў А. Русецкі).

Пастанавілі: вылучыць на атрыманне прэміі Я. Купалы кнігу вершаў Уладзіміра Дубоўкі «Палеская рапсодыя» і кнігу вершаў Рыгора Барадуліна «Рунець, красавацць, налівацца».

Старшыня бюро секцыі
паэтаў СП БССР Ал. Русецкі

*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 106. Л. 124.*

* * *

Мне ён казаў, што адчуў сябе па-сапраўднаму рэабілітаваным толькі пасля таго, як атрымаў у 1962 годзе за «Палескую рапсодыю» Літаратурную прэмію імя Янкі Купалы.

*Д. Бугаёў. Трагедыя паэта //*
*Крыніца. 1997. № 8. С. 17.*

* * *

Так, адзін з кіраўнікоў нашай культуры[390], які, скажам дарэчы, на адкрыцці Тыдня літаратуры і мастацтва ГДР выпусціў у абыходак гістарычнае «Іаган Себасцьянавіч Бах»,

падпісваючы Дубоўку дыплом лаўрэата, сказаў: «Жыве яшчэ, нацдэм гэты, маць яго...»

*Я. Брыль. Накіды трох партрэтаў //*
*ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз.*

* * *

Фонд У. М. Дубоўкі паступіў у Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР 19 сакавіка 1962 года ад самога пісьменніка ў выглядзе россыпу ў колькасці 3 кг.

*Прадмова да архіўнай вопісі № 1 ф.27 БДАМЛМ,*
*архівіст І. А. Евенка.*

* * *

Як бадай і кожны далікатны чалавек, Дубоўка не цярпеў хамства. Для прыкладу прыгадаю такі выпадак. У нашай гасцініцы «Мінск» яго пасялілі ў пакой, дзе было трошкі трэснутае настольнае шкло з прыгожым беларускім арнаментам. Калі прыйшла пара высяляцца, адміністратарка гасцініцы прычапілася да паэта і садрала з яго ладныя грошы за тое шкло. Гэта разззлавала Дубоўку, бо ён зразумеў, што так робяць не толькі з ім, разлічваючы, што кожны чарговы пастаялец таксама будзе плаціць, але не пацягае з сабою груваcткую рэч. Каб спыніць гэткае няхітрае, але непрыемнае для добрага чалавека махлярства, ён аддаў згаданае шкло мне.

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 309.*

* * *

Цяпер пакуль што нічога не раблю, клапачуся аб хворай Марылі Пятроўне. У яе як быццам бы ідзе на паляпшэнне. Але як? Аказваецца, у яе глаўкома (хвароба нэрваў пры вачах).

*У. Дубоўка. З ліста да Е. Лось ад 22/03-1962.*
*БДАМЛМ. Ф. 141. Воп. 1. Спр. 166. Л. 4.*

* * *

ПРОТОКОЛ № 5
Заседания Президиума Правления СП БССР
от 26 апреля 1962 года

Слушали: заявление писателя В. Дубовки об установлении творческого стажа и просьба ходатайствовать о назначении персональной пенсии.

Постановили: 1) согласно библиографической справки, выданной Государственной библиотекой имени В. И. Ленина, установить творческий стаж писателя В. Дубовки с 1923 года. 2) ходатайствовать перед СМ БССР об установлении писателю Дубовке Владимиру Николаевичу персональной пенсии.

*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 106. Л. 123.*

* * *

Учора дачуўся навіну: 30-06-62 з Масквы ў Менск павязуць прах Янкі Купалы. Але ўсё неяк дзіўна: прыедуць на ўласных машынах з Менску пісьменнікі, прыйдзе з [*нрзб*] аўтобус. Возьмуць адсюль і павязуць. Па-першае, у каго няма ўласнае машыны, дык той прыняць удзелу не можа??! Па-другое — нічога пакуль у друку пра гэта не пішацца, значыцца, Масква ў гэтым удзелу прымаць не будзе (?). Я вельмі здзіўлены, магчыма, яшчэ будзе якая змена. Мёртваму, праўда, гэта зусім абыяка...

*У. Дубоўка. З ліста да Г. Бабарэкі ад 12/06-1962.*
*БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 242. Л. 3.*

* * *

Не ўсе чыны Купалу неслі,
Ім памагаў Дубоўка-цесля.
Але схлусілі потым ў ЛіМе,
Што не было Дубоўкі з імі...

Гэтую эпіграму Дубоўка склаў з той падзеі, што калі ён ўдзельнічаў у перахаванні праху Янкі Купалы[391], ЛіМ у сваёй

хроніцы не «заўважыў» яго, пералічваючы ўдзельнікаў, хоць тут у Маскве яго запрашалі на гэтую цырымонію (пачута мною ад Дубоўкі ўслед за падзеяй).

*Алеся Бабарэка. Помніцца // Скарыніч. Вып. 10. С. 119.*

* * *

Размовы з паэтам падчас сустрэч у Маскве, а найбольш у Мінску былі самыя розныя. Паэт выказваў сумненні наконт таго, ці мог Сталін без дапамогі царскай ахранкі ўцякаць з Краснаярскага краю, згадваў прафесара Малчанава, які захапляўся ідэяй стварэння вялікіх паветраных шароў, але быў пасаджаны. У 1941 годзе, калі аэрастаты пачалі выкарыстоўвацца для абароны Масквы пры налётах гітлераўскай авіяцыі, Сталін успомніў пра Малчанава і загадаў яго тэрмінова вызваліць. Аказалася, што той памёр у тур-ме з голаду, бо ў яго зэкаўскую пайку адбіралі крымінальнікі. І ім гэта сыходзіла з рук. Раней...

Часта гаварылі пра пісьменнікаў. Дубоўка разважаў пра верагодных даносчыкаў у пісьменніцкім асяроддзі, прыхільна выказваўся пра Броўку, які ахвотна згадзіўся напісаць прадмову для кнігі перакладзеных Уладзімірам Мікалаевічам санетаў Шэкспіра, скептычна адзываўся пра Глебку. Той доўга марудзіў з прадмовай да першай пасля рэабілітацыі паэта кнігі яго выбраных твораў (1959). Даваенныя творы тут публікаваліся ў моцна скалечаным выглядзе (рэдагаваў зборнік А. Кучар). А Глебка, які пасля арышту Уладзіміра Мікалаевіча публічна сцвярджаў, што ў ягоных творах «можна знайсці схованага Кайзера, Пілсудскага, Балаховіча і інш.» (жахліва па тых часах, але зусім беспадстаўнае абвінавачанне), цяпер прызнаў, што перабольшваў недахопы Дубоўкавай паэзіі, аднак жа зноў настойваў, што былі ў ёй «значныя памылкі і ідэйныя зрывы». З гэтага вынікала, што былы сябра па «Узвышшы», які пісаў прадмову ўжо ў рангу акадэміка АН БССР, афіцыйную рэабілітацыю Дубоўкі прызнаваў толькі часткова, з крыўднымі агаворкамі.

Пэўная раўнівасць адчувалася ў Дубоўкавых разважаннях пра А. Куляшова. «Няўжо ён і праўда геній?» — аднойчы пытаўся паэт.

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 312.*

* * *

Кажется, 1962 год. Мы жили в Голицыне в Доме писателей, в это же время там отдыхал Скребницкий[392], детский писатель, писал главным образом о природе, страстный любитель природы. С Владимиром Николаевичем они подружились. Оба простые, душевные, но в отошении к природе совсем разные. Вл. Ник. всегда мечтал о выведении разных сортов, о всяких преобразованиях. Тогда Скребницкий возмущенно восклицал: «Оставьте вы в покое природу, почему это нужно ее преобразовывать, пусть остается сама собой, нетронутой».

*М. Дубоўка. Успаміны.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 27. Л. 50.*

* * *

Калі ў мяне хто запытаецца цяпер, ці я сам у сябе запытаюся ў далейшым, што дало Галіцына і так званы «Дом Творчасці» для маёй творчасці, дык я скажу коратка — абсалютна нічога (падкрэслена Дубоўкам. — *Г. С*). Наадварот, ён адабраў у мяне тую асалоду, якую дае жыццё на звычайнай, паганенькай дачы, «на лоне прыроды».

Перш за ўсё, страшэнна нуднае жыццё разам з так званымі «пісьменнікамі». Бяру гэтае слова ў лапкі, бо сапраўды цяпер развялося больш тунеядцаў, якія па блату надрукавалі дзе якія «блявоцікі», і становяцца пісьменнікамі. Калі ж гэта адсутнасць таленту, наяўнасць нахабства падмацоўваецца так званым «стажам» — тады зусім справа дрэнная. Я не апішу падрабязна ўсю тую брыду і гідоту, якая [*нрзб*] у Галіцыне[393].

*У. Дубоўка. Запісы аб адпачынку ў Галіцына.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 329. Л. 1.*

* * *

Я вельмі ўдзячны Вам за добрае слова наконт біяграфіі. Думаю, калі дазволіць жыццё, даць нешта большае паводле памераў, бо маю ў памяці багата цікавага. Мяне толькі цягне ў бок нейкага «беларускага Швейка»[394]. Зразумела, не ў сэнсе якога наследавання, а ў сэнсе духу, характару самога твора. Або, дакладней кажучы, тут павінен быць і павеў ветру ад «Піквікскага клуба»[395] Дзікенса. Мне здаецца, што вам будзе зразумела, пра што я кажу, бо некаторыя эпізоды, не апублікаваныя, Вам вядомы. Але гэта — усё планы.

*У. Дубоўка. З ліста да І. Казекі ад 25/02-1963.*
*Цыт. паводле: Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. С. 172.*

* * *

В 1963 году мы с Марией Николаевной Брюхановой проездом были в Москве и остановились у Марии Петровны Дубовка на одну ночь. Владимир Николаевич был в то время в Минске, получал как поэт премию Белоруссии. С ним мы не увиделись.

Когда я позвонила в квартиру, услышала вопрос: « Кто там?»

Я через дверь громко говорю: «Мария Петровна, это сибиряки, из Почета. Я, Тамара Добрынина». Она радостно открыла нам дверь квартиры, когда услышала знакомый голос, да еще из Почета. Долго разговаривали. Ее интересовало буквально все: знакомые, школа, как идет жизнь в поселке. Рассказывала о себе (она была очень больна), о творческих делах Владимира Николаевича.

Разместила нас в кабинете Владимира Николаевича. Там стоял диван, на котором мы и спали. Большой рабочий стол с настольной лампой, книжный шкаф во всю стену, заполненный книгами. Тяжелое время перенесла эта семья, находясь в ссылке в Сибири. А для нас она оставила приятные воспоминания, что Дубовка был нашим современником, и я общалась с этим человеком, работала с его женой. Судьба преподнесла мне встречу с талантливым белорусским поэтом.

*Т. Дабрыніна. Успаміны, сабраныя А. Папалавай.*

* * *

Мне пашанцавала быць ў іх з Марыляй Пятроўнай адзін раз у Маскве. Мы былі разам з сяброўкай. Кватэра была ў іх зусім звычайная. Гэта была хрушчоўка. Мне давялося пабачыць толькі першы, вялікі пакой. Направа, у самым канцы пакоя, вісеў невялікі дыван і там, як быццам нават высокая, але ж панцырная пасцель і там напалову ляжала, напалову сядзела, напэўна, не вельмі добра сябе адчувала, Марыля Пятроўна. Налева стаяла самаробная канапа, без спінкі, без нічога, такі тапчан. Далей ішоў, пасярэдзіне — стол, а потым, не даходзячы койкі, уваход у другі пакой. Там быў, пэўна, кабінет. Яны тады не гатавалі, быў толькі салодкі стол — цукеркі, печыва, гарбата. Увогуле ў іх звычайна гатавала Марыля Пятроўна. Ён хадзіў па прадукты, а яна ўжо дома гаспадарыла. Кватэра была такая, ведаеце, свежая. Бачна было, што кожны дзень там працíраюць, пыл смахваюць. Ці трэці, ці чацвёрты паверх, не ніжэй.

*Т. Пшыркова. У прыватнай гутарцы.*

* * *

Дорогой Иван Александрович!

Я с тобой встречался редко. Думаю, что как-нибудь договоримся и увидимся в Союзе. К сожалению, у нас пока нет телефонов. Коротко скажу тебе, что после моего приезда (помнишь, встретились с тобой на пороге в Московском отделении Союза Писателей?!) — прошло уже пять лет. За это время у меня вышли на белорусском языке четыре книги, на русском (переводы ленинградских поэтов) две. Сейчас при моем активном участии в Минске вышел в свет однотомник Байрона на белорусском языке, который я тебе от чистого сердца и презентую. Хотя ты белорусского языка как такового, очевидно, не знаешь, но вполне хорошо разберешься, т. к., насколько мне память не изменяет, ты знал польский. Прошу обратить внимание на «Шильенского узника». Он переведен мною еще в 1931 году (в минской тюрьме), но увидел свет сейчас.

Я тебя очень прошу дать небольшую аннотацию, куда ты найдешь нужным, чтобы отметить самый факт выхода в свет этого первого на белорусском языке томика (печатались переводы отдельных стихотворений). Если тебе понадобятся какие-либо дополнительные [*нрзб*] — черкни пару слов и укажи что и [*нрзб*]. Самый сердечный привет.

В. Дубовка

*У. Дубоўка. Ліст да І. Кашкіна ад 25/02-1963. РДАЛМ. Ф. 2854. Воп. 1. Адз. з. 204. Л. 1, 2.*

* * *

Цяпер я хачу сказаць цябе вось пра што. Я скончыў дзве працы: 1) драматызаванае апавяданне пра сустрэчу Т. Шаўчэнкі з беларускімі пісьменнікамі таго часу, называецца твор «Salus Populi»[396]. Я сёння напішу т. Пшыркову, каб ён табе даў тэрмінова адзін экзэмпляр. Прашу цябе вельмі, каб ты сам пачытаў гэты твор перад тым, як даваць сваім памочнікам. Між іншым — мне параіў Пятрусь Броўка аддаць гэты твор у «Полымя».

Другая справа — я скончыў пераклад усёй кнігі санетаў Шэкспіра. Не ведаю, як будзе з асобным выданнем, але, думаю, не пашкодзіла б для аўтарытэту нашае культуры надрукаваць і ў Полымі (у красавіку 1964 — 400 год з дня нараджэння Шэкспіра), бо свята будзе адзначаць увесь свет. Магчыма, я прыеду сам наконт Шэкспіра у пачатку студзеня. А калі [*нрзб*] ты будзеш у Маскве — зайдзіся, братка, да нас. У нас цяпер новая кватэра, асобная ў Новых Чаромушках.

*У. Дубоўка. З паштоўкі да М. Танка ад 20/12-1963. БДАМЛМ. Ф. 25. Воп. 2. Спр. 58.*

* * *

Паэму «Штурмуйце будучыні аванпосты!» прыйшлося выкупляць у Бэндэ[397]. Але рабіў гэта не сам Дубоўка, які, як ён казаў, баяўся, што яму ягоны ж твор не прададуць, а праз

Лужаніных. Копію зрабіла Я. Э. Лужаніна[398] — жонка Максіма Лужаніна.

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 302.*

* * *

Я іх (санеты) пачаў перакладаць 24 кастрычніка — гэта дзень нараджэння майго нябожчыка-сына, а скончыў 19 снежня — гэта дзень нараджэння бацькі майго. Гэта — 56 дзён, але вы ўлічыце, што гэта тры нормы, бо я працаваў па 22 гадзіны, а спаў па 2 гадзіны.

*У. Дубоўка. З ліста да І. Казекі.*
*Цыт. паводле: Казека Я. Што нагадалі лісты // Полымя. 1985. № 7.*

* * *

Мы пазнаёміліся ў 1963 годзе ў менскім выдавецтве «Беларусь»[399], дзе я працаваў рэдактарам у рэдакцыі мастацкай літаратуры. Уладзімер Мікалаевіч жыў, як і да свайго арышту, у Маскве, але ў Менск прыязджаў даволі часта. Вось і тады ён прывёз рукапіс сваіх перакладаў шэдэўра сусьветнай паэзіі — санэтаў Вільяма Шэкспіра. Рэдагаваць і рыхтаваць гэты зборнічак да друку даручылі мне. Можа, таму, што ў мяне ўжо быў пяцігадовы стаж выдавецкай працы і я лічыўся «сьпецыялістам» па выданьню былых рэпрэсіраваных і цяпер рэабілітаваных аўтараў — падрыхтаваў да друку кнігі Васіля Каваля[400], Міколы Хведаровіча[401], Андрэя Александровіча. Тады мы добра пагаварылі; пазьней сустракаліся і па-за сьценамі выдавецтва. Я быў надзвычай уражаны адказным і ўважлівым падыходам Дубоўкі да перакладаў з Шэкспіру, яго дасканалым веданьнем ангельскай і стараангельскай мовы, веданьнем і разуменьнем многіх тонкасьцяў і асаблівасьцяў шэкспіраўскага тэксту. У мяне, натуральна, узьнікалі шматлікія запытаньні, многія з якіх, як бачыцца сёньня, былі выкліканы проста тады яшчэ маёй маладосьцю і недасьведчанасьцю. Але Уладзімер Мікалаевіч выслухоўваў усё вельмі

ўважліва і даваў падрабязныя найвычэрпныя адказы, а нешта тлумачыў, альбо прапаноўваў новыя варыянты радкоў і строфаў пазьней, праз колькі дзён пры асабістых сустрэчах альбо прысылаў лісты з Масквы. Увогуле ў тыя месяцы 1964 году, калі ішла падрыхтоўка «Санэтаў» Шэкспіра да друку, я амаль штодзень атрымліваў ад Уладзімера Дубоўкі лісты з ягонымі разважаньнямі, з новымі варыянтамі беларускага гучаньня асобных шэкспіраўскіх словазлучэньняў, радкоў, строф, нават цалкам санэтаў, прычым кожны варыянт суправаджаўся параўнаўчымі спасылкамі ня толькі на арыгінал, але на некаторыя пераклады на расейскую і іншыя славянскія мовы. «Мілы Рэм! — пачынае, напрыклад, Уладзімер Дубоўка свой ліст ад 30 мая 1964 году. — Мая жонка кажа, вы пэўна першага такога неспакойнага “кліента” спаткалі. Учора паслаў вам ліст з новым варыянтам першага санэта, а сёньня ўздагон пасылаю папраўкі...» «Як бачыце, “агонь Шэкспіраў” цяжка даецца, — прызнаваўся ў папярэднім лісьце У. Дубоўка, працягваючы настойліва пошукі найбольшай дакладнасьці і выразнасьці ў сваіх перакладах.

Па маёй настойлівай ініцыятыве афармленьне будучай кнігі было даручана тады яшчэ зусім невядомаму маладому мастаку Барысу Забораву[402].

Новыя сустрэчы, новыя найцікавейшыя размовы з Уладзімерам Дубоўкам пачаліся ў нас у другой палове таго ж 1964 году, калі ён дамогся ў начальства, каб я быў выдавецкім рэдактарам запланаванага на выпуск у наступным годзе двухтомніка яго выбраных твораў. Такога выданьня тады чакалі многія, бо выдадзены адразу пасьля рэабілітацыі аўтара маленечкі аднатомнік паэта не даваў цэласнага ўяўленьня аб яго творчасьці і яе значэньні для беларускай літаратуры і беларускага адраджэнскага руху. Таму, калі мы рыхтавалі гэты двухтомнік, асноўнае пытаньне было: што ўключыць у яго, асабліва з твораў, напісаных Уладзімерам Дубоўкам у дваццатыя і трыццатыя гады, да арышту.

*В. Нікіфаровіч. Пясняр волі й характа //*
*Дзеяслоў. 2010. № 47.*

* * *

Паэт і цяпер выношвае думку пра «пешы паход» па зямлі сваіх бацькоў. «А я ўсё хацеў з кім дамовіцца, каб пехатой прайсці па Беларусі кіламетраў чатырыста, — гаварыў ён у студзені 1964 года у гутарцы з аўтарам гэтай кнігі. — Аднаму будзе нязручна, бо я з барадой, дык скажуць, што сектант. Вітка б падышоў. Ён мне больш за ўсіх спадабаўся».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 172.*

* * *

ПРОТОКОЛ № 3
заседания Президиума Правления СП БССР
от 12 февраля 1964 года

<...>

СЛУШАЛИ: о мероприятиях по ознаменованию 400-летия со дня рождения великого английского поэта и драматурга Вильяма Шекспира (23.4.1964).

ПОСТАНОВИЛИ: просить поэта Владимира Дубовку сделать доклад на вечере, посвященном 400-летию В. Шекспира

<...>

*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 124. Л. 18, 19.*

* * *

Браце Максім!

Абнадзеяны сваім дарагім Захарам Пятровічам[403] наконт выдання Шэкспіравых санетаў, я крыху паспяшаўся з ад'ездам і не высветліў з табою канчаткова справы наконт Сыракомлі[404]. Калі гэта справа рэальная, калі ты не змяніў сваёй думкі наконт «прыцягнення» мяне ў пераклады, будзь ласкаў, напішы, што мне можна перакладаць і ў які тэрмін. Калі тэрмін не надта кароткі (скажам, два-тры месяцы, але каб дакладна), я мог бы ўзяць да трох аркушаў. Не адмоўся пра гэта напісаць. А можа, сам будзеш у Маскве? <...>

Даруй мяне і мне за тое, што турбую. Я ж на свае вочы бачыў, наколькі лёгка табе са сваімі справамі. А тут яшчэ ліха ад мяне! <...>

*У. Дубоўка. З ліста да Максіма Лужаніна ад 17/02-1964.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 450.*

* * *

Браце Максім!

Я буду табе вельмі ўдзячны, калі ты патлумачыш адну незразумелую для мяне рэч.

Ты запрасіў мяне ўдзельнічаць у выданні твораў Сыракомлі на беларускай мове. Я паслаў табе пэўную колькасць сваіх перакладаў.

Сёння я атрымаў выдавецкі план на 1965 год, дзе надрукавана, што кніжка Сыракомлі запланавана у перакладах М. Лужаніна і А. Куляшова[405].

Як гэта трэба разумець?

*У. Дубоўка. Чарнавік ліста да М. Лужаніна. Без даты.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 450.*

* * *

Маё непасрэднае знаёмства з жывым паэтам адбылося ў самым пачатку 1964 года. Запрасіў прыехаць у Маскву сам Дубоўка, паабяцаўшы паказаць усе свае лісты да А. Бабарэкі[406], з якіх у Мінск прысылаў мне толькі асобныя перадрукаваныя на машынцы вытрымкі. Каб лішне не дакучаць чалавеку, уладкаваўся я ў гасцініцы, бо збіраўся трохі папрацаваць і ў маскоўскіх бібліятэках, а да Уладзіміра Мікалаевіча некалькі разоў ездзіў на кватэру.

Кватэра ў яго была ў Новых Чаромушках, сціплая паўтарачка, адзін нармальны пакой, дзе стаялі рабочы стол паэта і кніжныя паліцы, шчыльна набітыя рознымі выданнямі, а яшчэ была зусім маленькая спальня. Сустрэў гаспадар вельмі гасцінна. На стале хутка з'явілася бутэлька гарэлкі, з кухні, дзе завіхалася

жонка паэта, Марыля Пятроўна, таксама неўзабаве пайшоў прыемны пах свежага мяса, якое смажылася на патэльні. Пад чарку і скварку гаворка пайшла жвава і свабодна.

Ды ў адным пункце я, можна сказаць, трохі падкачаў. Марыля Пятроўна ці не адразу спыталася: «Як вы думаеце, ці пасадзілі б Уладзіміра Мікалаевіча, каб ён тады менш вытыркаўся, не быў такім ваяўнічым?» Я пра тую ваяўнічасць ведаў, чытаў, што і ўкраінцы казалі, што ён «найкрашчы бузоцёр». І без усякай дыпламатыі «суцешыў» жанчыну, сказаўшы, што пасадзілі б абавязкова, бо Уладзімір Мікалаевіч у нашай літаратуры быў надзвычай яркай фігурай, а такіх бралі ў першую чаргу. Так што шанцаў уцалець у яго не было. Марыля Пятроўна спрачацца не стала, але ўсё ж трохі сумелася. Было зразумела, як моцна балеў ёй той здзек, які выпаў на паэтаву і яе ўласную долю.

Выстаўленую Дубоўкам бутэльку белай мы, вядома, выпілі даастатку. І толькі ўдвух. Марыля Пятроўна тут нам не дапамагала зусім, а закусь падносіла спраўна і шчодра. У такой атмасферы гаворка зацягнулася. І Уладзімір Мікалаевіч у гасцініцу мяне не адпусціў, сказаў, што пасля чаркі ды познім часам лепей не рызыкаваць. Давялося пагадзіцца, хоць і няёмка было даваць лішні клопат гаспадарам.

Спаў я на пасцелі, засланай беласнежнымі просцінамі, якія Марыля Пятроўна дастала з шафы, і дрэнных сноў не бачыў. Галава калі перад сном злёгку і кружылася, дык не столькі ад выпітай гарэлкі, колькі ад усведамлення, што пашансціла пабыць у выдатных людзей.

Уладзімір Мікалаевіч таксама выглядаў зусім цвярозым. Ён быў не толькі душэўна, але і фізічна вельмі моцным.

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 305–307.*

* * *

Улетку 1964 года сустрэча адбылася. У той час я, студэнт-вячэрнік, працаваў рэдактарам літаратурных праграм замежнага вяшчання Беларускага радыё (і сёння гэтая радыёстанцыя вядзе перадачы для беларусаў замежжа). Яшчэ раней пачала

выходзіць газета, вядомая сёння пад назвай «Голас Радзімы»[407]. У адным з яе нумароў я неспадзявана натрапіў на артыкул «Нам некалі са смуткам знацца»[408]: у ім паэт Уладзімір Дубоўка даваў водпаведзь «бебурнацам», па тагачасных ідэалагічных мерках — беларускім буржуазным нацыяналістам, якія даволі часта ў перадачах радыё «Свабода»[409] і ў сваіх газетах пралівалі слёзы па ім, нібыта бралі былога забароненага паэта пад сваю абарону, выкарыстоўваючы яго імя ў прапагандысцкіх мэтах. Па шчырасці, тое ж не праміналі рабіць і мы, супрацоўнікі радыёстанцыі «Савецкая Беларусь». Ішло як бы перацягванне каната: хто каго?

Быў змешчаны і партрэт Уладзіміра Мікалаевіча: прыветны, удумлівы позірк вачэй, лагодны твар, густая шырокая таямнічая барада...

— Давайце передрукуем і ўключым у нашу праграму, — загарэўся я.

— Перадрукаваць і перадаць — не штука, — астудзіў мяне намеснік галоўнага рэдактара Аляксандр Лебедзеў. — Добра было б, калі б змаглі запісаць яго, каб Дубоўка сам выступіў.

— А як жа яго запішаш? Дубоўка ў Маскве жыве.

— А ты ў «Голас Радзімы» пазвані. Яны ж неяк звязаліся.

У газеце здзівіліся:

— А навошта яго шукаць? Уладзімір Мікалаевіч у нас, у рэдакцыі. Можаце з ім перагаварыць самі...

Выслухаўшы мяне, паэт надзіва лёгка і ахвотна згадзіўся:

— Добра, я завітаю да вас. Толькі не цяпер, а гадзінкі праз дзве. Мне яшчэ трэба зайсці ў «Полымя».

Калі праз некаторы час я кіраваўся ў кабінет, Аляксандр Лебедзеў перастрэў мяне:

— Ты дзе гэта бегаеш? Запрасіў чалавека на запіс, а сам знік.

— Я ў студыі быў, — пачаў апраўдвацца, пасля перапытаў: — А хто прыйшоў? На гэты час нікога не запрашалі...

— Дубоўка прыйшоў.

Ён быў такі ж, як на партрэце.

— Прабачце, што парушыў дамову, раней часу з'явіўся, — нібы апраўдваючыся, пачаў ён, устаўшы з-за майго стала. —

У «Полымі» нікога не застаў. Аказваецца, яны пазней пачынаюць працу. Дык я ўжо ад вас да іх зайду. Для вас са студыяй нязручнасці не будзе?

У яго постаці было штосьці волатаўскае, быццам у рэдакцыйны пакой ён завітаў з народнай казкі. Ён ледзь прыкметна картавіў, і гэта імпанавала яму, рабіла гаворку па-сяброўску прывабнай, даверлівай. Праз нейкія пяць-дзесяць хвілін мне здавалася, што я даўно знаёмы з паэтам — так проста ён трымаўся.

Пад канец запісу я папрасіў Уладзіміра Мікалаевіча прачытаць верш, які даў назву артыкулу ў «Голасе Радзімы» і радкамі з якога ён заканчваўся.

Дубоўка чытаў няспешна, узважаючы радкі і словы, бо ў іх адбілася часцінка яго лёсу, яго шчодрага сэрца, думак, памяці:

*І Волгу бачыў я, і Дон,*
*багата рэк сібірскіх бачыў.*
*Такі мой лёс: з юнацкіх дзён*
*ён вандраванні мне прызначыў.*
*Вадзіў праз горныя хрыбты,*
*цераз Байкал і за Байкалам.*
*А хараство, а пекнаты —*
*аж цераз самы край бывала.*
*Жыві хоць лішніх сто гадоў —*
*красу праславіць немагчыма.*
*Патрэбна сотня мастакоў*
*ды ўсе каб з яснымі вачыма...*

*М. Чарняўскі. Шыпшына не адцвітае // ЛіМ. 2015. № 28. 17 ліп. С. 7.*

* * *

Наконт аб'ёму вашае кнігі[410]. Надзвычайна цікава, я б сказаў нават «пікантна», а можа лепш, ясней — казённа, шаблонна і бюракратычна нехта падышоў да гэтага пытання. Сапраўды — трыццаць год лілі на маё імя розную брыду без жаднага абмежавання «друкаваных аркушаў» або замоўчвалі зусім.

У кожным разе, паперы тады хапала для гэтай мэты. Цяпер, калі паўстала пытанне, каб даць першую невялічкую работу, у якой так ці інакш высветліць пытанне аб'ектыўна, паказаць маё сапраўднае, маё шчырае ў творчасці — дык якраз для мяне не хапіла паперы. Гэта ж проста вялікі цуд! Пра людзей некаторых пісалася па дваццаць разоў — ім не скарачаецца план!

*У. Дубоўка. З ліста да Д. Бугаёва ад 15/03-1964.*
*Цыт. паводле: Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. С. 289.*

* * *

Можа, не ўзнікла б у аўтара неабходнасць пісаць з паэта абраз, як гэта зроблена ва ўступе, дзе гаворыцца пра Дубоўку, «які ў 20-я гады справядліва лічыўся ледзь не першым, найбольш арыгінальным і таленавітым паэтам, адным з самых выдатных прадстаўнікоў маладой літаратуры Савецкай Беларусі». А хіба Купала, Колас, Чарот, Александровіч не былі кожны пасвойму арыгінальны і таленавіты? Не варта Дубоўку ставіць над усёй літаратурай. <...> Не трэба выстаўляць Уладзіміра Дубоўку такім пакутнікам і няўдачнікам у жыцці, як гэта зроблена ў нарысе. Палітычная рэабілітацыя Дубоўкі як грамадзяніна ўвесь час у аўтара нарыса на першым плане, а галоўны акцэнт варта было б перанесці на рэабілітацыю яго як мастака. <...>

Кідаецца ў вочы залішняя акцэнтацыя на палемічныя вершы, якія не вытрымалі патрабавання часам. Можа, лепш паказаць тую крытыку, якая нішчыла Дубоўку, паказаць так, каб на першым плане была ўсё ж паэзія, а не словы пра паэзію. <...> Варта, мусіць, прасвятліць крыху абставіны палітычнай барацьбы таго часу, тады, можа, і адпадзе асацыяльнасць тэзіса аўтара пра «адвечную трагедыю таленавітага чалавека». <...> Не зусім удала вытлумачваецца жаданне паэта паарыгінальнічаць формай паэм[411]. Хіба гэта «ад чуцця сваёй вялікай сілы»? Якраз, мусіць, наадварот бывае. <...>

Зусім непрыемна, напрыклад, чытаць перапіску Дубоўкі з Бабарэкам, каб хаця ўзвышэнцы паслалі прывітанне ўраду Беларусі[412]. Гэта не ўзвышае Дубоўку.

Рукапіс Д. Бугаёва находзіцца на той стадыі, калі можна пачынаць работу з рэдактарам. Яна павінна ісці, мне здаецца, у двух кірунках: узмацненне эстэтычнага аналізу і прыглушэнне адвакатарскага тону, скасаванне бясконцага падкрэслівання пра незайздросны, горкі лёс Дубоўкі.

*У. Юрэвіч. З унутранай рэцэнзіі для выдавецтва «Беларусь» на рукапіс Д. Бугаёва «Уладзімір Дубоўка», машынапіс, 1964. БДАМЛМ. Ф. 120. Воп. 1. Спр. 92.*

* * *

З Дубоўкам у Маскве знаёмства не вадзіў. Паслаў быў яму свой аўтарэферат доктарскай[413]. Водгуку ніякага, то і мне болей не выпадала набівацца на сустрэчу. Ведаеце, «лішэнцы» былыя трымаліся насцярожана, далей адзін ад аднаго. Здаралася, што і пры сустрэчах выпадковых узаемна не прызнаваліся ды спяшылі хутчэй размінуцца, не павітаўшыся.

*М. Улашчык. Даць народу гісторыю. С. 335.*

* * *

Кінуўшыся ва ўспаміны, крыху ніякавата пачуваю сябе, калі ў 1964 годзе ўдзельнікам нарады маладых наведаўся я да Уладзіміра Дубоўкі ў ягоную маскоўскую кватэру ў Чарамушках. Малады, акрылены зменамі, што адбыліся ў грамадстве, упэўнены, што вяртання да старога не будзе, грунтоўна падпіты, нёс я несусвецiцу, крытыкаваў і старыя і новыя парадкі, сістэму. Смелы, як заяц.

Шаноўны паэт неахвотна падтрымліваў мяне, па інерцыі баючыся правакацыі, як я разумею на сённяшні свой розум, бо што новага яму мог я сказаць, зялёны і ў творчасці, і ў палітыцы. Запомнілася мне, што гаспадар на выпадак падслухоўвання запінаў разеткі галёшамі. Спрабаваў пагасіць мой пал тым жа, што і смяліла мяне. Але бачачы, што і гарэлка мяне не тушыць, падарыў мне рэдкаснае выданне — двухтомнік Клюева. Хадзіла легенда, што паэт прывёз з сабою

сталярскі рыштунак. На магчымае будучае. Пазней пачытаў я адказ Дубоўкі, што трэба рабіць, калі гарыць душа. Гэта раіў паэт яшчэ ў 1923 годзе:

*А калі запалае ў душы пажар,*
*Трэба песняй гасіць і вершам.*

*Р. Барадулін. «О Беларусь, мая шыпшына» // Выбранае. С. 337.*

* * *

Вельмі паважаны Мікола Гаўрылавіч!

Я ўдзячны прэзыдыуму Саюза Пісьменнікаў БССР за прапанову наконт зачытання дакладу на Шэкспіравым свяце. Даклад я напішу і прышлю вам загадзя, каб вы мелі магчымасць зрабіць патрэбныя заўвагі і даць сяброўскія парады. Думаецца, што гэта я зраблю не пазней 1 красавіка, хоць буду імкнуцца напісаць яго раней.

*У. Дубоўка. З ліста да М. Г. Ткачова ад 19/02-1964.*
*БДАМЛМ. Ф. 281. Воп. 1. Спр. 147. Л. 6.*

* * *

Даражэнькі і сардэчна паважаны Кастусь Ціханавіч!

Вельмі ўдзячны вам за запрашэнне. Сёння ўзяў білет на 18/XII, такім чынам прыеду ў Менск 19/XII раніцай. Гасцініцы мне не трэба, бо спадзяюся ноччу ў суботу выехаць назад. Справа ў тым, што у мяне якраз няма асобна якіх спраў там, прыйдзецца прыехаць яшчэ ў студзені на некалькі дзён. Буду спадзявацца, што здароўе не перашкодзіць прыехаць.

*У. Дубоўка. Ліст да К. Ц. Кірэнкі*[414] *ад 12/12-1964.*
*БДАМЛМ. Ф. 415. Воп. 1. Спр. 151. Л. 3.*

* * *

Сардэчна ўдзячны вам за добрыя пажаданні. Праўда, Вы згодзіцеся з гэтым, больш прыемна было б мець не 65 год,

а дзе-небудзь 25. Але нічога не паробіш: няўмольна час адлічвае свае хвіліны і налічыў мне калі не сто, дык 80 мільёнаў напэўна. Якія жарты! Вось і даводзіцца думаць, каб рэшту, якая наканавана мне, скарыстаць як мага разумна. Штодня езджу ў Ленінскую бібліятэку, праглядаю часопісы, матэрыялы па біялогіі, батаніцы: рыхтую матэрыял для твору[415] (для юнацтва паводле задумы), асноўная тэма якога — змаганне за інтрадукцыю дрэў і раслін новых на Беларусі, за вывядзенне новых гатункаў. Пакуль што знаходжу надзвычайна многа цікавага і карыснага. А як яно ўложыцца на паперы — не ведаю.

*Ліст У. Дубоўкі да У. Конана ад 03/07-1965 //*
*Полымя. 2014. № 10. С. 169.*

* * *

Часам даходзіла і да яўных пераборaў. Гэта ж не выдумка мемуарыстаў, а факт, сведкам якога быў і я, што ў рэстаранным сяброўскім застоллі з нагоды 65-годдзя і выхаду двухтомніка выбраных твораў паэта ён рашуча запярэчыў, калі ў адпаведнасці з даўняй традыцыяй першы тост прапанавалі ў яго гонар. «Што вы, што вы... За мяне не трэба... За родную камуністычную партыю»,— прыкладна так сказаў Дубоўка, здзівіўшы, мусіць, усіх прысутных.

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 251–252.*

* * *

У Гургена Маары[416], які, як і Дубоўка, прайшоў праз пекла ГУЛАГа, было без утайкі і прыгладжвання сказана пра тое пекла. У апублікаваных Дубоўкавых матэрыялах такой адкрытасці не было зусім. І таму я папрасіў, каб ён для кнігі хоць бы старонку-другую напісаў пра пакуты, якія зведаў у зняволенні. Паэт адмовіўся. У лісце за 5 студзеня 1965 года ён сярод іншага паведаміў: «Чытаў сёння абодва артыкулы ў “Вопросах литературы” № 11. Кожны піша па-свойму. Калі я ў далейшым буду пісаць пра той перыяд, я буду пісаць зусім не так. Я бачыў

столькі цікавых, добрых, выдатных людзей, што калі здолею сказаць пра іх як мае быць, будзе і цікава, і добра».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 172.*

* * *

Ня ведаю, як Вам дзякаваць за прыгожа выдадзеныя кнігі. Не скажу, каб Дубоўка мне асабліва падабаўся... Скажэце мне, што прачытаць у яго арыгінальнае, добрае? Можа, я ня трапіла на добрую рэч? Санэты неблагія, але Семяжон пераклаў бы іх лепей. Чаму ў Дубоўкі няма пратэсту, а ёсьць толькі жаль? У мужчыны гэта нецікава... Прашу, ня гневайцеся на мяне за шчырасьць.

*Л. Геніюш. З ліста да М. Прашковіча*[417] *ад 26 /03-1965 // «Каб вы ведалі». С. 60.*

* * *

Прашу вас не адмовіцца, калі для гэтага будзе магчымасць, паведаміць мне, ці будзе ў пачатку снежня пленум праўлення СП, ці не. Справа ў тым, што я і хварэю, і вельмі напружана працую. Мне хацелася б пабыць у Мінску, але каб я ведаў крыху раней, а не за дзень-два да тэрміну.

*У. Дубоўка. З ліста да М. Г. Ткачова. 19/11-1965. БДАМЛМ. Ф. 281. Воп. 1. Спр. 147. Л. 7.*

* * *

Прыехаўшы дадому, я адразу захварэў: прычапіўся быў у дарозе грып. Прызнацца, я толькі ўсцешыўся, што ён не зачапіў мяне ў Мінску, бо сапсаваў бы нашу працу. Паляжаў я з тыдзень, цяпер толькі ўскладненне на горла, але і яно мінае памаленьку. Такім чынам магу выканаць некаторыя свае абавязкі, а больш правільна сказаць — даўгі па рукапісу («Жоўтай акацыі». — *Г. С.*).

*У. Дубоўка. З ліста да У. Шахаўца*[418] *ад 09/02-1966. БДАМЛМ. Ф. 90. Воп. 1. Спр. 57.*

* * *

У кастрычніку 1966 года мяне ўзялі на працу ў часопіс «Бярозка» — часопіс, першы нумар якога ў снежні 1924 года падпісаў у друк Уладзімір Дубоўка. Не раз адказваў Уладзіміру Мікалаевічу на казкі і апавяданні, што ён дасылаў з Масквы, рыхтаваў іх да друку. Скажу шчыра: мне, маладому, не ўсё было зразумела. Не змест, а некаторыя словы, выразы. Часам я рабіў праўкі. Уладзімір Мікалаевіч, відаць, асабліва не крыўдаваў: разумеў маю рэдактарскую нявопытнасць. Дасылаючы наступныя творы, ён стараўся растлумачыць той ці іншы незвычайны выраз і разам з тым тлумачыў мой папярэдні промах.

«Бярозка» рыхтавалася да свайго 50-годдзя. Складалі спіс, каго варта прадставіць да ўрадавых узнагарод. З нагоды юбілею абяцалі даць чатыры ці пяць Ганаровых і проста Грамат Вярхоўнага Савета БССР.

— Мяркую, варта першым упісаць Уладзіміра Дубоўку, — выказаўся галоўны рэдактар Васіль Зуёнак[419]. — Ён усё ж быў самым першым рэдактарам. І калі дадуць яму Ганаровую грамату, дык за ўсё, што ён зрабіў для дзіцячай літаратуры. А зрабіў ён — зірніце колькі! А ўрэшце, трэба пазваніць яму, спытацца, якой думкі ён сам. Дакументы на ўзнагароды трэба здаць тэрмінова, таму, Мікола, не адкладвай, пазвані сёння ж... Заадно папрасі: можа, напіша колькі слоў пажадання чытачам «Бярозкі» і дасць што-небудзь з новых твораў у юбілейны нумар.

Уладзімір Мікалаевіч, як мне здалося, крышку разгубіўся.

— Ведаеце, я ўжо маю ўзнагароду ад «Бярозкі». Калі ёй споўнілася 40 гадоў, мяне ўзнагародзілі Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Я думаю, гэтага дастаткова. — А потым неяк журботна-даверліва прызнаўся: — Гэта мая адзіная ўрадавая ўзнагарода. Дзякуй «Бярозцы»! А ў юбілейны нумар абавязкова дашлю ўсё, што вы просіце...

*М. Чарняўскі. Шыпшына не адцвітае // ЛіМ. 2015. № 28. 17 ліп. С. 7.*

* * *

Новага нічога не пішу. Не таму, што не хапае тэм або магчымасцей, а з іншых прычын, якія і сам сабе вытлумачыць не магу. Агульны нейкі настрой неспрыяльны. Але ўсё ж думаю ўзяцца плячом.

*У. Дубоўка. З ліста да Ю. Пшыркова ад 2/06-1967.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Прашу цябе абавязкова ў канцы даць поўную дату — «26 мая 1968 года», бо год вялікі (*падкрэслена Дубоўкам*), а пасля гэтай даты могуць з'явіцца ў друку новыя матар'ялы, якія я не мог узяць на ўвагу, а мяне можа хто пасля вінавaціць у няпоўным знаёмстве з дасягненнямі навукі[420]. <...>

Калі што якое ўсё ж будзе няясна — не адмоўся пазваніць, адразу ўлагодзім. Пад'ехаў бы сам, але ў мяне тут набралося дзечага не вельмі прыемнага: памерла братавая (жонка старэйшага брата), у гарачыню было вельмі кепска і з маёй жонкай. Сёння, праўда, крыху нібы пахаладала, можа будзе лепш.

*У. Дубоўка. З ліста да У. Шахаўца ад 09/06-1968.*
*БДАМЛМ. Ф. 90. Воп. 1. Спр. 22.*

* * *

Братка Гурык!

Званіла мне МП, што ад цябе прыйшоў ліст. Я знаходжуся ў Малееўцы[421]. Ад 19-04 да 29-04 «шліфаваў» сваю новую аповесць «Ганна Алелька»[422] — з жыцця настаўнікаў, пра якую я цябе казаў. Як быццам яны ўключылі ў план выдавецтва на 69 г. памер 220 машынапісных старонак. Меўся сядзець з ёй месяц. Але «паднаціснуў» і скончыў раней. Калі маеш жаданне — можаш узяць другі паасобнік і зрабіць свае заўвагі. <...>

Цяпер у мяне нібыта вольны час да 14-05. Узяў рукапісы другой часткі «Жоўтай акацыі» — таксама старонак 250. Крамсаю, [*нрзб*], дадаю новае. <...>

Уладзік.

*У. Дубоўка. З ліста да Г. І. Гарэцкага ад 01/05-1968.*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 54. Воп. 1. Спр. 167.*

* * *

Сардэчнае дзякуй за «Жоўтую акацыю» і паштоўкі. Кніжку я ўжо прачытала — адным духам. У беларускай літаратуры гэта унікум. Мушу прызнацца, што ўсё ж крыху расчаравалася. Пасля прачытанай біяграфіі У. Дубоўкі мела аб ім лепшае меркаванне. Мова — менская, русіцызмы, а найгорш — глярыфікацыя Масквы, «нашай сталіцы» і г. д. Думалася, што ён, старэйшы чалавек, усё ж астаўся з чысцейшай беларускай душой. Аж не, і ён ахоплены агульным духам. Прытым ёсць крыху памылковых назоваў раслін, як напрыклад *глог* (польск. *Glog*, па-расейску боярышник) па-беларуску — *галабень*.

*З. Верас. З ліста да С. Новіка-Пеюна[423] ад 04/02-1968 //*
*Пакуль рука пяро трымае. С. 62–63.*

* * *

Усё ж ніяк не магу згадзіцца з Вашым тлумачэннем розных «запазычанняў» у беларускай мове, у прыватнасці, з так званымі «паланізмамі». Каб з такой меркай, з якой самі беларусы некаторыя падыходзяць да сваёй роднай мовы, англічане, напрыклад, падышлі да англійскай, дык ад яе нічога не засталося б. А тым часам яна адна з самых пашыраных у свеце. У мяне на стале ляжыць слоўнік іншакраёвых слоў у рускай мове (папулярны). У ім — 23 тысячы слоў. Выкіньце іх (а яшчэ ж ёсць спецыяльныя тэрміналагічныя!) — што застанецца? Ці можна так павярхоўна падыходзіць менавіта да беларускай мовы? Ці не павінны мы кіравацца пры гэтым агульнапрынятым палажэннем: кожнае слова, незалежна ад таго, з якой

мовы яно ўвайшло ў разгляданую, калі яно пашырана ў жывой мове і мае ад сябе вытворныя, — мае бясспрэчнае права быць у літаратурнай мове.

Другое. Ці ведама Вам, што ў свой час беларуская мова была больш развітай, чым польская? Папскі нунцый у дакладзе папежу рымскаму ў 1501 г. пісаў, што беларуская мова (альбо рутэнь) больш развітая, ніж польская. Пра гэта ж пазней (1843 г.) пісаў польскі гісторык Крашэўскі[424] («Nowe Studia Literackie»). Хто можа цяпер падлічыць, колькі слоў з беларускай мовы ўвайшло за тыя вякі ў польскую і сталі... паланізмамі (!) у беларускай мове. Найбольш яскравы прыклад апошняга часу. Адзін наш навуковы працаўнік тлумачыць слова «паланізм» — «Гэта словы, запазычаныя з польскай мовы ў беларускую, напрыклад: блакітны (і г. д.)». А ў 1916 г. на польскай мове выдрукавана кніга «Блэнды ензыковэ», аўтар якой тлумачыць, што слова «блакітны» для польскай мовы чужанізм і што замест яго трэба ўжываць слова «нябескі»!.. Вось да чаго дайшла справа: беларусы адмаўляюцца ад свайго слова, кажуць, што гэта паланізм, а палякі кажуць... што гэта беларусізм (?!).

Цяпер далей. У свой час на Беларусі была пашырана латынь. Яе ведалі многія людзі, бо дакументы пісаліся пэўны час па-лацінску. На Беларусі была талерантнасць, яна «кішэла» рознымі сектамі, веравызнаннямі. У той час у жывую мову паўваходзілі такія словы, як дэтанаваць, дата, дыспут і г. д. і г. д. А мы ізноў жа тлумачым іх як паланізмы. Вазьміце хоць бы слоўнік Насовіча[425] (ст. 153). Ёсць там і дэтанаваць са многімі значэннямі. («Дэтануеш, здэтанаваў на першым слове хлопца...»). Ёсць там і ўсе да аднаго словы, якія Вы адзначаеце ізноў жа як паланізмы. Я зусім забыўся нагадаць Вам пра тое, што Адам Міцкевіч і Ул. Сыракомля ўвялі ў польскую мову багата беларускіх слоў і давалі да іх нават уласнаручныя тлумачэнні (вырай, сумёт і г. д.). А сёння? Сёння яны ўвайшлі як паўнапраўныя «члонкі» ў польскі слоўнік, і... таксама тлумачацца, як паланізмы.

Цяпер. Чытайце Насовіча (ст. 397) — первястковы, первястак, первястачак; польных кветак — (ст. 463 Нас.) ды ў ва ўсіх

творах старой бел. л-ры; жадны, жадненькі (ст. 152), Насов. — вызнанне стасуецца не толькі да веравызнання. Узуваць — у нас у жывой мове гаварылі тады, калі па-руску скажуць «насунул» (хадакі, пантоплі, у процівагу з «абуваць», калі праходзіць грунтоўная «аперацыя». Чаму гэта, з Вашых слоў, украінізм — не ведаю, бо мы (б. Віленшчына) з Украінай не суседзілі.

Шукаючы даведкі па Вашых заўвагах, знайшоў у Насовіча багата-багата слоў, якія знаёмы з дзяцінства, але цяпер бадай не ўжываюцца ў літаратурнай мове. Напрыклад — абрушына (у сэнсе «лавина», абрушаны бераг і г. д. (ст. 353). Абронка — потеря (353). Прашкі — (493) пустяки, дребедень. У Насовіча ж ёсць і пра засцерагаць (187), спасцерагаць (607). Печкуры — правільна тое, што гэта па-беларуску печники. А тое, што ў якіх мясцох рыбу піскун завуць «печкурок». Гэта таму, што рыбіны гэтыя робяць сабе «пячоркі» альбо «пячуркі». Не падумайце, што я ваюю за паасобныя словы праз нейкае самалюбства. Гэткія непаразуменні будуць да таго часу, пакуль у нас не выйдзе з друку тлумачальны слоўнік, калі, зразумела, ён будзе выдадзены сур'ёзна. Дзындра — ёсць у руска-бел. слоўніку Глебкі і Крапівы (стар. 770) — пры слове шлак. Пра селядоўку — гл. Насовіча ст. 577 людкасць — «275 сумысля — «622. Якое добрае слова ў Насовіча — працавітка (трудолюбивая, работящая) — ...Гарэлачкі, акавітачкі Дзеля мяне працавітачкі (Нар. песня)

З народнай песні ўзяў я (са збору Федароўскага) і слова «спадабанка».

*У. Дубоўка. Ліст да Я. Саламевіча ад 23/08-1970 //*
*Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 200, 201.*

* * *

После окончания института Лариса Васильевна получила приглашение и приехала к ним в Москву и гостила у них целый месяц.

Они были люди гостеприимные. Много расспрашивали о Почете. Владимир Николаевич подарил Ларисе Васильевне свою фотографию.

Вместе гуляли по Москве. Владимир Николаевич показал правительственные дачи, сводил в ресторан, в музей изобразительного искусства, на Красную площадь, в собор Василия Блаженного. В Кремле ходили в Архангельский собор и при выходе из Кремля Владимир Николаевич показал Ларисе Васильевне окно в Кремле, где он работал.

Ходили на кинофестиваль, смотрели кино. Потом Владимира Николаевича пригласили в Дом писателя, он познакомил Ларису Васильевну с молодыми писателями.

Не любил Владимир Николаевич рассказывать о пережитых годах, много перенес страданий. Но в памяти Ларисы Васильевны он остался веселый, с юмором, с лучезарными глазами. В сердце он всегда оставался молодым, сильным, потому что любил жизнь.

*Пераказ успамінаў Л. Мутовінай,*
*зроблены вучнямі Почацкай школы*
*Т. Скапцовай, А. Воласавай*
*пад кіраўніцтвам А. Папалавай. Рукапіс.*

* * *

А які шчыры ён быў! Як адчуваў кожную клетачку душы іншага чалавека...

Ну вось напрыклад. Я ў свой час была такая хваравітая, такая нягеглая, што ад мяне за маё дзіцячае жыццё тры разы адмаўляліся ўрачы, выпісвалі дамоў з лякарні паміраць, толькі мама ставіла мяне на ногі зёлкамі рознымі, карацей, такая была ўся слабенькая — але што мне і маёй сястры прысылаў у падарунак з Масквы Дубоўка? Сапраўдную шарсцяную англійскую бялізну. Танюсенькую, выкшталцоную, ну такую неверагодную — мы нават не ведалі, што такая бывае. Сам, я так думаю, выбіраў, планаваў, што ён дашле...

Бацька мой такім жа шчодрым быў. Мама смяялася, што ён палову зарплаты раздаваў — то студэнту стыпендыю не далі, то ў кагосьці з аспірантаў сапагі знасіліся...

Дубоўка, канешне, быў вельмі ўдзячны бацьку за ягоную грамадзянскую пазіцыю, а Юльян Сяргеевіч, акрамя таго, што па-чалавечы захапляўся Дубоўкам, заўсёды адчуваў маштаб гэтай асобы, маштаб таленту.

Але ж маштаб гэты адчувалі нават і простыя людзі. Вось, паглядзіце, які фотаздымак (на фотаздымку — дзяўчына ў захапленні слухае Дубоўку. — *Г. С.)*. Я нават не памятаю, якой была ягоная манера чытання — ці громка ён чытаў, ці не, вось сядзіш у такім зачараванні і слухаеш.

З кожным з нас Дубоўка вёў сваю перапіску. Вось — лісты да мяне, вось — да сястры, вось — да маці, асобна, канешне, ліставаўся з бацькам. Я выконвала нейкія ягоныя рэдакцыйныя просьбы, ён мяне прасіў то забраць кантрольны экзэмпляр, то аднесці карэктуру, то даслаць нейкія кнігі і артыкулы, кіраваў мной з Масквы. З маці ў яго іншыя былі справы. Яны абодва былі заўзятыя грыбнікі — і мама, і Дубоўка. Грыбы, зёлкі розныя, лес — гэта іх цікавіла неверагодна. Дарэчы, калі нехта з нас ехаў у Маскву, заўсёды бралі падаруначак для Уладзіміра Мікалаевіча — белые грыбы, бо ён вельмі ж любіў соус з белых грыбоў, і суніцы, перацертыя з цукрам. Кніжкі для маці спецыяльна перасылаў з Масквы — рэдкія кніжкі пра расліны. «Даражэнькая» — так ён да яе звяртаўся. Любіў вельмі такі зварот — усе ў яго былі «даражэнькія». Але так наогул — вельмі сціплы на выказванне пачуццяў быў чалавек.

*Т. Пшыркова. Інтэрв'ю парталу VELVET.by.*

* * *

Чуў я Уладзіміра Дубоўку на адным з абмеркаванняў у Саюзе пісьменнікаў, калі ён павучаў даследчыцу роднай літаратуры, якая яму, Дубоўку, прыпісала ў сваёй працы такія грахі, якіх і следчыя ГПУ яму не прад'яўлялі. Колькі з'едлівасці, падкусу было ў яго словах, якая пры гэтым была праяўлена выхаванасць, культура!

*Б. Сачанка. Учарашняе і сённяшнее // ЛіМ. 1994. 28 студз.*

* * *

Я так і не паехаў у падарожжа, адмовіўся, але прыйдзецца абавязкова паехаць у жніўні ці ў самым пачатку верасня у раён М. Лельчыц на Палессі. Магчыма, давядзецца тады і яшчэ дзе пабываць.

*У. Дубоўка. З ліста да У. Конана ад 03/07-1965 // Полымя. 2014. № 10. С. 169.*

* * *

Відаць, з-за асцярожнасці, якая ўжо ніколі не пакідала Дубоўку і пасля афіцыйнай рэабілітацыі, устрывожыўся ён, калі Ю. Пшыркоў, які выношваў задуму напісаць пра паэта кнігу, выказаў намер распытаць колішніх Дубоўкавых знаёмых пра падрабязнасці ягонага жыцця ў Сібіры і іншых месцах высылкі. Прама адгаворваць даследчыка Дубоўка не стаў, але папярэдзіў: «Толькі трэба Вам так напісаць лісты, каб у людзей не паўстала думка, што на чалавека ізноў “рыхтуюць” нейкі матэрыял. Кожнаму, каму Вы надумаеце пісаць, адзначце, што Вы — прафесар і што Вы збіраеце матэрыял для кнігі пра маё жыццё і працу».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 257.*

* * *

Упершыню я сустрэўся і разгаварыўся з ім у маі 1966 года пры не зусім звычайных абставінах.

Мне трэба было сфатаграфавацца для паездкі за граніцу, і я зайшоў у першакласнае фотаатэлье, што па вуліцы Горкага, д. 4. Чакаючы, пакуль дойдзе мая чарга, стаў разглядаць вывешаныя на сценах фатаграфіі. Побач з партрэтам І. Д. Папаніна я заўважыў фота чалавека, які жыве ў нашым доме. На маё пытанне «Хто гэта з такой прыгожай барадой?» загадчык студыі адказаў: «Вядомы беларускі паэт Уладзімір Дубоўка».

Праз некалькі дзён, раніцай, на аўтобусным прыпынку, што каля нашага дома, я сустрэў Уладзіміра Мікалаевіча, пады-

шоў да яго, папрасіў прабачэння за турботы і сказаў, што бачыў вельмі цікавы яго партрэт, вывешаны ў фотастудыі № 1. Дубоўка здзівіўся майму паведамленню і сказаў, што ён сапраўды там фатаграфаваўся ў красавіку, але картачкі яшчэ не атрымаў. Пры афармленні заказа прасіў зрабіць для яго толькі тры картачкі. Потым усміхнуўся і сказаў, што, напэўна, супрацоўнікі студыі вырашылі рэкламаваць яго белую бараду. «Сёння ж паеду і забяру свае картачкі і заадно выкуплю фота з вітрыны». Так ён і зрабіў.

Аказалася, мы едзем па адной і той жа справе на Чаромушкінскі базар. Назад Уладзімір Мікалаевіч прапанаваў прайсціся пешшу. Я быў свабодны і з задавальненнем згадзіўся на гэтую прапанову.

Па дарозе разгаварыліся. Аказалася, мы амаль землякі. Я нарадзіўся і вырас у Віцебску. Абодва мы былі вельмі рады знаёмству, і з таго часу часта сустракаліся. Мая жонка Анастасія Паўлаўна і дачка Ірына з глыбокай павагай і цеплынёй адносіліся да Уладзіміра Мікалаевіча і яго жонкі Марыі Пятроўны. А калі паэт заўчасна памёр, яшчэ з большым клопатам адносіліся да яго сяброўкі да апошняга яе дня.

Уладзімір Мікалаевіч быў вельмі спагадлівы і чулы да людзей, вялікай і добрай душы чалавек. Ніколі і нічым не ганарыўся перад жыхарамі дома, а, наадварот, да кожнага адносіўся з пашанай, а таму ў нашым доме ўсе яго паважалі. Маючы вялікі жыццёвы вопыт, ён мог заўсёды даць добрую параду, дапамагчы, калі каму-небудзь патрэбна была дапамога. І жыхары дома па вул. Цурюпы, 20, раён Новыя Чаромушкі, цягнуліся да паэта, як дрэвы цягнуцца да сонца. У вокнах яго кватэры на чацвёртым паверсе часта далёка за поўнач можна было бачыць святло. Гэта наш сусед працаваў над новымі творамі. Ён доўга збіраў неабходны матэрыял, а потым, калі садзіўся за пісьмовы стол, то праседжваў за ім многія гадзіны. У працы Дубоўка быў нястомны і ўпарты.

З размоў з ім я пераконваўся, што яго цікавіла літаральна ўсё: ён з прагнасцю, нібы губка, упітваў у сябе ўсё новае з навукі, тэхніцы, літаратуры, у мастацтве і ў жыцці. Ад яго заўсёды

можна было пачуць пра літаратурныя навіны ў Маскве і Мінску, пра новыя доследы нашых батанікаў і біёлагаў.

Мы часта разам з Уладзімірам Мікалаевічам хадзілі па вуліцах, у магазіны, на базар. Усе, у каго хоць раз паэт што-небудзь купляў, запаміналі яго і потым сустракалі як старога знаёмага. Дубоўка лёгка запамінаў імя і імя па бацьку прадаўшчыц, і, бывала, калі заходзіў у малочны рад на базары, то ўсе ласкава з ім віталіся, а ён адказваў з такой жа цеплынёй на прывітанні і кожную малочніцу называў па імені. Каб не пакрыўдзіць якую з іх, купляў па чарзе ў розных прадаўшчыц, а потым зноў вяртаўся да першай. Ніколі не таргаваўся. Жанчыны, заўважыўшы яго, казалі: «Вось ідзе наш мілы Дзед Мароз». Малочніцы самі падказвалі яму, у якой з іх найбольш свежы тавар.

Вельмі любіў Уладзімір Мікалаевіч увосень купляць антонаўскія яблыкі, што прывозілі беларусы ў Маскву. Расплаціўшыся, ён доўга гутарыў са сваімі землякамі пра жыццё ў Беларусі, любіў пагаварыць пра радзіму на роднай мове. Памятаю такі выпадак. Купілі мы яблыкі ў земляка і загаварыліся, а калі сталі развітвацца, то я між іншым сказаў прадаўцу: «Гэта ж ваш беларускі паэт Уладзімір Дубоўка», а той вельмі здзівіўся і сказаў: «А я і не ведаў, што ў Маскве на базары можна сустрэць беларускага паэта». Калі мы адышлі, ён дагнаў нас і стаў вяртаць грошы Дубоўку, прамаўляючы: «З беларускіх паэтаў не бяру». Уладзімір Мікалаевіч рашуча адмовіўся браць грошы. «Я рады быў пагаварыць з земляком», — дабрадушна сказаў ён.

Знешне Дубоўка выглядаў проста, сціпла. Вылучаліся толькі яго магутная фігура, прыгожы твар і непаўторная белая густая барада. А вочы?! Варта было ўглядзецца ў вочы Уладзіміра Мікалаевіча, у гэтыя незвычайныя, вельмі добрыя і адначасова пранізлівыя, поўныя ўнутранай сілы і энергіі цёмна-карыя[426] вочы, як вы адразу ж пачынаеце ўсведамляць, што перад вамі незвычайны чалавек. Партрэты паэта не ў стане перадаць таго ўражання асаблівай адоранасці, якое хутка ішло на змену першым уяўленням ад яго простай знешнасці.

Як асоба Уладзімір Мікалаевіч быў чалавекам у найвышэйшай ступені абаяльным, сімпатычным. Гэта патрыёт сваёй радзімы, паэт з галавы да ног. Хоць лёс ягоны быў надзвычай цяжкі, аднак дух не быў зломлены, мужнасць і адданасць радзіме асталіся непахіснутымі. Ён толькі ненавідзеў паклёпнікаў і ў прыватнасці чалавека, які ўзвёў на яго паклёп.

Дубоўка быў фізічна моцны чалавек. Яго каранастая фігура, магутныя плечы, волатаўскія рукі — усё сведчыла пра вялікую сілу. Умеў ён клапаціцца пра сваё здароўе, не піў гарэлкі і віна, хоць у яго шафе заўсёды стаялі некалькі бутэлек найлепшых марачных він, каб пачаставаць сяброў, не курыў, цаніў свежае паветра. Любіў чай свайго гатунку. У вялікі двухлітровы тэрмас ён ссыпаў шыпшыну, бруснічнік, зверабой, сунічнік, мяту, чабор і заліваў кіпенем, потым настойваў. Я не раз каштаваў гэты цудоўны напой і скажу, што нічога падобнага каштаваць не даводзілася.

Вельмі ўважліва і клапатліва адносіўся Уладзімір Мікалаевіч да сваёй сяброўкі, Марыі Пятроўны. Яна ў яго цяжка хварэла, і ён рабіў усё, каб скрасіць сямейную неўладкаванасць. Быў галоўным забеспячэнцам, хадзіў па прадукты ў магазін, займаўся гаспадарчымі справамі. А перадусім — літаратурныя заняткі: мне часам здавалася, быццам гэты чалавек ніколі не адпачывае.

У любых абставінах Уладзімір Мікалаевіч не губляў пачуцця гумару. Аднойчы ён вяртаўся дадому позна вечарам. Аўтобусы хадзілі ўжо рэдка. Каб дарэмна не траціць час на стаянцы, пайшоў пешшу. Нечакана перад ім з’явіліся гуляшчыя хлопцы і загадалі: «Барада, пакажы-ка свой гадзіннік паглядзець, які час». Дубоўка рухава палез у кішэні, выняў гадзіннік і, падаючы, сказаў: «Вось добра, што вы знайшліся, а то я ўжо не ведаў, як пазбавіцца ад гэтай старызны. Выкінуць шкада, а ў рамонт не бяруць». Жулікі засмяяліся: «Лічы, што мы яго табе падарылі. Спакойнай ночы».

Уладзімір Мікалаевіч быў вельмі тактоўным, у найвышэйшай ступені інтэлігентным чалавекам, добрым сябрам. Памятаю, я павіншаваў яго і Марыю Пятроўну з 30-годдзем Перамогі.

Раніцай ён атрымаў маю паштоўку. Здарылася ж так, як потым расказала Марыя Пятроўна, у іх не аказалася дома ні паштоўкі, ні канверта. Сусед мой неадкладна пехаў у цэнтр, знайшоў там паштоўку, запоўніў і апусціў яе ў маю паштовую скрынку. Па тэлефоне мы запрасілі Дубовак на святочны абед. Абедаць яны не прыйшлі, а вечарам мы разам адправіліся на прагулку.

*І. Цыральсон. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Летом 1966 года по просьбе редакции журнала «Маладосць» я приехал у нему в Москву взять интервью. А он предложил прежде поехать в лесопитомник Академии наук СССР, что у деревни Раздоры, в тридцати километрах от Москвы, — там растет привитый к сосне сибирский кедр. Всю дорогу Владимир Николаевич рассказывал о кедре, о целебных свойствах его хвои, живицы, о питательных качествах его орехов, о практической пользе кедровой древесины. «Я хотел бы, чтобы вы, вернувшись в Минск, написали об этих прививках, — говорил он. — Если бы это дело осуществить в Белоруссии — большая польза была бы[427]. Кедр любит хорошую почву, не то что сосна, а привитый к сосне, растет хорошо и на наших песках. Если обыкновенный кедр посадить, то он только лет через 25–30 начнет давать шишки, а привитый к трех-четырехлетним соснам — в первый же год»[428].

Мы осматривали прививки, я фотографировал его. Владимир Николаевич вслушивался в голоса птиц, он узнавал их по пению. Он знал название каждого цветка и травинки. С болью в сердце он возмущался, что кто-то обломал ветку на сосне.

Помнится, поэт сказал тогда, что он, видимо, был рожден агрономом, но жизненные обстоятельства привели его на литературную дорогу. Он начал вспоминать, как, живя в Кировской области, вывел сорт скороспелых томатов, а в Хабаровском крае, где ему также пришлось жить и работать, применил искусственное опыление огурцов — там не было пчел.

Помню, когда я на следующий день пришел к нему, то он мне не признался, что немного приболел после поездки. Только потом, когда вернулась из города Марыля Петровна, я узнал, что у Владимира Николаевича температура.

— Теперь ее уже нет, ответил хозяин. — Вот, при Алексее Кузьмиче измерял.

А не измерял же. Сказал, чтобы не волновать жену. И ничего не оставалось, как промолчать. А мне шепнул:

— Она очень боится, чтобы не случилось чего со мной. И я слушаюсь ее. Она мне говорит: «Лучше я раньше помру, а без тебя не хочу оставаться».

Тогда же, в свои шестьдесят шесть лет, высокий, стройный молодой дед, он быстро взбирался на четвертый этаж. Марыля Петровна ходила с палочкой. По его энергичной фигуре чувствовалось, что он закален физически, и мне подумалось, что он будет жить лет до ста. Может, высокий рост тому виной, а может, простая догадка, но мне тогда показалось, что в нем доброта и такт сочетаются с природной гордостью.

В это время он жил сказками. «Благодаря им мы приобщаемся к общечеловеческим истинам, к мудрости веков», — говорил поэт. Он пересказал мне сказку из сборника Е. Романова[429] о том, как звери хотели украсть у человека разум, и тут же поведал ее вьетнамский вариант. А на тему — «кто сильнее» — на его взгляд, самые лучшие сказки у белорусов и нанайцев. А мне, слушая его, подумалось: да ведь сам он человек-сказка.

Почему он начал писать сказки? «На 4-й съезд писателей Белоруссии пришли пионеры с поздравлениями и просили писать для них. Вначале я думал дать что-нибудь из собственной жизни, но потянуло на сказки», — сказал поэт.

*А. Гордицкий. Первая встреча // Неман. 1985. № 7. С. 166, 167.*

* * *

Хутка Новы. Гэта для яго быў асаблівы час. Дзеці-малышы, сустракаючы яго на вуліцы ці ў аўтобусе, прынімаюць за Дзеда

Мароза (белая барада, ружовы твар): «Мамачка, паглядзі, Дзед Мароз жывы». У яго заўсёды ў кішэнях цукеркі, а ў гэты перыяд ён ужо асабліва стараўся, каб мець пры сабе нешта смачнае: цукеркі, апельсіны, яблыкі, мандарыны, і ў такіх выпадках адорваў дзетак, і яны маме ці бабулі хваліліся: «Гэта мне Дзед Мароз даў».

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 229, 230.*

* * *

Цікавай асаблівасцю Уладзіміра Мікалаевіча было тое, што ў яго ніколі ні з кім не было афіцыйных адносін, з усімі ўстанаўліваліся чалавечыя, цёплыя адносіны, нават, здавалася б, з афіцыйнымі асобамі. Напрыклад, заказвае ён, каб з пральні прыехалі па бялізну, ён ведае, як завуць дзяжурную (ні разу ён яе не бачыў), колькі ў яе дзяцей, як іх здароўе, як яны вучацца, як здароўе яе і яе мужа; з чысцільшчыкам абутку ў яго таксама свае размовы: пра сына, пра нявестку, пра нябожчыцу жонку; з вадзіцелем, з кіяскёрам, не кажучы ўжо пра рынак — там ужо шматлікія пастаянныя прадаўцы ведалі яго. Шмат на рынку ў Маскве і беларусаў, з якімі Уладзімір Мікалаевіч рад быў пагаварыць на роднай мове, распытаць пра жыццё. Прыносіць з рынку пакупкі і дакладвае: гэта з такога вось раёна, а гэта з такога. І задаволены — нібы на Радзіме пабываў.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 230.*

* * *

Пасядзеўшы колькі дзён у гэтым сапраўдным кніжным храме (бібліятэцы. — *Г. С.*), мы паехалі ў не менш тады нам святое месца — у Новыя Чаромушкі, дзе жыў Чалавек, якога мы рэдка бачылі, але якога ўсе так любілі.

Не ведаю, што ён адчуваў, мілы наш Уладзімір Мікалаевіч, калі адчыніў дзверы сваёй кватэркі і ўбачыў ажно чатырох, хай сабе і не надта падобных на «нкусаўцаў», маладых хлопцаў. На твары была... разгубленасць. Але як толькі пачуў беларускую

мову — развёў шырока рукі і ледзь не з крыкам радасці запрасіў: «Заходзьце, хлопчыкі!»

І хлопчыкі сядзелі ў яго за сталом з 12 гадзін ажно да позняга вечара. Яго любая, мілая жонка Марыля Пятроўна таксама гэтак жа шчыра радавалася нам. Была яна, аднак, такая хворая, што не магла падняцца нас пачаставаць і толькі ціхенька ўсё прасіла нас: «Хлопчыкі, не налівайце яму многа»... Ён жа шаптаў: «Налівайце, хлопчыкі...»

Колькі ж ён нам тады ўсяго панарасказваў, як умеў слухаць. Як жа нам усім было хораша! На ўсё жыццё — адзін з самых светлых успамінаў.

*Г. Шупенька. Ён быў прыгожым чалавекам // Крыніца. 1997. № 8. С. 39–41.*

* * *

Аднак жа Дубоўкава творчасць пасляваенных гадоў, пры ўсёй яе важкасці і ў нечым унікальнасці, ужо не была вызначальнай у літаратурным працэсе гэтай пары. А галоўнае, што паэт, які меў усе шанцы стаць у нацыянальнай літаратуры вялікім класікам, быў гвалтоўна пазбаўлены магчымасці больш-менш поўна рэалізаваць свій магутны творчы патэнцыял... Ён гэта добра ўсведамляў і аднойчы ўхітрыўся сказаць пра гэта ў падцэнзурным друку. Маю на ўвазе артыкул «Да новых даляглядаў», у якім праскочылі скрушліва-тужлівыя радкі «Калісьці ж і я быў паэтам», ды вось «пакрышаны талент і рыфмы»...[430].

*Д. Бугаёў. Трагедыя паэта // Крыніца. 1997. № 8. С. 3–21.*

* * *

Паспрабуйце зайсціся ў выдавецтва «Беларусь» і пагаварыце там асабіста з Аляксандрам Цімафеевічам Бажко[431] (загадчык сектару мастацкай літаратуры). Летась я прасіў яго ўключыць у план 69 году кнігу выбраных твораў Бабарэкі[432].

*У. Дубоўка. З ліста да У. Конана ад 26/07-1968 // Полымя. 2014. № 10. С. 168.*

***

Памятаю, даведаўся ён, што недзе на Гомельшчыне жыве яшчэ адна вельмі старая кабета, якая памятае шмат паданняў, песень. Сустрэўшы Глебку, Уладзімір Мікалаевіч параіў яму, як кіраўніку Інстытута, паслаць каго з супрацоўнікаў з магнітафонам да гэтай старой, каб запісаць ад яе тое, што ўяўляе цікавасць. Глебка сказаў: «Што ж, ты хочаш, як і раней, даваць нам дырэктывы з Масквы». Уладзімір Мікалаевіч замоўк. Зразумеў, напэўна, што актыўнасць з яго боку ўспрымаецца скажона. Мне здаецца, што апавядаў ён аб гэтым з болем і горыччу.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 230.*

***

ПРАТАКОЛ № 9

сакратарыята СП БССР ад 03.09.1968

Прыстунічалі: Шамякін, Ткачоў, Мележ[433], Панчанка[434], Кулакоўскі[435].

<...>

Слухалі: аб зняцці з уліку у СП БССР пісьменнікаў Ул. Дубоўку і І. Шклярэўскага[436]

Пастанавілі: Зняць з уліку ў СП БССР пісьменнікаў Дубоўку У. М. і Шклярэўскага І. І., якія пераехалі ў Маскву і лічацца за Саюзам Пісьменнікаў РСФСР (пісьмо СП СССР ад 18/9-68)[437].

*БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Адз. з. 161. Л. 245.*

***

Неяк летам быў у рэдакцыі «Маладосці». Спаткаў там N[438]. Вось ён і запытаў, што вы пішаце, бо, гаворыць, зараз Уладзімір Мікалаевіч зняўся з уліку і ў Мінску не бывае. А я вазьмі дый адрэж: «Навошта гаворыце, што Ул. М. зняўся з уліку, бо добра ведаеце, што Вы самі яго знялі з уліку і дакументы накіравалі

ў Маскву. Ул. М. выказваў крыўду, бо ён жа Член Праўлення». Тады N. гаворыць: «Казалі». Я яму зноў: «Хто казаў? Вы член праўлення, ці чыталі вы заяву Дубоўкі?» Потым у пакой зайшоў Асіпенка. Гаворка паўтарылася. Зноў: «Казалі, што Дубоўка прасіў зняць з уліку», але хто казаў, ніхто з членаў праўлення не ведае. Кончылася тым, што абодва сказалі «трэба пацікавіцца». Ва усякім выпадку, відаць было, што гутарка ім была нецікавая.

*Ю. Пшыркоў. З ліста да У. Дубоўкі ад 02/9-1969 (чарнавік).*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Калі ён адчыніў дзверы, велізарная палата, дзе нас, прадстаўнікоў розных народаў — ад беларуса да самалійца — ляжала ажно шаснаццаць чалавек і дзе быў вечны вэрхал, ледзь не анямела...

У палату ўваходзіў высокі, ужо немалады, але велічна-прыгожы — адна барада чаго была вартая! — крыху разгублены ад такога відовішча, але з нейкай рэдкай даверліва-прыязнай усмешкай, нейкі на дзіва зваблівa-просты і адначасна відавочна нестандартны чалавек. У руках яго быў вялізны цэлафанавы мяшок з вабна-пахучымі апельсінамі і невялічкая штучная елачка...

Было гэта 31 снежня 1968 года ў Маскве, у Расійскім інстытуце туберкулёзу, дзе мне пасля чатырох няўдалых, зробленых у роднай Беларусі, зрабілі нарэшце пятую, уратавальную аперацыю на пазваночніку.

Прайшоў праз усю палату да мяне. Моўчкі пачаў гладзіць па галаве. Я ж не тое што ўстаць, але нават павярнуцца не мог — трэці месяц ляжаў на жываце. Да канца дзён маіх буду помніць, як ён далікатна гладзіў мяне і шаптаў: «Патрывай... Як толькі можаш, трымайся...» І тыя гарачыя, гаючыя ягоныя слёзы на маёй патыліцы...

*Г. Шупенька. Ён быў прыгожым чалавекам //*
*Крыніца. 1997. № 8. С. 39–41.*

* * *

Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!

Яшчэ раз дзякую Вам за прысланую кнігу[439]. Было вельмі прыемна ўзяць яе ў рукі. Праўда, ніяк не магу зразумець — тачым перашкодзіла каму анатацыя, чаму яе знялі? Яна была такая кароткая, такая сціплая — што далей ехаць некуды. А месца для яе багата было — уся адваротная старонка тытульнага аркуша. Вялікі мінус: адсутнасць жанравага азначэння. Якая кніжка? — Апавяданне, аповесць — дзіўна вельмі.

Учора, пасля нашай гутаркі, у мяне былі два дактары, рабілі агляд дэталёвы і далі заключэнне: у бліжэйшыя дні можна будзе мне выходзіць з хаты, а крыху пачакаць — і невялікія паездкі рабіць.

*У. Дубоўка. З ліста да У. Шахаўца ад 29/3-1969.*
*БДАМЛМ. Ф. 90. Воп. 1. Спр. 57. Л. 27.*

* * *

Перадусім фактычная даведка: я нарадзіўся 15 ліпеня. Вы згадваеце 2 ліпеня, мабыць, таму, што так будзе па старым стылі, але ж гэта неправільна.

Наконт юбілею. Вам добра ведама, «што, чаму і як». Апрача таго, апошнім часам я хварэю (сэрца). Хварэе і мая Марыля Пятроўна. Ехаць у далёкую дарогу мы, безумоўна, не можам. Калі здолею, дык у канцы чэрвеня выеду на колькі часу з Масквы для лячэння.

Што датычыцца вашай з Міколам Гаўрылавічам запытанкі — «якім чынам адзначыць маё 70-годдзе — дык я нічога сказаць не магу. Думаецца, што Вы самі прыдумаеце лепш, чымсьці мы б параілі.

*У. Дубоўка. З ліста да І. Шамякіна ад 15/06-1970.*
*БДМЛМ. Ф. 27. Воп. 2. Спр. 5.*

* * *

Мы з Марыляй Пятроўнай маем сёлета дачу за 8 км ад сваёй кватэры. Гэта — побач санаторыя Акадэміі навук «Узкое».

У нас там два пакоі і веранда. Але я там не начую, а начаваць еджджу ў Маскву.

*У. Дубоўка. З ліста да Т. Пшыркоvай ад 17/07-1971.*
*Прыватны архіў Т. Пшыркоvай.*

* * *

Уважаемый Владимир Дубовка!

Не сочтите за дерзость моё искреннее желание, хотя и с опозданием (стоило больших трудов найти Ваш адрес), поздравить Вас с Вашим семидесятилетием и пожелать вам здоровья, бодрости на много лет.

Пусть посетит вас вдохновенье далёкой юности. Я вам желаю творческих побед.

Виновата в этом ваша «Полесская рапсодия». В марте этого года при своём очередном посещении библиотеки я поинтересовалась переводами из беларусской литературы, и мне подали «Полесскую рапсодию». Я с интересом прочитала все стихотворения в этом сборнике, обратила внимание на даты написания, прочитала вступление Прокофьева. И под каким-то непонятным впечатлением я написала сначала одно стихотворение, а потом еще два.

Не будьте взыскательны — эти стихотворения я посылаю вам такими, какими они написались, без шлифовки и переработки.

Если они не принесут Вам огорчения, я буду рада и тогда просила бы вас прислать мне сонеты Шекспира в Вашем переводе и поэму «Наля». Ну, а если... то прошу извинить меня за неожиданное вторжение в Вашу память и за беспокойство.

Будьте здоровы.

Хмара Анастасия Павловна.

21/3-1970

Осенняя мелодия
Звучит в душе моей.

«Полесская рапсодия»
Сегодня вторит ей.
Листала я по памяти
Страницы прошлых дней,
Метельной белой замятью
Окуталась сильней.
Читала и читала,
Всё знала наизусть...
«Полесская рапсодия»
Вселила в душу грусть.
Ни жалобы, ни стона
В стихах нельзя найти...
Тоску опавших клёнов
Меж строк я ощутила.
И сердце сжалось болью...
Скажу я, не тая:
Большую грусть навеяла
«Рапсодия» твоя.
Я больше не читала.
Какой бывает рок!
. . . . . . . . . . . . . . .
А грустная мелодия
Звучала между строк.

4/4-1970

Как быстро время пролетело!
А кажется, что всё было вчера.
Помню мечты, дерзанья смелые
І творческие вечера.
Мечты свои я не забуду:
Они на крыльях вынесли меня.
Я девушкой была
У той Лесовой Буды,
В какой таинственно шумел дубняк.
В какой зарницы робко трепетали,
Но вывели меня из темноты,

Откуда видела сверкающие дали,
Осуществлённые мечты,
Откуда в жизнь вступала
С сердцем чистым
И незапятнанной душой.
По трудовой дороге коммунистом
Отважно прошагала путь большой.
И на плечах своих военные невзгоды
Я вынесла на фронте трудовом.
То были годы, молодые годы,
Прекрасные в движении своём.
Я молодые годы не забуду,
И при желании их не забыть никак.
Я девушкой была
Из той Лесовой Буды,
В какой таинственно шумел дубняк.

*Анастасія Хмара (Наля Маркава).*
*Ліст да У. Дубоўкі ад 31/7-1970.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 713.*

* * *

Паважаная
Уважаемая Анастасия Павловна!

Благодарен за хорошие пожелания к моему семидесятилетию. Посылаю Вам, як вы просіце, кнігу Шэкспіраўскіх санетаў з маім аўтографам (апошнія тры словы — закрэсленыя Дубоўкам. — *Г. С.*). Паасобніка паэм, друкаваных у мае маладыя гады, як і кніг таго часу — у мяне, зразумела, не захавалася, дзеля чаго прыслаць не маю магчымасці. Некаторыя з іх увайшлі ў мой двухтомнік (выданне 1965 года).

Жадаю Вам усяго самага найлепшага.

Уладзімір Дубоўка

*Чарнавік адказу У. Дубоўкі А. П. Хмары,*
*напісаны на адвароце яе пісьма.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 713.*

* * *

18/8-1970

Владимир Николаевич!
Прозвучал ответ Ваш
Позабытой песней,
Благородство, сдержанность тая.
Мне всё казалось светлым
И таким чудесным,
Будто возвратилась
Молодость моя.

Бандероль получила: спасибо, спасибо, спасибо.
Желаю Вам всего самого лучшего.
Хмара А. П. (Наля Маркова)

*А. П. Хмара (Наля Маркава). Ліст да У. Дубоўкі ад 18/8-1970.*
*ЦБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 713.*

* * *

У лістападзе семдзесят першага года ў падмаскоўным Доме творчасці Перадзелкіна мы з ім сустрэліся нечакана і, за сябе скажу, вельмі прыемна. Неяк вечарам, у вестыбюлі, сам-насам пад фікусамі, я спытаўся пра тое, што мяне даўно цікавіла:

— Уладзімір Мікалаевіч, і як вы маглі столькі гадоў вытрымаць за кратамі, у лагеры, у тайзе?

— У тайзе? — перапытаў ён, крыху падумаўшы. — Калі мае таварышы грэліся каля вогнішча, я націраўся снегам.

— Ну а разбуджаны інтэлект? А пакуты ад немагчымасці пісаць, хоць бы чытаць?

— Я так навучыўся быў адключацца, што ў самай цясноце, у самым найбольшым шоламе ды гвалце мог анічога не чуць, думаць сваё...

*Я. Брыль. Накіды трох партрэтаў //*
*ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз.*

* * *

У Мінску, канешне, ніхто не ведаў, што за такія ананасы. Вось ён едзе да нас с Масквы — абавязкова вязе ананасы і сыр віёла. Ананасы гэтыя з'явіліся не проста так. Неяк я з сяброўкай Людай Марушкевіч адпачывала ў санаторыі ў Звянігарадзе. Уладзімір Мікалаевіч запрасіў нас да сябе ў госці — яны з Марыляй Пятроўнай жылі ў Новых Чарамушках, у звычайнай малюсенькай хрушчоўцы. А была такая спякота-спякота, ліпень, вельмі горача. І ў Маскве, між іншым, таксама ананасы не на кожным прылаўке. І ён — стары ўжо чалавек, 72 гады! — раніцай паехаў на другі канец горада са сваіх Чаромушак у рэстаран «Гавана», замовіў там ананасы, а потым у абед зноў паехаў — забіраць сваю замову, і ўсё гэта для таго, каб пачаставаць нас заморскім фруктам. Так я ўпершыню іх паспытала — ну, і ўжо потым ён нам ананасы кожны раз прывозіў.

*Т. Пшыркова. Інтэрв'ю VELVET.by.*

* * *

Помніцца, летам 1972 года Уладзімір Мікалаевіч вырашыў зрабіць рамонт у сваёй кватэры. Мы з ім паехалі ў гаспадарчы магазін і купілі два рулоны лінолеуму. Прывезлі да дому і адзін так-сяк падвялі на чацвёрты паверх. Уладзімір Мікалаевіч убачыў, што я ледзь падняўся, падхапіў наступны рулон на плечы і занёс адзін. Скінуўшы яго з плеч, з усмешкай сказаў: «Я ў Сібіры насіў грузы цяжэйшыя». (А рулон важыў кг 80–85.)

*І. Цыральсон. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Апошні раз мы бачыліся летам 1974 года ў Маскве. Пятрусь Броўка тады якраз дзяжурыў у Сакратарыяце Саюза пісьменнікаў СССР. Я зайшоў да яго, і мы дамовіліся наведаць

Дубоўку, каб уручыць яму дыплом Лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Броўка тады быў старшынёй Камітэта па Дзяржаўных прэміях, а я — сакратаром.

Сазваніліся па тэлефоне, распыталі Уладзіміра Мікалаевіча, як прасцей знайсці вуліцу Цюрупы ў Новых Чаромушках, дзе ён тады жыў.

Пакруціўшыся па старой і па новай Маскве, адшукалі патрэбны адрас. Дубоўка займаў кватэру на паўтары пакоі — першы быў залам, сталовай і спальняй, другі катушок — яго кабінетам. На стале, на падваконніку і на падлозе ляжалі кнігі і папкі з рукапісамі.

Нас сустрэлі шчодрыя на ўвагу, гасціннасць і ласку Марыя Пятроўна і Уладзімір Мікалаевіч. Яны так і дажывалі свой век удваіх. Адзіны іх сын загінуў у 1941 годзе, абараняючы Маскву[440]. Магілы яго бацькі не ведалі[441], таму і хадзілі часта ўпотайкі адно ад аднаго да Магілы невядомага салдата каля Крамлёўскай сцяны. З Броўкам яны абняліся, як старыя сябры, успомнілі маладнякоўскую пару, літаратурныя баталіі з «Узвышшам», дзе лідарам быў Дубоўка, пажартавалі над сваёй бурапеннай маладосцю.

Дыплом Уладзімір Мікалаевіч прыняў са шчырым хваляваннем. З уласцівай яму сціпласцю сказаў, што прэмію лічыць авансам пад яшчэ нязьдзейсненыя задумы. А потым неяк сумна пажартаваў: «Я з дому выходжу з пісулькай у кішэні, каб ведалі, калі што здарыцца на вуліцы ці ў магазіне, куды пазваніць».

А потым ён зноў жартаваў і з юначым захапленнем пераказваў сюжэты мудрых індыйскіх, карэйскіх, в'етнамскіх казак, якія збіраўся вершамі расказаць беларускім дзецям.

Мы развіталіся, не верачы, што бачымся апошні раз. Уладзімір Мікалаевіч праводзіў нас да машыны, у двары паказваў пасаджаныя ім акацыі і клёны, а ў гародчыку ягоныя мальвы.

*С. Грахоўскі. Паэт — заўсёды паэт. С. 108.*

* * *

Дубоўка вельмі шкадаваў, што былі страчаны некаторыя яго творы. Ён раіў мне пашукаць другую, неапублікаваную, частку паэмы «І пурпуровых ветразей узвівы», рукапіс і апошні машынапісны экзэмпляр якой адабралі ў яго ў Чувашыі ў час паўторнага арышту летам 1937 года. Але ён ні разу, ні ў якой сувязі не згадваў пра верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету». Дапусціць думку, што паэт проста забыўся пра існаванне гэтага верша і пра тое, што ён быў непасрэднай падставай для арышту, ніяк не выпадае, бо памяць у Дубоўкі была выдатная. А такія «падрабязнасці» і ўвогуле не забываюцца. Значыць, думаю я цяпер, ён не хацеў, каб пра той твор стала хоць што-небудзь вадома. Пасля перажытых нягод ён ужо праяўляў асцярожнасць ва ўсім і ў выказваннях на людзях страхаваўся абавязковымі згадкамі пра мудрасць партыі і іншымі тагачаснымі ахоўнымі клішэ.

Ён яшчэ калі-нікалі адважваўся закранаць небяспечныя па тых часах пытанні ў некаторых лістах. Так, аўтару «Кароткага літаратуразнаўчага слоўніка» А. Макарэвічу, які прэзентаваў сваю кнігу паэту, Дубоўка зрабіў наступную заўвагу: «Вы тлумачыце тэрмін “цэзура” (“цэсура”). Запытанне: чаму побач няма тлумачэння на слова “цэнзура”? Яно, як мне здаецца, мае самае непасрэднае дачыненне да літаратурнай творчасці». Тут ёсць хоць і падтэкставы, але недвухсэнсоўны ківок на існаванне жорсткай савецкай цэнзуры. І яшчэ, ужо зусім адкрыта: «Чытаючы Вашае тлумачэнне [слова] “ода”, згадаў бясконцы лік вершаваных твораў, прысвечаных Сталіну, а ў вас напісана, што ў наш час гэта форма мала пашырана».

*Д. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка. С. 251.*

* * *

Ул. Цурюпы, д. 20, кор. 1, кв. 11

ПРЕДПИСАНИЕ

ЖЭК-10 Черемушкинского района во исполнение решения сессии Моссовета от 9/10-73 г. Предлагает Вам в течение 3-х дней снять нестандартное ограждение с балкона.

В случае невыполнения нашего предписания к Вам будут приняты строгие административные меры.

25.03.1974 начальник ЖЭК-10 Е. Грязнова

*Ліставанне У. Дубоўкі з ЖЭКам.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 17. Л. 1.*

* * *

Депутату райсовета и начальнику ЖЭК-10
Черемушкинского района г. Москвы
Т. Е. П. Грязновой

Уважаемая Екатерина Петровна!

Сего 25 марта 1974 года нам вручено ваше предписание, предлагающее «в течение 3-х дней снять нестандартные ограждения с балкона».

При этом не приняты во внимание весьма существенные обстоятельства, заставившие (здесь и далее подчеркнуто В. Н. Дубовкой. — *Г. С.*) нас установить на нашем балконе две «боковинки».

Буквально рядом с нами, за узкой полосой проезжей части улицы, находится склад торфо-фекальных удобрений. По существу — это гора из смеси перегнившего торфа и фекалий. При выполнении погрузочно-разгрузочных работ на складе, а также при дуновении самого слабого ветра, от этой порошкообразной массы поднимается пыль столбом, которая заносит наш балкон и лишает нас возможности пользоваться таковым.

Это лишение имеет для нас пагубное значение, т. к. оба мы (я и моя жена) являемся людьми престарелыми, по состоя-

нию здоровья лишенными возможности выезжать за город, а зачастую даже просто выходить во двор. Балкон является единственным источником получения нами свежего воздуха.

Потому просим вас временно, до ликвидации склада торфо-фекальных удобрений, разрешить нам оставить на балконе указанные выше «боковинки».

Для того, чтобы эти «боковинки» не выделялись на фоне стандартных ограждений, их можно покрыть тем же материалом, причем за наш личный счет.

Решение сессии Моссовета от 9/10-73 имеет в виду общее состояние балконного хозяйства г. Москвы, но допускает отступления, вызываемые хозяйственными и санитарными соображениями в целях защиты интересов трудящихся.

Наша просьба не является какой-нибо «прихотью», а вызвана крайней необходимостью, почему мы и надеемся на справедливое, положительное ее удовлетворение.

О результатах просим нас уведомить.

26 марта 1974 года. М. и Вл. Дубовки

*Ліставанне У. Дубоўкі з ЖЭКам.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 17. Л. 2.*

* * *

Черемушкинский районный совет
Депутатов трудящихся г. Москвы

Исполнительный комитет

6-5-1974
гр-ну Дубовке В. Н.

На ваше письмо исполком Черемушкинского райсовета сообщает, что согласно решению Исполкома Моссовета за № 45/4 от 28 ноября 1973 года ограждение лоджий и балконов в г. Москве категорически запрещено.

Зам. председателя Исполкома М. Мальцев

*Ліставанне У. Дубоўкі з ЖЭКам.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 17. Л. 3.*

* * *

Асабліва ўважлівым і чулым быў Уладзімір Мікалаевіч да дзяцей. Помню, аднойчы ў канцы снежня 1973 года мы вярталіся з булачнай. Быў сільны мароз. Каля пад'езда нашага дома плакаў хлопчык гадоў чатырох. Маці яго зайшла да суседкі і затрымалася. На двары дзве дзяўчынкі каталіся на саначках. Хацелася пакатацца і хлопчыку, але яму не давалі. Даведаўшыся, у чым справа, паэт сказаў: «Зараз я прынясу вам гасцінец, а вы тут катайцеся разам». Неўзабаве ён прынёс дзецям цукерак і стаў іх раздаваць дзецям. Якраз выйшла і маці хлопчыка. На яе пытанне, хто яго пачаставаў, малыш адказаў: «Гэта добры Дзед Мароз раздае цукеркі». Смяяліся ўсе, асабліва ж Уладзімір Мікалаевіч. Яму спадабалася находлівасць Сярожы (так звалі хлопчыка).

*І. Цыральсон. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Усё збіраюся хоць на пару дзён прыехаць у Мінск, але то ўласнае нездароўе ці нездароўе М. П. касуюць мае планы.

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 22/07-1974 //*
*Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 232.*

* * *

У кастрычніку 1975 года, вяртаючыся з дома творчасці Перадзелкіна, я пазваніў з кватэры Канстанцыі Буйло[442] Уладзіміру Мікалаевічу, хацелася даведацца пра яго здароўе, і пачуў нярадасны адказ: ён скардзіўся на агульнае недамаганне і боль у нагах. На маё апытанне, калі збіраецца наведаць Мінск, Уладзімір Мікалаевіч с жалем у голасе адказаў:

— Наўрад, браце, ці змагу я ўжо быць у ім. У магазін ледзь выходжу ды і то з адрасам на картачцы паперы ў кішэні. Гэта на ўсякі выпадак, калі здарыцца што непрадбачанае ў невялікай адлучцы з дому, каб адразу маглі знайсці.

Вярнуўшыся ў Мінск, я выслаў яму свой двухтомнік. У адказе была шчырая падзяка і выказваўся жаль, што, бадай, ён не зможа ўжо аддзякаваць мне сваёй новай кніжкай.

*А. Пальчэўскі. Пра Дубоўку // ЛіМ. 1994. 21 студз.*

* * *

Калі Вы яшчэ нічога не паслалі мне з кніг, то, калі ласка, майце на ўвазе наступнае. — З прычыны абмежаванасці сваёй жылплошчы і, самае галоўнае, з прычыны свайго старэчага веку, бібліятэку я не збіраю. Стараюся мець самае патрэбнае (даведнікі, найбольш цікавыя выданні).

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 19/10-1975 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 237.*

* * *

## ДАДАТАК ДА ЖЫЦЦЯПІСУ

пастушок
кухар
чыгуначны рабочы
пабельшчык
народны настаўнік
інструктар НКА
метадыст
сакратар
рэдактар
лектар вышэйшай школы
арыштант
юрысконсульт
муляр
маляр
бетоншчык
тынкавальшчык
грабар
слесар-водаправодчык

арматуршчык
Плітавальшчык (?)
Эканаміст
Бухгалтар
Літаратар
Лесаруб
Агароднік
[*Нрзб*]
Няўдалы муж
Балбатун
Цясляр
[*Нрзб*]

*У. Дубоўка. Пералік прафесій (і не толькі), якімі валодаў паэт.*
*Занатаваны на чарнавіках рукапісу «Майго жыццяпісу».*
*ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 796. Л. 163.*

* * *

Пасля смерці сваей сястры (яна памерла 8 сакавіка 1975 года) Уладзімір Мікалаевіч часта гаварыў аб смерці. На яго цяжкое ўражанне зрабіў не толькі сам факт смерці (ён застаўся адзін з вялікай некалі сям'і), але і само пахаванне — могілкі непрыглядныя, магілы вельмі блізка адна ад другой, капаюць неглыбока. Ён казаў: «Цяпер мне трэба падшукаць сабе месца»,— і разважаў уголас: «У Маньковічах — не хачу, там дрэнныя могілкі, добра б было ў Язах, але я не ведаю, што там цяпер». І на гэтым абарваў. Думаў ён і пра тое, куды дзецца рукапісы. Я сказала, каб ён на мяне не спадзяваўся, што я нічога не змагу зрабіць, калі з ім нешта станецца. Ён папрасіў Юліяна Сяргеевіча Пшыркова ўзяць на сябе клопаты аб яго літаратурнай спадчыне (у адзін з прыездаў Юліяна Сяргеевіча ў Маскву), мабыць, таму, што Юліян Сяргеевіч і асабіста да яго добра ставіўся і, што, відаць, яшчэ важней, ацэньваў яго як пісьменніка вельмі высока. Пра камісію Уладзімір Мікалаевіч ніколі не гаварыў, можа, не дапускаў, што яна будзе створана, не ведаю.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 229.*

* * *

Дарагі Станіслаў Пятровіч!

Дзякую вам за памяць, увагу, дабразычлівасць. На Вашае запытанне пра тое, што можна лічыць «недахопам» у Вашых папярэдніх арыткулах пра мяне і маю працу наогул, адкажу так:

Вы ў сваім артыкуле (Звязда, 15.07.70), сцвярджалі, між іншым, што мая работа «часам мела памылкі». Далей: «разам з тым даводзілася рабіць і пераацэнку брусаўскай школы, якая прывіла ў часы вучобы многае, што не адпавядала метаду сацыялістычнага рэалізму, а таму мела ўплыў на творчасць паэта»...

Дарагі Станіслаў Пятровіч! І першае і другое Вашы сцверджанні абсалютна нічым не пацверджаны і не могуць быць пацверджаны. Абвінавачванні ў памылках? — Даруйце мне, я не хачу вас пакрыўдзіць, але ж іх знаходзілі... Бэндэ і Ліманоўскі са сваімі ад'ютантамі. Пасля, як Вам вядома, Пракуратура СССР прызнала іх хлуслівымі, не вартымі ніякае ўвагі і мяне рэабілітавалі. Калі Вы, можа, маеце якія-небудзь матываваныя матарыялы ў гэтым кірунку — калі ласка, апублікуйце іх «у рабочым парадку» ў часопісах. Прычым тут падобнае павіншаванне менавіта ў дзень майго нараджэння?!

Наконт брусаўскай школы — ізноў жа даруйце мне, але Вы не маеце належнага ўяўлення аб ёй. Усе, хто скончыў Брусаўскі інстытут, з вялікай ўдзячнасцю згадвалі яго ўсё жыццё, далі выдатныя творы (згадайце хоць бы некалькі імён — Сцяпан Злобін, Іван Кашкін, Н. Вільям-Вільмонт, праф. Пурышаў, Н. Жаркова, Б. Песіс, К Якаўчык і г. д. і г. д.). Я таксама ніколі не адмаўляўся ад якой бы то ні было часткі ведаў, атрыманых у Брусаўскім інстытуце. Наадварот, з вялікай пашанай згадваю яго, бо менавіта гэны інстытут дапамог мне ўдасканаліць літаратурнае майстэрства.

*У. Дубоўка. З ліста да С. Шушкевіча ад 30/06-1975.*
*ЦНБ НАН РБ. Воп. 1. Спр. 502. Л. 11.*

* * *

С Владимиром Николаевичем Дубовкой я познакомился в январе или в феврале 1976 года. Был яркий зимний день. Мы с женой и нашей совсем еще крошечной трехмесячной дочерью, с тестем Сергеем Афанасьевичем[443] и тещей Галиной Васильевной Михальчуками и их сыном Сашей недавно переехали из центра Минска на его окраину в Курасовщину. Кажется, дом еще даже и не отапливался, потому что помню какие-то радиаторы для обогрева. Дубовка и Михальчук приехали из издательства, где Сергей Афанасьевич дал Владимиру Николаевичу авторские экземпляры его детской книги. Почему-то мне кажется, она называлась «Залатыя зярнятки», но, вполне возможно, что я ошибаюсь[444]. На фоне щуплого Михальчука Дубовка казался огромным. Да он и был огромным. Как Дед Мороз, шумно, с какими-то приговорами, потея и задыхаясь, доставал он из дорожной сумки московские гостинцы. Кажется, в руке у него была палка, на которую он опирался. Не трость, а что-то такое серьезное, основательное, с резной деревянной или костяной ручкой. Теща с моей женой стали накрывать на стол, а тесть знакомил меня с Дубовкой, говорил какие-то очень славные и добрые о нем слова, и Дубовка еще больше краснел и махал руками. Память очень ярко рисует картинку того дня сороколетней давности. Солнечный зимний день, яркий снег на школьном стадионе за окном, неспешная застольная беседа, центром в которой был красивый большой человек, похожий на партизана с белой бородой из какого-то школьного учебника. А вот слов не помню. Помню, что мне очень хотелось побольше разузнать о сибирском периоде жизни Дубовки. Набрался ли я смелости? Скорее всего, нет. Да и речь все время шла о том, что скоро (может, летом?) он вновь приедет в Минск, и тогда будет больше времени пообщаться, а не как сейчас — на бегу. Да, вот еще. Когда Дубовка узнал, что я с Кавказа, рассказал, что тоже жил на Кавказе, в Зугдиди. Спросил, бывал ли я в Мингрелии. Вечером у Дубовки уходил поезд на Москву. Владимир Николаевич

долго и шумно прощался, обещал моим теще и тестю передать привет своей жене, Марии Петровне, с которой они были знакомы. Телефона в доме еще не было, и я сбегал на площадь Казинца на стоянку такси и привез к дому машину. Провожали Дубовку с нашего второго этажа до крыльца всей семьей. И вообще казалось, что это была не встреча с именитым, много повидавшим писателем, а семейный праздник, таким Владимир Николаевич был радушным, доброжелательным, столько тепла было в его словах, в улыбке, во всем, как он вел себя. Я проводил его на вокзал.

*А. Росін. З прыватнай перапіскі.*

* * *

У апошнюю зіму ён некалькі разоў казаў: «Што ты будзеш рабіць без мяне», або «Як ты будзеш жыць без мяне». Я не ставілася сур'ёзна да гэтых слоў, ён быў мацнейшы за мяне, і я была ўпэўнена, што памру раней. Аднойчы я сказала: «Ніяк не буду жыць, лягу і буду паміраць» . Ён ужо дрэнна сябе адчуваў, часта балела сэрца, цяжка было хадзіць, але ён разумеў, што трэба рухацца, што пры яго грузнасці ляжанне — гібель, вось і хадзіў з цяжкасцю. І ўрачы яму казалі: «Вам ляжаць нельга».

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 229.*

* * *

Первую неделю как он попал с переломом бедра в больницу, там был карантин (по гриппу) и не пускали посетителей. Первый раз мы с Лорой пошли к нему 7-го марта, был еще Столяренко. Дубовка говорил, что боль в ноге уже не мучает, но болит пролежень и бывает рвота сильная. <...> Руки ко второй неделе пребывания в больнице были у него холодные, ногти синие. <...> Накануне операции была у него, выглядел хорошо, руки были теплые и почти розовые — сердце подлечили, был веселым, шутил. <...> Когда уходила от него, беспокоился

о Марыле Петровне, есть ли у нее картошка, готовит ли себе и ест ли что.

*Алеся Бабарэка. З ліста да Л. У. і Г. М. Гарэцкіх ад 25/3-1976.*
*БДАМЛМ. Ф. 426. Воп. 1. Спр. 78.*

* * *

64 гор. больница Черемушкинского района Москвы. Причины непосредств. А) обширное расширение вещества головного мозга, б) тромбоз среднемозговой артерии. Перелом шейки правого бедра. Патологоанатом Медведев.

*Запіс тэлефоннага паведамлення рукой Э. Бабарэкі.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 298.*

* * *

20/3 1976, суббота

Собиралась ехать в командировку в Запорожье. В 16:30 получила телеграмму из Москвы (14:30 Черемушкинская почта): «Сегодня умер Дубовка». Позвонила М. Я. Калюжному и А. В. Заленицковой, что должна быть эти дни в Москве, объяснила причину.

21/3-76

Воскресенье.

В 7 ч. приехала в Москву. Ляля ночевала эту ночь у МП Д. Днем в 11–12 поехала к МП. В. Н. умер ночью 20/3-76 в 2 ч ночи от обширного расширения вещества головного мозга вследствие закупорки центральной мозговой артерии. На третьи сутки после операции по поводу перелома шейки бедра правой ноги. Операция длилась два часа. На операцию «шел» в хорошем настроении, перенес хорошо, потом ел. На второй день — потеря сознания, паралич (только открывал глаза при обращении). Затруднено дыхание — сделали надрез горла. Увезли в реанимацию. Скончался, не приходя в сознание.

У МП была соседка Ася Павловна, когда я приехала. Покормила МП щами. Она в горе держится стойко. Звонки от

знакомых, родных. Телеграммы — Бровка и др. — из Минска. Резко реагирует на соболезнования, кроме этого при разговоре по телефону голос твердый. Просила телеграммы читать, только подписи. Звонил Пширков, дочка Витки, двоюродная сестра, сын двоюродной сестры — Дима, после чего был приступ стенокардии. Сняли валокардином и горчичниками. Помогла соседка Елена Семеновна[445] из кв. 7.

Ночевала у МП. Ночь прошла спокойно.

О похоронах не решили когда, 23 или 24, но Горбачёв М. В[446]. (Союз Писателей) сказал (до моего приезда МП говорила с ним по телефону), что СП возьмет организацию всего на себя, пришлют в понедельник.

Похороны на 24-е. Лев Наумович Качер[447] — организатор похорон от СП.

Панихида в морге, куда поедет МП, потом в крематорий, куда МП не поедет, т. к. далеко и тяжело.

Пообедали (картошка, которую покупал еще ВН).

Вечером были у МП, соседка Е. С. — разговор о том, как МП жить одной. Соседка просила прописать ее. Она будет ждать квартиру МП 5–10 лет.

Приготовила все для ВН — одежду 1 серии, костюм, белую рубашку, галстук — синий с красным — белорусские узоры.

Звонила Ляле на работу. Она — о маске — поздно.

Приехала к МП. У нее мама и Ел. Сем. МП и мама обедала. Потом Ел. Сем. ушла. Пошла провожать маму домой до автобуса. Оказывается, опять днем соседка вела разговоры о прописке. Мама боится за МП и наследие ВН.

Днем у МП были Пширков и Соломевич (приехали кроме делегации). Поставили красные гвоздики и белые колокольчики к портрету ВН в его комнате.

*Дзённікавыя запісы Э. Бабарэкі.*
*БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 298.*

* * *

Паэт мог яшчэ жыць, каб не трагічная выпадковасць. Вечарам ён пайшоў у магазін за прадуктамі. Была вялікая лютаўская скальзота. Вяртаючыся дадому, паслізнуўся, цяжка ўпаў і раструшчыў бядро. З бальніцы Уладзімір Мікалаевіч не выйшаў, яго адвезлі ў крэматорый. Урна з прахам выдатнага сына Беларусі знаходзіцца ў Другім маскоўскім крэматорыі, калумбарый 3, секцыя 4, рад 4, ніша 15.

У гэтай жа нішы знаходзіцца і урна з прахам Марыі Пятроўны.

*І. Цыральсон. З ліста да Ю. Пшыркова.*
*Прыватны архіў Т. Пшырковай.*

* * *

Через некоторое время тесть приехал домой расстроенный. Он подошел к столу, за которым я печатал на машинке, и сказал мрачно: — Можешь отвлечься? — Могу, — сказал я. — Что случилось? — Дубоўка памёр, пайшлі на кухню, памянём. Добры быў чалавек. Таких заўсёды мала было, а зараз і наогул няма». Мы пошли на кухню, где теща уже накрыла стол, и пили водку, поминая Дубовку. А Сергей Афанасьевич — даром что фронтовик и инвалид войны, — был раним душевно, и вытирал кулаком слезы, когда рассказывал о «Маладняке», о мытарствах Дубовки по тюрьмам и лагерям, о том, как потеряли они с Марией Петровной сына... И я понял тогда, что если ты чего-то не сделал вовремя, потом не наверстаешь. Я постеснялся расспросить Дубовку тогда и проиграл как журналист. Зато потом, если я встречал на своем пути такую же яркую личность, как Дубовка, я не ждал больше повода, а сам лез с расспросами. Значит, можно и так сказать: Владимир Николаевич Дубовка косвенно помог мне в моей журналистской работе. Для меня это очень важно.

*А. Росін. З прыватнай перапіскі.*

* * *

Урач, што лячыў нас, казаў мне: «Калі б не гэты няшчасны выпадак, ён бы яшчэ доўга мог жыць». У бальніцы, дзе ён ляжаў ужо з пераломам бядра, у яго знайшлі два (раней перанесеныя) інфаркты, значыць, перанёс ён іх на нагах.

*М. Дубоўка. Мае санаторыі і курорты. С. 229.*

* * *

Праз «ЛіМ» даведаўся пра смерць Дубоўкі. Урна яго павінна знаходзіцца каля магілы Купалы. Купала лічыў яго большым паэтаю за сябе.

*М. Улашчык. З ліста да В. Чамярыцкага ад 10/04-1976 // Даць народу гісторыю. С. 414.*

* * *

20.03. Памёр У. Дубоўка. У яго быў пералом бядра. Аперыравалі, але сэрца не вытрымала. Тк і не стала паэта, які ў нармальных умовах быў бы пасля Купалы, Коласа, Багдановіча адным з самых нашых выдатных і культурных паэтаў.

*М. Танк. Дзённікі // Збор твораў: у 13 т. Т. 10. С. 307.*

* * *

Мне говорили, что в Минске у некоторых людей создалось впечатление, что Владимир Николаевич умер потому, что что-то не так, неправильно сделали. Это неправда. Когда он упал, я тоже не думала,что это может быть конец, но это от невежества. Потом уже мне говорили знакомые и незнакомые врачи и просто люди, у которых с родными было такое же. «Такие переломы обычно так и кончаются». А тут еще 75 лет, два старых инфаркта, кости хрупкие, это был не просто перелом, а раздробление, срастания не происходило. У него уже начались пролежни. Если бы не сделали операции, была бы

«длительная мучительная смерть» Вот и решились на операцию, и сам он на ней настаивал и торопил. Не выдержал мозг общий наркоз. Нужно было собрать раздробленные осколки, соединить их, всунуть штыри до колена, до упора. В результате получили «обширные расширения вещества головного мозга и тромбоз среднемозговой артерии». Не знаю, сознавал ли он, что умирает. До операции у него было бодрое настроение, но может быть он сам бодрился и поддерживал бодрость у окружающих. После операции он был сначала в послеоперационной, а потом в реанимационной палате. Врачи говорили, что сначала он открывал глаза, когда его называли «Владимир Николаевич», а потом только дышал и в 2:30 20-го марта 76 года умер. На вскрытии присутствовал муж сестры Владимира Николаевича, очень опытный хирург, все время навещал его в больнице, поддерживал связь со своими коллегами-хирургами, которые потом оперировали Владимира Николаевича. Сразу после падения Владимира Николаевича и узнав, что перелом шейки бедра, он сказал «очень плохо» и объяснил мне (не больному, конечно), что в таких случаях частицы мозгового вещества попадают в кровь и вызывают тромбы. К себе в больницу он не мог его взять, потому что там не было травматологического отделения. И все-таки я не ожидала такого трагического конца.

*М. Дубоўка. Успаміны.*
*БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 27. Л. 58.*

* * *

Напішу тастамант перад смерцю, што няхай лепш спаляць, знішчаць мае творы, у якіх надумаюць калі мяняць паасобныя словы. Мяне таксама абалванілі... пры жыцці: настаўлялі такіх слоў, якіх ніколі не чуў, а павыкідалі мае ўласныя, якія, дарэчы, ёсць ва ўсіх слоўніках...

*У. Дубоўка. З ліста да Я. Саламевіча ад 11/03-1974 // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 231.*

* * *

*У Беларускім дзяржаўным архіве-музее літаратуры і мастацтва ў дваццаць сёмым фондзе «Уладзімір Дубоўка» захоўваецца вялікі фотаальбом у зялёнай вокладцы. Сюды, пад гэтую вокладку з чырвонымі макамі на зялёным полі («зялёны ліст, чырвоны цвет»), Дубоўка ўклейваў выразаныя з часопісаў свае казкі. «Вясёлка», «Бярозка», часам — публікацыі газетныя. Самаробны збор усіх казак, перакладзеных паэтам для маленькіх чытачоў.*

*Адпачатку старонкі часопісаў раўнютка, пад лінеечку, абрэзаныя, ашчадна наклееныя. Побач чарнiламі: назва часопіса, дата публікацыі, тыраж нумара. Бліжэй да канца альбома края выразак становяцца няроўнымі, бачна, што і пальцы слабелі, і вочы бачылі не ўсё. Дый тыражы ўжо не пазначаныя.*

*Амаль усе лісты — акрамя апошняга — занятыя. Застаўся пустым толькі адзін.*

*Часам пішуць, што Уладзімір Дубоўка пахаваны на забытых маскоўскіх могілках.*

*Гэта не так.*

*Другі маскоўскі крэматорый у 1976 годзе быў самым вялікім крэматорыем Еўропы, і могілкі пры ім лічыліся прэстыжнымі. Гэта і сёння статуснае месца пахавання: на цэнтральнай алеі хаваюць Герояў Расіі.*

*Знайсці апошні прытулак паэта зусім нескладана. Ад станцыі метро Новакасіно на Нікола-Архангельскія могілкі кожныя пяць хвілін адыходзіць маршрутка, якой спатрэбіцца зусім няшмат часу, каб падвезці вас да цэнтральнага ўвахода: чорная гранітная брама, акуратна пастрыжаныя газоны, упрыгожаныя ўтульныя алеі.*

*Направа ад цэнтральнай брамы — секцыі калумбарыя. Яны бачныя ад самага ўвахода. Кожная з іх акуратна пранумараваная. 4-ы рад, 4-я секцыя, 15-я ніша. Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка, беларускі пісьменнік. 1900–1976. Марыля Пятроўна Дубоўка. 1900–1980.*

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ ЛІСТОЎ І ЎСПАМІНАЎ

***Адамовіч Антон Яўстаф'евіч (1909–1998)*** — беларускі літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст. Доктар філалогіі. Сябра літаратурнага аб'яднання «Узвышша». У 1930 арыштаваны па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937, вызвалены ў 1938. Падчас нямецкай акупацыі застаўся ў Мінску. З ліпеня 1941 — адзін з арганізатараў выдання шэрагу беларускіх газет, часопісаў, кніг, кіраўнік выдавецкага аддзела пры Мінскай гарадской управе, галоўны рэдактар краявога выдавецтва «Менск», кіраўнік Беларускага навуковага таварыства. Радны Беларускай народнай самапомачы. З 1943 — у Германіі, з 1960 — у ЗША. Адзін з кіраўнікоў радыёстанцыі «Свабода». Аўтар больш за 250 прац, прысвечаных сучаснай і класічнай беларускай літаратуры. Тут цытуюцца тэксты па наступных выданнях: Адамовіч А. Мой счет им. Жизнеописание одного из «осчастливленных» большевистским «раем» / публікацыя Лявона Юрэвіча (аўтабіяграфія А. Адамовіча, напісаная па патрабаванні нямецкіх улад у 1941 годзе) // Адамовіч А. Творы. Нью-Ёрк: БІНіМ, 2003. С. 720–725; Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры // Збор твораў. Менск: Выд. З. Колас, 2005 (назвы артыкулаў пазначаны пад цытатамі).

***Арочка Мікалай Мікалаевіч (1930–2013)*** — беларускі паэт, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Цытаваны артыкул «Чарадзей з блакітнымі вачыма» надрукаваны ў кнізе: Арочка М. Саюз часу і майстэрства. Мінск, 1981. С. 86–177; «Адзін дзень і ўсё жыццё» — у «Полымі» (1979. № 1. С. 219–234).

***Бабарэка Алеся Адамаўна (1928–2011)*** — малодшая дачка Адама Антонавіча Бабарэкі. Кандыдат тэхнічных навук. Захавальніца архіва А. Бабарэкі і У. Дубоўкі. «Успаміны пра бацьку» цытуюцца па публікацыі альманаха «Скарыніч» (вып. 4).

***Бабарэка Элеанора Адамаўна (1925–1987)*** — старэйшая дачка А. А. Бабарэкі. Хімік, мікрабіёлаг. Дзённікавыя запісы, датычныя абставін смерці і пахавання У. Дубоўкі, друкуюцца ўпершыню паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў БДАМЛМ.

***Бажэнаў Іван Іванавіч*** — з 1933 старшыня Яранскага райспажыўсаюза. Дубоўка піша пра яго ў лісце да Ю. Пшыркова[448]: «Гэты чалавек быў старшынёй спажывецкага таварыства кааперацый ("райпотребсоюз") у г. Яранску, мабыць, у 33–34 гг. маім непасрэдным начальнікам. Добра

да мяне ставіўся». Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 12.04.1965. Друкуецца ўпершыню.

***Барадулін Рыгор Іванавіч (1935–2014)*** — народны паэт Беларусі. Успаміны друкуюцца паводле выдання: Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск: Маст. літ., 1995; Выбранае. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2008.

***Брыль Янка (Іван Антонавіч) (1917–2006)*** — народны пісьменнік Беларусі. У выданні цытуюцца ўрыўкі з артыкула: Брыль Я. Накіды трох партрэтаў // ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз. С. 8–11.

***Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (нар. 1929)*** — беларускі літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У дадзеным выданні цытуюцца: Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. Мінск: Навука, 2005; Бугаёў Д. Трагедыя паэта (Уладзімір Дубоўка) // Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны. Мінск: Маст. літ., 2001.

***Бычкоўская М. В.*** — настаўніца сярэдняй школы ў пас. Почат, калега М. Дубоўкі. Успаміны, сабраныя А. Ю. Папалавай, друкуюцца ўпершыню.

***Бяганская Галіна Аляксандраўна (нар. 1934)*** — заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, дачка пісьменніцы Я. Бяганскай і паэта А. Сака. Цытуюцца ўрыўкі з інтэрв'ю, дадзенага парталу VELVET.by (http://www.velvet.by/shopwindow/uspeshnaya-zhizn/velvetovye-intervyu/masherov-takaya-malenkaya-tak-mnogo-postroila).

***Бярозка Юры (Георгій Сяргеевіч) (1905–1982)*** — пісьменнік, узвышаўскі крытык. Пасля разгрому «Узвышша» па-беларуску не пісаў. Аўтар ваенных раманаў «Красная ракета», «Мирный город», «Ночь полководца». Рэжысёр кіно («Мы из Кронштадта», «Первая Конная»), мульфільмаў («Серая шейка», «Гадкий утенок»). Урыўкі з артыкула «Дубоўка. Літаратурны партрэт» друкуюцца паводле: Узвышша. 1928. № 2.

***Верас Зоська (сапр. Людвіка Антонаўна Сівіцкая-Войцек; 1892–1991)*** — беларуская паэтка, празаік, культурны дзеяч. Дэпутат Усебеларускай Рады. Аповесцю «Жоўтая акацыя» зацікавілася невыпадкова: на пачатку стагоддзя менавіта яна сабрала і выдала «Беларуска-польска-руска-лацінскі батанічны слоўнік», да яе па парады наконт знікаючых беларускіх найменняў кветак і дрэваў звярталіся многія з беларускіх пісьменнікаў. Ля дома Зоські Верас у Вільні быў разбіты сапраўдны батанічны сад з рэдкімі раслінамі і лекавымі зёлкамі. Цытуецца выданне: Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты / укл. М. Скобла. Мінск: Лімарыус, 2015.

***Вітка Васіль (сапр. Цімох Іванавіч Крысько; 1911–1996)*** — беларускі паэт, перакладчык, крытык, дзіцячы пісьменнік. У 1951–1957 — галоўны рэдактар «Літаратуры і мастацтва», у 1957–1974 — «Вясёлкі». Заслужаны

дзеяч культуры БССР. Нарыс «Маленькая гісторыя вялікай барады» друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які захоўваецца ў БДАМЛМ.

***Віцьбіч Юрка (сапр. Серафім Аляксандравіч Шчарбакоў; 1905–1975)*** — беларускі пісьменнік, публіцыст, краязнаўца. Дзеяч беларускай дыяспары ў Амерыцы. Каментар да ліста М. Міцкевіча друкуецца паводле: Запісы БІНІМ. № 33.

***Вярцінскі Анатоль Ільіч (нар. 1931)*** — беларускі паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык. Член СП СССР (з 1964). У 1967–1990 — галоўны рэдактар «Літаратуры і мастацтва». У 1990–1995 — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, намеснік старшыні пастаяннай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, член Канстытуцыйнай камісіі ВС БССР. Артыкул цытуецца паводле публікацыі ў «Крыніцы» (1997. № 8).

***Галавач Платон Раманавіч (1903–1937)*** — беларускі пісьменнік. З 1926 загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ, з 1928 першы сакратар ЦК ЛКСМБ і рэдактар «Чырвонай змены», з 1930 — намеснік наркама асветы БССР. Адзін з кіраўнікоў «Маладняка» і БелАПП. Арыштаваны ў 1937, асуджаны да расстрэлу. Прыведзены ліст друкуецца паводле выдання: Трус. П. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2000.

***Галакціёнаў Рыгор Фёдаравіч*** — сябра У. М. Дубоўкі па Камлагу. Нарадзіўся ў 1899 у сялянскай сям'і, з 1916 — працаваў тэлеграфістам. З 1918 — на прафсаюзнай працы (1918–1919 — старшыня уезнага, 1920–1921 — губернскага камітэта працаўнікоў сувязі). З 1930 да 1937 — галоўны бухгалтар аддзялення сувязі г. Чэбаксары, беспартыйны. Дубоўка піша пра яго ў лісце Ю. Пшыркову: «Я яму пішу ліст, калі ён дойдзе і ён мне адкажа — я прышлю дадаткова, а то можаце, калі заахвоціцеся, напісаць і без нумару дома — ў яго дом уласны, а № пошты ёсць. Адным словам — як уважаеце. Гэта вельмі культурны і разумны чалавек. Ён быў маім першым брыгадзірам у гор. Бірабіджане ў 1938 годзе. Пасля я астаўся, а ён паехаў далей. Пра пачатковы перыяд, калі захоча, можа напісаць вельмі цікава (так, прынамсі, мне думаецца)». Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 23.01.1965. Друкуецца ўпершыню.

***Ганчарык Міхась (1899–1986)*** — беларускі вучоны, доктар біялагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, член-карэспандэнт АН БССР. У 1925 — загадчык Аршанскага акруговага аддзела народнай адукацыі, сябра горацкай студыі «Маладняка». У 1933 арыштаваны, асуджаны да 10 гадоў ВПЛ. Паўторна арыштаваны ў 1946, высланы ў Краснаярскі край. Пасля рэабілітацыі — настаўнік Горацкай акадэміі. Успаміны друкуюцца паводле: Ліўшыц У. З гісторыі горацкай студыі «Аршанскага маладняка» // horki.info.

*Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999)* — беларускі журналіст, літаратуразнаўца. У 1962–1966 — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР. Член СП БССР (1970). Успаміны пра сустрэчу з У. Дубоўкам цытуюцца паводле публікацыі ў «Нёмане» (1985. № 7).

*Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч (1900–1988)* — беларускі геолаг, эканаміст, адзін з заснавальнікаў і акадэмік АН БССР, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Доктар геолага-мінералагічных навук, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Малодшы брат Максіма Гарэцкага. Адзін з найбліжэйшых сяброў маладосці У. Дубоўкі. У дадзеным выданні цытуюцца: Гарэцкі Г. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкам // ЛіМ. 1997. № 15. 11 крас. С. 13; лісты Г. Гарэцкага да Л. Гарэцкай — Гарэцкі Р. Лісты жыцця і кахання. Мінск: Тэхналогія, 2013.

*Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938)* — беларускі пісьменнік, літаратуразнаўца, лексікограф, фалькларыст. Выкладчык мовы і літаратуры ў першых беларускіх ВНУ, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Горацкай сельгасакадэміі. Правадзейны сябра Інбелкульта, сакратар Літаратурнай камісіі. Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, высланы, паўторна арыштаваны ў 1937, расстраляны ў 1938. Тут цытуюцца ўрыўкі з дзённіка «Кіпарысы» згодна з выданнем: Гарэцкі М. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2009 (тэксталагічны каментар Т. Голуб).

*Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч (нар. 1928)* — беларускі геолаг, акадэмік АН БССР, доктар геолага-мінералагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР, замежны член РАН. Малодшы сын Г. І. Гарэцкага. У выданні цытуюцца ўрыўкі з кнігі эсэ «Жыццёвы меланж» (Мінск: Кнігазбор, 2013), а таксама звесткі з прыватнай гутаркі з укладальнікам.

*Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979)* — беларускі паэт, перакладчык, крытык, рэжысёр. З 1925 — член усебеларускага аб'яднання «Маладняк». Дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры БСГА (Горкі), выкладчык Магілёўскага педінстытута. Член Саюза пісьменнікаў з 1934. Арыштаваны ў 1935, высланы з Беларусі, больш за 20 гадоў правёў у высылках у Комі, Сібіры, на далёкім Усходзе. Рэабілітаваны ў 1958. У 1957–1967 — памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Купалаўскага тэатра. Тут цытуецца артыкул «Энергія і культура» паводле выдання: Гаўрук Ю. Ступень адказнасці: зборнік артыкулаў і эсэ. Мінск, 1986.

*Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983)* — беларуская паэтка, празаік, грамадскі дзеяч. Радная БНР у эміграцыі. У 1948–1956 — вязень ГУЛАГа. Цытаты пададзены паводле выдання: «Духу магутныя чары...»: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах / уклад. М. Скобла. Мінск: Лімарыус, 2015.

***Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016)*** — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Народны паэт Беларусі (1991). Член СП СССР (з 1954). У 1960–1986 — прафесар кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980–1989 — першы сакратар праўлення СП БССР, у 1981–1991 сакратар праўлення СП СССР. У 1989–1997 — старшыня ТБМ, галоўны рэдактар бюлетэня ТБМ «Наша слова». Дэпутат ВС БССР XI склікання, кіраўнік працоўнай групы па падрыхтоўцы праекта Закона Беларускай ССР аб мовах у БССР. Дэпутат ВС Беларусі XII склікання (1990–1995), член Прэзідыума ВС, старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1990–1995). Успаміны цытуюцца паводле выдання: Гілевіч Н. Збор твораў: у 23 т. Вільня: Наша будучыня, 2013.

***Глебка Пётр Фёдаравіч (1905–1969)*** — беларускі паэт, перакладчык. Акадэмік АН БССР. Член СП СССР (з 1934). Член аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». У 1934–1936 — кансультант па паэзіі СП БССР. Падчас вайны — супрацоўнік франтавых газет. У 1943–1945 — рэдактар выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», галоўны рэдактар Дзяржвыда БССР у Маскве. З 1945 супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, кіраўнік групы па складанні «Руска-беларускага слоўніка», з 1957 — дырэктар Інстытута мовазнаўства. Лісты П. Глебкі да П. Труса цытуюцца паводле выдання: Трус П. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2003; успаміны — з прадмовы да выдання: Дубоўка У. Выбраныя творы. Мінск, 1959.

***Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002)*** — беларускі паэт, празаік, перакладчык. У выданні цытуюцца ўрыўкі з нарыса «Паэт — заўсёды паэт» паводле выдання: Грахоўскі С. Так і было. Мінск: Маст. літ., 1986. С. 99–109.

***Дабрыніна Т. І.*** — настаўніца сярэдняй школы у пас. Почат, калега М. Дубоўкі. Успаміны сабраныя А. Ю. Папалавай. Друкуюцца ўпершыню.

***Дубоўка (Кляўс) Марыя Пятроўна (1900–1980)*** — жонка Уладзіміра Дубоўкі. Пра сябе Марыля Пятроўна ўспамінае: «Бацькі мае былі вельмі рознымі людзьмі па адукацыі і культурнаму ўзроўню. Бацька скончыў, добра не памятаю, але, здаецца, павятовае вучылішча, ад бацькі свайго атрымаў у спадчыну пяньковую справу. Напярэдадні сваей жаніцьбы ён, мабыць, быў яшчэ багатым чалавекам. Мама, народжаная Бараноўская Марыя Іванаўна, родам з Бялынкавічаў, бацькі яе — дваране, памешчыкі. Гэта недалёка ад Касцюковічаў. Мне казалі, што там цяпер дом для састарэлых, а наш дом у Студзянцах згарэў пры немцах. Мама скончыла Інстытут шляхетных дзяўчат, а пазней два гады вучылася ў Швейцарыі ў Жэневе на французскіх курсах. Бацьку яна палюбіла, па яе словах (з пісьмаў), за прастату, непасрэднасць, за непадабенства на шаркуноў і палацёраў (яе выразы з пісьмаў), якія яе акружалі. Бацька паступова

разараўся, мы паступова бяднелі, і калі прыйшла пара нам вучыцца, наша сям'я была ў вельмі нялёгкім матэрыяльным стане. Мама сама рыхтавала мяне і сястру да паступлення ў гімназію. Спосаб жыцця быў вельмі просты. Зараз я думаю, што на маму, відаць, паўплывала яе жыццё ў Жэневе. Яна ж там была студэнткай, і не можа быць, каб яна не сустракалася там з перадавымі студэнтамі. Недарэмна ж яна сама спявала рэвалюцыйныя песні, іграла іх на раялі і нас вучыла. Часта спявала і ўкраінскія песні. Мама шмат лячыла сялян, у яе была вялікая аптэчка, сама рыхтавала лекі, прымала роды, упраўляла вывіхі. Усё гэта без спецыяльнай медыцынскай падрыхтоўкі. Яшчэ яна займалася льнаводствам. Выпісвала нейкія сарты лёну. Разам з мясцовымі жанчынамі вырошчвала яго і ткала шырокія палотны. Шырокія бёрды... У адным з пакояў стаялі кросны, яна сама ткала. Памятаю, пашыла сабе начныя сарочкі з уласнаручна вытканага палатна, вышыла іх (яна была і рукадзельніца) і з гонарам іх насіла. Бацька любіў чытаць. Любімымі яго пісьменнікамі былі Гогаль, Някрасаў. Захапляўся жонкамі дзекабрыстаў, чытаў паэму аб іх, і не раз. Калі я была падлеткам, ён неяк сказаў мне: "Ведаеш, я вось назіраў і бачу, што незаконны шлюб шчаслівейшы, чым законны". Гэта зразумела, таму што ў тыя часы шлюбы часта з'яўляліся камерцыйнай здзелкай або жаданнем "быць дваранкаю". Мае бацькі вельмі кахалі адно аднаго, і маці зрабіла "мезальянс", выходзячы за бацьку замуж, так што іх гэта не датычыць». Успаміны «Мае санаторыі і курорты» былі перакладзены Янінай Кісялёвай на беларускую мову і часткова надрукаваны пасля смерці М. П. Дубоўкі ў часопісе «Маладосць» (1994. № 2). Арыгінал успамінаў і іншыя запісы біяграфічнага характару захоўваюцца ў БДАМЛМ і ЦНБ НАН Беларусі імя Я. Коласа. Усе выпадкі цытавання спецыяльна агаворваюцца ў канцы цытат, тэксты, якія адзначаны архіўнымі шыфрамі, друкуюцца ўпершыню.

***Дубоўка Вячаслаў Мікалаевіч (1899–?)*** — старэйшы брат У. Дубоўкі. Генерал-маёр войск сувязі, выкладчык Ленінградскага ваеннага вучылішча. Арыштоўваўся ў 1938, вызвалены ў 1939. Кавалер ордэна Чырвонага Сцяга, начальнік сувязі Бранскага фронту падчас вайны. Ліст В. Дубоўкі да кіраўніцтва партыі Цытуецца паводле: Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1992. № 2.

***Дубоўка Канстанцін Фёдаравіч*** — стрыечны брат У. Дубоўкі, старэйшы сын Фёдара Дубоўкі. Менавіта нашчадкі К. Дубоўкі сёння валодаюць надзелам зямлі, на якім некалі стаяла хата, у якой нарадзіўся паэт. Успаміны цытуюцца паводле: «О Беларусь, мая шыпшына»: На радзіме Уладзіміра Дубоўкі» / склад. І. Заяц, І. Пракаповіч. Мінск: Тонпік, 2007.

***Дубоўка Уладзімір Фёдаравіч*** — стрыечны брат У. Дубоўкі, малодшы сын Фёдара Дубоўкі. Успаміны цытуюцца паводле: «О Беларусь, мая

шыпшына»: На радзіме Уладзіміра Дубоўкі» / склад. І. Заяц, І. Пракаповіч. Мінск: Тонпік, 2007.

***Дубоўка Язэп Мікалаевіч (Язэп Вазёрны; 1910–1938)*** — малодшы брат У. Дубоўкі. Паэт. У 1930-я — начальнік 3-га аддзялення Кіеўскага райваенкамата г. Масква. Арыштаваны ў 1938, расстраляны на Бутаўскім палігоне (згодна з расстрэльнымі спісамі г. Масква; у родных была іншая інфармацыя пра смерць Язэпа: нібыта ён памёр падчас допыту пасля катаванняў). Ліст Я. Дубоўкі ў рэдакцыю «Чырвонай змены» друкуецца паводле газетнай публікацыі.

***Дудар Алесь (сапр. Аляксандр Аляксандравіч Дайлідовіч; 1904–1937)*** — беларускі паэт, крытык, перакладчык. Удзельнік тэатральнай трупы У. Галубка. Заснавальнік аб'яднання «Маладняк», ініцыятар і суаўтар «Ліста трох» і тэатральнай дыскусіі, адзін з самых актыўных і вострых крытыкаў 1920-х (пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі). Апанент У. Дубоўкі ў літаратурных дыскусіях. Арыштаваны 20.03.1929 за верш «Пасеклі край наш папалам», высланы ў Смаленск. Паўторна арыштаваны ў высылцы ў 1930 па справе СВБ. Пасля вяртання з высылкі ў асноўным займаўся перакладамі. Трэці раз арыштаваны ў 1936, катаваны, расстраляны 29 кастрычніка 1937. Паказанні А. Дудара па справе СВБ цытуюцца паводле кнігі: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы: дакументальны нарыс. Мінск, 1996.

***Звонак Алесь (Пётр Барысавіч Звонак; 1907–1996)*** — беларускі паэт, драматург, перакладчык, тэатразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Сябра «Маладняка», кіраўнік Полацкай філіі. Арыштаваны ў 1936, асуджаны да 10 гадоў ВПЛ. Рэабілітаваны ў 1955. Урывак успамінаў друкуецца паводле выдання: Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мінск: Дзяржвыд, 1963.

***Зяленскі Уладзімір Венядзіктавіч*** — сусед Дубовак у пас. Почат Абанскага раёна. Характарыстка, дадзеная яму Дубоўкам у лісце да Ю. Пшыркова: «Уладзіміра Венядзіктавіча Зяленскага мы добра ведаем. Гэта — паляк, але, з першай вайны, жыў на Беларусі. Працаваў, здаецца, у камсамольскіх газетах трыццатых гадоў (або ўдзельнічаў). Пасля пераехаў у Сібір, быў і на адказных пасадах. Калі мы былі — працаваў настаўнікам у пачатковых класах (бо, як мне згадваецца, не мае спецыяльнай педагагічнай асветы). Ён быў нашым суседам (праз адзін дом). Я яшчэ пакінуў яму свой інструмент сталярны і некаторыя інструменты». Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 24.03.1965. Друкуецца ўпершыню.

***Камешанцаў Аляксандр Іванавіч*** — у 1934 старшыня Чэбаксарскага райспажыўсаюза. З ліста У. Дубоўкі да Ю. Пшыркова: «З гэтым чалавекам я працаваў разам у юрыдычным аддзеле кааперацыі з 1934 да ліпеня 1937.

Ён можа даць поўную карціну жыцця таго часу, бо я працаваў там вельмі плённа». Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 29.05.1965. Друкуюцца ўпершыню.

***Кіпель Яўхім Яўсеевіч (1896–1969)*** — беларускі грамадскі дзеяч, мемуарыст, актывіст беларускай дыяспары ў ЗША. У 1921 — сабра Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры НКА БССР, з 1926 — сакратар аддзела прыроды Інбелкульта. Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, высланы. Паўторна арыштаваны ў 1935, асуджаны на 5 гадоў лагера. Вызвалены ў 1940. У 1942 прабраўся ў акупаваны Мінск. Супрацоўнік Інспекцыі беларускіх школ, распрацоўшчык беларускіх падручнікаў, сябра Камітэта Беларускай народнай самапомачы, рэдактар газеты «Голас вёскі». Старшыня Другога Усебеларускага кангрэса, праведзенага падчас акупацыі. З 1944 у эміграцыі ў Германіі, з 1950 — у ЗША. Урыўкі з успамінаў цытуюцца паводле выдання: Кіпель Я. Эпізоды. Мінск: Лімарыус, 2013.

***Колас Якуб (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч; 1882–1956)*** — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, навуковы і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі. Акадэмік АН БССР (1928). Лісты да У. Дубоўкі цытуюцца паводле: Колас Я. Збор твораў: у 20 т. Мінск: Бел. навука, 2012.

***Купала Янка (Іван Дамінікавіч Луцэвіч; 1882–1942)*** — беларускі паэт, крытык, публіцыст, класік нацыянальнай літаратуры, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі. Акадэмік АН БССР, АН СССР. Тэкст цытуецца паводле выдання: Купала Я. Збор твораў: у 6 т. Т. 6. Мінск, 1963.

***Кухта Святлана Уладзіміраўна*** — дырэктар Почацкай сярэдняй школы. У дадзеным выданні цытуецца прыватная перапіска з укладальнікам.

***Лужанін Максім (сапр. Аляксандр Амвросьевіч Каратай; 1909–2001)*** — беларускі паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык. Сябра «Маладняка» і «Узвышша», супрацоўнік часопіса «Узвышша». Адзін з падпісантаў артыкула «Патрабуем жорсткай кары» супроць арыштаваных узвышэнцаў. Арыштаваны ў 1933, асуджаны да двух гадоў высылкі, вызваліўся датэрмінова. У час вайны — на фронце. Пасля — загадчык аддзела культуры «Звязды», адказны сакратар «Вожыка», рэферэнт АН БССР, асабісты сакратар і рэдактар Я. Коласа. 1967–1972 — галоўны рэдактар «Беларусьфільма». Тут цытуецца артыкул «Неспарадкаваная хата». (Дзеяслоў. 2013. № 6).

***Мікуліч Барыс Міхайлавіч (1912–1954)*** — беларускі празаік, мемуарыст, крытык. Сябра «Маладняка», сябра СП БССР (1934). У 1936 арыштаваны па справе «контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі», асуджаны на 10 гадоў ВПК. 1949 — арыштаваны паўторна, высланы на вечнае пасяленне. Памёр у высылцы. Цытуецца паводле: Мікуліч Б. Аповесць для сябе. Мінск: Маст. літ, 1993.

***Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996)*** — беларускі вучоны-хімік, культурны дзеяч. Старэйшы сын Я. Коласа. Першы дырэктар Музея Яуба Коласа. Аўтар успамінаў пра бацьку, Я. Купалу, літаратурны працэс сярэдзіны мінулага стагоддзя. У дадзеным выданні ўспаміны цытуюцца паводле: Корань В. Якуб Колас і Уладзімір Дубоўка: з гісторыі перапіскі // Каласавіны, 2006. Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2007.

***Мутовіна Ларыса Васільеўна*** — у 1950-я вучаніца Почацкай школы, вучаніца М. Дубоўкі. Успаміны сабраныя А. Ю. Папалавай. Друкуюцца ўпершыню.

***Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2012)*** — беларускі журналіст, літаратуразнаўца, перакладчык. Быў рэдактарам Дзяржвыда БССР, працаваў на тэлебачанні. За аповед у адной з праграм пра планы Святланы Алексіевіч напісаць кнігу «Цынкавыя хлопчыкі» быў адтуль звольнены. Член СП СССР з 1972. Перакладаў з балгарскай, быў узнагароджаны балгарскім ордэнам Кірылы і Мяфодзія (адзін з чатырох кавалераў ордэна ў Беларусі). Сцэнарыст-дакументаліст. У 1993 эміграваў у ЗША. Укладальнік зборніка драматургіі беларускай эміграцыі «Урачыстасць у садзе» (Мінск, 2007). Успаміны пра У. М. Дубоўку ўпершыню надрукаваныя ў «Запісах БІНІМ» (№ 8) пад назвай «Пясьняр волі й харaства». Тут цытуецца паводле: Дзеяслоў. 2010. № 47.

***Пальчэўскі Алесь (Аляксандр Восіпавіч; 1905–1979)*** — беларускі пісьменнік. Арыштаваны ў 1936, асуджаны да высылкі, пасля вызвалення настаўнічаў на Міншчыне, паўторна арыштаваны ў 1949, высланы ў Красныярскі край. Некаторы час жыў у Почаце. Рэабілітаваны ў 1954, з 1955 — у Мінску. У 1961–1971 — адказны сакратар часопіса «Вясёлка». Успаміны цытуюцца паводле: Пальчэўскі А. Пра Дубоўку // ЛіМ. 1994. № 3. 21 студз. С. 14–15 (публікацыя Г. Далідовіча).

***Папалава Антаніна Юліусаўна*** — настаўніца сярэдняй школы пас. Почат, кіраўнік вучнёўскіх навуковых работ, прысвечаных У. Дубоўку, збіральніца біяграфічных і мемуарных сведчанняў початцаў пра слыннага жыхара Почата. Сабраныя Антанінай Юліусаўнай матэрыялы друкуюцца ўпершыню.

***Платун Антон Мартынавіч (1896–1938)*** — дзяржаўны дзеяч БССР. Акадэмік АН БССР. З 1927 — старшыня Праўлення прафсаюза працаўнікоў асветы, у 1929–1933 — наркам асветы БССР. Арыштаваны ў 1937, расстраляны ў 1938. Урывак з артыкула друкуецца паводле публікацыі ва «Узвышшы».

***Плашчынская Станіслава Эдуардаўна (1908–1997)*** — мемуарыстка, жонка Язэпа Пушчы. Успаміны «З дзён далёкіх і блізкіх» друкуюцца паводле выдання: Пушча Я. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. Мінск: Маст. літ., 1994. С. 382.

***Пшыркова Таццяна Юльянаўна (нар. 1948)*** — філолаг, рэдактар-стыліст БелТА (1971–1992) апарата Савета Міністраў (1992–2010), Канстытуцыйнага Суда (2010–2013). Малодшая дачка Ю. Пшыркова. Захавальніца часткі архіва У. Дубоўкі, архіва свайго бацькі. Успаміны цытуюцца паводле інтэрв'ю парталу VELVET.by (http://www.velvet.by/shopwindow/uspeshnaya-zhizn/velvetovye-intervyu/velvetavae-nterv-yu-u-gastsyakh-u-g-story) і з прыватных гутарак з укладальнікам.

***Равенскі Мікалай Якаўлевіч (1886–1953)*** — беларускі кампазітар, дырыжор, фалькларыст, крытык. Выпускнік Маскоўскай кансерваторыі. Сябра У. Дубоўкі. Аўтар музыкі да песен на словы У. Дубоўкі («О Беларусь, мая шыпшына» і інш.), музыкі да оперы «Браніслава» на лібрэта У. Дубоўкі (опера знікла ў архівах НКУС, адноўлена толькі арыя Браніславы). Прызнаваўся, што Дубоўка сфарміраваў яго як творчую асобу, вырашальны ўплыў на кірункі і канцэпты ягонай творчасці (гл.: Чаркасава Д. Цярністы шлях Міколы Равенскага). Падчас акупацыі — рэгент царкоўнага хору г. Ігумен (Чэрвень). З 1944 — у эміграцыі. Успаміны цытуюцца паводле: Гардзіенка Н. Равенскі і Дубоўка ва ўзаемных згадках-успамінах // Узвышаўскія чытанні. 2015.

***Рамаsucceeded Рагнеда Мікалаеўна (нар. 1929)*** — дачка Кузьмы Чорнага. Успаіны цытуюцца паводле: Дубавец С., Бартосік З. Новы год з Рагнедай Раманоўскай: гутарка для радыё «Свабода» // www.svaboda.org/a/24867051.html.

***Росін Аляксандр Маркавіч (нар. 1952)*** — беларускі і амерыканскі журналіст, рэдактар, выдавец. Галоўны рэдактар часопіса «Флорыда» і газеты «Парус-FL». Успаміны друкуюцца ўпершыню.

***Савіных Іван Якаўлевіч*** — у 1931–1933 старшыня Яранскага райспажыўсаюза. Успаміны пра У. Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 27.03.1971. Друкуецца ўпершыню.

***Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995)*** — беларускі празаік, публіцыст. Лаўрэат прэміі імя Я. Коласа (1982). Сакратар СП БССР. Тут прыведзены цытаты з артыкула «Учарашняе і сягодняшняе» (ЛіМ. 1994. 28 студз.).

***Скрыган Янка (Іван Аляксеевіч; 1905–1992)*** — беларускі паэт, празаік, крытык, публіцыст. Член літаратурных аб'яднанняў «Літаратурна-мастацкая камуна» і «Маладняк». Арыштаваны ў 1936, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1949, высланы зноў. Пасля рэабілітацыі ў 1954 вянуўся на Беларусь. У 1967–1975 — загадчык літаратурна-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ, адказны сакратар Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (1975–1985). Успаміны цытуюцца паводле выдання: Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мінск: Маст. літ., 1990.

***Станюта Стэфанія Міхайлаўна (1905–2000)*** — беларуская актрыса. Народная артыстка СССР (1988). У 1926 — вучаніца Беларускай драматычнай студыі пры МХАТ у Маскве. Цытуецца паводле: Станюта А. Стэфанія. Мінск, 1994.

***Сцяпанава Марыя Пятроўна*** — жыхарка пас. Почат. У. Дубоўка піша пра яе Ю. Пшыркову: «Гэта надзвычайна здольная, працавітая і разумная жанчына, але малапісьменная. Яна ўвесь час трымала з намі сувязь, я дружыў з яе першым мужам (сталяр добры, памёр). Цяпер перапісваемся з ёй. Але папераджаю: ёй трэба пісаць вельмі проста, ясна і зразумела, што менавіта Вам патрэбна і дзеля чаго». Успаміны пра У. Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 10.03.1965. Друкуецца ўпершыню.

***Танк Максім (Яўген Іванавіч Скурко; 1912–1995)*** — беларускі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі. Акадэмік НАН Беларусі. Ганаровы грамадзянін г. Мінска і г. п. Радашковічы. Лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўнай прэміі СССР, прэміі імя Я. Купалы. У дадзеным выданні друкуюцца ўрыўкі з дзённікаў паводле: Танк М. Збор твораў: у 13 т. Мінск, 2006–2012.

***Трус Паўлюк (Павел Адамавіч; 1904–1929)*** — беларускі паэт. Адзін з самых таленавітых і папулярных паэтаў 1920-х. Сябра аб'яднання «Маладняк». Лісты да П. Глебкі цытуюцца паводле: Трус П. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2003; вершы, прысвечаныя Дубоўку, — паводле артыкула: Запартыка Г. Два вершы са спадчыны П. Труса // Скарыніч. Вып. 4.

***Улашчык Мікалай Мікалаевіч (1906–1986)*** — беларускі гісторык, археолаг, этнограф, краязнаўца, літаратар. Доктар гістарычных навук. У 1924–1930 — супрацоўнік Кніжнай палаты БССР, Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі. Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, высланы. Арыштаваны паўторна ў 1933, асуджаны да ВПЛ. Вызвалены ў 1935 без права вяртання ў Беларусь. Арыштаваны ў 1949, этапаваны ў лагер. Вызвалены ў 1955. Супрацоўнік Інстытута гісторыі АН СССР. У дадзеным выданні ўспаміны цытуюцца паводле: Улашчык М. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2001; Улашчык М. Даць народу гісторыю / укл. М. Скобла. Мінск: Лімарыус, 2016.

***Хадыкін Іван Пятровіч*** — калега У. М. Дубоўкі па Яранскім райспажыўсаюзе, у 1930-я — загадчык гандлёвага аддзела Яранскага райспажыўсаюза. Ягоная характарыстыка, дадзеная У. Дубоўкам у лісце да Ю. Пшыркова: «Цяпер пенсіянер, перадапошні час працаваў нават на Беларусі немаль не ў адказных органах, а тады — быў загадчыкам гандлёвага аддзелу ў горадзе Яранску. Жылі мы некаторы час, ды бадай гады са два — разам з імі на адным паверсе драўлянага двухпакаёвага дома».

Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 10.02.1965. Друкуецца ўпершыню.

***Цыральсон Ісаак Аронавіч*** — падпалкоўнік у адстаўцы, сусед У. М. Дубоўкі па доме па вул. Цурупы. Успаміны пра Дубоўку дасланыя лістом на запыт Ю. Пшыркова. Друкуюцца ўпершыню.

***Цэйтлін Яўсей Львовіч (нар. 1948)*** — рускі крытык, літаратуразнаўца. У цытаваных успамінах, надрукаваных у часопісе «Семь искусств» (2011. № 4), пераказвае сведчанні Ванкарэма Нікіфаровіча, з якім сябраваў у 1980-я.

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч (нар. 1943)*** — беларускі паэт, празаік. У 1960-я — рэдактар Беларускага радыё. У 1966–1988 — літсупрацоўнік, старшы рэдактар аддзела, адказны сакратар часопіса «Бярозка». З 1989 — літаратурны рэдактар часопіса «Вясёлка». У дадзеным выданні цытуецца артыкул «Напісанае застаецца» (ЛіМ. 2015. 17 ліп.).

***Чарот Міхась (Міхал Сямёнавіч Кудзелька; 1896–1937)*** — беларускі паэт, празаік, драматург. Рэдактар, грамадскі дзеяч. Закончыў Цітвянскае двухгадовае вучылішча, Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Афіцэр Кузнецкага запаснога палка расійскай імператарскай арміі, разам з іншымі афіцэрамі-беларусамі імкнуўся стварыць беларускі гурток у Кузнецку. Падчас Грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі падтрымліваў сувязь з падпольным рэвалюцыйным камітэтам у Мінску, арганізоўваў паўстанскія атрады. З 1918 вучыўся ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце, спяваў у хоры Тэраўскага. Старшыня тэатральнай трупы «Маладзік», акцёр трупы Уладзіслава Галубка. У 1925–1929 — рэдактар «Савецкай Беларусі». Адзін з арганізатараў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Маладняк» (пасведчанне № 1). У 1924–1931 — член ЦВК БССР, з 1927 — член Беларускага таварыства па культурных сувязях з замежжам. Загадчык літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Член Саюза пісьменнікаў БССР з 1934. Арыштаваны 24.01.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКУС за прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Пасля катаванняў прызнаў сябе вінаватым. Апошні верш «Прысяга» з доказам асабістай невінаватасці надрапаны на сценах адзіночнай камеры мінскай унутранай турмы НКУС (знойдзены вязнем той жа камеры Міколам Хведаровічам). Расстраляны 29.10.1937. Ліст да А. Крыніцкага друкуецца паводле: Скарыніч. Вып. 4. С. 19–20.

***Чорны Кузьма (Мікалай Карлавіч Раманоўскі; 1900–1944)*** — беларускі празаік, драматург, публіцыст. Сябра аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша». У 1932–1937 — галоўны літкансультант кабінета маладога аўтара пры СП БССР. Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны ў 1938, 6 месяцаў правёў у адзіночнай камеры, катаваны. Вызвалены ў 1939.

1941–1944 — у эвакуацыі. 1944 — у Мінску, супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Беларусь». Лісты да А. Бабарэкі друкуюцца паводле: Скарыніч. Вып. 4 (публікацыя Алесі Гесь).

*Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010)* — беларускі літаратар. У 1969–1979 — старшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы Беларусі, з 1979 — рэдактар, з 1982 — загадчык рэдакцыі серыйных выданняў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Успаміны цытуюцца паводле: Шупенька Г. Ён быў прыгожым чалавекам //Крыніца. 1997. № 8. С. 39–41.

*Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч (1916–2005)* — беларускі пісьменнік, літаратуразнаўца. Член СП БССР з 1953. У 1964 — супрацоўнік часопіса «Маладосць». У 1970–1972 — дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы. Урыўкі з выдавецкай рэцэнзіі друкуюцца ўпершыню.

*Яранцаў Павел Макаравіч* — калега У. М. Дубоўкі па Яранскім райспажыўсаюзе. У лісце да Ю. Пшыркова У. Дубоўка так ахарактарызаваў яго: «Таксама стары чалавек. Я працаваў разам з ім некалькі год у спажывецкай кааперацыі ў Яранску, ад 1931 да восені 1934. Ведае і можа сказаць не толькі пра маю непасрэдную работу, але і пра тое, як я на кааперацыйным гародзе выводзіў новыя для Яранску расліны разам з адным настаўнікам М. А. Лагуновым». Успаміны пра У. Дубоўку дасланыя на запыт Ю. Пшыркова, ліст датаваны 25.01.1965. Друкуецца ўпершыню.

# КАМЕНТАРЫ

[1] **Друцкія-Любецкія** — княжацкі род, які бярэ пачатак з Друцка (спачатку — горад у Полацкім княстве, потым — сталіца Друцкага княства, сёння — аграгарадок у Талачынскім раёне). **Уладзімір Ігнатавіч Друцкі-Любецкі** (1845–1905), які валодаў Манькавічамі напрыканцы XIX — на пачатку XX ст., быў ганаровым апекуном, шталмайстрам царскага двара, мецэнатам і навукоўцам, суаўтарам і фундатарам выдання «Материалы по истории и географии Disненского и Вилейского уездов Виленской губернии: издание А. Сапунова и кн. В. Друцкого-Любецкого» (Витебск: Губерн. Типо-Литогр., 1896, перавыдавалася 6 разоў, апошні раз — у 1968).

[2] «Устава на валокі» — інструкцыя, адмыслова распрацаваная ў 1557 для правядзення аграрнай рэформы на гаспадарчых землях ВКЛ. Кожнай гаспадарцы выдзялялася «валока» зямлі (прыкладна 21,36 га, ці 33 маргі, дадаткова давалася 3 маргі), якая і абкладалася павіннасцю.

[3] Перадзел зямлі ў 1863 — пасля здушэння паўстання 1863 года расійскі ўрад змяніў умовы вызвалення былых прыгонных сялян у Заходніх губернях. Указам ад 1 сакавіка 1863 абавязковая павіннасць для іх замянялася грашовым аброкам, ягоная сума зніжалася на 20 % адносна першапачатковых разлікаў, з 1 траўня сяляне прызнаваліся ўласнікамі надзеленых зямель, таксама надавалася права карыстацца землямі памешчыкаў (у асноўным пашай). З 2 лістапада 1863 на Беларусі працавала адмысловая ўрадавая камісія, якая пераглядала ранейшыя надзелы. Па выніках працы камісіі і рашэнняў адпаведных памешчыкаў сялян маглі прымусова перасяляць на незанятыя землі.

[4] Шчокатава — вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губерні, сёння — Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці.

[5] **Пшыркоў Юльян Сяргеевіч** (1912–1980) — беларускі літаратуразнаўца, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар. Сябра У. Дубоўкі. менавіта яго паэт прасіў заняцца ягоным архівам пасля смерці. Фонд 14 у ЦНБ НАН РБ сфармаваны з дакументаў, якія прывёз у Беларусь пасля смерці У. Дубоўкі Ю. Пшыркоў. Збіраў матэрыялы да біяграфіі сябра, ліставаўся са сведкамі яго жыцця.

[6] СВБ, Саюз вызвалення Беларусі — сфальсіфікаваная ў 1930–1931 ДПУ БССР крымінальная справа супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Па справе было арыштавана 108 дзеячаў навукі і культуры, 90 чалавек былі асуджаны Калегіяй АГПУ СССР у 1931 да розных тэрмінаў пакарання ў канцлагеры, ПТЛ і высылкі. Абсалютная большасць асуджаных у 1931 былі зноў арыштаваныя ў 1937–1938, расстраляныя ці сасланыя ў ГУЛАГ. Тыя, хто не загінуў у зняволенні, былі арыштаваныя

ў трэці раз у 1949–1952 (гл. Илькевич Н. Адам Бабарэка. Арест, ссылка, смерть).

[7] **Мікалай Фёдаравіч Дубоўка** — бацька Уладзіміра Дубоўкі. Нарадзіўся ў в. Агароднікі, пражыў 82 гады, памёр і пахаваны ў Ленінградзе, куды яго перавёз з Масквы старэйшы сын Вячаслаў пасля смерці жонкі ў 1945.

[8] Не шасцёра, а сямёра дзяцей было ў Мікалая і Настассі Дубовак. Старэйшы **Іван** (механік сувязі ў Коўне, прайшоў Першую сусветную, падчас яе вёў вельмі цікавыя і змястоўныя дзённікі, памёр у 1918 ад халеры, тады ж, падчас дэзынфекцыі, загінулі ягоныя нататкі), другі — **Вячаслаў** (генерал-маёр сувязі, выкладаў у Ваеннай акадэміі ў Ленінградзе). Трэцім быў **Уладзімір Дубоўка**, чацвёртай — дачка **Анастасія** (студэнтка Брусаўскага інстытута, працавала рэдактаркай у выдавецтвах, менавіта яна была найбольш блізкім сябрам і спадарожнікам брату Уладзіміру), пятым — **Леў** (заўчасна памёр у 1922 у дзень экзаменаў за курс сярэдняй школы), шостым — **Язэп** (паэт-маладняковец, пісаў пад псеўданімам Язэп Вазёрны, сканаў падчас допытаў у маскоўскай Бутырцы, па іншых звестках — расстраляны на Бутаўскім палігоне ў 1938). Нарэшце, малодшы — **Павел** (жыў у Архангельскай вобласці, ст. Валошкі, нашчадкі жывуць там і да сёння).

[9] Гэты тэкст у нязначна змененых варыянтах быў надрукаваны з рэдактарскай праўкай і цэнзурнымі купюрамі пад назвамі «Сярод людзей добрых» (Полымя. 1963. № 1) і «Мой жыццяпіс» («Пяцьдзесят чатыры дарогі». Мінск: Дзяржвыд, 1963). У дадзенай кнізе мы цытуем найперш аўтарызаваны машынапіс (БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 9), з якога пры друку ў 1963 былі выкраслены асобныя абзацы і нават старонкі (прыкладам, успаміны пра Ц. Гартнага).

[10] На працягу ўсяго XIX стагоддзя на Беларусі не было ніводнай школы, у якой выкладанне вялося б па-беларуску, таму гаворка ідзе не пра забарону школ, якіх і так не было, а пра забарону найперш мовы выкладання.

[11] «Огонёк» — расійскі дарэвалюцыйны, савецкі і сучасны штотыднёвы часопіс. Кожны нумар уяўляў з сябе больш за 400 старонак самай разнастайнай інфармацыі, пададзенай у выглядзе невялікіх артыкулаў, часам ілюстраваных. Артыкулы аб'ядноўваліся ў рубрыкі («Палітыка і жыццё манархаў», «Грамадскае жыццё», «Тэатр, музыка, асвета» і, нарэшце, самая вялікая — «Біяграфіі, мемуары, гісторыя»). Камплект нумароў чатырохсотстаронкавага «Огонька» быў сапраўды займальным чытаннем, якое надзяляла маленькага чытача безданню разнастайных эмпірычных ведаў.

[12] Увесну 1918 у Расіі знаходзілася прыкладна 2 мільёны 300 тысяч бежанцаў з беларускіх губерняў, 400 тысяч з іх на Беларусь болей не вярнуліся.

[13] **Настасся Іванаўна Дубоўка** — маці Уладзіміра Дубоўкі. Нарадзілася ў вёсцы Язы (недалёка ад Агароднікаў) у 1869 у сям'і селяніна Янкі Гайдукевіча. Памерла ў 1945 у Маскве, дзе і пахавана.

[14] Успаміны Марылі Пятроўны Дубоўкі напісаны на рускай мове і ўяўляюць з сябе некалькі вучнёўскіх сшыткаў і асобных лістоў з дадаткамі. Адзін варыянт успамінаў захоўваецца ў БДАМЛМ, другі — у ЦНБ НАН РБ, яны адрозніваюцца некаторымі дэталямі, фактамі, храналогіяй выкладання, але ў асноўных падзеях і фармулёўках усё ж супадаюць. Асноўная частка ўспамінаў перакладзена на беларускую мову Янінай Кісялёвай і надрукавана ўпершыню ў газеце «Голас Радзімы» ў 1995. Гэтая публікацыя стала для нас першаснай пры цытаванні, нягледзячы на тое, што мова арыгінала ў ёй не захаваная — Марыля Пятроўна добра ведала беларускую мову, карысталася ёю ў сямейным побыце, Уладзімір Мікалаевіч ліставаўся з жонкай па-беларуску (выключаючы перыяд лагера, што вытлумачальна), яе успаміны складаюць важную частку корпуса ўсіх успамінаў, і нам падалося важным захаваць іх «беларускасць». Аднак тыя фрагменты ўспамінаў, якія не публікаваліся сп. Я. Кісялёвай і цытуюцца з архіўных спраў БДАМЛМ і ЦНБ НАН РБ, на беларускую мову для гэтага выдання не перакладаліся і прыводзяцца на мове арыгінала.

[15] Гэты фрагмент — пра поўху — у журнальных публікацыях «Жыццяпісу» адсутнічае. Друкуецца ўпершыню з рукапісу «Мой жыццяпіс», які захоўваецца ў БДАМЛМ.

[16] Настаўніцкая семінарыя ў Нова-Вілейску, мястэчку Віленскай губерні, была адчыненая напярэдадні Першай сусетнай вайны, у 1914. У звязку з ваеннымі дзеяннямі была эвакуяваная спачатку ў Невель, а потым, у 1918, у г. Лебедзянь Тамбоўскай губерні і стала падмуркам для стварэння педагагічнага вучылішча, якое працуе і да сёння і носіць ганаровае званне найстарэйшай педагагічнай навучальнай установы Ліпецкай вобласці. На жаль, у архівах Лебедзянскага педагагічнага каледжа ніякіх дакументаў Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі не захавалася. Паводле інфармацыі У. Ляхоўскага, «падчас эвакуацыі з Нова-Вільні ў Невель большая частка маёмасці не вывезена і разрабавана, знікла таксама бібліятэка. На 1918 г., паводле дадзеных Белнацкама, з 8 выкладчыкаў — 5 беларусаў; з 78 семінарыстаў — 71 беларус. Белнацкам разам з Віцебскім губернскім аддзелам народнай асветы планаваў перавесці семінарыю ў г. Вяліж. Педагагічная рада семінарыі на чале з М. Ушаковым без ведама аддзелаў народнай асветы БНК і Віцебскага губвыканкама з дазволу Наркамасветы РСФСР у жніўні 1918 г. дамаглася на пераезд навучальнай установы ў г. Лебедзянь Тамбоўскай губ.» (НАРБ. Ф. 4 (БНК). Воп. 1. Спр. 84. Л. 18 — 23 адв. Спр. 79. Л. 193–194).

[17] **Саламевіч Янка** (Іван Уладзіміравіч; 1938–2012) — беларускі фальклярыст, энцыклапедыст, бібліёграф, літаратуразнаўца. Перапіска з У. Дубоўкам надрукавана Я. Саламевічам у альманаху «Тэрмапілы» (2007. № 11) пад назвай «Я казаў вам шчырую праўду пра той час».

[18] Памылка П. Глебкі. Правільна — Рэйнскі.

[19] «Матчын дар» (1917) — першы зборнік вершаў беларускага нашаніўскага паэта Алеся Гаруна (Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі).

[20] Невель — мястэчка, потым горад (з 1772) за 100 км ад Віцебска, доўгі час — спрэчная тэрыторыя паміж Масквой і Літвой. З 1796 — у складзе Беларускай губерні Расійскай імперыі (з цэнтрам у Віцебску), з 1801 — у складзе Віцебскай. Пасля 1918 — у складзе РСФСР.

[21] «Шляхам жыцця» (1913) — трэці зборнік вершаў Янкі Купалы пасля «Жалейкі» (1908) і «Гусляра» (1910). Выдадзены ў Санкт-Пецярбургу выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца». У зборнік увайшлі больш як 200 вершаў, аб'яднаных у сем раздзелаў: «Бацькаўшчына», «Па межах родных...», «Для Яе», «Наша вёска», «Сваім і чужым», «Байкі і аповесці», «Пераклады з польскай». Цэнтральная тэма зборніка — адраджэнне Беларусі, маладыя сілы, якія гартуюцца ў краіне ў імя яе славы і пачэснага месца сярод народаў.

[22] У аўтабіяграфіі, дасланай Я. Карскаму, Я. Купала піша: «Якія былі адносіны ўраду да мяне? Трудна сказаць. Хіба — ніякія. Вось толькі хіба тое, што мая кніжка "Жалейка" была канфіскавана і выдаўцоў яе цягалі ў суд. Але праз пратэкцыю канфіскату знялі. Рукапісы мае ў Вільні ў "Нашай Ніве" была захапіла ахранка, пасля часць вярнула, а часць прапала. За ніякія справы ні разу не судзіўся. Толькі ў час вайны канфіскавалі адзін нумар "Нашай Нівы" — і мяне, як рэдактара, вызываў следавацель». У БДАМЛМ захоўваюцца «Дела отделения канцелярии Главного управления по делам печати о брошюре на белорусском наречии "Жалейка" Янки Купалы» за 5–18 лістапада 1908 (Ф. 8. Воп. 2. Спр. 18), а таксама матэрыялаў Часовага камітэта па справах друку ў г. Вільні на артыкул «Думкі», змешчаным у газеце «Наша Ніва» № 2 за 1915, і ўзбуджэнне судовага пераследу супраць рэдактара «Нашай Нівы» І. Д. Луцэвіча (Ф. 66. Воп. 1. Спр. 185). Такім чынам, занепакоенасць семінарыстаў была небеспадстаўная.

[23] «Ні мір, ні вайна» — палітычнае становішча, якое склалася ў выніку зрыву мірных перамоў у Брэст-Літоўску дэлегацыяй партыі бальшавікоў на чале з Л. Д. Троцкім. Сітуацыя выйшла з-пад кантролю і абумовіла шырокамаштабны, нічым не стрыманы наступ нямецкага войска, у выніку якога амаль уся Беларусь апынулася пад акупацыяй.

[24] Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут (Высший литературно-художественный институт, ВЛХИ, Брюсовский институт) — спецыяльная вышэйшая навучальная ўстанова ў г. Масква (1921–1925), арганізаваная з ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле Валерыя Брусава (імя Брусава інстытуту далі ў 1923 да пяцідзесяцігоддзя паэта і рэктара ВЛМІ). Цягам трох гадоў навучання ў інстытуце рыхтавалі паэтаў, белетрыстаў, перакладчыкаў, драматургаў, крытыкаў. У 1925 у сувязі з жыллёвым крызісам у Маскве шэраг ВНУ, у тым ліку і ВЛМІ, вырашылі перавесці ў Ле-

нінград, але студэнты і абсалютная большасць выкладчыкаў адмовіліся ад пераезду, і інстытут быў ліквідаваны.

[25] **Брусаў Валеры Якаўлевіч** (1873–1924) — рускі паэт, празаік, крытык, перакладчык, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч, педагог. Заснавальнік, тэарэтык і практык сімвалізму, адзін з самых маштабных дзеячаў літаратурнага працэсу пачатку стагоддзя. З 1920 — член Камуністычнай партыі, супрацоўнік Наркампроса, кіраўнік Прэзідыума Усерасійскага саюза паэтаў, рэктар ВЛМІ.

[26] **Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч** (1903–1964) — рускі паэт і драматург, выпускнік ВЛМІ, выкладчык Літінстытута імя А. М. Горкага.

[27] **Злобін Сцяпан Паўлавіч** (1903–1965) — рускі пісьменнік. Выпускнік ВЛМІ.

[28] **Благініна Алена Аляксандраўна** (1903–1989) — руская паэтка, перакладчыца і мемуарыст. Выпускніца ВЛМІ.

[29] **Вясёлы Арцём** (Мікалай Іванавіч Качкуроў; 1899–1938) — рускі пісьменнік. Вучыўся ў ВЛМІ, потым — у МГУ. Член літаратурнай групы «Перавал», потым — РАПП.

[30] **Пурышаў Барыс Іванавіч** (1903–1989) — рускі літаратуразнаўца, выпускнік ВЛМІ.

[31] У МГУ паступіў таксама і У. Дубоўка ў 1918, але правучыўся толькі месяц — цяжкае фінансавае становішча сям'і вымагала пайсці працаваць.

[32] **Коган Пётр Сямёнавіч** (1872–1932) — рускі літаратуразнаўца. Гісторык літаратуры, крытык. У ВЛМІ выкладаў гістарычны матэрыялізм і замежную літаратуру Захаду.

[33] **Цяўлоўскі Мсціслаў Аляксандравіч** (1883–1947) — рускі літаратуразнаўца. У ВЛМІ выкладаў рускую літаратуру 1800–1830-х.

[34] **Ушакоў Дзмітрый Мікалаевіч** (1873–1942) — філолаг, укладальнік акадэмічнага Тлумачальнага слоўніка рускай мовы. Выкладаў лінгвістычныя дысцыпліны ў ВЛМІ.

[35] **Сакалоў Юры Міхайлавіч** (1889–1941) — рускі фальклярыст, літаратуразнаўца. У ВЛМІ выкладаў рускую маўленчую славеснасць.

[36] **Адаліс Адэліна** (Адэліна Аляксееўна Віскаватава, Адэліна Яфімаўна Ефрон; 1900–1969) — руская паэтка, празаік, перакладчыца.

[37] **Наседкін Васіль Фёдаравіч** (1895–1938) — рускі паэт. Член групы «Перевал».

[38] **Машбіц-Вераў Іосіф Маркавіч** (1900–1989) — рускі крытык і літаратуразнаўца, вучыўся годам пазней за Дубоўку.

[39] **Галодны Міхаіл Сямёнавіч** (Эпштэйн; 1903–1949) — рускі паэт. Член аб'яднання «Молодая гвардия», адзін з арганізатараў «Перевала».

[40] **Шміт Ота Юльевіч** (1891–1956) — вучоны, матэматык, геафізік, астраном. У 1921–1924 — кіраўнік Дзяржвыда, член камісіі па рэфармаванні вышэйшай школы (таму менавіта да яго і звяртаўся Брусаў па падручнікі для інстытута).

[41] **Вароўскі Вацлаў Вацлававіч** (1871–1923) — рэвалюцыянер, публіцыст, літаратурны крытык, адзін з першых савецкіх дыпламатаў.

[42] Граф Ф. Л. Салагуб валодаў домам па вул. Паварской з 1888. У 1917–1918 у будынку месцілася ВЧК, з 1918 — жыў А. В. Луначарскі, размяшчаліся савецкія культурніцкія ўстановы, у тым ліку Наркамат па справах нацыянальнасцяў. З 1921 «дом Салагуба» перададзены ВЛМІ імя Брусава. Звесткі пра тое, што менавіта гэты дом з'яўляецца прататыпам дома Растовых у «Вайне і міры» Л. М. Талстога, не маюць дакументальнага падцверджання, але карыстаюцца папулярнасцю сярод масквічоў.

[43] Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам) — аддзел Наркамата па справах нацыянальнасцяў РСФСР у 1918–1919. На момант стварэння ім кіравалі А. Чарвякоў, В. Скарынка, З. Жылуновіч. Меў аддзяленні ў Петраградзе, Смаленску, Віцебску. Вёў палітычную і культурна-асветніцкую работу сярод беларусаў у Расіі, узяў на ўлік беларускія арганізацыі і ўстановы, эвакуіраваныя ў час Першай сусветнай вайны, адкрываў беларускія школы, арганізаваў беларускі народны ўніверсітэт у Маскве, выдаваў літаратуру на беларускай і рускай мовах.

[44] «Дзянніца» — беларуская газета ў Пецярбургу, заснаваная З. Жылуновічам.

[45] **Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч** (1892–1937) — беларускі дзяржаўны дзеяч, адзін са стваральнікаў БССР. У 1918 — камісар Белнацкама. У 1920–1924 — старшыня ЦВК і СНК БССР, у 1924–1937 — старшыня ЦВК БССР. Шмат увагі надаваў развіццю нацыянальнай культуры, сталенню беларускай нацыянальнай свядомасці.

[46] Бурбіс С. — памылка ў ініцыялах і фактах. **Аляксандр Лаўрэнцьевіч Бурбіс** (1885–1922), беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, стаяў на пачатку беларускай дзяржаўнасці, але ўдзельнічаў ва ўтварэнні не БССР, а БНР (у 1918 — консул БНР у Маскве). Напэўна, блытаніна ўзнікла таму, што А. Бурбіс, які ў 1921 уступіў у камуністычную партыю, актыўна ўдзельнічаў у распрацоўцы дамовы паміж БССР і РСФСР як намеснік народнага камісара замежных справаў БССР.

[47] **Жылуновіч Зміцер Фёдаравіч** (псеўд. Цішка Гартны, Сымон Друк; 1887–1937) — беларускі пісьменнік, крытык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Старшыня Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі. Член прэзідыума Інбелкульта. Дырэктар Дзяржвыдавецтва БССР, Цэнтральнага архіва БССР. Ініцыятар стварэння літаратурнага аб'яднання «Полымя». У сувязі з абвінавачваннямі З. Жылуновіча ў «нацыянал-дэмакратызме» 16 студзеня 1931 пастановай ЦКК КП(б)Б выключаны з партыі,

15 лістапада 1936 арыштаваны. Памёр 7 красавіка 1937 у Магілёўскай псіхіятрычнай лячэбніцы.

[48] Навасіль — адзін з найстарэйшых гарадоў Цэнтральнай Расіі, уезны горад Тульскай губерні, сёння — райцэнтр Арлоўскай вобласці.

[49] Дэкрэт аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы быў прыняты СНК Расійскай Рэспублікі 2 лютага 1918.

[50] Паўнамоцнае прадстаўніцтва БССР было створанае ў 1921 у рамках Дагавора паміж РСФСР і БССР, які паскараў працэс уніфікацыі заканадаўчай і выканаўчай улады рэспублік і выніковага іх аб'яднання ў СССР (1922).

[51] Маецца на ўвазе падшыўка «Савецкай Беларусі», штодзённай грамадска-палітычнай газеты, якая выдавалася па-беларуску спачатку ў Смаленску, а потым — стала ў Мінску з 1920 да 1933. Першы рэдактар — С. Булат, потым у розныя часы — З. Жылуновіч, В. Ігнатоўскі, М. Чарот. Менавіта ў гэтай газеце ў 1921 былі ўпершыню надрукаваныя вершы У. Дубоўкі.

[52] **Мароз Міхаіл Івановіч** (1896–1944) — Паўнамоцны прадстаўнік (паўпрэд) урада БССР пры ўрадзе РСФСР у 1921–1924, старшыня ЦБ Беларускага студэнцкага зямляцтва ў Маскве, з 1926 — кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульта па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды. Яму прысвечана паэма У. Дубоўкі «Студэнт». Мароз і Дубоўка працавалі разам у Прадстаўніцтве БССР пры РСФСР, сябравалі, але ў 1928 М. Мароз быў сярод членаў камісіі, якая вырашыла выкінуць з Беларускай энцыклапедыі імёны Дубоўкі і Чорнага, прымаў у абмеркаванні самы непасрэдны ўдзел, і Дубоўка, абазваўшы яго «сволаччу» ў лісце да Бабарэкі, парваў з ім усялякую сувязь.

[53] Першы друкаваны верш У. Дубоўкі «Сонца Беларусі» быў дадзены ў «Савецкай Беларусі» праз шэсць дзён пасля вышэй цытаванай адмовы.

Як зорачкі ўночы,
Што на небе нам гараць,
Бліскаюць у вочы,
Думку і сэрцэ весяляць, —
Так на Беларусі роднай
Заблішчэлі асьветы гурткі:
У мястэчку, вёсцы кожнай
Прачнуліся ўсе куткі!
Пасьля зорак дзень прыходзіць,
З-за пушчы сонейка усходзіць,
Блішчэньнем заліваюць усё кругом...
Гэтак Беларусь светам знаньня мы зальлём!

[54] **Каравайчык Павел Гіляравіч** (1896–1937) — беларускі крытык, паэт, публіцыст, медык. Характарыстыку яму У. Дубоўка даў у лісце да Я. Саламевіча: «Быў у нас такі дзеяч Павал Гіляравіч Каравайчык. Ён загінуў,

мабыць, у 1937 г. у г. Чэбаксары, дзе працаваў неўрапатолагам у Чэб. паліклініцы. Гэта быў чалавек выключна высокай адукацыі. Ведаў ён дасканала блізу 10–12 моваў: польскую, чэскую, англійскую, французскую, італьянскую, гішпанскую, латынь, грэчаскую, стар.-яўрэйскую, чувашскую (вывучыў у Чэбаксарах: "А як жа з хворымі праз перакладчыка размаўляць?!"). Сусветную літаратуру ведаў па першакрыніцах так, як ніводзін прафесар літаратуры. Родам ён з м. Любча (Зах. Бел.). Вучыўся выдатна ў сваёй школе, чаму быў накіраваны ў Пецярбург у гімназію св. Екацярыны на поўную стыпендыю. Пасля заканчэння яе стаў студэнтам Ваен.-Мед. Акадэміі аж да пачатку рэвалюцыі, калі быў пакліканы ў Чырв. Армію. Хадзіў у яе шэрагах пад Варшаву. Пасля — працаваў разам са мной у НКА РСФСР метадыстам Бел. Цэнтр. бюро Глаўсоцвыхавання. Адтуль паехаў у Мінск і стаў студ. мед. факультэту. Канчаючы яго, пісаў навуков. працу «Дуэль і смерць Пушкіна», у якой давёў, што пры тагачасным станов. мед. Пушкін мог застацца жывым, калі б гэта было пажаданым некаму... Будучы ў Мінску, бадай не ўсе міжнародныя агляды ў газ. "Сав. Белар." пісаў ён. Раней (у "Вольн. Бел." і іншых выданнях) друкаваў вершы. Пад вершамі збольшага падпісваўся Paulus (Напрыклад: ...Беларусы, беларусы, Жыцця помніце закон — што без руху — то ўмірае і г. д.) Далей яго псеўданімы былі — Павал Каравай, Павал Любецкі, П. К., П. Л. Магчыма і яшчэ якія (пад перадавіцамі)» (*ліст У. Дубоўкі да Я. Саламевіча ад 05.01.1975*). Справа, па якой Дубоўка быў арыштаваны ў Чэбаксарах, была заведзена на яго, Каравайчыка і Мамчыца. Дубоўка і Мамчыц былі асуджаны да 10 гадоў ВПЛ, Каравайчык — да расстрэлу.

[55] **Булат Сцяпан Герасімавіч** (1894–1921) — беларускі палітычны дзеяч. Адзін з аўтараў і падпісантаў «Заявы трыццаці двух», у якой разгортвалася праграма нацыянальнага, дзяржаўнага, эканамічнага адраджэння Беларусі на падмурку нацыянальнай ідэі.

[56] **Кашкін Іван Аляксандравіч** (1899–1963) — рускі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Быў студэнтам ВЛМІ і адначасова выкладаў там англійскую мову.

[57] **Песіс Барыс Аронавіч** (1901–1974) — расійскі літаратуразнаўца, перакладчык, выпускнік ВЛМІ.

[58] **Ізі Харык** (Харык Ісак Давыдавіч; 1896–1937) — беларускі габрэйскі паэт, у 1921–1923 вучыўся ў ВЛМІ.

[59] **Якаўчык Клімент Марцінавіч** (1898–1941) — беларускі паэт і перакладчык. Адзін з першых перакладчыкаў беларускай літаратуры на рускую мову. Узвышаўскі крытык (пад псеўданімам К. Кундзіш).

[60] **Луначарскі Анатоль Васільевіч** (1875–1933) — рускі савецкі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, крытык.

[61] **Асееў Мікалай Мікалаевіч** (1889–1963) — рускі паэт, член групы «ЛЕФ».

[62] **Шэнгелі Георгій Аркадзьевіч** (1894–1956) — рускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнаўца. У ВЛМІ выкладаў вершазнаўства.

[63] **Рукавішнікаў Іван Сяргеевіч** (1877–1930) — рускі пісьменнік, паэт, перакладчык. Прафесар ВЛМІ, выкладаў вершаскладанне.

[64] **Гершэнзон Міхаіл Восіпавіч** (1869–1925) — рускі філосаф, літаратуразнаўца, перакладчык, журналіст. У ВЛМІ выкладаў літаратуразнаўчыя дысцыпліны.

[65] **Грыгор'еў Міхаіл Сцяпанавіч** (1890–1980) — рускі літаратуразнаўца, тэатразнаўца. С 1921 — прафесар, а з 1922 — прарэктар па вучэбнай частцы ВЛМІ. У ВЛМІ выкладаў логіку і псіхалогію.

[66] Анкета была распрацаваная для Прафесійна-тэхнічнай школы паэтыкі (Паэтычнага тэхнікума), дзе ў 1921 працавалі Валеры Брусаў і іншыя выкладчыкі будучага ВЛМІ і якая была аб'яднаная з Інстытутам у 1922.

[67] **Надсан Сямён Якаўлевіч** (1862–1887) — рускі паэт.

[68] В. Я. Брусаў пазнаёміўся з Янкам Купалам у 1914 у Вільні. Найбольш вядомыя брусаўскія пераклады «На Купалье» і «По лесам как зацветали». Тры вершы ў перакладзе Брусава ўвайшлі ў кнігу «Янка Купала. Избранные стихотворения» (М., 1919).

[69] **Александровіч Андрэй Іванавіч** (1906–1963) — беларускі паэт, крытык, публіцыст. Удзельнік хору У. Тэраўскага. Адзін з арганізатараў «Маладняка», рэдактар часопіса «Малады араты». Удзельнік «маладнякоўскага» байкоту супраць Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу ў 1926. Член БелАПП. Актыўны ўдзельнік «антынацдэмаўскай» кампаніі (паэма «Цені на сонцы»).

[70] **Вольны Анатоль** (Анатоль Іўсцінаівіч Ажгірэй; 1902–1937) — беларускі паэт, празаік, кінадраматург, журналіст. Арганізатар і сябра аб'яднання «Маладняк», затым — «Полымя». Вядомы таксама як аўтар фельетонаў пад псеўданімам «Алёша».

[71] **Пушча Язэп** (Іосіф Паўлавіч Плашчынскі; 1902–1964) — беларускі паэт, крытык, перакладчык. Адзін з арганізатараў аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Арыштаваны па справе СВБ у 1930, высланы ў Шадрынск. У 1937–1941 — дырэктар Манакоўскай школы (Мурамскі раён Уладзімірскай вобл.), у 1941–1945 — на фронце, пасля вайны — дырэктар Чаадаеўскай школы (той жа Мурамскі раён). Рэабілітаваны ў 1956, вярнуўся ў Мінск у 1958.

[72] **Чарнушэвіч Нічыпар Тодаравіч** (1900–1987) — беларускі паэт, драматург. Член аб'яднання «Маладняк».

[73] **Дуброўскі Міхась Георгіевіч** (1897–1983) — беларускі пісьменнік. Выпускнік ВЛМІ.

[74] **Бэр Эстэр** (Эстэр Айзікаўна Бярэзіна; 1903–1997) — перакладчыца. Пачынала вучыцца ў ВЛМІ, закончыла Літінстытут імя А. М. Горкага.

[75] **Жывава Яўгенія Сямёнаўна** — журналіст, культурны дзеяч, перакладчыца з польскай і ўкраінскай моў.

[76] **Каменскі Васіль Васільевіч** (1884–1961) — рускі паэт, мастак, драматург. Удзельнік групы «ЛЕФ».

[77] Адна з найскладнейшых цвёрдых строф у паэзіі. Назва «сафічная страфа» ўзыходзіць да імя антычнай паэткі Сафо (VI ст. да НХ).

[78] Алкеева страфа — вынайдзена, як лічыцца, грэчаскім паэтам Алкеем (VII–VI стст. да НХ). У рускай літаратуры яе асвойваў найперш В. Брусаў.

[79] «Чысткі рускай паэзіі» — адмысловыя паэтычныя вечарыны, якія двойчы ладзіў У. Маякоўскі. Афішы абяцалі «чистку», «глумление над русской литературой», таму зала Політэхнічнага музея была паўнюткай. На першым вечары, напрыклад, «чысцілі» літаратуру ад Ганны Ахматавай і «ничевоков», пакінулі ж у літаратуры юнага паэта Кавалеўскага і футурыста Кручоных.

[80] Політэхнічны музей — адзін з найстарэйшых навукова-тэхнічных музеяў свету. У 1904 у будынку музея на Новай плошчы адкрыта Вялікая аўдыторыя («Большая аудитория»), якая стала адной з самых папулярных публічных пляцовак Масквы.

[81] Альманах «Маладая Беларусь» — альманах беларускіх студэнтаў у Маскве, адна кніжка якога выйшла ў 1922. Аднім з ініцыятараў, арганізатараў і аўтараў альманаха быў сябра Дубоўкі Гаўрыла Гарэцкі. Даволі хутка па выхадзе альманаха Г. Гарэцкі быў арыштаваны ГПУ, а дзейнасць Беларускай культурна-асветніцкай асацыяцыі, пад эгідай якой выдаваўся альманах, была абвінавачаная ў «навуковых адхіленнях», «нацыянал-шавінізме», «апалітычнасці», больш ён не выходзіў. Назва паўтарае назву альманаха «Маладая Беларусь», які выдаваўся ў 1912–1913 суполкай «Загляне сонца ў наша ваконца» ў Санкт-Пецярбургу.

[82] Згодна з дадзенымі разліковай кніжкі (ЦНБ НАН РБ. Ф. 14. Воп. 1. Адз. з. 792. Л. 93), у 1927 заработная плата У. Дубоўкі складала 200 рублёў, выдавалася 2 разы на месяц, 15 і 30-га.

[83] Літаратурная творчасць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа): зборнік крытычных артыкулаў. М., 1926. У гэты зборнік уключаны артыкул У. Дубоўкі «Мастакая проза Якуба Коласа».

[84] Абставіны гібелі Ганны Гарэцкай яшчэ больш трагічныя, чым можна меркаваць па ўспаміне Г. Гарэцкага, бо ўсе падрабязнасці ў час напісання ўспамінаў распавесці ён не мог. 13 жніўня 1922 Гаўрыла Гарэцкі быў арыштаваны ў сваім інтэрнацкім пакоі па даносе аднакурсніка Рындзіна. Арышт і следства вялося ў рамках масавых рэпрэсій супраць прафесуры і студэнцтва, якія лютавалі ў Маскве і Петраградзе ў 1921–1922, пасля

студэнцкіх пратэстаў, выкліканых нялюдскімі ўмовамі жыцця і вучобы ў ВНУ. Гарэцкаму тады ўдалося пазбегнуць высылкі з Саветаў дзякуючы заступніцтву студэнцкай грамады і высокіх партыйных чыноў (У. Дубоўка таксама пісаў у адпаведныя органы становучыя характарыстыкі і просьбы аб вызваленні сябра). Але пакуль Гарэцкі знаходзіўся пад следствам, сястра Ганна насіла яму перадачы і па дарозе з турмы, у роспачы і смутку, трапіла пад трамвай. Гарэцкі тэрмінова падаў заяву турэмнаму кіраўніцтву, каб яго выпусцілі на тры дні даглядаць сястру ў бальніцы, бо больш нікога з сям'і ў Маскве не было. Яго адпусцілі, і ён неадлучна знаходзіўся каля Ганны да яе смерці 19 верасня. Пасля пахавання Гаўрыла вярнуўся ў турму. (гл.: Илькевич Н. Академик Гаврил Горецкий. Первое столкновение с ГПУ).

[85] «Строма» (1923) — першы зборнік Уладзіміра Дубоўкі, які выйшаў у Вільні. Анонс выхаду кніжкі, аб'ява аб выхадзе і першая рэцэнзія на яе былі надрукаваны ў віленскай газеце «Наша будучына». Аўтар рэцэнзіі — Антон Навіна (псеўданім Антона Луцкевіча, беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, заснавальніка БСГ і БСДП, арганізатара і члена рэдкалегіі «Нашай Нівы» і «Нашай долі», члена Рады БНР). Вельмі ўдала выбраная назва зборніка: «строма» — адначасова і «адхон, круты спуск, абрыў», і «быстрыня, хуткая плынь», і «касагор, круча». Вершы, якія ўвайшлі ў «Строму», розныя з пункту гледжання мастацкай дасканаласці, не ўсе з іх Дубоўка потым уключыў у «Выбранае», але першыя рэцэнзіі і першыя водгукі на зборнік былі выключна станоўчымі. Зборнік прысвечаны памяці Ганны Гарэцкай: «Светлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілку на чужыне, прысвячаю. Аўтар». Акрамя сяброўскай шчырасці і смутку ў гэтым прысвячэнні бачыцца і наследаванне традыцыі М. Багдановіча, які свой першы і адзіны зборнік «Вянок» прысвяціў «вянком на магілку» трагічна загінуламу на чужыне С. Палуяну.

[86] **Рэклю Жак Элізе** (1830–1905) — французскі географ і гісторык, член Парыжскага геаграфічнага таварыства. Маецца на ўвазе ягоная 19-томная навуковая праца «Зямля і людзі. Усеагульная геаграфія».

[87] **Гурло Алесь** (Гурло Аляксандр Кандратавіч; 1892–1938) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. Член аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя».

[88] Гэты ліст надрукаваны ў зборніку ўспамінаў пра Ц. Гартнага, укладзенага ягонай дачкой, без апошняга абзаца (пра межы прыстойнасці).

[89] Гэты эпізод цалкам адсутнічае ў часопіснай публікацыі «Сярод людзей добрых». Друкуецца ўпершыню.

[90] **Баліцкі Антон Васільевіч** (1891–1937) — беларускі дзяржаўны дзеяч, публіцыст. У 1926–1929 — наркам асветы БССР, адзін з праваднікоў палітыкі беларусізацыі.

[91] **Хацкевіч Аляксандр Ісакавіч** (1895–1937) — беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1926–1927 — пастпрэд БССР пры кіраўніцтве РСФСР.

[92] **Лойка Міхаіл Фёдаравіч** (1892–1937) — эканаміст, географ, матэматык. З 1921 у Маскве загадчык Бюро беларускай секцыі Наркамасветы РСФСР.

[93] **Бэндэ Лука Апанасавіч** (1903–1961) — беларускі крытык і літаратуразнаўца, адзін з самых адыёзных асобаў у беларускім літпрацэсе. У асабістым архіве Л. Бэндэ захоўваецца ніколі не надрукаваны зборнік У. Дубоўкі «Дэпешы без адраса», падрыхтаваны паэтам у 1929.

[94] **Тодар Глыбоцкі** — псеўданім, пад якім выходзілі крытычныя артыкулы Алеся Дайлідовіча (Дудара).

[95] Існуе красамоўная байка, што аднойчы, карыстаючыся адсутнасцю Ц. Гартнага на працоўным месцы, У. Дубоўка, якому на той момант Ц. Гартны цалкам перакрыў доступ да беларускага друку, «наклаў кучу» яму ў шуфляду. Ускоснае пацверджанне гэтай байкі знаходзім у паказаннях А. Дудара па справе СВБ, у якіх ён цытуе нецэнзурны, але ж папулярны сярод літаратурнай моладзі сярэдзіны 1920-х верш «ср...лі мы, як некалі Дубоўка...» (гл.: Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы).

[96] Маюцца на ўвазе допыты па справе СВБ, падчас якіх збіраўся кампрамат і для наступных спраў НКУС.

[97] Усерасійская сельскагаспадарчая і кустарна-прамысловая выстава адкрылася ў Маскве 19 жніўня 1923 на Вераб'ёвых гарах і была першым маштабным мерапрыемствам такога кшталту. Менавіта з яе пасля выраслі ВСХВ і ВДНХ. Да адкрыцця і працы выставы былі прымеркаваныя і масштабныя культурныя мерапрыемствы. Выстава працавала некалькі месяцаў і атрымала вялікі розгалас у савецкіх рэспубліках і свеце. Супрацоўнікі Паўпрэдства БССР актыўна ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы павільёна і арганізацыі ягонай працы.

У выпісцы з Журнала наведванняў беларускага павільёна ВСХВ дадзена рэпліка за подпісам Уладзіміра Дубоўкі: «Беларусы паказалі на выстаўцы толькі частку, нават нязначную, таго, што яна мае і гэта дае шмат цікавага і каштоўнага. Будзем спадзявацца, што ў наступныя разы мы займём сваімі экспанатамі [*нрзб*] належнае нам месца» (НАРБ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 48).

[98] **Тэраўскі Уладзімір Васільевіч** (1871–1938) — беларускі дырыжор, кампазітар, фалькларыст, святар. У. Дубоўка ўдзельнічаў у стварэнні і працы адмысловай камісіі па гарманізацыі для школ і грамадскіх хораў зборніка народных песень, запісаных М. А. Янчуком. «Старшынёй гэтай камісіі згадзіўся быць вядомы рускі кампазітар А. М. Іпалітаў-Іванаў, а ў склад яе ўваходзілі А. А. Аленін, М. Ц. Грачанінаў, М. І. Аладаў і другія. У выніку работы гэтай камісіі, сакратаром якой быў я, гарманізавана каля 250 беларускіх народных песень. Многія з іх выконваюцца да гэтага часу» (У. Дубоўка. Сярод людзей добрых).

[99] Главсоцвос — галоўнае ўпраўленне сацыяльнага выхавання і палітэхнічнай адукацыі Народнага камісарыята асветы РСФСР.

[100] Совнацмен — Савет нацыянальных меншасцяў пры Наркамасветы РСФСР.

[101] **Юшкевіч Міхал Вікенцьевіч** — у 1922–1923 супрацоўнік Паўнамоцнага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе РСФСР, сакратар Паўпрэда.

[102] **Гарбуноў Мікалай Пятровіч** (1892–1938) — савецкі дзяржаўны і грамадскі дзеяч.

[103] **Хмарка** (Наталля Васільеўна Панамарова, замужам — Янчанка; 1898–?) — беларуская паэтка. Верш «Ты ўзбудзіў» быў надрукаваны ў «Полымі» без прысвячэння, аднак у асабістым архіве А. Бабарэкі (БДАМЛМ. Ф. 407. Спр. 307) захоўваецца машынапісны экзэмпляр верша з паметай «верш, прысвечаны Дубоўку».

[104] Рубль золатам — грашовая адзінка, уведзеная ў 1922 грашовай рэформай.

[105] Пяцідзесяцігоддзе В. Брусава даволі шырока адзначалася ў Маскве ў снежні 1923.

[106] Маецца на ўвазе першае ўзбуйненне БССР, рашэнне аб якім было зацверджанае ЦВК СССР у сакавіку 1924.

[107] Камуністычны ўніверсітэт нацыянальных меншасцяў Захаду імя Мархлеўскага — навучальная ўстанова Камінтэрна, заснаваная ў 1921 на базе літоўска-яўрэйска-латышскай, нямецкай, польскай і румынскай вышэйшых партыйных школ. Пазней былі ўтвораныя сектары: беларускі, фінскі, літоўскі, польскі і г. д. Універсітэт рыхтаваў палітычных работнікаў для нацыянальных рэспублік. Зачынены ў 1936.

[108] **Парэчын Рыгор Яўхімавіч** (1894–1938) — беларускі юрыст, эканаміст. У 1922–1923 — супрацоўнік Паўпрэдства БССР у РСФСР.

[109] **Тычына Павел Рыгоравіч** (1891–1967) — украінскі паэт, дзяржаўны дзеяч.

[110] **Рыльскі Максім Тадзевіч** (1895–1964) — украінскі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч. Уваходзіў у групу «неакласікаў».

[111] **Сасюра Уладзімір Мікалаевіч** (1897–1965) — украінскі паэт, празаік. Удзельнік літаратурных груп «Гарт», «Плуг», ВАПЛІТЭ. За вайною — ваенкор. У 1951 стаў ахвярай цкавання ў цэнтральнай прэсе СССР за верш «Любіть Україну» (быў абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме). Блізкі сябар У. Дубоўкі. У перадсмяротнай паэме «Розстріляне безсмертя» (1988) успомніў яго пранікнёнымі радкамі (гл.: Скарыніч. Вып. № 8–9. С. 197):

*О Беларусь, моя шипшина,*
*Зальоні лист, червоні цвет!*
*Співав колись мій друг, поет*
*Великий, рідний друг Дубовка...*

*Але його скрутили ловко*
*Ті, що ведуть свій рід об вовка...*
*В лице натхненне пістолет...*
*И доспівань не встиг поет.*
*Тепер в Москві він з бородою,*
*Як у Тагора... Мій герою,*
*Мій страднику за Білорусь!*

[112] **Йогансен Марк Гервасьевіч** (1896–1937) — украінскі паэт і празаік. Заснавальнік «Гарту», адзін з заснавальнікаў ВАПЛІТЭ, лідар «Технохудожественной групы А», якая з цягам часу адышла ад ВАПЛІТЭ.

[113] Дубоўка выкладаў у КУНМЗ і ў папярэднім, 1923/24 навучальным годзе, згодна з вучэбным планам і размеркаваннем нагрузкі ў яго было 10 гадзін беларускай мовы на тыдзень на падрыхтоўчым і першым курсах.

[114] Хто такі **Я. Чарніцкі**, дакладна ўстанавіць не ўдалося, але, прыкладам, у выпісках «Журнала ўражанняў» з Першай сельскагаспадарчай выставы, падрыхтаваных беларускім Паўпрэдствам у Маскве і ў справаздачы пра колькасць наведвальнікаў беларускага павільёна выставы за рэгістратара падпісаўся Я. Чарніцкі.

[115] Беларуская драматычная студыя пры МХАТ існавала з 1921 да 1926.

[116] **Уладзімірава Ада** (Івойлава Алімпіяда Уладзіміраўна; 1890–1985) — руская паэтка, перакладчыца.

[117] **Александроўскі Васіль Дзмітрыевіч** (1897–1934) — рускі пралетарскі паэт.

[118] **Ізраілевіч Якаў** (Жак) — адзін з паклоннікаў Лілі Брык, яе сусед па доме.

[119] **Клюеў Мікалай Аляксеевіч** (1884–1937) — рускі паэт.

[120] **Арэшын Пётр Васільевіч** (1887–1938) — рускі паэт і празаік.

[121] **Ефрон А.** — Адэліна Адаліс (Ефрон), гл. каментар 33.

[122] **Карскі Яўхім Фёдаравіч** (1861–1931) — філолаг, заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф. Акадэмік Пецярбурскай АН, сябра Інбелкульта. Першы абраны рэктар Варшаўскага ўніверсітэта (1905). Аўтар сярод іншага фундаментальнай працы ў 7 тамах «Беларусы», дзе ўпершыню на акадэмічным узроўні спраўджвалася існаванне беларускай нацыі, адметнай беларускай мовы, багатай беларускай народнай традыцыі.

[123] **Турук Фёдар Фёдаравіч** (1889–1960) — беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. З 1918 — загадчык аддзела Белнацкама. Адзін з арганізатараў Беларускага народнага ўніверсітэта і Беларускага навуковага таварыства ў Маскве, удзельнік стварэння БДУ.

[124] Паседжанне, прысвечанае першаму выпуску ВЛМІ. Восьмым нумарам у спісе прывітанняў выпускнікам ад Беларускага прадстаўніцтва

і Камуністычнага ўніверсітэта выступаў Уладзімір Дубоўка, які таксама выпускаўся ў гэтым годзе.

[125] Асоба пакуль не высветлена.

[126] **Жырмунскі Віктар Максімавіч** (1891–1971) — рускі лінгвіст, літаратуразнаўца.

[127] Магчыма, гаворка ідзе пра С. В. Яўгенава, супрацоўніка ЦК ВКП(б), потым — кіраўніка трэста «Саюзфота».

[128] **«Асьвета»** — першы на Беларусі прафесійны часопіс працаўнікоў асветы і адукацыі. Выходзіў на рускай і беларускай мовах. Першы нумар складаецца з раздзелаў: «Агульны аддзел» (артыкулы дзяржаўных дзеячаў і кіраўнікоў асветы), «Мэтодолёгія і крытыка» (тэарэтычныя і практычныя пытанні выкладання), «Кнігапіс» (водгукі на навінкі выдавецтваў), «Інфармацыя і хроніка», «Афіцыйны аддзел» (інструкцыі, загады, нарматыўныя дакументы). Імя рэдактара не пазначана, тэхнічным рэдактарам першага нумара пазначаны М. Я. Байкоў. У наступных нумарах — М. І. Некрашэвіч.

[129] **«Беларускі піянер»** — адзін з першых дзіцячых часопісаў БССР, на базе якога ўтварыўся і да сёння выходзіць часопіс «Бярозка». Першы нумар часопіса заклаў «канон» пабудовы часопісаў гэткага кшталту на дзясяткі гадоў наперад: адкрываецца ён «Прывітаньнем да піонэраў ЛКСМБ з шостай гадавінай» (аўтар — А. Самахвалаў), другім ідзе артыкул Меерзона (?) «Піонэрскі рух на Беларусі», трэцім — невялічкае апавяданне пад псеўданімам «Гарадзкі» (У. Дубоўка) — «Маленькі ўспамін», апавяданне М. Зарэцкага «Бацькаў сын», вершы Я. Бобрыка «Піонэр» і Падабеда «Будзь гатоў», артыкул пра Заходнюю Беларусь пад псеўданімам «Камсамолец» (У. Дубоўка), верш У. Дубоўкі «Піонэрскае жыццё», апавяданне А. Якімовіча «Юрка», ілюстраваная інструкцыя П. Германа «Як зрабіць лыжы», каляндар важных піянерскіх святаў на месяц, жарты і задачкі, пошта. Дадзены две песні з нотамі М. Равенскага: «Моладзь» на словы М. Чарота і «На пprasторах сініх» на словы У. Дубоўкі. На апошняй старонцы пад псеўданімам «Павадыр Уладзік» дадзены цікавы расклад піянерскай працы на бліжэйшы месяц: у ім піянерам прапануецца праналізаваць плён сваёй працы за лета, наладзіць піянерскую агітацыю ў школе, распавядаць іншым дзецям пра піянерыю і яе справы, арганізоўваць гульні, сустрэчы з цікавымі людзьмі, выпісваць газеты і часопісы, арганізоўваць у школе танцы і вечары спеваў. Між тэкстамі дадзены рэкламныя заставачкі аўтарства У. Дубоўкі: «Калі хочаш быць карысным ты на нашай старане — пачынай чытаць часопісь "Беларускі піонэр"» і «"Піонэр" мяне навострыць: запішуся ў атрад. Камсамолкі — мае сёстры, камсамолец — родны брат».

[130] **Некрашэвіч Мікола Іванавіч** (?) — тэхнічны рэдактар часопіса «Асьвета».

[131] **Якімовіч Алесь Іванавіч** (1904–1979) — беларускі дзіцячы пісьменнік. Сябра «Маладняка».

[132] **Беларусаў** (Антон Мікалаевіч Курыла; 1886–?) — беларускі культурны дзеяч, у 1920-я — інспектар Мінскага палітпрасвета (каментар У. Міхнюка).

[133] **«Маладняк»** — літаратурнае аб'яднанне беларускіх літаратараў (лістапад 1923 — лістапад 1928). Арганізаваны М. Чаротам, А. Бабарэкам, А. Дударом, А. Вольным, Я. Пушчам і інш., з 1924, калі дадалася філія ў Маскве і ініцыятыўныя групы ў Віцебску і Магілёве, атрымаў назву «ўсебеларускае аб'яднанне». Ставіў мэтай стварэнне новай пралетарскай літаратуры, вёў актыўную прапагандысцкую і асветніцкую дзейнасць, усталёўваў творчыя сувязі з літаб'яднаннямі савецкіх рэспублік. Друкаваны орган — часопіс «Маладняк». У розныя годы Цэнтральнае бюро «Маладняка» ўзначальвалі М. Чарот, У. Дубоўка (1924), А. Вольны, П. Галавач. У. Дубоўка ўваходзіў у ЦБ, кіраваў Маскоўскай філіяй, рэдагаваў часопіс «Маладняк», разам з К. Крапівой арганізоваў Аршанскую філію «Маладняка» і рэдагаваў першы нумар часопіса «Аршанскі Маладняк».

[134] **Бядуля Змітрок** (Самуіл Яфімавіч Плаўнік; 1886–1941) — беларускі паэт, празаік, мовазнаўца. З 1926 — супрацоўнік Інбелкульта, першы рэдактар краязнаўчага часопіса «Наш край». Сябра «Маладняка», пасля — «Узвышша».

[135] **Бабарэка Адам Антонавіч** (1899–1938) — выбітны беларускі крытык і літаратуразнаўца. Адзін з арганізатараў аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша», найбліжэйшы сябра У. Дубоўкі. Адам Бабарэка нарадзіўся 14.10.1899 у в. Слабада-Кучынка ў сям'і бруkавага (беззямельнага) селяніна. Закончыў школу ў Слуцку, Менскую духоўную семінарыю, настаўнічаў на Случчыне. Падчас польскай акупацыі ўдзельнічаў у партызанскім руху. Пасля вызвалення часткі тэрыторыі Беларусі працаваў настаўнікам. Сябра рэўкама, старшыня Пукаўскага аддзела народнай асветы. У 1922–1927 вучыўся ў БДУ на этнолага-лінгвістычным аддзяленні, працаваў у рэдакцыі «Савецкай Беларусі». Узяў шлюб з Ганнай Дзянішчык, з якой нарадзілі дзвюх дачок, Алесю і Элеанору. Першыя публікацыі ў друку — пачатак 1920-х, 1925 — кніга «Апавяданні». Вырашыў прысвяціць сябе крытыцы. Даследаваў агульныя пытанні эстэтыкі і літаратуразнаўства, вывучаў творчасць М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Купалы, У. Дубоўкі, К. Чорнага. Паслядоўна адстойваў і бараніў у прэсе 1920-х права творцы на вольнае самавыяўленне, бараніў узвышаўцаў ад нападаў вульгарнай крытыкі. Адзін з самых аўтарытэтных асобаў у тагачасным літпрацэсе, з якім раіліся па творчых пытаннях і маладыя, і сталыя літаратары. Арыштаваны 25.07.1930 па справе СВБ, асуджаны да 5 гадоў высылкі, у 1935 тэрмін падоўжаны на два гады. Высылку адбываў у м. Слабадскі Кіраўскай вобл., потым — у Кіраве. У 1937 арыштаваны паўторна. Асуджаны да 10 гадоў ВПЛ. Пакаранне адбываў у пасёлку Княж-Пагост Комі АССР у Паўночным чыгуначным лагеры НКУС. Памёр у лагерным шпіталі 10.10.1938. На пачатку

1960-х сям'я пераехала ў Маскву. У. Дубоўка апекваўся сям'ёй загінулага сябра, Алеся і Элеанора дапамагалі старэючым Дубоўкам ладзіць побыт. Увесь час пасля першага арышту Адама Бабарэкі жонка і дзеці захоўвалі ўнікальны архіў крытыка, які выдадзены двума тамамі ў 2011 годзе (укладальнікі А. Бабарэка, В. Жыбуль, Г. Запартыка). Алеся Бабарэка захавала і перадала ў Беларусь і частку архіва і асабістыя рэчы У. Дубоўкі (Мядзельскі музей народнай славы). Пра асобу і творчасць Адама Антонавіча Бабарэкі гл.: Конан У. Адам Бабарэка: крытыка-біяграфічны нарыс. 1979; Ількевіч М. Адам Бабарэка. Арышт, лагер, смерць. Смаленск, 1999; Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря. Материалы к биографии / сост. и вступ. ст. Н. Н. Илькевич. Смоленск, 2001; Бабарэка Алеся. Слова пра бацьку // Скарыніч. № 4; вышэйзгаданы двухтомнік.

136 **Гурын-Маразоўскі Міхаіл Міхайлавіч** (1891–1928) — беларускі дзяржаўны дзеяч, журналіст.

137 Дакументальных сведчанняў пра выключэнне З. Бядулі з «Маладняка», якое згадвае А. Дудар, адшукаць не ўдалося. Тым не менш З. Бядуля быў сярод падпісантаў заявы ўзвышаўцаў пра выхад з «Маладняка», такім чынам, невядома, што меў на ўвазе Дудар пад «выключэннем» і ці было яно дакументальна афармленае ўвогуле.

138 У 1924 г. М. Чарот выехаў ў Маскву на вучобу ў Дзяржаўны інстытут журналістыкі.

139 **Конан Уладзімір Міхайлавіч** (1934–2011) — беларускі філосаф, гісторык літаратуры, крытык.

140 **Грамыка Міхаіл Аляксандравіч** (1885–1969) — беларускі пісьменнік, вучоны-геолаг.

141 **Нёманскі Янка** (Іван Андрэевіч Пятровіч; 1890–1937) — беларускі празаік, публіцыст, эканаміст, грамадскі дзеяч.

142 **Крапіва Кандрат** (Кандрат Кандратавіч Атраховіч; 1896–1991) — беларускі паэт, драматург, перакладчык, мовазнаўца, літаратуразнаўца. Народны пісьменнік Беларусі (1956). Сябра «Маладняка» і «Узвышша», скарбнік «Узвышша», пасля разгрому — аўтар разгромных артыкулаў у адрас арыштаваных таварышаў.

143 Паводле ўспамінаў Т. Пшырковай, гэта была не грасіроўка, а спецыфічнае, асабліва меладычнае вымаўленне гука «р».

144 **Дыла Язэп** (Восіп Лявонавіч; 1880–1973) — беларускі празаік, драматург, культурны дзеяч. У 1960-я У. Дубоўка перапісваўся з Я. Дылам, рыхтаваў для яго праект заявы ў беларускі ўрад, каб той дапамог «адзінаму, хто застаўся ў жывых» з бацькоў беларускай дзяржаўнасці пераехаць у Мінск, угаворваў Я. Дылу вяртацца на Беларусь і патрабаваць для сабе камфортных умоваў.

145 Максім Багдановіч памёр 25 мая 1917 у Ялце.

[146] «Похоронили его на ялтинском кладбище, что недалеко от Николаевской улицы по направлению к горам, на самой окраине кладбища внизу, в 3 саженях от окраины, близ дороги, со стороны, противоположной к морю, т. е. со стороны гор. В головах поставлен небольшой белый крест с надписью на жестяной табличке его имени (студент Максим Адамович Богданович) и когда он скончался. В двух саженях по прямой линии от изголовья похоронен студент Карлсон. Сообщаю как некоторую примету. Место выбрано чрезвычайно неудачно: ливни и потоки с крутого склона кладбища легко могли размыть могилу. Я нанял сторожа, чтобы могилу укрепить и привести в порядок, оставил денег хозяйке, чтобы посадить кипарисы и розовый куст, просил блюсти за этим двух знакомых, в том числе дочь моего сослуживца, личную знакомую Максима, но сделано ли это — я не знаю. Через несколько дней я уехал из Крыма. Дважды писал из Ярославля знакомым, но не получил ответа: известно, как действовала в это время почта, да и людям было не до чужих могил» (Багдановіч А. Я. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича).

[147] **Інстытут беларускай культуры, Інбелкульт, ІБК** — шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова, першая на Беларусі. «Прататып» і папярэднік беларускай Акадэміі навук. Заснаваны на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР у 1922. У 1928 рэарганізаваны ў АН БССР. У 1924 у Інбелкульце працавалі секцыі: агранамічная, прыродазнаўчая, медыцынская, этнаграфіі і геаграфіі, мастацтва, права, педагогіка, медыка-ветэрынарная, сацыяльна-эканамічная. Існавала аспірантура. У. Дубоўка ўваходзіў у склад некалькіх камісій Інбелкульта, працаваў у групе праф. Замоціна пры падрыхтоўцы акадэмічнага выдання твораў М. Багдановіча, аднак, калі заходзіла справа аб ягоным пераездзе ў Мінск, пасады ў Інбелкульце для яго ніколі не знаходзілася.

[148] **Шашалевіч Васіль Антонавіч** (1897–1941) — беларускі паэт, празаік, драматург. Сябра згуртавання «Узвышша». **Шашалевіч Андрэй Антонавіч** (псеўд. Андрэй Мрый; 1893–1943) — беларускі пісьменнік, журналіст, перакладчык.

[149] **«Дэпешы без адраса»** — зборнік вершаў, падрыхтаваны У. Дубоўкам да друку ў 1929. У сувязі з антыўзвышаўскай кампаніяй у прэсе і арыштам у 1930 выдадзены не быў. Аўтарызаваны машынапіс захоўваецца ў фондзе Лукаша Бэндэ ў БДАМЛМ.

[150] **Бечык Варлен Леанідавіч** (1939–1985) — беларускі крытык, літаратуразнаўца.

[151] **Жараў Аляксандр Аляксеевіч** (1904–1984) — рускі паэт. Адзін з заснавальнікаў аб'яднання «Молодая гвардия».

[152] **Уткін Іосіф Паўлавіч** (1903–1944) — рускі паэт.

[153] **Багрыцкі** (Эдуард Георгіевіч Дзюбін; 1895–1934) — рускі паэт. Член літаратурнай групы «Перавал», з 1930 — у РАПП.

[154] **Ціханаў Мікалай Сямёнавіч** (1896–1979) — рускі паэт, празаік, публіцыст. Член літаратурнага аб'яднання «Серапіёнавы браты».

[155] З чальцоў Маскоўскай філіі вядома пра наступных: **Брыт Міхаіл Ігнатавіч** (?), паводле Л. Маракова, студэнт маскоўскага ВНУ, сябра беларускага пралетарскага студэнцкага зямляцтва; **Ляжневіч Алесь Францавіч** (1890–1937) — беларускі драматург і тэатральны дзеяч, у 1922–1926 — дырэктар беларускай студыі Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва; **Радзевіч Леапольд Іванавіч** (1895–1938) — беларускі драматург, празаік, публіцыст, паэт, выдавец. 1921–1923 — кіраўнік Беларускай драматычнай майстроўні ў Вільні, рэдактар газеты «Наша будучына». Ягоным клопатам выдадзена Дубоўкава «Строма».

[156] Гэтае «вольнае» стаўленне да аўтарства тэкстаў абумоўлівала, напрыклад, такія прыкрыя інцыдэнты: Алесь Дудар падпісваўся ініцыяламі Уладзіміра Жылкі (сведчанні М. Улашчыка). Гэткім жа чынам Алесь Звонак надрукаваў у маскоўскай газеце «Читатель и писатель» (1928. № 3 ) праваканцыйны артыкул, які падпісаў ініцыяламі Адама Бабарэкі.

[157] **Гуткоўскі Павел Макаравіч** (1893–1962) — беларускі графік. Афармляў часопіс «Маладняк».

[158] **Літвінаў Максім Максімавіч** (1876–1951) — савецкі дыпламат і дзяржаўны дзеяч.

[159] **Рыжскі мірны дагавор** (18 сакавіка 1921) — дагавор паміж Польшчай з аднаго боку і РСФСР, УССР, БССР з другога, які завяршаў савецка-польскую вайну. Згодна з умовамі дагавора, да Польшчы адыходзілі тэрыторыі на ўсход ад лініі Керзана (умоўна праведзеная экспертамі Антанты лінія, якая падзяляла землі, планаваныя да перадачы Польшчы, і землі, якія пакідаліся савецкім рэспублікам, была прадстаўленая ў ноце міністра замежных спраў Вялікабрытаніі лорда Керзана). Да Польшчы адыходзілі Гарадзенская, Валынская і часткі іншых губерняў былой Расійскай імперыі, то бок сярод іншых — значная частка Беларусі. Сярод падпісантаў Рыжскага дагавора не было ніводнага беларуса, ніводнага прадстаўніка БССР — за БССР падпісаліся паўнамоцныя прадстаўнікі РСФСР.

[160] У далейшым на вокладцы кніжак «Беларускага піянера» змяшчаліся малюнкі, фотаздымкі, калажы даволі «мірнага» зместу (піянеры парадкуюць агарод, кормяць птушак, ладзяць шпакоўні і гэтак далей).

[161] Маецца на ўвазе паэма-камбайн «Штурмуйце будучыні аванпосты», у якую ўведзена паэтычная перапрацоўка народнай казкі пра музыку і чорта. Паэма, якая нават не была надрукаваная, выклікала шквал крытыкі.

[162] **Байкоў Мікалай Якубавіч** (1889 — пасля 1945) — беларускі літаратуразнаўца, мовазнаўца, педагог. Суаўтар М. Гарэцкага («Практычны расійска-беларускі слоўнік»), С. Некрашэвіча (беларуска-расійскі і расійска-беларускі слоўнікі). Абодва апошнія слоўнікі прынцыпова не падабаліся Дубоўку, гл. рэцэнзію на слоўнік за подпісам К. З-ны — Узвышша. 1928. № 5.

[163] **Луцэвіч Уладзіслава Францаўна**, «цётка Уладзя» (1891–1960) — жонка Янкі Купалы, літаратураўнаўца, культурны дзеяч.

[164] **Адамовіч Язэп Аляксандравіч** (1896–1937) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1924–1927 — старшыня СНК БССР, член ЦІК СССР. Менавіта ў Адамовіча маглі знайсці дзейсную падтрымку нацыянальна арыентаваныя літаратары.

[165] **Ферапонтаў Яўген Сяргеевіч** (1900–?) — у 1923 студэнт ВХУТЕМАСа, кіраўнік мастацкай секцыі пры Маскоўскай філіі «Маладняка».

[166] **Сянкевіч Аляксандр Антонавіч** (1884–1938) — беларускі савецкі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст. Аўтар шэрагу артыкулаў і брашуры па беларускім нацыянальным пытанні. Менавіта Алесь Сянкевіч выступіў у прэсе з вострай крытыкай «Лістоў да сабакі» Я. Пушчы і разам з З. Жылуновічам і Т. Глыбоцкім (А. Дударом) распачаў жорсткую барацьбу з узвышаўцамі ў прэсе.

[167] **«Трысцё»** (1925) — трэці зборнік У. Дубоўкі пасля «Стромы» і «Там, дзе кіпарысы». Зборнік адметны смелым эксперыментам у мове і вершаскладанні, роўнай мастацкай якасцю твораў. Акрамя вершаў, сярод якіх знакамітыя «Ты руку сваю забінтавала», «Не дзівіся», «Нават мора змяніла свой колер», «Абяруч прыціснуў скроні», у зборнік увайшлі невялікія паэмы «Бра...гінь...», «Дзяўчына», «Грахі чубатыя». Менавіта гэтым зборнікам Дубоўка ўводзіць і занатоўвае ў літаратурнай мове словы «водар», «апантаны», «імклівы», «кармазынавы», «нурцаваць», «строма», «трысцё».

[168] **«Гарт»** — літаратурнае аб'яднанне ўкраінскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Заснавана ў 1923. Уваходзілі П. Тычына, М. Хвылёвы, У. Сасюра, М. Йогансен і інш. Распалася ў 1926 пасля выхаду М. Хвылёвага і заснавання літаратурнай групы ВАПЛІТЕ (Вільна академія пролетарської літератури).

[169] **Зарэцкі Міхась** (Міхал Яўхімавіч Касянкоў; 1901–1937) — беларускі празаік, драматург, перакладчык, крытык. Друкаваўся з 1922. З 1924 — член «Маладняка», уваходзіў у ЦБ, 1926–1927 — рэдагаваў часопіс «Маладняк». У 1927 ініцыяваў утварэнне суполкі «Полымя». У 1929 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны ў 1936. Расстраляны 29 кастрычніка 1937.

[170] У брашуры «"Маладняк" Янку Купалу», які, як было вядома, склаў і амаль цалкам пісаў сам Дубоўка і які маладняўкоўцы падносілі Купалу ў якасці віншавальнага адраса на святкаванні юбілею, на с. 15 было напісана: «Сыканне і гойканне распачалі супроць "Маладняка" некаторыя старыя пісьменнікі і культурнікі, спагадаючыя ім. Адзін паэта, які прэтэндуе на нейкае надзвычайнае значэнне ў Беларусі, напісаўшы тысячы радкоў, звязаных прымітыўнымі, дзіцячымі дзеяслоўнымі рыфмамі, стаў (вольна ці нявольна) на чале гэтых сыкуноў. Пішучы фельетоны на "Маладняк", ён разносіць іх па менскім, а можа ўжо і па-за менскім сямёхгодкам, дзе зачытвае нашай змене-моладзі, каб як-небудзь адарваць яе

ад "Маладняка". Але дарма! Смехам і жартамі праводзяць цяпер гэткіх "дзеячоў". Усе адразу пазналі ў гэтым "дзеячы" Якуба Коласа. Колас страшэнна абурыўся і на Купалу, які прыняў такі адрас, і на Дубоўку, які, відавочна, быў аўтарам гэтых крыўдных радкоў. Пасля Дубоўка, паводле сведчання М. Міцкевіча, асабіста прасіў прабачэння ў Коласа. Тым не менш у літаратурнай палеміцы і публічным друку Дубоўка адмаўляўся ад таго, што меў на ўвазе менавіта Коласа: "У маіх артыкулах імя Коласа няма, яго прыдумаў Цішка (Гартны. — *Г. С.*). З тым жа правам можна сказаць, што гутарка ішла пра самога Цішку. Там узята было тыповае"» (ліст да А. Бабарэкі з рэкамендацыямі наконт крытычнага артыкула ў адказ на крытыку Гартнага — Скарыніч. Вып. 4. С. 76).

171 Хутчэй за ўсё, памылка ў дataванні — на самым пачатку сакавіка 1925 Дубоўка і Крапіва ездзілі ў Оршу.

172 Магчыма, маецца на ўвазе Міхаіл Акулік, намеснік загадчыка аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б, з 1926 да 1928 сакратар Мінскага акруговага камітэта КП(б) Беларусі.

173 Маецца на ўвазе Васіль Сташэўскі, беларускі драматург.

174 **Кляшторны Тодар Тодаравіч** (1903–1937) — беларускі пісьменнік і перакладчык. Сябра аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП.

175 Аўтарству У. Дубоўкі ў першым нумары «Аршанскага Маладняка» належаць: уводны артыкул «Чарговыя задачы (да арганізацыі Аршанскай філіі "Маладняку")», падпісаны Ганнай Аршыцай, верш «Янку Купалу», артыкул «Янка Купала і Маладняк» (абодва за подпісам Дубоўкі), «Хроніка» (без подпісу) і чатыры цудоўныя апавяданні «Верацёны», таксама без подпісу «праз тэхнічны недагляд» (заўвага Дубоўкі ў лісце да Саламевіча). «Верацёны», між іншым, зрабілі б гонар любой хрэстаматыі беларускага апавядання 1920-х — і па задуме, і па выкананні. Менавіта гэта першы друкаваны вопыт Дубоўкі ў прозе, а не аповесці 1960-х.

176 Ад слова «сачыць»; «сачкі», «сокі», «сачкомы» — сексоты, агенты ДПУ. Параўнаем у паказаннях А. Дудара па справе СВБ: «Нельга не спыніцца на так званай "сачкаманіі", якая панавала ў кругу партыйцаў. Грунтавалася гэта, наколькі я мог судзіць, на тым, што партыйцы-беларусы, наогул безагаворачна прызнаючы працу ДПУ неабходнейшай, лічылі, што ДПУ перагінае палку, не выпускаючы іх з поля зірку; лічылі, што ДПУ цікавіцца такімі дробязямі, як звычайная таварыская выпіўка камуністаў, якія ані якіх палітычных ухілаў за сабою не ведаюць. Асабліва хваравіта праяўлялася "сачкаманія" ў Адамовіча, пра што я гаварыў у сваіх папярэдніх паказаннях. Чарот даводзіў, што, на яго погляд, кожны камуніст павінен быць "сачкомам", г. зн. што кожны камуніст павінен аказваць дапамогу ДПУ. З гэтым збольшага ўсе згаджаліся, але рэшткі дробнабуржуазнай этыкі, якая ў большай ці меншай ступені гнездзілася ў кожным, прымушалі адносіцца да разумення "сачком" пагардліва

і з непрыязню. Нават мяне, здаецца, ледзь не лічылі "сачкомам"» (Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы. С. 85).

[177] **«Узвышша»** — літаратурна-мастацкае згуртаванне, заснаванае выйшаўшымі з «Маладняка» А. Бабарэкам, К. Чорным, К. Крапівой і інш., але ў першую чаргу ініцыяванае і натхнёнае Уладзімірам Дубоўкам, які выйшаў з «Маладняка» крыху раней, пасля хвалі вульгарнай крытыкі ў адрас ягоных зборнікаў «Трысцё» і «Credo», ініцыяваных у тым ліку і сябрамі «Маладняка». Старшыня «Узвышша» — К. Чорны, намеснік старшыні — К. Крапіва, сакратар — А. Бабарэка. Уладзімір Дубоўка ніякіх пастоў у аб'яднанні не займаў, але быў ягоным бясспрэчным лідарам. Пасля арышту А. Бабарэкі, У. Дубоўкі, У. Жылкі, Ф. Купцэвіча аб'яднанне праіснавала яшчэ год (за кошт выкрывальніцкіх артыкулаў пра былых сябраў аб'яднання) да снежня 1931, а потым зліквідавалася.

[178] Першы пленум Цэнтральнага бюро «Маладняка» адбыўся 21–23 сакавіка 1925.

[179] Першы з'езд «Маладняка» адбыўся 25–29 лістапада 1925 і быў прымеркаваны да ўгодкаў утварэння арганізацыі (28 лістапада 1923). На з'ездзе было адзначана, што ў «Маладняк» уваходзіць 101 сябар, 89 кандыдатаў, 128 студыйцаў, працуюць 12 філій, уключаючы Маскоўскую.

[180] **Маркава (Хмара) Анастасія Паўлаўна**, Наля — паэтка, каханая дзяўчына юнага Дубоўкі. Яны пазнаёміліся, хутчэй за ўсё, на пачатку 1925, падчас візіту Дубоўкі ў Магілёўскую філію «Маладняка», дзе Наста Маркава была сакратаром. Імем Налі Маркавай названы зборнік «Наля» (Масква, 1927): у снежні 1927 У. Дубоўка знаёміцца з Марыяй Кляўс, якя хутка стане ягонай жонкай, у 1929 Наста Маркава выходзіць замуж, бярэ прозвішча Хмара і пераязджае ў Ленінград. Працуе настаўніцай, дырэктарам школы.

[181] Хутчэй за ўсё, Дубоўка запісваецца сябрам Аршанскай філіі, бо якраз у сакавіку яны з Крапівой арганізоўвалі гэтую філію, працавалі над выхадам часопіса «Аршанскі Маладняк», таксама ў Дубоўкі былі няясныя намеры пераязджаць на працу ў Горкі.

[182] Юрка Гаўрук успамінае: «У 1925 годзе Ул. Дубоўку і мяне абралі дацэнтам кафедры беларускай мовы і літаратуры сельгасакадэміі. І вось мы прыехалі ў Горкі. Дубоўка пахадзіў, паглядзеў, нешта яму там не спадабалася, і літаральна знік, паехаў у Мінск» (Цыт. паводле: Гарэцкі М.: успаміны, лісты, дакументы. Мінск, 1984). Ініцыятарам абрання, хутчэй за ўсё, быў загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Горацкай сельгасакадэміі Максім Гарэцкі.

[183] Цікава параўнаць адказы дэлегатаў з'езда на гэты пункт анкеты. У асноўным пісьменнікі згодна з нагодай адзначалі літаратурны кірунак сваёй творчасці як «маладнякізм» (Н. Маркава, Я. Пушча) ці «Маладняк» (К. Крапіва, Я. Пфляўмбаўм, А. Бабарэка, П. Шукайла, Я. Сукала, А. Ата-

ва, Я. Відук і інш). Украінец У. Сасюра вызначыў свой кірунак як «лірык-сінтэтык». М. Чарот і П. Трус напісалі «да ніякага», У. Дубоўка і К. Чорны адзначылі, што пішуць за межамі кірункаў, «самастойна». За невялікім выключэннем, у астатніх анкетах насупраць пытання наконт літаратурнага кірунку стаяць прочыркі.

[184] Прыватная гасцініца «Бельгія» знаходзілася ў доме № 25 па вул. Савецкай, у двухпавярховым драўляным доме. На пачатку 1930-х дом быў знесены, цяпер на ягоным месцы — пляц Незалежнасці і правае крыло Дома ўрада (гл.: Маракоў Л. Галоўная вуліца Мінска. Кн. 1. Мінск: Маст. літ., 2012).

[185] **Лынькоў Міхась Ціханавіч** (1899–1975) — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1962).

[186] **Бандарына Зінаіда Аляксандраўна** (1909–1959) — беларуская паэтка, перакладчыца. Член «Маладняка».

[187] **Пфляўмбаўм Яўгенія Карлаўна** (1908–1996) — беларуская паэтка і перакладчыца. Сябра «Маладняка» і БелАПП. З 1931 — жонка Максіма Лужаніна.

[188] **Вішнеўская Наталля Вячаславаўна** (1907–1989) — беларуская паэтка. Сябра «Маладняка».

[189] **Валайціс Сігізмунд Восіпавіч** (?) — літоўскі пісьменнік, сакратар Міжнароднага бюро сувязяў пралетарскай літаратуры, член праўлення МАПП ад групы нацыянальных меншасцяў.

[190] **Пиліпенка Сяргей Уладзіміравіч** (1891–1934) — украінскі празаік, байкапісец, крытык.

[191] Сёння — Рэвалюцыйная, 15.

[192] Маецца на ўвазе калектыўны «жаночы» зборнік маладняковак Бандарынай, Вішнеўскай і Пфляўмбаўм «Вершы» (Мінск, 1926).

[193] **Шушкевіч Станіслаў Пятровіч** (1908–1991) — беларускі паэт, празаік. Сябра аб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП.

[194] **Крыніцкі Аляксандр Іванавіч** (1894–1937) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

[195] **Адамовіч Аляксандр Фаміч** (1900–1937) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, вядомы сваімі нацыяналістычнымі поглядамі. А. Ф. Адамовіч у 1917 уваходзіў у культурніцкую нацыяналістычную арганізацыю «Беларускі гай», з 1918 — сябра БСГ, сакратар Беларускай рады Адэсы. У 1920-я — на партыйнай працы ў Беларусі, у тым ліку ў Калінінскай акрузе. У 1929 падчас партыйных чыстак выключаны з ВКП(б) за нацыяналдэмакратычныя погляды і дзейнасць. Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, у хуткім часе справа вылучана з агульнай у асобную. Асуджаны на 10 гадоў лагера, арыштаваны паўторна ў ВПЛ, расстраляны.

[196] Маецца на ўвазе паэма У. Дубоўкі «Калінішчына», прысвечаная Алесю Адамовічу. Ва ўступе да паэмы Дубоўка скардзіцца сябру: «Мой любы браце, блізкі і далёкі, няма сталёвасці і арфазвоннасці», «Жыццё крынічыць і музыкі граюць, на лад папасці ўсё не шчасціцца». Першы раздзел паэмы пачынаецца паэтычнай гістарычнай даведкай:

*Такая песьня — думкі падарожныя.*
*Значыцца — блакнот, нататкі.*
*Калісьці сіла наезжая і варожая*
*З Беларусі зьбірала падаткі.*
*З падаткаў будавала... Рознае, адным словам.*
*А галоўным чынам — цэрквы і турмы.*
*Зразумела, не любіла беларускую мову,*
*Бо чула па сабе ў ёй звон хаўтурны.*
*Успамінаць, можа, і ня варта,*
*Бо было аж за царскім рэжымам,*
*Але ў той час гэта былі ня жарты*
*І Беларусь стаяла то ніцам, то дыбам.*
*Часінаю не хапала пакорнасьці і цярплівосьці,*
*Кроў пачынала віхурыць у жылах,*
*Тады бралі сяляне ў рукі вілы і восьці,*
*І тады душыў паноў крычаўскі Вашчыла.*
*Карацей кажучы, усяго хапала:*
*І крыві, і сьлёз, і геройства.*
*Але спадчына чарнасоценнага цемрашалу*
*Урасла ў беларускія землі глыбока і востра...*

[197] **Чырвань Іда** (Зінаіда Кобрык; 1906–1941) — паэтка, сябра Слуцкай філіі «Маладняка», першая жонка Кузьмы Чорнага.

[198] Менавіта каб дапамагчы Чорнаму перажыць расстанне з Ідай Чырвань, Дубоўка запрасіў яго да сябе ў Маскву сустракаць Новы год (гл. наступны дакумент).

[199] **Гольдберг Міхась** – псеўданім, пад якім ў 1929–1932 выходзілі беларускамоўныя творы пісьменніка **Міхаіла Лейбавіча Златагорава** (1908–1968).

[200] **Дукор Арон Мендзялеевіч** (1905–?) – як літаратар не друкаваўся, працаваў бібліёграфам (пасля старшым бібліёграфам) бібліятэкі імя У. Леніна ў Мінску.

[201] Пад такой назвай верш увайшоў у зборнік «Credo» (1926), але потым «Апошняя песня» друкавалася пад назвай «І было ўвосень» і ўключалася Дубоўкам у кожнае «Выбранае» (1959, 1965).

*І было ўвосень, калі стрыглі поле,*
*і на полі слалі дываны з лістоў,*

*Зашчымела сэрца ў нечуваным болю:*
*вельмі многа крыўды,*
*вельмі мала слоў.*
*І было ўвосень... Я сказаў аднойчы:*
*больш не дакрануцца пальцы мае струн.*
*І пайду да мэты, сцяўшы зубы, моўчкі,*
*і назад не гляну,*
*як калісьці Ван Чжао-цзюнь.*
*І было ўвосень... Я сказаў на ростань:*
*тое, што звінела, больш няма таго.*
*І апошняй песні завілася постаць:*
*жыватворны праглынуў агонь.*

Да верша звычайна дадавалася аўтарская заўвага: «Ван Чжао-цзюнь — кітайская дзяўчына, жыла ў 1 веку да нашай эры. У звязку з яе нешчаслівым жыццём многія паэты, у тым ліку Лі Бо, прысвяцілі ёй свае творы» (Выбранае. 1959). Аднак трэба ведаць, з чаго жыццё Ван Чжао-цзюнь, адной з чатырох легендарных кітайскіх прыгажунь, было настолькі нешчаслівым. Па-першае, яна адмовіла прыдворнаму жывапісцу ў хабары, і ён намаляваў яе партрэт непрыгожым. Праз гэта імператар, у наложніцы якому была прададзеная Ван Чжао-цзюнь, не прыходзіў да яе, сяброўкі ад яе адвярнуліся, і яна жыла ў імператарскім палацы адна. Калі суседняму князю спатрэбілася жонка, яму выдалі Ван Чжао-цзюнь, і толькі тады імператар пабачыў, якую прыгажосць трымаў у адзіноце. Жывапісца забілі, але Ван Чжао-цзюнь з'ехала з новым мужам. Пасля смерці мужа яна жыла сярод нацыянальных меншасцяў, і дзякуючы яе ўплыву старэючы імператар будаваў з імі адносіны на прынцыпах павагі і роўнасці. У новай кітайскай літаратуры вобраз Ван Чжао-цзюнь выкарыстоўваецца як ілюстрацыя да тэмы сяброўства паміж кітайцамі і іншымі нацыянальнасцямі Кітая. Гэта яшчэ адзін прыклад «шматузроўневай» эзопавай мовы, якой карыстаўся Дубоўка.

[202] **Пашковіч Янка** (1898–1938) — беларускі журналіст, супрацоўнік «Савецкай Беларусі».

[203] Псеўданім А. І. Ажгірэя (А. Вольнага).

[204] Прыведзеныя радкі — словы з п'есы Л. Нікуліна і В. Ардава «Таракановшчина». Аднак, паводле заўвагі В. Жыбуля, прэм'ера яе адбылася не ў канцы 1925, а толькі ў 1928. Верагодна, Дубоўка быў у тэатры з Чорным і ў 1925, і ў 1928, і мы маем справу з аберацыяй памяці.

[205] **Арсеннева Наталля Аляксееўна** (1903–1997) — беларуская паэтка, перакладчыца, драматург.

[206] **Шыпіла Ігнат Іванавіч** (1887–1937) — беларускі журналіст, на пачатку 1920-х — рэдактар «Савецкай Беларусі».

[207] **Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі** (14–21 лістапада 1926) — значнае навуковае і палітычнае мерапрыемства,

якое мела вялікі розгалас і нечаканыя наступствы ў гісторыі беларускай культуры. Праводзілася пад эгідай Інбелкульта і ЦК КПБ, сабрала амаль усіх значных беларусазнаўцаў свету: ад БССР з правам рашучага голасу ўдзел бралі сябры Інбелкульта, выкладчыкі БДУ, Горацкай акадэміі, прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў, ад РСФСР — прафесары П. Растаргуеў (Масква), П. Гарчынскі (Ленінград), Ю. Лазарэвіч (Смаленск), ад Украіны — К. Німчынаў, ад Латвіі — Я. Райніс, выбітны латвійскі паэт, які на той час узначальваў латвійскую асвету, ад Літвы — М. Біржышка (рэктар Летувіскага універсітэта), таксама М. Фасмер (выбітны немецкі славіст). Былі запрошаныя выбітныя дзеячы беларускай культуры і палітыкі, якія працавалі за мяжой: В. Ластоўскі, У. Пігулеўскі, У. Жылка, К. Езавітаў, С. Некрашэвіч. Да працы канферэнцыі былі прымеркаваныя шэраг беларускіх мерапрыемстваў, адкрыццё БДТ-2 у Віцебску, перад вачыма гасцей разгарнулася маштабная карціна беларусізацыі. Менавіта пад уздзеяннем натхняльнага ўражання ад канферэнцыі прынялі рашэнне вярнуцца на Беларусь В. Ластоўскі і Ф. Аляхновіч, пасля рэпрэсаваныя. Прынятыя канферэнцыяй пастановы аб рэформах сілу закона не набылі, але ўлічваліся пры наступных рэформах. У. Дубоўка прыехаў на канферэнцыю ў апошнія дні яе працы і сапраўды быў адзіным, хто галасаваў супраць рашэнняў канферэнцыі — у першую чаргу з-за «азбучных» пытанняў. Сярод іншага на канферэнцыі былі заслуханы даклады наконт замены беларускіх афрыкатаў «дж» і «дз» літарамі, запазычанымі з сербскага алфавіта, а Дубоўка ў той час працаваў над сваім праектам рэформы правапісу, больш удалым і навукова абгрунтаваным, які пазней нават быў узгоднены з партыйным кіраўніцтвам (гл. артыкулы У. Дубоўкі «Лацінка ці кірыліца: Да праекта рэформы беларускага альфабэту», «Падоўжаныя (або падвойныя) зычныя і спосаб іх азначэння на пісьме», «Праект літар для згукаў "дз" і "дж"», надрукаваныя ў 1928–1929 ва «Узвышшы»). Часопіс «Узвышша» з № 5 за 1928 пачаў друкаваць з імі асобныя матэрыялы, а з № 2 за 1929, згодна з пастановай агульнага сходу ад 14 лютага 1929, ужо ўвесь часопіс друкаваўся з новымі літарамі. У 1929 ужыванне Дубоўкавых літар было забароненае. Дубоўка і Бабарэка карысталіся імі ў асабістай перапісцы да канца 1930-х, сам Дубоўка ў асабістых нататках і блакнотах — да канца жыцця.

[208] **Замоцін Іван Іванавіч** (1873–1942) — беларускі літаратуразнаўца, акадэмік АН БССР.

[209] **Піятуховіч Міхаіл Мікалаевіч** (1891–1937) — беларускі літаратуразнаўца, крытык.

[210] **Чаржынскі Уладзіслаў Вікенцьевіч** (1897–1974) — беларускі крытык, літаратуразнаўца, перакладчык.

[211] Дубоўка працаваў у Камісіі з другой паловы красавіка да 1 чэрвеня 1924, але не з Я. Пушчам, а з М. Гарэцкім (гл.: Замоцін І. Літаратурная

камісія Інбелкульта ў працэсе працы над зборам твораў М. Багдановіча // Багдановіч вядомы і невядомы. Мінск: ЛіМ. 2011. С. 304).

[212] У арыгінале ў Максіма Багдановіча: «Ты не згаснеш, ясная зараначка, / Ты яшчэ асвеціш родны край. / Беларусь мая! Краіна-бранаачка! / Устань, свабодны шлях сабе шукай!» (каментар А. Каўкі да публікацыі ў «Крыніцы»).

[213] Нічыпар Чарнушэвіч быў выключаны з «Маладняка» за «нацыянальныя ўхілы».

[214] **Савёнак Лявон** (1897–1974) — беларускі літаратар.

[215] **Гэсен Сяргей** (1898–?) — публіцыст, сябра ЦК КП(б)Б, загадчык сектара агітацтыі і прапаганды ЦК.

[216] **Беларускі педагагічны тэхнікум імя В. Ігнатоўскага (Белпедтэхнікум)** — навучальная ўстанова, адзін з цэнтраў беларускай культурніцкай працы на пачатку 1920-х. Яго называюць «беларускім Царскасельскім ліцэем», бо ў 1920-я тут амаль адначасова вучыліся П. Трус, В. Маракоў, С. Дарожны, М. Багун, С. Шушкевіч, Л. Калюга, З. Бандарына, З. Астапенка, Я. Золак, Л. Прокша, А. Салавей, М. Лужанін, П. Глебка, А. Якімовіч, потым — Н. Гілевіч. Выкладалі ў Белпедтэхнікуме У. Ігнатоўскі, Я. Колас, браты Лёсікі, М. Байкоў, М. Грамыка, М. Піятуховіч, Я. Кіпель. Пазней быў перафарміраваны ў Мінскае педагагічнае вучылішча імя Н. Крупскай.

[217] Беларускі правапіс прозвішчаў захаваны Адамовічам у рускамоўным арыгінале.

[218] **«Чырвоны сейбіт»** (1926–1928) — часопіс, які выходзіў раз на два месяцы як літаратурны дадатак да газеты «Беларуская вёска». Некаторы час у рэдакцыі «Беларускай вёсцы» працаваў К. Чорны, таму ўзвышаўцы да з'яўлення свайго часопіса друкаваліся там.

[219] Літаратурна-мастацкі часопіс **«Узвышша»** выходзіў у 1927–1930 — пад эгідай аднанайменнага згуртавання, у 1931 — выдаваўся Дзяржвыдам. Распаўсюджваўся па падпісцы і праз распаўсюднікаў у рэгіёнах. Тыраж — ад 2000 у 1927 да 1000 напрыканцы 1929. За ўвесь перыяд існавання выйшла 44 нумары ў 39 кнігах. Рэдкалегія да 1930: А. Бабарэка, К. Чорны, У. Дубоўка, сакратар — П. Глебка. У нумары 4 за 1929 тэксты друкуюцца з выкарыстаннем прапанаваных Дубоўкам літар замест афрыкатаў «дз» і «дж». Пасля выхаду нумара літары былі забароненыя.

[220] **Галадзед Мікалай Мацвеевіч** (1894–1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст. Старшыня СНК БССР (1927–1937), член бюро ЦК КП(б)Б Беларусі.

[221] **Дарожны Сяргей Міхайлавіч** (Сяргей Міхайлавіч Серада; 1909–1943) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Сябра «Маладняка» і «Узвышша».

[222] Маецца на ўвазе **Сяргей Дарожны**.

[223] Радкі з верша Уладзіміра Дубоўкі «Не дзівіся» (1925).

[224] Гісторыю драматычных адносінаў П. Труса з літаратурным згуртаваннем «Узвышша» гл.: Запартыка Г. Пра два вершы Труса да Дубоўкі // Скарыніч. № 4; Мушынскі М. «Шчыры, шчыры Павел» // Дзеяслоў. 2004. № 13.

[225] **Шукевіч-Трацякоў Радзівон Канстанцінавіч** (1893–1942) — беларускі журналіст, дзяржаўны дзеяч.

[226] Вул. Гарбарная (за нямецкім часам — Берагавая, сёння — Ульянаўская) месцілася насупраць берага Свіслачы. Дом № 18 — драўляны, аднапавярховы, барачнага тыпу, з вялікім дваром, у чатырнаццаць вокнаў цягнуўся ўздоўж трамвайных рэек. У БДАМЛМ захоўваецца белы абрус, якім традыцыйна засцілаўся круглы стол у кватэры Адама Бабарэкі па вуліцы Гарбарнай, 18, калі тут збіралася «Узвышша».

[227] Гэтую рэзалюцыю было вырашана не друкаваць, кола работнікаў, якім дазвалялася быць з ёю азнаёмленымі, было вызначана сакратарыятам ЦК. 15 экзэмпляраў рэзалюцыі разаслалі ў акруговыя камітэты партыі, 5 — перадалі М. Чароту для азнаямлення з ёй членаў ЦБ «Маладняка». Адзін экзэмпляр быў перададзены А. Бабарэку.

[228] Маецца на ўвазе Уладзімір Дубоўка.

[229] **«Полымя»** — літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаецца з 1922. Да 1932 кіраваўся рэдкалегіяй (Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, У. Ігнатоўскі, М. Зарэцкі, Ц. Гартны). Вакол «Полымя» згуртавалася група пісьменнікаў, якія выйшлі пасля ўзвышаўцаў са складу «Маладняка» ў 1927 (М. Зарэцкі, А. Дудар, А. Гурло, У. Галубок і інш.).

[230] **Жылка Уладзімір Адамавіч** (1900–1933) — беларускі паэт, перакладчык, крытык. З 1921 — у Заходняй Беларусі. Сувязны паміж віленскім і ковенскім цэнтрамі нацыянальна-вызваленчага руху. З 1923 — студэнт у Празе, дзяржаўны стыпендыят. У 1926, пасля запрашэння ў якасці госця на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе правапісу, застаўся ў Мінску і прыняў савецкае грамадзянства. Працаваў у Інбелкульце, «Беларускай вёсцы», сябра «Маладняка» і «Узвышша». Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Памёр ва Уржуме ў 1933 ад сухотаў.

[231] Каралішчавічы — вёска ў Мінскім раёне ля Гатава, родная вёска Язэпа Пушчы. Забылінне — вёска ля Каралішчавіч, сёння — частка в. Сініло ў Мінскім раёне.

[232] **Калюга Лукаш** (Канстанцін Пятровіч Вашына; 1909–1937) — беларускі празаік, перакладчык. Сябра «Узвышша» з 1929. У 1931 выключаны з Педтэхнікума як «узвышэнскі лазутчык і пачынаючы нацдэм». Арыштаваны ў 1933, высланы ў Ірбіт. Паўторна арыштаваны ў 1935, расстраляны ў 1937.

[233] **Купцэвіч Фелікс Піліпавіч** (1900–1938) — беларускі крытык, празаік, паэт, перакладчык. У друку з 1920, у 1926 друкаваўся ў часопісе «Ма-

ладняк Калініншчыны». Даследчык творчасці А. Дудара, М. Зарэцкага, К. Чорнага. Сябра «Узвышша». З 1929 — у Інстытуце чырвонай прафесуры ў Маскве. Адзіны, хто, паводле ўспамінаў М. Дубоўкі і А. Бабарэкі, дапамагаў жонкам арыштаваных узвышаўцаў, пакуль не быў арыштаваны сам ў 1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. З высылкі пісаў Я. Купалу ліст з просьбай дапамагчы смяротна хвораму Жылку. У 1937 арыштаваны паўторна, асуджаны да ВПЛ. Расстраляны ў лагеры.

[234] Выхад П. Труса з «Маладняка» (як і вяртанне яго) было падзеяй надзвычай важнай у літаратурнай барацьбе, бо Трус быў адзіны дзейны камсамолец з усіх узвышаўцаў і гэтым нібыта легітымізаваў аб'яднанне. Калі б Трус застаўся ва «Узвышшы», з рук крытыкаў быў бы выбіты моцны козыр наконт «адхіленняў ад партыйнай лініі», а ягоны выхад відавочна дэманстраваў бы, што партыя і «Узвышша» ідуць рознымі шляхамі.

[235] Цэнтральны беларускі клуб у Маскве (Арбат, 51) арганізоўваў і аб'ядноўваў працу згуртаванняў беларускіх студэнтаў. Напрыканцы 1926 Дубоўка, як заснавальнік Асацыяцыі па вывучэнні беларускай мастацкай літаратуры, арганізаваў пры ЦБК курсы беларускай мовы.

[236] Старая Сіманаўка — раён Масквы ля Сіманава манастыра, колішняя слабада. Сёння — Сіманаўская набярэжная на поўдні Масквы.

[237] Шлюб паміж У. Дубоўкам і М. Кляўс згодна з пасведчаннем аб заключэнні шлюбу быў зарэгістраваны 16.10.1928, за колькі дзён да нараджэння сына Альгерда (24.10.1928). Між іншым сам Дубоўка ў лісце да Ю. Пшыркова (ад 11.03.63) піша: «Пабраліся мы ў снежні месяцы 1927». З перапісі Дубоўкі з жонкай вынікае, што ў снежні 1927 яны ўпершыню сустрэліся («Вітаю, Марылька, цябе з гадавінай нашага спаткання» — у снежаньскім лісце з лагера).

[238] Дзённік Максіма Гарэцкага «Кіпарысы» ўяўляе з сябе падарожныя запісы падчас паездкі праз Смаленск і Маскву ў Крым. Запісы гэтыя зашыфраваныя: напрыклад, Мінск у іх называецца Камунацэнтрам, Ксенемам ці Кепскам, Орша — Варнай ці Кмітай-Чарнабыльскай, Магілёў — Ямай, Ленінград — Пальмірай, Масква — Кучкай. Шыфраваныя назвы маюць дзяржаўныя ўстановы, людзі, асобныя падзеі ці з'явы. Так, беларусы называюцца **балотнікамі**, украінцы — **коржыкамі**, рускія — **казельцамі,** суадносна, «размаўляць па-беларуску» ў «Кіпарысах» гучыць як **«размаўляць па-балотнаму»**. Уладзіміра Дубоўку, з якім Гарэцкі сустракаўся ў Маскве, ён называе **Цеснавокам** (згодна са знешнім выглядам). **Целяпенічы** — мястэчка Шамава паблізу ад Багацькаўкі, радзімы Гарэцкага. **Мінімальны аддзел** — аддзел па справах нацыянальнасцяў, **Мяцісы** — Смаленск, **пюпітр у Мяцісах** — кафедра ў Смаленскім інстытуце, Пячуркі — Горкі. Гэтыя назвы расшыфраваныя дзякуючы Галіне Гарэцкай. Наконт астатніх можна толькі здагадвацца: **Асінка** — пэўна, крытык Юры Бярозка, **Купіна** —

магчыма, Купала, **Былка** — Паўло Тычына, хто ж такі Вялікдзень, Скнары і Цемналесец — зусім невядома. Цікава, што калі ўжо у высылцы Гарэцкі перабельваў свой «Дзённік», ён пакінуў шыфры нераскрытымі, што цалкам зразумела. (Пры напісанні гэтай часткі каментара выкарыстоўваліся знаходкі каментатара кнігазбораўскага выдання М. Гарэцкага Т. С. Голуб.)

Улічваючы намер М. Гарэцкага выкарыстаць матэрыялы, занатаваныя ў «Кіпарысах», у будучых мастацкіх творах, можна казаць, што Цеснавок — своеасаблівы накід да будучага мастацкага даследвання асобы Уладзіміра Дубоўкі. Зразумела, гэта не адзіная спроба тагачаснай літаратуры. У рамане К. Чорнага **«Сястра»** дзейнічае герой, **Ваця Браніславец**, прататыпам якога стаў У. Дубоўка. Цікава, якім паўстае Дубоўка не ў дакументальным, а ў мастацкім увасабленні сучасніка, сябра, тонкага псіхолага Чорнага: «З гэтым льга зусім быць блізкім, вельмі хутка здружыцца з ім, але-ж гэтак сама хутка і разысціся, нават ворагам стаць...», «Ён добры. Нават больш за гэта. Бадай, што ён лепш тут за ўсіх. І за цябе нават. — Ён добры, слаўны, ты ацаніла яго, але слабы ён, як саломіна, як вялая цівіна. — Наадварот. Ён вельмі моцны. І ён ідзе па сваёй дарозе. — Няпэўна. — Ідзе да сваёй пэўнасці. — А, мабыць, пакуль што без дарогі? — Важна тое, што ён дамагаецца сэнсу ўсяго дзеля сябе, шукае» (Чорны К. Сястра // Узвышша. 1928. № 3).

[239] **«Наля»** (1927) — апошні з надрукаваных да арышту зборнікаў Дубоўкі. З прычыны бескампрамісна варожай пазіцыі Ц. Гартнага, які на той час узначальваў Дзяржвыд, надрукаваць зборнік на Беларусі было немагчыма, і «Наля» была выдадзеная ў Маскве.

[240] Радкі сталіся прарочымі.

[241] **Педалогія** — навука, якая сумяшчала наватарскія ідэі і адкрыцці педагогікі і псіхалогіі. Вывучала дзіця комплексна, улічваючы паходжанне, умовы выхавання, анатама-фізіялагічныя характарыстыкі. У СССР найбольш выдатным педолагам быў П. Блонскі, у якога вучылася М. Дубоўка.

[242] **«Там, дзе кіпарысы»** (1925) — паэма У. Дубоўкі, выдадзеная асобным выданнем у бібліятэчцы (кніжніцы) «Маладняка».

[243] Паводле сюжэта паэмы, дзяўчына прыходзіць на бераг мора, скідае сукенку — і стаіць на камянях, глядзіць на мора, летуценіць. Менавіта гэтая ўзнёслая карціна кантрастуе з працытаванымі Грахоўскім радкамі:

*Чакае брат малы на жвіры,*
*Кусае з сонцам памідор.*

[244] Л. Авербах, Г. Лялевіч, С. Родаў — крытыкі «напастоўскага» кірунку. Займалі пазіцыю непрымання літаратараў-«спадарожнікаў», жорстка і беспадстаўна крытыкавалі «фармалістаў» у паэзіі і прозе.

[245] **Садоўскі Яўхім** (1908 — пасля 1991) — беларускі паэт, празаік, сцэнарыст. Хутчэй за ўсё, маюцца на ўвазе ягоныя ўспаміны, якія увайшлі ва ўкладзены ім жа зборнік «Маякоўскі ў Беларусі» (1957).

[246] Паэма А. Дудара «Шанхайскі шоўк» («Маладняк», 1925) сапраўды апелюе да знакамітых балад М. Ціханава — у метрыцы, рыфмах, пабудове сказа, кампазіцыі.

[247] Выстаўка «20 лет работы» падводзіла вынікі працы Маякоўскага за дваццаць гадоў (1909–1929), і адначасова павінна была стаць адказам паэта на бясконцыя цкаванні ў прэсе: «Я ее устроил потому, что ввиду моего драчливого характера на меня столько собак вешали и в стольких грехах меня обвиняли, которые есть у меня и которых нет, что иной раз мне кажется, уехать бы куда-нибудь и просидеть года два, чтобы только ругани не слышать». Без сумневаў, Дубоўка праводзіў нейкія паралелі паміж сабой, сваёй складанай творчай сітуацыяй 1929 года і Маякоўскім — нездарма яны абодва ў адзін і той жа дзень былі ў Кержанцава са скаргамі на хвалю варожай крытыкі.

[248] **Шамардзіна Софья Сяргееўна** (1894–1980) — беларуская студэнтка, з 1925 — жонка старшыні СНК БССР Я. Адамовіча.

[249] **ВАПЛІТЭ**, **Вільна академія пролетарської літератури** — літаратурнае аб'яднанне ўкраінскіх пісьменнікаў. Сцвярджала незалежнасць творчасці ад партыі, стварэнне новай украінскай літаратуры на базе ўспрымання заходнееўрапейскай традыцыі. У 1928 самараспусцалася.

[250] «Перавал» — літаратурная група, якая існавала пры часопісе «Красная новь». Першапачаткова яднала паэтаў (М. Святлоў, М. Галодны, М. Зарудзін). Дэкларавалі пераход («перавал») ад сучаснай «убогай» літаратуры да сапраўды высокай літаратуры будучыні. Уваходзілі М. Прышвін, А. Платонаў і інш.

[251] У аснове верша ляжыць пытанне тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, якая так і не была аднаўленая бальшавікамі ў этнаграфічных межах, зафіксаваных на мапе Я. Карскага. Згодна з Рыжскім мірным дагаворам (1921) тэрыторыя Беларусі была падзеленая на тры часткі: усходнюю, якая ўвайшла ў Савецкую Расію, заходнюю ў складзе Польшчы і ўласна БССР (6 паветаў: Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, часткова — Мінскі і Слуцкі). У 1923 адбылося першае ўзбуйненне (спачатку дадалі даволі вялікія тэрыторыі, але хутка спецыяльная камісія рашэнне перагледзела і адабрала частку паветаў, у тым ліку Невельскі, Себежскі, Мсціслаўскі, Гомельскі і Рэчыцкі). У 1926 два апошнія спрэчныя паветы былі ўсё ж далучаныя да БССР (другое ўзбуйненне). У 1939 у склад БССР увайшлі заходнія тэрыторыі, якія адыходзілі да СССР згодна з пактам Молатава —Рыбентропа.

[252] Няма сведчанняў самога У. Дубоўкі, што верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету» належыць менавіта яму. У тым, што Янка Крывічанін — гэта Уладзімір Дубоўка, была ўпэўненая тагачасная літаратурная грамадскасць, імя Дубоўкі перадавалася з вуснаў у вусны разам з тэкстам, пра ягонае аўтарства сведчыў ДПУ Алесь Дудар, а таксама ўжо ў 1960-я

ў гутарцы з Алесяй Бабарэкай Марыля Пятроўна Дубоўка. Хадзілі таксама чуткі, што экзэмпляр верша, дасланы ў Вільню, быў надрукаваны на той самай машынцы, на якой працаваў Дубоўка ў Крамлі. У. Міхнюк, які працаваў з ёй у 1990-я, сцвярджае таксама, што верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету» належыць Дубоўку.

[253] А. Пашкевіч на падставе архіўных дадзеных так апісвае шлях верша на Захад: «Паводле звестак, сабраных чэкістамі, актыўны ўдзел у перапраўцы верша на Захад прымаў партыйны дзеяч, вядомы нацыянал-камуніст Алесь Адамовіч, які падчас Акадэмічнай канферэнцыі ў Менску ў лістападзе 1926 г. азнаёміў з яго тэкстам, а пасля прапанаваў передрукаваць у рэдагаваных імі выданнях спачатку Вацлаву Ластоўскаму з Коўна, а пасля Канстанціну Езавітаву з Рыгі. Ластоўскі нібыта паставіўся да гэтай прапановы вельмі насцярожана і ўзяць верш адмовіўся, Езавітаў жа перадачу прыняў. Праўда, у сваім уласным выданні (а ён выдаваў тады ў Рызе газету "Голас беларуса") апублікаваць верш Езавітаў таксама не наважыўся, замест гэтага пераслаўшы яго далей, віленскім знаёмым. У Вільні твор і быў нарэшце ў сярэдзіне 1927 г. апублікаваны на старонках часопіса "Беларуская культура". Паводле гэтай першапублікацыі пасля, пачынаючы з 1990-х гг., рабіліся і ўсе шматлікія перадрукі твора ўжо ў незалежнай Беларусі, бо ў следчых справах захаваліся толькі нелітаратурныя пераклады верша на расійскую мову» (Пашкевіч А. «Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі?» // Наша Ніва, кастрычнік 2016).

[254] А. Пашкевіч аднавіў выпушчаныя радкі, працуючы з архівам ЦК КПБ, у якім захаваліся цытаты крамольнага верша.

*Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі?*
*З іх лупіць скуру, узяўшы ў Рызе, пан.*
*І сёння вось Літве замацавалі*
*Наш гэты край, стаптаны на дзірван.*

[255] Маюцца на ўвазе крытыкі, блізкія да З. Жылуновіча, які пісаў разгромныя рэцэнзіі на ўзвышаўцаў пад псеўданімам С. Друк. Дубоўка перарабіў гэты псеўданім у «Дрэк».

[256] **Язэп Салодкі** — жартоўная мянушка Я. Адамовіча, які з 1927 кіраваў Цукратрэстам СССР (каментар В. Жыбуля).

[257] Маецца на ўвазе артыкул «"Landstrykere" Кнута Гамсуна», надрукаваны ва «Узвышшы» (1928. № 4). Найбольш небяспечнае па мерках 1928 года месца ў артыкуле — разважанні пра «непралетарскага пісьменніка, але чэснага чалавека» Кнута Гамсуна, вартасць якога, на думку Дубоўкі, у тым, што ён не спрашчае сюжэт рамана да класавай барацьбы, а адлюстроўвае ўсю складанасць сацыяльных з'яў.

[258] Петыт — друкарскі шрыфт, 1 кегль роўны 8 пунктам (то бок вельмі маленькі).

[259] Студзянец — вёска каля Касцюковіч, недалёка ад мяжы з Расіяй (Бранская вобл.), месца нараджэння Марылі Дубоўкі (Кляўс).

[260] Артыкул У. Дубоўкі «Праект літар для згукаў "дз" і "дж"» быў апублікаваны ва «Узвышшы» ў № 4 за 1928.

[261] Сам Уладзімір Дубоўка карыстаўся гэтымі літарамі пры пісьме да 1937 у перапісцы з А. Бабарэкам, Я. Пушчам, жонкай. Літары знікаюць з ягоных лістоў толькі ў «лагернай» перапісцы, якая вялася пераважна парыску. Літара «z» на месцы «дз» у асабістым сяброўскім подпісе «УлаДЗік» захавалася і надалей.

[262] Галоўліт — Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў, арганізаванае ў 1923 дзеля кантролю над літаратурным працэсам. Займалася найперш цэнзурай.

[263] Магчыма, маецца на ўвазе аўтарства некаторых рэцэнзій, якія друкаваліся раней ў часопісе «Маладняк» — вядома, што маладнякоўцы, у тым ліку і Дубоўка, часцяком удзельнічалі ў калектыўным напісанні рэцэнзій, пад якімі потым ставілася чыёсьці прозвішча ці псеўданім.

[264] Дубоўка быў цалкам падрыхтаваны да такой працы: у дарэвалюцыйных настаўніцкіх семінарыях была даволі сур'ёзная музычная падрыхтоўка, і выпускнікі семінарый маглі не толькі чытаць і запісваць ноты, але і кіраваць, напрыклад, вучнёўскімі хорамі.

[265] Дараганава — вёска на Случчыне (сёння Магілёўская вобл), фальварак з лесапільняй, школай, фельчарскім пунктам, былы маёнтак У. Дарагана, начальніка Рыжска-Арлоўскай чыгункі.

[266] Летам 1928 у прэсе распачалася кампанія супраць узвышаўца Язэпа Пушчы, выкліканая публікацыяй ягоных «Лістоў да сабакі».

[267] З гэтага ліста ў адрасата і адрасанта мацнеюць падазрэнні, што іх лісты чытаюцца адпаведнымі органамі. І сапраўды, адзін з лістоў гэтай перапіскі хутка быў пакладзены на стол Кнорыну.

[268] **Мар Мікалай Якаўлевіч** (1864–1934) — расійскі філолаг, этнограф, археолаг. Заснавальнік яфетычнай тэорыі моў, якая выводзіць моўныя асаблівасці з «класавай сутнасці» мовы. Згодна з гэтай тэорыяй, у кожнай нацыі ёсць яфетычная мова, то бок мова бедных, пачатковая, сапраўдная, і — мова паноўнага класа.

[269] **Някрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч** (1883–1937) — беларускі навуковец, грамадскі дзеяч.

[270] **Марозаў Мікалай Аляксандравіч** (1854–1946) — рускі рэвалюцыянер-народнік, фізік, біёлаг, гісторык, пісьменнік.

[271] Наль і Дамаянці — героі шэрагу рамантычных паэм (Ф. Бол, Ф. Рукерт, В. Жукоўскі), створаных паводле перакладаў індыйскага эпасу «Махабхарата».

[272] Лужанін.

[273] Маецца на ўвазе выданне: Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. У гэтым выданні на старонках 115–116, якія ўказаны Дубоўкам у лісце да Бабарэкі, даюцца вытрымкі з «Хронікі Быхаўца», у якіх распавядаецца пра паход князя Альгерда на Маскву, перамогу над князем Маскоўскім і «ўчыненні граніц па Мажайску і Каломне»: «Княже Московский, памятуй, што копие Литовске стояло под Москвою».

[274] Нізка вершаў «Пярэсты букет» была надрукавана ў № 1 «Узвышша» за 1929.

[275] **Капіевіч Галляш** (Ілья Фёдаравіч; 1651–1714) — беларускі асветнік, выдавец, паэт, перакладчык. Распрацаваў шрыфты для друку славянскіх кніг (удасканаленая кірыліца), гэтак званую грамадзянскую, ці беларускую, азбуку, пры дапамозе якой пасля друкаваліся рускія кнігі. Да сёння кірылічны шрыфт захоўвае асаблівасці, створаныя Капіевічам.

[276] Нізка вершаў «Пярэсты букет», акрамя іншага, утрымлівае выразныя кпіны з варожых крытыкаў і іх закідаў да ўзвышаўцаў і асабіста да Дубоўкі. Асноўны палемічны пасыл змешчаны ў загалоўках: «Дубоўка падрабляецца пад мяшчанскія густы», «Займаецца тэорыяй, якая прыводзіць да ляпсусаў», «Дубоўка перавыхоўваецца» і г. д.

[277] «І пурпуровых ветразяў узвівы» — паэма У. Дубоўкі, апошняя з надрукаваных да арышту (Узвышша. 1929. № 2), аб'ект жорсткай «пралетарскай» крытыкі. Паэма была палемічна пабудаваная і самім Дубоўкам: пачынаючы з уступу («Занадта ціха стала на Парнасе ў сэнсе творчасці і дасягненняў, сядзяць у эпігоннай апранасе прадстаўнікі абодвух пакаленняў»), «замовы ад сустаўных звіхаў і несустаўных вывіхаў» і праз усю паэму, якая ўяўляе з сябе дыялог Лірыка і Матэматыка.

[278] «Браніслава» — паэма У. Дубоўкі, напісаная на аснове народнай легенды пра прыгонную дзяўчыну, зажыва замураваную ў слуп жорсткім памешчыкам.

[279] Гэтыя абвінавачванні ў адрас Кляшторнага і Лужаніна цяжка абвергнуць ці спраўдзіць, але дакладна вядома, што сам Антон Адамовіч з пэўнага часу (хутчэй за ўсё, не раней, але і не пазней за 1937), супрацоўнічаў з ДПУ.

[280] Да сярэдзіны 1930-х, пачатку масавых рэпрэсій супраць інтэлігенцыі, «у кіпцюры ГПУ» патрапілі: Ф. Аляхновіч (1927), Юрка Лістапад (арыштаваны ў 1926 настаўнік беларускай мовы і літаратуры на Случчыне, абвінавачаны ў змове супраць улады, асуджаны на 5 гадоў турмы, сярод суддзяў — Ц. Гартны), з гэтага ж шэрагу арышт і высылка А. Дудара (1929), арышт і самагубства У. Ігнатоўскага і Прышчэпава (пачатак 1930-х) і інш.

[281] А. Адамовіч пераказвае цытату па памяці і крыху парушае храналогію. Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе: «Многонациональное Советское госу-

дарство может стать действительно прочным, а сотрудничество народов в нем — действительно братским лишь в том случае, если эти пережитки будут вытравлены в практике наших государственных учреждений решительно и бесповоротно. Поэтому решительная борьба с пережитками великорусского шовинизма является первой очередной задачей нашей партии» (Тезисы к XII съезду РКП(б). Правда. 1923. № 65).

[282] **Яноўскі Юры Іванавіч** (1902–1954) — украінскі пісьменнік.

[283] Маецца на ўвазе падпіска на «Узвышша».

[284] У папярэднім лісце ад 28/2–29 Дубоўка ўсклаў віну за забарону камбайна «І пурпуровых ветразяў узвівы» на А. Бабарэку, які, як падалося Дубоўку, замарудзіў з наборам тэксту і выданнем чарговага нумара часопіса (гл. ліставанне Дубоўкі і Бабарэкі ў публікацыі В. Жыбуля — ARCHE. № 11–12. 2009. С. 451–452).

[285] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе арышт і высылка Алеся Дудара, звязаныя з вершам «Пасеклі край наш папалам».

[286] Спрэчкі вакол беларусізацыі актывізаваліся з сярэдзіны 1920-х і абумоўліваліся рознымі поглядамі на ступень і глыбіню «нацыяналізацыі» савецкай рэспублікі. Нацыянал-дэмакратызмам у гэтых спрэчках называлася пазіцыя, пры якой нацыянальныя каштоўнасці ставіліся вышэй за класавыя. З 1930 нацыянал-дэмакратызм вызначаецца як варожая савецкай уладзе ідэалогія і практыка контррэвалюцыйнай плыні, якая ставіла сваёй мэтай «аднаўленне капіталізму на Беларусі». Рэзалюцыя XIII з'езда КП(б)Б ацэньвала гэтую з'яву як галоўную небяспеку для нацыянальнай палітыкі рэспублікі. Пры гэтым рэзка змяняліся ўсе ацэнкі мінулага: увесь беларускі нацыянальна-вызваленчы рух агулам абвяшчаўся рэакцыйным.

[287] **Кучар Алесь** (Кучар Айзік Евелевіч; 1910–1996) — беларускі крытык, кінадраматург, сцэнарыст. Адзін з адыёзных крытыкаў 1930-х.

[288] Вось як выглядае распостед пра гэты інцыдэнт са слоў самога А. Кучара: «Камсамольская арганізацыя педтэхнікума, дзе я тады вучыўся, выключыла мяне за п'янства з камсамола. Платон Раманавіч (Галавач. — *Г. С.*) паверыў, што я не закаранелы п'яніца і, на маю радасць мяне аднавілі ў камсамоле» (Кучар А. Выступ на вечары, прысвечаным 60-годдзю Галавача. БДАМЛМ. Ф. 78. Воп. 1. Спр. 118. Арк. 191).

[289] «Штурмуйце будучыні аванпосты» — апошні камбайн Дубоўкі. Кампазіцыйна ўяўляе з сябе метафарычную гутарку Пасажыра і Кандуктара на агульнафіласофскія, грамадзянскія, сацыяльныя тэмы. У якасці герояў у паэму ўведзены Пушкін, Байран, сам Дубоўка. Камбайн утрымлівае паэтычную апрацоўку народнай казкі пра чорта і скрыпку.

[290] Паплечнікі Ц. Гартнага.

[291] Маецца на ўвазе зборнік «Дэпешы без адраса».

[292] Дубоўку сапраўды было складана прыязджаць у Менск напрыканцы 1929: няпэўнае становішча на працы, з якой яго хацелі перавесці ў Мінск, маленькі сын, хворая жонка, да таго ж цалкам непрымальная для паэта сітуацыя ў беларускіх літаратурных і навуковых колах.

[293] **Кнорын Вільгельм Георгіевіч** (1890–1938) — савецкі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст.

[294] **АПАД** — агітацыйна-прапагандысцкі аддзел ЦК КП(б)Б.

[295] **Гародня Алесь** (Аляксандр Эраставіч Функ; 1899–1944) — празаік, крытык, рэдактар. Сябра «Літаратурнай камуны», потым — «Маладняка».

[296] **Піляр Раман Александравіч** (1894–1937) — адзін з заснавальнікаў Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі. У 1925–1929 — старшыня ДПУ БССР.

[297] Маецца на ўвазе медыцынская адукацыя А. Сянкевіча (каментар В. Жыбуля).

[298] Відаць, сябры БелАПП, «лапы». БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў. Адначасова ўзнікае асацыяцыя са знакамітым Дубоўкавым крытычным разборам верша маладнякоўца Анатоля Вольнага, перанасычанага русізмамі; з гэтага разбору «ў народ» пайшоў выраз «лунные лапы» як агульны вобраз няякаснай паэзіі.

[299] Магчыма, маецца на ўвазе пасада старшыні ДПУ, бо ў снежні 1929 Піляр быў адазваны ў НКУС Масквы, і ягонае месца нейкі час было вакантным. У студзені 1930 на гэтую пасаду быў прызначаны Р. Рапапорт, беларус па нараджэнні, супрацоўнік ДПУ Ленінграда, пасля — Крыму.

[300] Гэты ліст друкаваўся ў «Скарынічы» (№ 4), але паколькі першапублікатары расчытвалі яго з рукапіснага арыгінала, у друкаваны варыянт трапілі памылкі (напрыклад, словазлучэнне «розныя паповічы Канакоціны», друкуецца як «розныя Пановічы, Канакоціны» і інш). Дзякуючы Т. Ю. Пшырковай мы мелі гэты і астатнія лісты гэтага перыяду, пазначаныя як лісты з асабістага архіва, у машынапісным варыянце: калісьці Дубоўка сам перадрукаваў іх на машынцы для Ю. Пшыркова. У гэтым выданні лісты цытуюцца менавіта па машынапісных аўтарызаваных копіях.

[301] **Канакоцін Арэст** — беларускі крытык, адзін з вульгарызатарскіх крытыкаў 1920-х. Куратар «Узвышша» ад ЦК КП(б)Б.

[302] Маецца на ўвазе **Аляксандр Фаміч Адамовіч**.

[303] «Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша" пра палітычныя памылкі ў літаратурна-публіцыстычнай творчасці» была прынятая 12/1-1930 і надрукаваная ва «Узвышшы» (1930. № 1). У гэтым жа нумары быў змешчаны артыкул «Пролетарскім шляхам», у якім карэктаваліся мэты і задачы аб'яднання ў звязку з патрабаваннямі партыі і ўрада. Артыкул змешчаны без подпісу. Паводле звестак Антона Адамовіча, пісаў яго Кандрат Крапіва.

[304] «ПіР» — скарачэнне ад «Печать и революция», часопіс пры Дзяржвыдзе, у якім (1929. № 11) быў надрукаваны грунтоўны артыкул Ф. Купцэвіча «Белорусская художественная периодика» з крытычным аглядам літаратурна-мастацкіх часопісаў Беларусі.

[305] Гутарка пра «Литературную энциклопедию» ў 11 тамах, том 1, М.: выд. Камуністычнай Акадэміі, 1929.

[306] **Кержанцаў Платон Міхайлавіч** (Лебедзеў; 1881–1940) — савецкі дзяржаўны і грамадскі дзеяч, журналіст, эканаміст. У 1928–1930 — намеснік загадчыка агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК ВКП(б), дырэктар Інстытута літаратуры і мовы Камуністычнай акадэміі, рэдактар часопіса «Літаратура і мастацтва».

[307] Хутчэй за ўсё, сустрэча адбылася 13 красавіка 1930, бо У. Маякоўскі застрэліўся 14.04.1930. У. Дубоўка ў гэты дзень размаўляў з Кержанцавым па справе «Узвышша» і сваёй асабістай. Верагодна, менавіта ў гэты дзень Кержанцаў прапанаваў яму пісаць па-руску (гл. ніжэй успамін Антона Адамовіча).

[308] Язэп Дубоўка расстраляны ў 1937 на Бутаўскім палігоне (паводле іншых звестак, загінуў падчас допыту, не вытрымаўшы катаванняў).

[309] Цытата з артыкула Глебкі «Нацдэмаўшчына, замаскіраваная марксісцкай фразай» (пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі; Узвышша. 1931. № 2).

[310] «Хвядос — чырвоны нос» (Менск. ЛіМ. 1931) — сатырычная паэма Кандрата Крапівы, у якой ён даў саркастычныя партрэты сяброў і паплечнікаў — У. Дубоўкі, А. Бабарэкі, М. Гарэцкага, Я. Пушчы. У наступных выданнях паэмы радкі, у якіх паліваліся брудам узвышаўцы, былі выкрасленыя самім Крапівой (кпіны на адрас Воўка-Левановіча, Лёсіка, Некрашэвіча, Цвікевіча — засталіся). У выданні 1931 радкі гучаць так:

*Не счакаецца: калі ж?*
*Ад чакання сэрца ные...*
*Праз хвіліну з-за куліс*
*Выплываюць «распісныя».*
*На нацдэмаўскім карыце,*
*Каб не ўбачыў ратазей,*
*Дасканалае прыкрыцце*
*З «пурпуровых ветразей».*
*Да заўважыць можа дбайны —*
*Кулаком вязуць «камбайны».*
*Узняліся на вышыні,*
*Паднатхніліся, уявілі,*
*І дуэт удвох завылі:*
*«О Беларусь, мая шыпшына!*

*Цябе чакае лёс паганы,*
*Твае аплёваны мэсіі...*
*Вартуй, мой дружа, родны ганак,*
*Я ліст пішу табе з Расіі...»*

[311] Маюцца на ўвазе М. Лужанін і Я. Пушча.

[312] Намёк на верш Я. Пушчы «Лісты да сабакі».

[313] Дубоўка мае на ўвазе непаразуменні ўнутры згуртавання, бо з пачатку 1930 выразна бачна: на адных узвышаўцаў ідзе атака ў прэсе, а іншых — не чапаюць.

[314] Гл.: Бэндэ Л. Навагодні настрой Уладзіміра Дубоўкі, ці Куды яны растуць // Савецкая Беларусь». 6.04.1929; Звонак А., Галавач П. Пра ваяўнічае мяшчанства ў літаратуры, пра рыцараў пад маскамі, пра адну сямейку і антысавецкія выступы некаторых яе сынкоў, а таксама пра разьюшаны нацыянал-дэмакратызм // Зьвязда. 30.12.1929. Апошні артыкул скіраваны непасрэдна супроць У. Дубоўкі, А. Адамовіча, Ф. Купцэвіча і М. Лужаніна.

[315] **Будзінскі (Будзенскі) Станіслаў Янавіч** (1894–1937) — рэвалюцыйны дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык.

[316] Маюцца на ўвазе жорсткія закіды крытыкаў у адрас ненадрукаванай Дубоўкавай паэмы «Штурмуйце будучыні аванпосты».

[317] **Аргаў Залман Куслевіч** (Барыс Карлавіч; 1897–1934) — у 1930 старшыня следчага упраўлення БССР. **Сікорскі (Скрыпка) Міхаіл** — у 1930 старшы ўпаўнаважаны 1-га асобага следчага аддзела ДПУ БССР (каментар У. Міхнюка).

[318] Пярлоўка — дачны пасёлак пад Масквой (сёння — на тэрыторыі г. Мыцішчы). Дубоўкі летавалі па адрасе: Пярлоўка, Квартальны, 5, дом Зюкінай.

[319] Сапраўды, знайсці хоць бы якую дачу ў Пярлоўцы было дастаткова складана: гэта быў вялікі дачны пасёлак з вуліцамі і нават праспектамі, сваім тэатрам, храмамі, паркамі і пляцамі.

[320] **Краскоўскі Іван Ігнатавіч** (1880–1955) — палітычны дзеяч, публіцыст, педагог.

[321] **Трамповіч Павел Віктаравіч** (1889–1956) — медык, грамадскі дзеяч, публіцыст. Радны БНР. Арыштаваны ў 1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі.

[322] **Мядзёлка Паўліна Вінцэнтаўна** (1893–1974) — беларуская артыстка, педагог, мемуарыстка. Арыштавана ў 1930 па справе СВБ, асуджана да высылкі ў Казань. Пасля вызвалення працавала настаўніцай у Будславе.

[323] **Лёсік Язэп Юр'евіч** (1883–1940) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, мовазнаўца, крытык, публіцыст, пісьменнік.

[324] **Станкевіч Канстанцін Восіпавіч** (1893–?) — у 1923–1924 камендант і бухгалтар Паўпрэдства БССР, сябра У. Дубоўкі. Яму прысвечана паэма «Там, дзе кіпарысы». Закончыў Мінскі настаўніцкі інстытут, Маскоўскі інстытут шляхоў зносін. Інжынер-чыгуначнік. Падчас працы Усерасійскай сельскагаспадарчай выставы — упаўнаважаны беларускага павільёна.

[325] **Васілевіч Іван Антонавіч** (1894–1938) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

[326] «**Наша будучына**» (1922–1923) — беларуская штотыднёвая газета, выходзіла ў Вільні ў 1922–1923.

[327] **Нашаніўская літаратура** — традыцыйна да «нашаніўскай літаратуры» адносяць раннюю творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, творчасць С. Палуяна, К. Каганца, Ядвігіна Ш., Цёткі, Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна.

[328] **Бузук Пётр Апанасавіч** (1891–1938) — лінгвіст, літаратуразнавец, паэт, празаік.

[329] Беларуска-рускі слоўнік пад рэдакцыяй М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926) быў выпушчаны Дзяржвыдам, утрымліваў больш за 20 000 слоў. Слоўнік рыхтаваўся па заданні Інбелкульта за кароткі тэрмін, таму ўтрымліваў шмат недакладнасцяў. Выклікаў шматбаковую крытыку, тым не менш падсумоўваў моўныя пошукі 1920-х. Пасля арышту Байкова і Некрашэвіча быў забаронены і выдалены з бібліятэк.

[330] Маецца на ўвазе пераклад «Шыльёнскага вязня» Байрана, зроблены Дубоўкам у турме. Арыгінал перакладу загінуў пры арышце ў Чэбаксарах, а копія, знятая ў Бутырцы А. Бабарэкай, захавалась у архіве крытыка. Сёння захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 407.

[331] Відавочна, у тэлеграме паведамлялася пра прыгавор і перавод асуджаных з Мінскай турмы ў Бутырскую турму Масквы ў чаканні этапу.

[332] **Мамчыц Мікалай Мікалаевіч** (1899–?) — беларускі настаўнік, інспектар беларускіх школ пры НКА БССР. Арыштаваны па справе СВБ у 1930, асуджаны да высылкі, адбываў пакаранне разам з Дубоўкам у Яранску. У 1935 (паводле Л. Маракова) паўторна асуджаны на 2 гады лагера. Далейшы лёс невядомы.

[333] З Мамчыцам.

[334] Дакладна вядома пра чатыры вершы, датаваныя перыядам пасля арышту: «Песня беларускіх выгнанцаў», «З-за кратаў», «Забыўся ты... Схіліўся на далоні» і «Здраднікам». Ці былі напісаныя арыгінальныя вершы ў перыяд высылкі — невядома (ва ўспамінах А. Адамовіча ёсць згадкі пра вершы, якімі зрэдку «балаваў» у лістах Дубоўка, але самі вершы не захаваліся і не цытаваліся Адамовічам).

335 Артыкулы К. Крапівы «“Узвышша” на новым шляху» і П. Глебкі «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай (пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі)» з рэзкай крытыкай арыштаваных сяброў і доказамі іх літаратурнага і грамадскага шкодніцтва былі надрукаваныя ва «Узвышшы» цягам 1931.

336 Тартарэн — галоўны герой сатырычнага рамана А. Додэ «Тартарэн з Тараскона», хвалько, лавелас і камічны няўдачнік; Бювар і Пекюшэ — героі нясконачанага рамана Г. Флабэра «Бювар і Пекюшэ», сябры-перапісчыкі, якія бясконца патрапляюць у камічныя гісторыі.

337 Гісторыя з каламаззю стала асновай аднаго з апавяданняў аўтабіяграфічнага зборніка У. Дубоўкі «Пялёсткі».

338 «Сакавік» — грамадска-палітычны часопіс беларускай эміграцыі (1947–1948).

339 Маецца на ўвазе г. Кіраў (Вятка), куды перавялі высланых беларусаў.

340 **Маркевіч Міхаіл Восіпавіч** (1895 — не пазней за 1934) — выкладчык Віцебскага педтэхнікума.

341 Ліст напісаны з выкарыстаннем літар, прапанаваных Дубоўкам для беларускага алфавіта: цітлам над падоўжанымі зычнымі.

342 Дзе цяпер знаходзяцца рукапісы, забраныя ў Дубоўкі падчас арышту ў Чэбаксарах, невядома. Запыт наконт іх рабіў яшчэ сам Дубоўка: «Да 37 году прабаваў дзе што пісаць, пераклаў “Шыльёнскага вязня” і бадай большую палову “Чайльд Гарольда”. У 1937 г. усё гэта забралі ў Чэбаксарах на Волзе і без звароту. Напісаў сёлета ў ЦК КПСС наконт гэтых і другіх сваіх рукапісаў, адтуль пайшло па інстанцыі, а нядаўна атрымаў з Чэбаксар паведамленне, што “литература не сохранилась”» (У. Дубоўка. Ліст да Я. Коласа ад 20 сакавіка 1955). З перапіскі ўкладальніка гэтай кнігі з Чэбаксарскім гістарычным архівам вынікае, што ніякіх рукапісаў у справе ф. Р-2669, воп. 2, спр. 1379, няма. Але згодна з пратаколам вобшуку, копія якога захавалася ў асабістых паперах Дубоўкі, яны былі перададзены ў Чэбаксарскі НКУС.

343 У 1935 усім высланым па справе СВБ былі працягнутыя тэрміны высылкі на 2 гады.

344 **Савіч Ігнат Мікалаевіч** (1899–?) — беларускі журналіст, у 1930 — загадчык аддзела «Беларускай вёскі». Арыштаваны па справе СВБ у 1930, асуджаны да высылкі, спярша ў в. Кацельнічы, пераведзены ў Чэбаксары. Арыштаваны паўторна ў 1937, праходзіў па адной справе з Дубоўкам і Каравайчыкам. Асуджаны да 10 гадоў лагера (Каравайчык — да расстрэлу). Далейшы лёс невядомы.

345 «Бытавікі» — асуджаныя за нязначныя крымінальныя правапарушэнні (дробны крадзеж, парушэнне працоўнай дысцыпліны і г. д.).

346 Алатыр — горад у Чувашскай АССР, які месціцца ля ўтока ракі Суры ў раку Алатыр, станцыя Маскоўска-Казанскай чыгункі.

[347] Альгерд Дубоўка загінуў у 1943. Некалькі хлопцаў, і з імі Альгерд, знайшлі артылерыйскі снарад і кінулі яго ў вогнішча. Загінулі ўсе.

[348] У гэтым подпісе тут і ў іншых лістах з лагера літараспалучэнне «дз» пішацца літарай, створанай Дубоўкам.

[349] Маецца на ўвазе — не займаўся літаратурнай творчасцю. З успамінаў А. Адамовіча, Я Кіпеля і М. Улашчыка вядома, што ў турэмным зняволенні У. Дубоўка складаў вершы (яны захаваліся ў памяці вязняў, частку надрукаваў А. Адамовіч у эмігранцкай прэсе падчас Другой сусветнай), у БДАМЛМ захоўваецца пераклад «Шыльёнскага вязня» (копія Адама Бабарэкі). З ускосных дадзеных (ліставанне высланых, пратакол вобшуку) вядома, што Дубоўка пісаў і перакладаў і ў Яранску, і ў Чэбаксарах. Ад наразенскага перыяду маюцца жартаўлівыя вершыкі, якія Дубоўка складаў у адказ на сямейныя цыдулачкі Марылі Пятроўны (гл. «Кароткія хвіліны сямейнага шчасця» ў часопісным варыянце ўспамінаў М. П. Дубоўкі «Мае санаторыі і курорты» — Маладосць. 1994. № 2). Вершы, напісаныя ў Почаце, Дубоўка датаваў 1958 годам (год рэабілітацыі). Няма і ўспамінаў У. Дубоўкі пра лагерны час. Некаторыя ўражанні пакладзены ў аснову мініяцюр у «Пялёстках», ёсць згадкі пра лагерны вопыт у артыкулах «Трыццаць лет і тры гады» і адказах на пытанні часопіса «Вопросы літературы» (першы артыкул не друкаваўся, у другім — лагерныя ўспаміны выкраслены рэдактарам). У БДАМЛМ захоўваецца цікавы дакумент: лісты з нататніка без вокладкі. На першай старонцы напісана: «Да "Жоўтай акацыі"». З другой старонкі пачынаюцца вельмі скарочаныя, напісаныя нечытэльным почыркам, невялічкія накіды пра лагерныя часы (назвы: «У тайзе», «Агарод на зоне», «Турма»).

[350] Маляром Дубоўка працаваў у складзе брыгады вязняў 13-й калоны Бамлага ў г. Бірабіджан.

[351] Пра намер распавесці гісторыю сваіх высылак і лагера менавіта ў такой парадаксальнай манеры Дубоўка не раз прызнаваўся пасля рэабілітацыі. Такія спробы, аўтабіяграфічныя эпізоды «піквікскай» стылістыкі сустракаюцца ў «Жоўтай акацыі» і асабліва — у «Пялёстках».

[352] Гэты ліст не захаваўся.

[353] Пры лазарэце Дубоўка не працаваў, а лячыўся. У 1942 ён захварэў на пелагру, якая ўзнікае ў выніку працяглага непаўнацэннага харчавання.

[354] Ганна Бабарэка, жонка Адама Бабарэкі.

[355] За вайной з Маскоўскай вобласці, дзе жыла Марыля Пятроўна, перасылаць пасылкі ў лагер было забаронена. Ганна Бабарэка на той час жыла ў Кіраве, магла паслаць пасылку ў лагер.

[356] Павел Дубоўка, малодшы брат Уладзіміра, які жыў з сям'ёй у Архангельскай вобласці (ст. Валошкі), тэарэтычна мог дасылаць прадуктовыя пасылкі.

[357] У Кульдуры (пасёлак на беразе ракі Кульдур, ля Бураінскага хрыбта, дзе Дубоўка працаваў пасля атрымання статусу інваліда і пераводу на канторскую працу) ахвотным было дазволена завесці агарод. У лістах з нататніка 1960-х, названых «Да "Жоўтай акацыі"», у якіх насамрэч зашыфраваны ўспаміны пра лагер, ёсць фрагмент з загалоўкам «Агарод на зоне» (не расчытаны). Мініяцюра пра лагерны агарод таксама ўключана ў мемуарны зборнік «Пялёсткі».

[358] **Клецкі Іван Канстанцінавіч** — муж сястры Тасі.

[359] Хецэры (Этцэры) — мястэчка ля Зугдзідзі.

[360] У 1949 па ўсім СССР прайшла хваля паўторных арыштаў палітвязняў, якія мелі лагерныя тэрміны. Паводле ўспамінаў вязняў, якія ўтрымліваліся ў перасыльнай турме Краснаярска, на «перасылку», дзе першапачаткова знаходзіліся паўторна асуджаныя, прыязджалі «пакупнікі» — кіраўнікі прадпрыемстваў вобласці — і разбіралі «рабсілу», тады наноў асуджаны мог пакідаць турму і ехаць да месца высылкі (гл.: Агапычев Ф. Воспоминания).

[361] Гэта ўжо «аўтарскі» варыянт байкі пра арышт: відавочна, Дубоўка яе вельмі любіў і з задавальненнем расказваў ужо пасля рэабілітацыі розным суразмоўцам, дадаючы пры гэтым розныя існыя і няісныя падрабязнасці. Гэты фрагмент і два фрагменты далей — яскравае таму сведчанне.

[362] Друкуем гэты варыянт «байкі пра арышт», негледзячы на тое што С. Карпаў не чуў гэтую байку з першых вуснаў, — нам цікава прасачыць жыццё адной з найлюбімейшых баек Дубоўкі ўжо ў адсутнасць героя.

[363] Галіна Аляксандраўна Бяганская (гл. звесткі пра аўтараў успамінаў).

[364] **Сак Аляксандр Мікалаевіч** (1890–1937?) — беларускі нацыянальны і рэлігійны дзеяч, паэт.

[365] Альгерд Дубоўка загінуў у Талдоме (ст. Вярбілкі) пад Масквой.

[366] **Бяганская Ядвіга**, пісьменніца, ахвяра сталінскіх рэпрэсій, жонка А. Сака, маці Г. Бяганскай.

[367] Розачка — вул. Р. Люксембург у Мінску. Бяганскія жылі ў самым пачатку вуліцы ля моста (цяпер на тым месцы — будынак выканкама Маскоўскага раёна г. Мінска).

[368] Гэта не была высылка. Дубоўка сам выбраў гэтае месца для сталага пражывання.

[369] **Гнедзіч Тацццяна Рыгораўна** (1907–1976) — руская паэтка, перакладчыца. Падчас вайны — ваенны перакладчык. У 1944 арыштавана, асуджана да 10 гадоў ВПЛ. Падчас следства ў турэмнай адзіночцы пераклала «Дон Жуана» Байрана. Тацццяна Рыгораўна адбывала пакаранне ў Сіблагу (Суслаўскі ЛО) і сапраўды магла перасекчыся з Дубоўкам у 1947 на перасылцы ў Краснаярску: Гнедзіч везлі ў Ачынск ці Мінусінск да месца адбывання пакарання, Дубоўку пераводзілі з Грузіі ў Почат да

месца вечнага пасялення. Аднак іншых сведчанняў сустрэчы Дубоўкі і Гнедзіч пакуль адшукаць не ўдалося.

[370] Матэрыялы датычна почацкага перыяду сабралі вучні Почацкай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам А. Ю. Папалавай.

[371] **Цулукідзэ Тамара Рыгораўна** (1903–1991) — празаік, драматург, тэатральны крытык, актрыса.

[372] Маецца на ўвазе артыкул П. Глебкі «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай (пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі)» (Узвышша. 1931. № 2), у якім даецца ў тым ліку падрабязны палітычна ангажаваны разбор творчасці Дубоўкі. Ёсць успамін, аўтар якога не пажадаў быць названым, як аднойчы П. Глебка прыехаў да Дубоўкі ў Маскву. Дзверы адчыніла Марыля Пятроўна, пабачыла Глебку — і адмовілася пускаць яго на парог. Дубоўка пачаў угаворваць жонку, але яна паставіла ўльтыматум: «Ці ён будзе ў хаце, ці я». Тая ж крыніца сведчыла, што апошні верш Дубоўкі, «Падобны з твару да машчэй», быў прысвечаны не К. Крапіву, як гэта сцвярджаецца ў публікацыі Б. Сачанкі, а менавіта П. Глебку. Дарэчы, існуе і яшчэ адзін адрасат. Як сцвярджае З. Давідоўскі, вышэйзгаданы верш быў адрасаваны М. Лужаніну.

[373] **Казека Іван Дарафеевіч** (1915–2000) — беларускі крытык, літаратуразнаўца. У 1957–1967 — галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР («Беларусь»).

[374] Кітайская легенда пра малпу, народжаную з камення, легла ў аснову знакамітага фантастычнага рамана У Чэн'эня «Вандроўка на Захад» (XVI ст.). У рамане распавядаецца пра прыгоды караля малпаў Сунь Укуна, які падманваў і абражаў зямных і нябесных уладароў. Частка даследчыкаў лічыць, што вобраз Сунь Укуна заснаваны на алюзіях на вобраз індыйскай малпы-боства Ханумана. Наогул, вобраз малпы ў кітайскай культуры надзелены вялікай колькасцю сэнсаў і нярэдка абагаўляецца. Перакладчыку з кітайскай, Дубоўку, натуральна, былі вядомыя канатацыі вобраза каменнай малпы, невыпадковай выглядае і назва рамана, на які зроблена алюзія (атрыманне Пастарнакам прэміі на «варожым Захадзе» — «Вандроўка на Захад»). Такім чынам, выступ Дубоўкі выглядае на добра зашыфраваную прамову на эзопавай мове.

[375] Правільна — **Матузаў Захар Пятровіч** (1911–1977), у 1948–1977 — дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР (з 1963 — «Беларусь»). **Татур Мікалай Ігнатавіч** (1919–2001) — беларускі крытык, паэт, літаратуразнаўца. З 1944 — загадчык рэдакцыі Дзяржвыдавецтва, рэдактар «Полымя», з 1966 — дырэктар Беларускага аддзялення Літфонду СССР.

У гэтай жа манеры напісаны знакаміты артыкул у ЛіМе «Да новых даляглядаў», дзе аўтар, нібыта каючыся за свае старэчыя ідэалагічныя памылкі, усё ж такі працягвае ў падцэнзурны друк радкі, якія апрыёры не маглі ў ім з'явіцца.

376 **Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч** (1923–1994) — беларускі паэт, празаік, перакладчык.

377 **Гарэцкая (Парфяновіч) Ларыса Іосіфаўна** (1902–1994) — жонка Гаўрылы Гарэцкага.

378 **Злобіна Вікторыя Васільеўна** — другая жонка Сцяпана Злобіна.

379 Ёсць некалькі варыянтаў верша «Ноч наплакалі бярозы»: 1920-х і 1950-х гадоў. Ва ўспаміне Дубоўкі студэнцкі таварыш Злобін чытае верш у рэдакцыі 1959 года, а не ў той, у якой верш дадзены ў «Строме» (1922) і «Выбраным» (1967). Альбо верш з пачатку 1920-х існаваў у двух варыянтах, альбо такім чынам Дубоўка «легалізуе» больш пазнейшы варыянт. Цікава параўнаць абодва вершы:

| | |
|---|---|
| *Ноч наплакалі бярозы,* | *Ноч наплакалі бярозы,* |
| *Нашумеў чарот.* | *Нашумеў чарот,* |
| *Надышла ліловай крозай,* | *Падышла яна з пагрозай,* |
| *Стала пад гарой,* | *Стала за гарой,* |
| *Разліліся, развіліся* | *Гадам, кужам распаўзліся* |
| *Вокал туманы,* | *Туманы наўкол,* |
| *І на кветках, і на лісці* | *Забялілі беллю лісце,* |
| *Усё яны, яны...* | *Нібы малаком,* |
| *Струн кранае ціхі вецер,* | *Вецер шэпты распаўсюдзіў,* |
| *Доля ў іх мая.* | *Спеў, цымбалаў спеў...* |
| *Ты пра вошта сніш у вецці,* | *Дзе ты, кветка? Спіць лес, людзі,* |
| *Кветка любая?* | *Месяц змаладзеў...* |
| *Ані слова, ані гуку* | *А ні слова, а ні гуку* |
| *Не чутно ў адказ.* | *Не ляціць у адказ.* |
| *Шле зязюля «ку-ку, ку-ку»* | *Толькі недзе «ку-ку», «ку-ку»* |
| *У засмучоны час.* | *Чутна раз пад раз...* |
| *(1959)* | *(1922, 1967)* |

380 **Залеская Лідзія Іванаўна** (1919–?) — доктар філалагічных навук, на той час — супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя Горкага, кансультант па беларускай літаратуры пры СП СССР. Тут маецца на ўвазе яе манаграфія «Поэзия Советской Белоруссии» (М.: АН СССР, 1960), у якой яна паўтарыла высновы вульгарнай крытыкі 1920-х наконт паэзіі У. Дубоўкі і ягонай ненадрукаванай паэмы «Штурмуйце будучыні аванпосты».

381 Маецца на ўвазе паэма «Штурмуйце будучыні аванпосты», пра якую Д. Бугаёў напісаў у першым томе «Гісторыі беларускай літаратуры», чым выклікаў крытычныя заўвагі экспертаў.

382 **Ткачоў Мікола Гаўрылавіч** (1918–1979) — беларускі празаік, крытык, журналіст.

383 **Шамякін Іван Пятровіч** (1921–2004) — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі (1972).

384 **Асіпенка Аляксандр Харытонавіч** (1919–1994) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст.

385 **Маленчанка Рыма Фёдараўна** (нар. 1935) — заслужаная артыстка Беларусі.

386 **Арлова Галіна Аляксандраўна** (нар. 1928) — беларуская актрыса. Народная артыстка Беларусі (1991).

387 **Дэконская (Пшыркова) Вольга Юльянаўна** (нар.1946) — літаратуразнаўца, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Старэйшая дачка Ю. Пшыркова.

388 **Макаёнак Андрэй Ягоравіч** (1920–1982) — беларускі драматург.

389 **Лось Еўдакія Якаўлеўна** (1929–1977) — беларуская паэтка. Дубоўка сачыў за творчасцю Е. Лось, у паперах захавалася выразка з рэцэнзіяй на зборнік яе вершаў, у хатняй бібліятэцы — кнігі паэткі.

390 Маецца на ўвазе, хутчэй за ўсё, **Іван Фраловіч Клімаў**, намеснік старшыні Прэзідыума ВС БССР, старшыня Камісіі па справах былых партызан і падпольшчыкаў пры Прэзідыуме ВС БССР. Менавіта ягоны подпіс стаіць на дакументах прэміі.

391 У 1962 прах Я. Купалы быў перавезены з Масквы і пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. Рыгор Барадулін успамінаў: «Перапахаванне праху Янкі Купалы адбывалася ў сакрэтнасці ў духу сталіншчыны. Потайна з Масквы урну з прахам прывезлі ў музей паэта. Дзяжурылі адабраныя людзі і блізкія нябожчыка, калі так можна сказаць. Невялічкай купкай людзей было абмежавана жалобнае шэсце. Па званках з адпаведных устаноў. Вянкі ад заводаў, арганізацый было дадзена ўказанне на могілкі несці з пэўнымі інтэрваламі. Каб не было «большого стечения народа». Уся дзяржаўная машына баялася праху паэта» (Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2008. С. 414).

392 **Скрабніцкі Рыгор Аляксеевіч** (1903–1964) — рускі пісьменнік, у першую чаргу натураліст, аўтар шматлікіх твораў пра прыроду для дзяцей.

393 Далей запісы ўяўляюць з сябе зашыфраваныя, пазначаныя дзвюматрыма літарамі і амаль нечытэльныя, падрабязнасці пра час, праведзены ў Галіцыне, і пісьменнікаў, якія там адпачывалі адначасова з Дубоўкамі. Больш-менш можна расчытаць толькі запіс пад нумарам 1: «Лёкай Льва Талстога са сваёй [*нрзб*]... Яго неймаверная жаднасць да яды, аж рукі дрыжэлі, калі хапаў ежу. Нейкая пачвара. Жывёліннае. Ягоная антысавецтчына: “я не чытаю партыйных газет”» і г. д.

394 «Прыгоды бравага салдата Швейка» — легендарны сатырычны раман Яраслава Гашака.

395 «Пасмяротныя нататкі Піквікскага клуба» — першы раман Чарльза Дікенса, які дае шырокую панараму тагачаснага жыцця імперыі.

[396] «Salus populi» — драматычны вершаваны твор У. Дубоўкі, сюжэтам якога стала магчымая (але на самай справе няісная) сустрэча Т. Г. Шаўчэнкі з беларускімі пісьменнікамі — сучаснікамі Кабзара.

[397] Наогул у Бэндэ за гады рэпрэсій сабралася вялікая калекцыя ненадрукаваных твораў рэпрэсаваных пісьменнікаў.

[398] Я. Пфляўмбаўм (Лужаніна) зняла з экзэмпляра Бэндэ дзве копіі, адна цяпер захоўваецца ў БДАМЛМ у фондзе Лужаніна — Пфляўмбаўм, другая — там жа ў фондзе Дубоўкі.

[399] Выдавецтва «Беларусь» — так з 1963 называлася Дзяржаўнае выдавецтва БССР (Дзяржвыд).

[400] **Каваль Васіль Пятровіч** (1907–1937) — беларускі пісьменнік. Сябра «Маладняка», пасля расколу — член ЦБ і рэдкалегіі, потым — сябра БелАПП.

[401] **Хведаровіч Мікола** (Мікола Фёдаравіч Чарнушэвіч; 1904–1981) — беларускі паэт, празаік, перакладчык, брат Нічыпара Чарнушэвіча. Член «Маладняка» і БелАПП.

[402] **Збораў Барыс Абрамавіч** (нар. 1935) — беларускі жывапісец, графік, скульптар, тэатральны мастак.

[403] Захар Пятровіч — Матузаў.

[404] **Сыракомля Уладзіслаў** (Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч; 1823–1862) — беларускі і польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык.

[405] Выбраныя творы У. Сыракомлі выйшлі ў 1966 у выдавецтве «Беларусь» у перакладах М. Лужаніна, У. Дубоўкі (10 вершаў), Я. Купалы, Я. Лучыны.

[406] Маюцца на ўвазе лісты У. Дубоўкі, напісаныя А. Бабарэку ў 1929–1930, у якіх адлюстроўваецца час разгрому «Узвышша». Гэтыя лісты сям'я Адама Бабарэкі зберагла ў высылках і вельмі ашчадна перахоўвала да пачатку 2000-х, калі Алеся Адамаўна Бабарэка перадала архіў А. Бабарэкі Г. Запартыцы. Лісты А. Бабарэкі, дасланыя Дубоўку ў адказ, не захаваліся. Лісты Дубоўкі да Бабарэкі ўпершыню былі надрукаваныя В. Жыбулем ў часопісе «Arche» (2010. № 11–12).

[407] «Голас Радзімы» — інфармацыйна-асветная штотыднёвая газета для беларусаў за мяжой, выдаецца з 1955. Цяпер з'яўляецца дадаткам да выдання «СБ-Беларусь сегодня».

[408] Артыкул «Нам некалі са смуткам знацца» надрукаваны ў газеце «Голас Радзімы» (1964, № 29–30).

[408] Беларуская служба Радыё «Свабода» пачала вяшчанне па-беларуску 20 траўня 1954.

[410] Маецца на ўвазе будучая кніга Д. Бугаёва «Уладзімір Дубоўка» (Мінск, 1965).

[411] Маюцца на ўвазе камбайны «І пурпуровых ветразяў узвівы» і «Штурмуйце будучыні аванпосты».

[412] Гаворка ідзе пра лісты Дубоўкі да Бабарэкі, датаваныя кастрычнікам 1928, у якіх Дубоўка паслядоўна нагадвае Бабарэку даць ва «Узвышшы» ці ад імя «Узвышша» які-небудзь матэрыял да дзесяцігоддзя ўтварэння БССР. Прыкладам, у лісце ад 27/10–28 У. Дубоўка піша: «Як Вы думаеце рабіць з Х гадавінай БССР? Які матар'ял рыхтуеце? Калі не падрыхтуеце нічога добрага, напішэце ліст да ЦК, ЦВК, СНК, у якім прывітайце іх з святам. Пад лістом дайце подпісы. Адзначыўшы дасягненні, можна ў лісьце выказаць свае пажаданні. Гэта будзе лепш, чымся даваць дрэнныя вершы» (ARCHE. 2009. № 11–12. С. 398).

[413] Гэты аўтарэферат, згодна з вопісам кніг У. Дубоўкі, складзеным А. і Э. Бабарэкамі пасля ягонай смерці, знаходзіўся ў хатняй бібліятэцы паэта.

[414] **Кірэенка Кастусь Ціханавіч** (1918–1988) — беларускі паэт. У 1962–1972 — галоўны рэдактар «Бярозкі».

[415] Маецца на ўвазе аповесць «Жоўтая акацыя». У 1968 вылучалася на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР ад секцыі дзіцячай літаратуры.

[416] **Маары Гурген** (1903–1969) — армянскі пісьменнік, публіцыст. Аўтабіяграфія «Из бездны с усмешкой» была надрукаваная ў часопісе «Вопросы литературы» (1964. № 11) у надта цэнзураваным выглядзе.

[417] **Прашковіч Мікалай Іванавіч** (1932–1982) — беларускі літаратуразнаўца, крытык, перакладчык.

[418] **Шахавец Уладзімір Міхайлавіч** (1918–1991) — беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1976–1982 — загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

[419] **Зуёнак Васіль Васільевіч** (нар. 1935) — беларускі паэт, крытык.

[420] 26 мая — дата невыпадковая, і Дубоўка недарэмна на ёй настойвае. Аповесць «Жоўтая акацыя» ўтрымлівае ў сабе зашыфраваны роздум пра лёс згуртавання «Узвышша», героі аповесці маюць прататыпаў сярод узвышаўцаў, іх сяброў і ворагаў. Каб канчаткова замацаваць гэтую аналогію, Дубоўка і ставіць дату, і настойвае на ёй перад рэдактарам, знаходзячы нейкае больш-менш лагічнае тлумачэнне: 26 мая — дзень утварэння «Узвышша», які заўсёды адзначаўся ўзвышаўцамі, пакуль яны былі на волі, і кожны год згадваўся ў асабістай перапісцы, пакуль яны яшчэ ліставаліся ў высылцы.

[421] Малееўка — Усесаюзны дом творчасці пісьменнікаў імя А. Серафімовіча.

[422] «Ганна Алелька» (1969) — аповесць У. Дубоўкі, прысвечаная настаўнікам. Прозвішча маладой настаўніцы, гераіні аповесці, выбрана невыпадкова: Алелька Уладзіміравіч — князь Слуцкі і Капыльскі, князь Кіеўскі, герой бітвы пад Ашмянамі, пачынальнік славутага беларускага роду Алелькавічаў.

[423] **Новік-Пяюн Сяргей Міхайлавіч** (1906–1994) — беларускі паэт, празаік, драматург, выдавец, грамадскі дзеяч.

[424] **Крашэўскі Юзаф Ігнацы** (1812–1887) — беларускі і польскі пісьменнік, гісторык, фалькларыст.

[425] «Слоўнік беларускай гаворкі» Івана Насовіча быў выдадзены ў 1870 і атрымаў Дзямідаўскую прэмію. У слоўнік увайшлі і былі растлумачаныя 30 000 словаў, запісаных аўтарам у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай губернях.

[426] Вочы, вядома ж, былі блакітныя.

[427] Навуковая распрацоўка прышчэпак кедра на сасну актыўна праводзілася ў Расіі ў 1980-я: найлепшыя вынікі былі атрыманыя краснаярскім селекцыянерам В. Крутоўскім, падмаскоўнай даследчыцай А. Северавай, уральскім біёлагам А. Хохрыным. А. І. Северава ўведзена ў аповесць «Жоўтая акацыя» як дзейны персанаж.

[428] Ва ўспамінах аднаго з вязняў Бірлага, які працаваў у Бірскай тайзе адначасова з Дубоўкам, расказваецца, што ратаваліся вязні ва ўмовах звярынага голаду кедровымі шышкамі — набіралі іх у кішэні і потым елі арэхі (гл.: Ершов В. А. В лагерях сидели все: от портного до инженера. Успаміны, сабраныя Сахараўскім цэнтрам).

[429] **Раманаў Еўдакім Раманавіч** (1855–1922) — беларускі фалькларыст, географ, этнограф. На працягу 1886–1912 выдаваў славуты «Беларускі зборнік», у якім публікаваў паслядоўна: беларускія песні, прымаўкі, загадкі (вып. 1–2), казкі (вып. 3), казкі касмаганічныя і культурныя (вып. 4), загаворы, апокрыфы і духоўныя вершы (вып. 6), беларускія мелодыі (вып. 7), быт беларуса (вып. 8), спроба слоўніка ў параўнанні словаў з польскімі і маларасійскімі (вып. 9).

[430] Маецца на ўвазе артыкул «Да новых даляглядаў».

[431] **Бажко Аляксандр Цімафеевіч** (1918–2013) — беларускі пісьменнік.

[432] Кніга выбраных твораў А. Бабарэкі за савецкім часам не была выдадзеная.

[433] **Мележ Іван Паўлавіч** (1921–1976) — беларускі празаік, драматург, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі (1972).

[434] **Панчанка Пімен Емяльянавіч** (1917–1995) — беларускі паэт. Народны паэт Беларусі.

[435] **Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч** (1913–1986) — беларускі пісьменнік.

[436] **Шклярэўскі Ігар Іванавіч** (нар. 1938) — рускі паэт беларускага паходжання, перакладчык.

[437] Ні заяваў Дубоўкі і Шклярэўскага аб зняцці з уліку, ні памянёнага ліста СП СССР да пратакола не прыкладзена. Да таго ж выклікае пытанні разыходжанне ў датах: пратакол паседжання датаваны датай ранейшай, чым пісьмо, на якое ён спасылаецца.

[438] Сапраўднае імя заменена крыптонімам па жаданні ўладальніка прыватнага архіва.

[439] Маецца на ўвазе выданне аповесці «Жоўтая акацыя».

[440] Чатырнаццацігадовы Альгерд Дубоўка не ўдзельнічаў у абароне Масквы.

[441] Фантазія апавядальніка. Магіла Альгерда Дубоўкі вядома, яна знаходзіцца на могілках у мястэчку Талдом, ст. Вярбілкі, Савелаўская чыгунка.

[442] **Буйло Канстанцыя Антонаўна** (1893–1986) — беларуская паэтка. З 1923 жыла і памерла ў Маскве.

[443] **Міхальчук Сяргей Апанасавіч** (1925–1995) — беларускі празаік, перакладчык. У 1972–1980 — загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Рэдагаваў «Залатыя зярняты», апошнюю кнігу У. Дубоўкі.

[444] Памылкі няма: апошняя кніга, якую Дубоўка пабачыў надрукаванай, была кніга казак «Залатыя зярняты».

[445] **Лісюціна Алена Сямёнаўна** — суседка Дубовак. Дапамагала Марылі Пятроўне пасля смерці У. Дубоўкі. Пасля смерці М. П. Дубоўкі кватэра, маёмасныя і аўтарскія правы на творы У. Дубоўкі адышлі менавіта ёй. Пасля смерці А. С. Лісюцінай аўтарскія правы не належаць нікому.

[446] **Гарбачоў Міхаіл Васільевіч** (1921–1981) — рускі перакладчык.

[447] **Качар Леў Навумавіч** (1932–1991) — рускі пісьменнік, распарадчык пахаванняў у СП СССР.

[448] Гэтая і іншыя характарыстыкі гэтага раздзела, якія належаць пяру У. Дубоўкі, дадзены ў лістах да Ю. Пшыркова ад 30/01-64 і 10/04-65, якія захоўваюцца ў Т. Ю. Пшырковай.

# ЛІТАРАТУРА

1. Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск: Выдавец Зм. Колас, 2005.
2. Адамовіч А. Творы. Нью-Ёрк: БІНіМ, 2003.
3. Анфилов Г. Выдержки из писем // Москвичи в ГУЛАГе / отв. сост. И. А. Мазус. М.: Мемориал, 1996. С. 5–48.
4. Арочка М. Адзін дзень і ўсё жыццё // Полымя. 1979. № 1.
5. Асуджаючы Пастэрнака: стэнаграма пашыранага паседжання прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР ад 29 кастрычніка 1958 года. Публікацыя С. Шапрана // Асоба і час. Вып 1. Мінск: Лімарыус, 2009.
6. Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. Вільня — Беласток, 2011.
7. Бабарэка А. Успаміны пра бацьку // Скарыніч. Вып. 4.
8. Багдановіч І. Авангард і традыцыя. Мінск: Беларуская навука, 2001.
9. Барадулін Р. Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2008.
10. Брыль Я. Накіды трох партрэтаў // ЛіМ. 1988. № 1. 1 студз.
11. Бугаёў Д. Уладзімір Дубоўка. Мінск: Беларуская навука, 2005.
12. Бугаёў Д. Трагедыя паэта (Уладзімір Дубоўка) // Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны. Мінск: Мастацкая літаратура, 2001.
13. Бярозка Ю. Дубоўка. Літаратурны партрэт // Узвышша. 1928. № 2.
14. Верас З. Пакуль рука пяро трымае. Успаміны, лісты. Мінск: Лімарыус, 2015.
15. Вересаев В. Пушкин в жизни. Минск: Мастацкая літаратура, 1986.
16. Веселая Г., Веселая З. Судьба и книги Артема Веселого. М.: Аграф, 2005.
17. Вярцінскі А. Я пытаўся ў Налі // Крыніца. 1997. № 8.
18. Гардзіенка Н. Равенскі і Дубоўка ва ўзаемных згадках-успамінах // Узвышаўскія чытанні, 2015.
19. Гардзіцкі А. Дыялогі. Мінск: Беларусь, 1968.
20. Гардзіцкі А. Первая встреча // Неман. 1985. № 6–7.
21. Гарэцкі Г. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2002.
22. Гарэцкі Г. Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкам // ЛіМ. 1997. 11 крас. № 15.
23. Гарэцкі М. «Маладняк» за пяць гадоў. 1923–1928. Мінск: Белдзяржвыд, 1928.

24. Гарэцкі М. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2009.
25. Гарэцкі Р. Лісты любові і кахання. Мінск: Тэхналогія, 2013.
26. Гаўрук Ю. Ступень адказнасці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986.
27. Глебка П. Збор твораў: у 4 т. Мінск, 1984–1986.
28. Грахоўскі С. Так і было. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986.
29. Григорьева-Ципина Л. Воспоминания // Грани эпохи. 2008. № 34.
30. Грюнер М. Памятный год // Брюсовские чтения 2010 года. Ереван: Лингва, 2011.
31. Да стагоддзя Ул. Дубоўкі, Ул. Жылкі, К. Чорнага: зборнік навуковых артыкулаў. Мінск: БДУ, 2001.
32. Дубоўка У. Сярод людзей добрых // Полымя. 1963. № 1.
33. Дубоўка М. Мае санаторыі і курорты // Маладосць. 1994. № 2. С. 198–234.
34. Духу магутныя чары: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах. Мінск: Лімарыус, 2016.
35. Ершов В. А. В лагерях сидели все: от портного до инженера // Страницы трагических судеб. Алма-Аты: Жеті жаргы, 2002.
36. Илькевич Н. Н. Академик Горецкий. Первое столкновение с ГПУ. Смоленск: Посох, 1998.
37. Илькевич, Н. Н. Адам Бабарека: арест — лагерь — смерть. Смоленск: Посох, 1999.
38. Казека Я. Што нагадалі лісты // Полымя. 1985. № 7.
39. Кандыбовіч С. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мінск: БГА, 2000.
40. Кауфман А. Лагерный врач: 16 лет в Советском Союзе: воспоминания сиониста. Тель-Авив: Ам Овед, 1973.
41. Кіпель Я. Эпізоды. Мінск: Лімарыус, 2013.
42. Колас Я. Збор твораў: у 20 т. Мінск: Беларуская навука, 2007–2012.
43. Кулемкин А. Есенин и студенты // Воспоминания о Сергее Есенине. М.: Московский рабочий, 1965.
44. Купала Я. Збор твораў: у 6 т. Т. 6. Мінск: АН БССР, 1963.
45. Кутюков Н. И. Яранск. Киров: Волко-Вятское кн. изд., 1984.
46. Линген Р. Инквизиция XX века // Уроки гнева и любви. СПб., 1993. Вып. 5. С. 27–35.
47. Лісты Ул. Дубоўкі да У. Конана // Полымя. 2014. № 10.

48. Лужанін М. Гэтак яно рабілася // Полымя. 1963. № 5.
49. Маё радаслоўе. Ліст Ул. Дубоўкі да Ю. С. Пшыркова / публікацыя А. Каўкі // Крыніца. 1997. № 8.
50. Маракоў Л. Галоўная вуліца Мінска. Мінск: Мастацкая літаратура, 2012.
51. Маракоў Л. Рэпрэсаваныя беларускія літаратары: энцыклапедычны даведнік: у 2 т. Мінск, 2002.
52. Милонова Н. В нашем вузе лишь стихами говорят! // Вокруг Есенина. Мурманск, 2000.
53. Миндлин М. Б. Анфас и профиль: 58 — 10. М.: Возвращение, 1999.
54. Міхнюк У. Арыштаваць у высылцы: дакументальны нарыс. Мінск, 1996.
55. Міхнюк У. Вязень сумлення // Полымя. 1996. № 2.
56. Мушынскі М. Шчыры, шчыры Павел // Дзеяслоў. 2004. № 13.
57. Мы застанемся чыстымі сумленнем...: Лісты Ўладзімера Дубоўкі / публікацыя В. Жыбуля // ARCHE. 2009. № 11–12.
58. Наш журботны шлях працягваецца (Пісьмы У. Дубоўкі жонцы і блізкім са сталінскіх лагераў і этапаў) / публікацыя Я. Кісялёвай // Голас Радзімы. 1996. № 32–33.
59. Нікіфаровіч В. Пясняр волі і харачтва // Запісы БІНіМ. № 8.
60. Пальчэўскі А. Пра Дубоўку / публікацыя Г. Далідовіча // ЛіМ. 1994. № 3.
61. Платонаў Р. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Мінск, 1996.
62. Пра час «Узвышша». Матэрыялы навуковых канферэнцый, узвышаўскіх чытанняў (Мінск. 1999–2002). Мінск: БелНДІДАС, 2002.
63. Пракаповіч І. М. О Беларусь, мая шыпшына. На радзіме Уладзіміра Дубоўкі. Мінск: Тонпик, 2007.
64. Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск, 1963.
65. Рафальская Е. Консерватория слова. РГАЛИ. Ф. 1329. Оп. 2. Ед. хр. 15.
66. Сачанка Б. Учарашняе і сённяшняе // ЛіМ. 1994. 28 студз.
67. Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990.
68. Смирнова-Козлова А. В Брюсовском институте. Записки современницы. М.: Рекламная библиотечка поэзии, 1998.
69. Станюта А. Стэфанія. Мінск, 2005.
70. Танк М. Збор твораў: у 13 т. Мінск, 2006–2012.
71. Терентьев А. И. Чебоксары и чебоксарцы. Чувашское кн. изд., 1994.

72. Трус П. Выбраныя творы. Мінск: Беллітфонд, 2000.
73. Ул. Дубоўка: «Я сказаў вам шчырую праўду пра той час». Ліставанне з Я. Саламевічам // Тэрмапілы. 2007. № 11.
74. Улашчык М. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2001.
75. Улашчык М. Даць народу гісторыю. Успаміны, лісты. Мінск: Лімарыус, 2016.
76. Успаміны пра Цішку Гартнага. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984.
77. Цейтлин Е. Жизнь под песню ветра // Семь искусств. 2011. № 4.
78. Чарняўскі М. Шыпшына не адцвітае // ЛіМ. 2015. № 28. 17 ліп.
79. Чебоксары. Исторический очерк. Коллективная монография. Чебоксары: ЧГИГН, 2014.
80. Чистяков И. Сибирской дальней стороной. Дневник охранника БАМа. АСТ, 2014.
81. Чичикин П. А. Чебоксары. Чебоксары: Чувашгосизд., 1960.
82. Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра М. Багдановіча. Мінск: Мастацкая літаратура, 1975.
83. Шупенька Г. Ён быў прыгожым чалавекам // Крыніца. 1997. № 8.

# ІМЕННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Беларуская мемуарная бібліятэка

**УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА**

Ён і пра яго

Укладальнік *Г. Севярынец*
Адказны за выпуск *М. Шыбко*
Вёрстка *В. Нога*
Карэктар *М. Шавыркіна*




Падпісана ў друк 10.05.2017. Фармат 70×100/32. Папера афсетная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 22,6. Ул.-выд. арк. 23,5. Наклад 300 асобн. Заказ 2671.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў 20.03.2014 за № 1/226.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138 г. Мінск.

**Уладзімір** Дубоўка : Ён і пра яго / уклад., прадм., ка-
У47 мент. Ганны Севярынец. — Мінск : Лімарыус, 2017. —
540 с. : іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка).

ISBN 978-985-6968-61-0.

Дакументальная біяграфія выбітнога беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі (1900–1976) складаецца з аўтабіяграфічнай прозы, успамінаў сучаснікаў, лістоў, архіўных дакументаў, сабраных з шырокага кола крыніц і дадзеных у храналагічнай паслядоўнасці. Значная частка матэрыялаў і фотаздымкаў друкуецца ўпершыню.

**УДК 94(476)(093)**
**ББК 63.3(4Беи)**

